НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа

Г.У. АРАШОНКАВА, Н.А. ЧАБАТАР

# ТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК

*адметнай лексікі ў творах ЯКУБА КОЛАСА*



МІНСК
«БЕЛАРУСКАЯ НАВУКА»
2003

УДК 811.1613-26'374 + 929 Колас
ББК 81.2 Беи-4
А 79

Навуковы рэдактар
акадэмік А. І. Падлужны

Рэцэнзенты:
кандыдаты філалагічных навук
Л. М. Грыгор'ева, А. А. Крывіцкі

**Арашонкава Г. У.**
А 79 Тлумачальны слоўнік адметнай лексікі ў творах Якуба Коласа / Г. У. Арашонкава, Н. А. Чабатар; Навук. рэд. А. І. Падлужны. — Мн.: Бел. навука, 2003. — 287 с.
ISBN 985-08-0565-х.

У слоўніку на падставе коласаўскага кантэксту раскрываецца сэнсавае значэнне слоў, выкарыстаных пісьменнікам у мастацкіх і публіцыстычных творах, у дзённіках і пісьмах, але не зафіксаваных нарматыўнымі даведнікамі. Разглядаюцца таксама словы, прыведзеныя ў Тлумачальным слоўніку беларускай мовы, аднак ужытыя Якубам Коласам у іншым значэнні ці з новым адценнем значэння, словы, якія адрозніваюцца словаўтваральнымі афіксамі, націскам і інш.

Прызначаецца для навукоўцаў, выкладчыкаў і студэнтаў ВНУ, настаўнікаў, журналістаў, усіх, хто захапляецца багаццем коласаўскай мовы, яго ўспрыняццем навакольнага жыцця.

**УДК 811.1613-26'374 + 929 Колас**
**ББК 81.2 Беи-4**

**ISBN 985-08-0565-х**

# ПРАДМОВА

Выдатны мастак слова, Якуб Колас па праву лічыцца адным з заснавальнікаў беларускай літаратурнай мовы. Яго творчая праца як пісьменніка, паэта і навуковага дзеяча садзейнічала нарміраванню і стабілізацыі яе норм, замацаванню ў розных сферах грамадскага жыцця. Народная беларуская мова — крыніца, з якой Якуб Колас чэрпаў лексічнае багацце для апісання жыцця беларускага народа, для стварэння яркіх мастацкіх вобразаў. Пісьменнік быў вельмі строгім і патрабавальным пры выбары кожнага слова ў працэсе працы над творам, глыбока, усёй душой адчуваў яго значэнне і адценні, яго месца ў сказе.

Якуб Колас адзначаў: «...мы маем вялікі моўны запас, які незаслужана забыты намі, літаратарамі, і з поспехам ужываецца ў народзе. Значыць, перад увядзеннем кожнага новага слова трэба добра абшарыць кішэні свае памяці, перагледзець слоўнікавыя і фальклорныя крыніцы, прыслухацца да жывой гаворкі — а можа і знойдзецца якраз тое, што неабходна, што ўжо ўжывалася і чамусьці забыта ці ўжываецца і невядома нам»[1].

Слоўнікавы састаў мовы твораў Якуба Коласа з'яўляецца часткай лексічнага багацця беларускай літаратурнай мовы. Таму глыбокае ўсебаковае вывучэнне лексічнага патэнцыялу ў моўнай творчасці пісьменніка мае вялікае значэнне як для коласазнаўства, так і для фарміравання і функцыянавання беларускай літаратурнай мовы, выпрацоўкі яе лексічных норм і семантычнага ўзбагачэння.

Даная лексікаграфічная работа мае на мэце паказаць адметнасць словаўжывання ў творчай спадчыне Якуба

[1] Колас Я. Развіваць і ўзбагачаць літаратурную мову: Зб. тв. у 12 т. Мн., 1964. Т. XI. С. 431.

Коласа, а матэрыял, змешчаны ў ёй, дасць магчымасць весці параўнальнае даследаванне лексікі яго твораў і лексікі ў творах іншых пісьменнікаў. Даследаванне арыгінальнай лексікі ў творах Якуба Коласа можа стаць арганічнай, неад'емнай часткай коласазнаўства побач са шматлікімі манаграфічнымі даследаваннямі, артыкуламі і працамі мемуарнага характару аб жыцці і творчасці пісьменніка.

Неабходнасць і актуальнасць такой работы абумоўлена шэрагам прычын. Па-першае, спецыяльнага, грунтоўнага даследавання па лексічнай спадчыне Якуба Коласа няма. Ёсць толькі розныя асобныя распрацоўкі канкрэтных пытанняў, якія друкаваліся ў розных перыядычных выданнях і датычыліся некаторых аказіяналізмаў, дыялектызмаў, запазычанняў. Па-другое, аснова твораў Якуба Коласа — беларуская літаратурная мова з агульнаўжывальнай народнай лексікай, але адначасова пісьменнік пашыраў яе лексічны склад за кошт самабытных яскравых слоў народнай мовы, якія, на нашу думку, варта было б уключыць у нарматыўныя слоўнікі беларускай мовы, напрыклад: *аблетак* 'жывёліна, якая пералетавала'; *сцішны* 'вельмі ціхі'; *макляк* 'мокрае, сырое палена'; *паднядзеліцца* 'прыбрацца па-святочнаму'; *паднядзеліць* 'надаць святочны выгляд'; *паталочышча* 'вытаптанае месца'; *паўзбярэжжа* 'паласа зямлі ўздоўж берага рэчкі'; *пярэсмыкі* 'перасячэнне многіх сцежак, дарог', 'мнагалюднае, неспакойнае месца' і інш.

У працы раскрываецца значэнне слоў, ужытых Якубам Коласам у яго творах, але яны не зафіксаваны Тлумачальным слоўнікам беларускай мовы. Акрамя таго, у слоўнік уключаны словы, адлюстраваныя ў ТСБМ, аднак выкарыстаныя пісьменнікам у новых значэннях ці іх адценнях. Напрыклад, слова *вал* ужыта ў творах класіка ў значэнні 'верхні край, грэбень страхі'; *гадальны* — 'заснаваны на меркаваннях, здагадках; няпэўны, ненадзейны'; *гнездаванне* — 'месца з гнёздамі, дзе размнажаюцца птушкі'; *перавал* — 'перашкода на шляху воднага патоку'; 'бурны паток вады'; 'ручай'; *прышчыцца* — 'пячыся на сонцы, знемагаць ад гарачыні'; *сцісла* — 'ашчадна, эканомна'; 'дакладна'. Значэнні слоў, якія супадаюць са значэннямі ў ТСБМ, у слоўнікавым артыкуле не падаюцца.

Унесеныя ў слоўнік лексемы адрозніваюцца ад літаратурных эквівалентаў словаўтваральнымі элементамі, месцам націску, марфолага-граматычнымі і фанетычнымі асаблівасцямі: *абалонь* (Колас) — *абалона* (ТСБМ); *броў* — *брыво; воража* (прысл.) — *варожа; вобруць* — *аброць; выснаўка* — *выснова; гравейка* — *гравійка; за́цішак* — *заці́шак, за́чапка* — *зачэпка; згрэбны* — *зрэбны; кемкі* — *кемлівы; коміна* — *комін, лознік* — *лазняк; насляпое* — *усляпую; пакуса* — *спакуса; панука* — *пануканне; пырніца* — *пырнік; тапчак* — *таптуха; упатайне, упатайку* — *употай; цецер* — *цецярук*; *шпакоўніца* — *шпакоўня* і інш.

У слоўнік уключаны запазычанні, у асноўным з польскай і рускай моў, якія не маюць статуса літаратурнай нормы або страцілі яго. Пісьменнік ужываў іх у намінатыўнай функцыі або ў якасці сродку для характарыстыкі дзеючых асоб, індывідуалізацыі іх мовы, напрыклад: *абэцадлы, атрамант, бюрка, гарбата, забачэнне, загарак, здане, марац, нерадзенне, пастылы, укромны, цвек* і інш.

Аўтарскія аказіяналізмы, створаныя пісьменнікам у адпаведнасці з законамі нацыянальнай мовы, таксама зафіксаваны ў слоўніку, напрыклад: *гучнабежны, завівы, звоннаплыўны, зласмех, зласмешна, златаблеск, касарства, крылан, крыланка, малюнкавасць, надзор'е, паўзбярэжжа, прыязджак, санцагрэй, хлапцоўскасць* і інш.

Прапануемы чытачу слоўнік грунтуецца на лексічным матэрыяле, выбраным са Збору твораў Якуба Коласа ў дванаццаці тамах (Мн., 1961—1964), і картатэцы, падрыхтаванай па гэтым жа выданні для Слоўніка мовы твораў Якуба Коласа ў Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі.

Слоўнік змяшчае каля 1800 слоў, пададзеных у алфавітным парадку. Націск у рэестравых словах не ставіцца. Словы, якія маюць аднолькавае значэнне і падобны гукавы склад, пры наяўнасці частковых фанетычных адрозненняў прыводзяцца ў адным слоўнікавым артыкуле. Кожны варыянт падаецца на сваім месцы з адсылкай да першага слова, за выключэннем выпадкаў, калі паміж гэтымі варыянтамі няма іншых рэестравых слоў.

Пасля рэестравага слова, якое з'яўляецца кампанентам устойлівага словазлучэння або фразеалагізма, ставіц-

ца двукроп'е і падаецца ўстойлівы выраз, напрыклад: **САРАКОЎКА** *ж.*: **СТРАЛЯЦЬ У САРАКОЎКУ** 'прамахвацца, мазаць'; **БАЛЯСЫ** *мн.*: **РАЗВОДЗІЦЬ БАЛЯСЫ** 'весці пустыя размовы'; **АЧОСЫ** *мн.*: **НА АЧОСЫ** 'напрасткі'. Адметнае слова, якое з'яўляецца кампанентам апазіцыйнага звароту, падаецца ў слоўнікавым артыкуле як самастойная намінатыўная адзінка: **ПАВІВАНКА** *ж.* Плеценая пуга (*справіў пугу-павіванку*); **ШАРАСЦЕННЕ** *н.* Шархаценне, шапаценне (*нідзе ні зыку-шарасцення*).

Загалоўнае слова суправаджаецца граматычнай характарыстыкай: для назоўнікаў *м., ж., н.* (граматычны род), *мн.* (форма множнага ліку), пры дзеясловах *зак., незак.* (закончанае і незакончанае трыванне), *безас.* (ужываецца ў безасабовым значэнні), прыметнікі і прыслоўі маюць адпаведна памету *прым., прысл.*

Пры некаторых загалоўных словах падаецца іх стылістычная характарыстыка з мэтай паказаць спецыфіку мастацкага метаду пісьменніка, яго эмацыянальна-экспрэсіўную ацэнку дзеючых асоб у пэўных жыццёвых сітуацыях і абставінах.

Пасля памет раскрываецца значэнне рэестравага слова.

Словы-амонімы прыводзяцца ў асобных артыкулах і пазначаюцца лічбай 1, 2, 3 уверсе справа:

**ГОН¹** *м.* 1. Круты паварот ракі, лука. 2. Рачная быстрая плынь. 3. Моцны вадзяны струмень.

**ГОН²** *м.* Загон.

Зыходзячы з шырокага кантэксту, аўтары слоўніка імкнуліся поўна і дакладна раскрыць семантыку слова. У пераважнай большасці выпадкаў да адметнага Коласавага слова прыводзіцца адпаведны літаратурны эквівалент: *абачна* (Колас) — *бачна* (ТСБМ), *аблада — улада, абнім — абдымкі, змеркавацца — дамовіцца.* Значэнне слова можа раскрывацца і некалькімі сінонімамі: *імкненны — імклівы, хуткі, быстры; маладняцкі — малайцаваты, зухаваты.* У тых выпадках, калі няма літаратурных эквівалентаў, даецца разгорнутае тлумачэнне: *абвёрткі* 'кусок тканіны для абмотвання нагі вышэй чаравіка', *аблетак* 'жывёліна, якая пералетавала', *абрадзініцца* 'нарадзіць дзіця'. Для вызначэння семантыкі некаторых слоў былі выкарыстаны каментарыі да Збору твораў у дванаццаці тамах (Мн., 1961—1964).

Да кожнага значэння прыводзіцца ілюстрацыйны матэрыял у такім аб'ёме, які дае магчымасць вызначыць семантыку слова. Пасля цытаты ўказваецца назва твора. Устаўкі аўтараў слоўніка ў цытатах даюцца ў квадратных дужках.

У большасці слоўнікавых артыкулаў падаецца матэрыял з беларускіх дыялектных лексікаграфічных крыніц, які дапамагае пры вызначэнні сэнсу слова, ужытага Якубам Коласам, дае магчымасць выявіць тэрыторыю пашырэння яго семантычнага аб'ёму (гл. умоўныя скарачэнні). Для параўнання, пры неабходнасці, прыводзіліся адпаведнікі з іншых моў і іх значэнні. Пры спасылках на іншыя мовы былі выкарыстаны наступныя слоўнікі: Большой русско-польский словарь. Варшава; М., 1967; Грінченко Б. Д. Словарь української мови. Київ, 1907—1909. Т. 1—4 (перавыдадзены фотаспосабам у 1958 г. у г. Кіеве); Mały słownik języka polskiego. Warszawa, 1969; Немецко-русский словарь. М., 1976; Падручны польска-беларускі слоўнік. Варшава, 1962; Словарь русского языка. М., 1981—1984. Т. I—IV; Словник української мови. Київ, 1970—1980. Т. I—IX.

Укладальнікі слоўніка ўдзячны вядучаму навуковаму супрацоўніку Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі А. А. Крывіцкаму за каштоўныя парады, дапамогу ў вызначэнні семантыкі некаторых слоў, навуковым супрацоўнікам А. М. Астапчук, В. І. Уласевіч, Л. Г. Хартановіч, якія зрабілі камп'ютэрны набор слоўніка.

Заўвагі і пажаданні просім дасылаць на адрас: 220072, Мінск, вул. Сурганава, 1, корп. 2. Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі.

# ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ

## Дыялектныя лексікаграфічныя крыніцы

Бялькевіч — Бялькевіч І. К. Краёвы слоўнік Усходняй Магілёўшчыны. Мн., 1970.

Даль — Даль В. Толковый словарь великорусского языка. М., 1981—1982. Т. I—IV.

ДСБ — Дыялектны слоўнік Брэстчыны. Мн., 1989.

Жыв. нар. сл. — Жывое народнае слова. Мн., 1992.

Жыв. сл. — Жывое слова. Мн., 1978.

З нар. слоўн. — З народнага слоўніка. Мн., 1975.

Каспяровіч — Касьпяровіч М. І. Віцебскі краёвы слоўнік (Матэрыялы). Віцебск, 1927.

Каспяровіч-БРС — Касьпяровіч М. І. Беларуска-расійскі слоўнічак. Віцебск, 1925.

МАСМ — Матэрыялы да абласнога слоўніка Магілёўшчыны. Мн., 1981.

МСММГ — Матэрыялы для слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак / Пад рэд. М. А. Жыдовіч. Мн., 1970, 1974, 1977. Вып. 1—3.

МСНДМ — Матэрыялы для слоўніка народна-дыялектнай мовы / Пад рэд. Ф. Янкоўскага. Мн., 1960.

Нар. лекс. — Народная лексіка. Мн., 1977.

Нар. сл. — Народнае слова. Мн., 1976.

Нар. словатв. — Народная словатворчасць. Мн., 1979.

Насовіч — Насовіч І. І. Слоўнік беларускай мовы. Мн., 1983. Факсімільнае выданне «Словаря белорусского наречия» (1870).

НЛГ — Народная лексіка Гомельшчыны ў фальклоры і мастацкай літаратуры: Слоўнік. Мн., 1983.

СПЗБ — Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча. Мн., 1979—1986. Т. I—V.

СЦБ — Слоўнік гаворак цэнтральных раёнаў Беларусі / Пад рэд. Е. С. Мяцельскай. Мн., 1990. Т. 1—2.

Сцяцко — Сцяцко П. У. Народная лексіка. Мн., 1970.

Сцяшковіч, 1972 — Сцяшковіч Т. Ф. Матэрыялы для слоўніка Гродзенскай вобласці. Мн., 1972.

Сцяшковіч, 1983 — Сцяшковіч Т. Ф. Слоўнік Гродзенскай вобласці. Мн., 1983.

ТС — Тураўскі слоўнік. Мн., 1982—1987. Т. 1—5.

ТСБМ — Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. Мн., 1977—1984. Т. 1—5.

Цыхун — Цыхун А. П. Скарбы народнай мовы. Гродна, 1993.

Шаталава — Шаталава Л. Ф. Беларускае дыялектнае слова. Мн., 1975.

Шатэрнік — Шатэрнік М. Краёвы слоўнік Чэрвеньшчыны. Мн., 1929.

ЭСБМ — Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. Мн., 1978—1993. Т. 1—8.

Юрчанка, 1966 — Юрчанка Г. Ф. Дыялектны слоўнік (З гаворак Мсціслаўшчыны). Мн., 1966.

Юрчанка, 1988 — Юрчанка Г. Ф. Сучаснае народнае слова. З гаворкі Мсціслаўшчыны. Мн., 1988.

Юрчанка, 2002 — Юрчанка Г. Ф. Народнае мудраслоўе. Слоўнік. Мн., 2002.

Янкова — Янкова Т. С. Дыялектны слоўнік Лоеўшчыны. Мн., 1982.

Янкоўскі — Янкоўскі Ф. М. Дыялектны слоўнік. Мн., 1959, 1960, 1970. Т. 1—3.

Яўсееў — Яўсееў Рыгор. Маці казала так... Мн., 1978.

## Назвы раёнаў

Асіп. — Асіповіцкі
Астр. — Астравецкі
Ашм. — Ашмянскі
Бабр. — Бабруйскі
Бар. — Баранавіцкі
Барыс. — Барысаўскі
Бераст. — Бераставіцкі
Беш. — Бешанковіцкі
Браг. — Брагінскі
Брасл. — Браслаўскі
Брэсц. — Брэсцкі
Бых. — Быхаўскі
Бял. — Бялыніцкі
Бяроз. — Бярозаўскі
Бярэз. — Бярэзінскі
Валож. — Валожынскі
Ваўк. — Ваўкавыскі
Верхнядзв. — Верхнядзвінскі
Віл. — Вілейскі
Віц. — Віцебскі
Воран. — Воранаўскі
Ганц. — Ганцавіцкі
Гарад. — Гарадоцкі
Гл. — Глускі
Глыб. — Глыбоцкі
Гом. — Гомельскі
Гор. — Горацкі
Гродз. — Гродзенскі
Дзісн. — Дзісненскі
Дзярж. — Дзяржынскі
Дзятл. — Дзятлаўскі
Докш. — Докшыцкі
Драг. — Драгічынскі
Дубров. — Дубровенскі

Ельск. — Ельскі
Жаб. — Жабінкаўскі
Жлоб. — Жлобінскі
Жытк. — Жыткавіцкі
Зэльв. — Зэльвенскі
Іван. — Іванаўскі
Івян. — Івянецкі
Івац. — Івацэвіцкі
Іўеў. — Іўеўскі
Калінк. — Калінкавіцкі
Кам. — Камянецкі
Капыл. — Капыльскі
Карэл. — Карэліцкі
Касц. — Касцюковіцкі
Кір. — Кіраўскі
Клецк. — Клецкі
Клім. — Клімавіцкі
Кліч. — Клічаўскі
Кобр. — Кобрынскі
Краснап. — Краснапольскі
Кругл. — Круглянскі
Круп. — Крупскі
Крыч. — Крычаўскі
Лаг. — Лагойскі
Лельч. — Лельчыцкі
Лід. — Лідскі
Лоеў. — Лоеўскі
Лун. — Лунінецкі
Люб. — Любанскі
Лях. — Ляхавіцкі
Маг. — Магілёўскі
Маз. — Мазырскі
Маладз. — Маладзечанскі
Малар. — Маларыцкі
Маст. — Мастоўскі
Мёр. — Мёрскі
Мсцісл. — Мсціслаўскі
Мядз. — Мядзельскі
Навагр. — Навагрудскі
Нараўл. — Нараўлянскі
Нясв. — Нясвіжскі
Паст. — Пастаўскі
Петр. — Петрыкаўскі
Пін. — Пінскі
Пол. — Полацкі
Пруж. — Пружанскі
Пух. — Пухавіцкі
Раг. — Рагачоўскі
Рас. — Расонскі
Рэч. — Рэчыцкі
Салігор. — Салігорскі
Светлагор. — Светлагорскі
Свісл. — Свіслацкі
Сен. — Сенненскі
Слаўг. — Слаўгарадскі
Слон. — Слонімскі
Слуц. — Слуцкі
Смал. — Смалявіцкі
Смарг. — Смаргонскі
Старадарож. — Старадарожскі
Стаўб. — Стаўбцоўскі
Стол. — Столінскі
Уздз. — Уздзенскі
Ушацк. — Ушацкі
Хойн. — Хойніцкі
Хоц. — Хоцімскі
Чав. — Чавускі
Чач. — Чачэрскі
Чашн. — Чашніцкі
Чэрв. — Чэрвеньскі
Чэрык. — Чэрыкаўскі
Шкл. — Шклоўскі
Шчуч. — Шчучынскі

## Іншыя скарачэнні

*абразл.* — абразлівае
*аг.* — назоўнік агульнага роду
*адз.* — адзіночны лік
*безас.* — безасабовая форма ўжывання
*вобразн.* — вобразнае ўжыванне

*вык.* — выказнік
*выкл.* — выклічнік
*дзеепрым.* — дзеепрыметнік
*дзеепрысл.* — дзеепрыслоўе
*дзс.* — дзеяслоў
*ж.* — жаночы род
*зак.* — закончанае трыванне
*зб.* — зборны назоўнік
*злучн.* — злучнік
*зневаж.* — зневажальнае
*зніж.* — зніжальнае
*іран.* — іранічнае
*ласк.* — ласкавае
*лаянк.* — лаянкавае
*літ.* — літоўскае
*ліч.* — лічэбнік
*м.* — мужчынскі род
*м.* і *ж.* — назоўнік агульнага роду
*міф.* — міфалагічнае
*мн.* — множны лік
*н.* — ніякі род
*наз.* — назоўнік
*неадаб.* — неадабральнае
*ням.* — нямецкае
*пагардл.* — пагардлівае
*памянш.* — памяншальнае
*памянш.-ласк.* — памяншальна-ласкальнае
*параўн.* — параўнайце
*паэт.* — паэтычнае
*перан.* — пераноснае значэнне
*польск.* — польскае
*прым.* — прыметнік
*прыназ.* — прыназоўнік
*прысл.* — прыслоўе
*румын.* — румынскае
*руск.* — рускае
*уст.* — устарэлае
*часц.* — часціца
*экспр.* — экспрэсіўнае
*яўр.* — яўрэйскае

# А

**АБАЛОНЬ** *ж.* Нізкае месца каля ракі, якое ў разводдзе заліваецца вадой. *Калі на рэчку ён [Костусь] ні прыйдзе, Глядзіць — штось новае там выйдзе: То лёд, уздуўшыся гарбамі, Бубніць, як бубен, пад нагамі, То ападзе наніз, угнецца, На дно пластамі пакладзецца, А па кустах, на абалоні, Ціскі парваўшы і супоні, Вада шырока разальецца, І снег на кашу пабярэцца.* Новая зямля.

**Абало́нь** *ж.* 'бераг ракі' (Пух. СПЗБ); **бало́ння** *н.* 'месца, што ў час разліву затапляецца вадой' (Чач. Жыв. нар. сл., с. 76). Параўн. польск. *błonie* 'луг, паша'.

**АБАРУЖАНЫ** *прым.* Узброены. *А як вызваліць яго [Панаса]? Сілаю! Людзі патрэбны. Хоць бы дзесятак адважных абаружаных людзей.* Дрыгва. *А праз хвіліну з мроку выплыла яго [Мартына Рыля] высокая постаць, а за ім цэлая чарада абаружаных людзей.* Там жа.

Параўн. руск. *вооруженный* 'узброены'.

**АБАЧНА** *прысл.* Бачна. *У сяле на цэркві чуць абачна Блішчыць ліхтарык і мігае, Дарожных погляд прыцягае.* Новая зямля.

**Аба́чна** *прысл.* 'відна' (Карэл. Сцяшковіч, 1972); **аба́чны** *прым.* 'відны (бачны)' (Мсцісл. Бялькевіч).

**АБВЁРТКІ** *мн.* Кусок тканіны для абмотвання нагі вышэй чаравіка. [З песні]: *Як пабег [Гітлер] у свой Берлін, Пагубляў абвёрткі. Глянуў Гебельс — сукін сын! «Фюрэр, а дзе ж порткі?»* Адплата.

**АБЕДНІЦА** *ж.* Набажэнства ў хрысціян, якое адбываецца раніцай або днём; абедня. *Назаўтра зранку таксама ішла споведзь, а потым ужо служылася абедніца, набажэнства, спецыяльна створанае для палешукоў, бо звычайна*

*іх доўга ў царкве не затрымлівалі.* На ростанях. [*Айцец Мадэст да дзеда Мікіты:*] *— Дзе ж гэта замачыўся? — На балоце, дзе ж? — А чаму ж ты на абедніцы не быў?* Там жа.

**Абе́дня** *ж.* 'царкоўная служба' (Мсцісл. Бялькевіч).

**АБЛАДА** *ж.* Улада, уплыў. *Думкі падхапілі Лукаша, моцна ўзяўшы яго пад сваю абладу, і панеслі далёка-далёка..* Адгукнуўся.

**АБЛАДЗІЦЬ** *незак.* Справіцца з чым-н. *Былі і такія людзі, якія проста стаялі за тое, што камень і павінен быць тут, каб людзі вучыліся быць асцярожнымі і разумнымі, каб умелі самі абладзіць сваю бяду, сваё няшчасце..* Чортаў камень.

**Абла́дзіць** *дзс.* 'наладзіць' (Чашн. Каспяровіч).

**АБЛЕТАК** *м.* Жывёліна, якая пералетавала. *А мо добры лёс трапляе? Дапамогуць тут паны? Ён* [*Сымон*] *гадае так і гэтак Ды глядзіць у гушчарняк, Як ваўчок, як той аблетак, Ды не вырваецца ніяк.* Сымон-музыка.

**Абле́так** *м.* 'цяля сёлетняга прыплоду, веснавое цяля' (Мсцісл. Бялькевіч).

**АБЛУДНЫ** *прым.* Няправільны, памылковы. *Ён* [*Богут*] *выступае ў добрай ролі, Каб перавыхаваць народ Ды навучыць яго парадку, З дарог аблудных скіраваць, Каб да чужога не быў падкі І ўмеў законы шанаваць.* Рыбакова хата.

**Аблу́да** *ж.* 'памылка' (Каспяровіч-БРС). Параўн. польск. *obłędny* 'памылковы, які прыводзіць у зман, падманлівы'; укр. *облудный* 'памылковы, няправільны'.

**АБЛЮМАНЫ** *прым.* Заплюханы, брудны. *— Я табе прычасця не дам, — накінуўся на яго* [*дзеда Мікіту*] *бацюшка. — Не мог ты паўгадзіны ў царкве пабыць, памаліцца? Дык ты скарэй на балота, да чарцей пабег, а цяпер аблюманы і абрынданы, прычашчацца прыпёр?* На ростанях.

**АБНІМ** *м.,* **АБОЙМЫ** *толькі мн., перан.* Абдымкі. *Праз нейкі час, ужо пад зіму, Міхал у моцным быў абніму Хваробы цяжкай і паганай, Неспадзяванай, негаданай.* Новая зямля. *Хадзілі па лесе з табой мы, Прыгадвалі розныя часы. Браў вецер нас у абоймы Ды сыпаў з дрэваў украсы.* Янку Купалу.

**АБРАДЗІНІЦЦА** *зак.* Нарадзіць дзіця. *Лабановіч бяжыць у свой пакойчык, дзе яго чакае пісар. — Ведаеш, брат*

*Мацей, што? — Ну? — Ганна ў кладоўцы абрадзінілася!* На ростанях.

**Абрадзініцца** *зак.* ‘абрадзіцца’ (Уздз. СЦБ); ‘нарадзіць дзіця’ (Мсцісл. Бялькевіч); **абрадзіцца** *зак.* ‘радзіць’ (Гл. Янкоўскі, 1969); ‘нарадзіць дачку’ (Лоеў. Янкова); **абрадзіць** *зак.* ‘нарадзіць’ (Петр. НЛГ).

**АБРАНІЦЬ** *зак.* Сказаць, вымавіць. *Рука іх [Данілы і кацьмака] злыгана з рукою, як шыі двух валоў ярмом. І як валы, яны друг другу Не абранілі пары слоў.* Рыбакова хата.

**Абраніць** *зак.* ‘сказаць, вымавіць скрозь зубы, працадзіць (слова)’ (Мсцісл. Юрчанка, 1966). Параўн. руск. *обронить* ‘сказаць, вымавіць мімаходам’.

**АБРОНА** *ж.* Пра таго, хто абараняе каго-н., заступаецца за каго-н.; абаронца, заступнік. *У касцёле свентаянскім Будзеш «Янам» элеганцкім! Каранован каронаю, Будзеш нашай абронаю!* «Святы Ян».

Параўн. польск. *obrona* ‘той, хто абараняе, ахоўвае каго-небудзь, заступаецца за каго-небудзь’.

**АБЭРЖА** *ж.* Вялікая будыніна для гаспадарчых патрэб. *Народ, відаць, жыў панавата, Прынамсі, добра і заможна, Па ўсім аб гэтым судзіць можна: Па ветраках, такіх удумных, І па абэржах гэтых, гумнах, Па старасвецкіх азяродах, Па гарбузах на агародах.* Новая зямля.

**Абэ́ржа** *ж.* ‘вялікая, не даведзеная да ладу пабудова’ (Бабр. МАСМ); ‘прасторная, вялікая хата’ (Стаўб. МСММГ, 1970; Стаўб. СЦБ); ‘вялікае няўтульнае памяшканне’ (Навагр. Жыв. сл., с. 20); ‘вялікая непрыбраная хата’ (Капыл. Жыв. сл., с. 168); **абэ́рда (абэ́рджа, абэ́ржа, абэ́ржня)** *ж.* ‘недарэчны будынак вялікіх памераў’ (Гродз. Цыхун). Параўн. польск. *oberża* ‘заезны дом, карчма’.

**АБЭЦАДЛЫ** *мн.* Вучэнне, грамата. *Ён [Сымон] аб гэтым думаў многа, З дзедам радзіўся не раз, Ды, вядома, у старога Быў старэцкі і адказ: — Кінь, ты, хлопча, Абэцадлы! Лепей плюнь на іх, эге ж! Кнігі розум сушаць, падлы: У сухоты ты ўпадзеш!* Сымон-музыка.

Параўн. польск. *abecadło* ‘азбука, алфавіт’.

**АБ’ЮШЫЦЬ** *зак.* Моцна пабіць, збіць да крыві. [*Паўлюк у думках:*] *Падгаварыць хіба навабранцаў, каб аб’юшылі яго [Сучынскага], як будуць ісці на прызыў.* Тоўстае палена.

**АВЭК** *выкл.* Прэч. *Старайся на пана, старайся, пан Бек! Але, глядзі, крыкне гер фюрэр: «Авэк!»* Пану Беку.

Параўн. ням. *weg* 'прэч'.

**АГЛАБІЦА** *ж.* Біла, якім мацуюцца лёсткі ў драбінах, аглабіна. *Ускаціўшыся на воз, Пятрусь завязаў лейцы за аглабіцу і лёг.* Кірмаш. *У цялежцы трэба было лёсткі новыя даць, аглабіцы замяніць і вузгалоўе другое палажыць.* Называецца зарабіў.

**Аглабліца** *ж.* 'жэрдка ў развалах' (Лях. СПЗБ); **аглабня́** *ж.* 'аглобля' (Віл. Жыв. сл., с. 92); **аглаблі́на** *ж.* 'аглобля' (Віл. СЦБ).

**АГНЕПАСКІ** *мн.* Праменні, якія зліваюцца ў агнявую паласу, маюць колер агню. *Ружовы захад повен ласкі, І ціха звіслі агнепаскі, Брыжы, тасёмкі і каралі..* Новая зямля.

**АГНІСТА-ДЫМНЫ** *прым.* Няяркага чырвонага колеру. *Зірнеш на дол — убогі ён, Адзін пясок, сухі, нішчымны, Ды колькі тут наткаў красён Чаборык, мох, зязюльчын лён І верасок агніста-дымны!* Загібелька.

**АГНІСТАНІТНЫ** *прым.* Падобны на ніці агністага колеру. *Зарніца! стрэл! І сноп раскінуў Чырвоных стужак на даліну У наш бок іхні дынаміт. Блісь-блісь! успыхваюць бліскаўкі, Агністанітныя брыжы.* На шляхах волі.

**АГНЯВІСТЫ** *прым.* 1. Прасякнуты агнямі, які свеціцца, як агонь. *Загарэўся, задыміўся Свет вайной, і далей дым пажараў пакаціўся Агнявістай хваляй.* Божа мой! Калі паўстане... 2. Які адлівае фарбамі агню; падобны колерам да агню. *Адзін чалавек шукаў у гэтую ноч кветку папараці, бо кажуць, што ў купальскую ноч зацвітае яна агнявістым цветам.* Купальскія светлякі.

**АГНЯВОКІ** *прым.* Які мае колер агню; ярка-чырвоны. *Ў глыбі лясоў цецерукі Ўжо зачыналі свае токі, Усход віталі агнявокі.* Новая зямля.

**АГНЯЧЫРВАНЫ** *прым.* Ярка-чырвоны. *Вобразн. Хмарак шоўкавая грыва Рассцілаецца гулліва Агнячырванай мятлою.* Сымон-музыка.

**АДАТНУЦЬ** *зак.* Раптоўна і рэзка абарваць (пра музыку). *Рэпіць дудка, не даецца, Адатне ды зноў пачне, Як зальецца, як зальецца, Проста сэрца страсяне.* Ігрышча.

**АДБАЯРВАЦЦА** *незак.* Ухіляцца, выкручвацца ад чаго-н. *— Мы прывыклі, дружа, — мякка сказаў Турсевіч, —*

*адбаярвацца агульнымі выразамі там, дзе наш розум не можа адолець, пераступіць нейкія парожкі, якія адгароджваюць ад яго тое, чаго мы не ведаем.* На ростанях.

**Адбая́рыцца** *зак.* 'адгаварыцца, апраўдацца' (Лоеў. Янкова). Параўн. руск. *отбояриваться* 'ухіляцца, выкручвацца ад чаго-н.'

**АДБОР** *м.*: **ДА АДБОРУ (ПАЙСЦІ).** Пайсці на адборку лесаматэрыялу. *Як на бяду, пайшлі мужчыны I Ўладзік з імі ўрассыпную: Адзін у лес, той да адбору, З сахою трэці ў гэту пору Араў дзесь пасеку старую.* Новая зямля.

**АДВІНУЦЦА** *зак.* Ненадоўга адлучыцца, адысці куды-н. *Антось да воза адвінуўся I зараз з торбаю вярнуўся.* Новая зямля.

**Адвіну́цца** *зак.* 'адлучыцца на кароткі час, адхінуцца' (Стаўб. Жыв. сл., с. 104).

**АДГОН** *м.* Абочына. *Ідзе Настуся на адгоне. На вочы сцелецца імжа.* На шляхах волі.

**АДЗЯБЁЛЕЦЬ** *зак.* Агрубець, ачарсцвець. [*Рэдактар:*] — *Эх, людзі, людзі! Адзябёлела сэрца ваша, і вушамі вы дрэнна чуеце. Як далёка, кажу вам, стаіце вы ад жыцця!* На ростанях.

**АДКУЛЬСЯ** *прысл.* Аднекуль. *Бяжыць з кудзеляю дзяўчына, За ёю хлопец-малайчына Адкулься зараз увязаўся, I смех і гоман там зачаўся.* Новая зямля. *I стол з абрусам даматканым З'явіўся тут адкулься ўміг.* Рыбакова хата.

**Адку́лься** *прысл.* 'адкуль' (Карэл. Сцяшковіч, 1972); **адку́ля** *прысл.* 'адкуль' (Бял. Яўсееў); **адкуля́** *прысл.* 'адкуль' (Лоеў. Янкова).

**АДЛЕЖНАСЦЬ** *ж.* Адлегласць. *Бяжыць Ганна то разорай, То мяжой праз раўчакі. Азірнецца — ўсё нырае Тая ў жыце галава, Цяжка дыша, зрок бліскае; Іх адлежнасць раздзяляе Не больш — верацяў на два.* Сымон-музыка.

**АДПУСКНАЯ** *ж.* Канец рабочай змены. *У пяць гадзін вечара, як толькі разнагалосы хор гудкоў прагудзе рабочым адпускную, Іван заставаўся адзін.* Балаховец.

**АДСТАРШЫНЯВАЦЬ** *зак.* Адпрацаваць старшынёй пэўны час. *Па-трэцяе, у Захара Лемеша ёсць патайная думка адстаршыняваць адразу, без перапынку, тры раты.* На ростанях.

**АДТВОРЫНА** *ж.* Адтуліна, шчыліна для ўваходу (выхаду) куды-н. *Панура і грозна зяўрылі сваімі цёмнымі адтворынамі смалакураўскія салашы, як пасці пачварных страшылішч.* Дрыгва.

**АДУЖАЛЫ** *прым., перан.* Моцны, развіты, дасканалы ва ўсіх адносінах. *Тэатр імя Янкі Купалы яшчэ зусім малады, пасля трох год існавання зрабіўся настолькі адужалым, што ў 1923 годзе здолеў выступаць на Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўцы.* Культура і навука ў БССР за 30 год.

**Ду́жы** *прым.* 'дужы, моцны' (ТС); (Паст., Свісл., Смарг. СПЗБ). Параўн. укр. *одужалий* 'які стаў здаровым, паправіўся пасля хваробы'.

**АЖЭГЧЫ** *зак., перан.* Раптоўна авалодаць кім-н., выклікаць моцныя пачуцці; апячы. *Дзед трывожна погляд кінуў: — Мусіць збег, каб я здароў! — І затросся дзед ад страху, Думка мозг яго ажгла: «Абакраў, гад, і даў маху!»* Сымон-музыка.

**Ажэ́хч** *зак.* 'апячы' (Шчуч. СПЗБ). Параўн. руск. *ожечь* 'апячы'.

**АЗАДДЗЕ** *н., зб., перан.* Адкіды грамадства. [*Далін:*] — *Анархія расце, Гусцее ком бязладдзя, Мы ж цягнемся ў хвасце, Як нейкае азаддзе.* На шляхах волі.

**Аза́ддзе** *н., зб.* 'пазадкі' (Пін. Нар. лекс., с. 112; Чач. Жыв. нар. сл., с. 86); 'пазаддзе' (Карэл. Сцяшковіч, 1972); 'пазаддзе' (Чэрык. МАСМ); **оза́ддзе** *н.*, **оза́дкы** *мн.* 'пазаддзе' (Жаб., Малар. ДСБ); **аза́дзьдзя** *н.* 'азаддзе, больш лёгкае (пустое) зерне' (Мсцісл. Бялькевіч).

**АЗРЭЛЬ** *м., лаянк.* Пагардлівая мянушка (ад уласнага імя Азрыель). [*Мар'яна да Насці:*] *Ты будзеш мой плот ламаць, каб табе косці паламала, азрэль ты сляпы!? — Як ты, авечка шалудлівая, смела сказаць на мяне, старую жонку, «сляпы азрэль?» — Якая я шалудлівая?* Наша сяло, людзі і што робіцца ў сяле.

**АКАЛОДАЧНЫ** *м.* Паліцэйскі, які наглядаў за акалодкам—падраздзяленнем паліцэйскага гарадскога ўчастка; акалодачны наглядчык. *Яму* [*ураднiку*] *даюць павышэнне, пасылаюць у горад, робяць акалодачным, потым прыставам.* Соцкі падвёў.

**АКАНЧАЛЬНА** *прысл.* Канчаткова. *Давай, брат, думаць хоць сягоння Ці так ці сяк, каб даць параду І к аднаму ўжо прыйсці ладу Раз назаўсёды, аканчальна.* Новая зямля.

Параўн. руск. *окончательно* ‘канчаткова, беспаваротна’.

**АЛЬТАНКА** *ж.* Невялікая пабудова з дошак, прыгодная для жылля. *Дзедава альтанка Зроблена з аполкаў, Чыста ў ёй і светла; Печ, як маці, ветла.* Сымон-музыка.

**Альта́нка** *ж.* ‘альтанка; мезанін’ (Каспяровіч-БРС).

**АНТАЛЯЖЫКІ** *мн.* Карункі. *І якіх убораў толькі На паненках ні было! Анталяжыкі ў дзве рολькі...* Сымон-музыка.

**Анталя́жы** *мн.* ‘карункі’ (Навагр. Сцяшковіч, 1972); **анталя́жы**, **антыля́жы** *мн.* ‘карункі’ (Валож. МСММГ, 1970; Валож., Чэрв. СЦБ, 1970); **антыля́рыкі** *мн.* ‘брыжы, карункі (на адзенні)’ (Гродз. Цыхун); **антуля́жы** *мн.* ‘карункі’ (Зэльв. Сцяцко). Параўн. франц. *entoilage* ‘палатняная падшыўка’.

**АПАЧЫНА** *ж.* Прыстасаванне для кіравання плытом. *А Лукашу ў гэты момант снілася, што яго плыт крута заламала ў бераг. «Дам казла! Дам казла!» — думае ў сне Лукаш і кідае апачыну, хапаецца за прыс.* Адгукнуўся.

**Апачы́на** *ж.* ‘рулявое вясло на плыце’ (Іўеў. СПЗБ); ‘прыстасаванне для кіравання плытом’ (Навагр. Сцяшковіч, 1972; Гродз. Цыхун); ‘кармавое вясло’ (Лоеў. Янкова).

**АРАБОК** *м.* Рабчык. *Свіішча тонка арабок, Там варкуе галубок.* Міхасёвы прыгоды.

**АСАВІК** *м.* Падасінавік. *Па дарозе нашым хлопцам пападаліся ўсякія грыбы: казлякі, асавікі, лісіцы, сыраежкі і другія.* У грыбах.

**Асаві́к** *м.* ‘падасінавік’ (Уздз. МСММГ, 1974; Гродз. Цыхун; Уздз. СЦБ); **асо́вік** *м.* ‘падасінавік’ (Шчуч. З нар. сл., с. 38; Старадарож. СПЗБ); **асавя́к** *м.* ‘падасінавік’ (Карэл. Нар. лекс., с. 156); **асаві́к**, **асавя́к** *м.* ‘падасінавік’ (Карэл., Навагр. Сцяшковіч, 1972); **асі́навік** *м.* ‘падасінавік’ (Лельч. Жыв. сл., с. 214).

**АСЕСЦА** *зак.* Перастаць пераязджаць з месца на месца, спыніцца на пастаянна, асесціся. *Іх* [*мужыкоў*] *твары сур'ёзны, і важны іх міны, Ды вырвецца часам тут крык: — Ото, брат, раўніна! і вокам не скінеш, А глеба, глядзі, — як тварог! Што за зямелька, брат! Купіш — не згінеш, Асесца б тут госпад памог.* Агляд зямлі.

**АСІГНАТА** *ж.* Квітанцыя на права вывазкі з лесу дроў. *Але, як ён выязджаў з двара, жонка, вытknуўшыся з сяней, гаворыць да яго: — Зайдзі, Паўлюк, у лясніцтва і вазьмі асігнату, бо скора не будзе чым выпаліць у печы: скінулі ж табе на каморы дровы.* Тоўстае палена.

**АСМАГЛЫ** *прым.* Абветраны, змарнелы. *Глядзіць адтуль, знізу, суровы Другі такі ж самы Цімох, Асмаглы, шчацінаю рыжай Заросшы, як дрэва карой. Цімох нагінаецца ніжай, Адбітак разглядвае свой.* Адплата.

**АСМІНА** *ж.* Старая мера аб'ёму сыпучых рэчываў, роўная палове чвэрці ці 1/8 бочкі (каля 105 л). — *Ну, то я прышлю, цэлую асміну* [*грэчкі*] *прышлю, — сказаў падлоўчы.* На ростанях.

**Асмі́на** *ж., устар.* 'мера вагі ў 3 пуды' (Ваўк. Сцяшковіч, 1972).

**АСЯРОДЗІШЧА** *н.* Сацыяльна-бытавыя абставіны, у якіх працякае жыццё чалавека; асяроддзе. [*Кузьма да Насці:*] *Лічачыся з аб'ектыўнымі ўмовамі часу і месца, я гляджу на цябе, як на прадукт дробнаўласніцкага асяродзішча, і покі што не прыдаю вялікага значэння тваім буржуазна-мяшчанскім тэндэнцыям..* Адукацыя.

**АСЯРЭДЗІНА** *ж.* Супольнасць людзей, звязаных агульнасцю прафесіі, заняткаў. *У папоўскай асярэдзіне таксама шушукаюцца, зашыўшыся ў свае куткі.* На ростанях.

**АТРАМАНТ** *м.* Чарніла. *Ён* [*пан Богут*] *апусціў пяро ў «атрамант».* Рыбакова хата.

**Атрама́нт** *м.* 'чарніла' (Свісл. СПЗБ). Параўн. польск. *atrament* 'чарніла'.

**АТРУСКІ** *мн., перан.* Рэшткі, перажыткі чаго-н. *А ты* [*Наднямонне*] *пад пятамі Варшавы Маладой З бядой-нудой Ушчункі зносіш і расправы І цягнеш той жа лёс іржавы... Атрускі, друз сярэднявечча — Пробашч, пан, Шляхецкі стан Узleглі, душаць табе плечы...* Беларусі пад Польшчай.

**Атру́скі** *мн.* 'нацярушаныя каласы, салома' (Паст. СПЗБ); 'абтрускі, дробнае сена, салома' (Мсцісл. Бялькевіч).

**АХАЎСКІ** *прым.* Вельмі цяжкі, безвыходны, невыносны. [*Будан-Рыльскі:*] *Дык так, гаспада. Становішча, як гаворыцца, ахаўскае, але не безнадзейнае.* Вайна вайне.

Параўн. руск. *аховый* 'дрэнны, кепскі'.

**АХЛУСІЦЬ** *зак.* Абняславіць каго-, што-н.; зганьбіць. *Няхай караюць там сурова, Каб дух народу загасіць; Хай «ужонд польскі» слова ў слова Бярэ прыклады з Мураўёва, Каб рух спаганіць, ахлусіць.* Братам Заходняй Беларусі.

**АЧОСЫ** *мн.*: **НА АЧОСЫ.** Напрасткі. [*Сымон да дзеда:*] — *Дзедка, бачыш, унь сядзіба, Па-над лесам хутарок! — На ачосы пойдзем хіба, Ды хутчэй, хутчэй, сынок.* Сымон-музыка. *Направа сцежачка сляпая Вядзе балотцам на ачосы.* Новая зямля.

**АШЧАДА** *ж.* Літасць, памілаванне. *Людаедам не будзе ашчады.* На пажарышчы.

Параўн. руск. *пощада* 'праяўленне жаласці, спагады, міласэрнасці'.

**АШЫЯК** *м.* Самае вузкае месца ракі. [*Пятрусь да Грышкі:*] *Хадзем у ашыяк Ці туды, дзе густа лозы Звесілісь над рэчкай.* Спатканне і знаёмства.

**АШЭСТАК** *м.* Жэрдка пад столлю ў сялянскай хаце, на якую вешалі адзенне. *Ёсць тут і ашэстак І лучнік пры печы, — Словам, свая хата Селяніна-брата.* Сымон-музыка.

**Ашэ́стак** *м.* 'жэрдка пад столлю хаты, на якую вешаюць адзенне' (Навагр. Сцяшковіч, 1972).

# Б

**БАБКА** *ж.* Страказа. *У траве між чаратоў — Колькі розных матылёў, Бабак сініх і чырвоных: Іх сукеначкі ў фальбонах..* Рак-вусач.

**Ба́бка** *ж.* 'страказа' (Гродз. Цыхун; Зэльв. Шаталава; Кам. ДСБ; Чэрв. Шатэрнік; Круп. МСММГ, 1970; Касц. Бялькевіч); 'матылёк' (ТС); **ба́бачка** *ж.* 'страказа' (Пух. СЦБ). Параўн. укр. *бабка* 'страказа'.

**БАГНА** *ж.*, **БАГНО** *н.* 1. Глыбокае месца. *Калона ўжо блізка, гудзе бранявік, На мост набягае, Ускочыў і — брык. Сталёвая глыба Нырае на дно, І следам другая — Бабух у багно.* Засада. 2. *перан.* Неабсяжныя прасторы, бязмежнасць. *А на захадзе, як сажа, Хмары цёмныя ўстаюць, І варушацца клубы іх, Як жывыя, І сівыя, Нібы галавы на шыях Нейкіх волатаў дзіўных З багна неба насланых..* Сымон-музыка. *А ноч ціхутка; ў багне цёмнай Пустэлі страшнай і

*бязмоўнай Гараць дрыготна, ззяюць зоркі, Як найдарожшыя пацёркі.* Новая зямля. 3. *перан.* Бесканечнасць часу. *Там вочы нейчыя міргнулі... І мыслі раптам скаканулі У багны часаў і пастораў, Бо ім няма граніц, запораў.* Новая зямля. 4. *перан.* Прадонне, пагібель. *Сам я йшоў бядзе ў рукі, Сам я вольнасць сваю нёс У гэты суд балота, мукі, У гэту багну гора, слёз.* Гадавіна. *Відаць па ўсім, што Гітлер коціцца ў чорную багну.* З пісьма.

**Ба́гна** *ж.* 'топкае балота' (Дзятл. Сцяшковіч, 1972); 'жудаснае непраходнае балота, але не дрыгвяністае' (Гл. Янкоўскі); **ба́гма** *ж.* 'багна, топкае балота' (Мсцісл. Бялькевіч); **багно́** *н.* 'багна, мокрая сенажаць з мноствам купін' (Шчуч. Нар. лекс., с. 40); 'дрыгва, балота' (Карэл., Маст., Паст., Чэрв. СПЗБ); 'балота' (Гродз. Сцяшковіч, 1983); 'дрыгва' (Драг. ДСБ); 'багна' (ТС; Лоеў. Янкова).

**БАГРАНІЦА, БАГРАВІЦА** *ж.* Чырвань, барвовасць. *Хмаркі, неба, лес, зямліца, — Усё сціхла, зорыць чутка: Штось замысліў мрок-сляпіца! З горак сходзіць багравіца, Дзесь галосіць-плача дудка, — Будзе сцішна, будзе жудка, Калі зляжа ноч-чарніца!* Сымон-музыка. *Прад ім* [*Шкундам*] *плыве людскі паток, На сонцы макамі іскрыцца Плакатаў, сцягаў баграніца, А побач нелюдзі клубок.* На шляхах волі.

**БАГРАНЫ** *прым.* Густа-чырвоны, пурпуровы, багровы. *Але знімае ноч сутану І беліць пасмы валасоў І блеску светлых абрусоў, А на бязмежную паляну Выносіць дзень свой сцяг баграны Пад гімны ранніх галасоў.* На шляхах волі.

**БАГРЫСТА-ЧЫРВОНЫ** *прым.* Густа-чырвоны, пурпуровы. *У тэмпе бурнага разгону Пад сцягам багрыста-чырвоным Рубеж кладзе наш кожны год.* На шляхах волі.

**БАЛАТНЯНЫ** *прым.* Балоцісты. *Ёсць між кладзі навуковай Тарфяныя тлушчы. І карэнні кок-сагызу З балатнянай плошчы — Хоць, як глянеш на іх зблізу, Чэзлыя, бы мошчы.* Воз навукі.

**Балатавы́** *прым.* 'балотны' (Віл. СПЗБ); **бало́тлівы** *прым.* 'балотны' (Дзярж., Маладз., Смарг. СПЗБ); **бало́тлівый** *прым.* 'балоцісты' (Краснап. Бялькевіч); **балацья́ны** 'балотны' (Чэрв. Шатэрнік).

**БАЛОЦІНА** *ж.* Нізкае месца, залітае вадой; балотца. *Тым часам дарога падыходзіла да балоціны, праз якую была*

*праложана грэбля.* На ростанях. *Але яму* [*Сымону*] *не да развагі: Адна яго мысль — уцякаць! І ён папоўз паўзком тулягі Уніз к балоціне, на гаць.* Рыбакова хата.

**Бало́ціна** *ж.* ‘забалочанае месца’ (Чэрв. Шатэрнік); ‘нізкае месца, залітае вадой’ (Астр. Сцяшковіч, 1972); **балаціна́** *ж.* ‘забалочаная лагчына’ (Валож. СЦБ); **балатаві́на** *ж.* ‘балота, лагчына’ (Лаг. СПЗБ).

**БАЛОЦІШЧА** *н.* Балоцістае месца; вялікае балота. *А вось і возера-акно, Якога мала дзе пабачыш, Такое дзікае яно Сярод балоцішча адно, — Завуць яго чамусь Грымячым.* Загібелька.

**БАЛЯСЫ** *мн.*: **РАЗВОДЗІЦЬ БАЛЯСЫ.** Весці пустыя размовы. *А ротны маршавы тым часам, Статут забыўшы і расклад, Збярэ вакол сябе салдат І без праграмы, самапасам, Разводзіць розныя балясы Гадзіну добрую падрад.* На шляхах волі.

**Баля́сыточи́ць** ‘гаварыць лухту, глупства’ (Насовіч); **баля́сы тачы́ць** ‘весці пустыя размовы’ (Чэрв. Шатэрнік); **баля́сы** *мн., перан.* ‘доўгія зубы’ (ТС).

**БАРБАРА** *ж.* Канат з лазовых вітак для тармажэння плыта. *Ад крыку-лаянкі Аж дрыжыць паветра: — На «барбару», Янка! — Гартоль бяры, Петра!* Плытнікі.

**Барба́ра** *ж.* ‘вяроўка з кручаных дубцоў для прывязвання плыта да берага ў час стаянкі’ (Гродз. Нар. сл., с. 250; Гродз. Цыхун); ‘тоўсты канат з нітак з завостранай палкай на канцы для тармажэння плыта’ (Карэл. З нар. сл., с. 86); ‘вяроўка, канат з гардзялёў або дроту з завостранай палкай на канцы для тармажэння плыта’ (Навагр. Нар. лекс., с. 151).

**БАЎКА** *ж.* Правядзенне часу ў розных гутарках; бавенне. *А ротны маршавы тым часам, Статут забыўшы і расклад, Збярэ вакол сябе салдат І без праграмы, самапасам, Разводзіць розныя балясы Гадзіну добрую падрад. І раз у часе гэтых бавак З вучастка ротнага сігнал: Брыгадны едзе генерал!* На шляхах волі.

**БАЦ** *м.* Пацук. *Збудаваў я палац, Многа фабрык, мастоў. Сам жа голы, як бац, — Пары дзве рызманоў.* Мужык.

**Бац** *м.* ‘пацук’ (Карэл., Навагр., Стаўб. Жыв. сл., с. 21, 68, 105; Бар. ДСБ; Дзятл. Сцяшковіч, 1972; Навагр.

Нар. словатв., с. 41; Карэл. Шаталава; Іўеў., Карэл., Лід. СПЗБ; Пух. МСММГ, 1974); **бацу́к** *м.* 'пацук' (Карэл. Жыв. нар. сл., с. 56).

**БЕГАНКА** *ж.* Бег, беганне. *Сыпле дробна — што малому? Дзядзька стаў хістацца. Ды і дзе з малым старому Ў беганцы зраўняцца?* Грушы-сапяжанкі.

**БЕЗЛЮДЗЬ** *ж.* Бязлюддзе. *Гарэлы пасёлак, двары, шалашы Як ёсць апусцелі. Навокала безлюдзь, нідзе ні душы, І птушкі зляцелі.* Адплата.

**БІРУК** *м.* Той, хто цураецца людзей; нелюдзімы чалавек. *Цімоха як бы не зважалі, Абходзілі проста маўком. Усплыў ён, як шчэпка на хвалі, І ёсць ён і быў біруком.* Адплата.

**Біру́к** *м.* 'нелюдзімы чалавек' (Бял. Яўсееў; Касц. МАСМ); Параўн. руск. *бирюк* 'адзінокі, нелюдзімы, пануры чалавек'.

**БЛАЗНОТА** *ж., зб.* Малыя дзеці. *Сям-там рыпяць яшчэ вароты — Канчаюць дзень свой Петрушы — Ды смех пачуецца блазноты: Вясне так рады малышы.* Рыбакова хата.

**Блазно́та** *ж., зб.* 'малалетнія дзеці' (Насовіч); 'дзеці, якія мала што разумеюць' (Чэрв. Шатэрнік); **бла́зян** *м.* 'падлетак' (Навагр. Сцяшковіч, 1972). Параўн. польск. *błazen* '*устар.* малакасос, смаркач'.

**БЛЮМА** *м.* і *ж.* Пра неахайнага чалавека, запэцканага, заплюханага. *Ззамаладу зухуюць і ўбіраюцца і хлопцы і дзяўчата, а як пажэняцца ці як пойдуць замуж, ту пакідае ўбірацца, ходзіць часам у чом папала, чыстая блюма.* Наша сяло, людзі і што робіцца ў сяле.

**Блю́ма** *м.* і *ж., асудж.* 'плакса' (Брэсц., Бяроз., Кобр. ДСБ).

**БОГАЧ** *м.* Багаты, заможны чалавек; багатыр. [*Богут да Марыны:*] *Мне асабіста пані шкода, Дагаварыцца мы б маглі, Але ж і я нясу выдаткі, А я не богач, не магнат, Каб не лічыць сваіх затрат, — Хто за мяне аддасць падаткі?* Рыбакова хата.

**Бага́ч** *м.* 'багач' (ТС); **багаты́р** *м.* 'багаты чалавек' (Віл., Пух. СПЗБ). Параўн. польск. *bogacz* 'багаты чалавек'.

**БРАВЭРКА** *ж.* Верхняя кароткая мужчынская вопратка, звычайна з аўчыны, абцягнутая саматканым сукном.

*Паўзверх гімнасцёркі на шырокіх плячах сядзела ўнакідку бравэрка мешчаніна сярэдняй рукі, а падпяразана была гімнасцёрка выцертаю афіцэрскаю папругаю.* Балаховец.

**Брава́рка** *ж.* 'мужчынская вопратка з сукна, падбітая футрам' (Гродз. Цыхун); **брава(э)рка** *ж.* 'кароткая світка' (Чэрв. Шатэрнік); 'цёплая вопратка, крыху карацейшая за паліто' (Ганц., Лун. ДСБ); **браве́рка** *ж.* 'безрукаўка, мужчынская вопратка' (Ваўк. Сцяшковіч, 1972).

**БРАНДАХЛЫСТ** *м.* Пусты чалавек; гуляка. [*Сафонаў*:] *Тут справа ўсім ясна, I вывад вось які — Буржуі, імперыялісты I ўсякія яшчэ там брандахлысты, Каторыя таўсцеюць ад вайны I карк нагульваюць двайны, Псуюць усё яны..* На шляхах волі.

**Брандо́ліць** *незак.* 'балбатаць' (Ваўк. СПЗБ). Параўн. руск. *лаянк. брандахлыст* 'пусты чалавек, гуляка'.

**БРАТАЛЬНІК** *м.* Той, хто братаецца, становіцца пабрацімам. [*Алесь*:] *Справа ў тым, што ён* [*Будан-Рыльскі*] *рыхтуе нам пастку. Артылерыю паставілі расстрэльваць братальнікаў.* Вайна вайне.

**БРАЎНО** *н.* Бервяно. *У хаце ёсць пакойчык чысты, А вокны светлы і панадны, I броўны ў сценах вельмі ладны: Шырокі, роўны, без прыточак, I жоўценькі, як той жаўточак.* Новая зямля. *Браўна не знойдзеш у паркане, Расцягнуць сцены ўсе дазвання, I будзе воўк гаспадаром.* На шляхах волі.

**Браўно́** *н.* 'бервяно' (Лях., Раг. СПЗБ; Іўеў. Сцяшковіч, 1972).

**БРОЎ** *ж.* Брыво. *А ён* [*Даніла*] *толькі ссунуў броў: — Бач, цялежка вунь старая, Зацягні яе дамоў!* Паслушная жонка.

**Бро́ва** *ж.* 'брыво' (ТС). Параўн. руск. *бровь* 'брыво'.

**БРУДАСТЫ** *прым.* Брудны, пакрыты граззю. *I з-пад яго* [*паэта*] *пяра выліліся такія радкі: ...Пад плотам, дзе схована бедная муза, Шапоча вярба Ды грэе на сонцы брудастае пуза Хаўроня раба.* Трагізм.

**Бру́дны́** *прым.* 'запэцканы' (Астр., Воран., Смарг. СПЗБ); **бру́дны** (ТС); **бруда́** *ж.* 'гразь' (Мсцісл. Бялькевіч). Параўн. польск. *brudny* 'пакрыты граззю, нячысты'.

**БРЭХ** *м., перан.* Нагаворы, абгаворы. [*Кулак*:] *Дабро маё — няшчасце, Стараннасць мая — грэх! Вакол мяне напасці, Галёканне і брэх, Што вораг я дзяржаве І недруг ёй ліхі.* Калгаснае.

**БУГАЙНІК** *м., зб.* Кусты, на якіх растуць дурніцы; дурнічнік. *Лагчына цягнецца да самага лесу, а там зноў пераходзіць у балота з густым белым мохам, з багуном і бугайнікам.* Хатка над балотцам.

**Буга́ннік** *м.* 'буячнік' (Бярэз. СЦБ); **бугае́** *мн.* 'буякі' (ТС; Карэл. З нар. сл., с. 86; Ашм. Шаталава); **буёчнік** *м.* 'дурнічнік' (Лун. Шаталава).

**БУДЗЯК** *м.* Бадзяк, чартапалох. *Бур'ян, Будзяк калючы з крапівою Каля крыніцы параслі.* Марыя.

**БУКАШКА** *ж.* Маленькае, дробнае насякомае, казяўка. *І мясцінка самавіта: Там шумела морам жыта, А ячмень, густы, зялёны, Адбіваў усім паклоны: Ветру, сонцу, дробным пташкам, І кузуркам, і букашкам..* Міхасёвы прыгоды.

Параўн. руск. *букашка* 'усякае маленькае насякомае'.

**БУКТА** *ж.* Глыбокае месца ў рэчцы. *Было зусім яшчэ няцёмна, Вось толькі сонца напалову Зайшло за горку Дзямянову, І нікагусенька нідзе! Аж — зірк ! на саменькай вадзе Сядзіць хтось, выцягнуўшы ногі, Над самай буктай, такі строгі, Як мае быць, ва ўсім адзенні І курыць люльку ў задуменні.* Новая зямля.

**Бу́кта** *ж.* 'шырокае і глыбокае месца на рацэ' (Навагр. Сцяшковіч, 1972); 'глыбокае месца ў рэчцы' (Навагр. Нар. словатв., с. 41); **бу́хта** *ж.* 'вір, падводная яма' (Навагр. Нар. сл., с. 7); 'яма ў рэчцы, выбоіна на павароце ракі' (Астр., Гродз., Іўеў. СПЗБ); 'бухта, вір' (ТС).

**БУЛБАТАЧКА** *ж.* Маленькая бурбалка. *І чуць толькі Ўзнялося булбатачак колькі, Дык дзядзька зараз стаў пакрышку Ў чыгунчык клёцкі кідаць з лыжкі..* Новая зямля.

**Бу́льбаткі (бу́льбаўкі)** *мн.* 'бурбалкі' (Гродз. Цыхун); **бу́льбатка** *ж.* 'бурбалка' (Зэльв. Сцяшковіч, 1972); **бу́лбатка** *ж.* 'бурбалка' (Стаўб. З нар. слоўн., с. 75; Навагр. Жыв. сл., с. 21); 'мыльны пузыр, бурбалка на лужынах у час дажджу' (Карэл., Свісл. Шаталава).

**БУРАВЕЙ** *м., перан.* Той, хто мае неспакойны, няўрымслівы характар. *Ідзе Май у вясёлкавым ззянні — Бура-*

*вей, камсамолец-юнак — І заве ў прамяністае ранне Разняволенай працы ваяк.* Камсамолец Май.

**БУРЖАВІДЗЕЛА** *м., лаянк.* Эксплуатататар, несумленны гандляр. — *Дзесяць рублёў за такога каня! Як жа цябе пасля гэтага назваць? Буржавідзела ты свінячае! — гарачыцца Амяльян.* На «святой» зямлі.

**БУРЖУЯЦКІ** *прым., пагардл.* Які мае адносіны да буржуяў, уласцівы буржуазіі. *Сустрэчны не спасаваў. Ён у сваю чаргу акінуў поглядам пракурора. — А ты, што ж? больш любіш красці адзін? злодзей-індывідуаліст? Іш ты, буржуяцкая морда!* Пракурор.

**БУРКАНУЦЬ** *зак.* 1. Перакуліць цераз галаву. *Сымон прыгнуўся яшчэ больш, схапіў Міколу ўпол так, што яго ногі апынуліся ўгары, і гэтак спрытна буркануў брата, што стаў на ногі.* Дзяліцьба. 2. Перакуліцца. *Дзесятак шырокіх крокаў — і дужая рука за сукенку на спіне схапіла. Момант — бурканула Агатка ў паветры і аб зямлю моцна стукнулася.* Агатка.

**Буркану́ць** *зак.* 'кінуць на зямлю, марскануць' (Гродз. Цыхун).

**БУРНАЦЕЧНЫ** *прым., перан.* Які бурна працякае, напоўнены эмоцыямі; вялікі. *Яго [Богута] залёты — факт бясспрэчны — Вушэй Мальвіны не мінуць. Дык, можа, ёй ліст гэты ткнуць, Каб гнеў уцішыць бурнацечны?* Рыбакова хата.

**БУСЛІЦА** *ж.* Самка бусла. *Ляцяць к яму [дубу] нанач у госці вароны, Бусліца-ўдава падчас завітае.* Над Свіслаччу.

**БЫЦІЕ** *н.* Прабыванне дзе-н.; пражыванне. *Кніга Ташкенцкага быцця.* [Загаловак].

**БЭСТЫЯ** *м., лаянк.* Шэльма, нягоднік. *Ён [Пракоп] прыпамінаў падзеі ўчарашняга вечара, пачастунак у Бабуры, разважанні яго аб калгасе. «Хітры бэстыя, і нешта мае на вуме», — падумаў сам сабе Пракоп.* Адшчапенец.

**Бэ́стыя** *м.* і *ж.* 'абманшчык, хітрун, жэўжык' (Слон. Нар. лекс., с. 48); 'скаціна, нягоднік' (Насовіч); **бэ́стынь** *м. і ж.* 'бессаромнік, нахабнік' (Свісл. Сцяшковіч, 1972); Параўн. польск. *bestia* 'гультай, нягоднік'.

**БЮРКА** *н.* Пісьмовы стол. *А Богут, сеўшы каля «бюрка», Прыціх, разглядвае пісьмо, Яно ж завілае вязьмо, Нібы яго пісала курка.* Рыбакова хата.

Параўн. польск. *biurko* 'стол з шуфлядкамі або шкафчыкамі'.

**БЯЗГНОЙНЫ** *прым.* Няўгноены. *Было зямелькі там валока, Дзе можна б моцна і глыбока Пусціць карэнні ў грунт, абжыцца — Было на чым разварушыцца. Але бязгнойная, пустая Зямлі валока была тая, Дзе рос сівец ды пырнік густа..* Новая зямля.

**Бязгнóіца** *ж.* ‘няўгноенае поле’ (Ганц. СПЗБ).

**БЯЗДОЖДЖЫЦА** *ж.* Працяглая адсутнасць дажджу. *Суш, бяздожджыца, бязросіца... Ох, знаць, будзе год галодненькі!* Сялянскія думкі. *Загуляе часам у бяздожджыцу вецяр, стоўб пяску падымаецца вышэй леса і засыпае і жыта, і авёс, і ячмень..* Наша сяло, людзі і што робіцца ў сяле.

**Бяздóжджыца** *ж.* ‘сухое надвор’е’ (Навагр. Сцяшковіч, 1972).

**БЯЗЛЕТНЫ** *прым.* Бязрадасны, беспрасветны. *Ён* [*Сымон*] *іграў аб родным дому, Аб жыцці сваім бязлетным, Аб імкненні тым сусветным, Што чуваць у буры, грому..* Сымон-музыка.

**Безлéтный: безлетная сторона** ‘дзе няма лета або амаль няма’; **безлéтье** ‘няшчасце, нягода, бедства, злыдні, неўраджай, голад’ (Даль).

**БЯЗРОСІЦА** *ж.* Адсутнасць працяглы час расы ў выніку засухі. *Суш, бяздожджыца, бязросіца... Ох, знаць, будзе год галодненькі!* Сялянскія думкі.

**БЯЛЯВА-ДЫМНЫ** *прым.* Шаравата-белы. *Праясніліся далі палёў. Весялей стала. Бы тыя апушчаныя павекі вачэй, падняліся бялява-дымныя заслоны неба.* Туды, на Нёман!

**БЯССОЧНЫ** *прым., перан.* Высахлы, схуднелы, змарнелы. *Падышоў вядомы ўжо старшыня Брыль Язэп, памочнік пісара Савось Карэнчык, бяссочны, як таран, вяртлявы хлопец..* На ростанях.

# В

**ВАВЕК** *прысл.* Ніколі. *Ты* [*Масква*] *не была вавек рабою І не схіляла галавы..* Маскве.

**Вовéк** *прысл.* ‘ніколі’ (Даль).

**ВАГАР** *м.* 1. Моцная хваля паветра; вал. *Замітусіўся лес, і два грозныя вагары, дзве сцяны дрэў рынуліся адна на другую.* Стары лес. 2. *перан.* Сродак для ажыццяўлення

якой-н. дзейнасці. *Усё (у аповесці «Адшчапенец») адбываецца незвычайна лёгка і гладка, паказваецца па сутнасці адзін вагар пераробкі серадняка — «тугі, як барабан, жывот».* Як я пісаў аповесць «Адшчапенец». 3. *перан.* Рух, праяўленне чаго-н. *Грозны вагар зямельных бунтаў пакаціўся па неабсяжных прасторах царскай Расіі.* На ростанях.

**ВАГЕР** *м.* Павеў, хваля. *Ах, як добра, як падуе ветрык! Цэлы вагер усякага запаха акружыць цібе. ..Над вадою падняўся густы туман і разліўся тонкім вагерам па ўсяму зялёнаму лугу.* Наша сяло, людзі і што робіцца ў сяле.

**Ва́гер** *м.* 'пах' (Карэл. Сцяшковіч, 1983).

**ВАДЗІЦЬ** *незак.* Шанцаваць. *Быў чалавек, што можна б ладзіць, Дык вось няма — памёр! Не вадзіць На добрых нам паноў ніколі.* Новая зямля.

**Ва́дзіць** *незак.* 'шанцаваць' (Карэл. Сцяшковіч, 1972).

**ВАЁЎНІК** *м.* Той, хто імкнецца ваяваць; ваяка. *Палкоўнікі, Ваёўнікі! Вам меч ці па плячы? Прыпомніце Вы прыказку Старую аб мячы!* Панам-ваякам.

**ВАЖЫЦЬ** *незак.* Наважвацца, намервацца, думаць. *Глядзіць [Пятрок] — прывезлі тры цыстэрны, Шэсць грузавых, відаць, снарады. Што важыць вораг крываэкэрны.* Суд у лесе.

**Ва́жыць** *незак.* 'наважвацца, вагацца' (ТС); 'вагацца' (Жытк. Нар. сл., с. 298); **ва́жыцьца** 'рашыцца, асмеліцца' (Насовіч).

**ВАЛ** *м.* Верхні край, грэбень страхі. *Узлез ён [Пятрусь] на гумно, выдраў на самым валу ямку, абклаў яе пер'ем і збудаваў хітрае гняздзечка.* Ластаўкі.

**Вал** *м.* 'валок сена' (Ганц., Паст., Смарг. СПЗБ; ТС); 'доўгая града згрэбленага сена' (Лаг. СЦБ).

**ВАЛОВЫ** *прым., перан.* Вельмі марудны. *Каб я ведаў, па чыёй віне ідуць да нас пісьмы такімі валовымі тэмпамі, я пракляў бы яго..* З пісьма.

**Вало́вы** *прым.* 'які мае адносіны да вала' (Астр., Смарг. СПЗБ); 'валовы' (Навагр. Сцяшковіч, 1972).

**ВАНІВОТЫ** *мн., перан.* Пра непрыемнае пачуццё да каго-, чаго-н. *Так яны [засяданні] мне абрыдзелі, што калі думаю пра іх, дык пачынаюць браць ванівоты.* З пісьма. *Прымітыўна да ванівотаў і п'еса «Дарагі госць».* На схіле дзён.

**Ванíты** *мн.* 'рвота' (Маст. СПЗБ; Стаўб., Паст. СЦБ); 'ваніты' (Астр. Сцяшковіч, 1972). Параўн. польск. *wymioty* 'ваніты'.

**ВАРАВАТА** *прысл.* Употай, скрытна. *У сэрцы Богутавым свята: Ён зараз — «фацэт» і «вар'ят». Сабе ж ён шэпча варавата: «Ты — дока, пан і дыпламат!»* Рыбакова хата.

**ВАРАЖЭЯ** *ж.* Жанчына, якая варожыць; варажбітка. *Ён [Дамянік] ідзе да варажэі, Каб параду сэрцу даць, Бо разбіты ўсе надзеі Сэрцам Ганны заўладаць.* Сымон-музыка.

**Варажэ́я** *ж.* 'варажбітка' (Краснап. Бялькевіч); **варажэ́йка** *ж.* 'варажбітка' (Мсцісл. Юрчанка, 1996; Маладз. СЦБ; Навагр. З нар. сл., с. 56; Бых. МАСМ; Бых. Нар. словатв., с. 88; Ваўк. Сцяшковіч, 1983); **варажбíтка** *ж.* 'знахарка' (Глыб. СПЗБ).

**ВАЎЧУРА** *ж., зб., перан.* Ворагі. *Крышы, знішчай, як можаш, ваўчуру, Начыненую ядам.* Што трэба?

**Ваўчу́га** *м.* 'форма ацэнкі ад *воўк*' (Гл. Янкоўскі); **ваўчакí** *мн.* 'злыя людзі' (Брэсц. Нар. лекс., с. 209).

**ВАЎЧЭЧЫНА** *ж., экспр.* Пра злога, панурага чалавека. [*Пракоп*:] — *І ён* [*Цімох Бабура*] *хоць і чалавек, але воўк, бо ў свой хутар глядзіць. Можа не поўны воўк, але працэнтаў пяцьдзесят ваўчэчыны ў ім ёсць.* Адшчапенец.

**Ваўчэ́чына, ваўчы́на** *м.* і *ж.* 'нелюдзімы, злы чалавек' (Гор. МАСМ; 'лютасць, злосць' (Карэл. Сцяшковіч, 1972); **ваўкачэ́чына** *м.* і *ж., экспр.* 'злы, пануры чалавек' (Слон. Жыв. нар. сл., с. 124); **ваўчу́га** *м.* 'форма ацэнкі ад *воўк*' (Гл. Янкоўскі); **ваўчкавáты** *прым.* 'сярдзіты, ваўкаваты' (Воран. Сцяшковіч, 1983).

**ВАЧАВІДКІ** *прым.* Відавочны. *Ну, Костусь, брат, зрабі ім брыдка: Тут штука проста, вачавідка! — І ўсе на Костуся зірнулі, Але адказу не пачулі.* Новая зямля.

**Вачавíдзец** *м.* 'той, хто асабіста прысутнічаў пры чым-н., бачыў сваімі вачамі што-н.' (Стаўб. З нар. сл., с. 74); 'сведка, відавочнік' (Навагр. Нар. словатв., с. 41).

**ВЕРАТНІК** *м.* Гоні, загон. — *Змардаваўся, адпачынь, брат, Пастаім, пакурым. Вератнік мы гэты скончым, Спачываць патурым.* На ніве. *Разоў пяць губляў* [*Сымон*] *авеч-*

*кі, Шкоды ў полі нарабіў, Здрасаваў шнуроў тры грэчкі, вератнік аўса прыбіў!* Сымон-музыка.

**Вератні́к** *м.* 'загон' (Карэл. Сцяшковіч, 1972); 'мера зямлі ў даўжыню, роўная прыблізна 50 м' (Стаўб. Жыв. сл., с. 105).

**ВЕРАЦЕНЬ** *м.* Адлегласць даўжынёю каля 50 м. *Прайшоўшы колькі вератнёў, Тамаш насунуўся на начлежнікаў.* На начлезе. *Іх* [*Ганну і Даманіка*] *адлежнасць раздзяляе Не больш — вератняў на два.* Сымон-музыка.

**Ве́рацень** *м.* 'вератнік, гоні' (Карэл. Жыв. нар. сл., с. 56); 'гоні' (Стаўб. МСММГ, 1974); 'мера даўжыні поля, роўная ста метрам' (Іўеў. СПЗБ); 'загон' (Карэл. Сцяшковіч, 1972).

**ВЕСНЯКІ** *мн.* Сяляне. *Тут людзі розных званняў, стану — І з гарадоў і «весняні», І ёсць напэўна і шпікі, Што служаць пану паслухмяна.* Рыбакова хата.

Параўн. польск. *wieśniak* 'селянін'.

**ВІДОМАСЦЬ** *ж.* Уяўнасць. *Невысокі хударлявы чалавек наогул не верыць ні гэтай цішыні, ні гэтаму лясному спакою: гэта цішыня і гэты спакой — толькі зманлівая відомасць цішыні і спакою.* Дрыгва.

**ВІТАЦЬ** *незак.* Заходзіць, наведвацца. *Дзядзька Марцін кінуў рэзаць сечку і выйшаў на прыгумень: па тону вішчання ён дагадаўся, што свой чалавек вітае на хутар.* На ростанях.

**Завіта́ць** *зак.* 'наведаць' (ТС); 'зайсці, заехаць, наведаць' (Насовіч); **завіта́цца** *зак.* 'завітаць' (Лаг. МСММГ). Параўн. укр. *витати* 'заходзіць да каго-н., наведваць'.

**ВІЦІНА** *ж.* Бярвенні, звязаныя ў некалькі радоў для сплаву; плыт. *Хадзіў на сплаў ён* [*Міхал*], *на віціны, Разоў са два схадзіў у Прусы — Куды не трапяць беларусы?* Новая зямля.

**Віці́на** *ж.* 'драўлянае судна (даўней цягалі па Нёмане супраць цячэння пры дапамозе канатаў)' (Гродз. Нар. сл., с. 252); **вити́на** *ж.* 'хадавое пласкадоннае судна па Нёмане і Прыпяці' (Даль).

**ВОБРУЦЬ** *ж.* Аброць. *Каня злавілі, прывязалі, На вобруць, беднага, узялі, Аборкай ногі абвілі..* Конь і сабака.

**Во́бруць** *ж.* 'лейцы' (Уздз. МСММГ, 1977); 'аброць раменная' (Стаўб. З нар. сл., с. 76); **во́брацъ, во́бруць** *ж.*

‘аброць’ (Воран., Зэльв. Сцяшковіч, 1972); **вóбруць, вóбрыць** *ж.* ‘аброць’ (Валож., Стаўб., Уздз. СЦБ; Пух., Чэрв. Шатэрнік).

**ВОБЦАС, ОБЦАС** *прысл.* Вельмі хутка, з усіх ног. *Браты за рукі пабяруцца, Ў зямлянку вобцас панясуцца.* Новая зямля. *Я увесь заміраю — вось ўздымецца буч. А дзядзька спаважна адсовае крыгі. Вот кошык узняўся і як страсянецца! І обцас на бераг тут дзядзька нясецца.* Дзяцінын годы.

**Вóбцас** *прысл.* ‘адразу, хутка’ (Карэл. Сцяшковіч, 1972); **вóпсас** *прысл.* ‘нечакана, рэзка, стрымгалоў’ (Дзярж. Нар. сл., с. 27).

**ВОБЧАСТВА** *н.* Сялянская абшчына; грамада. — *Ты выбраны вобчаствам чалавек, значыцца, пастаўлены ад вобчаства, — вось што ёсць стараста, — паправіўся Мікіта.* Стараста.

**Вóбчыства** *н.* ‘грамада’ (Мсцісл. Бялькевіч). Параўн. руск. *уст. общество* ‘сялянская абшчына’.

**ВОГЕРЫ** *мн.* Лёгкае хістанне хваль. *У параўн. Сівыя хмары неспакойна забегалі па небе, як вóгеры па вадзе.* Мяцеліца.

**Вóгер** *м.* ‘светлы пераліў хваль на рацэ’ (Карэл. Сцяшковіч, 1972).

**ВОЛЬНІЦА** *ж.* Вальнадумства, недысцыплінаванасць. [*Прапаршчык Грынчар*:] *Парадак будзе пры умове, Калі закон што найсуровей Махне па вольніцы блазной.* На шляхах волі.

**ВОРАЖА** *прысл.* Варожа. *Стань, глянь на захад, паслухай: Чуеш ты шум патайны? Чуеш, як воража, глуха Сунецца ценем разруха — Постаць пажараў, вайны?* Вораг не дрэмле.

**Вóріжа** *прысл.* ‘варожа’ (Краснап. Бялькевіч).

**ВУЗКААСАБІСТЫ** *прым.* Які датычыцца толькі і непасрэдна адной асобы. *Усё апавяданне ад пачатку да канца падпарадкавана аднаму матыву — вузкаасабістаму пачуццю кахання.* Актуальныя праблемы.

**ВУЛІЧНІК** *м., зб.* Бадзягі, тулягі, беспрытульнікі. *А побач з імі* [*мітынгоўшчыкамі*] *тлумным шляхам, З куслі-*

*вым жарцікам, смяшком Паўзе зладзейскім ланцужком І вораг іх, і зброд усякі, І проста вулічнік, зявакі, Адным з'яднаныя душком.* На шляхах волі.

**ВУТОК** *м.* Ніткі, якія кладуцца ўпоперак (пры тканні). *Вобразн. Тчэш красёнцы ты* [*мароз*] *прыўдала; Лёд — аснова і вуток, Снег — і цэўкі і сукала, Іней-зоры — твой чаўнок.* Новая зямля.

**Вуто́к** *м.* 'уток' (Дзятл. Сцяшковіч, 1972); **уто́к** *м.* 'уток' (Чэрв. Шатэрнік).

**ВУХАР** *м.* Зух, хват, удалец. *У завітушках дым бялявы Нясе* [*мароз*]*, як воблак кучаравы, І потым з ім набок раванецца, Бы пісар-вухар расчаркнецца.* Новая зямля. *А то і песню, адпаведна Спатканню з краляю «сястрой», Зацягне вухар і герой..* На шляхах волі.

**Вухарэ́ц** *м.* 'зух' (Краснап. Бялькевіч). Параўн. руск. *ухарь* 'хват, удалец'.

**ВУЦЕХА** *ж.* Суцяшэнне. *А сонца так шчыра, так хораша грэе, Як бы ў вуцеху нам хоча сказаць, Што зімка ніколі жыцця не здалее, Што новай вясною лісты зашумяць!* На ростанні.

**Уцёха** *ж.* 'радасць, супакой' (Лід. СПЗБ); **уцёховацца** *незак.* 'мець уцеху' (ТС).

**ВУЧНЁЎКА** *ж.* Вучаніца. *Часамі пазірала яна* [*Ліда*] *на свайго настаўніка не так, як належыць вучнёўцы.* На ростанях. *Тады настаўнік лёгенька падсунуў руку пад чарнявую галаву свае капрызнае вучнёўкі, прыўзняў яе.* Там жа.

**ВЫВІХРОЎВАЦЦА** *незак.* Адпраўляцца куды-н.; вылятаць. *Вобразн. Як толькі ён* [*Вецер*] *вывіхроўваўся ў свет, пачынаў балбатаць Ручаёк, цяку́чы каля саменькага карэння дрэва.* Адзінокае дрэва.

**ВЫВІХРЫЦЦА** *зак.* Пакінуць хутка межы чаго-н. *Разгр989 ламілі* [*легіянеры*] *Мартынаву хату, павыбівалі вокны і вывіхрыліся на двор.* Дрыгва.

**ВЫГАЛАС** *м.* Працяглае, гучнае чытанне малітвы. *Тады а. Мікалай заводзіць новы выгалас, каб дзяк не заставаўся беспрацоўным.* На ростанях.

Параўн. руск. *выголос* 'тое ці іншае гучанне голасу'.

**ВЫДЫГАЦЦА, ВЫДЫГАЦЬ** *незак.* Дагаджаць каму-н., выказваць сваю адданасць. *Чаго ж так надта выдыгацца?*

*За што так падаць? так старацца? Затым, каб больш цябе ганяць?* Новая зямля. *Ён* [*Богут*] *перад ёю* [*жонкай*] *выдыгае, Як закаханы, малады.* Рыбакова хата.

**Выдыга́ць** *незак.* 'дагаджаць, наравіць каму-н.' (Стаўб. Жыв. сл., с. 105). Параўн. польск. *dygać* 'рабіць рэверансы'.

**ВЫЖЫГА** *м.* Прайдоха, прайдзісвет. *Вось пацан — Хуліган, Вулічны выжыга!* Рагатка.

**Выжи́га** *м.* 'прайдоха, махляр, ашуканец' (Даль).

**ВЫЛАДЗІЦЬ** *зак.* Сабраць у дарогу. *Мая мілая Маруся заклапочана маім выездам і думае, як выладзіць лепш у дарогу.* Кніга Ташкенцкага быцця.

**Вы́ладзіць, вы́ладзіцца** *зак.* 'сабраць, сабрацца ў дарогу' (Чэрв. Шатэрнік).

**ВЫПІРАЦЦА** *незак.* Высоўвацца. [*Міхал*:] — *А што ж тут вельмі выпірацца? І з-за чаго ўжо так старацца? Брашы ўсю ноч хоць, як сабака — Адна і ласка і падзяка.* Новая зямля.

**Выпіра́цьца** *незак.* 'высоўвацца' (Насовіч). Параўн. укр. *випиратися* 'з сілай прабівацца, выходзіць наперад'.

**ВЫПУСТКА** *ж.* Цяля, узростам каля двух год. *Чорная карова з адной загарадкі, цялушка-выпустка з другой і чырвоны конік уставіліся на гэтую цікавую дзею.* Малады дубок.

**Вы́пустак** *м.* 'цяля, жарабя, якому год ці другі год' (Гл. Янкоўскі, 1959); 'аднагадовае цяля' (Пух. СЦБ); 'цяля, якое ўпершыню ідзе са стадам у поле' (Чэрв. Шатэрнік); 'гадавалае цяля' (Лун. Шаталава).

**ВЫРАЗА** *ж.* Знешні выгляд, які адлюстроўвае ўнутраны стан чалавека. *Сярдзіты, чорны, як махнуша* [*дзядзька Антось*], *І нават нос той, дуля-груша, Відаць, таксама не ў гумору І задзярэцца больш угору; Малыя шэранькія вочкі Яшчэ больш звужваюць куточкі, Глядзяць з-пад броў зусім панура, І ўся выраза яго хмура.* Новая зямля.

**ВЫСАЛІЦЬ** *зак.* Нарыхтаваць у запас, пасыпаўшы соллю; засаліць. [*Мужык*:] *Не жыць ёй* [*пчале*] *на свеце. Махнуў я нажом І — шась ёй па горле і квіта!.. Дванаццаць кадушак пчаліным дабром Я высаліў — так была сыта.* Даняў.

Параўн. укр. *висолити* 'насыціць соллю'.

**ВЫСВЕНЦАЦЬ** *зак., перан.* Моцна адлупцаваць, набіць каго-н. *Фурман, узяўшы пугу, высвенцаў коні.* У бало-

це. [*Бабка Цынклета*:] — *Зняла б хвартух да высвенцала б паскамі, паказала б яму* [*Мікіту*] *і абраз і калгас!* Адшчапенец.

**Вы́свянціць** *зак., перан.* 'моцна набіць, адлупцаваць' (Гродз. Цыхун; Пух. СЦБ).

**ВЫСНОЎКА** *ж.* Вывад, заключэнне; выснова. *Іван, застаючыся сам з сабою, прыпамінаў гэты погляд, рабіў тыя ці іншыя высноўкі і стараўся пры гэтым не пакрыўдзіць сваю хлапцоўскасць.* Балаховец. [*Дзяжа*:] *Перш за ўсё: развага, Ацэнка абстаноўкі: Што добра, а што блага, Каб вывесці высноўкі.* На шляхах волі.

**ВЫСОЗНЫ** *прым.* Высачэзны. *Крайнім будынкам ад Нёмана супраць броду была старая карчма на высозным падмурку.* На ростанях.

**ВЫСПЕЎВАЦЬ** *незак.* Выводзіць голасам якую-н. мелодыю, песню; старанна спяваць. *А як перастагнаў* [*Іван*] *усё, то пачаў выспеўваць свае стогны на манер песні «Сонца ўсходзіць і заходзіць».* Выстагнаўся. *У той час, калі ўсё вакол кіпела і бурліла, бы ў тым катле, Драбок выспеўваў нейкі новы свой матыў, ходзячы каля паветкі.* Царскія грошы.

**ВЫТВОРСТВА** *н.* Вытворчасць. *Усе працэсы вытворства, пачынаючы ад ліцейнай і канчаючы зборачнай, адбываюцца на гэтай фабрыцы.* Савецкі гуманізм.

**ВЫФАСТРЫГАВАЦЬ** *зак.* Вельмі ўдала пашыць што-н. *А хто не верыць гэтаму, няхай праканаецца сам: адзін падрызнік Сцяпан непрыменна зашле ў сяло свайму нябожу, сястрэнічу Мікалаю. Аддасць краўцу, то такія выфастрыгуе нагавіцы або світку, што пярвейшая ў сяле красуня будзе млець па Мікалаю.* Старыя падрызнікі.

**ВЫХРЫСТКА** *ж.* Жанчына, якая перайшла ў хрысціянства з іншай веры. *Анцыпік прапусціў міма вушэй словы калегі і казаў далей: — Па-трэцяе, яна* [*Антаніна Міхайлаўна*] *— выхрыстка.* На ростанях.

Параўн. укр. *вихрест* 'той, хто перайшоў у хрысціянства з іншай веры'.

**ВЯЛІКАДНІК** *м.* Вялікдзень. *Ліхія людзі падабрэлі, Бо святам божым ўсюды вее; З нажом разбойнік не пасмее Залегчы ў лесе срэдзь дарогі, Бо і заможны і убогі Святы вялікаднік святкуюць..* Новая зямля.

**Вялі́кадня** *н.* ‘вялікдзень’ (Лоеў. Янкова; Глыб., Паст. СПЗБ); **вялі́каньня** *н.* ‘вялікдзень’ (Кір. Нар. сл., с. 66); **вялі́кадне, вялі́каньня** *н.* ‘вялікдзень’ (Касц., Крыч. Бялькевіч); **вялі́каньне** *н.* ‘вялікдзень’ (Чэрв. Шатэрнік).

**ВЯРОЗА** *ж.* Выдумка, вымысел, фантазія. *Ды так: зрабілі і пачатак — Тры соткі дадзены ў задатак!.. Няўжо то праўда, не вяроза? Няўжо канец табе, пагроза, І вечны ціск пад панскім ботам І страх знайсці канец пад плотам?* Новая зямля.

**Вярзьці́** *незак.* ‘вярзці, ілгаць’ (Бялькевіч).

**ВЯРХУШКА** *ж.* Верхняя частка дрэва; верхавіна. *Вярба хіснулася вярхушкай, І сук, нібы рука з пляча, Наніз шугнуў каля карча, Барыса ж нібы хто загушкаў..* На шляхах волі.

**Вярху́шка** *ж.* ‘верхавіна’ (Віц. Нар. сл., с. 213; Круп. СЦБ). Параўн. руск. *верхушка* ‘верхавіна’.

# Г

**ГАБЛЯВАЦЬ** *незак., перан.* Перамешваць ігральныя карты; тасаваць. *Не люблю я іграць, калі банк трымае Андрэй Нагнётка. Як пачне габляваць карты, як стане выкладаць іх! Проста як бы жылы выцягвае з цябе.* З днеўніка пана Жылака. *Урэшце Міхась Заноза не стрываў. «Што бы? — кажа ён, — каб «абразікі» («абразікамі» ў нас завуць карты), то пачалі б габляваць».* Там жа.

**ГАВАРКІ** *прым., перан.* 1. Які ўтварае пэўныя гукі. *Дрыжалі струны гаваркія, У агульны тон суладдзя гралі.* Новая зямля. *Лядок закохкае, угнецца І вось-вось зломіцца, здаецца, Але нястрашны і знаёмы Для хлопца гэтыя надломы, Палоскі-стрэлы гаваркія, І моцны скрэпы ледзяныя.* Там жа. 2. Які рэзаніруе на пэўныя гукі. *Спрабуе* [*дзядзька*] *кіпцем яе* [*касы*] *джала І спробу зробіць над абухам, Тады паверка йдзе ўжо вухам, Ці добра звоніць коска гэта, — У дзядзькі тут свая прымета, Ды я не ведаю, якая, — І дзядзька косцы загукае: «Ка-са!» і вуха прыкладае — Сакрэт знаў дзядзька ў гэтай штуцы: Каса павінна адгукнуцца; Калі ж каса не гаваркая, То дзядзька спосаб яшчэ мае.* Новая зямля.

**Гаваркі** *прым.* 'гаваркі' (Гродз. Сцяшковіч, 1972; Чэрв. Шатэрнік; Гл. Янкоўскі, 1959).

**ГАВЭНДА** *ж.* Гутарка, размова. [*Гэмбіцкі*:] *Аб чым жа, панове, мелі гавэнду, калі то не сэкрат?* У пушчах Палесся. *Прытаіўся Бэнда, Падбэндак унік — Марная гавэнда І дарэмны крык.* Памяці нябожчыкаў.

**Гавэ́нда** *ж.* 'размова, гутарка' (Воран. Сцяшковіч, 1972; Пух. МСММГ, 1974; Гродз. Цыхун); 'гаворка' (Бяроз. Шаталава); 'гутарка' (Навагр. Нар. словатв., с. 42); 'размова' (Ваўк., Верхнядзв., Воран., Глыб., Лід., Маст., Смарг., Шчуч. СПЗБ); 'пустая размова, гаворка' (Мёр. Нар. сл., с. 110); **гавэ́нды** *мн.* 'пустая размова' (Чэрв. Шатэрнік; Брэсц. ДСБ); **гаве́ндзіць** *незак.* 'размаўляць, траціць час у пустых размовах' (Мсцісл. Бялькевіч). Параўн. польск. *gawęda* 'размова, гутарка', *gawędzić* 'гутарыць'.

**ГАВЯДА** *ж.* Буйная рагатая жывёла. *Блеск гарачы сляпіць вочы, Душна ў лесе і ў палёх. За гавядай аж да ночы Зранку прышчыцца Цімох.* Пастушок. [*Дзед Талаш*:] *У яго бацькі я пасвіў гавяду, а сынок хоча, каб я на старасць папасвіў панскія вошы ў астрозе..* Дрыгва.

**Гавя́да** *ж.* 'буйная рагатая жывёла' (Слон. Сцяшковіч, 1972; Нясв. МСММГ, 1977); 'хатняя жывёла' (Чэрв. Шатэрнік); **гаві́да** *ж.* 'статак кароў, свіней' (Бял. Яўсееў); **гаўя́до** *н., зб.* 'каровы' (Старадарож. Нар. сл., с. 17).

**ГАВЯДЗІНА** *ж.* Ялавічына. *Даўно ўжо так не абедаў Пракоп, і лепшым доказам гэтага багатага абеду служылі засеўшыя ў зубах кавалачкі гавядзіны.* Адшчапенец.

Параўн. руск. *говядина* 'мяса каровы, быка як ежа'.

**ГАГОКАЦЬ** *незак.* Моцна крычаць, галёкаць. *Праходзячы вечарам каля хаты Андрэевых, яны* [*хлопцы*] *дзіка свісталі, гагокалі, адпускалі непрыстойныя жарты.* На прасторах жыцця.

**Гаго́каць** *незак.* 'крычаць — го-го!' (Гл. Янкоўскі, 1960).

**ГАДАЛЬНЫ** *прым.* Заснаваны на меркаваннях, здагадках; няпэўны, ненадзейны. [*Дзядзька Антось*:] *— Вядома, служба — рэч гадальна, А ў гэтым пекле і тым болей: Не пэўна жыць пад панскай воляй.* Новая зямля.

**Гада́нье** *н.* 'меркаванне', **гада́ць** *незак.* 'меркаваць' (ТС).

**ГАДЗІЦЬ** *незак.* Мірыць каго-н. з кім-н. *Ну, палаяліся крышку, І так будзе, дасць бог, дождж. Іх* [*жанчын*] *тут годзяць І разводзяць, А яны, Як бараны, Пашчапляліся і квіта, Толькі пыхкаюць сярдзіта.* За дождж.

**Гадзі́цца** *незак.* 'жыць у згодзе, мірыцца, ладзіць' (Астр. СПЗБ); **годзи́ць** 'мірыць два процілеглыя бакі' (Насовіч).

**ГАЁК** *м., перан.* Купка. *Сям-там на гэтым балоце пападаюцца астраўкі жорсткай асакі, гайкі высокіх мятлістых чаротаў.* На прасторах жыцця.

**Гай** *м.* 'лясок у пойме ракі, хмызняк' (Даль).

**ГАК**[1] *м.* 1. Неглыбокае пясчанае месца ў рацэ, якое ідзе ад берага. *Гнецца плыт дугою, Прэ яго да гаку, Быстраю вадою Ломіць, як вужаку. На мель узагнала. Крык, сярдзіты голас.* Плытнікі. 2. Участак зямлі, які клінам уразаецца ў што-н. *Тысячамі нявідных сцежачак наступаў агонь на балота; далёка чуўся пах гары, а лес і гакі засціляліся дымам.* На ўсё ёсць прычына. *На гаку жанкі пасталі. Тут, з высокіх берагоў, Цені на вадзе дрыжалі — Жэрдкі леташніх стагоў.* Прапаў чалавек.

**Гак** *м.* 'мелкае месца ў рэчцы, якое цягнецца ад берага вузкай і доўгай паласой' (Навагр. Нар. лекс., с. 152), 'выспа, пясчаны астравок' (Лід., Маст., Навагр. СПЗБ); 'каса; участак зямлі, які вострым клінам удаецца ў што-н.' (Стаўб. СЦБ); 'мель, непрыкметны астравок, небяспечнае месца для плытагонаў' (Гродз. Цыхун); 'пакаты пясчаны бераг ракі' (Карэл. З нар. слоўн., с. 87).

**ГАК**[2] *м.* Удар. *Весела застукала цяслярская сякера па звонкіх бярвеннях. Чэша дзед Баўтрук сякераю і думае, колькі ж гэта рублёў выбівае з бервяна кожны яе гак.* Царскія грошы.

**ГАК**[3] *выкл.* Усё скончана, канец. *Ідзі далей, не стой, не кісні На адным месцы, як гніляк. Па гнілі-бросні — раз і гак! Няхай маланкай думка блісне І мрок разгоніць той, што вісне Над галавой тваёй, юнак!* На шляхах волі.

**ГАЛА** *ж.* Вялікая прастора. *Адна палоска, Сонца коска, Каля пустэлі пралятала, Сустрэла хмарку на пуці. «Спыніся, промень, не ляці: Сагрэта ўжо зямная гала, Мяне ты промень асвяці!» Яна ад холаду дрыжала І нікла ў жудаснай муці.* Сымон-музыка.

**Га́ла** *ж.* ‘прастора між лясоў’ (Шчуч. Сцяшковіч, 1972); **га́ла** *н.* ‘чыстае месца; дзялянка высечанага лесу, сенажаць між лясоў, вялікая паляна сярод лесу’ (Светлагор. МСНДМ, с. 162); ‘шырокая балотная сенажаць між лясоў’, ‘вялікая прастора між лясоў’ (Гл. Янкоўскі, 1959); **гал** *м.* ‘прагаліна ў лесе’ (Краснап. Бялькевіч).

**ГАЛАВАЦЕНЬ, ГОЛАВАЦЕНЬ** *м.* Галавень (рыба). *У такой глыбіні Ёсць язі, акуні, Галаватні, плоткі. А кялбоў і яршоў І другіх малышоў Не злічыць на соткі.* Міхасёвы прыгоды. *Каля берагоў [рэчкі] трапляюцца цэлыя зараснікі розных лапухоў, вадзяной травы. А ў траве так і шворацца акуні, язі, голаватні.* На ростанях.

**Галава́ч** *м.* ‘галавень’ (Уздз. МСММГ, 1974; Астр. СПЗБ); **галаве́нь** *м.* ‘галавень’ (Раг. СПЗБ; Воран. Сцяшковіч, 1972).

**ГАЛАМОЎЗА** *м.* 1. Пра чалавека са стрыжанай галавой. *На сценах віселі партрэты польскіх генералаў. Між гэтых запраўскіх ваяк кідалася ў вочы духоўная асоба, партрэт біскупа, стрыжанага, брытага, з усімі біскупскімі атрыбутамі. Васіль, зірнуўшы на яго, падумаў сам сабе: «А чаго папаў сюды гэты галамоўза?»* Дрыгва. 2. *зневаж.* Нікчэмны чалавек. *Які ён [пан ляснічы] важны, панаваты, Выдатны, «мондры», зухаваты! Які ён гога! які дока! Як ён сябе нясе высока!.. І прад такім, вось, галамоўзай Не смей стаць роўна ты, а поўзай!* Новая зямля.

**Галамо́ўза** *ж.* ‘вялікая лысая галава’, *зневаж.* ‘чалавек з вялікай лысай галавой’ (Стаўб. Жыв. сл., с. 106); *зневаж.* ‘галава’ (Слон. Жыв. нар. сл., с. 125), *м.* і *ж.* ‘напаўраздзеты чалавек’ (Браг. З нар. слоўн., с. 155); ‘нікчэмны чалавек’ (Карэл. Сцяшковіч, 1972).

**ГАЛАС** *м.* 1. Моцны крык, шум. *І радасць Міхася забрала, Міхасева сэрца ўзыграла. Ён радасны справіў галас: — Сюды ідзі, тата! Грыбоў тут багата — Баравіковы калгас!* Міхасёвы прыгоды. *Лямантуе папа, на ўвесь свет гала́с, Кажа: «Бог на крыжы злодзеяў двух спас».* На міжнародныя тэмы. 2. *перан.* Вестка. *Плывуць дні, ночы ў хвалях часу, І восень сунецца пад тын, А пра Данілу ні галасу, Ніякіх чутак, ні навін.* Рыбакова хата.

**Гала́с** *м.* ‘крык, гамана’ (Маст. Сцяшковіч, 1972); ‘бязладны крык’ (Валож. СЦБ); **га́лас, гала́с** *м.* ‘крык, шум, бойка’ (Насовіч). Параўн. польск. *hałas* ‘шум, гоман, крык’.

**ГАЛАСАВАЦЦА** *незак.* Балацíравацца. *Заўтра пашлю, як водзіцца, тэлеграму, выкажу падзяку і згоду галасавацца, а там трэба падумаць, што сказаць сваім выбаршчыкам.* З пісьма.

**ГАЛАСЛІВА** *прысл.* Звонка, голасна. *І хлопчык стаў у дудку дзьмуць, Гамоніць дудка галасліва.* Рыбакова хата.

Параўн. польск. *hałaśliwy* ‘шумлівы, крыклівы’.

**ГАЛАТВА** *ж., зб.* Бедната, бедныя людзі. [*Адвакат*:] *Бальшавікі дасканала ведаюць натуру галатвы і апелююць да яе цёмных пачаткаў.* Дрыгва.

**Галата́** *ж.* ‘беднасць, бедната, галота’ (Чэрв. Шатэрнік); **гало́та** *ж.* ‘бядняк’ (Гарад. СПЗБ); **голо́тва** *ж., зб.* ‘бедната, бедныя людзі’ (Насовіч).

**ГАЛАЎНІК** *м.* Плытагон, які стаіць у пачатку плыта пры вясле і кіруе плытом. — *Закідай шырыгу! Прысам папхні ўліва! Варушыся! Мігам! Не спі ў шапку! Жыва! А заднік без толку Бусаком махае. Галаўнік Міколка Бэсціць яго, лае.* Плытнікі.

**Галаўні́к** *м.* ‘плытнік, які стаіць у пачатку плыта за апачынаю [вялікае вясло, устаноўленае на першай лаўцы плыта для кіравання ім] і кіруе плытом’ (Карэл. З нар. слоўн., с. 87); ‘галоўны плытнік, рулявы’ (Іўеў., Стаўб. СПЗБ); ‘плытагон, які кіраваў плытом, знаходзячыся ў галаве’ (Іўеў., Маст., Рэч. Нар. лекс., с. 149); **галаўні́чы** *м.* ‘плытнік, які стаіць пры першай апачыне’ (Гродз. Нар. сл., с. 252); ‘плытнік, які надае плытам кірунак’ (Гродз. Цыхун).

**ГАЛГАН** *м., лаянк.* Нягоднік. *Хлопца штурхнуў хтось рукою — «Руку, галган, пацалуй!»* Сымон-музыка. [*Богут*:] *Паклёп — і брудны, проша пана, — Узводзяць хлопы на мяне, І пашквіль нейкага галгана Наклеіў хтосьці на сцяне.* Рыбакова хата.

Параўн. польск. *gałgan* ‘нягоднік, гультай’.

**ГАЛГАТАЦЬ** *незак.* Булькаць. *А як рабіць тут не было чаго, сягды-тагды можна было чуць, як стукала саракоўка аб тоўстую мазолістую руку і як галгатала гарэлка, пе-*

*раліваючыся проста з бутэлькі ў мужыцкае горла.* Андрэй-выбаршчык.

**ГАЛДА** *ж.* 1. Крык, шум; цесната, таўкатня. *А ў Мікалаўшчыну вярнуцца — Ўжо лепей тут як-небудзь гнуцца, Бо там — галда, там шум, цяснота, І не бярэ ніяк ахвота Туды зноў ехаць будавацца, Дык трэба службы ўжо трымацца, Пакуль яшчэ трымацца можна, — Антось зазначыў асцярожна.* Новая зямля. *Шукае дзядзька наш, як бога, Ў людской галдзе гарадавога.* Там жа. 2. Гурт шумлівых людзей. *Начлежнікі ехалі шумна. Сярод іх было колькі дзецюкоў, а найболей усё былі дзеці, хлопцы-падшывальцы; былі тут і дзяўчаты. Уся гэта галда крычала, гаманіла.* На начлезе.

**Галда́** *ж.* ‘крык, гамана’ (Брэсц. ДСБ; Карэл. Сцяшковіч, 1972); **галдзе́й** *м.* ‘балбатун, крыкун’ (Бял. Яўсееў); **галдзе́ць** *незак.* ‘шумець, крычаць’ (Карэл. Нар. сл., с. 85); ‘крычаць, гаманіць’ (Верхнядзв., Віл., Докш. СПЗБ; Карэл. Сцяшковіч, 1972); **га́лда, го́лда, голда́** *ж.* ‘крык, шум, спрэчка, сварка’ (Даль).

**ГАЛІЦЦА** *незак.* Кваліцца на што-н. *Хочацца і колецца — Лёгка заняволіцца: Дзеўка — крапіва! Ходзяць хлопцы, галяцца, Думкі ж як наваляцца, Ходзіць галава.* Паслушная жонка. *Усе га́ляцца на зямлю: чыгуначнік, сяляне.* Хатка над балотцам.

**Га́ліцца** *незак.* ‘зайздросціць, квапіцца’ (Карэл. Сцяшковіч, 1972); ‘квапіцца, гнацца, зайздросціць’ (Бял. МСНДМ, с. 17); ‘быць ахвочым’ (Лоеў. Янкова); ‘імкнуцца да чаго-н., цягнуцца, выражаць гатоўнасць; любіць што-н.’ (Мсцісл. Юрчанка, 1966). Параўн. укр. *галитися* ‘квапіцца’.

**ГАЛТ** *м.* Глыток, зацяжка. *Тытун быў хвацкі, адмысловы, І не адзін курэц здаровы, Хваціўшы дыму галт знячэўку Як бы спірытусу кватэрку, І чхаў, і пырхаў з паўгадзіны..* Новая зямля.

**ГАЛЫТВА** *ж.* Беднасць, галеча. *О мой родны край! Поруч з галытвою ходзіць роскаш і багацце.* Думкі ў дарозе.

**Галата́** *ж.* ‘беднасць, галеча’ (Пух. СЦБ).

**ГАЛЯШКІ** *мн.* Ногі. [*Санітар да Дзяжы:*] *Вас кантузіла не цяжка — Цэлы рукі і галяшкі — Суха выйшамшы з бяды.* На шляхах волі.

**Галя́шка** *ж.* ‘галёнка, частка нагі ад калена да ступні’ (Гродз. Цыхун); **голя́шка** *ж.* ‘галёнка’ (Насовіч).

**ГАМЁЛКА** *ж.* Велікаваты кавалак (хлеба, сала і пад.) *Заціснуў дзед стрэльбу між ног, адрэзаў гамёлку хлеба і сала і сілкуецца.* Дрыгва.

**Гамёлка** *ж.*, **агамёлак** *м.* ‘вялікі бясформенны кусок хлеба або сыру, звычайна адламаны’ (Пол. Нар сл., с. 195); ‘луста, кавалак’ (Карэл. Сцяшковіч, 1972); **гамо́лка** *ж.* ‘самаробная соска з хлеба’ (Жытк., Нар. сл., с. 302). Параўн. польск. *gomółka* ‘камяк’.

**ГАМОНКІ** *прым.* Шумлівы, незмаўкальны. *Нават сярод птушак траплялiся такія, што не мелі вока на гэты шумлівы, заўжды парывісты і не ў меру гамонкі вадаспад.* Вадаспад.

**Гамо́нка** *ж.* ‘гутарка, размова’ (Чэрв. СЦБ).

**ГАРБАТА** *ж.* Чай. — *Ну, як там гарбата? — спытаў Баранкевіч жонку.* На ростанях. [*Уласюк*:] — *Я хутка прыстараюся чаю, ці гарбаты. Як лепей назваць па-беларуску: чай ці гарбата? — Як ні назавеш, — усё будзе добра абы смачна, — адказаў жартам Лабановіч.* Там жа.

**Гарба́та** *ж.* ‘чай’ (Ваўк. Сцяшковіч, 1972); ‘гарбата, чай’ (Мсцісл. Бялькевіч).

**ГАРЛІВА** *прысл.* Шчыра, старанна. *Вякамі доўгімі гарліва, Пад звон гнусавы стромкай вежы Ты* [*вёска*] *вартавала свае межы.* Калгаснае.

**Гарлі́ва** *прысл.* ‘гарліва’ (Карэл. Сцяшковіч, 1972); **горли́во** *прысл.* ‘шчыра, старанна’ (Насовіч). Параўн. польск. *gorliwy* ‘старанны, шчыры, руплівы, дбайны’.

**ГАРТОЛЬ** *м.* Кол, які выкарыстоўваецца для тармажэння плыта. *Ад крыку-лаянкі Аж дрыжыць паветра: На «барбару», Янка! — Гартоль бяры, Петра! — Закідай шырыгу! — Прысам папхні ўліва!* Плытнікі.

**Гарто́ль** *м.* ‘завостраны кол, які прывязваецца да канца гардзяля [канат з лазовых вітак, які выкарыстоўваецца для звязвання плыта] і ўжываецца для тармажэння плыта з берага’ (Карэл. З нар сл., с. 88); ‘завостраны кол, які ўбіваецца для надзейнай затрымкі плыта на месцы’ (Навагр. Нар. лекс., с. 152); ‘прыстасаванне для тармажэння

плыта', 'плытнік, які тармозіць плот' (Паст. СПЗБ); **гартво́ль** *м.* 'дубовы кол з суком, які выкідаюць на бераг для затрымкі плыта' (Гродз. Цыхун).

**ГАСАЦЬ** *незак.* Хутка рухацца ў розных напрамках, гойсаць. *Гасаў мядзведзь, гасаў, Насіў дзядка, насіў, Аж сам сябе кусаў, На ўвесь лес галасіў.* Дзед і мядзведзь.

**Гаса́ць** *незак.* 'бегаць, гойсаць' (Нясв. СПЗБ); **гаса́ты** *незак.* 'бегаць, гойсаць' (Драг. СПЗБ); **гаса́ть** *незак.* 'скакаць, насіцца на кані' (Даль). Параўн. польск. *hasać* 'бегаць, гарэзаваць'.

**ГАСПОДА** *ж.* 1. Хата гаспадара; чыстая палавіна хаты. *Помню добра, як цяпер, Веснавы дзянёк вясёлы; Нават помню, што ў чацвер У гасподу да Адама Зайшлі два гаспадары, Багацеі гэтаксама, Як і той Адам стары.* Батрак. *У Сымонкі баль ды годзе, Ён усеўся на калодзе, Ён у лесе бы ў гасподзе. А Настольнік — пласт імшысты.* Сымон-музыка. 2. *перан.* Гняздо. *Робяць круг буслы па-над месцам тым, Дзе стаяў дуб стары з іх гасподай.* Дуб. *На вяршаліне з даўняй той пары Збудаваў на ім* [*дубе*] *бусел гасподу.* Там жа.

**Гаспо́да** *ж., уст.* 'хата гаспадара, чужая хата' (Шчуч. СПЗБ); 'унутранасць панскага дома' (Насовіч); **гаспо́дка** *ж., памянш.* ад **гаспо́да** 'дом і жыллё гаспадара' (Маз. НЛГ). Параўн. польск. *gospoda* 'заезны дом, карчма'.

**ГАЎК** *м.* Гаўканне. *Адзін з іх* [*сабак*] *злаўчыўся і схапіў Мікалая ззаду за падрызнік. Падняўся страшны гаўк, крык.* Старыя падрызнікі.

**ГВЯЗДА** *ж.* Зорка на дзяржанні, зробленая з каляровай паперы, у якую ўстаўлялі свечку і хадзілі з калядой. *Хлопцы яшчэ за тыдзень да каляд пачынаюць рабіць гвязды.* Куцця.

**Гвя́зда** *ж.* 'зорка' (Астр. Сцяшковіч, 1972); 'звязда' (Стаўб. СЦБ); **гвя́зда, гвя́зды** *мн.* 'зоркі' (Астр., Ашм., Гродз., Смарг. СПЗБ); **гвяздурэ́** *мн.* 'калядныкі' (Гродз. Цыхун). Параўн. польск. *gwiazda* 'зорка'.

**ГІДАСНЫ** *прым.* Абрыдлівы, гідкі. *Ідзе* [*Дзяжа*] *ў зямлі паўздоўж дратоў, Калючых гідасных платоў, І гэта лёха грабавая На момант мыслі разбівае, — А як надзейны гэты схоў?* На шляхах волі. *Дзяжа, скрываўлены, абдзёрты, Паўзе, як вуж, цярэбіць дрот І выпаўз з гідасных варот.* Там жа.

**Гідкі** *прым.* 'агідны, брыдкі' (Кругл. МАСМ); **гіткі** *прым.* 'гадкі, агідны; такі, які выклікае гідлівасць, брыдкасць' (Бял. МСНДМ, с. 19); **гі́дкій, гі́длый** *прым.* 'гадлівы, грэблівы' (Бял. МСНДМ, с. 18); 'гідкі, агідны' (Краснап., Мсцісл. Бялькевіч); **гідзю́чы** *прым.* 'вельмі агідны' (Лоеў. Янкова); **гі́дка** *прысл.* 'млосна' (Іўеў. Сцяшковіч, 1972); **гі́даваць** *незак.* 'брыдзіцца, адчуваць агіду', 'грэбаваць' (Лоеў. Янкова); **гідава́цца** *незак.* 'грэбаваць; гадзіцца' (Жлоб. Жыв. сл., с. 114).

**ГІЖЭЦЬ** *незак.* 1. З крыкам бегаць у розных напрамках; кішэць. *Дзеці аж гіжаць на вуліцы, ганяюць авец, громка смяюцца.* Заход сонца. 2. Мітусліва рухацца ў розных напрамках. *Зірнуўшы на мурашнік, можна падумаць, што тысячы мурашак поўзаюць, бегаюць, круцяцца, гіжаць (кішаць) наверсе без усякага парадку.* Мурашкі і іх будова. *А рыба трапечацца ў кашы, аж гіжыць.* Дзяціныя годы.

**Гіжэ́ць, гвіжэ́ць, гніжэ́ць** *незак.* 'кішэць' (Ваўк., Гродз., Лід. СПЗБ); **гніжэ́ць** *незак.* 'звінець, гудзець', *перан.* 'гаманіць, крычаць' (Паст. СПЗБ); **гіжа́ць** *незак.* 'рухацца безупынку, круціцца' (Гродз. Цыхун); 'быць надта ўзбуджаным' (Карэл. Сцяшковіч, 1972); **гіжлі́вы** *прым.* 'рухавы, хуткі' (Шчуч. Сцяшковіч, 1983); **гіжу́шчы** *прым.* 'вёрткі, непаседлівы' (Шчуч. Сцяшковіч, 1983). Параўн. літ. *gnižéti* 'кішэць'.

**ГІСЭРНЯ** *ж.* Ліцейня. *Праходзіць* [*Лабановіч*] *і Альбрэхтова, дзе раскінуўся вялізны маёнтак пана Скірмунта, дзе працуюць яго сукнавальня, гісэрня, бровар і яшчэ нешта.* На ростанях.

**Гісэ́рня** *ж.* 'ліцейны завод' (Каспяровіч-БРС).

Параўн. польск. *gisernia уст.* 'ліцейны завод'.

**ГІТАЛ** *м.* Каўнер; карак. [*Дзядзька Антось:*] — *Прыпільнаваць бы дзе брыду, — За «гітал», падлу, ды ў ваду!* Новая зямля.

З яўр. 'шапка'.

**ГІЧАНЫ** *мн.* Страва, звараная з бурачнага лісця і сцяблоў. *Ці з вялікага страху, ці ад гічаноў, што бацька еў на вячэру, толькі ж у жываце ў яго як забурчыць!* Трывога.

**Гіча́н** *м.* ‘націна буракоў’ (Лях. МСНДМ, с. 122); **гіча́не, гіча́нне** *н.* ‘бурачнік’ (Стаўб. МСММГ, 1977); ‘бацвінне’ (Ганц., Лун. ДСБ); **гіча́нё, гіча́нне** *н.* ‘бурачнік’ (Дзятл., Навагр. Сцяшковіч, 1972); ‘сцяблы буракоў, бручкі, морквы’ (Стаўб. СЦБ); **гіча́нё** *н.* ‘бурачнік’ (Іўеў., Карэл., Лях., Навагр. СПЗБ); ‘націна буракоў’ (Стаўб. Жыв. сл., с. 106); **гічаве́не** *н.* ‘бурачнік’ (Шчуч. СПЗБ); **гіч** ‘націна’ (Гл. Янкоўскі, 1959); ‘бурачнік’ (Ганц. СПЗБ).

**ГЛАДЫШ** *м., зневаж.* Пра ненаеднага, ненасытнага чалавека. — *Павыскаляйся яшчэ, гадзе, — Антось яму* [*Уладзю*]: *— даль-бог, вярнуся, Расквасіць кірпу не збаюся!.. Ото «гладыш», абы напроці, Абы нажэрціся! К рабоце І на вяроўцы не зацягнеш.* Новая зямля. *Даніла зараз у канторы Сярод зялёных кунтушоў, Мардастых, прагных гладышоў І рознай панскае пражоры.* Рыбакова хата.

**Глады́ш** *м.* ‘збан’ (Смарг. Сцяшковіч, 1972); ‘збан без ручкі’ (Маладз. МСНДМ, с. 97); ‘гліняны збан з вушкам і без вушка’ (Чэрв. СЦБ).

**ГЛЕБАПАГЛЫБЛЯЛЬНІК** *м.* Прыстасаванне ў плузе для паглыблення ворнага слоя глебы. *Вырасцілі* [*вучоныя Акадэміі навук*] *на нашых глебах кок-сагыз, давялі магчымасць атрымліваць з нашай сыравіны сінтэтычны каўчук, штучную шэрсць і пластмасы, збудавалі балотныя плугі і глебапаглыблялльнікі, стварылі слоўнік на 80 тысяч слоў і шматтомную працу аб беларускай расліннасці.* Трыццаць савецкіх год.

**ГЛЫЗА** *ж.* Глыба лёду. *Моцна яе* [*рэчкі*] *грудзі Маразамі скуты, І аковы лёду Сярод рэчкі ўздуты. Ціснецца вадзіца, Не знаходзіць ходу І не мае сілы Скінуць глызы лёду.* На рэчцы зімою. *Была паводка гэта, значыць, Вада па лузе разлілася, А потым лёдам занялася, Мароз падскочыў ды прыціснуў, Вада і збегла, лёд павіснуў: Цяпер наніз ён ападае, А лёд таўшчэрны, важкасць мае, А паміж лёду і вадою Ўнізе пад мёрзлаю зямлёю Пустое места астаецца, І вось як глыза садрыгнецца, Яна і грукне, як з гарматы.* Новая зямля.

**Глы́за** *ж.* ‘ільдзіна’, **глы́жка** *ж.* ‘кавалак лёду’ (Карэл. Сцяшковіч, 1983); **глы́зка** *ж.* ‘кавалак засохлай зямлі’ (Смал. МСММГ, 1974); **глыж** *м.* ‘камяк’ (Верхнядзв.

СПЗБ); **глы́жа** *ж.* 'вялікая камлыга' (Мсцісл. Юрчанка, 1966); **глы́жка** *ж.* 'камяк' (Лоеў. Янкова); **глы́за, глы́жа** *ж.* 'глыба, мёрзлы камяк' (Даль).

**ГНЕЗДАВАННЕ** *н.* Месца з гнёздамі, дзе размнажаліся птушкі. *Прыляталі з выраю птушкі і не знаходзілі сваіх гнездаванняў.* Стары лес.

**ГНУСЬ, ГНЮСЬ** *ж.* 1. Пра каго-н. агіднага, ганебнага, варожага. *Ваюе немец з панскай Польшчай, А тут не Польшча — Беларусь, Ды ўжо не будзе плягі горшай, Як гэта панская ўся гнусь.* Рыбакова хата. *Прыгадай* [*папа Пій дванаццаты*] *Майданак, Польшчу, Беларусь, Землі, што стаптала гітлерава гнюсь.* На міжнародныя тэмы. 2. Пра шкодных, небяспечных для грамадства людзей. [*Паручнік Далін:*] *Даруйце, гаспада; Нас губіць слоўная вада! Мы наследуем штацкай гнюсі: У словах згінула Расія І мы — хіба не чудасія? Ніяк не можам без дыскусій!* На шляхах волі.

**Гнус** *м.*, **гню́сіна** *м.* і *ж.* 'скнара, жмінда, сквапны' (Мсцісл. Юрчанка, 1966); **гнюс** *м.* 'заедзь' (Гл. Янкоўскі, 1960); 'гразь, памёт' (Пух. СПЗБ); 'бруд', 'неахайны чалавек' (Чэрв. Шатэрнік); **гнюс** *м.*, **гнюса́** *ж.* 'брыда, няўклюда' (ТС); **гню́сны** *прым.* 'нячысты, гідкі' (Пух. СПЗБ).

**ГОВАР** *м.* Гаворка, размова. *Заскрыпелі калодзезі; бабы з каромысламі і вёдрамі ідуць па ваду. Чуцен іх борзды і моцны говар і смех.* Летняя раніца ў вёсцы.

**ГОГА** *м.* Фанабэрысты чалавек, задавака. *Затое ж пан той! паглядзеце: Хто з ім зраўняецца на свеце? Які ён важны, панаваты, Выдатны, «мондры», зухаваты! Які ён гога! які дока! Як ён сябе нясе высока!* Новая зямля. [*Голас:*] *Дык чхаць мне на тваю свабоду І рэвалюцыю тваю! Падумаеш — знайшліся камандзіры І гэтакія гогі — За месяц выраслі ў іх рогі — На затычкі для дзіры.* На шляхах волі.

**ГОЖСТВА** *н.* Гожасць, прыгажосць. *І сабрала неба фарбы Колераў дзівосных... І дзе ёсць такія скарбы Гожства, сугалосся?!* Усход сонца. *Эх, мароз, эх, дзед жартлівы! Ты — аматар і штукар Распісаць на шыбах дзівы, Гожства поўныя і чар.* Сымон-музыка.

**ГОЛАВАЦЕНЬ** *гл.* **ГАЛАВАЦЕНЬ**

**ГОЛАВЫ** *мн.* Верх калодачнага вулея, які закладваецца драўляным кругам. — *Што ж яны* [*пчолы*] *не лятуць? —*

*пытаў Сёмка з трывогай і злёгку стукнуў кулаком па вуллі, прыхінуўшыся, колькі дазваляла рэшата, да вулля. — Што за ліха? Дай, Марцін, сякеру, адчынім голавы.* Калодка пчол.

**Галава́** *ж.* 'верхняя частка калодачнага вулея' (Бар., Верхнядзв. СПЗБ; Раг. З нар. сл., с. 207); 'верхняя частка рамачнага вулея' (Лун. Шаталава).

**ГОЛАСЦЯБЛЯНЫ** *прым.* Які мае голае сцябло, без лісця. *Зялёнымі шлякамі цягнецца шыракалісны аер, і голасцябляны цыбаты сітняк звешваецца над смаліста-чорнаю гладдзю «чортавых акон», аздобленых круглымі вадзянымі лопухамі.* На прасторах жыцця.

**ГОЛЬКА** *ж.* Малая галінка. *Так лятталі [буслы] дзень, так кружылі два Ды на хвою паблізу прыселі. Пагадалі штось, а праз дзень давай Зносіцьголькі для новай пасцелі.* Дуб.

**Го́лька** *ж.* 'галінка' (Лоеў. Янкова; Рэч. Нар. сл., с. 159); **голя́ка** *ж.* 'галіна' (ТС); **гале́ка** *ж.* 'галіна' (Брэсц. ДСБ).

**ГОН[1]** *м.* 1. Круты паварот ракі, лука. *Дзяўча бязвольна, без панукі Уніз з ім [аўстрыякам] коціцца ў лукі, Пад сцяты спад крутых ганоў. І тут, за горкаю ў даліне, Знаходзяць сховішча яны.* На шляхах волі. 2. Рачная быстрая плынь. *І кожны міг каля чыгункі З'яўляліс новыя малюнкі: Слупы мільгалі верставыя.. Лясы, гаёчкі выніклі, І цэрквы вежамі блішчалі Ў жывых вянках бяроз і клёнаў, І пакручастых рэчак гоны, І мігацелі сёлы, двары..* Новая зямля. *А лёд, бы мур сцямна-зялёны, чуць пасярэдзіне падняты, Ляжыць цяжэрны і зацяты, Вартуе ходы ўсе і гоны, Каб і стрыжэньчык не прабіўся.* Новая зямля. 3. Моцны вадзяны струмень. *Находзіць хмара, пасмы сцеле.. І шугнуў дождж імклівым гонам, Як срэбра важкі, бы жывы, Пацёк на долы, паплавы.* На шляхах волі.

**ГОН[2]** *м.* Загон. *Богут касавокі Мае тры валокі.. Маёнтак Сымонаў не меў трох загонаў. Цяпер жа ў Сымона Ні двара, ні гона.* Рыбакова хата.

**Го́ны** *мн.* 'вялікі падоўжаны кавалак поля, гоні' (Гродз. Цыхун).

**ГРАБАСТАЦЬ** *незак.* Захопліваць сабе, грабіць. *Асаднік прагны і плюгавы! Ці ты гадаў, ці сніў ты ў сне, Што ўсе твае падвохі-справы Вядомы людзям, як і мне? Ты хо-*

*чаш панам жыць на свеце І ўсё грабастаць, падбіраць. А бедакоў куды падзеці?* Рыбакова хата.

Параўн. руск. *грабастать* 'хапаць, захопліваць'.

**ГРАБЕЖСТВА, ГРАБЕСТВА** *н.* Грабежніцтва. *Побач з грабежствам былі выпадкі забойства і гвалтоўніцтва.* Балаховец. *Сялянскае абурэнне расце. Яно можа выліцца ў дзікую форму грабежства і гвалту.* На ростанях. — *І робяць грабества, якое яны* [*бальшавікі*] *называюць рэквізіцыяй, — буркнуў Міхайла Іванавіч.* Пракурор.

**ГРАВЕЙКА** *ж.* Дарога, высыпаная гравіем. *Гравейка страшна разбіта.* На схіле дзён.

**Граве́йка** *ж.* 'дарога, высыпаная гравіем' (Капыл. Жыв. сл., с. 170; Дзярж. СЦБ); **граві́рка** *ж.* 'гравійная дарога' (Бял. Яўсееў); **граві́йка** *ж.* 'дарога з гравія' (Ваўк. Сцяшковіч, 1972).

**ГРАКАЦЬ** *незак.* Ствараць крык, падобны на гукі «грак-грак»; каркаць. *Дык вось чаму зязюлька кукуе толькі да Пятра, а варона гракае ўвесь год.* Варона і зязюлька.

**Гра́каць** *незак.* 'каркаць' (Чэрв. СЦБ).

**ГРАМОЗНЫ** *прым.* 1. Які займае многа месца; вялізны. *Пасярэдзіне пакоя стаяў грамозны дзябёлы стол.* Дрыгва. 2. Грузны, плячысты. *На кароткім тоўстым абрубку сядзіць грамозны шырокі чалавек з светлымі грознымі жорсткімі вусамі, з буйным рэзкім тварам.* Дрыгва.

**ГРАНАТЧЫК** *м.* Баец, які кідае гранаты. *Гэта гранатчыкі кінулі гранаты ў пярэднюю групу коннікаў.* Дрыгва. *Сышліся байцы-партызаны На голас свайго камандзіра. Прыйшоў сівізною ўбраны Ваяка з Палесся — Гамыра; Настаўнік і два аграномы, Ляснічы, бухгалтар з завода І добра ў атрадзе вядомы Гранатчык Ігнат Варывода.* Суд у лесе.

**ГРАНКУЛЬКА** *ж.* Буйная шраціна. *У дзеда Талаша, прызнацца, стрэльба і ёсць, і схавана яна якраз у лесе, схавана разам з баявымі прыпасамі: порахам, пістонамі, шротам, кулямі, гранкулькамі і ўсімі іншымі рэчамі.* Дрыгва. *Палажыў* [*дзед Талаш*] *штук шэсць гранкулек, і калі ўсё было гатова, тады насадзіў на брамку пістон і ўжо болей цвёрдымі і ўпэўненымі крокамі накіраваўся ў Макушы.* Там жа.

**Гранку́лі** *мн.* 'кулі для паляўнічай стрэльбы' (Воран. Сцяшковіч, 1972); **дранку́ля** *ж.* 'куля' (Краснап. Бялькe-

віч); **дранку́лька** *ж.* ‘кулька, глётка, буйны шрот’ (Чэрык. Бялькевіч). Параўн. польск. *grankulka* ‘буйная шраціна’.

**ГРАЦКОЎЕ** *н.* Сцяблы грэчкі. *І шэпчуць гаротна сцяблінкі* [*грэчкі*] *пустыя: «А дзе ж яны, дзе яны, лодары тыя?.. Калгаснікі скаргі грацкоўя не чуюць, Сядзяць на дарогах, стаяць — «галасуюць»!* Адсталы калгас.

**Грацко́ўе** *н.* ‘поле, дзе расла грэчка’ (Лях., Навагр., Чэрв. СПЗБ; Гл. Янкоўскі, 1960); ‘салома грэчкі’ (Гродз. Цыхун; Ваўк., Іўеў. Сцяшковіч, 1983; Віл. Шаталава; Уздз. МСММГ, 1974); ‘змалочаныя грэцкія сцяблы’, ‘поле, дзе расла грэчка’ (Чэрв. Шатэрнік); **грацко́ўя** *н.* ‘грэцкая салома’ (Бых. Жыв. нар. сл., с. 89); ‘поле, дзе расла грэчка’, ‘грэчневая салома’ (Віл. Жыв. сл., с. 93); **грацко́ўё** *н.* ‘поле, з якога сабралі грэчку’ (Стаўб. Нар. сл., с. 149; З нар. сл., с. 77); ‘грэчневая салома́’, ‘месца, дзе расла грэчка’ (Карэл. З нар. сл., с. 88).

**ГРОЗНАЛІЦЫ** *прым.* Які мае грозны выгляд. *Вобразн. Ідзе хмара. Бліскавіцы Палыхаюць і гараць. Сам пярун там грозналіцы Перайшоў зямлі граніцы І вядзе над ёю раць.* Сымон-музыка.

**ГРОЗНАПАВАБНЫ** *прым.* Які прыцягвае, вабіць сваім грозным выглядам. *Бліскучы дзень, таемнае грукатанне надземных абшараў — гоман-воклік грознапавабных хмар, што шырокаю сцяною засланялі неба і выбухалі купчастымі клубкамі бела-ружовых воблакаў...* На ростанях.

**ГРУДА** *ж.* Награмаджэнне чаго-н., вялікая колькасць. *Выплывае круг агністы З груды мутных хмар.* На ўсходзе сонца. *З-за лесу чуць-чуць выразаюцца чорныя хмары няроўнымі грудамі рознай формы, з яркімі, як абцягнутымі залатою тасемкаю, краямі.* Захад сонца.

**Груд** *м.* ‘куча’, *прысл.* ‘многа’ (Бял. Яўсееў); ‘груда, куча’ (Краснап., Мсцісл. Бялькевіч).

**ГРУДАВЫ** *прым.* Сухадольны. *Але ўжо за лозамі балотца канчаецца, пачынаецца тупкая лагчына, і расце на ёй грудава́я трава.* Хатка над балотцам.

**Грудо́вый** *прым.* ‘з высокага месца’ (Брэсц. ДСБ).

**ГРУЗКА** *прысл.* З вялікай сілай, напорыста. *А нарэшце, на закуску, Усіх злаяўшы па-руску, Выступае ён* [*генерал*] *з*

*прамовай. — Не даваць жа немцу спуску! Бі яго адважна, грузка — Немца біць для нас не нова.* На шляхах волі.

**ГРУЗКІ** *прым.* 1. Масіўны, цяжкі. *З іржавым скрогатам расчыніліся грузкія жалезныя вароты, як пасць астрога.* Дрыгва. 2. Тоўсты, непаваротлівы. *Конь пад ім* [*Гамырам*] *быў занадта грузкі і для верхавой язды не надаваўся.* На «святой зямлі». 3. Цяжка нагружаны. *Іван Меншы, як філосаф, Кінуў погляд быстры, На воз грузкі глянуў скоса — Лепшісці ў міністры.* Канец «Воза навукі». 4. *перан.* Цяжкі (пра крок, хаду). *Загрымелі нечакана, Загулі гарматы, Крышаць, ломяць фронт зацяты, Грузкі крок чаканяць.* На шляхах волі.

**ГРЫМАЦЬ** *незак.* Страляць. *Тады сірату Сцяпана, Казака рэестравога, Атамана маладога, Туркі-янычары лавілі, З гарматы грымалі, У кайданы кавалі, У Цараградскую вежу саджалі, У цяжкую работу аддавалі.* Сляпы.

**ГРЭБАЦЬ** *незак.* Грэбаваць. [*Богут:*] — *Фатыгі, васпан, тут не трэба, А толькі вушы, вочы мець, Ніякім подслухам не грэбаць, А часам дзе і падглядзець.* Рыбакова хата. *А пан і кажа: «Грошы трэба. Вазьмі па злоты два з душы. Ніякім спосабам не грэбай, А мне даходы прыпішы».* Там жа.

**ГРЭБЕНЬ** *м.* Хіб. *Калман абыходзіць каня. Напрактыкаваным вокам акідае ўсю яго постаць. Потым бярэ за грэбень, прабуе зрушыць каня з месца.* На «святой зямлі».

**Грэ́бень** *м.* ‘карак у каня’ (Свісл. Шаталава).

**ГУБА** *ж.* Рот. — *Га, Пятрусь, і ты тут? — сустрэў Петруся Карусь Акалот. Вочы яго былі ўжо, як у салавейчыка, а з губы нясло, як з бочкі.* Кірмаш.

**Гу́ба** *ж.* ‘рот’ (Лаг. МСММГ; Брасл., Воран., Іўеў., Паст., Шчуч. СПЗБ; Мядз. Нар. словатв., с. 8).

**ГУБІЦА** *ж.* Мера асновы, палатна даўжынёй на хатнюю сцяну. *Ён* [*Грыгарэц*] *быў тоўсты, крэпкі і меў выгляд навоя, на які толькі што навілі кросны ў дванаццаць губіц.* На ростанях.

**Гу́біца, гі́біца** *ж.* ‘адзінка вымярэння даўжыні асновы і палатна’ (Бар.,Ваўк., Дзятл., Карэл., Лід., Лях., Маст., Свісл., Шчуч. СПЗБ); **гу́біца** *ж.* ‘мера даўжыні кужалю ад сцяны да сцяны хаты, губка’, ‘старая мера палатна’ (Гродз.

Цыхун); 'мера даўжыні асновы і палатна' (Карэл. Нар. словатв., с. 50); **гу́біца** *ж.* 'мера асновы, палатна даўжынёй на хатнюю сцяну' (Карэл. Шаталава); 'мера палатна' (Навагр. Сцяшковіч, 1972); 'мера палатна ў даўжыню (4—5 метраў)' (Стаўб. МСММГ, 1970).

**ГУГАЧКА** *ж.* Булавешачка (пра праваднікoвы ізалятар). *Далёка беглі ўздоўж дарогі высокія тэлеграфныя слупы з белымі гугачкамі і роўна нацягнутым дротам.* На ростанях. *І дзень і ноч выігрывае на іх* [*слупах*] *вецер свае песні, песні прастораў зямлі, і мудрая людская мысль лётае па іх лёгкакрылаю птушкаю, а гэтыя белыя гугачкі на слупах выглядаюць здалёк беленькімі галубкамі.* На прасторах жыцця.

**ГУГНІВЫ** *прым.* Які мае непрыемнае насавое адценне; гугнявы. *Нос ці, праўдзівей, бязноссе робіць твар жанчыны страшэнна брыдкім, пачварным, а голас гугнівым.* На ростанях.

**Гугні́вы** *прым.* 'гугнявы' (Лаг. МСММГ, 1977; Чэрв. СЦБ).

**ГУГНІЦЬ** *незак.* Гаварыць або спяваць у нос; гугнявіць. — *Даўно вы тут жывеце? — пытае* [*Лабановіч*] *Ганну. — Другі год, панычку, — гугніць тая.* На ростанях. *Варушыцца Ганна, ціхенька супакойвае дзіцянё і штосьці ласкава-ласкава гугніць свайму маленькаму сыну.* Там жа.

**Гугні́ць** *незак.* 'гаварыць у нос' (Верхнядзв. СПЗБ); **гугня́ць** *незак.* 'гаварыць у нос, нячыста, гнусава' (Чэрв. Шатэрнік). Параўн. укр. *гугнити* 'гаварыць, спяваць неразборліва, у нос'.

**ГУГУХКАЦЬ** *незак.* Грукаць. *А там, з-за смужна-сіняй дужкі, Што павіваецца істужкай, Грыміць пярэклічка гармат. Паветра поўняць тыя гукі, Дрыжыць надзем'е і зямля, І дрэвы ходзяць да камля, Як бы ад болю ці ад мукі, І стогнуць сцішаныя лукі, І нібы вохкае ралля, І так усе дні і ўсе ночы Грыміць-гугухкае дзесь гром, Віхруе віхрам-перуном.* На шляхах волі.

**ГУДА** *ж.* 1. Гудзенне. *Алесь грыміць скаварадою І пацяшаецца гудою, На ёй вызвоньвае ён штучкі, Але напільнік выпаў з ручкі, Зляцеў у снег — і будзь здароў...* Новая зямля. 2. *перан.* Размова. *Дзе без хітрыкаў, праўдзіва Колас гутарку вядзе, І дзе дуб стары гудзе Не лісліва і фальшыва, А сваёй старой гудою, Як і век ён гаварыў..* На прастор!

**Гу́дзіць** *незак.* ‘судзіць, абгаворваць’ (Старадарож. Нар. сл., с. 17).

**ГУЖАВЫ** *прым.* Жылаваты, цвёрды. *Зняў* [*дзед Талаш*] *з-за плячэй стрэльбу, паляўнічую торбу, куды бабка Наста рупліваю рукою палажыла паўбахана хлеба і кавалак гужавога сала.* Дрыгва.

**Гужо́вый** *прым.* ‘жылаваты, цвёрды’ (Мсцісл. 3 нар. сл., с. 124); **гужо́вы** *прым.* ‘жылаваты, цвёрды’ (Ашм. Сцяшковіч, 1983); **гужо́ву** *прым.* ‘вязкі, цягучы’ (ТС).

**ГУКАЦЬ** *незак.* Крычаць, вухкаць. *Не маўчы ж ты, сава, Ў цёмным лесе гукай, Ведай, ночка — не год, Заварушыцца гай...* Толькі стогне зямля...

**Гука́ць** *незак.* ‘клікаць, зваць’ (Ганц., Стол. ДСБ); ‘размаўляць’ (Гом. НЛГ; Мсцісл., Чэрык. Бялькевіч); ‘клікаць; запрашаць’ (Мсцісл. Юрчанка, 1966); ‘моцна клікаць, зваць’ (Бял. МСНДМ, с. 19); ‘гаварыць, успамінаць’ (Мядз. СЦБ); ‘буркаваць, пераклікацца (пра галубоў)’ (Віл. СЦБ).

**ГУЛА** *ж.* 1. Фіга. *Ну, трасцу дам табе* [*Уладзю*] *цукерку! Гулу падсуну ў табакерку! — Бубніць Антось ужо з сабою, Ідучы скораю хадою.* Новая зямля. 2. Насмешка, глупства. [*Янка:*] *Ты, Абрам, не выпіў часам? Не сасніў таго сядла? [Абрам:] Ой, на жарты Янка ласы! І нашто гэта гула?* Як Янка забагацеў. *І прыкра быць ужо ў тылу Ды на вайну глядзець здалёку, У франтавых навідавоку, І слухаць кпіны іх, гулу.* На шляхах волі.

**Гула́** *ж.* ‘фіга’ (Карэл. Сцяшковіч, 1972); ‘глупства, лухта’ (Насовіч).

**ГУЛЬТАЕЖЛІВА** *прысл.* Лянíва. *Вобразн. Маладыя хвойкі рэзка выдзяляліся сваімі зялёнымі вярхамі на снежным полі і гультаежліва падымалі і апускалі свае непаваротлівыя лапы, усё роўна як за каўняром іх нешта кусала.* Тоўстае палена.

**ГУМАЛЯСТЫКА** *ж.* Гума, рызіна. *Разам з гэтымі прыпасамі ляжаў мячык і чалавек з гумалястыкі, у якога трэба было толькі дзьмухануць, каб ён загукаў, як жывы.* «Дзеравеншчына».

**Гумаля́ст** *м.* ‘рызіна’, **гумалясто́вы** ‘рызінавы’ (Беш. Каспяровіч); **гумаля́стка** *ж.* ‘рызінка, якая выкарыстоў-

ваецца ў адзенні' (Уздз. МСММГ, 1974). Параўн. польск. *gumelastyka* 'рызіна'.

**ГУМНІШЧА** *н.* Месца за гумнамі, загуменне. *Падпільнаваў раз Іван Аўдолю адну, недалёка ад гумнішчаў.* Балаховец.

**Гумні́шча** *н.* 'месца каля гумна' (Лоеў. Янкова); **гумні́шча, гумні́ска** *н.* 'месца каля гумна' (Воран., Іўеў. Сцяшковіч, 1972).

**ГУРКОМ: ВЫВЯЗАЦЬ ГУРКОМ.** Зрабіць, вывязаць на пузе вузел (вузлы) у выглядзе васьмёркі. *Ён* [*Сымон*] *праслухаў навучанку, Як быць добрым пастухом, Справіў пугу-павіванку, Вузлы вывязаў гурком І пагнаў авечкі ў поле На папары і на ролі.* Сымон-музыка.

**Гурки́** *мн.* 'тоўстыя бернардынскія шнуркі, якія выкарыстоўваюцца замест пояса, з вузламі на канцах' (Насовіч).

**ГУРТОВЫ** *прым.* 1. Агульны, сумесны. *Аўгіня не захацела аставаціа на Васілёвай гаспадарцы, аддала «грамадзе» ўсю маёмасць і падала заяву, каб і яе прынялі ў «гуртовую» гаспадарку.* Дрыгва. [*Чыкілевіч:*] — *Ну, чым жа кепска будзе ў калгасе? Ты ж пасудзі сам: грамада, гуртовая праца, прастор. Ні табе гэтых межаў, ні вузкіх загонаў.* Адшчапенец. *Прыходзіць* [*Пятрусь Ігнатовіч*] *у камеру. Нічога не гаворыць. Стаў каля скрыначкі з махоркаю (тытунь у нас быў гуртовы) і робіць папяроску.* Стары канакрад. 2. Які даглядае, пасе статак, гурт. *Гэты дзед — пастух гуртовы, Слаўны дзед, дзядок — душа, Гаваркі, мастак на словы.* Сымон-музыка.

**Гурто́вы** *прым.* 'калектыўны, грамадскі' (Карэл. Сцяшковіч, 1972).

**ГУХКАЦЬ** *незак.* Падаць з моцным стукам, грукатам. *Потым раптам шум панёсся, Заскрыпела штось там: «крра!» Бы пад стукам тапара Волат-дуб стары затросся І павольна з шумам-гукам Стаў хіліцца ён галлём І, за сук чапіўшы сукам, Вобзем гухкае камлём.* Сымон-музыка.

**ГУХНУЦЬ** *зак.* Грымнуць. *Гухнуў выбух за рачулкай Агнявым фантанам, Далі ўзбуджаным вулканам Застагналі гулка.* На шляхах волі.

**ГУЧНАБЕЖНЫ** *прым.* Які разносіцца, раздаецца гучна, хутка. *Ці коска зазвоніць у час касавіцы, Ці песню дзяўчо запяе, Ці неба заззяе ў агнях бліскавіцы, Ці вецер задзьме-*

*зазлуе, Ці гром гучнабежны пракоціцца ў хмарах, Ці грукне над лесам пярун, — Усё адклікаецца ў вольных абшарах, Усё іх дакранаецца струн.* Водгулле.

**ГУЧОК** *м.* Маладая галінка, атожылак, парастак. — *Ды мы худобу пракормім, — падвясельваў бацьку Панас, — сена дастанем, насячом гучкоў, веццяя, галін — не падохне жывёла.* Дрыгва. [*Панас:*] — *Хаджу на балота гучкі і веццe рэзаць, худобу карміць.* Там жа.

**Гук** *м.* ‘невялікая галінка’ (Чэрв. Шатэрнік).

**ГУШКІ** *мн.* Гайданне, гушканне. *Вобразн. Тыя ж ластаўкі-вяртушкі У надводнай цішыні Не нацешацца з гульні Ды такія ладзяць гушкі, Весялушкі, Шчабятушкі, Што ніякі акрабат Не патрапіць ім у лад.* Міхасёвы прыгоды. *Ўгары над хвойнікам зялёным Снуюцца пчолкі з ціхім звонам, Кузуркі розныя і мушкі Свае спраўляюць гулі-гушкі І так танюсенька гудуць, Што ледзьве-ледзьве можна ўчуць.* Новая зямля.

**ГУШЧАЙ-ГУШЧА** *прысл.* Вельмі многа. *Грыбоў улетку тут цьма-цьмушча, Народ сюды йдзе — гушчай-гушча.* Новая зямля.

**ГУШЧАРА** *ж.* Пра скопішча чаго-н.; мноства. *З свайго ж грудка ў засушлівыя дні Гляджу ў акно гэта на хмары І пападаю пад іх чары: Вачэй не зводжу з іх гушчары, Дзе гром грыміць і ўспыхваюць агні.* Вусцянскі груд.

**ГУШЧАРНЯК** *м.*, **ГУШЧЭРА** *ж.* Густы зараснік, гушчар. *Ён* [*Сымон*] *гадае так і гэтак Ды глядзіць у гушчарняк, Як ваўчок, як той аблетак, ды не вырвацца ніяк.* Сымон-музыка. *Ратаваліся людзі, як хто мог і ўмеў, выбіралі найбольш глухія мясціны. Адны падаліся пад Парню, другія атабарыліся на маладаступных закутках каля рэчкі, а хто зашыўся ў гушчэру каля Брамскага балота.* Між дзвюх рэчак.

**Гушчэ́р** *м.* ‘гушчыня, густы лес, зараснік’ (Пух. МСММГ, 1970).

**ГЭРАД** *м., лаянк.* Мучыцель, кат. *Прычхала дадому, Засопшыся, цешча, На зяця старому І верне і плешча: — Такі ж ён паганы, Такі ўжо зацяты, Тыран над тыранам, Ён — гэрад праклятьі!* Зяць. — *І усе вы такія гэрады, тыраны! — з нейкаю нянавісцю прамовіла яна* [*Ядвіся*]. На ростанях.

Параўн. польск. *Herod* ‘імя цара Іудзеі, які ў евангеллі паказаны вельмі жорсткім’.

# Д

**ДАБРЫЦЦА** *незак., безас.* (з адмоўем *не*). Нездаровіцца. *Мне сёння не зусім добрыцца.* Кніга Ташкенцкага быція.

**До́брыцца** *незак.* ‘паддобрывацца’ (Воран. СПЗБ); **дабры́цца** *безас., незак.* ‘добра сябе адчуваць’ (Іўеў. Сцяшковіч, 1983).

**ДАМОЎКА** *ж.* Труна, дамавіна. *Аддаць яго* [*Іванку*] *трэба магіле, Дамоўку яму збудаваць... І посцілкай белай прыкрылі, а потым панеслі хаваць.* Адплата.

**Дамо́ўка** *ж.* ‘труна’ (Гарад. Каспяровіч).

**ДАНІЕЛЬ** *м.* Адзін з відаў аленя, лань. *Цяпер жа ёсць тут толькі сарна Ды даніель, казёл адзіны, А рогі тыя, як галіны.* Новая зямля.

**ДАРЭКТАР** *м.* Вандроўны настаўнік, звычайна падлетак, які скончыў пачатковую школу і вучыў вясковых дзяцей грамаце. — *Ну, ты, Костусь, чытаць любіш?* — *Дарэктар Костуся пытае, Абы хоць гутарка якая.* Новая зямля.

**Дарэ́ктар** *м.* ‘дамашні настаўнік’ (Сен. Каспяровіч).

**ДАРЭШЦІЦЬ** *зак.* Канчаткова, поўнасцю знішчыць. *Няхай дзяўчына або юнак, якія сядуць за руль беларускага грузавіка з велічным зубрам на капоце або беларускага трактара, які мае дарэшціць цераспалосіцу ў заходніх абласцях рэспублікі, няхай падумаюць нашы харошыя, маладыя савецкія людзі аб тым, што яны, дзеці і выхаванцы Кастрычніка, толькі за трыццаць гадоў прыйшлі сапраўды ў залаты век.* Трыццаць савецкіх год.

**Дарэ́сціць** *зак.* ‘дакончыць’ (Стаўб. Нар сл., с. 85); ‘разбурыць, разбіць дашчэнту’ (Зэльв. Жыв. сл., с. 141).

**ДАТЫКАЦЬ** *незак.* Датычыцца. *Бярэ Міхал свае прылады, Якія стрэльбы датыкаюць.* Новая зямля.

**Датыка́цца** *незак.* ‘датыкацца’ (Чэрв. Шатэрнік).

**ДАЎЖНІК** *м.* Драўляны брус, якім закладваецца прасечаная па даўжыні вулля адтуліна. *Даўжнік абвязалі белаю завязкаю, а ў вочка ўваткнулі пучок кулявой саломы, каб праходзіў дух і каб не вылятаді пчолы.* Калодка пчол.

**Даўжні́к** *м.* ‘дошка, якая закрывае бакавы ўваход у калодачным вуллі’ (Віл., Глыб., Іўеў., Калінк. СПЗБ; Іўеў.

3 нар. сл., с. 208); **даўжэ́нь** *м.* ‘дошчачка, якой закладваюць паз у вуллі’ (Маз. НЛГ); ‘вузкая прадаўгаватая дошчачка, якой закрываюць адтуліну ў калодачным вулеі’ (Стаўб. СЦБ).

**ДБАЦЬ** *незак.* Працаваць, прыкладаць свае сілы, намаганні. *Колькі ж трэба было працы, Каб тут вырасла гара? Хто дбаў князю на палацы? Хто назнёс яму дабра?* Сымон-музыка.

**Дбаць** *незак.* ‘звяртаць увагу, клапаціцца’ (ТС); ‘клапаціцца, турбавацца’ (Воран., Іўеў., Смарг., Шчуч. СПЗБ); ‘клапаціцца’ (Карэл. Сцяшковіч, 1972; Лоеў. Янкова); ‘дбаць, рупіцца’ (Мсцісл. Бялькевіч); ‘клапаціцца, старацца, завіхацца’ (Пух., Чэрв. Шатэрнік). Параўн. польск. *dbać* ‘клапаціцца аб чым-н.’.

**ДЖЫГІНАЛЁВЫ** *прым.* Зроблены з дыяганалю, дыяганалевы. *..толькі ж яна* [*свіння*] *палічыла лішнім сыходзіць набок і шарганулася бокам аб сінія джыгіналёвыя штанцы Спірыдона.* Так і трэба ашуканцу.

**ДЖЫНДЖЫК** *м., лаянк.* Нячысцік. *Міхал затрос тут галавою: — Ой, дасца гэта служба ў знакі! На карк уссядзе д’ябал ўсякі. Хіба ён літасць, сэрца мае? Ўжо двух у службу запрагае: Адзін на рыбу — той у адборку... Няма на іх, вужак, паморку, Вось на такіх чартоў лазатых, На гэтых джынджыкаў праклятых!* Новая зямля.

**Джы́нджык** *м.* ‘ветрагон, шалахвост’ (Пух. Шатэрнік).

**ДЗЕБРА** *ж.* Прастора, паросшая густым лесам; нетры. *Звініць прастор зямлі, як срэбра, І абуджаюцца ад сну Палі, лугі, лясная дзебра, У песню зліўшыся адну.* Рыбакова хата.

**Дзе́бра** *ж.* ‘забалочаная мясцовасць, зараснікі’ (Клім. МАСМ); **дзе́бря** *ж.* ‘непраходныя зараснікі’ (Мсцісл. З нар. слоўн., с. 124). Параўн. руск. *дебри* ‘месца, заросшае густым, непраходным лесам’.

**ДЗЫНДРА** *ж., лаянк.* У адносінах да жанчыны. *Не пускаюць* [*Аўгеня і Тарэся*] *З рук суседскіх валасоў, Толькі зрэдку прагукаюць, Калі трапна адшукаюць Забіяцкіх пару слоў. — Сунастка! — Капач! — Мешалка! — Квач! — Заткала! — Брында! — Задрыпа! — Дзындра! — Ну, пусці! — Сама пусці!* За дождж.

**Дзы́ндра** *ж.* ‘шлак’ (Ваўк., Карэл. СПЗБ; **дзындра́** *ж.* ‘акаліна на жалезе’ (Нясв. Нар. словатв., с. 225).

**ДЗЮРА** *ж.* 1. Дзірка. *Прадраў Дзяжу мароз па скуры, Застыў ні мёртвы ні жывы, І шапка злазіць з галавы — Чаруюць яміны, дзве дзюры, Бы вочы смерці з-пад пячуры, Нажамі рэжа смех крывы.* На шляхах волі. 2. Пра глухое месца, населены пункт. *А калі і пані Даміцэля азірнулася назад, то ён* [*пан Зыгмусь*] *толькі сказаў: — Дзюра, пся крэў! І рушыў у дарогу, ужо не аглядаючыся.* Хатка над балотцам.

**Дзюра́** *ж.* ‘дзіра’ (Мсцісл. Бялькевіч); ‘адтуліна, шчыліна’ (Брасл., Віл., Воран., Гродз., Паст., Пруж., Смарг., Шчуч. СПЗБ); ‘дзіра’ (Воран. Сцяшковіч, 1972; Гродз. Цыхун). Параўн. польск. *dziura* ‘дзірка’, *перан.* ‘закутак’.

**ДЗЯННЫ, ДНЕЎНЫ** *прым.* 1. Які мае адносіны да дня; дзённы. *У небе хмарачкі дзянныя Плылі, як гускі маладыя.* Новая зямля. *Патух яго яркі днеўны бляск, і само яно* [*сонца*] *зрабілася чырвонае, круглае, вялікае.* Захад сонца. 2. Які прызначаны на адзін дзень. *Каля дзвярэй пры сцяне стаялі збітыя з дошак паліцы, дзе ляжаў хлеб, арыштанцкія дзянныя пайкі, лыжкі і іншы скарб.* Цені мінулага.

**Дне́ўны** *прым.* ‘які злічваецца днямі’ (Лоеў. Янкова); **дзянны́** *прым.* ‘дзённы’ (Раг. НЛГ); **дзяня́шні** *прым.* ‘дзённы (пра малако, надоенае пасярэдзіне дня)’ (Люб. Нар. словатв., с. 114; Чэрв. Нар. лекс., с. 62); **дзе́нешні, дзяня́шні** *прым.* ‘дзённы’ (ТС).

**ДОКА** *м.* Умелец, знаток якой-н. справы. *Затое ж дзядзька хват і дока, набіў на косах сваё вока.* Новая зямля. *Нашы дзеці сёння — самі камандзіры, Лётчыкі-героі, Докі-інжынеры.* Восенскае.

**До́ка** *м.* і *ж.* ‘умелец, майстар’ (Чэрв. Шатэрнік).

**ДОЛ** *м., перан.* Нябесная прастора. *Гляджу, што дзеецца ў блакітным доле, І бачу — хмара ціснецца на бор.* У летні адпачынак. *У бязмежным сінім доле Віснуць хмаркі, бы пушынкі.* Сымон-музыка.

**Дол** *м.* ‘ніз’ (Чэрв. Шатэрнік).

**ДОЛУ** *прысл.* Уніз, наніз. *Тайна ліліся* [*слёзы людскія*], *адкрыта ліліся, Падалі долу гарачым дажджом.* Людскія слёзы.

**До́лу** *прысл.* 'на зямлі, на падлозе' (Маладз. СЦБ); **до́ле** *прысл.* 'унізе, на падлозе' (Бых. МАСМ); 'на зямлі' (Валож. МСММГ, 1970); 'на падлозе, на зямлі' (Гл. Янкоўскі, 1959).

**ДОСВЕД** *м.* Дасведчанасць. [*Стары год да Новага*:] — *Перабыў свой час і — квіта, Ды я досвед маю, І ў апошні раз пабыту Слухай, што параю: Калі хочаш, ягамосцю, Ў памяці застацца, Ўежся людзям добра ў косці, Хоць злым будзеш звацца...* Пад Новы год.

**ДОСВІТ** *м.* Час перад світаннем; досвітак. *Вярнуўся Сцёпка з паходу на досвіце, ціхенька адчыніў адрынку, дзе спалі двое меншых яго братоў..* На прасторах жыцця. *Раніцою на досвіце прачнуліся, паглядзелі — ніводнай машыны, ніводнай душы.* З пісьма.

**До́світак** *м.* 'світанне' (Лід. Сцяшковіч, 1972); **до́светок** *м.* 'досвітак' (ТС); **до́светки** *мн.* 'час перад паяўленнем ранішняй зоркі' (Насовіч); **до́сьветак** *м.*, **дасьве́цьце** *н.* 'час ад паўночы да ўсходу сонца' (Чэрв. Шатэрнік).

**ДОСВІТА, ДОСВІТУ** *прысл.* Перад світаннем; досвіткам. *Досвіта другога дня Андрэй ужо кешкаўся ў хляве.* Малады дубок. *За дзень перад куццёю ляснік Тарас яшчэ досвіту ехаў гасцінцам у горад Н.* Калядны вечар.

**До́света** *прысл.* 'да світання' (ТС; Насовіч); **до́сьвіта** *прысл.* 'досвіта, рана, да світання' (Мсцісл., Хоц. Бялькевіч).

**ДРАБНІЦА** *ж.* Драбяза; малыя жывыя істоты. *За ім* [*ласём*] *шоў воўк, зайцы, куніцы І многа ўсякае драбніцы: Барсук, каза, лісы, вавёркі..* Новая зямля.

**Дробі́зна** *ж.* 'дробная хатняя жывёла' (Насовіч); **драбната́** *ж.* 'малыя дзеці' (Чэрв. Шатэрнік).

**ДРАБЫ** *толькі мн.* Косці. *Прыйшоў дзед дахаты, Ціхі, вінаваты. І спытала бабка: «А дзе твая шапка? Як табе не брыдка — Разарвана світка!.. — Скажы дзякуй, баба, Што прынёс я драбы!* Дзед і мядзведзь.

**Дра́бы** *мн.* 'косці' (Гродз. Сцяшковіч, 1972); 'рэбры' (Докш. МСНДМ, с. 137); 'рэбры, косці' (Віл. СПЗБ; Насовіч); **дра́бы, дрэ́бы** *мн.* 'рэбры, якія тырчаць, косці' (Чэрв. Шатэрнік); **дра́ба** *ж.*, **дра́бы** *мн.* 'лесвіца' (Пін. ДСБ);

**дра́бы** *мн.* ‘драбіны, бакавыя сценкі ў мажарах; аснова воза; панарад без калёс’ (Краснап. Бялькевіч).

**ДРАБЯЗГОВЫ, ДРАБЯЗЛІВЫ** *прым.* Неістотны, дробязны. *І вось што цікава. Калі парушаюцца драбязговыя правы, то чалавек гатоў грызціся за гэта і кусацца зубамі; там жа, дзе разбіваецца сама аснова, прынцып, ён пакорна згінае сваю галаву і моўчкі падстаўляе яе пад абух.* На ростанях. *Але і Мартын хутка забывае ўсю гэту па істоце драбязлівую рэч.* Дрыгва. *Старасці ўласціва гэта дбанне аб парадку, аб драбязлівай эканомнасці, ад гэтага старыя людзі бываюць часта бурклівымі.* Там жа.

**Драбя́згі** *мн.* ‘невялікія рэчы, дробязь’ (Нясв. СПЗБ). Параўн. польск. *drobiazgowy* ‘дробязны’.

**ДРАБЯЗІЦЬ** *незак.* 1. Бегчы, дробна перабіраючы нагамі. *Гоніць дзядзька хлопца, лае Жорсткімі славамі, Алесь пазухі трымае, Драбязіць нагамі, Сыпле дробна — што малому? Дзядзька стаў хістацца. Ды і дзе з малым старому Ў беганцы зраўняцца?* Грушы-сапяжанкі. 2. Спяваць дрыготкім голасам. *Песню пан якісь заводзіць, Драбязіць, бы той казёл, І вачамі ўсіх абводзіць, Чаркай стукае аб стол.* Сымон-музыка.

**Драбязі́ць** *незак.* ‘рэзаць на дробныя кавалкі, драбіць, крышыць’ (Шчуч. СПЗБ).

**ДРАБЯЗЛІВАСЦЬ** *ж.* Тое, што не мае істотнага значэння, дробязнасць. *Але не фронтам, не вайною, Не драбязлівасцю разваг, Што ты — нікчэмнасць, пыл і прах, Сарваны ліст і кучка гною, — Жыве ён* [*Барыс*] *думкаю адною: Як смела выпаўніць замах?* На шляхах волі.

**ДРАБЯЗЛІВЫ** *гл.* **ДРАБЯЗГОВЫ**

**ДРАВЯНІНА** *ж.* Тое, што зроблена з драўніны. *Вось вы зірніце ў хлеў на вышкі! Там многа яблынін на лыжкі, Там ёсць ігруша і кляніна, Якая хочаш дравяніна: Грабільны, коссі, клёпкі, восі...* Новая зямля.

**ДРАКОЛЛЕ** *н., зб.* Палкі, колле. *Дзеці бегалі з драколлем Удзень за ўдавою Па вуліцы, ды са смехам Клікалі Савою.* Сава.

**ДРАПЯНКА** *ж.* Адзежына з грубай, шурпатай тканіны. *Ну, такі каток харошы, Як драпянка за тры грошы!* Савось-распуснік.

**Дра́пка** *ж.* 'матузок' (Шаталава).

**ДРАСАВАЦЬ, ДРАТАВАЦЬ** *незак.* 1. Таптаць, вытоптваць. *І без жалю капытамі Конь казацкі тут ступаў І збажынку з ярынамі Талачыў і драсаваў.* Сымон-музыка. [*Жыта*:] — *Настане вясна, зноў па мне топчуцца з нагамі, пячэ мяне сонца, дратуюць зайцы і птушкі.* Цяжкая доля. 2. Круціць. *І падыме вецер спевы, захістаюцца лясы І даюць падатак дрэвы, Лістам сцелюць верасы. Адзін верас і красуе, Там чуваць яшчэ жыццё, А той вецер ліст драсуе, размятае, бы смяццё.* Сымон-музыка.

**Дратава́ць** *незак.* 'таптаць пасевы, траву' (Чэрв. Шатэрнік); **зграсава́ць** *зак.* 'стаптаць, папсаваць, знішчыць' (Гродз. Цыхун).

**ДРУЖЫ** *прым.* Сяброўскі. [*Маці да Марыі*:] *Не, пакуль мы жывы, Не, ён* [*Мазепа*] *не ўчыніць намер свой! Павінны быць аховай дружай Свае хрышчэнніцы, а ён — Вар'ят! — на схіле сваіх дзён Уздумаў стацца яе мужам!* Палтава.

**Дружэ́нны** *прым.* 'сяброўскі' (ТС); **дружы́цца** *незак.* 'сябраваць' (Брасл. СПЗБ).

**ДРУЗА** *ж., перан.* Чалавек, нікому не патрэбны, лішні. [*Сымонка*:] *Эх, няроўныя дзве часці! Ён — нікчэмнасць, ён — друза І з вачэй гатова спасці Крыўды горкая сляза.* Сымон-музыка.

**Друз** *м.* 'смецце з зямлёй' (Чэрв. Шатэрнік); **друза́** *ж.* 'тоўсты атлусцелы чалавек' (Дзісн. Нар сл., с. 111); **дру́зачка** *ж.* 'дробная частка чаго-н.' (Пух. Шатэрнік); 'смецце' (Ашм. СПЗБ); **друзга́** *ж.* 'смецце, сухое лісце, дубцы пад нагамі' (Даль). Параўн. літ. *druzgaĩ* 'трэскі, крошкі'.

**ДРУЗІЦЦА** *незак.*: **ДРУЗІЦЦА НА ПЫЛ**. Марнавацца, прападаць. *Без ахвоты-захаплення Ускідала смык рука; Не хапала і цярпення, Сіл падчас у бедака Граць праз цэлых тры гадзіны Несканчоную кадрыль; Марнаваўся век дзяціны, Талент друзіўся на пыл.* Сымон-музыка.

**ДРЫГУЧЫ** *прым.* Дрыжачы. *Зірні на луг прад навальніцай, Калі крыжастай бліскавіцай У страсе твар ахрысціць хмара, І сілай грознага цяжару Ўскалыша зямлю шум дрыгучы.* Новая зямля.

**ДРЫНДЫ** *толькі мн., зневаж.* Адзенне, убор. [*Кузьма да Насці*:] — *Ты проста не падгатавана, каб слухаць такія прамовы. А чаму? А таму, што ты думаеш толькі аб сваім бярлогу, аб розных дрындах.* Адукацыя.

**Дры́нды** *мн.* 'рыззё, транты' (Карэл. Сцяшковіч, 1972).

**ДРЭМА** *ж.* Санлівасць, дрымота. *Дык ідзі* [*вясна*] *да нас, жаданая, Ідзі, Раскатурхай нашу дрэму, Абудзі!* Закліканне вясны. *Ды гэты лес, хоць ён і немы, Але скрозь ціш халоднай дрэмы, Скрозь гэты мёртвы сон зімовы Вядзе з Міхалам казкі-мовы.* Новая зямля.

**Дрэ́ма** *ж.* 'соня, ахвотнік падрамаць' (ТС); 'соня' (Гом. НЛГ).

**ДУБ** *м.* Вялікая лодка, баржа. *А сярод гэтай драбязы чаўноў і душагубак цісне павольна паважны «дуб» з рознымі таварамі і прадуктамі.* На ростанях. *Яе* [*Піны*] *халодныя сталёвыя струмені ціха ўсхліпваюць, б'ючыся аб гладкі каменны бераг, штось гутараць прыцішаным голасам з чаротамі на другім баку, злёгку пакалыхваюць параходы і параходзікі, дубы і чайкі, што густа збіліся на ўсім працягу прыстані.* Там жа.

**Дуб** *м.* 'вялікая лодка (у адрозненне ад чоўна)' (ТС); 'вялікая дашчатая лодка' (Стол. ДСБ); 'вялікая лодка' (Лоеў. Янкова); 'вялікі човен для абслугоўвання плытагонаў' (Крыч. Бялькевіч).

**ДУБАЛЬТОВЫ** *прым.* Двайны. *Ваяцкасць малога Сцёпкі выявілася ў тым, што ён штурхнуў санітарыхіну дачку і абсыпаў пяском Вадап'янавага сына, — дубальтовае злачынства!* У двары пана Тарбецкага. [*Крочак*:] *Ах, панна! Я так шчаслівы бачыць вас, Хоць, можа і ў астатні раз, Бо шчасце гэтак зманна!.. Я — ваш палонны... дубальтовы... І без дазволу ад канвою Не маю права выйсці з строю.* На шляхах волі.

**Дубальто́вы** *прым.* 'двайны' (Пух. Шатэрнік); **дубальто́вы, дубэльто́вы** *прым.* 'падвойны' (Ваўк. СПЗБ); **дубе́льты** *мн.* 'падвойныя аконныя рамы' (Лях. ДСБ); **дубальто́выя** *прым.* 'двайныя' (Ашм. МСММГ, 1970); **ду́бальт** *прысл.* 'удвая больш' (Гродз. Цыхун). Параўн. польск. *dubeltowy* 'падвойны'.

**ДУГАВАТЫ** *прым.* Які мае форму выгнутай лініі. *Адзін край лугу стыкаўся з лесам, уразаўся ў яго, адхопліваючы дугаватыя лукі і павялічваючы свае травяністыя прасторы.* На ростанях.

**ДУЖЭЦ** *м.* Чалавек моцны фізічна, дужы. *На ўсе рукі хват Даніла, Спрытны хлопец і дужэц. Ростам — сажань, плечы — сіла, — Адным словам, маладзец.* Паслушная жонка.

**Дужа́к** *м.* 'асілак' (Малар. Нар. лекс., с. 75); 'моцны хлапчук' (Бял. Яўсееў); **ду́жыцца** *незак.* 'трымацца, мацавацца' (Лоеў. Янкова).

**ДУЛУПЕЦЕНЬ** *м.* Разумова абмежаваны, тупы чалавек. [*Булыга:*] *Насілу давёў вось гэтым дулупетням, што я — крамольнік: не хацелі пускаць мяне сюды...* Забастоўшчыкі.

**Ду́лупацень** *м.* 'балбатун' (Стаўб. Жыв. сл., с. 106).

**ДУРУБАЛА** *м., лаянк.* Дурань. *На смех хлопца падымаюць: — Вось дурубала, даўбня! — І ў патыліцу штаўхаюць, Бы не хлопец, а шчаня.* Сымон-музыка.

**Ду́рбала, дурэ́ла** *н.* 'дурань' (Драг. Нар. лекс., с. 227); **дурба́н** *м.* 'дурань' (Стаўб. Нар. сл., с. 150); **дура́к, ду́рко** *м.* 'дурань' (ТС); **дураве́ль** *м., лаянк.* 'дурань' (Шчуч. СПЗБ); **дураве́й** *м.* 'дурань' (Мсцісл. Бялькевіч).

**ДУХОЎНІЦА** *ж.* Духоўнае завяшчанне. *Скрыпка верна ўсім служыла, Каб і ты ёй верны быў, — Гаварыў пастух Курыла, Як духоўніцу рабіў.* Сымон-музыка.

**ДУЧЭ** *м.* Правадыр (так называлі ў фашысцкай Італіі важака італьянскіх фашыстаў Мусаліні). *Зальецца дучэ ў гнойнай плыні, Ганебна фюрэр будзе біт.* Сучасныя калігулы.

**ДУШАГУБКА** *ж.* Вузкі няўстойлівы рыбацкі човен. *Селянін-гаспадар шыбуе з таго берагу, з душагубкі звешваюцца махрастыя пукі чароту і жмуты жорсткай асакі.* На ростанях. *Быстра слізгацяць душагубкі па люстранай вадзе пад лоўкімі ўзмахамі вёсел прывычных палешукоў і паляшучак.* Там жа.

**Душагу́бка** *ж.* 'лёгкі, вузкі човен' (Клім. Бялькевіч).

**ДЫМ** *м.* Дымка. *Як тыя ж вейкі* [*Марына*] *прыпадніме — Нібы ўзлятаюць матылькі Ці засмяюцца ў жытнім дыме Пад летні ветрык васількі.* Рыбакова хата.

**ДЫМНІЦА** *ж.* Комін. *А гэта хата вось якая: Першнаперш, выгляд добры мае; Стаіць пры рэчцы ці крыніцы,*

*На ёй дзве дымніцы-блізніцы З чырвонай цэглы і фарсісты.* Новая зямля.

**Дыма́р** *м.* ‘комін’ (Кобр. ДСБ); **ды́мник** *м.* ‘драўляная труба над дымавым акном’ (Даль). Параўн. польск. *dymnik* ‘адтуліна ў страсе, якая закрываецца клапанам з акенцам’.

**ДЭБАЦЬ** *незак.* Нязграбна ісці. *«Спаганю сваё я, Спробую другое — Паплыву, як лебедзь!» Дэбае варона На адхон затону, Дэбае, гяргеча; Стала над вадою І — бух з галавою!* Сымон-музыка.

**Дэ́бацьі** *незак., экспр.* ‘хадзіць’ (Бар. ДСБ); ‘дыбаць, ісці, цяжка ступаць’ (Краснап. Бялькевіч); ‘ісці дробнымі крокамі, нязграбна’ (Гродз. Цыхун).

# Е

**ЕДАЛІСТА** *прысл.* Уежна. *Як перакачаемся лета, не ведаю. Тут не дужа едаліста.* З пісьма.

**Еда́ла** *ж.* ‘страва’, ‘абед’ (Бял. Яўсееў); **е́дкі** *прым.* ‘які з апетытам ядуць’ (Пух., Чэрв. Шатэрнік).

# Ж

**ЖАБІЧ** *м.* Пагардлівае абзыванне каго-н.; жаба. [*Мікіта да старасты:*] — *Жабіч ты! Ты думаеш, калі ты стараста, то ты ў мяне вялікая цаца? Пляваць я на цябе хачу, начхаць табе на галаву!* Стараста.

**ЖАВАЛЫ** *толькі мн., іран.* Зубы. — *Бі бандыта!* — *рушыў наперад Андрэй. Іван адступіў крок назад. — Не чапаю, дык не лезь! А то жавалы паб'ю!* Балаховец.

**ЖАГЕЛЬ** *м.* Парус. *Ды што нам у тым прасторы? Што нам шыр без берагоў, Калі мы — чаўночкі ў моры Без вясёл, без жагялёў?* Сымон-музыка.

**Жа́гель** *м.* ‘моцны вецер’ (Ваўк. СПЗБ). Параўн. ням. *Segel* ‘парус, ветразь’.

**ЖАДНЫ** *прым.* Ніякі. [*Прыблуда:*] — *Пазнаў іх* [*людзей*] *і вылез са схову Без жаднага страху, спакойна. Не верыш, дзед, шчыраму слову, Дык вось запытай у канвойных.* Адплата.

**Жа́дны** *прым.* ‘ніякі’ (Ваўк. Сцяшковіч, 1972; Кобр. Жыв. сл., с. 100; Слон. Нар. словатв., с. 34; Ашм., Воран., Гродз., Іўеў., Лях. СПЗБ; ТС); ‘ні адзін (пры адмоўі)’ (Чэрв. Шатэрнік). Параўн. польск. *żaden* ‘ні адзін’, укр. *жадный* ‘ніякі’.

**ЖАЛАВАЦЬ** *незак.* Шкадаваць, берагчы. *Я ўвесь заміраю — вось ўздымецца буч. А дзядзька спаважна адсовае крыгі; Не жалуе дзядзька ні рук, ні фатыгі. А мне не цярпіцца — скарэй жа, не муч!* Дзяцінык годы.

**Жа́лаваць** *незак.* ‘шкадаваць’ (Чэрв. МСММГ, 1977; Чэрв. СЦБ; Рэч. НЛГ; Краснап. Бялькевіч); **жалкава́ць** *незак.* ‘шкадаваць’ (Гл. Янкоўскі, 1970). Параўн. польск. *żałować* ‘шкадаваць’.

**ЖАЛОСНЫ** *прым.* Сумны, тужлівы. *А якую жалосную, нескончоную песню выводзіў комін!* На ростанях.

**Жало́сны** *прым.* ‘жаласны’ (Лоеў. Янкова; Уздз. СЦБ); **жа́лобны** *прым.* ‘сумны, тужлівы’ (ТС); **жа́лосліву** *прым.* ‘жаласлівы’, **жа́ласцівы** *прым.* ‘жаласлівы’ (Верхнядзв. Шаталава); **жало́сна** *прысл.* ‘жаласна’ (Верхнядзв., Смарг. СПЗБ); **жало́блівый** *прым.* ‘жаласны, сумны’ (Краснап. Бялькевіч); Параўн. польск. *żałosny* ‘поўны жалю, які выклікае жаль’.

**ЖАЛЯЗНЯК** *м., перан., іран.* Пра чалавека, на парадным мундзіры якога бліскучыя гузікі. [*Дубейка да Лабановіча*:] — *Вы паглядзіце, як каля яе* [*Людмілы*] *гэты жалязняк* [*Сухавараў*] *увіваецца!* На ростанях.

**ЖАРОТА** *ж.* Гарачыня, спёка. *Жарота расце. Сёння ў пакоі* $33^0$, *а можа яшчэ і падымецца.* З пісьма.

**Жаро́та** *ж.* ‘спёка, гарачыня’ (Краснап. Бялькевіч); **жары́шчэ** *н.* ‘вялікая жара’ (Люб. Нар. словатв., с. 120); ‘спякота, гарачыня’ (ТС); **жара́** *ж.* ‘гарачыня, спёка’ (Ганц., Навагр., Шчуч. СПЗБ); **жарлі́ва** *прысл.* ‘горача’ (Гродз. Сцяшковіч, 1983).

**ЖАЎТАЦВЕЦЕНЬ** *ж.* Тое, што пры цвіценні мае жоўты колер. *Жаўтацвецень красавання Аздабляла каласкі; Ім казалі аб каханні Нітак срэбраных жмуткі.* Сымон-музыка.

**ЖАЎТАЧКА** *ж.* Жаўтуха. *Як жыву я* [*чарот*] *ў час паводкі — Не відно чупрыны. Прыйдзе восень, пажаўцею, Быццам бы з жаўтачкі.* Рак-вусач.

**Жаўта́чка** *ж.* ‘жаўтуха’ (Карэл. Жыв. нар. сл., с. 58; Стаўб., Уздз. МСММГ, 1970, 1974; Бар., Верхнядзв., Віл., Глыб., Іўеў., Шчуч. СПЗБ; Ганц., Стол. ДСБ; Гродз. Сцяшковіч, 1972; Лоеў. Янкова; Мядз. Жыв. сл., с. 41; Гл. Янкоўскі, 1970; Гродз. Цыхун; Пух., Стаўб. СЦБ).

**ЖРЭЛО, ЖЭРАЛА** *н.* Дупло. *..загулі магутныя дубы, і громам грымелі іх чорныя жэралы.* Стары лес. [*Сабака да сабакі*:] — *Ёсць тут нідалёка стары дуб; у том дубі ёсць жрэло, а ў жрале схованы тры косткі: чалавечая, звярыная і птушкава.* Наша сяло, людзі і што робіцца ў сяле.

**Жрэ́ла** *н.* ‘дупло’ (Карэл. Сцяшковіч, 1972, 1983).

**ЖУД** *м.* 1. Жудасць. *І ён* [*промень*] *спыніўся І скланіўся Перад няшчасцем хмаркі божай: Яна — адна, навокал — жуд, Пякельны холад, мрок, і мут.* Сымон-музыка. 2. Тое, што выклікае страх, жах. *І месца кожнае і кут Пачулі плачу жуд крыштальны.* На шляхах волі.

**Жуда́** *ж.* ‘жудасць, страх’ (Краснап. Бялькевіч).

**ЖУЙКА** *ж.* Ежа, якая паўторна перажоўваецца, жвачка. *За імі* [*свіннямі*] *ідуць авечкі, бляюць усякімі галасамі, а ззаду важна ступаюць кароўкі, жуючы жуйку (жвачку).* Захад сонца.

**Жу́йка** *ж.* ‘жвачка’ (Нясв. МСММГ, 1974; Гродз. Цыхун; Пін. Шаталава; Астр., Бар., Бярэз., Гродз., Дзятл., Лід., Лях., Маст., Нараўл., Шчуч. СПЗБ); **жава́йка, жва́йка, жва́ка, жува́йка, жу́йка** *ж.* ‘ежа, якая паўторна перажоўваецца’ (Дзярж., Лаг., Стаўб., Уздз. СЦБ); **жу́йку жава́ць** ‘перажоўваць ежу (пра буйную рагатую жывёлу)’ (ТС).

**ЖУПІЦЬ** *незак.* Размаўляць, гаварыць. *Вобразн. Пад зялёнаю накідкай Голькі песцяцца ў цяпле; Жупіць ветрычак з ракіткай, Гуд у дубавым дупле.* Сымон-музыка.

**Жу́піць** *незак.* ‘гаварыць, размаўляць’ (Капыл., Пух. СПЗБ; Шчуч. Сцяшковіч, 1972); ‘разумець (пра дзяцей)’; ‘рупіцца, клапаціцца’ (Нар. словатв., с. 76).

**ЖУРБАВАЦЬ** *незак.* Смуткаваць, маркоціцца. *Думаеш аб тым, што было, а можа проста так сабе журбуеш, бо пагода не хіліць на радасныя думкі.* З пісьма.

**Журбова́ць** *незак.* ‘сумаваць, гараваць’ (ТС); **жу́рыцца** *незак.* ‘сумаваць’ (Зэльв., Калінк. СПЗБ).

**ЖЫБУЛЬКА** *ж.* Зябер. — *Памажы мне, галубка, звязаць ячмень, — просіць яна [кабета] куму. — Калі ж, кумка, жыбулькі надта колюцца, — адказвае кума. А зімою прыходзіць яна да кумы. — Дай мне, кумка, мукі на аладкі. — Прыйшла кумка па муку, а жыбулька — за руку.* Дзве кумы.

**Жыбу́лька** *ж.* 'зябер' (Воран., Гродз., Шчуч. СПЗБ); 'асцюк' (Пух. СПЗБ). Параўн. літ. *žibulỹs* 'зябер'.

**ЖЫВІЦА** *ж., перан.* Тое, што надае сілы, бадзёрасці (звычайна пра ваду). [*Жыта:*] — *І вось толькі як вадзіцай, Не вадзіцай, а жывіцай Мяне ўмые маладзіца, Тады толькі свет пабачу...* Рак-вусач. *Мурог! Ды што за травіца! І шоўк у ёй мяккі, і лён, І вечная наша крыніца З гаючай жывіцай-вадзіцай Ад бацькаўскіх, дзедаўскіх дзён!* Максіму Танку.

**Жыві́ца** *ж.* 'смала' (Чэрв. Шатэрнік); 'жывіца' (Дзятл. СПЗБ; ТС; Клім. Бялькевіч).

**ЖЫЧЭННЕ** *н.* Адданасць; зычлівасць. *У прасторнай, чыстай, светлай залі Паны туды-сюды снавалі, Развязна, моцна гаманілі, цыгары доўгія курылі, А дзе каторы шарганецца, Каля яго прыслужнік трэцца І падае яму адзенне, А сам — пакора і жычэнне..* Новая зямля.

Параўн. польск. *życzenie* 'пажаданне'.

**ЖЭРАЛА** *гл.* **ЖРЭЛО**

# З

**ЗААПЕКАВАЦЬ** *зак.* Замучыць апекай. — *Апекаваліся, лячылі! — з горыччу перадражніў яе [сароку] бусел: — заапекавалі і залячылі!* Як птушкі дуб ратавалі.

**ЗАБАРОНЦА** *м.* Той, хто забараняе што-н. *Думка ходзіць, дзе захоча: Ад зямлі да зор і сонца Няма думкам забаронцы.* Сымон-музыка.

**ЗАБАЧЭННЕ** *н.* Сустрэча, спатканне. [*Рыжавусы да Панаса:*] — *Ты хадзіў да бацькі на забачэнне?* Дрыгва.

**Забачэ́нне** *н.* 'спатканне' (Мядз. СЦБ; Мядз. МСММГ, 1974); **заба́чыць** *зак.* 'убачыць' (Гом. НЛГ; Астр., Дзятл., Лід. СПЗБ). Параўн. польск. *zobaczyć* 'сустрэць, убачыць'.

**ЗАБОЙНА** *прысл.* Жахліва, страшэнна. *Трывожна ўсюды, неспакойна, Снуюць-успыхваюць агні, І ходзяць цені ў цішыні, І гэта ціш гняце забойна.* На шляхах волі.

**ЗАБОЙЧЫ** *прым.* Рэзкі, бязлітасны. [*Паручнік*:] *Ваюем мы, Мы праліваем кроў, Дзяўчаты ж з ворагам Іграюць у любоў!* [*Крочак*:] *Забойчы ваш манолаг, Ды выказан наспех.* На шляхах волі.

**Забо́йчій** *прым.* 'жахлівы, страшэнны, здольны на паражэнне' (Насовіч).

**ЗАБРАШЧАЦЬ** *зак.* Пачаць часта бразгатаць. *Барабан забіў трывогу, Бубен дробна забрашчаў, Ім басэтля на падмогу, Смык заядла запішчаў.* Ігрышча.

**ЗАБРЫКАЦЬ** *зак.* Замучыць каго-н. [*Дарвідошка да Букрэя*:] *Ты — маладзіца? А божа ж мой (рагоча). Ды такая маладзіца забрыкае майго кавалера, каб яго халера!* У пушчах Палесся.

**ЗАБРЫМЕЦЬ** *зак.* Пачаць ірдзець, зіхацець, пераліваццa. *Была раніца, і на небе ледзь Зараніцы вясёлка займалася, І на Свіслачы забрымела медзь — Чырвань неба у ёй умывалася.* Дуб.

**ЗАБЯСПЕКА** *ж.* 1. Бяспека. *Ён* [*Дзяжа*] *выбраў пункт сабе прыўдалы Для забяспекі, спасцярог.* На шляхах волі. 2. Сукупнасць мер, прынятых для бяспекі; перасцярога. [*Грэнка*:] — *Таварышы-калегі! Меры забяспекі намі прыняты. У нас варта прызначана.* Забастоўшчыкі.

**ЗАВАДЗІЦЦА** *незак.* З'яўляцца; заводзіцца. *Гумно паўнела з кожным годам, І багацеў хлявец прыплодам, І грош стаў лішні завадзіцца, Было што есці, чым акрыцца.* Новая зямля.

**Завадзі́цца** *незак.* 'з'яўляцца, размнажацца' (Гродз., Чэрв. СПЗБ).

**ЗАВАДЫЯКА** *м.* Той, хто пачынае, арганізуе што-н.; зачыншчык. [*Шышла:*] *Скажыце, айцец Кандраці, хто завадыякамі быў у разграбленні маёнтка г. Будана-Рыльскага... і наогул.* Вайна вайне.

**Завадыя́ка, завадыя́ш, завадэ́вуш** *м.* 'задзіра' (Гродз. Цыхун); **звадыя́ш** *м.* 'чалавек, які зводзіць людзей, каб пасварыліся' (Лях. МСНДМ, с. 124); **зава́дка** *ж.* 'сварка' (Іўеў., Чэрв., Шчуч. СПЗБ); **завадыя́цкі** *прым.* 'гарэзлівы' (Шчуч. Сцяшковіч, 1983). Параўн. польск. *zawadiaka* 'забіяка, задзіра'.

**ЗАВАДЫЯШЧЫЦА** *ж.* Жан. да завадыяка. *Крыўдней за ўсё было тое, што і гэта мерапрыемства не памагло, а аўтарытэт цёткі Тарэсі, завадыяшчыцы ўсёй справы, зусім упаў.* На ростанях.

**ЗАВАЛА** *м.* і *ж.* Лянівы чалавек; лежабок, гультай. — *Ну і народ, каб ён апрогся! Так запусціць зямлю нядбала? Не гаспадар быў, а завала! — Антось стаіць, штось разважае І хмурна поле аглядае..* Новая зямля.

**Зава́ла** *м., ж.* 'гультай' (Навагр., З нар. сл., с. 57; Навагр. Сцяшковіч, 1972; Чэрв. Шатэрнік); **завале́й** *м.* 'лежань' (ТС).

**ЗАВАЛАЦЬ** *зак.* Паклікаць каго-н. — *А дзе хлоп, што ладна грае? Гэй, музыку завалаць! — Падгуляўшы князь гукае: Ўраз хлапака мне падаць!..* Сымон-музыка.

**Завала́ць** *зак.* 'запрасіць' (Астр. Сцяшковіч, 1983); 'паклікаць, зазваць' (Віл., Лід. СПЗБ); 'выклікаць' (Віл. СЦБ); 'прымусіць' (Лоеў. Янкова). Параўн. польск. *zawołać* 'паклікаць'.

**ЗАВАЛІЦЬ** *зак.* Засеяць, заняць чым-н. якую-н. прастору. *Вось ён* [*поп*] *ранняю вясною, Навазіўшы туды гною, Заваліў аўсом аблог Па балота ад дарог.* Як поп зрабіўся авіятарам.

**Заваліць** *зак.* 'закласці, запоўніць' (Навагр. Сцяшковіч, 1972); 'зарасці' (Віл. СЦБ).

**ЗАВАЛЬ** *ж.* Ламачча. *І спакой і лагода навокал, Нібы моліцца сонцу зямля, Не ўзлятае над доламі сокал, Не варушыцца ў завалі тля.* Ціша і бура.

**Зава́лье** *н.* 'мноства' (ТС).

**ЗАВАРОТКА** *ж.* Паваротка. *Вярсты праз дзве лес з аднаго боку дарогі зноў разарваўся вясёлаю палянкаю, агінаючы яе прыгожымі заваротkамі.* На ростанях.

**Заваро́т** *м.* 'паварот ад дарогі' (Ваўк. Сцяшковіч, 1972); 'дуга, адлегласць павароту' (Пух. СЦБ).

**ЗАВІВЫ** *мн.* Змены, павароты, перамены. *Жыццё ж так казачна-імклiва, Паспець за ім так цяжка мне, Каб на шырокім палатне Нарысаваць яго завівы..* На шляхах волі.

**ЗАВІЛАВАТА** *прысл.* Складана, маладаступна для ўспрыняцця. — *Паміж праўдаю і выдумкаю, падобнаю да праўды, трудна, мой дружа, правесці мяжу, — заўважыў Лабановіч: —*

*Канву ж для іх дае само жыццё. — Завілавата гаворыш, мой браце. Не выпіўшы чаркі добрай настойкі, нічога не разбярэш. Сказаўшы так, Балоціч падаўся да свайго даволі прыгожага і нават утульнага буфеціка.* На ростанях.

Параўн. польск. *zawile* 'блытана, няясна, незразумела'.

**ЗАВІЛАВАТАСЦЬ** *ж.* Слоўная мудрагелістасць, напышлівасць. *У гэтай завілаватасці слоў і слоўнага штукарства яны [маладыя паэты] забывалі пра змест, забывалі пра тое, што робіць паэзію здабыткам масавага чытача.* Стварыць сапраўднае сацыялістычнае мастацтва.

**ЗАВІЛАВАТЫ** *прым.* 1. Які прымае звілісты напрамак. *Падзеі ідуць не па простай лініі. Лінія мяняецца, робіцца завілаватай, крывою.* З пісьма. 2. Вычварны. *Шмат хто з жыхароў камеры пачынаў дзень завілаватаю лаянкаю.* На ростанях.

**Заві́лы** *прым.* 'завілісты' (Навагр. Сцяшковіч, 1972).

**ЗАВІЦЬ** *зак.* Хутка пайшоўшы, знікнуць з поля зроку. *Яна [жанчына] закрыла галаву шарфам, борздзенька шмыгнула ў кусты і знікла з вачэй. Гэтак жа шпарка завіў і кавалер, падаўшыся ў другі бок.* На ростанях.

**ЗАВОІНА, ЗАВОІНКА** *ж.* Завадзь, затока ў рэчцы. — *Вось давай, брат, патрасём гэту завоінку, — сказаў Марцін. Завоінай называлася паласа стаячай вады пры беразе. Звычайна яна зарастала розным зеллем, лотаццю, макрыцай, сітняком.* На ростанях. *Завоіна ж была амаль уся наперадзе. Рыбакі яшчэ больш асцярожна пасоўваліся ўздоўж берагу.* Там жа.

**Заво́іна** *ж.* 'затока' (Дзярж., Чэрв. СПЗБ); **заво́нь** *ж.* 'затока' (Мядз. Нар. сл., с. 60); **заво́ня** *ж.* 'сажалка' (Гродз. Сцяшковіч, 1983).

**ЗАВУАЛЯВАНЫ** *прым.* Няясны, скрыты, прыхаваны. *Невысокі хударлявы чалавек, сейбіт буры і змагання, упэўнен у гэтым, бо перад яго вачыма раскрыта праўда жыцця і яго завуаляваныя спружыны.* Дрыгва.

**ЗАВУГОЛЛЕ** *н.* Месца, дзе сутыкаюцца дзве сцяны ў памяшканні; вугал. *Тым часам маці тарапліва Закон дзядоў сваіх спаўняе: Кладзе кусочак хлеба з соллю Пад красны кут у завуголле, Апошні раз глядзіць на хату, Дзе многа дробязі на страту Пайшло ў час гэты перабору.* Новая зямля.

**ЗАВУШША** *н.* За вушамі. — *Конь — на дзіва! А бяжыць — перуном смаліць! Вецер па завушшу свішча! — натхнёна гаворыць Амяльян.* На «святой зямлі».

**ЗАГАВЕЦЬ** *зак.* Спыніцца. *Вясна кончылася, а яе і не было: то холад, то суш. Як прайшоў адзін дождж, дык так на гэтым і загавеў...* На схіле дзён.

**ЗАГАГОКАЦЬ** *зак.* Заржаць. *Чуць толькі паказаўся ён* [*Сцяпан*] *на парозе, як каровы зараз жа прыветна замыкалі, а коні вясёла загагокалі.* Старыя падрызнікі.

**ЗАГАРАК, ЗЭГАРЭК** *м.* Гадзіннік. *А маладыя хлопцы ходзяць шчэ чысцей; іншы так, падла, убярэцца ў святы дзень, што ўсё роўна як паніч: порткі драпавые навыпуск, пільчак харошы, шапка з шырокім верхам, возьме ў рукі парасон ды шчэ як пачэпіць загарак!* Наша сяло, людзі і што робіцца ў сяле. *Ціха ў лесніковай хаце. Толькі чутно было, як спалі дзеці; дзесь у запечку ціханька чычыкаў шашаль, як зэгарэк, схаваны ў кішэні.* Зімні вечар.

**Зага́рак** *м.* 'гадзіннік' (Астр., Ашм., Воран., Зэльв., Лаг., Паст., Стаўб. СПЗБ; Лях. ДСБ; Шчуч. Сцяшковіч, 1972); **зэ́гяр** *м.* 'насценны гадзіннік' (Гродз. Цыхун). Параўн. польск. *zegar* 'гадзіннік', *zegarek* 'малы гадзіннік'.

**ЗАГАРГАТАЦЬ** *зак.* Загагатаць. *У канцы сяла загаргаталі гусі і качкі.* Летняя раніца ў вёсцы.

**Загаргата́ць** *зак.* 'загагатаць' (Смарг. СПЗБ). Параўн. літ. *gargéti* 'гагатаць'.

**ЗАГАСІЦЬ** *зак.* З размаху моцна ўдарыцца аб што-н. *Ды перабраў тут дзядзька меру: На слуп узбіўся, на халеру, Ды так аб падлу штурхануўся, Што свет яму перавярнуўся, На брук зляцеў ён з тратуару, Перакруціўся разоў пару І так у брук бядак загасіў, Траха манеркі не расквасіў.* Новая зямля.

**ЗАГІЗАВАЦЬ** *зак.* Прыйсці ва ўзбуджаны стан; пачаць хутка танцаваць. *Ды, сказаць, было і трудна Лад, спакой тут* [*у карчме*] *захаваць: Як пачнуць музыкі граць, загізуе і марудны.* Ігрышча.

**Загізава́ць** *зак., перан., экспр.* 'пачаць бегаць' (Паст. СПЗБ). Параўн. літ. *gizúoti* 'гарачыцца'.

**ЗАГІНА** *ж.* Мучэнне, пагібель. *«Там — пакута, там — загіна. Ніколі шчаслівы смех не асветліць у астрозе твараў нявольнікаў», — казала думка.* Цені мінулага.

**Загі́на** *ж.* 'пагібель, мучэнне́' (Насовіч).

**ЗАГНЕЗДАВАЦЦА** *зак.* Укараніцца, замацавацца. *Вобразн. І гнеўны агонь яго* [*слова*], *накіраваны супраць усёй шкоднай старызны, у першую чаргу павінен вынішчаць усякую спробу гэтай старызны загнездавацца ў нашым светлым і прасторным доме.* За высокую ідэйнасць і мастацкую дасканаласць.

**ЗАГРАКАЦЬ** *зак.* Пачаць выдаваць прарэзлівы, гартанны гук, закаркаць (пра крык вароны і інш. птушак). — *Усе шчылінкі пазатыкаем, каб ніякая кропля вільгаці не прасачылася, — загракалі сіваваронкі.* Як птушкі дуб ратавалі.

**ЗАГУГУКАЦЬ** *зак.* Загукаць, закрычаць. *Ці загугукае страхліва Злы гэты дух — сава-начніца Ў кустах альховых над крыніцай, Гугукне так, што сэрца ные.* Новая зямля.

**ЗАГУХКАЦЬ** *зак.* Загрымець. *І вось дзесь далёка, нібы пад зямлёю, Глухія загухкалі громы.* Адплата.

**ЗАДАКАЦЬ** *зак.* Сказаць некалькі разоў запар «да, да». [*Дзед Мікіта*:] *Задакаў, чуй, дурань-браце! Ды гэта ён, Шышла-да́кала!* Вайна вайне.

**ЗАДЗЁР** *м.* Задор, запал. *Вобразн. Тут можна было б сказаць, як бушаваў на дварэ вецер, як на вокны з чыста маладняцкім задзёрам пёрся мароз..* Пракурор.

**Задзёрысты** *прым.* 'задорны' (Чэрв. Шатэрнік); **задзёра, задзі́ра** *м. і. ж.* 'завадатар боек, забіяка' (Валож., Лаг. СЦБ); **задзёр** *м.*: **пайсці на задзёр** 'задрацца' (Стаўб. СЦБ); **задзёра** *аг.* 'задзіра' (Насовіч).

**ЗАДКОМ** *прысл.* Задам. *«Памдзей» задком, задком у дзверы Паўзе-адходзіць ад навалы..* Новая зямля.

**ЗАДНІК** *м.* Плытагон, які стаіць у канцы плыта. — *Закідай шырыгу! — Прысам папхні ўліва! Варушыся! Мігам! Не спі ў шапку! Жыва! А заднік без толку Бусаком махае. Галаўнік Міколка Бэсціць яго, лае.* Плытнікі.

**Задні́к** *м.* 'плытагон, які стаіць у хвасце плыта' (Стаўб. СЦБ); 'плытагон, які стаіць у канцы плыта' (Віл. СПЗБ); 'плытагон, месца якога было пры заднім рулі' (Іўеў. Нар. лекс., с. 150); **за́днік** *м.* 'плытагон, які стаіць на канцы плыта і адпіхае яго ад берага' (Навагр. Нар. лекс., с. 153).

**ЗАДРЭНЧЫЦЬ** *зак.* Падбіць, падштурхнуць каго-н. на што-н. *Ды як грымнулі, загралі — Скура шорхнула ва*

*ўсіх, І старыя не ўтрывалі, Як бы чорт задрэнчыў іх. Сівы Тодар на заслоне Стаў плячыма выrабляць, Янка пляскае ў далоні, Ногі ж просяцца гуляць.* Ігрышча.

**Задрэ́нчыць** *зак.* ‘парашыць, пажадаць’ (Карэл. Сцяшковіч, 1983); ‘моцна захацець’ (Чэрв. Шатэрнік); **дрэ́нчыць** *незак.* ‘вельмі хацецца’ (Чэрв. Шатэрнік); ‘не даваць спакою’ (Дзярж. Нар. сл., с. 30); ‘непакоіць’ (Мсцісл. Бялькевіч).

**ЗАДУМЛЁНЫ** *прым.* Задумлівы. *Пятро і Захар падыходзілі сюды сур’ёзныя і задумлёныя.* Дачакаўся. *Стаіць Белавус задумлёны. Руіны, дзе вокам ні кіне.* Адплата.

**ЗАЕСЦІСЯ** *зак.* Засесці, завязнуць у чым-н. топкім, гразкім; загразнуць. *Лапаць заеўся ў гразь, і нага вылузалася з яго.* На начлезе.

**Зае́сьціся** *зак.* ‘уесціся, урэзацца, упіцца’ (Чэрв. Шатэрнік).

**ЗАЙМЕЦЬ** *зак.* 1. Задумаць, захацець. [*Богут*:] *Няма да Польшчы ў хлопаў «хэнці», У іх інтэрас свой на ўме, А ўжо калі што хлоп займе, Яго і пан бог не «асвенціць».* Рыбакова хата. 2. Дабіцца, устанавіць. *Займеў над ім* [*Цімохам*] *волю Жыгун, Ліпучай абвіў павуцінай.* Адплата. 3. У выразе: займець злосць. Зазлаваць. [*Рыбак*:] *— Я знесці крыўду не магу — Такую злосць займеў на воўка.* Рыбакова хата.

**ЗАКАРВАШКІ, ЗАКАРВАШАЧКІ** *мн.* 1. Закуткі, цёмныя куткі, шчыліны. *Абабіт пабел усюды, А праз столь цячэ вада. У закарвашках звярок руды, Клоп і ўсякая брыда.* Турэмная камера. *Пакойчык быў сухі, цёплы, зусім прасторны для аднаго чалавека. Але затое ж якіх толькі пячурак, ямак, закарвашачкаў не нарабіў тут Лапко!* Адшчапенец. 2. *перан.* Звычайна ў спалучэнні са словамі *душа, сэрца. Дзед Талаш напэўна і сам не адказаў бы сабе, каго яму болей страшна: нячыстай сілы, вера ў якую ўсё ж такі тлелася дзесь у закарвашках дзедавай душы, звера ці ліхога чалавека ў вобразе польскіх жалнераў.* Дрыгва.

**Закарва́шкі** *мн.,* **закарва́шына** *ж.* ‘закуткі, цёмныя вуглы’ (Карэл. Сцяшковіч, 1972).

**ЗАКАРВАШЫНА** *ж.* Складка ў адзенні; манжэта. *І цяпер, стоячы на парозе і бачачы, як Шлёма Цырлік сваімі бруднымі пальцамі калупае кожную закарвашыну, кожную*

*пляму на бацюшкавых падрызніках, Сцяпан не мог болей трываць.* Старыя падрызнікі.

**Закарва́ш** *м.* 'манжэта' (Бяроз. ДСБ); **закарва́шы** *мн.* 'маршчыны, складкі' (Стаўб. Жыв. сл., с. 107); 'манжэты' (Верхнядзв. Шаталава); **закаўра́шы** *мн.* 'адвароты ў рукавах' (Пух. Шатэрнік); **закаўра́ш** *м.* 'манжэт' (ТС).

**ЗАКАСАВАЦЬ** *зак., перан.* Адціснуць на задні план, зацьміць. *У траве між чаратоў — Колькі розных матылёў, Бабак сініх і чырвоных: Іх сукеначкі ў фальбонах, Іх убор — іду ў заклад — Закасуе ўсіх дзяўчат.* Рак-вусач.

**Закасава́ць** *зак., перан.* 'дабіцца большага поспеху, чым хто-н., перагнаць, абагнаць каго-н.' (Гл. Янкоўскі, 1970); 'пераўзысці каго-н. у чым-н.' (Чэрв. Шатэрнік). Параўн. польск. *zakasować* 'перасягнуць, перавысіць, зацьміць'.

**ЗАКАТНЫ** *прым.* Закацісты. *Толькі смех, дружны і закатны, гаварыў, што там яшчэ не спяць.* На начлезе. *Адзін Антось ужо смяецца Сваім закатным дробным смехам, Аж галава з шырокім плехам І з сівым воласам трасецца.* Новая зямля.

**Зака́тны** *прым.* 'зацяты' (Карэл. Жыв. сл., с. 71).

**ЗАКЛЫГАЦЬ** *зак.* З цяжкасцю ўзысці, падняцца куды-н. *Покі паэт заклыгаў на самы апошні паверх па цёмных усходах — гэта не тое, што на крыллях фантазіі ляцець, — крытык ужо адмахаў адзін квартал і ўздыхнуў лягчэй.* Трагізм.

**Заклыга́ць** *зак.* 'закульгаць' (Чэрв. Шатэрнік).

**ЗАКОХКАЦЬ** *зак.* Затрашчаць. *Лядок закохкае, угнецца І вось-вось зломіцца, здаецца, Але нястрашны і знаёмы Для хлопца гэтыя надломы.* Новая зямля.

**ЗАКРАІНА** *ж.* Самая аддаленая ад цэнтра частка горада; ускраіна. *Стройныя, густыя, моцныя хвалі гукаў разліваліся ў ціхім паветры ціхіх закраінаў горада.* Цені мінулага.

Параўн. руск. *окраи́на* 'ускраіна'.

**ЗАКРУГЛІЦЦА** *зак.* Споўніцца, завяршыцца. *3/XI мне закругліцца 68-мы год.* З пісьма.

**ЗАЛАБ** *прысл.* За чуб. *Так, Юзік пальцам поркаў страву І верашчакай мазаў лаву, Але тут сёстры сердавалі І залаб Юзіка цягалі.* Новая зямля.

**За́лаб** *прысл.* 'за валасы' (Воран. Сцяшковіч, 1972); **за́лап** *прысл.* 'за чубы, за косы' (Слон. Жыв. сл., с. 154); **за́лаб, за́лабкі** *прысл.* 'за валасы каля лба (браць)' (Чэрв. Шатэрнік).

**ЗАЛАТАШЫЦЬ** *зак.* Пачаць гаварыць вельмі хутка, залапатаць. — *Брыда, хай брыда, а знойдзецца — не бяда, — весела залаташыў Нічыпар.* Знайшлі.

**Латэ́шыць** *незак.* 'лапатаць (языком)' (Карэл. Жыв. сл., с. 70).

**ЗАЛЕЗЦА** *н.* Жалезная пласцінка, жалязяка. *Яшчэ з вечара загатавалі яны* [*хлопцы*] *сабе лапці, кошыкі, замест ножыкаў залезцы — адразаць карэньчыкі баравікам.* У грыбах.

**ЗАЛІВАКА** *м.* Той, хто любіць ілгаць; ілгун. *Сярод кароткатэрміновых зняволеных часамі пападаліся аматары, што любілі шмат гаварыць і наплесці тры кашалі рознай хлусні.. Па-астрожнаму такіх людзей проста называлі заліваками, ад выразу — заліваць кулі, што значыць ілгаць.* На ростанях.

**ЗАЛІВАННЕ** *н.* Праборка, наганяй. *Ох, дасць Ракоўскі залівання, Калі панам не пашануе І сам глушца не запалюе..* Новая зямля.

**Залива́нне** *н. перан.* 'строгае цялеснае пакаранне' (Насовіч).

**ЗАЛОЖНА** *прысл.* Старанна, настойліва, упарта. *Антось заложна і цярпліва ў зямлю ўкладваў свае сілы.* Новая зямля. *Кабан рые павольна і заложна, усё болей і болей углыбляючыся ў зямлю.* Дрыгва.

**Зало́жна** *прысл.* 'старанна, рупліва' (Воран., Гродз. Сцяшковіч, 1972).

**ЗАЛОЖНЫ** *прым.* Бесперапынны, які працягваецца доўгі час. *Вецер заложны шуміць, не сціхае, Жаласна свішча праз плот.* Асенні дождж. *Заложную, аднатонную песню, песню-згоду, песню-калыханку плюскоча вада ў стаўку каля млына.* Туды, на Нёман! *А пад поўнач пасыпаў сняжок, заложны, спорны, густы і сухі.* На ростанях.

**ЗАМАЖДЖЭРЫЦЬ** *зак.* Пачаць страляць з мінамётаў. *Ідуць, жартуюць афіцэры. Яны спаткалі юнака У штабе гэтага ж палка. І раптам вораг замаджджэрыў!*

*Яны на дол, а гэты «шэры» Стаіць і зорыць звысака.* На шляхах волі.

**Можджѐръ** *м.* 'невялікая марціра' (Насовіч). Параўн. польск. *moździerz* 'мінамёт'.

**ЗАМАЗОХА** *м.* і *ж.* Неахайна, брудна адзеты чалавек. [*Тарэся*:] — *Не палохай* [*Аўгеня*], *не палохай, Шлюндра ты і замазоха!* За дождж.

**ЗАМАТОВАНЫ** *прым.* Якому аб'яўлены мат. *Нагуляюцца* [*астрожнікі*] *бывала так, што калі пакладуцца вечарам спаць, дык і шахматная дошка, і фігуры, і заматованы кароль доўга стаяць у вачах.* На ростанях.

**ЗАМЕЖ** *прыназ.* Замест. *Замеж пасцелі яму* [*астрожніку*] *кінулі мокрую салому.* Песня птушкі.

**Заміж** *прыназ.* 'замест' (Ваўк., Карэл., Лід., Уздз. СЦБ; Уздз. МСММГ, 1970); **за́місь** *прысл.* 'знарок', 'быццам', 'для віду' (Лоеў. Янкова).

**ЗАМЕЛЬВАЦЬ** *незак.* Заганяць рыбу ў сетку, топчучы нагой па дне рэчкі, ускаламучваючы ваду. *Андрэй стаяў нерухома каля краю сеткі, пакуль дзядзька Марцін, трымаючыся за абруч з процілеглага боку, не заносіў як мага далей нагу і не «замельваў» ёю, паволі гонячы рыбу.* На ростанях.

**ЗАМЕТКА** *ж.* Асаблівая заўвага. *І так дзед мяркуе і гэтак, Бародкай трасе: Няма за прышэльцам заметак, Такі, як і ўсе.* Адплата.

**Заме́та, заме́тка** *ж.,* **заме́т** *м.* 'прыкмета, заўвага' (Насовіч).

**ЗАМЕЦЬ** *ж., перан.* Блытаніна, няяснасць, супярэчлівасць. *Служыць не хоча яму* [*Барысу*] *памяць: Імгла наўсцяж і ў мыслях замець.* На шляхах волі.

**ЗАМЕШКА** *ж.* 1. Затрымка, замінка. *Ідзе з лапатай дзядзька з хаты. І адграбае снег заўзята. Ў гумно і ў хлеў праводзіць сцежкі, — Не хоча мець удзень замешкі, Бо ўдзень на рэчку і на тоні Сходзіць рыхтуецца Антоні.* Новая зямля. *А за сталом на верашчаку Падгатаўлялі ўжо атаку, — На гэта хлопцы былі хваты, Аладкі кроілі ў квадраты (Хоць геаметрыі не зналі) І на відэльцы іх чаплялі, Як бы на тычкі тыя вешкі, Каб не адстаць, не мець замешкі У часе дружнае яды.* Там жа. 2. Разгубленасць, збянтэжанасць. *Ад гэтых слоў, ад нечакання Прыходзіць*

*Насця ў замяшанне. Зірнула ў вочы, і ўсмешка — Такі дзявочы ўжо звычай — Змяняе смутак і адчай. У міг канчаецца замешка, Як у ігры — арол ці рэшка?* На шляхах волі.

**Заме́шка** *ж.* 'перашкода' (Хоц. Бялькевіч); **заме́ха** *ж.* 'перашкода; шум, спрэчка' (Насовіч). Параўн. польск. *zamieszki* 'хваляванні, неспакой'.

**ЗАМІРЭННЕ** *н.* Заключэнне міру; перамір'е. [*Дзяжа*:] *Народ наш прагне замірэння.* На шляхах волі.

**Замире́нне** *н.* 'мір, прымірэнне' (Насовіч); **замірэ́ньне** *н.* 'перамір'е' (Чэрв. Шатэрнік).

**ЗАМКНЁНА** *прысл., перан.* Адасоблена, ізалявана. *Адзінокі колас жыта Рос замкнёна і забыта, Адарваны ад загона.* Сымон-музыка.

**ЗАМУСЛЕНЫ** *прым.* Запэцканы, замусолены, зашмальцаваны. *Яхім развязаў скрутачак, загорнуты ў хустачку, анучачкі і паперку. Хустачка была замуслена, заплямлена.* Царскія грошы.

**ЗАМУХРЫСТЫ** *прым.* Непрыглядны, просты. *Тым не меней, нават і такі «лапсярдак» са спушчаным далёка ўніз станам, усё ж такі больш стасаваўся з важнасцю моманту, чым які-небудзь замухрысты пільчак вясковага настаўніка.* На ростанях.

**ЗАМУХРЫШКА** *м.* Пра худога, непрыгляднага, замучанага каня. *Ходзіць Янка за сахою Пры дарозе ў полі, Конік мернаю ступою Клыгае паволі, Ледзьве-ледзьве цягне сошку Замухрышка сівы.* Як Янка забагацеў.

**ЗАМШАВЕЛЫ** *прым.* Ускудлачаны, неахайны. — *Мікіта? Пракопаў Мікіта?! — узбурыўся дзед Піліп з замшавелаю бародкаю.* Адшчапенец.

**ЗАМЯРЭЖЫЦЬ** *зак.* Пакрыць мярэжыстым узорам. *Вобразн. Адзенуць новую адзежу Дубы, сталёвыя камлі, А хмаркі неба замярэжаць, Усплыўшы ціха з-за зямлі.* Не тужы.

**Мярэ́жыць** *незак.* 'вышываць мярэжкай' (Дзятл. Сцяшковіч, 1972). Параўн. польск. *mereżkować* 'вышываць мярэжкай'; укр. *замережити* 'зрабіць мярэжку; пакрыць якую-н. паверхню лініямі, плямкамі, якія нагадваюць сеткаватую тканіну з узорамі'.

**ЗАНАДЗІЦЬ** *зак.* Прывабіць падкормкай, прынадай. *І з вудай дзядзька шчасце мае: Язёў занадзіць і кілзае..* Новая зямля.

**ЗАНЮХАЦЬ** *зак.* Удыхнуць у нос. *Пазіраў ён [пісар] крыху прыжмурыўшыся, як бы ён толькі што занюхаў табакі і збіраўся чхнуць.* На ростанях.

**ЗАНЯВОЛІЦЦА** *зак.* Трапіць у залежнае становішча. *Ходзяць хлопцы бандаю, Ды гадаюць надвае Цішка і Андрэй: Ажаніся — клопату Набярэшся многа ты, Нажывеш бяды. Хочацца і колецца — Лёгка заняволіцца: Дзеўка [Таццяна] — крапіва!* Паслушная жонка.

**ЗАПАМАГЧЫ** *зак.* Дапамагчы. *Грош завёўся ў дзеда ў латах — Запамог Сымон яму..* Сымон-музыка.

**Запамагчы́** *зак.* 'дапамагчы' (Паст. СПЗБ); **запамага́ць** *незак.* 'дапамагаць' (Насовіч).

**ЗАПАМОГА** *ж.* Падтрымка, дапамога. [*Сымон да Ганны:*] — *Ты мне будзеш запамогай, Сіл крыніцаю жывых.* Сымон-музыка.

**Запамо́га** *ж.* 'дапамога' (Смарг. СПЗБ; Чэрв. Шатэрнік); **запоможе́нне** *н.* 'дапамога' (Насовіч). Параўн. укр. *запомога* 'падтрымка ў чым-н., дапамога'.

**ЗАПАМЯТАЦЬ** *незак.* Захоўваць у памяці; помніць. *Ніхто не запамятуе, з якога часу стаяў тут адзінокі курган.* Адзінокі курган.

**Запа́мятаць** *незак.* 'помніць' (Чэрв. Шатэрнік); **запа́мятаваць** *зак.* 'запомніць' (Шчуч. СПЗБ). Параўн. польск. *zapamiętywać* 'захоўваць у памяці'.

**ЗАПАЛЯВАЦЬ** *зак.* Палюючы, забіць звера, птушку. *Ох, дасць Ракоўскі залівання, Калі панам не пашанцуе I сам глушца не запалюе.* Новая зямля.

**ЗАПАРОЖЖА** *н., перан.* Тое, што знаходзіцца за парогам. *Што цікавей падарожжа, Негаданых з'яў быцця, Шуму лесу, спеву збожжа, Новых песень запарожжа, Спеву новага жыцця?* Сымон-музыка.

**Запаро́жжа** *н. зб.* 'людзі, якія прыйшлі паглядзець на вяселле' (Пін. ДСБ).

**ЗАПЕК** *м.* Месца паміж сцяною і печчу; запечак. *Толькі ж ты не страшна, бура, Тым, хто ў цёплай хаце, Дзе ёсць запек і пячура Ды яшчэ палаці.* Батрак. *Затым у запек шлі [хлопцы] і спалі, Туды ж і Яську яны бралі, Ён у сярэдзіне лажыўся, Ляжаў маўчком, не варушыўся.* Новая зямля. *Мінула ночка. Дзень праз вокны Знішчае цёмныя*

*валокны, На печ, у запек зазірае І ночку з хаты выціскае.* Там жа.

**За́пек** *м.* 'запечак' (Гродз. Цыхун; Слон. Сцяшковіч, 1972; Уздз. СЦБ); 'месца для спання за печкаю' (Бял. Бялькевіч); **за́пік, за́пык** *м.* 'ляжанка за печчу' (Драг., Іван., Пін. ДСБ); **запе́чча** *н.* 'запечак' (Лоеў. Янкова); **за́печак** *м.* 'месца ў хаце за печчу' (Гл. Янкоўскі, 1960); **за́пячак** *м.* 'памост каля печы, палок' (Люб. Жыв. сл., с. 149).

**ЗАПЛЕЧНЫ** *прым., перан.* Які робіцца за спіной у каго-н., без ведама каго-н.; цёмны. *Мы ведаем з газет, якія прамовы гаварылі ў Нюрнбергу фашысцкія майстры заплечных спраў.* З прамовы.

**ЗАПУСКІ** *толькі мн., іран.* Загавіны. *«Гуляе Марыніч, запускі спраўляе — сам сабе думае Пракоп, — у калгас наважыўся запісацца».* Адшчапенец.

**За́пускі** *мн.* 'апошні дзень перад пастом, калі ядуць скаромнае' (Уздз. СЦБ; Гл. Янкоўскі, 1960); 'апошні дзень перад постам' (Уздз. МСММГ, 1970; Чэрв. Шатэрнік); 'загавіны' (Бар., Воран., Гарад., Глыб. СПЗБ); **за́пускы** *мн.* 'час ад канца восені да каляд' (Іван. Жыв. нар. сл., с. 96); **за́пусты** *мн. устар.* 'апошняя нядзеля перад вялікім постам' (Малар. ДСБ); 'субота перад масленіцай' (Іўеў. МСММГ, 1970).

**ЗАПЫНАК** *м.* Перашкода. *У лесе нікога не было, і агонь без запынку разгульваўся на волі. Цэлае возера агню абнімала лес да палавіны, разлівалася кругом і займала ўсё большую і большую лапіну.* Лясны пажар.

**ЗАПЫНКА** *ж.* Вымушаная затрымка ў чым-н. *Смяюцца залацінцы. Але тут зноў запынка робіцца. Сусла Кандрат не рухаецца.* Туды, на Нёман!

**Запы́нка** *ж.* 'перашкода, затрымка' (Карэл. Сцяшковіч, 1972).

**ЗАРАННЕ** *прысл.* Заўчасна. *Чую прычытанне, Чую плач я нечы, Скончыўся заранне Век твой, чалавеча.* Пахаванне.

**Зара́ння** *прысл.* 'рана' (Верхнядзв., Віл., Ганц., Зэльв., Лях., Свісл. СПЗБ); **зара́не** *прысл.* 'вельмі рана' (Пух., Стаўб. СЦБ; ТС); 'рана' (Пух. МСММГ, 1970); **зара́нё** *прысл.* 'ранавата, раней звычайнага часу' (Зэльв. Сцяшко-

віч, 1972); 'рана' (Карэл. Сцяшковіч, 1983); **зара́ней** *прысл.* 'рана, раней' (Калінк., 3 нар. сл., с. 263); **за́рани** *прысл.* 'раней часу' (Насовіч).

**ЗАРУБ** *м.* Метка, знак, зробленыя сякерай, нажом; зарубка, засечка. *Знайшлі бярэзіну, спыніліcь. Залысіў дзядзька дрэва злёгку (Сякерка востра, кара крохка), Зрабіў заруб, латак прыправіў, А пад латак гаршчок паставіў.* Новая зямля.

**Зару́ба** *ж.*, **зару́біна** *ж.* 'зарубка, засечка' (ТС); **зару́біна** *ж.* 'засечка, зарэзка для адзнакі' (Чэрв. Шатэрнік).

**ЗАРУЧКА** *ж.* 1. Рэкамендацыя. *У яго [Сцёпкі] яшчэ не ўсе дакументы сабраны. Яму трэба заручка камсамольскай ячэйкі.* На прасторах жыцця. 2. Падтрымка. — *Ды гэта так! — Міхал уздыхае: — Але заручкі ён [Галонскі] не мае: Яго паны не падтрымаюць, Бо на прымеце іншых маюць.* Новая зямля. *Папасці ў такую камеру звычайнаму смяротнаму было трудна. Для гэтага трэба было мець заручку за сценамі астрога, каб добра дагадзіць адміністрацыі турмы.* Цені мінулага.

**ЗАРЫГАЦЕЦЬ** *зак.* Зарыпець, заскрыгатаць. *Лапата па лёдзе ураз загучала, Зарыгацела яна, запішчала Срэдзь чыстага лугу ў зімовай цішы.* Дзяцінныя годы. *Заскрыпелі, застагналі таўшчэразныя гладкакамлёвыя хвоі, густа і жалабна зашумелі кашлатыя яліны, неміласэрна б'ючыся лапамі; завылі асіны, ліпы, бярозы, клёны і вербы; загулі магутныя дубы, і громам грымелі іх чорныя жэралы; зарыгацелі сукаватыя вязы і грабы.* Стары лес.

**ЗАСАБ** *прысл.* Адзін за адным, падрад. *У дзедавых думках цэлая злучнасць вобразаў прамільгне: луг, касавіца, касцы, копы сена, пракосы, пажаўцелыя нівы... І ўсё гэта выплыве засаб, як нейкі малюнак, напісаны рукою мастака.* З боку ад жыцця.

**ЗАСЛОН** *м.* Пераносная лаўка; услон. *Каля печы стаяў ужо заслон, накрыты чыстым настольнікам. На адным яго канцы стаяла ражка з цестам.* Калядны вечар.

**Засло́н (зусло́н, зысло́н)** *м.* 'невялікая лаўка' (Пух. Шатэрнік).

**ЗАСЛОНЧЫК** *м.* Памянш. да заслон. *Маладая Сусліха падстаўляе інструктару заслончык.* Туды, на Нёман!

**ЗАСТАРОННЕ** *н.* Адгароджанае ад току месца ў гумне для складвання снапоў, саломы, мякіны; застаронак. *У*

*застаронні ляжала даволі ёмкая куча леташняй саломы, пагрызенай мышамі.* На ростанях.

**Застарóн** *м.* ‘застаронак’ (Лоеў. Янкова); **зáстаранка** *ж.* ‘застаронак’ (Ашм. Сцяшковіч, 1983); **застарóнак** *м.* ‘прыстаронак, месца ў гумне паабапал току, дзе складваецца збожжа’ (Бял., Мсцісл. Бялькевіч); ‘месца ў гумне для складвання снапоў’ (Гл. Янкоўскі, 1960); ‘адгароджаная невысокай сцяной частка гумна, дзе складаецца збожжа’ (Маладз. МСНДМ, с. 98); **зáстаранак** *м.* ‘адгароджанае месца ў гумне для складвання збожжавых, мякіны’ (Астр., Барыс., Бярэз., Віл., Кам., Паст. СПЗБ).

**ЗАСТУПА** *ж.* 1. Пра таго, хто з’яўляецца абаронцам, заступнікам. *Цётка Тарэса была для Юркі тою заступаю, за плячыма якой Юрка чуў грунт пад нагамі.* Сірата Юрка. 2. Заступніцтва. *Адно цяпер яго* [*Міхала*] *прагненне — Прад кімся пасці на калені, Прасіць заступы, абароны Ад гэтай страшнае праклёны.* Новая зямля.

**Застýпа** *ж.* ‘абарона’ (Карэл. Сцяшковіч, 1972).

**ЗАСЦЕННЕ** *н.* Месца, дзе праводзяцца допыты з катаваннямі арыштаваных; засценак. *Па засценню — здзек, расправа Дэфензіўных катаў... Гонар, пан Пілсудскі, слава Панскім тваім пятам!..* Польскім кáтам.

**ЗАСЦЕНЬ** *ж., перан.* Туман, цемра; заслона. *Спадае з памяці заслона, І сходзіць засцень забыцця — Хвіліна цёмная жыцця, Праява жорсткага закона, ён* [*Шкунда*] *глядзіць вакол здзіўлёна, Пытае сам сябе: «Дзе я?»* На шляхах волі.

**Зáсцень** *ж.* ‘месца ў цені, дзе няма святла, ззаду за будынкамі’ (Насовіч).

**ЗАСЦЕНЬВАЦЦА** *незак.* Зацягвацца, засланяцца хмарамі. *Яшчэ з вечара неба з паўднёвага боку засценьвалася дымнаю павалокаю лёгкіх воблакаў, а над далёкімі лясамі звісала тонкая блакітная смуга, прадвеснік адлігі.* Дрыгва.

**Засцéньвацца** *незак.* ‘зацягвацца хмарамі’ (Уздз. МСММГ, 1974); **засцéніцца** *зак.* ‘зацягнуцца хмарамі’ (Лід. СПЗБ; Дзятл. Сцяшковіч, 1983).

**ЗАСЦЕНЬВАЦЬ** *незак.* Зацягваць, засланяць чым-н. *Моцна парыла, а потым Стаў павейваць вецярок Ды густы, падуў з заходу І засценьваў неба край.* Сымон-музыка.

**За́сьціць** *незак.* 'зацямняць, заступаць святло, агонь (Чэрв. Нар. лекс., с. 63); **заза́сціць** *зак.* 'зацямніць' (Хоц. МАСМ); **за́сціць** *незак.* 'загароджваць свет' (Гродз. Сцяшковіч, 1972); **за́сьціць, за́сьцініць** 'засціць, засланіць сабою свет' (Мсцісл. Бялькевіч); **за́стоваты** *незак.* 'засланяць святло' (Іван. ДСБ); **засценя́ць** *незак.* 'засланяць, загароджваць' (Насовіч).

**ЗАСЦЯРОЖЛІВЫ** *прым.* Які робіцца з асцярогай; асцярожны. *Гэты нясмелы засцярожлівы стук моцна ўразіў бабку і прымусіў забіцца яе сэрца..* Дрыгва.

**ЗАТАРАРАХКАЦЬ** *зак.* Ад моцнага, раскацістага гуку затрашчаць. *Другі гук быў яшчэ грамчэйшы, яшчэ зласней затарарахкаў лес, і чорны густы дым паваліў ад будкі.* На чыгунцы.

**ЗАТОПА** *ж.* 1. Залітае вадой, непраходнае месца. *А тут* [*у замку*] *... павуццё пана-магната, Панурыя сцены І валы-акопы, Затопы.* Сымон-музыка. 2. *перан.* Перашкода. *Але выходзіць ён* [*Дзяжа*] *з акопу, — На версе дышыцца вальней, А ноч становіцца цямней, І скрозь цямраную затопу Не возьмуць следу яго, тропу, І тут глядзець на ўсё зручней.* На шляхах волі.

**Зато́па** *ж.* 'паводка, разводдзе', 'дрыгва, гразь, твань' (Мсцісл. Юрчанка, 1966); 'затопа, паводка' (Краснап. Бялькевіч); 'вялікая гразь; багністае месца, багна, твань' (Насовіч); **зато́пнуць** *зак.* 'затануць, утапіцца' (Ваўк. Сцяшковіч, 1972).

**ЗАТОЧНІЦА** *ж., перан.* Пра таго, у каго па нейкіх прычынах абмежаваны дзеянні, перамяшчэнне; нявольніца. *Мая мілая заточніца! Як тваё самапачуванне?* З пісьма.

Параўн. руск. *заточить* 'пасадзіць у турму, саслаць у манастыр і пад.'

**ЗАТРЭНЬКАЦЬ** *зак.* Застракатаць. *У лісцю конік дзесь затрэнькаў, І пчолы такжа памаленьку У хор зліваюць галасы.* На шляхах волі.

**ЗАЎСЯГДЫ** *прысл.* Заўсёды. *Заўсягды зямля маўкліва: Як ні бі яе — маўчок!* Сымон-музыка.

**Заўсягды́** *прысл.* 'заўсёды' (Бярэз., Маладз., Стаўб., Чэрв. СЦБ; Верхнядзв., Віл., Слон. СПЗБ); **заўсягда́** *прысл.* 'заўсёды' (Лоеў. Янкова).

**ЗАЎЧЭСНІ** *прым.* Які наступіў, адбыўся раней, чым трэба; заўчасны. *Паслухай добра: чуеш песні? Цяпер яны ўжо не заўчэсні, Ужо бо сонейка праменні Гатуюць шлюбныя адзенні І ткуць карону дарагую Вянчаць зямельку маладую...* Новая зямля.

**ЗАЎЧЭСНЯ** *прысл.* Заўчасна. *Няма ў пісьме ні слоў звароту, Ні нават аўтара пісьма, Затое ж пісар узяў ноту, Што сіл працівіцца няма, Каб не дазнацца, што за песня І лад які яе ў пісьме, І чмыша пан ужо заўчэсня Ды ў нос пахрапвае і дзьме.* Рыбакова хата.

**Заўчэ́сне** *прысл.* 'загадзя, своечасова' (Уздз. МСММГ, 1977); 'загадзя, зараней, наперад' (Уздз. СЦБ); **заўчэ́сьня** *прысл.* 'заўчасна, раней часу' (Мсцісл. Бялькевіч). Параўн. польск. *za wcześnie* 'вельмі рана'.

**ЗАФУНДАВАЦЬ** *зак.* Пачаставаць. [*Вінцэнт да Сарнецкага*:] *Калі мёду пан дастане І спірытусу з паўкварты Ды калі мне зафундуе, — Дзіва-цуд я спраўлю.* Святы Ян. *Карацей сказаць — Барбутовіч хацеў, каб дзядзька Марцін зафундаваў яму ўсё ж такі.* Дзядзькаў сведка.

**Зафундава́ць** *зак.* 'пачаставаць' (Навагр., Смарг., Шчуч. СПЗБ); **зафундзі́ць** *зак.* 'пачаставаць' (Ашм. СПЗБ; Маладз. СЦБ); 'зрабіць пачастунак з выпіўкай' (Гродз. Цыхун). Параўн. польск. *fundować* 'запрашаць каго-н. і плаціць за пачастунак; купляць каму-н. падарунак; ахвяроўваць што-н.'

**ЗАХАДЗІЦЦА** *зак.* Захваляваца. — *Дзядзечка, усё скажу, што ведаю. Збілі з дарогі мяне, дурня. Даруйце мне!* — *захадзіўся дзяцюк і выдаў усе сакрэты банды.* Адзін.

**Захадзі́цца** *зак.* 'усхадзіцца' (Лоеў. Янкова); 'затурбавацца, забегаць, замітусіцца' (Чэрв. Шатэрнік); 'забуяніць, пачаць бурна, нястрымана паводзіць сябе' (Гл. Янкоўскі, 1970); **захадзі́цца** *незак.* 'хваляваца' (Краснап. Бялькевіч).

**ЗАЦЕМКІ** *мн.* Прыцемкі. [*Панас*:] — *Заўтра ён* [*бацька*] *прыйдзе ў зацемкі.* Дрыгва.

**За́цемкі** *мн.* 'змярканне' (Карэл. Сцяшковіч, 1972); 'прыцемкі, час пасля змяркання' (Пух. СЦБ); **за́цемак** *м.* 'прыцемак' (ТС).

**ЗАЦІШАК** *м.* Ціхае, затуленае ад ветру месца. *Белы пух атрэслі з шапак Хвойнікі, ляскі, А іх за́цішкі, як запек, Туляць дол, пяскі.* Чуваць вясна.

**Заці́шак** *м.* 'месца каля будынкаў ці ў лесе, куды не даходзіць вецер' (Докш. МСНДМ, с. 71); **за́цишек** *м.* 'утульнае, спакойнае месца' (Насовіч); **за́циш** *ж.* 'месца, закрытае ад шуму, ветру' (Насовіч).

**ЗАЦЯТА-МАЎКЛІВЫ** *прым.* Насцярожана-маўклівы, затоена-маўклівы. *Многа разоў бачыў ён [Лабановіч] гэтыя агні, і яны здаваліся яму нейкаю чароўнаю ўсмешкаю сярод зацята-маўклівай цемры і заўсёды былі прынадныя і любыя, як сімвалы вечнага жыцця.* На ростанях.

**ЗАЦЯТА-НЕМЫ** *прым.* Настойлівы, дзікі. *Часцей, гучней равуць гарматы, Бой разгараецца зацяты, Дымяцца ўзгоркі і лагі, Дрыжаць, калоцяцца паземы, Агні выбухваюць, і дым Кладзецца покрывам рудым. Усцяжны гуд, зацята-немы Пужае ціш пяшчотнай дрэмы І ломіць грукатам густым.* На шляхах волі.

**ЗАЧАПКА** *ж.* Прычына, падстава; зачэпка. *Невядомы крытык дае і яму зачапку паварушыць мазгамі, ці не можна скарыстаць гэта як сюжэт для камедыі, бо ў Амелькі да гэтага часу справа з сюжэтам яшчэ не вырашана.* Драматург і лірычны паэт.

**За́чапка** *ж.* 'прычына' (Кобр. Нар. лекс., с. 93), **зачэ́пка** *ж.* 'прычэпка, прыдзірка' (Карэл. Сцяшковіч, 1972); **заче́пка** *ж.* 'прыдзірка' (Насовіч).

**ЗАЧАСАЦЦА** *зак.* Пранікнуць, прабрацца куды-н., не маючы на гэта ніякіх падстаў. *Ў садок зайшоў [Міхал] і пчол паслухаў, А ў сенях стаў сабаку перыць, Што ўночы кепска дом пільнуе, Што мала брэша, кепска чуе, Зайцоў не гоніць і не ловіць, А толькі знае і наровіць, Каб як у хату зачасаца.* Новая зямля. *На гэтым здымку фігуруеш і ты [Глебка]. Я паглядзеў на твае багатырскія вусы.. І ведаеш, што прыйшло мне ў галаву? Каб да тваіх вусоў дарабіць бараду, якую насіў Мікалай II, дык можна было падумаць, што ў беларускую пісьменніцкую грамадскасць зачасаўся Мікалай.* З пісьма.

**ЗАЧЫЧЫКАЦЬ** *зак.* Пачаць утвараць гукі, якія ўласцівы для сарокі. *Сарока, зразумеўшы думкі лазовых кустоў,*

*першая зачычыкала, зашыкала, забалбатала на ўсе галасы: — Чуеце, Чуеце! Дуб старэе!* Як птушкі дуб ратавалі.

**ЗАШАЙ** *м.*: **У ЗАШАЙ.** У карак. *Далёка, дзянькі вы юнацкасці нашай, Не вернем іх, дружа, назад: Нямілая старасць таўчэ нас у зашай, А старасці хто, скажы, рад?* Давай пагамонім, Якубе, з табою...

**За́ший** *м.* 'патыліца' (Насовіч).

**ЗАШАЛАМІЦЬ** *зак.* Ап'яніць, адурманіць. *Выпітая бутэлька піва зашаламіла галаву.* На ростанях.

**Зашоломане́ць** *зак.* 'адурманіцца' (ТС); **зашаламані́цца** *зак.* 'выпусціць з-пад увагі, не разлічыць' (Стаўб. СЦБ).

**ЗАШАЛОХАЦЦА** *зак.* Зварухнуцца, зашавяліцца. *Чубок* [*валасоў*] *чуць-чуць зашалохаўся.* Трагізм.

**Шоло́хацьца** *незак.* 'хістацца, вагацца, шавяліцца' (Насовіч).

**ЗАШАМКАЦЬ** *зак.* Пачаць утвараць гукі, падобныя да рэзкага шоргату. *Потым зарыпелі вароты ў клуні і, трошкі счакаўшы, сярдзіта зашамкала сячкарня вострымі нажамі, перасякаючы салому на дробныя шматочкі.* Адшчапенец.

**Ша́мкаць** *незак.* 'ствараць ціхі, чуць чутны шум перасоўваннем дробных прадметаў' (Насовіч).

**ЗАШМУЛЯЦЦА** *зак.* Зашмальцавацца, замусоліцца. *Тарас Іванавіч сказаў з запалам: — І чалавек з часам аблупліваецца, і пашпарт мяняеш ты ў воласці, а то дзіва, што карты зашмуляюцца.* На ростанях.

**Зашму́лены** *прым.* 'запэцканы, забруджаны' (Воран. Сцяшковіч, 1972).

**ЗАШЫТЫ** *дзеепрым.* Пакрыты чым-н. — *Лаві яго, гада! Куды ты? — Дзед Сёмка крычыць праразліва Ды ў лес, верасамі зашыты, Кулём, па-старэчы імкліва.* Адплата.

**ЗАЯРЫЦЬ** *зак.* Захапіць каго-н. у недазволеным месцы і прагнаць. *Кур заярыў дзед ў ячмені, Нос уцёр ён свой кірпаты Ды йдзе к пану на дзядзінец, Нібы пана ён не бачыць.* Панскі гонар. *Якраз на тое ліха Зося заярыла з кухні сабак.* Старыя падрызнікі.

**Зая́рыць** *незак.* 'пагнаць' (Уздз. МСММГ, 1974); 'шпурнуць з лютай сілай' (Уздз. СЦБ).

**ЗАЯСНЕЦЦА** *зак.* Пачаць яснець, станавіцца ясным. *Як лагодная ўсмешка, заяснелася неба на ўсходзе, заяснелася і паружавела.* На ростанях.

**ЗБАНКРУТАВАЦЬ** *зак.* Пацярпець крах у ідэйных або маральных адносінах; абанкруціцца. *Збанкрутаваў урад Часовы. Утраціў свой аўтарытэт Сярод салдат іх камітэт.* На шляхах волі.

**Збанкру́ціцца** *зак.* 'збанкрутавацца, страціць давер' (Хоц. Бялькевіч); **збанкрутова́цьца** *зак.* 'страціць давер людзей' (Насовіч).

**ЗБАРОЦЬ** *зак.* Перамагчы, адолець. *Як відаць, на гэты раз не збароць мне свае хваробы.* З пісьма.

**ЗБЕГ** *м.* Уцякач, бягляк. *Убачыўшы верхавога, салдат запыніўся: верхавы махнуў яму шабляй, даў знак спыніцца — злавіць збега ён браўся сам.* Дрыгва. — *Зірні толькі, што за арол! — На збега дзед хітра ківае: — Ідзе — угінаецца дол, Пастава і та баявая.* Адплата.

Параўн. польск. *zbieg* 'той, хто збег, бягляк'.

**ЗБЛЁКНУЦЬ** *зак., перан.* Страціць прывабнасць, свежасць. *Яна [Ядвіся] была, — і там было жыццё, там жыла радасць, нейкая паўната гэтага маладога жыцця. А цяпер яе няма там, — і ўсё зблёкла, як бы замерла..* На ростанях.

**Зблёклый** *прым.* 'завялы, збляднелы; палінялы' (Насовіч).

**ЗБОЙСТВА** *н.* Забойства. *І нават на вайне ў гарачы момант збойства пад свістам куляў і громам гармат не так страшна, як страшны папярэднія перажыванні гэтага страхоцця.* Цені мінулага.

**ЗБОЙЦА** *м.* Разбойнік. *Язэп варушыцца ў бярлогу, Ўстае, пачухваецца, плача: Што-то за доля, за бядача! Ці ён распуснік? ці ён збойца? — Ну, кленч!.. хрысціся! ў імя ойца!..* Новая зямля.

**Збо́йца** *м.* 'завадатар боек, задзіра, забіяка' (Гродз. Цыхун); 'разбойнік; той, хто хоча біцца' (Насовіч); **збо́ец** *м.* 'забойца' (Ваўк. СПЗБ). Параўн. польск. *zbój, zbójca* 'разбойнік'.

**ЗБОРНАЯ, ЗБОРНЯ** *ж.* Памяшканне пры валасным упраўленні, дзе адбываліся сходы грамады. *А на «зборнай», як на кірмашы, гаманіў сход.* Выбар старшыні. *На*

*ганку перад зборняю спаткаў Лабановіча валасны сторож дзед Піліп.* На ростанях.

**Збóрня** *ж.* ‘сходка, натоўп (людзей)’ (Салігор. Нар. словатв., с. 109); ‘зборышча’ (ТС); ‘зборышча з мэтай павесяліцца або для чаго іншага’ (Чэрв. Шатэрнік).

**ЗБЫЦЦА** зак. Пазбыцца, пазбавіцца. [*Кулак*:] *А дзе маё прыстанне, Парогі-берагі? За што мне пакаранне? Не збыцца мне тугі?* Калгаснае.

**Збы́цца** *зак.* ‘звесціся’ (Пух. МСММГ, 1970); **збыць** *зак.* ‘старацца пазбавіцца ад каго-н.’ (Івян., Стаўб. СПЗБ); **збуць** *зак.* ‘збыць’ (ТС).

**ЗБЭРСАЦЬ** *зак.* Перамяшаць, зблытаць. *Вобразн. Каму паскардзіцца? Каму? Хто зблутаў, збэрсаў яго ніці?.. І плакаў Ян над гэтым дзіцем!..* На шляхах волі.

**Збэ́рсаць** *зак.* ‘зблытаць’ (Гродз. Цыхун); ‘зрабіць абы з рук, сапсаваць’ (Слон. Нар. лекс., с. 52); ‘скруціць, зматаць’ (Брасл. СПЗБ); ‘звязаць’ (Уздз. СЦБ).

**ЗВАДЛІВЫ** *прым.* 1. Які ўводзіць у зман, падманлівы. *Начная звадлівая ціша Наводзіць страхі талакой, І ім* [*уцекачам*] *здаецца — нехта піша Прысуд халоднаю рукой.* Рыбакова хата. 2. Спакуслівы, заманлівы. *І гэтая звадлівая думка — калі праедзе на машыне, то паступіць на рабфак — таксама жыве ў яго* [*Сцёпкі*] *галаве, карціць яму, спакою не дае.* На прасторах жыцця. *А думак звадлівыя роі Плывуць і кружацца над ёю* [*Насцяй*]. На шляхах волі.

**Зва́длівы** *прым.* ‘пагрозлівы, здрадлівы’ (Карэл. Сцяшковіч, 1972); **зва́длівы** *прым.* ‘сварлівы’ (Маладз. СЦБ).

**ЗВАДНЫ** *прым.* Небяспечны, здрадлівы. *І рушыў мітынг цвёрда ў ногу Ад гут і камскіх берагоў Пад шэлест чырвані сцягоў, І вецер мітынгу ў падмогу Шыбуе з ім у адну дарогу. Дарога ж звадна — будзь гатоў!* На шляхах волі.

**Зва́дны** *прым.* ‘пагрозлівы, здрадлівы’ (Карэл. Сцяшковіч, 1972).

**ЗВАРГАНІЦЬ** *зак., зневаж.* Скласці, выдаць. [*Шкунда*:] *А гора-рэвалюцыянеры, Іх падбрэхічы, эсэры І меншавікі, Прыказ зварганілі такі: «Забараняюцца дэманстрацыі»!* На шляхах волі.

Параўн. руск. *сварганить* ‘згламэздаць, зляпаць’.

**ЗВАРОТ** *м.* Кругаварот у чым-н., змена чаго-н. іншым. *Зварот пары, зніканне лета... То — водгулле душы паэта, То — смутны вобраз развітання, То — струн дрыгучых заміранне, Натхненнай песні жаль сардэчны.* Новая зямля.

**ЗВАРОТАК** *м.* Заклік, зварот да каго-н. *Разам з гэтым пісьмом я пасылаю на імя Цімоха Сазонавіча свой зваротак да нашага народа.* З пісьма.

**Зваро́тка** *ж.* 'моўны этыкет' (Паст. СПЗБ).

**ЗВЕРЫНА** *ж., зб.* Звяры. [*Настаўнік*:] — *А я чуў, што тут яшчэ многа зверыны?* [*Сцяпан Рылка*:] *Ёсць, праўда, але хіба столькі, як даўней?* На ростанях.

**Зверына́** *ж.* 'звяр'ё' (Мёр. Нар. словатв., с. 155); 'звер' (Мёр. Нар. словатв., с. 162).

**ЗВОДЫ** *мн.* Памылковае, ілюзорнае ўяўленне; зман. *Сымон імкне на агароды, А сам калоціцца, дрыжыць. І раптам бачыць — ці то зводы? — Выходзіць нехта з-за мяжы.* Рыбакова хата.

**Зво́ды** *мн.* 'выдумкі, плёткі' (Навагр. З нар. сл., с. 58; Клім. МАСМ); 'плёткі' (Івац. ДСБ; Люб. Жыв. сл., с. 149; Капыл. З нар. сл., с. 101); **зво́дны** *прым.* 'ашукальны, падманлівы' (Воран. Сцяшковіч, 1983); **зво́дзіць** *незак.* 'ашукваць' (Чэрв. Шатэрнік); 'падводзіць, падманваць' (Навагр. СПЗБ).

**ЗВОННАПЛЫЎНЫ** *прым.* Які ўтварае меладычныя гукі, што далёка чуваць. *Адратуе ён* [*Сымон*] *дзяўчыну, Мрок з душы адгоніць проч! Кінуў погляд ён нясмела У бок цёмнага акна, І натхненна зазвінела Звоннаплыўная струна.* Сымон-музыка.

**ЗВОННЫ** *прым.* 1. Які мае адносіны да звона; звонавы. *Ды маўчаў прастор бяздонны, — Навакола ўсё нямела, Бура ўзняцца там не смела, Бо мінута песень звонных Дабратою сэрцы грэла.* Сымон-музыка. 2. Звонкі, зычны, гучны. *Ротны зырыць міг кардонны, каб падаць той голас звонны. Ды спаліць, як з перуна. І гаркнуў настырна, Маладзецкі брава..* На шляхах волі.

**ЗВЯЗІСТЫ** *прым.* 1. Моцнага целаскладу (пра чалавека); дужы. *Шчодра ўсё даў бог сіроце, — Маладзец быў малайцом. Чарнавокі, твар прыгожы, Стройны, звязісты, як*

*сук. Каб убраць яго, нябожа, Эх, што быў бы за дзяцюк!* Батрак. 2. Магутны, крэпкі (пра дрэва). *Вось сашчапіліся два адвечныя асілкі: магутны, прысадзісты, гузаваты, звязісты дуб з таўшчэразным і высачэзным вязам.* Стары лес.

**Звя́зісты** *прым.* 'моцна зложаны' (Карэл. Сцяшковіч, 1972).

**ЗГІНЕННЕ** *н.*, **ЗГІНОТА** *ж.* Гібель, пагібель. *Ішлі вы* [*хлопцы*] *на смерць, на згіненне, За люд наш, за вольнасць зямлі.* Адплата. *«Эге, брат, дрэнныя праяўкі: Прыйшла згінота на Міхася!» — Падумаў ён у нейкім страсе, І нават сэрца ў ім апала.* Новая зямля.

**Згіно́та** *ж.* 'пагібель, знішчэнне' (Карэл. Сцяшковіч, 1972; Гродз. Цыхун); **згі́бель, згіно́та** *ж.* 'пагібель' (Навагр., Паст., Шчуч. СПЗБ); **згі́менё** *н.* 'пагібель' (Зэльв. Сцяшковіч, 1983); **згі́на** *ж.*, **згине́нне** *н.* 'пагібель' (Насовіч).

**ЗГОН** *м.* 1. Перагон, сплаў па вадзе ў пэўнае месца бярвенняў, частак плыта. [*Маці да малога сына*:] *Будзеш летам ты хадзіць На плыты, на згоны, З Коўны матцы прынясеш Хоць гарсэт чырвоны...* Песня над калыскай. *Зімою возяць* [*мікуцічане*] *калоды, вясною і летам ходзяць на сплаў — на згоны і на плыты.* На ростанях. 2. Звяно плыта, плыт. *Рэчкі ўсюды памялелі, Пераходзяць куры ўброд, І стаяць па дзве нядзелі Згоны, збіўшыся на мелі...* За дождж.

**Згон** *м.* 'адзін састаў плытоў' (Гродз. Сцяшковіч, 1972); 'плыт' (Уздз. СЦБ); 'партыя, чарада плытоў' (Гродз. Цыхун); **зго́нка** *ж.* 'лаўка, адно звяно плыта' (Навагр. Нар. лекс., с. 153); **зго́ншчык** *м.* 'плытнік, сплаўшчык' (Беш. Нар. сл., с. 94).

**ЗГОРАЦЬ** *зак.* Зрабіць што-н. з вялікімі цяжкасцямі, намаганнямі. — *Цяпер мы, браце, — да Данілы Прамовіў слова і рыбак: — Дамок свой згораем сяк-так І возьмем Богута мы ў вілы!* Рыбакова хата.

**Зго́раць** *зак.* 'здабыць, збудаваць' (Шчуч. Сцяшковіч, 1972).

**ЗГРАБАСТАЦЬ** *зак.* Адабраць што-н. ад каго-н. *А той падшывалец Пусціў у ход палец, Залезшы Міхасю ў кішэню. Прапалі надзейкі: Усё да капейкі Зграбастаў нягоднік у жменю.* Рагатка.

**Зграбсці́** *зак.* 'згрэбсці, абхапіць' (Гродз. Цыхун).

**ЗГРУНТАВАЦЬ** *зак.* Паладзіць, ужыцца з кім-н. [*Яхім да Сымона*:] *Ты — падкухцік, ты — музыка, Падмятайла, ваданос, Лупіць Шлёма з цябе лыка, Як каня запрог у воз! Няма ў Шлёмы к табе ласкі, не згрунтуеш ты, брат, з ім! Цяжка жыць з чужой папаскі, Лепш ідзі к бацькам сваім.* Сымон-музыка.

**ЗГРЭБНЫ** *прым.* Зрэбны. *Палешукі рэдка мяняюць зімовую адзежу нават улетку: той жа доўгі кажух, падпяразаны шырокім, як шалік, поясам з кутасамі; тая ж аблавухая шапка-кучомка; доўгая белая кашуля, напушчаная на згрэбныя порткі; тыя ж лазовыя лапці, падплеценыя лыкам замеж рэменя.* Палеская вёска.

**Згрэ́бны** *прым.* 'саматканы, зрэбны' (Дзятл. Сцяшковіч, 1972); **згрэ́бліна** *ж.* 'грубае палатно' (Гарад. СПЗБ).

**ЗГУК** *м.* Гук, водгук. *І хоць ваенныя навукі Ён* [*Дзяжа*] *там праходзіў у тылу І меў за гэта пахвалу, Ды тут ён чуўся, як бязрукі: Вайна ў зямлі, яе тут згукі, А не манеўры на далу.* На шляхах волі.

**Згук** *м.* 'рэха', 'гук' (ТС; Стол. Нар. лекс., с. 124); 'гук' (Салігор. Нар. словатв., с. 109).

**ЗДАНЕ** *н.* Думка, меркаванне. *Выходзіла так, што стараста казаў праўду. Гэтага здання напэўна трымалася і ўсё цельшынскае насельніцтва...* На ростанях. [*Людміла*:] — *А чым жа я вінавата, што вакол мяне дурні? Лабановіч засмяяўся. — Кепскага ж вы здання аб вашых кавалерах, і я на гэты раз вам вельмі рады, што не ў іх ліку.* Там жа.

**Зда́нне** *н.* 'меркаванне' (Насовіч). Параўн. польск. *zdanie* 'думка, погляд, меркаванне, перакананне'.

**ЗДАНКІ** *мн.* Здані, прывід. *Ды так ціха, так пужліва, Нібы зданкі або дзіва Невядома скуль ўстае.* Перад бураю. *Страшна хлопцу мімаволі, Прабірае яго жудзь, А высокія таполі з мроку зданкамі ўстаюць.* Сымон-музыка.

**Зда́нкі** *мн.* 'зданні' (Верхнядзв. СПЗБ); **здань** *ж.* 'здань, прывід' (Шчуч. СПЗБ); **зда́нка** *ж.* 'здань, насланнё' (Карэл. Сцяшковіч, 1972); **зда́ньне** *н.* 'здань' (Мсцісл. Бялькевіч; Чэрв. Шатэрнік).

**ЗДОЛЬНА** *прысл.* 1. Умела, па-майстэрску. [*Жнейкі*:] — *Ось, глядзеце, здольна грае, Як дудар той запраўскі! Так,*

*галубкі, выцінае, Што рве сэрца на кускі.* Сымон-музыка. 2. Весела, гарэзліва, гучна. *Тут так прахладна, так прывольна! А пташкі голасна і здольна Смяюцца мілым шчабятаннем I поўняць луг сваім спяваннем.* Новая зямля.

**ЗДОЛЬНЫ** *прым.* 1. У якім адчуваецца лёгкасць, умеласць, свабода. *I бачу лес я каля хаты, Дзе колісь весела дзяўчаты Спявалі песні дружным хорам, З работ ідучы позна борам. Нясліся зыкі песень здольных, Ў лясах раз-пораз адбіваліс, I ім узгоркі адклікаліс.* Новая зямля. *А ў гэтым хоры выдзяляўся Прыятны голас певуна, I трэлі песні дзіўназдольнай Лавіла неба глыбіна.* Пясняр вясны. 2. Выкананы ўмела, па-майстэрску. *Дрыгучы блеск вакол гуляе, I цьму адгэтуль адганяе, I піша здольныя малюнкі, I фарбаў розныя гатункі Па тоўстых хвоях раскідае.* Новая зямля. 3. Кідкі, выразны. *Вобразн. Палоскі нівак йшлі абрусам, Гаі, лясочкі здольным вусам Ў палях то тут то там чарнелі, Як бы на сонейку гарэлі.* Новая зямля.

**Здо́льный** *прым.* ‘здольны, даравіты’ (Насовіч; Чэрв. Шатэрнік).

**ЗДРАСАВАЦЬ** *зак.* Патаптаць, вытаптаць. *А грэчка якая! Вачэй не адвесці — На каліве зернят бадай што пад дзвесце. Ды толькі ж саломку зайцы здрасавалі, А поўныя зерні цяцеры склявалі.* Адсталы калгас. *Разоў пяць [Сымонка] губляў авечкі, Шкоды ў полі нарабіў, Здрасаваў шнуроў тры грэчкі, Вератнік аўса прыбіў!* Сымон-музыка.

**Здрасава́ць** *зак.* ‘сапсаваць, стаптаць’ (Маст. Сцяшковіч, 1972); **здросова́ць** *зак.* ‘здратаваць’ (ТС); **здратава́ць** *зак.* ‘стаптаць пасевы’ (Чэрв. Шатэрнік).

**ЗДРОК** *м.* Авадзень. — *Ці бач ты! — здзівіўся дзед трохі: — Які ж укусіў цябе здрок? Адкуль і якія спалохі Прымусілі кінуцца ў скок?* Адплата.

**Здрок** *м.* ‘авадзень’ (Старадарож. Нар. сл., с. 18; Верхнядзв. Шаталава; Ганц., Лях. СПЗБ; Лоеў. Янкова; Пух., Уздз. СЦБ); ‘здрок’ (ТС); ‘двухкрылае насякомае, якое ў адрозненне ад авадня не ссе крыві ў жывёл, а толькі жаліць іх’ (Слуц. Нар. словатв., с. 65); **здрік** *м.* ‘гізун’ (Жаб. ДСБ); **здрык** *м.* ‘авадзень’ (Рэч. Нар. сл., с. 160).

**ЗДУМЛЯЦЦА** *незак.* Выдумвацца, выдумляцца. *Ужо даўно згасла ва ўсёй сваёй абнажанай непрыгляднасці*

*няхітрая нацыяналістычная выдумка, легенда аб «залатым» веку, які быццам бы перажывала Беларусь у аддаленыя часы. Яна здумлялася псеўдавучонымі і псеўдалітаратарамі ў душных пакойчыках за падвойнымі шыбамі.* Культура і навука ў БССР за 30 год.

**Зду́маць** *зак.* 'выдумаць, прыдумаць' (Віл. СЦБ).

**ЗДЭТАНАВАЦЬ** *зак.* Збянтэжыць, сканфузіць, прымусіць сумецца. [*Крулеўскі*:] *О, сто д'яблаў! І як гэта магло здарыцца? Не разумею.* [*Афіцэр*:] *Што так здэтанавала пана капітана?* [*Крулеўскі*:] *Наш план і наша стратэгія, пане паручніку, пайшлі псу пад хвост.* У пушчах Палесся.

Параўн. польск. *zdetonować* 'збянтэжыць, сканфузіць'.

**ЗЕНКІ** *мн.* Вочы. [*Дзядзька*:] *Шчупак, брат, ёмкі: на паўпуда, Але сарваўся. Ах, паскуда! І натаміў, як мае быць, І пастка ўжо з вады тырчыць, Як змей, варочае зянкамі, Ну, вось ён, вось! хватай рукамі!* Новая зямля.

**Зе́нкі** *толькі мн., зневаж.* 'вочы' (Уздз. МСММГ, 1974; Уздз. СЦБ); **зе́нні** *мн., іран.* 'вочы' (Гродз. Сцяшковіч, 1972); **зе́на, зе́нка** *ж.* 'зрэнка' (Краснап. Бялькевіч).

**ЗІРК** *м.* Погляд, позірк. — *Пікні толькі мне, скажы хоць слова — задушу! — хрыпіць Свірыд, нахіліўшыся над маладзіцаю і прабіваючы яе дзікім звярыным зіркам.* На «святой зямлі». *Вольнага месца не было, а той малюнак, што расчыніўся перад яго* [*Чацвярцінскага*] *зіркам, проста напрошваўся на палатно.* Не з таго канца. *Увайшла бабка, акінула зіркам маладых настаўнікаў.* На ростанях.

**Зірк** *м.* 'пра імгненны позірк' (Мсцісл. Нар. лекс., с. 176); **зіраць** *незак.* 'глядзець' (Бял. МАСМ); **зікра** *мн. абразл.* 'вочы' (Малар., Пін. ДСБ); **зіркі** *мн.* 'лупатыя вочы' (Капыл. Жыв. сл., с. 171).

**ЗЛАСМЕХ** *м.* Злосная, ядавітая насмешка. *Няма чаго мянціць языкам, А крык, як быў і будзе крыкам. — Няхай крычыць, і ты крычы! — Хіба што жабаю ў карчы; Прынамсі, з гэтакім паспехам, — Міхал аклікнуўся зласмехам.* Новая зямля.

**ЗЛАСМЕШНА** *прысл.* Са злараднай насмешкай. — *Вы прымушаны былі так метка страляць ці рабілі гэтак ад чыстага сэрца? — зласмешна запытаў паручык-карнілавец.* Сяргей Карага. — *Вось камедыянты! — зласмешна пра-*

*мовіў Міхайла Іванавіч, — не ведаюць ужо, што рабіць, дык давай крывіць мову!* Пракурор. — *Ну, што ж? цярпі, маўчы зацята, Бо так выходзіць, небажаты: — Наняўся, кажуць, як прадаўся! — Міхал зласмешна адазваўся.* Новая зямля.

**ЗЛАТАБЛЕСК** *м.* Пра тое, што блішчыць, як золата. *Эх, убралі ж яе светлы май і вясна — З златаблескаў хмурынку сплялі!* Сымон-музыка.

**ЗЛАТАБЛЕСКІ** *прым.* Які блішчыць, як золата. *І так панадна смеяцеся* [*малюнкі родныя і з'явы*] *Жывою баграю на лесе, І златаблескімі снапамі Праменняў-стрэлаў над палямі..* Новая зямля. *Хто выводзіў тыя вежы? Хто той замак будаваў? Златаблескія адзежы Хто для сцен яго саткаў?* Сымон-музыка.

**ЗЛАТАТКАНЫ** *прым. Вобразн.* Сатканы з золата, падобны па колеру на золата. *Эх, што можа быць даражай Вольнай волечкі, палёў? Гэтай сіняй далі гожай, Невядомай і прыгожай, Без канца, без берагоў? Гэтых хмарак злататканых, Ветру посвісту ў палёх, Думак светлых, мар нязнаных І нікому не казаных Казак лесу і дарог?* Сымон-музыка.

**ЗЛАЧЫННІЦКІ** *прым.* Які зрабіў злачынства. *Мы — чырвонаармейцы, і порах наш сухі, Злачынніцкай сямейцы Мы вытрасем духі.* Чырвонаармейцы.

**ЗЛЕГЧЫ** *зак.* 1. Надысці, настаць, наступіць. *З горак сходзіць багравіца, Дзесь галосіць-плача дудка, — Будзе сцішна, будзе жудка, Калі зляжа ноч-чарніца!* Сымон-музыка. 2. Заняць, ахапіць якую-н. прастору; распасцерціся. *Што ёсць там, за тым, унь, гаем, Дзе зляглі нябёс вянцы? Новы край і край за краем І краі ва ўсе канцы!* Сымон-музыка. 3. *перан.* Стаць прадметам пастаянных турбот, трывог, роздуму і г. д. *І часта роздараж іх* [*людзей*] *быту Над імі зляжа, як навала, І гэта даль падчас пужала..* Сымон-музыка.

**ЗЛОТКА** *ж., уст.* Залатоўка (манета ў 15 капеек). *Мастак быў дзед на ўсё на гэта: Лавіў нямала ён за лета; Былі ліны, язі і плоткі — Лузаў дзед добра сабе злоткі: Было за што кручок загнуць, Было і ў краму з чым зірнуць.* Новая зямля.

**Зло́ты** *м.* 'злоты' (Воран., Мядз. СПЗБ); *субст. прым.* 'злот' (Ваўк. Сцяшковіч, 1972); **зло́тка** *ж.* 'залатоўка' (Мсцісл. Бялькевіч), **злот** *м.* 'залатоўка (манета вартасцю

ў 15 капеек)' (Краснап. Бялькевіч); **зло́тый** *м.* 'манета, вартасцю ў 15 капеек' (Насовіч).

**ЗЛУЧНА** *прысл.* 1. Злітна, разам. [*Лабановіч*:] — *«Несмотря», гаспадзін інспектар, трэба пісаць злучна*. На ростанях. 2. Сугучна, складна, улад. *Ўгары, высока над дамамі, Пазалачонымі крыжамі Блішчалі цэрквы і касцёлы, Ўзняўшысь к небу галавамі, На сонцы ззяючы вярхамі; І гоман іх званоў вясёлы Ў паветры гуў таемна, злучна І заміраў дзесь мілагучна*. Новая зямля.

**ЗЛЫБЕДЗЬ** *ж.* Бяда, ліха; злыбеда. *Праўдай сталі твае мары, Злыбедзь знішчана ў пажары Гневу бурнага людскога*. З. Жылуновічу. *Такія думкі, разважанні, Як молат, білі ў сэрца Ганне: — Тут справа не ў сваёй сядзібе, А ў ладзе гэтым уся злыбедзь*. Новая зямля.

**Злы́бедзь** *ж.* 'бяда, ліха' (Мсцісл. Юрчанка, 1988); 'злыбеда' (Карэл. Жыв. сл., с. 71); **злы́бяда** *ж.* 'страшная, злая бяда' (Чэрв. Шатэрнік); **злы́бедзь, злыбе́да** *ж.* 'гора, бяда' (Гродз., Карэл. Сцяшковіч, 1972).

**ЗЛЫБЕДНЫ** *прым.* Які тоіць у сабе бяду, ліха. *Не жылі — марнелі на ваччу з павязкай: Свет быў нам зачынен, Не было разгону. Сёння гэта ліха — злыбедная казка, Дзікі сон-навала, Вынікшы з прыгону*. Восенскае.

**ЗЛЯЧЫЦЬ** *зак.* Пазбавіць ад болю каго-, што-н.; вылечыць. *Эх, горы і скалы, даліны і кручы І ты, нерухомы, магутны Чымган! Не злечыце сэрца майго вы ад ран І боль мой не сцішыце, едкі, пякучы*. Чымган.

**Злячы́ць** *зак.* 'вылечыць' (Ашм. СПЗБ).

**ЗМАЛА** *прысл.* Крыху, трохі. *Калі казаць пра човен дзедаў, То трэба ўжо, каб кожны ведаў Пра дзеда Юрку хоць бы змала*. Новая зямля.

**ЗМАЛЬСТВА, ЗМАЛЯ** *прысл.* З маленства, з малых гадоў. *А праўда мне ўсяго даражай, І бацька праўдзе вучыў змаля, Дык з гэтай праўдай ступім далей*. Новая зямля. *Вось каб ты вучыўся змаля, Кніжку ў рукі б даць табе! — Дзед і хлопчык замаўкалі, Кожны думаў па сабе*. Сымон-музыка. *Што ж Язэпка, гора змальства, Беднасць гнала да сумы... Эх, не радуйся, начальства: Не злякаўся я турмы!* Не дамся.

**Зма́льства** *прысл.* 'з маленства' (Слон. СПЗБ); **зма́лечку** *прысл.* 'змалку' (Лоеў. Янкова); **зма́лку** *прысл.* 'з дзя-

цінства, з маленства' (Лях. МСНДМ, с. 124); **зма́лку, змале́нства** *прысл.* 'з малых гадоў' (Пух., Чэрв. Шатэрнік); **зма́лі** *прысл.* 'з маленства' (Верхнядзв. СПЗБ); **зма́ля** *прысл.* 'з дзяцінства' (Карэл. Сцяшковіч, 1972); **змалянко́сці** *прысл.* 'з малых гадоў, з маленства, змалку' (Гродз. Цыхун). Параўн. польск. *odmaleńkości* 'з маленства, з малых гадоў'.

**ЗМАНКАМ** *прысл.* Уводзячы ў зман каго-н., падманваючы каго-н. *Кажа дзед: — прысядзем хіба? — Хлопчык згодзен, хлопчык рад, Хоць не любіць дзеда-грыба: Дзед залішне скупават, Толькі цешыць абяцанкай, А не справіць халата, І стары, а жыве зманкам, Дзед-шалыга, шалахта.* Сымон-музыка.

**ЗМАННЫ** *прым.* 1. Які тоіць у сабе зман, памылковае ўяўленне аб чым-н. *Ноч так зманна, так варожа! Спатайку наскочыць можа Нехта страшны з свайго ложа...* Сымон-музыка. 2. Які вабіць, зачароўвае, прыцягвае да сябе. *Падхопяць мары-палятушкі, На крыллях зманных паімчаць, Каб нейкі новы сказ пачаць І гэты сказ завіць у стужкі.* На шляхах волі. *Гулі гарматы несціхана, Калі здалёк, калі зблізка, І чыясь грозная рука Гразіла людзям пастаянна, А гоман мараў, мілы, зманны, У светлых далечах блукаў.* Там жа.

**ЗМАНУЦЬ** *зак.* Падмануць, увесці ў зман. *Але пан Богут далей сочыць, І раптам дрогнуў ён як ліст — Ці то зманулі яго вочы? Не, гэта ён, ён, камуніст!* Рыбакова хата.

**Зману́ць** *зак.* 'звесці' (Гродз. Сцяшковіч, 1983); 'схлусіць' (Віл., Лях., Смарг., Шчуч. СПЗБ); 'унадзіцца, узяць звычай, моду' (Гродз. Цыхун); **змані́ць** *зак.* 'салгаць' (Чэрв. Шатэрнік).

**ЗМЕРКАВАЦЦА** *зак.* Дамовіцца. *А хлопцы зрання рыхтаваліся, Па добрай згодзе змеркаваліся І самі зладзілі, вядома, Хто едзе з іх, хто будзе дома.* Новая зямля.

Параўн. польск. *zmiarkować się* 'дадумацца, дагадацца'.

**ЗМІЛАСЕРДЗІЦЦА** *зак.* Змілавацца. [*Марына да Богута*:] *Дык зміласердцеся ж, паночку, зніміце з нас ярмо, ланцуг. Не множце, пане, валацуг З жабрачай торбай і кіёчкам.* Рыбакова хата.

**ЗМІТРЭЖЫЦЬ** *зак.* Знішчыць, змарнаваць. *Час і хату і грушу змітрэжыў, А якія былі сапяжанкі!* Падбярэж-

жа. *У колькі дзён [Гітлер] змітрэжыў панскую Польшчу, забраў Чэхаславакію.* Між дзвюх рэчак.

**Змітрэ́нжыць** *зак.* 'сапсаваць' (Астр. СПЗБ); **змінтрэ́жыцца** *зак.* 'змарнавацца' (Карэл. Жыв. нар. сл., с. 58). Параўн. польск. *mitrężyć* 'марнаваць'.

**ЗМОЎНІК** *м.* Удзельнік якой-н. змовы; змоўшчык. *А на захадзе, за Бугам, за Віслаю, выношвалі ў змяіным сэрцы ліхія помыслы фашысцкія змоўнікі на чале з гітлераўскай зграяй разбойнікаў.* На руінах Гомеля.

**ЗМРОЧЧА** *н.* Змрок, цемра. *І раптоўна моўкнуць струны, Задрыжаў увесь пясняр: У акне скрозь змрочча руны Вырысоўваецца твар!* Сымон-музыка.

**ЗМУС** *м.,* **ЗМУСТА** *ж.* Прымус. *Стаялі [людзі] маўком ды украдкам Паглядвалі на Белавуса: Як скажа, так будзе і гладка, І згодзяцца ўсе і без змусу.* Адплата. *І ўсё само, без жаднай змусты, Ну так і просіцца ў твой рот.* Рыбакова хата.

**Змус** *м.* 'прыгнёт' (Карэл. Сцяшковіч, 1983); **зму́ста** *ж.* 'прымус' (Карэл. Сцяшковіч, 1972); **зму́сіць** *зак.* 'прымусіць' (Віл. СПЗБ); **зму́сіць, зму́сціць, сму́сціць** *зак.* 'звесці, спакусіць' (Касц., Мсцісл., Шкл. МАСМ); **змусці́ць** *зак.* 'спакусіць' (Мсцісл. Юрчанка, 1966); **зму́сціць** *зак.* 'спакусіць' (Гл. Янкоўскі, 1959); **змуша́ць, зму́сціць** *незак.* 'прымушаць' (Насовіч). Параўн. польск. *zmusić* 'прымусіць'.

**ЗМЫЛІЦЦА** *зак.* Памыліцца. *Сцішна. Пуста. Адзінока Свет закрыла цьма густая. Паваротка тут крутая, — Не змыліся ж, маё вока!* Бяздараж.

**Змылі́цца** *зак.* 'памыліцца' (Віл., Лід. СПЗБ; Гродз. З нар. слоўн., с. 32), **змы́ліць** *зак.* 'збіць з толку' (Ваўк. Сцяшковіч, 1983), **змулі́цца** *зак.* 'памыліцца' (Маладз. Жыв. сл., с. 42). Параўн. польск. *zmylić się* 'памыліцца'.

**ЗМЫСЛ** *м.* Кемлівасць; розум. *Цяпер толькі ясна стала, — Дзе ж быў змысл жаночы! — Як дачушка паглядала На чорныя вочы.* Батрак.

**Змысл** *м.* 'кемлівасць, рассудак' (Насовіч); **змы́слы** *мн.* 'сэнс' (Астр. СПЗБ). Параўн. польск. *zmysł* 'пачуццё, адчуванне, разуменне'.

**ЗМЫСЛА** *прысл.* Разумна, разважліва. *Наогул трэба жыць больш змысла І больш мяркоўна, болей сцісла, Трымаць зачыненымі губкі І меней траціць на пакупкі.* Новая зямля.

**ЗМЫСЛЫ** *прым.* Разумны, разважлівы. [*Букрэй:*] *Я таксама, таварышы, стаю за бацьку Талаша. Ён — чалавек змыслы, кемкі, асцярожны, але рашучы і смелы.* У пушчах Палесся.

**Змы́слы** *прым.* 'разумны' (Зэльв. Сцяшковіч, 1983); 'кемлівы, разважлівы' (Дзярж. Нар. сл., с. 33); 'кемлівы' (Слон. Нар. словатв., с. 34).

**ЗМЫСЛЯЧЫ** *дзеепрысл.*: **НЕ ЗМЫСЛЯЧЫ НІ ПСА**. Не разумеючы нічога. [*Сафонаў:*] *Што ж мір, па-твоему, калач? Ці ліверная каўбаса? Зарваў капейку, на таўчок Пайшоў, купіў за пятачок? Пляце, не змыслячы ні пса.* На шляхах волі.

**ЗНАЙМАВАЦЬ** *незак.* Знаменаваць, сведчыць аб чым-н. *Дзень перамогі над фашызмам — свята працоўных усяго свету — знамянальны і светлы дзень. Ён знаймуе сабой той недалёкі час, калі працоўнае чалавецтва скіне ярмо капіталу..* У імя міру.

Параўн. польск. *oznajmiać* 'заяўляць, паведамляць'.

**ЗНАРОЎКА** *ж.* Уменне спрытна і хутка што-н. рабіць. *А лепш за ўсё, мае браткі... Сказаць вам? венцер, нераткі! Ды толькі трэба мець знароўку, Каб не страляць у саракоўку.* Новая зямля. Параўн. руск. *сноровка* 'спрыт'.

**ЗНАЎСТВА** *н.* Дасведчанасць у якой-н. галіне; веды. *А несвядомыя настаўнікі ў школах таксама забіваюць у вучнях усё тое, што не ўкладаецца ў асадкі падручнікаў або выходзіць за межы знаўства саміх педагогаў.* На ростанях.

**ЗНІЗАЦЬ** *зак.* Меткім стрэлам папасці ў каго-н, што-н.; збіць. *Не трэба забываць, што я на сто крокаў знімсу варону, не то што чалавека, — на ўсякі выпадак дадаў Ахрэменка.* Сяргей Карага. [*Пан:*] — *Ну, ці знойдзецца стралец, Хто галінку зніжа куляй?* Сымон-музыка.

**ЗНІШЧОНЫ** *прым.* Збяднелы, гаротны, няшчасны. *І я зрослася з гэтым горам, Як віхры-вятры з прасторам, Як з загонам жыта. А як песню заспяваю Аб знішчоным гэтым краі, Я не волен над сабою: Спеў мяшаецца з слязою, Плачам аддаецца.* Роднаму краю.

**ЗНОВУ** *прысл.* Зноў; яшчэ раз. *Эх, што ёсць мілей вас, дзяціныя годы?.. А ўспомніш, любыя, што вы ўжо ніколі Не вернецесь знову да светлае долі, Вас так пашкадуеш, так цяжка ўздыхнеш!..* Дзяціныя годы.

**Зноў** *прысл.* 'ізноў' (Гродз. СПЗБ); **зноў, зно́ва, ізно́ў** *прысл.* 'зноў' (ТС); **зной** *прысл.* 'зноў' (Клецк. МСММГ, 1970); **зно́ўку** *прысл.* 'зноў' (Ваўк. Сцяшковіч, 1972); **зно́ву, зновъ** *прысл.* 'зноў' (Насовіч).

**ЗНЯСІЛЫ** *прым.* Пазбаўлены сілы, аслабелы. *Вобразн.* [*Ручаёчак:*] *«Адкажы мне, вербачка, Адкажы мне, мілая, Чаго зажурылася, Смутная, знясілая?»* Вярба.

**Знясі́лець** *зак.* 'страціць сілу' (Мсцісл. З нар. сл., с. 245). Параўн. укр. *знесилетися* 'страціць сілу, стаць слабым'.

**ЗНЯСЛАВА** *ж.* Ганьба, пагарда, асуджэнне. *Ды і як ёй* [*Аўгіні*], *так ганебна, з такой зняславаю выгнанай, было варочаца, кланяцца яму* [*Васілю*], *раняць перад ім свой жаночы гонар?* Дрыгва.

**ЗОРЫЦЬ** *незак.* 1. Глядзець, углядацца; сачыць. *Палонку дзядзька прасякае, А Костусь, радасны, чакае І зорыць пільна ён вачыма, Калі той бучык дзядзька ўзніме.* Новая зямля. *Марына кланяецца нізка, І Богут зорыць весялей.* Рыбакова хата. 2. *перан.* Лавіць зручны момант. *Ротны зорыць міг кардонны, Каб падаць той голас звонны Ды спаліць, як з перуна. І гаркнуў настырна, Маладзецкі брава: — Пятая рота, смі-і-ірна!* На шляхах волі.

**ЗОЎ** *м.* Кліч. *Азірнуў ён* [*Сымон*] *і абмерыў Далі ветлыя палёў, Сіле ён сваёй паверыў, Зову новых галасоў.* Сымон-музыка.

Параўн. руск. *зов* 'кліч, запрашэнне'.

**ЗУБАТЫ** *прым.* Які мае няроўныя, крывыя абрысы; зубчасты. *За лугам чуць-чуць выступала сваім чорным абрысам зубатая палоска яловага лесу..* На начлезе.

**Зуба́ты** *прым.* 'з вялікімі зубамі' (Гарад., Шчуч. СПЗБ).

**ЗУБРЫСЦІКА** *ж.* Узмоцненае, прылежнае завучванне чаго-н. для якой-н. мэты. — *Наперадзе ўсё лета, — казаў Лабановіч, — табе ж трэба заняцца зубрысцікаю, дык давай уладжвацца, як лепей і зручней для цябе.* На ростанях.

**Зубры́ць** *незак.* 'старанна рабіць што-н.' (Чэрв. Шатэрнік).

**ЗУЗУМКАЦЬ** *незак.* Утвараць аднастайныя звінячыя гукі (пра насякомых). *Пад высвісты, шчэбеты птах Зузумкае чмель басавіта.* Адплата.

**ЗУМЫСЛУ** *прысл.* Знарок, наўмысна. *Народ жадзён, бо жыве ў сціску, Гатоў у вочы сыпнуць прыску, Зрабіць зумыслу дзеля здзеку, Не, не ўнаровіш чалавеку!* Новая зямля.

**Зумыслі́в** і **зумы́слы** *прысл.* 'наўмысна' (Драг. 3 нар. сл., с. 141); **зу́мыслы** *прысл.* 'наўмысна' (Кобр. ДСБ); **зумы́сня** *прысл.* 'наўмысна, з намерам, свядома, знарок' (Гродз. Цыхун).

**ЗУХАВАТЫ** *прым.* 1. Бойкі, бравы, энергічны. *Які ён* [*пан*] *важны, панаваты, Выдатны, «мондры», зухаваты!* Новая зямля. *Тут быў сам фельчар Мікіта Найдус, зухаваты хлопец-праныра.* На ростанях. 2. Прыгожы, выкананы з густам. *Паставілі зухаваты свіронак, свінарнік і пабудавалі тры дамы для шасці сем'яў.* Адшчапенец.

**Зух** *м.* 'зух, рашучы, энергічны, ганарысты чалавек' (Краснап. Бялькевіч); **зухова́тый** *прым.* 'маладзецкі' (Насовіч); 'фарсун, хвалько, гуляка' (Чэрв. Шатэрнік). Параўн. польск. *zuchowaty* 'маладзецкі, бравы'.

**ЗУХАВАЦЬ** *незак.* Весці сябе бойка, гуляць; фарсіць. *Так і ты, мой пане, Цешыўся заране, Баляваў, зухаваў, Ды свой гонар пахаваў.* Рыбакова хата.

**Зухава́ць** *незак.* 'гуляць', 'сваволіць, фарсіць' (Карэл. Сцяшковіч, 1972, 1983); **зухова́ць** *незак.* 'грубіць, шумець' (Насовіч); **зу́хаць** *незак.* 'храбрыцца перад іншымі; грубіць, шумець' (Насовіч).

**ЗУХАЎСКІ** *прым.* Хвацкі. *Ён* [*дзядзька*] *невысок, не надта ёмак, Ды карчавіты і няўломак, А волас мае цёмна-русы, І зухаўскія яго вусы У меру доўгі, густаваты.* Новая зямля.

**ЗУХНУЦЬ** *зак.* Фарсануць. *А то, ужо быў Сымон дзецюком, любіў ён часам зухнуць. Загнаўшы да Коўны плыты, ён купіў сабе стары афіцэрскі сурдут. Бацька дома і давай прабіраць за гэта Сымона.* Дзяліцьба.

**Зухну́ць** *зак.* 'пакуражыцца, фарсануць' (Карэл. Сцяшковіч, 1972).

**ЗЫБІЦЦА** *незак.* Ледзь намячацца, акрэсліваецца. *Пшэбора, Глынка ў такім стане І на такім ўзлёце мар, Што іх не кратае цяжар, Які ўжо зыбіцца ў тумане.* Рыбакова хата.

**Зы́біцца** *незак.* 'трэсціся, калыхацца' (Карэл. Сцяшковіч, 1972).

**ЗЫГНУЦЬ** *зак.* Сігануць, хутка знікнуць. — *Дзе спаткаліся, Сымонка! Як жа ты папаў сюды? А як зыгнуў ад нас гонка — Помніш тую ноч ... тады? Ганна борзда гаварыла, Распытоўвала сябра..* Сымон-музыка.

**Зыгану́ць** *зак.* 'гізануць' (Лаг. СЦБ).

**ЗЫГРАЦЦА** *зак.* Зраўняцца з кім-н. у сваёй дзейнасці, паводзінах і пад. *Пан Зыгмусь бачыў цяпер ужо другога гаспадара хаткі над балотцам, гэты другі гаспадар быў далёка не тое, што першы, пану Зыгмусю не зыграцца з ім.* Хатка над балотцам.

**ЗЫЗНУЦЬ** *зак.* 1. Непрыкметна зайсці куды-н., шмыгнуць. *А ў той час, калі пан Тарбецкі быў гатовы ўжо зызнуць у кватэру, яна* [*Грында*] *высока падымае здаравецкі кулак і грозна трасе ім у паветры.* У двары пана Тарбецкага. 2. Збегчы, уцячы. — *Падаць мне Тэша! — Лось гукае: — Я разарву яго вантробы, Бо свет гарыць з яго, хваробы! Падайце: вырву яму вусы За ўсе даносы, за падкусы! — Абрыцкі-Тэш быў такі з нюхам, Ад Хрумы зызнуў адным духам.* Новая зямля. 3. Цішком узяць, украсці. *Праз колькі дзён будзе маладзік. Вось тады ён* [*Андрэй*] *і зызне яго* [*дубок*]. Малады дубок.

**ЗЫРКАСЦЬ** *ж.* Пранізлівы, калючы холад, сырасць. *Золкасць, зыркасць і плюхота, Безлюдзь, смутак, адзінота.* Рак-вусач.

**Зыр** *м.* 'халодны, пранізлівы вецер' (Дзярж., Лід. СПЗБ); **зы́рыць** *незак.* 'прыпякаць (пра мароз)' (Віл. СПЗБ).

**ЗЫРКІ** *прым.* 1. Сухі, гарачы. *Штодзень у сінеч даль адзета, З адной дзьме вецер стараны, Ды вецер зыркі, сухавейны, Мой недруг, вораг закляты.* Рыбакова хата. 2. Праніклівы, пільны. *А дзед пераведў на прышэльца Калючыя, зыркія вочы.* Адплата. — *Па якім жа артыкуле закону вас прыцягваюць да судовай адказнасці? — запытаў Семіпалаў і зыркімі шэрымі вачамі зірнуў на Лабановіча.* На ростанях.

**Зы́ркі** *прым.* 'гарачы' (Ганц. ДСБ; Жытк. Жыв. сл., с. 123); **зы́рка, зы́рко** *прысл.* 'горача' (Ганц., Слуц., Старадарож. СПЗБ); **зыр** *м.* 'гарачыня, спёка, жар'; **зы́ркосць** *ж.* 'гарачыня' (ТС).

**ЗЭГАРАК** *гл.* **ЗАГАРАК**

**ЗЭС** *м.* Пярэдні план; перад. *Стары крумкач з панскім носам важна выступаў сярод галак і варон, праціскаючыся на самы зэс.* На ўсё ёсць прычына.

**Зэс** *м.* ‘пранізлівы холад’ (Паст. СПЗБ; Мядз. СЦБ).

**ЗЮКАЦЬ** *незак.* Спакойна, ціха размаўляць. *А потым глядзелі на Копысь, Зноў зюкалі мірна, як старцы, І выпілі, ну, як і калісь, Добрай гарэлкі па чарцы.* Янку Купалу.

**Зю́каць** *незак.* ‘гаварыць’ (Мсцісл. Бялькевіч); ‘паціху размаўляць’ (Карэл. Сцяшковіч, 1983); ‘размаўляць паціхарыскі’ (Насовіч); **зюзю́кыць** *незак.* ‘весці лагодную размову’ (Чав. Нар. сл., с. 132); **зюзю́кацца** *незак.* ‘размаўляць’ (Лоеў. Янкова).

**З’ЯВІНА** *ж.* Праява. [*Сымон:*] — *Дзедку, глянь, а што бліскае Там, дзядок, каля крыніц? Блісь — і зараз жа знікае... Што за з’явіна такая? Што за забаўкі начніц?* Сымон-музыка.

**ЗЯКРАТЫ** *прым.* Выпучаны, лупаты. *Зякратыя вочы яго* [*Пятра*] *кідаюць іскры, запушчаны твар, як шэсць гадоў нясеяная пасека, грозна паварочваецца да цыбатай фігуры Сцяпана.* Туды, на Нёман!

**Зякра́ты** *прым.* ‘вірлавокі, зіркаты’ (Навагр. Жыв. сл., с. 23); ‘зякраты (пра чалавека) — з вялікімі вачыма’ (Гл. Янкоўскі); **зягра́ты** *прым.* ‘вірлавокі, з вялікімі вачыма’ (Гродз. Цыхун); ‘лупаты’ (Маладз. СЦБ).

**ЗЯЎРА** *ж.* Шырокая адтуліна. — *Не стой ты, хлопец, пры аконцы: З акна, як з зяўры, дзьме бясконца! Зноў будзеш кашляць, — кажа маці.* Новая зямля.

**Зя́ўра** *ж.* ‘пашча звера, жывёлы’ (Карэл. Сцяшковіч, 1972); **зя́ўраць** *незак.* ‘быць адчыненым увесь час (пра памяшканне)’ (Стаўб. Жыв. сл., с. 107); ‘быць насцеж адчыненым’ (Жлоб. Жыв. сл., с. 116).

# І

**ІДЭЁВЫ** *прым.* Ідэалагічны. *І сягоння мы адчуваем Бялінскага поплеч з намі ў нашай ідэёвай барацьбе.* З прамовы.

Параўн. польск. *ideowy* ‘ідэйны, ідэалагічны’.

**ІЛЖА** *ж.* Няпраўда, хлусня. *Бо хто ж ведаў, скажы, Аб забытым народзе і краю? Цемра зману, ілжы Тут стаўляла крыжы, Як слупы па дарозе да раю.* Думкі да дваццаціГоддзя БССР.

**ІМГЛІВЫ** *прым.* Імглісты. *Знік* [*бляск месяца*] *у рунях і ў шаўкох Хмарачак маўклівых, І гусцей на зямлю злёг Гэты змрок імглівы.* Ноч.

**ІМЖАКА** *ж.* Імгла, імжа. *У тумане цяжка, цесна. Пыл імжакі тчэ палотны.* На шляхах волі.

**Імгла́, імла́** *ж.* 'імжа' (Докш. СПЗБ); **імжа́к, імжэ́нь** *м.*, **імжа́чка, мжа́ка** *ж.* 'імжа' (Бых., Касц., Кругл. МАСМ); **імгла́** *ж.* 'імгла' (Гродз. Сцяшковіч, 1972); **імжа́** *ж.* 'імжа, дробны дождж (увосень)' (Краснап. Бялькевіч).

**ІМКЛІВІЦЬ** *незак.* Імкнуцца. *Любімцы народа, героі вышынь Не ведаюць страху ніколі, І вышай ды вышай у ясную сінь Імклівіць палёт іх саколлі.* Памяці П. Асіпенка і А. Сярова.

**ІМКНЕННЫ** *прым.* Імклівы, хуткі, быстры. *Шуміць ён* [*перавал*] *вольны і імкненны І гучна-звонны й бела-пенны!* Новая зямля.

**ІМПАТ** *м.* Гарачы парыў; імпэт. *Да дзядзькі страшна прыступіць, Але патроху і памалу Ён траціць імпаты запалу, Ў яго душы сціхаюць громы..* Новая зямля.

**І́мпэт** *м.* 'энергія чалавека' (Пін. Жыв. сл., с. 164); 'імпэт, імкненне, жаданне' (Мсцісл. Бялькевіч). Параўн. польск. *impet* 'парывістасць, імклівасць, націск'.

**ІМЯЛО** *н.* Від расліны. *Толькі ж узрасло яно* [*зярнетка*] *між чужынцаў: поруч з ім рос званец, мяцёлка, а каля саменькага карэння ціснулася ўсялякая трава-драбяза: шчытнік, імяло, белая дзяцеліна, муражок і розныя краскі.* На чужым грунце.

**І́мяла** *н.* 'амела' (Карэл. Нар. лекс., с. 158); **імяла́** 'амяла' (Дзятл. СПЗБ); **і́мала** *ж.* 'від расліны' (Лоеў. Янкова).

**ІНАК** *прысл.* Іначай. *Уважна слухае* [*Дзяжа*] *ваяк, Ідучы сценкаю глухою, А сам з надзеяй патайною Мяркуе ўсё ж такі інак.* На шляхах волі.

**І́нак** *прысл.* 'іначай' (Лоеў. Янкова); 'інакш' (ТС); **іна́кш** *прысл.* 'іначай' (Паст. СПЗБ).

**ІНАКІ** *прым.* Іншы, які адрозніваецца ад ранейшага. [*Прапарычык Дунец:*] *Сцерці межы і адзнакі: Ты — салдат, Я — афіцэр! Вецер свежы, Час інакі.* На шляхах волі.

**ІСКРАЗЗЯННЫ** *прым.* Які зззяе іскрамі; яркі. *Мільгатнула штось маўкліва, Промень кінуў смех шчаслівы, Бы ажыў унь той дзірван, Вочкам бліснуў дурасліва! Не, не можа быць, то — зман! То быў вобраз іскраззянны, Момант радасці, надзей, Сэрца гімн агнём паранным, Песня зорак, санцавей.* Сымон-музыка.

# К

**КАБДЗЮР** *м.* Кіпцюр. *Нават крумкач павінен быў моцна ўшчаміць кабдзюрамі галіну, каб не скінуцца.* Адзінокае дрэва.

**Кабдзю́р** *м.* 'кіпцюр' (Стаўб. СЦБ; Барыс., Чэрв., Шчуч. СПЗБ); 'пазногаць' (Глыб., Навагр. СПЗБ).

**КАБЕРАЦ** *м.* Дыван. *На сценах віселі розныя фатаграфіі, малюнкі ў прыгожых аправах, мяккая, абітая чырвоным плюшам мэбля, каберац каля стала, прыгожы абрус, — усё казала за тое, што Грынько жыў панам.* На ростанях. *Вобразн. Ад гэтых слоў лягчэй на сэрцы, Бо ўсё ж маркотны вы, каберцы Зімы халоднай і мярцвячай, І ласкі хочацца гарачай, Вясны душа твая жадае..* Новая зямля.

**Кабе́рац** *м.* 'дыванок пад ногі' (Віл., Уздз. СЦБ); 'дыванок, на якім вянчаюць маладых' (Мядз. Нар. сл., с. 189); 'дыванок, які кладуць пад ногі маладым, якія ідуць пад вянец' (Уздз. МСММГ, 1974). Параўн. польск. *kobierzec* 'дыван пад ногі або на сцены'.

**КАВАЛЯВАЦЬ** *незак., перан.* Настойлівай працай дамагацца чаго-н. *І з натхненнем чытаў паэт далей: «Кавалюй жа, мая вёска зрэбная! Ты выкоўвай новы быт! Каласіся, поле хлебнае, Лайся вецер, вол рабы».* «Трыумф».

**КАДР** *м., зб.* Кадры. *Расце анархія, развал. Старарэжымішчык генерал І паказацца ўжо не смее, І кадр палкоўніцкі радзее, Змывае ўсё салдацкі шквал.* На шляхах волі.

**КАДРЫЛІЯ, КАДРЫЛЬ** *ж., перан.* Мітусня, сумятня; неразбярыха. *Пакуль прайшоў ён* [*Дзяжа*] *круг турботы І*

*санітарную кадрыль, Дык адмахаў з паўсотні міль.* На шляхах волі. *Драбнее ўсё фамілія, І множацца двары, — Дабра з такой кадрыліі Няма, гаспадары!* Калгаснае.

**Кадры́ля** *ж.* 'кадрыля' (Іўеў. Сцяшковіч, 1972); **кадрéль** *ж.* 'кадрыля' (Мсцісл. Бялькевіч); **ка́драль, кадрэ́ль** *ж.* 'кадрыля' (Мядз., Смал. СЦБ).

**КАДУБ** *м.* Кадзь, выдзеўбаная з тоўстага бервяна, калоды. *У сцены стукалі* [*паны*], *ў падлогу, За бэлькі лазілі, пад столь, І ў кадубу ўзбівалі соль, Святых ашчупалі і бога.* Рыбакова хата. *У параўн. Чарка, браце, павер: Як даўнейшы мажджэр — Проста страшна на падлу зірнуць! Як кадуб, такі звер, Хоць ячмень ёю мер, І прыйшлося да дна хлесянуць!* Па дзядзькох.

**Кадýб** *м.* 'дзеравяная кадушка' (Карэл. Сцяшковіч, 1972); **кадлубéц** *м.* 'кубелец' (Воран. Сцяшковіч, 1983); **кадóўбец** *м.* 'бочка' (Чэрв. МСММГ, 1977); **ка́доўб** *м.* 'дзежка, бочка' (Іван., Пруж., Стол. ДСБ); **кадэ́бец** *м.* 'каробка для ягад, зробленая з кары альхі' (Івац. Жыв. сл., с. 31); **ка́дуўба** *ж.* 'кадаўба, кадаўбец, пасудзіна, выдаўбленая з цэлага камля дзерава' (Крыч. Бялькевіч); **ка́даўб** *м.* 'судзіна для збожжа, мукі, выдаўбаная з суцэльнага кавалка дрэва' (Гл. Янкоўскі); **кадлýб** *м.* 'кадаўб' (Гродз. Цыхун); **кадóўб** *м.* 'вялікая бочка, выдзеўбаная з калоды, на збожжа, муку' (Пух. СЦБ; ТС). Параўн. літ. *kõdis* 'кадзь, выдзеўбаная з бервяна'.

**КАДУБОК** *м.* Шкатулка. *Там кадубок работы тонкай, Ён зроблен з густам мастака. Тут пастаралася для жонкі Яго ж, Данілава, рука. Ну што, здаецца, кусок дрэва, Той чорны дуб, што ў рэчцы мок, А вось жа выйшаў кадубок, Майстэрства дзіва, неспадзева.* Рыбакова хата.

**Кадóўпчык** *м.* 'невялікая бочка, выдзеўбаная з калодкі, якой бяруць збожжа, муку і г. д.' (Капыл. Жыв. сл., с. 171); **кадóўбчык** *м.* 'невялікі кадаўбец' (Пух. СЦБ); 'памяншальнае ад кадаўб' (Гл. Янкоўскі); **кадóўбка** *ж.* 'драўляная пасудзіна (у выглядзе бочкі) для захавання круп' (Гродз. Цыхун).

**КАЖУРЫНА** *ж., перан.* Верхні слой, які пакрывае што-н.; покрыва. *Застылі рэчкі, азярыны Пад гнётам бе-*

*лай кажурыны.* Новая зямля. *Пад кажурынай лісцяў прэлых Зіма схавала бруд і твань.* Рыбакова хата.

**КАЖУРЫНКА** *ж., памянш.-ласк.* Скура жывёлы з шэрсцю; футра. *Зайчык плача, зайчык рвецца. — Не, брат, лезь у мой мяшок! І панёс дзядок зайчынку, А каб дзеда не займаў, Меў бы цэлай кажурынку, Бегаў вольны б і гуляў.* Дзед і зайчык.

**Кажуры́на** *ж.* 'кажух' (Стаўб. СЦБ); 'кусок старой аўчыны, кажуха' (Паст. СПЗБ); **кажары́на** *ж.* 'стары кажух' (Рас. Шаталава); **кажуры́нне** *н. зб.* 'кавалкі скуры' (Мсцісл. Юрчанка, 1988).

**КАЖУРЫНКАВЫ** *прым.* Які мае адносіны да кажурынкі, выраблены з яе. *Кароткі кажушок.. аблеплены латкамі рознай велічыні, гатунку і формы. Тут былі латкі палатняныя, кажурынкавыя, суконныя, раменныя.* Дачакаўся.

**КАЗАК** *м.* Казачок (танец). *Разгарнуў Грамыка полы, Казака йдзе сам-адзін.* Сымон-музыка.

**КАЗАЛУП** *м., лаянк.* Шкурадзёр. *Унурыўся фюрэр, як слуп, Слязу выціскаў, кракадзіл. Аб чым жа гадаў казалуп У зборышчы катаўскіх рыл?* Пахаванне Гейдрыха.

**КАЗАНКА** *ж.* Выслоўе. *Ну, скажыце: што благога У тых забаўках яго* [*Сымона*]? *Хіба грэх складаць казанкі Або песенькі?* Сымон-музыка.

**Ка́зань** *ж.* 'сказанае, выказанае' (ТС).

**КАЗЕЛЬЧЫК** *м.* Цацка-свісцёлка ў выглядзе козліка. *З кішэні казельчыка выняў* [*дзед*] *— зграбны, падла: ножкі — па каленцы, пад чэраўцам — рыжаваты, хвосцік угору задзёрты, а ў хвосціку дзірачка, пад хвосцікам дзірачка і па баках па дзірачцы. Паднёс дзед хвосцік у рот, падзьмуў — свіснуў казельчык, аж рэха па лесе пайшло.* Называецца зарабіў.

**КАЛАБРОДЗІЦЬ** *незак.* 1. Пераязджаць, пераходзіць з месца на месца; блукаць. *Ён* [*Дзяжа*] *зноў у змушаным паходзе, Адзін у свеце калабродзіць Па цёмных напісаў скрыжаль.* На шляхах волі. 2. *перан.* Трызніць. [*Другі санітар*:] *Вярзе* [*Дзяжа*] *абы-што, калабродзіць, Але не выбіла каманды з галавы!* На шляхах волі.

Параўн. руск. *колобродить* 'блукаць, валачыцца'.

**КАЛАВАРОТ** *м.* Рух чаго-н. па кругу. *Карэнчык варажыў на пальцах: ніжнік — сямёрка, ніжнік — сямёрка. І*

*стараўся пацэліць палец у палец, развёўшы ўбок рукі і робячы імі некалькі калаваротаў.* На ростанях.

Параўн. руск. *коловорот* ‘вадаварот’.

**КАЛАМАЗ** *м.* Той, хто змазвае колы. [*Бацька:*] *Не будзе сэнсу з цябе, хлопча: У гразь жыццё цябе затопча З тваёй навукай гэтай разам, І будзеш век ты каламазам!* Новая зямля.

**КАЛАМЕСА** *ж.* 1. Смецце, бруд. *Унізе гоніць каламесу Імклівасць злоснае ракі.* Адплата. 2. *перан.* Пра нешта неўпарадкаванае, неарганізаванае, беспарадкавае. *За гарадком на ўскрайку леса Выходзіць рота на прагал, Яе тут месца і прывал. І мітусня і каламеса — Як патрабуюць інтарэсы Ваенных спраў і генерал..* На шляхах волі.

**Каламе́са** *ж.* ‘сыпучы пясок на дарозе’ (Карэл. Сцяшковіч, 1972); **кал** *м.* ‘гразь’ (Гродз. Цыхун).

**КАЛАСІНКА** *ж.* Адзін невялікі колас; каласок. *Шэпчуць згодна каласінкі, гойдаюцца нівы..* На полі. *Дзе саломка з каласінкай, Выбіўшыся з стрэшкі, Згайдануцца, засмяюцца Радаснай усмешкай.* Наша гуменца.

**КАЛАТНІНА, КАЛАТУША, КАЛАТЭЧА** *ж.* Бойня, разня. *Што робіцца на фронце! Затрашчаў нямецкі фронт. Але калатніны наперадзе яшчэ многа.* З пісьма. [*Карага:*] *Яны* [*драпежнікі*] *не пагадзіліся між сабою, кінулі свае народы, сялянства і рабочых у гэтую крывавую калатушу.* Сяргей Карага. *Многа было сварак, боек, калатэчы За цябе, зямелька, Родная ты наша!* Восенскае. *Не спачуваў дзед Купрыян усёй гэтай валтузні і калатэчы і не разумеў нічога з таго, што пачало твырыцца на свеце.* Дрыгва.

**Калатні́на** *ж.* ‘сварка, калатня’ (Іўеў. СПЗБ); **калату́ша** *ж.* ‘раскалочаная, раз’езджаная гразь’ (Уздз. МСММГ, 1974); ‘гразь’ (Дзятл., Паст., Пух., Чэрв. СПЗБ); **калату́шка** *ж.* ‘калатоўка абіваць лён’ (Астр., Слон. Сцяшковіч, 1972).

**КАЛАЧЭЧА** *ж.* Страх, трывога, непакой. [*Бабка Ева:*] — *Захочаш Богут, зробіць ласку, Адно патрап яму пад густ. Хоць мець не будзеш калачэчы. А пойдзеш ім* [*панам*] *наперакор, і пападзеш пад іх тапор, Пад іх бізун падставіш плечы.* Рыбакова хата.

**КАЛДАБАН** *м.* Калдобіна. *Бегла* [*Ганна*] *бедная і ўпала У глыбокі калдабан, Ўстаць хацела, ды не ўстала, Вочы ёй заслаў туман.* Сымон-музыка.

**Калдаба́ны** *мн.* 'замёрзлая гразь, груда, выбоіны' (Бярэз. СПЗБ); **калдо́бан** *м.* 'калдобіна' (ТС); **калдыба́н** *м.* 'калдобіна, калдабан' (Карэл. Нар. лекс., с. 158).

**КАЛЬВА** *н.* Асобна ўзятая расліна, сцябліна; каліва. *А жыта благога Сярпом не злавіць: Кальва ад другога За пядзю тарчыць.* Мужычая доля. *У ёй* [*рэчцы*] *паліла сонца свечкі, І к ёй імкнулася маўкліва І кальва жыцейка і грэчкі.* Сымон-музыка.

**Ка́льва** *н.* 'каліва' (Карэл. Нар. лекс., с. 159); 'адно гняздо бульбы, адзін корч' (Ваўк., Дзятл. Сцяшковіч, 1972); 'асобна ўзятая расліна, сцябліна, каліва' (Гродз. Цыхун).

**КАЛЬВАТКА, КАЛЬВІНКА** *ж.* Сцяблінка, каліўца. *За галаву бярэцца ён* [*мужык*],.. *што працаваў ён весь леташні год, збіраў, як крумкач косці, па аднаму снапку, па кальватцы збожжэ з свайго пустога поля, і ціпер німа нічагутка.* Наша сяло, людзі і што робіцца ў сяле. *Там пясок і камяніца — кепска для ячменя: На адну кальвінку збожжа Зелля больш як жменя.* Сялянская рада.

**КАЛЮШКІ** *мн.* Ігліца хвойных дрэў. *Шнуруюць бабы і дзяўчаты І кантралююць мох узняты І тыя кучачкі калюшак, Дзе грыб схаваў свой капялюшык.* Новая зямля. *Скрозь галінкі выносных хвоек прабіваліся цёплыя косы верасьнёўскага сонца. Пажоўклыя калюшкі без шуму ападалі на дол, ледзь зачэпіш галінку.* На ростанях.

**Калю́шкі, калю́чкі, калюке́, калюкі́** *мн.* 'ігліца хвойных дрэў' (Брасл., Гродз., Кап., Карэл. СПЗБ); **калю́шка** *ж.* 'калючка, вострая стрэмка' (Ваўк. Сцяшковіч, 1972).

**КАЛЯРОВАСЦЬ** *ж.* Разнастайнасць. *Трэба часцей і больш доўга акунацца ў гэты паток жыцця, каб збіраць і на месцы вывучаць матэрыялы і вучыцца карыстацца імі, і тады наша паэзія, насычаная каляровасцю сапраўдных жыццёвых фактаў і вобразаў, будзе сапраўды паўнацэннай.* З прамовы.

**КАМЕРА** *ж.* Памяшканне (кабінет) для прыёму грамадзян чыноўнікамі. *Уваходзячы ў дом, дзе жыў земскі начальнік і дзе была яго судовая камера, дзядзька Марцін зняў з пляча свайго сведку, узяў пад паху..* Дзядзькаў сведка.

**КАМОРА** *ж.* Кантрольны пункт лясніцтва. *Наўперад ён* [*Міхал*] *праз час каторы Быў пры падлоўчым на каморы.* Новая зямля.

**КАМПОРА** *ж.*: **ЯК КАМПОРА**. Бясследна, раптоўна знікнуць. *А дзе ж хлопчык твой, дзядуня? — Няма, панюхна, няма Ні за клуняю, ні ў клуні, Вось шукаю, ды дарма, — Ну, знік проста, як кампора...* Сымон-музыка.

**Кампо́р** *м.* 'у выразе *як кампор у воду* — бясследна' (Карэл. З нар. сл., с. 90).

**КАМСАМОЛЬСТВА** *н.* Ідэі, прынцыпы камсамола. *Сцёпка нічога не мае супроць камсамольства, ён нават і запісаўся б у камсамол, але бацька Сцёпкаў сказаў раз: — Калі ты, гад, пойдзеш супраць бога, то я з цябе скуру злуплю!* На прасторах жыцця.

**КАМЯНІЦА** *ж.* Камяністая глеба. *І як розум ні павернеш, Ўсюды выйдзе спорка: Там пясок і камяніца — Кепска для ячменя..* Сялянская рада.

**Камяні́ца** *ж.* 'камяністая глеба' (Гарад., Маст., Пух., Старадарож. СПЗБ).

**КАНАПАТКА** *ж.* Тое, чым затыкаюць шчыліны. *Разбурылі яны [буслы] заслону, сатканую з дзеразы, скінулі з старой галавы дуба каптур, павыцягвалі канапатку з дубовых шчылін.* Як птушкі дуб ратавалі.

Параўн. руск. *конопатка* 'матэрыял для канапачання (мох, пакулле)'.

**КАНДЫБЫ** *мн.* Хадулі. *І каб што людскае, а то — як ступа, ходзіць [Кацярына Паўлаўна], як на кандыбах.* Так і трэба ашуканцу.

**Канды́бы** *мн.* 'кандыбы' (ТС; Слуц. Нар. словатв., с. 66); **канды́ба** *м.* 'кульгавы чалавек' (Клім. Бялькевіч); 'кульгавы чалавек; павольны ў хадзе і рабоце' (Насовіч); **канды́біна** *ж.* 'палка, хадуля' (Валож. СЦБ).

**КАНТРЫ** *мн.* Рэжучы бок, край ляза; вастрыё. *Вобразн. Люд набожны, болей сталы, Чые хаты пад жалеза, Сціха точыць кантры леза Супраць тых, каму ўсё мала.* На шляхах волі.

**КАНЧУК** *м.* Канец. *Вусы пан спусціў маўкліва, Іх пакусваў канчукі.* Сымон-музыка.

**Канча́р** *м.* 'канец' (Навагр. Нар. словатв., с. 44; Стаўб. З нар. сл., с. 78); **канчу́к** *м.* 'бізун, пуга' (Гродз. Сцяшковіч, 1972).

**КАПАРНУЦЬ** *зак.* 1. Капнуць, ускалупнуць. *Зямельку ботам [Антось] капарне, У рукі возьме, азірне І расцірае ў пальцах грудку, каб лепш дазнацца таго скутку.* Новая зямля. 2. Бадануць. *На зло Рагуля ўжо ў варотах Цялушку рогам капарнула.* Новая зямля.

**КАПАЦЕЦЬ** *незак.* Капаць часта, буйнымі каплямі. *Гразь настала каля ганку, З капяжа ўсё капаціць.* Увосень.

**Капацéць** *незак.* 'капаць, працякаць' (Люб. Жыв. нар. сл., с. 101).

**КАПАЧ** *м.* Пра марудлівага, лянівага чалавека. *Калі ў хаце жывуць дзве бабы, то ўжо спакою няма. Адна — капач, тая — мешалка. Адна — гультай, другая — няўмека.* Дзяліцьба.

**Капáч** *м.* 'маруда' (Ваўк. СПЗБ).

**КАПАЧКА** *ж.* Жан. да капач. *Ці ж навіна яму [Баўтруку], што з гэтай капáчкі толку не было і не будзе? З першага разу разгадаў яе [нявестку].* Называецца зарабіў.

**КАПІТАЛІСЦКІ** *прым.* Капіталістычны. *А што пачаць? Тут трэба розум, Каб разабраць, як што к чаму, Ды ўжо прыйсці ўсім к аднаму, Каб скінуць трутняў з свайго возу: Капіталісцкую занозу І буржуазную чуму.* На шляхах волі.

**КАПКА** *ж.* Кропля, кропелька. *Упала кропля і другая, За імі цэлым вадаспадам Буйныя капкі, як бы градам, Па лісцях дуба секанулі..* Новая зямля.

**Кáпка** *ж.* 'кропля' (Пух. МСММГ, 1974; Чэрык. Бяльковіч; Гл. Янкоўскі, 1970); 'капелька' (Навагр. Сцяшковіч, 1972); 'капля' (Лоеў. Янкова). Параўн. польск. *kapka* 'кропелька'.

**КАПТУРЫК** *м.* Памянш. да каптур 'капюшон'. Тут маецца на ўвазе каталіцкае духавенства. *Наслалі нам асаднікаў, Жандараў іураднікаў, І іншае брыды. Кунтушыкаў, каптурыкаў І антэкаў-мазурыкаў Наперлі нам сюды, Каб гэтыя «дабрадзеі» Вам польскасць тут праводзілі На панскія лады.* Панская ласка.

**Каптýр** *м.* 'дзіцячая шапачка', 'галаўны ўбор, які насілі замужнія жанчыны пад хусткай', 'надбудова над плітой, па якой адводзіцца ў комін дым і пара' (Воран., Слон., Смарг. Сцяшковіч, 1972). Параўн. польск. *kaptur* 'капюшон'.

**КАПУСЦЯНЫ** *прым.* 1. Які мае адносіны да капусты; капусны. *Гэтая капуста — гордасць Астапава. Соцень шэсць капусцяных галоў, як войска, стаіць, прыветна Астапу ўсміхаецца.* Туды, на Нёман! 2. У выразе: галава капусцяная. Дурны, бесталковы чалавек. *Чалавек з ботамі на дзеда паглядзеў з нейкім дакорам, галавою патрос. — Галава твая капусцяная, — прамовіў ён. — Дай тры пуды жыта, і боты бяры.* Называецца зарабіў.

Параўн. польск. *kapuściany* 'капусны'; *głowa kapuściana* 'бязмозглая галава'.

**КАПЭЛІЯ** *ж.* Кампанія. *Ён [Хрулька] першы даведаўся, што гестапавец кінуў яго, як непатрэбную псіну, і з усёй сваёй капэліяй задаў драпака.* Між дзвюх рэчак. *Ротмістр завярнуўся і накіраваўся да дзвярэй. За ім пайшла і ўся яго капэлія.* На ростанях.

**КАПЭЛЯ** *ж.* Зграя. *Калі ж бяда расчыніць дзверы, Дык верце, людзі, што яна — Ваўчыца тая, што адна Капэлю водзіць ваўкоў шэрых.* Рыбакова хата.

**КАРВЕГА** *ж.* Вялікі кавалак хлеба. *У той час, калі з'явілася гэта думка, Рыгор Андрэевіч знаходзіў, што гэты візіт ён зробіць лёгка і проста і дастане карвегу хлеба.* Курская анамалія.

Параўн. руск. *коврига* 'вялікі круглы хлеб; каравай'.

**КАРТАПЛЯНІШЧА** *н.* Поле, з якога сабраны ўраджай бульбы; бульбянішча. — *Я казаў бы, — пачынае Дзед, абросшы мохам, — Картапляніща ад лесу Высеяць гарохам.* Сялянская рада.

**Картапля́нішча** *н.* 'бульбянішча' (Карэл. Сцяшковіч, 1972; Лоеў. Янкова; Зэльв. Шаталава; Гл. Янкоўскі, 1970; Старадарож. СПЗБ); **картоплеві́шчэ** і **карто́плішча** *н.* 'бульбянішча' (ТС; Бераст., Карэл. Сцяшковіч; Пух. СЦБ, 1972); **картафля́нішча** *н.* 'поле, дзе расла бульба' (Стаўб. З нар. сл., с. 78); **карто́пліска, карто́плыско** *н.* 'бульбянішча' (Брэсц., Кам. ДСБ); **картапля́ньнік** *м.* 'поле, дзе расла бульба, бульбянішча' (Касц. Бялькевіч).

**КАРТАФЛЯНІК** *м.* Бацвінне бульбы; бульбянік. *Картафлянік на картофлях павяў, апусціў сухое лісце; адны толькі голыя цыбуры тырчаць, як палкі.* Восень.

**Картафля́нік** *зб., м.* 'бульбоўнік' (Капыл. Жыв. сл., с. 171; Чэрв., Шчуч. СПЗБ; Стаўб., Уздз. СЦБ); **картапля́нік** *м.* 'бульбоўнік' (Лельч. Жыв. сл., с. 212); **картаплы́нне** *н.* 'бульбянае бадылле' (Іван. Жыв. нар. сл., с. 96); **картапле́нне** *н.* 'картафлянік' (Нясв. МСММГ, 1974); **картопле́нне, картоплы́нне, картупле́нне** *н.* 'бульбоўнік' (Бяроз., Кам., Пін. ДСБ); **картапле́нё, картапля́нік, карто́пнік** *м.* 'бульбоўнік' (Зэльв., Слон. Сцяшковіч, 1972); **кардапля́нне** *н.* 'бульбянік, бацвінне бульбы' (Лоеў. Янкова).

**КАРЦІННА** *прысл.* Вобразна. — *Ну, вельмі ж «карцінна» расказваеце, Іван Пракопавіч, — не перастаючы смяяцца, адказвае Лабановіч.* На ростанях.

**КАРЧАВІТАСЦЬ** *ж.* Уласцівасць карчавітага; каржакаватасць. *Гэтая дзёрзкасць і малады задор, а таксама і карчавітасць складу дзяўчыны зрабілі сваё.* У двары пана Тарбецкага.

**КАРЧАВІТЫ** *прым.* Невысокі, шыракаплечы, моцнага целаскладу; каржакаваты. *Гамыра — чалавек ужо не малады, гадоў за пяцьдзесят, прысадзісты і карчавіты.* На «святой зямлі».

**Карчаві́ты** *прым.* 'каржакаваты, моцны' (Карэл. Сцяшковіч, 1972); **карчукава́ты** *прым.* 'каржакаваты' (Карэл. Нар. словатв., с. 52); **карча́сты** *прым.* 'каржакаваты' (Гродз. Сцяшковіч, 1983).

**КАРЧАЎЁ** *н., зб.* Карчы. — *Цяжка ўзяць яго* [язя] *там, — безнадзейна прызнаўся Якуб: — Карчаўё, карэнне.* На ростанях.

**Карчы́ска** *н.* 'карчэўе' (Бераст. Сцяшковіч, 1983); **корчёвье** *зб., н.* 'збор каранёў' (Насовіч).

**КАРШЭЛЬ** *м.* Каршэнь, карак. *Былі такія моманты, калі Сцяпану моцна хацелася ўскочыць у пакой і штурхануць у каршэль надаедлівага Шлёмку Цырліка.* Старыя падрызнікі.

**Каршэ́ль** *м.* 'карак' (Шчуч. Сцяшковіч, 1972; Уздз. СЦБ; Клецк. Нар. лекс., с. 207); 'у выразе: даць у каршэль — даць па шыі' (Стаўб. Нар. сл., с. 150); **каршэ́нь** *м.* 'карак' (Ушацк. Нар. сл., с. 169; Паст. СПЗБ; Верхнядзв. Шаталава).

**КАРЫСТАЦЬ** *незак.* Карыстацца чым-н. *Хто быў дужшы і праворны, Той грунт лепшы карыстаў, А слабейшы і пакорны Жыцце толькі марнаваў.* Сымон-музыка.

**Карыста́ць** *незак.* 'карыстацца' (Ашм. СПЗБ).

**КАРЭНКАВАТЫ** *прым.* 1. Каржакаваты (пра чалавека). *Гэта быў невысокі, карэнкаваты чалавек з шырокім тварам, з пранізлівымі выцвіўшымі вачамі.* На ростанях. 2. З тоўстым коранем, каранасты (пра грыбы). *Так многа іх [грыбоў], і ўсе таўсматы, Прыземісты, карэнкаваты, Чорнагаловы, паўнацелы..* Новая зямля.

**Карэнкава́ты** *прым.* 'каржакаваты' (Кам. Жыв. нар. сл., с. 43).

**КАСАВАЦЦА** *незак.* Адчуваць сябе староннім, пабочным. *Калі ён [інспектар] уваходзіць у школу, настаўнік павінен ісці на два крокі ззаду, а ў школе зусім касавацца.* На ростанях.

**КАСАРСТВА** *н.* Касьба, кашэнне. *Агледзьце, братцы, добра косы, Каб не псаваць свае пракосы, Каб не ўвадзіць людзей у грэх, Касарства зводзячы на смех.* Новая зямля.

**Каса́р** *м.* 'касец' (Лоеў. Янкова).

**КАСТРЭЖЫЦЬ** *незак.* Змятаць у кучу. *Ён [Амелька] кастрэжыць у кучу амецце, думае аб сюжэце свае камедыі і аб тым, дзе і як яго выканае.* Драматург і лірычны паэт.

**КАСЦЁР** *м.* Стос, горка. *Паміж дзвюх лаў пад абразамі Туліўся стол з двума кастрамі Аладак грэцкіх, як пампушак, Ды хлеба з зайчыка краюшак.* Новая зямля.

**Касьцёр** *м.* 'сціртa колатых дроў' (Беш. Нар. сл., с. 94); **кастро́г (кастро́х)** *м.* 'касцёр' (Гродз. Цыхун).

**КАТАВАСІЯ** *ж.* Беспарадак, мітусня, неразбярыха. [*Пілiп:*] *Каля Харланаўкі дзве батарэі пастаўлены. Такая, брат, сумятня, катавасія... Эх, заварваецца каша!* Крывавы вір.

Параўн. руск. прастам. *катавасия* 'мітусня, беганіна, сумятня'.

**КАТАНКА** *ж.* Від верхняй вопраткі. *Ці ты [небарача] глух на папіханкі? Свецяць рэбры скрозь катанкі, А праз шапку чуб прабіўся..* Эй, скажы мне, небарача... *Вобразн. Выйшлі цені на палянку, Ўсе пад нумарамі, Ў беласнежную катанку Ўлезшы з галавамі.* Пад Новы год.

**Ката́нка** *ж.* 'безрукаўка' (Пін. Жыв. нар. сл., с. 132); 'летні касцюм без падкладкі' (Драг. Нар. словатв., с. 146); 'кабат, безрукаўка' (Шчуч. СПЗБ); 'куртка' (Пін., Стол. ДСБ); **ка́танка** *ж.* 'блузка' (Чэрв. Нар. словатв., с. 134; Пух. СЦБ).

**КАТАРЖАНСКІ** *прым.* Катаржны. *А ўдзень, калі выводзілі гуляць на двор арыштантаў, то прывычнае вуха магло ўлавіць няясны шум і бразгатанне катаржанскіх кайданоў.* Цені мінулага.

**КАТУСЯНЁ** *н.* Маленькі каток. *І была нават такая мінута, калі Аленка шчыра прыгарнула чорную кошачку з белаю грудзінкаю і ціхенька ёй сказала на вуха: — Катусянё ты маё мілае! Астанешся ты без мяне! Хто цябе песціць будзе?* На прасторах жыцця.

**Кату́сь** *м.* 'памянш-ласк. да кот' (Брасл. СПЗБ).

**КАЎДОБІНА** *ж.* Выбоіна, ямка на дарозе; калдобіна. *..трасе цялежка, падкідае на каўдобінах, усё роўна як хоча яна выкінуць мяне пасярод дарогі.* Думкі ў дарозе.

**Каўдо́біна** *ж.* 'калдобіна, выбоіна на дарозе, яма з вадою на лузе, вір на рацэ' (Мсцісл. Бялькевіч); **каўдо́ба** *ж.* 'калдобіна, выбоіна' (Гродз. Цыхун); **калдо́ба** *ж.* 'глыбокая выбоіна на дарозе' (Паст. СПЗБ).

**КАЎЗАЦЦА** *незак.* Катацца па слізкай паверхні; коўзацца. *Успамінаецца, як некалі малым* [*Лабановіч*] *бегаў басы каўзацца на лёдзе.* На ростанях.

**Каўза́цца** *незак.* 'слізгацца' (Круп. СЦБ; Круп. МСММГ, 1974); 'катацца на саначках, коньках' (Бял. Яўсееў); 'коўзацца, слізгацца (на лёдзе)' (Мсцісл. Бялькевіч).

**КАЎНЯРОК** *м.* Маленькі вузкі каўнер; каўнерык. *Кашульку сыну я змайструю І так аздоблю каўнярок, Што мой Валерык закрасуе, Бы той у жыце васілёк.* Рыбакова хата.

**Каўняро́к** *м.* 'манжэта' (Бых. МАСМ); **каўне́рац** *м.* 'каўнерык' (Гродз. Цыхун; Уздз. СЦБ).

**КАЎЦЮГ** *м.* Гаўняк. — *Вучоны, вучоны!.. З'еш каўцюг кручоны! — асекся Амелька.* Драматург і лірычны паэт.

**Каўцю́х** *м.* 'кал' (Краснап. Бялькевіч).

**КАХЛЯНКА** *ж.* Печ, абліцаваная кафляй. *Сягоння ўладзілі кахлянку.* З пісьма.

**Кахлёўка, кахля́нка** *ж.* 'кафляная печ' (Ваўк., Іўеў. Сцяшковіч, 1972); **ка́хля** *ж.* 'кафля' (Касц. Бялькевіч; Гродз. Цыхун; Стаўб. СЦБ). Параўн. ням. *Kachel* 'кафля'.

**КАХЛЯНЫ** *прым.* Кафляны. *Паздароўкаўшыся з настаўнікам, Чэсь моўчкі сеў каля кахлянае печы і адтуль, як ваўчок, прыглядаўся да настаўніка.* На ростанях.

**Кахля́ны** *прым.* 'зроблены з кафлі' (Стаўб. СЦБ); 'кафельны' (Дзятл. Сцяшковіч, 1983); **кафлёвый** *прым.* 'кафляны' (Ваўк., Гродз., Драг. СПЗБ); **ка́хыльный** *прым.* 'кафельны' (Мсцісл. Бялькевіч).

**КАЦЬМАК** *м.* 1. Неахайны, неакуратны чалавек. *Ідзе* [*шпік*] *размеранай хадою У пары з нейкім кацьмаком. Рука іх злыгана з рукою, Як шыі двух валоў ярмом.* Рыбакова хата. 2. Цёмны, адсталы чалавек; гультай. *Было відаць, што тут ліпелі Да часу людзі і не дбалі, Гразі ніколі не знімалі, Рабіць парадку не хацелі, Жылі па-свінску, кацьмакамі І ў добрай згодзе з прусакамі.* Новая зямля.

**Кацьма́к** *м.* 'нядбайнік, гультай' (Карэл. Сцяшковіч, 1972).

**КАЧЭРГІ** *мн.* Вугал каля печы, дзе стаяць качарга, вілкі, чапяла і інш. *Падняў я венік у качэргах, там япрук.* Наша сяло, людзі і што робіцца ў сяле.

**Качэ́ргі** *мн.* 'месца ў кутку каля печы, дзе стаяць вілкі, чапяла, венік і інш.' (Слуц. Нар. словатв., с. 66; Стаўб. МСММГ, 1970; Воран. Сцяшковіч, 1983); **качаргéшнік** *м.* 'качарэжнік' (Зэльв., Іўеў. Сцяшковіч, 1972; Дзятл., Карэл., Свісл. СПЗБ; Слон. Жыв. нар. сл., с. 34).

**КАШЭЛЬ** *м.* Кашалёк. *Ён* [*Міхал*] *паскупеў і нават значна. Што ж? лепей з'есці не так смачна, Загнаць запас на хлеб, на сала, Абы капейка перапала, І лішні выгадаць рубель Ды палажыць яго ў кашэль.* Новая зямля.

**КВАДРАТОВЫ** *прым.* Які мае форму квадрата; квадратны. *Падымае яна* [*сіла сацыялістычнага спаборніцтва*] *і сталявара, які здымае з квадратовага метра пода печы столькі металу, колькі давала раней цэлая печ.* На шляху да камунізма.

**КВАКУХА** *ж.* Жаба. *Тут жа можна напаткаць яшчэ там-сям і сляды першабытнай арахоўскай прыроды, калі не пачыналася тут гэтае будаўніцтва: маленькія тыповыя балотцы на ўзгорку з купінамі зялёнай травы, дзе вечарамі даспеўваюць свае песні зялёныя квакухі.* Паездка на Асінбуд.

**Ква́кша** *ж.* 'дрэвавая лягушка' (ТСБМ); **ква́кацъ** *незак.* 'квакаць (пра жаб)' (Шчуч. СПЗБ; Навагр. Сцяшковіч, 1972).

**КВАПІЦЬ** *незак.* Прыцягваць увагу, цікавіць. *Пайсці ў грыбы ці ў тую ж рыбу, Або паехаць у сялібу Ці ў млын малоць на хлеб збажынку — Ўсё гэта квапіла хлапчынку, Цягнула крэпенька, бывала, І як рукою, злосць знімала.* Новая зямля.

**Ква́пiць** *незак.* 'цікавіць, прыцягваць увагу' (Карэл. Сцяшковіч, 1972); **ква́пный** *прым.* 'прывабны' (Бяроз. ДСБ).

**КВАТЭРА** *ж.* Лясніцтва, памяшканне, дзе жыў ляснічы. *І ўсё жывенькае вітала Усход яго* [*сонейка*] *на ясным небе І клапатком аб пільным хлебе Дзянёчак новы зачынала, Калі Міхал і пан Ксавэры Ўзышлі маўчком на двор кватэры.* Новая зямля.

**КВЕТ** *м.* 1. Краска, кветка. *Косы чорныя маўкліва Распусціла ноч па свеце, На лістку, на кожным квеце Волас звіс яе жычліва.* Сымон-музыка. 2. Ласкавы зварот да каго-н. [*Мар'яна*:] *Былінка мая ты, мой квет. Загінуў ты смертухнай лютай, Нашто ж ты радзіўся на свет?* Адплата.

**Квет** *м.* 'кветка' (Лоеў. Янкова); **квят** *м.* 'кветка' (Смарг. Шаталава); **квя́ты** *мн.* 'кветкі' (Пух. МСММГ, 1970; Докш. МСНДМ, с. 139). Параўн. польск. *kwiat* 'кветка'.

**КВІТ, КВІТА** *выкл.* Канец; баста, усё. [*Садовіч да Лабановіча*:] *— Не, брат, гэта ідэя! А месца тут якраз звальняецца. Падам прашэнне — і квіт.* На ростанях. *Іх тут годзяць І разводзяць, А яны* [*Тарэся і Аўгіня*], *Як бараны, Пашчапляліся і квіта, Толькі пыхкаюць сярдзіта.* За дождж.

**Квіт** *м.* 'квіт, канец' (Мсцісл. Бялькевіч).

**КВІТОК** *м.* Дакумент, якім што-н. пацвярджаецца. — *Вам што? — сekануў загадчык. — Я здаў экзамены на рабфаку, а мяне не прынялі. — І падае* [*Сцёпка*] *квіток аб здачы экзаменаў. Загадчык зірнуў на квіток.* На прасторах жыцця.

**Квіт** *м.* 'распіска, квітанцыя' (Астр., Слон., Смарг. СПЗБ); 'квітанцыя' (Валож. СЦБ; Валож. МСММГ, 1977); **квіто́к** *м.* 'білет' (Лях. ДСБ); 'квіток, квітанцыя' (Касц. Бялькевіч). Параўн. польск. *kwit* 'пісьмовае сцверджанне атрымання грошай, рэчаў, паслуг і пад.'

**КВЭСТЫЯ** *ж.* Праблема; справа, якая патрабуе вырашэння. *Ён [Богут] кажа далей: — Дарагая! Каб гэту справу зразумець I доўгай квэстыі не мець, Дык гэты ліст я прачытаю.* Рыбакова хата. *Калі яны засталіся адны з Садовічам, Нічыпар сказаў: — Дабром уся гэта квэстыя не скончыцца.* На ростанях.

Параўн. польск. *kwestia* 'справа, якая патрабуе вырашэння; праблема, пытанне'.

**КЕЛБ** *м.* Невялікая рачная рыба сямейства карпавых; пячкур. *Заклікайце рыбу ўсю: Накажыце карасю, Няхай вылезе з гразі, Хай плывуць сюды язі, Мянтузы, яршы, кялбы I акунь, той гад рабы.* Рак-вусач. *А кялбоў і яршоў I другіх малышоў Не злічыць на соткі.* Міхасёвы прыгоды.

**Келб** *м.* 'невялікая рачная рыбка' (Слон. Нар. лекс., с. 52); 'пячкур' (Барыс., Віл., Воран., Шчуч. СПЗБ; Івац. ДСБ; Воран. Сцяшковіч, 1972; Гродз. Цыхун); **кі́лба** *ж.* 'рыба пячкур' (Стаўб. МСММГ, 1977); **калбу́н** *м.* 'пячкур' (Уздз. СЦБ). Параўн. польск. *kiełb,* літ. *kilbas* 'дробная рыба сямейства карпавых'.

**КЕМ** *м.*: **БРАЦЬ НА КЕМ.** Разумець што-н., цяміць. [*Рыбак*:] *I толькі потым я ўцяміў, Тады ж на кем не браў ніяк, Чаго каноплямі, аўсамі Туляўся юда-ваўкалак.* Рыбакова хата.

**Ке́міць** *незак.* 'кеміць, разумець' (ТС; ТСБМ).

**КЕМКІ** *прым.* Які ўсё хутка і лёгка разумее, засвойвае; кемлівы. [*Букрэй*:] *Я таксама, таварышы, стаю за бацьку Талаша. Ён — чалавек змыслы, кемкі, асцярожны, але рашучы і смелы.* У пушчах Палесся.

**Ке́мкі** *прым.* 'кемлівы' (Маладз. МСММГ, 1977; Маладз. СЦБ); **ке́мны** *прым.* 'цямлівы, кемлівы, кемны' (Віл., Глыб., Маладз., Чэрв. СПЗБ; ТС).

**КЕПЛІ** *мн.* Насмешкі, кпіны. *Хоць Яхім быў хлопец не злы, Ды на кеплі быў мастак.* Сымон-музыка. *Яны [Дзяжа*

*і Далін*] *гуторылі не раз. Было — спрачаліся падчас; І кеплі горкія і кпіны Былі па адрасу айчыны.* На шляхах волі.

**Ке́пікі** *мн.* ‘насміханне, кпіны’ (ТСБМ; Насовіч); **кепкава́ць** *незак.* ‘падсмейвацца з каго-небудзь, строіць кепікі’ (Капыл. З нар. слоўн., с. 102).

**КЕРАНКА** *ж.* Грашовы папяровы знак, які быў выпушчаны Часовым урадам Керанскага. *Дастаў* [*дзед*] *прыхаваныя тры «керанкі» па сорак рублёў.* Называецца зарабіў.

**КЕЦКА** *ж.* Мяшочак для грошай; кашалёк. *Зараз усе забразгалі кецкамі, дастаючы грошы.* З дзеннiка пана Жылака.

**Ке́цка** *ж.* ‘жмут (грошай)’ (Гродз. Жыв. нар. сл., с. 26); ‘торбачка’ (Лід. Сцяшковіч, 1983); **ке́ска** *ж.* ‘кашалёк, торбачка’ (Ваўк. Сцяшковіч, 1972); **ке́ска, ке́цка** *ж.* ‘машна на грошы’ (Мсцісл. Бялькевіч); ‘кашалёк’ (Валож. СЦБ); **ке́ска** *ж.* ‘кашалёк’ (Насовіч). Параўн. польск. устар. *kiesa* ‘мяшочак для грошай або каштоўнасцей’.

**КІДКА** *ж.* 1. Такая колькасць чаго-н., што можна ўзяць за раз і кінуць. *Зашорхалі рыдлёўкі ў зямлі, паляцелі кідкі направа і налева.* На прасторах жыцця. 2. Пэўная колькасць карт, якую забірае той ці іншы ігрок у працэсе гульні. — *Вось шанцуе — як няхрышчанаму: з першай кідкі банк падвоіў, — з зайздрасцю сказаў Памахайлік.* На ростанях.

**Кі́дка** *ж.* ‘укладка сена ў стог’ (Барыс. СПЗБ); ‘вялікі ахапак сена’ (Чэрв. МСММГ, 1977); ‘кідка’ (Карэл. Сцяшковіч, 1972).

**КІЛЗАЦЬ** *незак.* 1. Закладваць цуглі, закелзваць. *Абкруціўся* [*поп*] *вужышчам навокала ды давай жураўлёў ён кілзаць, Цыбатыя ногі вязаць, Ды вужышча прывязваць аборкамі.* Як поп зрабіўся авіятарам. 2. *перан.* Лавіць рыбу на кручок. *І з вудай дзядзька шчасце мае: Язёў занадзіць і кілзае.* Новая зямля.

**Кілза́ць** *незак.* ‘кілзаць’ (Брасл. СПЗБ); **ке́лзаць** *незак.* ‘кілзаць’ (Гродз. Цыхун).

**КІЯК** *м.* Кій, палка. *Падбягае рыбак Ды хапае кіяк. — Гэта ж, брат, гадзюка, І такая злюка!* Міхасёвы прыгоды.

**Кій** *м.* 'палка' (ТС).

**КЛАДЫ** *толькі мн.* Могілкі. *Яны* [*мужчыны*] *лагчынку праязджаюць, Гару сярэднюю мінаюць, Клады з паніклымі крыжамі, Дзе дрэвы голькамі-брыжамі Навіслі ціха над зямлёю, І едуць мернаю ступою.* Новая зямля.

**Кла́ды** *мн.* 'могільнік' (Гл. Янкоўскі; Браг. Нар. словатв., с. 128; Люб., Старадарож. Жыв. нар. сл., с. 102); **клада-ві́шча** *н.* 'могілкі' (Лід. Сцяшковіч, 1983); **кла́дзішча** *н.* 'могілкі' (Бых. МАСМ; Чэрык. Бялькевіч); **кладаўё** *н.* 'могілкі' (Чэрв. МСММГ, 1970; Чэрв. СЦБ; Жлоб. Бялькевіч).

**КЛАК** *м.* Жмут шэрсці, лямца, якім забіваюць зарад у вогнестрэльнай зброі, што зараджаецца з дула. *Надзеў* [*дзед Талаш*] *праз плячо паляўнічую раменную торбу на шырокім пасе, дастаў ладункі з порахам, засыпаў у стрэльбу добрую порцыю пораху, туга забіў яго клакам.* Дрыгва.

**Клак** *м.* 'пыж' (ТСБМ); 'жмут, вельмі мала' (Кам. Жыв. нар. сл., с. 43); **клок** *м.* 'жмут сена, валасоў' (Чав. Нар. сл., с. 132); **клык** *м.* 'жмут' (Карэл. Шаталава). Параўн. укр. *клак* 'пакулле, пачассе', польск. *kłak* 'жмут'.

**КЛАПАТАЦЬ** *незак.* Непакоіцца, хваляваўцца. *Ступіў яшчэ ён колькі крокаў, Да пана коціцца ён бокам; А пан не бачыць ці не хоча Глядзець, як дзядзька наш клапоча І ў ім патрэбу дужа мае, Ідзе і палачкай махае.* Новая зямля.

**Клапата́ць** *незак.* 'хадайнічаць' (Дзярж., Смарг. СПЗБ); **клопота́ць** *незак.* 'клапаціцца, турбавацца' (Насовіч).

**КЛАПАТОК** *м.* Памянш-ласк. да клопат 'думка пра ажыццяўленне чаго-н.' *І ўсё жывенькае вітала Усход яго* [*сонейка*] *на ясным небе І клапатком аб пільным хлебе Дзянёчак новы зачынала.* Новая зямля.

**КЛЁВАЦЬ** *незак.* Даймаць, дапякаць, крыўдзіць; кляваць. *Вось я вырас, і пад носам Вусы высядаюць. А мяне навокал чубяць, Клёваюць, ўшчуваюць.* Як і калісь.

**Клёваць** *незак.* 'кляваць, біць дзюбаю' (ТС); 'адчуваць сябе вельмі слабым' (Уздз. МСММГ, 1970). Параўн. руск. *заклевать* 'замучыць нападкамі, прыдзіркамі'.

**КЛУБЧАСТЫ, КЛУБЯСТЫ** *прым.* Шарападобны. *Клубчасты, кучаравы хвост дыму ўсё падаўжаўся, шырыўся і, здавалася, нерухома застыў у марозным паветры, тады як*

*галава яго ўсё выцягвалася як бы са свайго ўласнага цела.* На ростанях. *Клубястыя хмары, куды вы плывеце? Ой, многа вам, многа Прастору на свеце!* На захад.

**Клуб** *м.* 'клубок, шар' (ТС).

**КЛУНЯ** *ж.* Будынак для складвання снапоў, сена; пуня. *Іх спыняе гаспадар: — Клуня блізка, і на сене Можна добра адпачыць..* Сымон-музыка.

**Клу́ня** *ж.* 'пуня', 'свіран' (Брэсц., Ганц. ДСБ); 'клуня' (ТС).

**КЛЫГАТ** *м.* Павольны, нераўнамерны рух колаў з пастукваннем і паскрыпваннем. *І гэту згоднасць, радасць свята Ва ўсім Кастусік адчувае: І ў тым, як з дзядзькам размаўляе, На возе седзячы з ім, тата, Чуваць яна ў пытанні брата, І ў гэтым лесе безгалосным, І ў мерным клыгату калёсным..* Новая зямля.

**КЛЫГАЦЬ** *незак.* 1. Марудна ісці, клыпаць. *Маўчыць Аўген, маўчыць Марына, А конік клыгае ступой.* Рыбакова хата. 2. Павольна рухацца, перамяшчацца. *Яна* [*каламажка*] *ледзь-ледзь клыгае, коціцца на адным коле і буксуе канцом восі па гарачых пясках Паўночнай Афрыкі.* Злачынцы суда не мінуць.

**Клы́гаць** *незак.* 'марудна ісці, накульгваючы' (Гродз. Цыхун); 'прыпадаць на адну нагу, кульгаць' (Кір. Нар. сл., с. 69); 'клыпаць, павольна рухацца' (Карэл. Сцяшковіч, 1972); 'кульгаць' (Кліч. Жыв. сл., с. 127); 'ісці паціху' (ТС).

**КЛЯКОТКА** *ж.* Прыстасаванне, пры дапамозе якога ўтвараюць трэск, шум, лёскат; трашчотка. — *Эх, шкода, брат: няма клякотак! Ну, хоць бы з парачку трашчотак! — Гаворыць дзядзька: — ну, нічога, І так мы зробім шуму многа І ўсім зайцам задамо страху! — Дае дарэктару ён бляху.* Новая зямля.

**Кляко́тка** *ж.* 'званочак, які чапляюць жывёле на шыю' (Шчуч. Нар. лекс., с. 43); 'драўляная бразголка на шыі жывёліны' (Лід. Сцяшковіч, 1983); 'трашчотка, драўляны званок' (Ваўк., Лях., Маст., Шчуч. СПЗБ). Параўн. літ. *klekẽtas* 'трашчотка'.

**КЛЯНІНА** *ж.* Драўніна клёну. *Вось вы зірніце ў хлеў на вышкі! Там многа яблынін на лыжкі, Там ёсць ігруша, і кляніна, якая хочаш дравяніна.* Новая зямля.

**КЛЯЦЬБА** *ж.* Абяцанне, запэўненне; клятва. *Навошта лгаць самой сабе У тых прызывах і кляцьбе, Калі апошняю парою Ён, гэты чэх, стаіць прад ёю У нейкай стоенай журбе?* На шляхах волі.

**Кляцьба́** *ж.* 'праклён' (Лід., Навагр. СПЗБ); **кля́тба** *ж.* 'праклён' (Бар. МСММГ, 1974; Барыс. СЦБ); **кленц** *м.* 'клятва' (Бяроз. Шаталава); **кля́тва** *ж.* 'прысяганне, прысяга' (Смарг. СПЗБ).

**КНІГА** *ж.* Кнігаўка. *А выйдзеш увечар на двор — крычаць качкі, жалобна стогнуць кнігі; як у кадушку, грукае недзе на возеры бугай.* Прылёт птушак.

**Кні́га** *ж.* 'кнігаўка' (Ваўк., Воран., Гарад., Гродз., Дзятл. СПЗБ; Гродз. Цыхун); **кны́га** *ж.* 'кнігаўка' (Брэсц. ДСБ); **кнёўка, кні́га, кні́гавіца** *ж.* 'кнігаўка' (Астр., Дзятл., Карэл. Сцяшковіч, 1972).

**КНІЖНІЦА** *ж.* Паліца ў кніжнай шафе. *Лабановіч.. падышоў да кніжнае шафы. На адной палічцы стаяла колькі дзесяткаў тоненькіх кніжачак.. Разгледзеўшы гэту кніжніцу, Лабановіч нічога не знайшоў у ёй цікавага, асабліва для тутэйшага насельніцтва.* На ростанях.

**Кні́жнік** *м.* 'паліца' (Лід. Сцяшковіч, 1983).

**КОДЛА** *н.* Дом, сяліба. *Злажыўшы рукі, як на модлы, Прыпёршыся каля сцяны, Глядзіць Марына, як іх кодла Трасуць, варочаюць паны.* Рыбакова хата.

**Ко́дла** *н.* 'зборышча' (Карэл. Сцяшковіч, 1972); 'адзін род' (Люб. Жыв. сл., с. 149; Касц. Бялькевіч); **ко́дло** *н.* 'радня' (Кобр. ДСБ); 'род, усе родныя па паходжанню' (ТС); 'сваякі, якія жывуць у адной вёсцы' (Маз. З нар. слоўн., с. 163).

**КОЛЕЙКІ** *мн.* Каляіны. [*Ганна да Сымона*:] *Ты паслухай: хай у полі Роўна колейкі ідуць, Няхай дзве струны, дзве долі песню ў згоднасці вядуць.* Сымон-музыка.

**Кале́йка** *ж.* 'вузкакалейная чыгунка', 'кладкі' (Брасл., Ганц., Раг. СПЗБ). Параўн. польск. *kolejka* 'вузкакалейная чыгунка'.

**КОЛЕНКІ** *мн.* Каленкі. *Страхоў такіх тут наказалі, Што ў Яські коленкі дрыжалі, І нізавошта па вячэры Не смеў ён выйсці вон за дзверы..* Новая зямля.

**Ко́ленкі** *мн.* 'калені' (Уздз. СЦБ); **ко́ленцы** *мн.* 'калені' (Гл. Янкоўскі, 1960).

**КОМЕЛЬ** *м.* Ніжняя частка ствала дрэва; камель. *А прыгож быў дуб, над дубамі дуб, У красе паўнацветнай і сіле: Комель — сталь-крамень; кучаравы чуб Красаваўся на цэлыя мілі.* Дуб.

**Ко́мель** *м.* 'ніжняя частка ствала дрэва' (Пух. СЦБ).

**КОМІНА** *ж.* Комін. *А там халупка ўстаране З старою комінай шчарбатай.* Рыбакова хата.

**КОМІНАК** *м.* Выемка ў печы, дзе раскладваецца агонь для асвятлення хаты; камінак. *Нават на комінку не разлажылі агню, як у будныя дні, а запалілі лямпу.* Куцця.

**Ко́мінак** *м.* 'бакавая частка прыпека, дзе раскладалі агонь для асвятлення хаты' (Барыс. СЦБ); 'навес над печчу, плітой', 'карніз печы' (Драг., Жаб., Кам. ДСБ).

**КОН** *м., перан.* Лёс, доля. [*Крочак*:] *А з маладосці толку мала — Такі, відаць, ужо мой кон.* На шляхах волі. *А можа быць і не загіне, У горшым выпадку палон, Калі такі ўжо яго* [*Дзяжы*] *кон, І ад вайны там адпачыне.* Там жа.

**Конъ** *м.* 'чарга, лёс' (Насовіч); **кон** *м.* 'галоўнае месца дзеяння на пляцоўцы, на якім стаяць удзельнікі гульні' (Гродз., Нар. словатв., с. 269); 'гульня ў мяч' (Лоеў. Янкова); 'кон' (Хоц. Бялькевіч).

**КОПТ** *м.* Егіпцянін, які прытрымліваўся хрысціянскай веры. *Цябе ж, бядачку* [*асліцу*], *копт убогі Хацеў у Ёсіфа купіць, Ды здохла ты. Мабыць дарога Такі пашкодзіла табе?* Марыя. *Марыя нанялася прасці У копта воўну, а стары Авец узяўся стадка пасвіць..* Там жа.

**КОРХ** *м.* Мера таўшчыні на шырыню далоні. *Прайшоўшы прасторную зборню, чыста падмеценую, але ўсё ж брудную, бо на падлозе было не менш, як на корх, засохшай гразі,.. Лабановіч адчыніў дзверы ў канцылярыю.* На ростанях.

**Корх** *м. устар.* 'вяршок (мера даўжыні)' (Кам. ДСБ); 'мера таўшчыні (сала) на чатыры пальцы' (Лун. Шаталава); 'корх' (ТС); 'мера, роўная шырыні далоні ці кулака' (Люб. СПЗБ).

**КОТЛА** *н.* Месца знаходжання каго-н.; котлішча. — *Адпомсцім! — сын глуха гаворыць І ссоўвае бровы ніжэй: —*

*Я ведаю котлы іх* [*фашыстаў*], *норы... Вось выберам ноч пацямней.* Суд у лесе.

**Ко́тлішча** *н.* ‘гняздо, сям’я’ (Карэл. Сцяшковіч, 1972); ‘выкачанае месца’ (Лоеў. Янкова); ‘сяліба, месца жыхарства’ (Дзярж. СЦБ).

**КОШАНІНА** *ж.* Скошаная трава. *Там за аўсянымі снапамі — Ядзяць іх мухі з камарамі — Ляжыць і кошаніна й віка — Не агалеў яшчэ Хадыка!* Новая зямля.

**Ко́шаніна** *ж.* ‘трава, якая толькі што скошана’ (Гродз. Жыв. нар. сл., с. 26); **ко́шань** *ж.* ‘нядаўна скошаная трава, якая крыху завяла’ (Мядз. МСММГ, 1970); ‘кошанка’ (Мядз. СЦБ); **ко́шанка** *ж.* ‘сумесна пасеяныя віка і авёс’ (Зэльв. Сцяшковіч, 1972).

**КОШКАЦЦА** *незак.* Корпацца, марудна рабіць што-н. *Добра ўсё йшло і паволі, Дома кошкаўся стары..* Батрак.

**Ко́шкацца** *незак.* ‘марудзіць, корпацца, калупацца’ (Гродз. Цыхун); ‘корпацца, марудна рабіць’ (Воран, Дзятл., Драг., Іўеў. СПЗБ); ‘капацца, поркацца’ (Пін. Жыв. сл., с. 164); ‘пароцца, мясціцца, займацца’ (ТС); **ко́шкатысь** *незак.* ‘займацца карпатлівай справай’ (Брэсц., Кам. ДСБ). Параўн. літ. *kóškytis, kõškurtis* ‘капацца’.

**КРАДЗЕЖСТВА** *н.* Крадзеж. *Наўперад глуха, потым галасней пайшлі хадзіць чуткі аб злачынствах, якія тварыліся рознымі сатрапамі на вайне, аб крадзежствах і на тэатры вайны і ў тыле..* На ростанях.

**Крадзе́жба** *ж.* ‘крадзеж, зладзейства’ (Барыс. СЦБ).

**КРАЙЧЫК, КРАЮШАК** *м.* Акрайчык. *Паміж дзвюх лаў пад абразамі Туліўся стол з двума кастрамі Аладак грэцкіх, як пампушак, Ды хлеба з зайчыка краюшак.* Новая зямля. *Вобразн. У яе* [*лясной стражы*] *вачах зямля скакала, І месяца бліскучы крайчык Па небе пстрыкаў, як той зайчык.* Новая зямля.

**Кра́йчикъ** *м. памянш.* да краецъ ‘акрайчык, лустачка’ (Насовіч); **краю́шак** *м.* ‘кавалак’ (Воран. Сцяшковіч, 1972); **краюшо́к** *м.* ‘акраец’ (Бял. Яўсееў).

**КРАПІЦЬ**[1] *незак.* 1. Мацнець, прыціскаць. *Усе яны* [*палешукі*] *былі ў лапцях, з голымі грудзьмі, хоць на дварэ крапіла зіма.* Кантракт. 2. *перан.* Надаваць большую вагу

чаму-н.; замацоўваць. — *Няхай так будзе, пане браце! — Гукнуў Хадыка канчаткова. Яны* [*Фядос і Міхал*] *рукамі крэпяць слова, Антось ім рукі разнімае.* Новая зямля.

**Кра́піць** *незак.* 'мацаваць' (Лоеў. Янкова); 'бадзёрыцца, мацавацца' (Валож. СЦБ).

**КРАПІЦЬ**[2] *незак.* Падаць дробнымі кроплямі; крапаць. *І кропіць дождж без канца-краю..* І неба хмурна пазірае...

**Крапі́ць** *незак.* 'капаць, пырскаць' (Гродз. СПЗБ). Параўн. польск. *kropić* 'крапіць, пырскаць'.

**КРАШЧЭННЕ** *н.* Вадохрышча. *Прайшлі і коляды, і крашчэнне (тры каралі), і блізка грамніцы.* Канец зімы.

Параўн. руск. *Крещение* 'адно з царкоўных свят'.

**КРОЗЫ** *мн.*: **КРОЗЫ КРОЗІЦЬ.** Марыць, летуценіць. *Пакуль Дзяжа яшчэ ў дарозе, Пара ў Засценне зазірнуць — Той хутар нельга абмінуць І нельга кінуць на парозе Адну дзяўчыну крозы крозіць, Каб потым моцна кульгануць.* На шляхах волі.

**Кро́зіць** *незак.* 'марыць, успамінаць' (Карэл. Сцяшковіч, 1972). Параўн. руск. *грёза* 'мара', *грезить* 'марыць'.

**КРОКАТ** *м.* Трэск, скрып. *Скробат мышкі, Крокат вышкі, Кашаль сценны, Звон крыла.* Сымон-музыка.

**КРОПЛЯСТЫ** *прым.* У крапінку. *Толькі конікі адны трашчаць у траве ды мігаюцца беленькія і чырвоненькія матылькі, трапечучы сваімі кроплястымі крыльцамі.* Летні поўдзень.

**Крапля́сты** *прым.* 'пра ўзор на тканіне ў кропачкі, гарошкі' (Драг. СПЗБ).

**КРОЧКІ** *мн.* Малыя крокі. *Стары робіць маленькія крочкі, чуць суне ногі.* Пракурор.

**КРУЖАВА** *н., зб.* Карункі; сурвэткі з карунак. *Па кутках залы стаялі круглыя столікі пад белым кружавам: на століках ляжалі альбомы для фатаграфій.* На ростанях.

**Кру́жава** *мн.* 'карункі' (Дзятл. Сцяшковіч, 1972); **кру́жава, кру́жавя** *н.* 'карункі' (Лоеў. Янкова). Параўн. руск. *кружево* 'карункі'.

**КРУМКНУЦЬ** *зак.* Абазвацца гукамі, падобнымі на «крум-крум». *Ці дзесь крумкач разок, другі У небе крумкне смутна-глуха.* Новая зямля.

**Кру́мкаць** *незак.* ‘квакаць’ (Бар., Бяроз. ДСБ); ‘крумкаць (пра жаб)’ (ТС).

**КРУПКА** *ж.* Дробная часцінка чаго-н.; крупінка. *Студзіць сонца твар гарачы, Сходзіць з небасхілу, Аддае святла астачы Дробным крупкам пылу.* Чую голас. *Жоўтыя пясочкі — Крупкі залатыя, Хоць бяры ў прыпол!* Летам.

**КРУЧОК** *м.* Невялікая бутэлька гарэлкі, роўная 250 г. *Лабановіч цішком паслаў бабку Параску ў манапольку па кручок гарэлкі.* На ростанях.

**Кручо́к** *м.* ‘старая мера вадкасці (і пасудзіна), роўная 1/8 л’ (Карэл. З нар. слоўн., с. 90); ‘мера вадкасці на 100 г’ (Верхнядзв. Шаталава; Астр. Сцяшковіч, 1972); ‘мера вадкасці ў 250 г’ (Ашм. МСММГ, 1974); ‘невялікая медная пасудзіна ў выглядзе чаркі з ручкай для піцця гарэлкі’ (Гродз. Цыхун); ‘бутэлька мераю ў 1/8 л’ (Стаўб. Жыв. сл., с. 107); **кру́чекъ** *м.* ‘мера вадкасці’ (Насовіч).

**КРЫЖАСТЫ** *прым.* Які па форме і выгляду нагадвае крыж; перакрыжаваны. *Зірні на луг прад навальніцай, Калі крыжастай бліскавіцай У страсе твар ахрысціць хмара, І сілай грознага цяжару Ўскалыша землю шум дрыгучы..* Новая зямля.

**Крыжава́ць** *незак.* ‘бліскаць крыж-накрыж’ (Воран. СПЗБ).

**КРЫЖЫ** *мн.* Дзве планкі, два брусы, замацаваныя ў форме крыжа; крыжавіна. *Было ўсё зрушана, сарвана: Крыжы з дзяжой каля паркана На час кароткі прыхіліліс..* Новая зямля.

**Крыжы́** *мн.* ‘казлы пад ляжачы вулей’ (Віл. З нар. сл., с. 211); ‘падстаўка пад дзяжу’ (Драг. Нар. словатв., с. 147); **крыжа́к** *м.* ‘падстаўка’ (Ваўк. Сцяшковіч, 1972); **крыжакі́** *мн.* ‘падстаўка пад хлебную дзяжу’ (Паст. СПЗБ).

**КРЫЛАН** *м.*, **КРЫЛАНКА** *ж.* Самалёт. *Гудзе, імкне над доламі крылан, Над хатамі вусцянскага пасёлка.* Вусце. *З грудка мне ўсё відаць і ўсё чутно: І трактар дзесь з-за Балачанкі, І гром сталёвае крыланкі, І спеў дзявочы з Беразянкі, — А неба ўсцяж — блакітнае акно.* Вусцянскі груд.

**КРЫЎЛЯЦЦА** *незак.* Выражаць незадаволенасць, адносіцца з пагардай. *І Сымонка чуў і бачыў, Як крыўляліся дзядзькі, Ведаў, што ў сям'і ён значыў; Нават родныя баць-*

*кі Папракалі сына хлебам Пры абедзе за сталом.* Сымон-музыка.

**Крыўля́цца** *незак.* 'зайздросціць, адносіцца з пагардай' (Жлоб. Жыв. сл., с. 116).

**КРЫШАНЧЫК** *м.* Невялікая колькасць чаго-н.; капля. *Карысным дзелам, як, напрыклад, збіраць па крышанчыку мёд, ім* [*займацца*] *не хацелася, яны* [*восы*] *часта залятаі ў вуллі, пакапныя на дарэмшчынку, і кралі або разбоем забіралі гатовае.* Асінае гняздо.

**Крыша́н** *м.* 'кусок, кавалак' (Астр. Сцяшковіч, 1972); **кры́шка** *ж.* 'кавалачак, драбочак' (ТС).

**КРЭПНУЦЬ** *незак.* Павялічвацца, узрастаць па сіле, мацнець. *На дварэ крэплі маразы, а дроў не было.* Пракурор.

Параўн. польск. *krzepnąć* 'станавіцца моцным, набіраць сілы'; руск. *крепнуть* 'станавіцца больш моцным'.

**КРЭХКАЦЬ** *незак.* Крахтаць. *Цяпер глушэц, як на далоні, Сядзіць, бы шула, у заслоне Хваёвых лапак, хвост мятлою, Як бы любуецца сабою, Балбоча, крэхкае і свішча..* Новая зямля.

**Крэкта́ць** *незак.* 'крактаць' (ТС).

**КУГАКАЦЬ** *незак.* Плакаць (пра грудное дзіця). *Кухня даўно супакоілася, і толькі цяпер кугакае дзіця.* На ростанях.

**Куга́каць** *незак.* 'крычаць (пра саву)' (Лаг. СЦБ; Астр. Сцяшковіч; 1972; Краснап. Бялькевіч); 'плакаць (пра дзіця)' (Краснап. Бялькевіч); **кугі́каць** *незак.* 'кугакаць (звыч. пра дзіця)' (Мсцісл. Юрчанка, 1988).

**КУДАСА** *ж.* Мяцеліца. *Страх нападае на душу дарожніка, каторага захопіць кудаса (уюга) у дарозе.* Мяцеліца.

**Ку́даса** *ж.* 'стужа' (Драг. Нар. словатв., с. 147); 'мяцеліца, завіруха' (Бар., Ваўк., Ганц., Іўеў., Лід., Маст., Шчуч. СПЗБ); 'завея' (Бар., Бяроз., Лях. ДСБ); 'мяцеліца' (Брэсц. МСНДМ, с. 125; Воран. Сцяшковіч, 1972); 'мяцеліца, непагадзь' (Нӑвагр. Жыв. сл., с. 24).

**КУЗУЛЬКА** *ж.* Маленькае насякомае, казяўка. *Другія, кузулькаедныя, каторыя кормяцца кузулькамі (усякімі мошкамі, мухамі, камарамі), ляцяць надта далёка, дзе зімы ніколі не бывае.* Адлёт птушак.

**Кузу́лька** *ж.* 'кузурка' (Лях. СПЗБ); **кузу́рка** *ж.* 'любое насякомае, якое поўзае, а не лятае' (Докш. МСНДМ,

с. 140); **кузáка** *ж.* 'казяўка, кузурка' (Гродз. Цыхун); **кузя́ўка** *ж.* 'казюлька' (Лаг. СЦБ).

**КУКСІЦЬ** *незак.* Біць каго-н. *А Шкурат і Кукса куксілі адзін аднаго і не знайся.* На ростанях. *Тут мужык і пачаў яе [бабу] куксіць: «Чаму гароху не ела?»* З дарэвалюцыйных допісаў у газеты.

**Ку́ксіць** *незак.* 'біць, лупцаваць' (Паст. СПЗБ); **ку́ксаць** *незак.* 'біць кулакамі ў спіну' (Шчуч. Сцяшковіч, 1972); 'плакаць, хныкаць' (Краснап. Бялькевіч). Параўн. літ. *kuksìnti* 'біць кулакамі'.

**КУЛАЧЭЧЫНА** *м., зневаж.* Багаты селянін-уласнік; кулак. [*Мікіта да мацеры:*] *Покі мы будзем чакаць, гэты кулачэчына будзе весці сваю работу, выкарыстае бацьку на ўсе сто працантаў.* Адшчапенец.

**КУЛТЫШКА** *ж.* Бядровая частка нагі. *Тарас жа Іванавіч нават быў рады пакінуць свой дом і вывесці з яго «вусеняў» (так называў ён у думках «валачобнікаў»), каб выратаваць хоць рэштку шынкі, ад якой заставалася адна касцяная рама і култышка свінога сцягна.* На ростанях.

**Кулёба** *ж.* 'костка з кумпяка' (Гродз. Сцяшковіч, 1977); **ку́льша** *ж.* 'сцягно' (Дзятл. Сцяшковіч, 1972); 'бядровая частка нагі' (Гродз. Цыхун).

**КУЛЬКА** *ж.* Ручка на кассі. *Ён [Марцін] убіў у дол касу, павесіў на кульку торбу, дзе ляжалі малаток і бабка, а сам пайшоў правяраць граніцы свайго шнура сенажаці.* На ростанях.

**Ку́лька** *ж.* 'ручка касы' (Слон. Жыв. нар. сл., с. 34); 'ручка ў касе' (Кобр., Слон. Нар. лекс., с. 53, 78); 'ручка на кассі' (Бяроз., Зэльв., Карэл., Свісл. Шаталава); 'ручка, лучок у касе' (Ганц. СПЗБ); 'дужка на кассі, ручка' (Ваўк. Сцяшковіч, 1972); 'ручка на кассі ў выглядзе абагнутага лучка' (Навагр. Жыв. сл., с. 24).

**КУЛЬТАР** *м.* Пра таго, каго залішне абагаўлялі, каму слепа пакланяліся. *Проста ляжаў, сядзеў, думаў, пераадольваючы «культ личности». Вельмі шкода, што не пераадолелі яго раней, калі быў жывы сам «культар».* З пісьма.

**КУМКАЦЬ** *незак.* Квакаць. *У зацішку на лужынах тужліва кумкалі зялёныя жабы, а далей у балотах між*

*лесу пераклікаліся бугаі, бухаючы, як у пустыя кадушкі.* На ростанях.

**Ку́мкаць** *незак.* 'квакаць' (Гродз. Цыхун; Гродз. Сцяшковіч, 1972; Верхнядзв., Лун., Петр. Шаталава); 'падаваць гук (пра жаб-жарлянак)' (ТС; Гл. Янкоўскі).

**КУМЫ** *мн.* 1. Хросныя бацькі, а таксама сваякі і блізкія людзі, якія мелі дачыненне да набыцця і развядзення пчол гаспадаром. *Таксама ж вуллі не пустыя: Раі ўздужалі маладыя І мёду трохі нанасілі. Дык вось кумоў і запрасілі На гэты дзень падгледжваць пчолы.* Новая зямля. 2. У выразе: купіць «на кумы». Купіць што-н. у супольнае карыстанне. [*Сябры да Гілёрыка*:] — *Дык ты думаеш, што і табе на спіну сядзе рой. Не, брат, не трэба спаць у шапку і чакаць, покі табе пчолы на спіну сядуць. Вось у нядзельку паедзем да Язэпа Гавакі і купім калодку «на кумы».* Калодка пчол.

**КУМЯЧОК** *м.* Маленькі камяк якой-н. мяккай, рыхлай масы; камячок. *Сані нячутна плывуць у мяккім снезе, весела хрыпяць і пырхаюць коні, дружна бягуць, толькі белыя кумячкі снегу ляцяць ва ўсе староны з-пад іх капытоў.* Зіма ў вёсцы.

**Кумя́к** *м.* 'камяк' (Ваўк. Сцяшковіч, 1972).

**КУНЕГА** *ж.* Мілаванне, заляцанне, любошчы. [*Паручнік да Крочака*:] *Прашу прабачыць! Не палагаецца, калега, Такая, так сказаць, кунега, А самавольства і тым пача.* На шляхах волі.

**КУНЕЖНА** *прысл.* Пяшчотна. *Маладая зграбная жанчына ў чырвоным кажушку, шчыльна і кунежна атуляўшым яе стройную фігуру, — відаць, спецыяльна на яе быў пашыты кажушок, — выйшла з дзвярэй хаты.* Адшчапенец.

**Куне́жна** *прысл.* 'пяшчотна' (Карэл. Сцяшковіч, 1972).

**КУНЕЖНЫ** *прым.* Пяшчотны, сардэчны. [*Насця*:] *Не добры лёс яе і мой — Не ўспамінайце мне аб ёй! І тут жа картачку-злашчасце, Кунежных слоў на ёй радкі Яна парвала на шматкі..* На шляхах волі.

**КУНЕЖЫЦЦА** *незак.* Песціцца. *Вобразн. Зямля кунежыцца ў праменнях, І радасць сочыцца, плыве, А пад вярбою на траве, Абняўшы голае карэнне, ляжыць Барыс у недаўменні — Ці ён жыве, ці не жыве.* На шляхах волі.

**Куне́жыцца** *незак.* ‘песціцца’ (Карэл. Сцяшковіч, 1972; Лоеў. Янкова); **куне́житься** *незак.* ‘песціцца’ (Даль).

**КУНТУШЫК** *м.* Памянш. да кунтуш ‘доўгая верхняя вопратка з адкіднымі рукавамі’. Тут маецца на ўвазе польская шляхта. *Кунтушыкаў, каптурыкаў І антэкаў-мазурыкаў Наперлі нам сюды, Каб гэтыя «дабродзеі» Вам польскасць тут праводзілі На панскія лады.* Панская ласка.

Параўн. польск. *kontusz* ‘кунтуш’.

**КУР** *м.* Сажа, копаць. *А калі яму* [*старасту*] *трэба было заверыць якую паперу, то ён браў сваю пячатку, трымаў яе над запаленым карчом або лучынаю, покі на ёй не нарастаў здаровы слой куру, і прыкладаў да паперы, пляваўшы на тое месца, дзе павінна быць пячаць.* Кантракт.

**Кур** *м.* ‘копаць, сажа’ (Смарг. СПЗБ).

**КУРАВАСЦЬ** *ж.* Уласцівасць куравага ў 2 знач. *Гарыць над абрусам не тая газоўка, Не тая куравасць карча, А лямпа, што свеціць, як сонца ў пятроўку, — Дзівосны агонь Ільіча.* Дзед-калгаснік.

**КУРАВЫ** *прым.* 1. Закураны, задымлены. *Паўздоўж сцяны стаялі лавы; І печ і сцены ўсе куравы..* Новая зямля. 2. Які вылучае многа дыму, копаці. *Пры цьмяным асвятленні кура́вай лямпы камера здавалася бруднай трушчобай..* На ростанях.

**Кура́вы** *прым.* ‘курны’ (Гродз., Пух., Уздз. СПЗБ); ‘збуцвелы на пыл’ (Слон. Жыв. сл., с. 155).

**КУРАЛЕСІЦЬ** *незак., перан.* Сваволіць. *Кухня будзе сем на дзесяць, Там ёсць печ, за печчу — кут. Хоць прусы там куралесяць, Але Шлёма сказаў: «гут!»* Сымон-музыка.

Параўн. руск. *куролесить* ‘гарэзіць, сваволіць’.

**КУРАЎКА** *ж.* Самаробная газавая лямпа без шкла. *Лямпы даўно стаялі без ужывання: іх замянялі самадзелкавыя кураўкі рознай канструкцыі.* Пракурор.

**Кура́ўка** *ж.* ‘лямпа без шкла, газоўка’ (Зэльв. Сцяшковіч, 1972); ‘дымар’ (Воран. СПЗБ); ‘курная хата’ (Пух. СЦБ).

**КУРАЧЫ** *прым.* Курыны. *Незнаёмы не спужаўся. — А сам хто ты, плешка? — А табе якое дзела, Вылівак курачы?* Спатканне і знаёмства.

**Кура́чы** *прым.* ‘курыны’ (Гродз. Цыхун).

**КУРАШЧУП** *м., перан.* Пра вельмі сквапнага чалавека. *Не горнецца ён да людзей, не кампануе з імі, бо Яхім — курашчуп, капейкі лішняй прапусціць баіцца.* Царскія грошы.

**Курашчу́п** *м., зневаж.* 'пра мужчыну, які правярае курэй-нясушак' (Гродз. Цыхун).

**КУРГУЗЫ** *прым.* Бедны, малы. *Хочаш мець касцюм для сына, Жонцы, дочцы справіць блузы, — Не шкадуй угоддзя-кліна Для яе, для кукурузы. Каб не быў твой дзень кургузы, Не цурайся кукурузы.* Кукуруза.

**Кургу́зік, курду́пік** *м.* 'нізкарослы чалавек' (Мсцісл. Юрчанка, 1988).

**КУРОДЫМ** *м.* Прылада для акурвання пчол дымам; дымар. *Антось бярэ куродым, сіта, Глядзіць на гэты рой сярдзіта: Вось не было яшчэ бяды!* Новая зямля. *Калі ўсе госці пазбіраліс, Антось з Кандратам пажагналісь, Ўзялі і ночвы, і куродым.* Там жа.

**Куро́дым** *м.* 'дымар' (Стаўб. СЦБ; Дзярж., Докш., Іўеў., Чэрв. СПЗБ); 'густы дым' (Лоеў. Янкова); **курады́м** *м.* 'густы дым пры гарэнні не полымем, а пры тленні' (Докш. МСНДМ, с. 140); **кура́ч** *м.* 'гнілушка для падкурвання пчол, дымар' (ТС); **курады́мка** *ж.* 'пасуда для абкурвання пчол' (Карэл., Навагр. Сцяшковіч, 1972); **курады́мачка** *ж.* 'дымар' (Віл. З нар. сл., с. 211).

**КУСАХА** *ж.* Пра таго, хто кусаецца, джаліць (пра жывёл, насякомых). *Падчапіў яе* [*гадзюку*] *дзядзька на кол, З вады выняў на дол, На пясок, на траву, Расляскаў ёй ушчэнт галаву, І каб больш не было нават паху, На агонь палажылі кусаху!* Міхасёвы прыгоды.

**Куса́ка** *м., метаф. жарт.* 'сабака' (Мсцісл. Юрчанка, 1988); 'кулслівая муха; хлопчык або дзяўчынка, якія маюць звычку кусацца; сабака або гусь, якія кусаюцца' (Насовіч).

**КУЦЕЙКА** *ж.* Крупяны нішчымны суп. *Скончан дзень, За стол паселі — Дужая сямейка! Незайздросная патрава: Бульба ды куцейка.* Сялянская рада.

**Куцця́** *ж.* 'пярловы суп на кожны дзень' (Бял. Нар. сл., с. 53); 'каша з пшанічных круп' (Рас. Шаталава); 'каша з ячных круп' (Гродз. Сцяшковіч, 1972); 'вараны боб' (Івац. Жыв. сл., с. 31); 'круглыя ячныя крупы' (Чэрв. СЦБ).

**КУЧМАТЫ** *прым.* Пышны, густы. *Такі табе навокала прастор! Кучматы лес, утульны луг і поле...* У летні адпачынак.

**Кучма́ты** *прым.* ‘растрапаны, непрычасаны’ (Лід. Сцяшковіч, 1972); **кучма́стый** *прым.* ‘кучмасты, лахматы’ (Бял. Бялькевіч).

**КЯЛБОК** *м.* Памянш. да келб. *Тут быў таран, мянёк пузаты, Шчупак, лінок, акунь, карась, Кялбок і ялец, плотка, язь, Яшчэ засушаныя з лета.* Новая зямля.

# Л

**ЛАБУК** *м.* Пра новага арыштанта. *Каб насмяяцца з неспакушанага, новапрыбыўшага чалавека, які на арыштанцкай мове называўся лабуком, рабілі так.* На ростанях.

**Лабу́к** *м.* ‘нехлямяжы чалавек’ (Віл. СЦБ; Бар. СПЗБ).

**ЛАГОВІШЧА** *н.* Логава. *У іх* [*алешын*] *лаянку ўткнулі языкі і іншыя жыхары лесу, і такая пайшла спрэчка, што птушкі пазляталі са сваіх гнёздаў і звяры павыскаквалі з лагавішчаў.* Стары лес.

**Лаго́вішча** *н.* ‘логава’ (Пух. СПЗБ); **лагаві́шча** *н.* ‘месца, дзе знаходзіцца воўчы вывадак’ (Астр., Воран. Сцяшковіч, 1972); **лагво́** *н.* ‘логава, бярлога’ (Краснап. Бялькевіч; Гл. Янкоўскі, 1960; Пух. СЦБ; ТС).

**ЛАГУН** *м.* Частка лугу (звычайна каля рэчкі), затопленая паводкавай вадой, якая летам высыхае. *Вясёлыя маладыя гукі смела ўразаліся ў цішыню ночы і бойка плылі на рэчку; тут яны ўпыняліся ў высокі бераг, адскаквалі назад і беглі ўздоўж яго па дузе лукі і зміралі ўжо за лагуном.* Нёманаў дар.

**Лагу́н** *м.* ‘трава на лагчынах, якая сцелецца па зямлі’ (Карэл. Жыв. нар. сл., с. 59); ‘зляжалае на корані збожжа’ (Гродз. Сцяшковіч, 1983).

**ЛАДУНАК** *м.* Набой для стрэльбы; трубачка ў форме гільзы з порахам і шротам для аднаго зараду. *Надзеў* [*дзед Талаш*] *праз плячо паляўнічую.. торбу на шырокім пасе, дастаў ладункі з порахам.* Дрыгва.

Параўн. польск. *ładunek* ‘зарад’.

**ЛАДУННІК** *м.* Сумка для пораху, шроту ў паляўнічых. *За плячыма — дубальтоўка, І ладуннік ёй дадан, А шырокі пояс лоўка Аціскае крэпкі стан.* Сымон-музыка.

**Ладу́нка** *ж.*, **ладу́нык** *м.* 'скрыначка, куды кладуць пістоны' (Краснап. Бялькевіч); **ладу́нак** *м.* 'напакаваны вузел або кошык' (Ваўк. Сцяшковіч, 1983); 'груз, паклажа' (Гродз. Цыхун). Параўн. укр. *ладунка* 'патранташ'.

**ЛАЗНІК** *м.* Лазеншчык. *Пракоп падставіў спіну, а Мікола з заядласцю і спрытам запраўскага лазніка шараваў яму спіну і сцёгны.* Адшчапенец.

**Ла́знік** *м.* 'чалавек, які апальвае лазню' (Лаг. СЦБ).

**ЛАЗУР** *ж.* Чыстае, яснае неба, блакіт. *Дзівосныя песні яго — зараніцы, Што ззяюць у яснай лазуры, Што сыплюць вясёлкі, святло бліскавіцы, Сатканыя з сонца і буры.* Джамбулу.

**Лазу́рка** *ж.* 'сіняя фарба' (Насовіч). Параўн. руск. *лазурь* 'блакіт'; польск. *łazurek* 'сінька'; укр. *лазур* 'блакіт'.

**ЛАЙДАКАВАЦЬ** *незак.* Лайдачыць. *Паглядаў Яхім на бядняцкія хаты нядобрым вокам. — Колеш ты ім, Яхімка, вочы, бо Яхім не лайдакаваў.* Царскія грошы.

**Лайдава́ць** *незак.* 'гультаяваць' (Астр., Ганц. СПЗБ); **лайдыкава́ць** *незак.* 'лайдачыць' (ТС).

**ЛАЙДАЦТВА** *н.* Гультайства, бяздзейнасць. [*Тукала:*] — *Не, браткі, цяпер я хачу жыць іначай. Годзе гэтага лайдацтва.* На ростанях.

**Лайда́чы** *прым.* 'лянівы' (Лід. Сцяшковіч, 1972).

**ЛАМАНЦЫ** *мн.* Від прэснага крохкага печыва. *За квасам елі верашчаку, А потым блінчыкі на маку, А там ламанцы-праснакі з пшанічнай добрае мукі; А макаў сок такі салодкі! Ламанцы ў ім, ну, як калодкі — Так добра макам праняліся, У рот паложыш — абліжыся.* Новая зямля.

**Лама́нцы** *мн.* 'крохкае печыва, прыгатаванае з мукі на вадзе' (Бар., Гродз., Дзятл., Лід., Шчуч. СПЗБ); 'цёртая бульба ў выглядзе галушак, запечаная на капусных лістах' (Гродз. Цыхун); **лама́няц** *м.* 'кавалак булкі з грэцкай ці пшанічнай мукі' (Дзятл. Жыв. сл., с. 12); **ломанцы́** *мн.* 'падсмажаныя ў канапляным малаку кускі крохкага печыва' (Насовіч). Параўн. польск. *łamaniec* 'від крохкага пячэння'.

**ЛАНТУХ** *м., перан.* Вялікі жывот. *Ваюй — за што? за інтарэсы Эксплуататараў-падлюг, За ненаедны іх лантух.* На шляхах волі.

**Ла́нтух** *м., перан.* 'вялікі жывот' (Драг. СПЗБ); 'жывот' (Слон. Нар. словатв., с. 35); **ла́нтух, ла́нтуг** *м.* 'мяшок' (Жаб., Лун. ДСБ; Лун. Жыв. сл., с. 245); 'трыбух, жывот, страўнік' (Мсцісл. Бялькевіч); **ва́нтух, ла́нтух** *м.* 'пра вялікі жывот' (Гродз. Цыхун); 'мяшок, сяннік' (Барыс., Пух. СЦБ); **ланту́х** *м.* 'чэрава, вантробы' (Насовіч).

**ЛАПАНКА** *ж.* Хабар. *Адміністрацыя не спяшалася аказваць перавагу каму-небудзь з кандыдатаў, але брала лапанкі ад таго і другога.* Цені мінулага.

**Лапо́ўка** *ж.* 'хабар' (Гродз. Цыхун); **лапаны́** *мн.* 'хабар' (Насовіч). Параўн. польск. *łapówka* 'грошы або падарак, якія даюць з мэтай падкупіць каго-н.'

**ЛАПАНУЦЬ** *зак.* З шумам узмахнуць крыламі. *І сапраўды, крумкач заварушыўся, лапануў крыллямі, зляцеў на самы нізкі дубовы сук, сеў і акінуў вокам усю птушыную грамаду.* Як птушкі дуб ратавалі.

**Лапану́ць** *зак.* 'пабегчы, ірвануць, пасияшацца' (Стаўб. Нар. словатв., с. 87).

**ЛАПАТНІК** *м.* Чалавек, абуты ў лапці. *Лепшую пару [ботаў] выбраў сабе Марка, а рэшту падзялілі нашы лапатнікі. Трынаццаць чалавек абуліся ў боты, а лапці канвойнікам аддалі.* Дрыгва.

**ЛАПЦІШЧЫ** *мн.* Вялікія лапці. *Кожны яго [Рамана] крок адбіваўся на падлозе мокраю плямаю, а на велізарных лапцішчах ён нёс столькі гразі, што добраму гаспадару і на сахор не выбраць.* На ростанях.

**ЛАСА** *прысл.* Прагна. *Крыніцы бурнага натхнення, Мінут вясёлых, ажыўлення, Стаяць, як біскупы, бутэлі, І ласа ўсе на іх глядзелі.* Новая зямля.

**Ла́са** *прысл.* 'ласа, прагна' (Мсцісл. Бялькевіч).

**ЛАСНЕ** *часц.* Хіба, ці. — *Ласне ручай умее гаварыць? — спытаеце вы.* Ручай. *Ласне іх [вучыцеляў] мала пакутуе ў ссылках па далёкіх акраінах Расіі?* З дарэвалюцыйных допісаў у газеты.

**Ла́сне** *часц.* 'няўжо, ці' (Карэл. Сцяшковіч, 1972; Гродз. Цыхун); 'хіба' (Карэл. Жыв. сл., с. 72).

**ЛАТАШЫЦЬ** *незак.* Біць, лупцаваць. *Як схопіцца ён [дзед], як пагоніцца за хлопцамі, як пачне латашыць кульбою!* Кажух старога Анісіма.

**Латашы́ць** *незак.* 'біць, лупцаваць' (Верхнядзв., Шчуч. СПЗБ); 'абтрасаць, абіраць' (Бял. Яўсееў); **лато́шыць** *незак.* 'біцца (аб сэрцы)' (Пух. Жыв. сл., с. 72).

**ЛАТВА** *прысл.* Зручна, лёгка. *Трэба паставіць дровы так, каб і вывозіць іх з лесу было лёгка, каб і пад'ехаць да іх латва было дый каб і знасіць было няцяжка.* Дзядзькаў сведка.

**Ла́тва** *прысл.* 'лёгка, добра' (Паст., Смарг. СПЗБ); **ла́тво** *прысл.* 'добра' (Ваўк. Сцяшковіч, 1983). Параўн. польск. *łatwy* 'зручны, лёгкі'; укр. *латво* 'зручна, лёгка'.

**ЛАТВЕЙ** *прысл.* Лепей, зручней. *Селянін рухава патрусіў да сваіх саней, узбіў салому, каб латвей было сядзець, паклаў чамаданы.* На ростанях.

**Латве́й** *прысл.* 'зручней, ямчэй' (Гродз. Цыхун); 'лепш' (Верхнядзв. Шаталава; Мсцісл. Юрчанка, 1988); 'лепш, выгадней' (Шчуч. З нар. сл., с. 44).

**ЛАЎЧЫЛА** *м.* Той, хто дасягае якой-н. мэты пры дапамозе розных хітрыкаў, не зусім сумленнымі метадамі. *Прайдохаў, камбінатараў, лаўчылаў я не пацярплю.* З пісьма.

**Лаўчы́ла** *м., ж.* 'прайдзісвет' (Смарг. Сцяшковіч, 1983); **лаўка́ч** *м.* 'дзялок, махляр' (Бял. Яўсееў).

**ЛАХУДРА** *м.* і *ж., лаянк.* Вельмі неахайны, неакуратны чалавек. *Ох, лахудра! ох, пракляты! — Не стрываў раз ён [Сымон] — балюча! Ён туды бяжыць з калом..* Сымон-музыка.

**Лаху́дра** *ж.* 'неахайны чалавек' (Гродз. Цыхун); 'неахайны, апушчаны чалавек' (Бял. МАСМ); 'неахайная дзяўчына, жанчына' (Бял. Яўсееў); **лаху́дрыца** *ж.* 'неахайная, апушчаная жанчына' (Лаг. Жыв. сл., с. 45; Мсцісл. Бялькевіч).

**ЛАЯЛЬНІК** *м.* Чалавек, які ўжывае грубыя, зняважальныя, абразлівыя словы. *Тады ўжо ўсе цельшынцы і неслі свае грахі яшчэ больш грэшнаму а. Мадэсту, які быў вельмі заўзяты п'яніца і лаяльнік.* На ростанях.

**ЛГАР** *м.* Ілгун, хлус. *Не паверыў дзед лгару, але закінула лядашчая баба зерне страху ў дзедаву душу.* Баба і

чорт. — *Ваша бабка — лгарка, і самі вы — лгар, — запратэставала Ядвіся.* На ростанях.

**ЛЕГКАВАЖНАСЦЬ** *ж.* Нязначнасць. *Усё гэта разам узятае і прыводзіць да няспеласці і легкаважнасці самога апавядання.* Актуальныя праблемы.

**ЛЕЗА** *н.* Лязо. *Люд набожны, болей сталы, Чые хаты пад жалеза, Сціха точыць кантры леза Супроць тых, каму ўсё мала.* На шляхах волі.

**Лёза** *н.* 'лязо' (Гл. Янкоўскі, 1960); **ле́звіе** *н.* 'лязо' (Лаг. Шаталава). Параўн. укр. *лезо* 'вострая частка прылады, якой рэжуць, колюць, сякуць'.

**ЛЕНАСЦЬ** *ж.* Лянівасць. *Ты [вясна] нясі нам радасць, сілачку Нясі, Нашу ленасць і нядбаласць Атрасі.* Закліканне вясны.

Параўн. руск. *леность* 'лянота, гультайства'.

**ЛЕРА** *ж.* Ліра. *Муха на цымбалах Струны калыхала, Авадзень на леры Выцінаў без меры, А чырвоны конік Жарыў у гармонік.* Рак-вусач.

**Ле́ра** *ж.* 'лера' (Карэл. Сцяшковіч, 1972); 'ліра, музычны інструмент' (Мсцісл. Бялькевіч).

**ЛЕСАВІК** *м.* Лясун. *Сагнуўся на пні заімшэлым, Апёрся на кій сукаваты. Сядзіць ён [чалавек], глухі, скамянелы, Нібы лесавік той кашлаты.* Адплата.

**Лесаві́к** *м.* 'лясун' (ТС). Параўн. руск. *лесовик* '*міф.* лясун'.

**ЛЕСАВЫ** *прым.* Лясны. *Лесавы жаваранак ужо снаваў у небе і вітаў яснае сонца.* Крыніца. *Жаданыя гэта мінуты, Святлее братва лесавая.* Адплата.

**Лесавы́** *прым.* 'лясны' (Воран. Сцяшковіч, 1972; Касц. Бялькевіч; Маладз. СЦБ).

**ЛЕСКАТАЦЬ** *незак.* Утвараць дробны стук, лёскат. *Лескаталі лёгкія каляскі, грукалі доўгія, цяжкія, наваленыя паклажай вазы.* У горадзе.

**Лескаце́ць** *незак.* 'грукаць' (Клім. МАСМ).

**ЛЕТКАМ** *прысл.* У летні час, летняй парой, летам. *Весела на рэчцы І траве, і кветцы, І крылатым пташкам, Мошкам і мурашкам, І крыклівым дзеткам, Асабліва леткам: У рачулцы купаюцца, У пясочку качаюцца.* Рак-вусач.

**ЛЕТНІКІ** *мн.* Насякомыя, якія лятаюць у паветры летам; казюлькі, машкара. *У паветры было ціха, толькі звон*

*летнікоў зліваўся ў адну доўгую-доўгую аднатонную песню, і, здавалася, прырода была закалыхана гэтым крыху сумным звонам.* У старых дубах.

**ЛЕТУЦЕНКА** *ж.* Летуценніца. *Наліў* [*Лабановіч*] *па чарцы віна і вельмі ўпрашаў выпіць, называючы іх* [*паненак*] *дыяментамі Палесся, божымі летуценкамі.* На ростанях.

**ЛЕТУЦЕНЬ** *ж.* Мара пра што-н. прывабнае, жаданае; летуценне. *Гручыць машына, чмыша дымам, Мінае воласці, павет. Губерня нова — новы свет. Ды ўсё ў дарозе ідзе міма, Мільгнуўшы толькі прад вачыма, Як летуцень юнацкіх лет.* На шляхах волі.

**ЛЁГАЧНІК** *м.* Хворы на лёгкія. *Ён* [*хворы*] *вельмі многа кашляў, быў яшчэ худзейшы, чым я цяпер. Я думаў, што гэта лёгачнік.* З пісьма.

**ЛЁКАЙ** *м., перан.* Падхалім, паслугач. *Дзе ж посулы паноў, Іх лёкаяў аб роўнасці, аб волі?* З дарогі.

Параўн. польск. *lokaj* ‘лакей’.

**ЛЁСЫ** *прым.* Задаволены, шчаслівы, рады. Паражняком, улегцы. *Антось, як сонца, засвяціўся: Даўно аб чоўне ён смуціўся. Дадому дзядзька ехаў лёсы, Кладзе ён човен на калёсы, І едзе наш Антось вясёлы...* Новая зямля.

**Лёсы** *прым.* ‘шчаслівы, задаволены’ (Лід. Сцяшковіч, 1972).

**ЛЁТКА** *прысл.* Хутка, лёгка. *Скавародка Ходзіць лётка, Спрытна ў бабіных руках.* Дзед і мядзведзь.

**Лётка** *прысл.* ‘хутка’ (Карэл. Сцяшковіч, 1972); **ле́тка** *прысл.* ‘лёгка’ (Верхнядзв. СПЗБ); **лёткі** *прым.* ‘лёгкі, жвавы’ (Слон. Сцяшковіч, 1983). Параўн. польск. прастам. *letki* ‘лёгкі’.

**ЛЁТНІЦТВА** *н.* Лятанне. *Дарога, праўда, была не доўгая, ды дзяцел па часці лётніцтва не вялікі мастак: падляціць трохі ды прысядзе, а разам з гэтым у сілу сваёй прафесіі зірне на адно, на другое дрэва.* Як птушкі дуб ратавалі.

**ЛЁХА** *ж.* Шчыліна, дзірка. *Іх* [*пані Даміцэлю і Алену*] *раздзяляе тонкая перагародка, а каля печы ёсць яшчэ і такая лёха, накшталт громкагаварыцеля, што вельмі добра перадае голас.* Хатка над балотцам.

**Лёха** *ж.* ‘адтуліна, шчыліна’ (Докш. МСНДМ, с. 141); ‘адтуліна ў падмуроўцы’ (Лаг. СЦБ). Параўн. ням. *Loch* ‘падземны ход’.

**ЛІСЦІЦЦА** *незак.* Падлашчвацца, падлізвацца да каго-н., падхалімнічаць перад кім-н. *Не лісціся к сільным, дружа, Зеллейкам-бярозкай, Бо не выйдзеш век з-пад гужа, Страціш вобраз боскі..* Будзь цвёрды.

**Лісці́цца** *незак.* 'падлізвацца, лашчыцца' (ТС). Параўн. укр. *леститися* 'ласкава гарнуцца, праяўляць ласку да каго-н., ласкай, дагадлівасцю намагацца звярнуць на сябе ўвагу каго-н., дабіцца даверу або замаскіраваць свае хітрыя, злыя думкі, намеры'.

**ЛІТАРАЦКІ** *прым.* Літаратарскі, пісьменніцкі. *Ну, словам, як вядзецца, Гаворка іх пляцецца, Не знаючы цэнзур, Ні густу літарацкага, І слова забіяцкага Не чэшуць тут пад шнур.* Паслушная жонка.

Параўн. польск. *literacki* 'літаратарскі, пісьменніцкі'.

**ЛІХАТА** *ж.* Няшчасце, зло, бяда, ліха. *Праклят жа будзь, пасланнік ліхаты, Спустошыўшы зямлю мае айчыны!* Мае мары. *І зноў сябе ён [пан Богут] дакарае: «Эх, мой васпане, схібіў ты, Нажыў, Мікодым, ліхаты, Папаў у пекла замест раю!»* Рыбакова хата.

**Ліхота́** *ж.* 'непрыемны выпадак, гаротныя абставіны' (Насовіч); **ліхо́та** *ж.* 'жорсткасць, лютасць, бязлітаснасць' (ТС).

**ЛІХВА** *ж.* Прыбытак, працэнты, звычайна празмерныя, з адданага ў пазыку. *А ўжо пра баравікі і гаварыць не прыходзіцца — вярну свой пост і з ліхваю вазьму за яго.* З пісьма.

Параўн. руск. *лихва* 'барыш'.

**ЛОЗНІК** *м.* Зараснік лазы, лазняк. *У грамадзе навіны, чуткі, Як ручаі журчаць вясной Або той вецер прад гразой, Калі ён хіліць лознік гнуткі.* Рыбакова хата. *У параўн. Тут музыкі — лознік гібкі — Падымаюць, хто кларнет, Хто басэтлю, а хто скрыпку, Каб аздобіць той банкет.* Сымон-музыка.

**Лазні́к** *м.* 'зараснік лазы' (Брасл., Паст., Чэрв. СПЗБ).

**ЛОПУХ** *м.* Лотаць. *Круглыя зялёныя лопухі купаюцца ў ёй [вадзе], калышацца расянка на тонкіх доўгіх ніцях-сцяблінах.* На ростанях.

**Ло́пух** *м.* 'жоўты збаначнік' (Краснап. Бялькевіч); 'белы гарлачык' (ТС).

**ЛУПЫ** *мн.* Вочы. [*Шумяка да Булыгі*:] *Прадзяры свае лупы ды паглядзі, хто стаіць перад табою!* Забастоўшчыкі.

**Лупакі́** *мн.* 'вочы' (Свісл. Сцяшковіч, 1972); **лупачы́** *мн.* 'лупатыя вочы' (Капыл. Жыв. сл., с. 172); 'вочы' (Свісл. Сцяшковіч, 1983); **лупа́ты** *прым.* 'выпучаны (пра вочы)' (Івац. Жыв. нар. сл., с. 7); **лупа́ч** *м.* 'чалавек з выпучанымі вачамі' (ТС).

**ЛУСКАТ** *м.* Трэск. *..з глыбіні лесу пачуўся шоргат па снезе нечых ног і прыглушаны лускат сухіх галінак пад нагамі.* Дрыгва.

**ЛУСКАТАЦЬ** *незак.* Трашчаць, распаўсюджваючы сухі кароткі гук. *Толькі ж ты не страшна, бура, Тым, хто ў цёплай хаце. Дзе лускоча і палае Корчык на камінку, А бабулька гаваркая Ўспомніць пра старынку..* Батрак.

**Лу́снуць** *зак.* 'луснуць, трэснуць, лопнуць' (ТС).

**ЛУТ** *м.* Лыка з маладой ліпы. *Прыцяміць* [*Цімох*]*, хто кепска абуты, І знікне. Засядзе ў куце Ды кроіць ліповыя луты І лапаць сумленна пляце.* Адплата.

**Лут** *м.* 'кара з ліпы' (Маз. З нар. сл., с. 164); 'ліпавае лыка' (Маз. Шаталава); 'кара з маладой ліпы' (ТС); 'лыка з ліпы, ляшчыны і інш.' (Барыс., Калінк., Паст. СПЗБ); 'маладая ліпа' (Дзятл. Сцяшковіч, 1983); 'клубок з лык, пакроеных на вузкія палоскі' (Мсцісл. Юрчанка, 1988); 'сук ліпы, з якога можна зняць кару на лыкі', 'знятая кара' (Краснап. Бялькевіч); 'лыка з маладой ліпкі' (Бярэз. СЦБ).

**ЛУЧЫЦЬ** *незак.* Злучаць. *Шлях ты мой родны, гасцінец шырокі! Лучыш ты два рубяжы: Усход наш і Захад чужы..* Стары гасцінец.

**Лу́чыць** *незак.* 'сябраваць' (Смарг. Сцяшковіч 1983); **лучы́ты** *незак.* 'зганяць у кучу' (Малар. ДСБ); **лучи́ць** *зак.* 'злучыць' (Насовіч).

**ЛЮБАВАЦЬ** *незак.* Любавацца. *Абходзяць, любуюць зямельку мужчыны, І сэрца ў іх б'ецца, гарыць...* Агляд зямлі.

**Любова́ць** *незак.* 'любіць, любавацца кім або чым' (Насовіч).

**ЛЮБОТА** *ж.* Тое, што люба, што выклікае захапленне сваёй прыгажосцю, прывабнасцю; любата. *Любота,*

*братцы! снег лятае Ды так спакойна, так ціхутка!* Новая зямля.

**Любота́** *ж.*, **любо́цье** *н.* 'любата' (ТС); **любота́** *ж.* 'асалода, уцеха' (Насовіч).

**ЛЮДАЖЭРАЦ** *м.* Пра чалавека жорсткага, схільнага да насілля, забойства; людаед. *Зычу я, брацці, зычу ад сэрца Пазбыць вам крывавы палон; Выкінуць псіну і людажэрца, Прасмердлага фюрэра вон..* Пажаданні пад Новы 1943 год.

Параўн. польск. *ludożerca* 'людаед'.

**ЛЮДЗІНА** *ж.* 1. Чалавек. *І стаіць юнак, зрокам водзіць вакол — Пуста, хоць бы адна дзе людзіна!* На пажарышчы. 2. *зб.* Людзі. — *Эхе-хе, мая дзяціна, — Уздыхнуў Даніла дзед: — Падрабнела і людзіна, Падрабнеў цяпер і свет.* Сымон-музыка.

**Людзі́на** *ж.* 'чалавек' (Пін. Нар. лекс., с. 102; ТС; Брасл., Драг., Паст., Пруж., Смарг. СПЗБ; Лоеў. Янкова); 'жанчына' (Астр. Сцяшковіч, 1972). Параўн. укр. *людина* 'чалавек'.

**ЛЮДСКА** *прысл.* Добра, па-людску. *Паснедаў людска.* Гаворыць Клязьма.

**Лю́дска** *прысл.* 'па-людску' (Гродз. Цыхун); **лю́дско** *прысл.* 'добра, удала' (Слон. Сцяшковіч, 1972).

**ЛЮДСКАСЦЬ, ЛЮДНАСЦЬ** *ж.*, *зб.* Людзі. *Зірнуў ён* [*Даніла*] *— люднасці багата, Ну нібы ў бочцы селядцоў.* Рыбакова хата. *Ну, вось і ўсё, што трэба нам Для справы людскасці і краю.* Там жа.

**Лю́дно́сць** *ж.*, *зб.* 'людзі' (Дзятл. СПЗБ); **людко́ве** *мн.* 'людзі' (Гродз. Сцяшковіч, 1972). Параўн. польск. *ludność* 'насельніцтва'.

**ЛЮДСТВА** *н.* Чалавецтва. *Новыя прасторныя дарогі расчыніліся перад нашымі народамі. ...Будзьце ж вы светлыя і радасныя, наступныя дні людства!* На ростанях.

**Лю́дство** *н.* 'народ' (Насовіч). Параўн. укр. *людство* 'чалавецтва'.

**ЛЯГАШ** *м.* Мянушка кандуктара. *«Лягаш» у дзядзьку ўцікаваўся І, як з ім толькі параўняўся, Пад бок штурхнуў яго рукою, Маргнуў, паклікаў галавою.* Новая зямля.

**ЛЯДЗІНА** *ж.* Дзялянка высечанага лесу, хмызняку; ляда. *Намачыў поп аўса з паўасміны Ды занёс яго на лядзі-*

*ны.* Як поп зрабіўся авіятарам. *Плыўка, згодна ходзяць крылы, Як адно, ў тахт адзін — Пакідаюць край свой мілы, Родны кут глухіх лядзін.* Сымон-музыка.

**Ля́дзина** *ж.* 'паляна, ачышчаная ад лесу і зарослая травою' (Насовіч); **ля́да** *ж.* 'высечаны ўчастак лесу' (Круп., Рас., Шум. СПЗБ).

**ЛЯЖАЧНЫ** *прым.* Які мае адносіны да лежака 'гарызантальная частка дымахода'. *Пры гэтым яму* [*санітару*] *ніяк не прыйшло ў галаву, што ўся гэтая ляжачная справа не варта цвілога гроша.* У двары пана Тарбецкага.

**ЛЯКАЦЦА** *незак.* Палохацца. [*Бабка да Дамяніка:*] — *На, на воду паўглядайся... Вочы ты цяпер заплюшч... Што ні здасца — не лякайся...* Сымон-музыка.

**Ляка́цца** *незак.* 'палохацца' (ТС); **лека́цца, ляка́тысь** *незак.* 'палохацца' (Драг., Стол. ДСБ); **лека́цьца** *незак.* 'палохацца' (Насовіч); **лека́ты** *незак.* 'пужаць' (Пін. Жыв. нар. сл., с. 132). Параўн. польск. *lękać się* 'баяцца чаго-н., каго-н., трывожыцца за каго-н.'

**ЛЯЧЭБА** *ж.* Лячэнне. *Людзі мруць, як мухі, Дзе ўжо тут лячэба? Коціць з галадухі... Ці ж то гэтак трэба?* Ці ж то гэтак трэба?

**Лячо́ба** *ж.* 'лячэнне' (Бярэз. СПЗБ); **лячэ́нё** *н.* 'лячэнне' (Зэльв. Сцяшковіч, 1972; Лоеў. Янкова).

# М

**МАГІЛЬНІК** *м.* Могілкі. *А з гары, як на далоні, Разам выплыў гарадок З яго цэрквамі, дамамі Розных постацей, ладоў, З мураванымі сцянамі, З яго купамі садоў, Вязаў пышных, паўнацелых, Ліп разложыста-густых І крыжоў даўно збуцвелых На магільніках старых.* Сымон-музыка.

**Магі́льнік** *м.* 'могілкі' (Астр., Віл., Мядз., Паст., Смарг. СПЗБ); 'магільнік' (Астр. Сцяшковіч, 1972; Мсцісл. Бялькевіч); 'могільнік' (Маг. МАСМ; Докш. МСНДМ, с. 142; Мядз. СЦБ); **моги́льникъ** *м.* 'могілкі' (Насовіч).

**МАЖДЖЭР** *м.* Металічная ступка. *Чарка, браце, павер: Як даўнейшы маждждэр — проста страшна на падлу зірнуць!* Па дзядзьках.

**Мажджэ́р** *м.* ‘маленькая ступка’ (Гл. МАСМ); **можджéръ** *м.* ‘медная або чыгунная ступка’ (Насовіч); **мажджэ́ра** *ж.* ‘ступка’ (Докш., Лід., Смарг. СПЗБ); **мóжджар** *м.* ‘медная ступка для размолу спецыяў’ (Гродз. Цыхун). Параўн. польск. *moździerz* ‘латунная ступка для здрабнення цукру, ванілі і пад.’

**МАЗЫ** *мн.* Грашовы ўклад кожнага з гуляючых у карты. *Выкладаючы апошнюю карту, банкір пазбіраў «мазы» з-пад карт і абедзвюма рукамі пасунуў да сябе грошы.* На ростанях.

**МАЙТКІ** *мн.* Штаны, нагавіцы. *Янка борздзенька нацягнуў майткі і верхнюю кашулю, хадакі ўзяў у руку і спусціўся на ток.* На ростанях.

**Ма́йткі** *мн.* ‘нагавіцы’ (Стаўб. МСММГ, 1970); ‘верхнія мужчынскія штаны’, ‘споднія мужчынскія штаны’ (Астр., Брасл., Воран., Смарг. СПЗБ); ‘штаны, нагавіцы’ (Гродз. Цыхун); ‘штаны’ (Шчуч. З нар. сл., с. 45); ‘кальсоны’ (Воран., Свісл. Сцяшковіч, 1972); ‘споднікі’ (Навагр. З нар. сл., с. 59); ‘трусы’ (Кам. ДСБ). Параўн. польск. *majtki* ‘трыко, трусікі (дзіцячыя)’.

**МАКЛЯК** *м.* Мокрае, сырое палена. *Мая работа ўперлася ў парог, а ідзе яна так, як на агні макляккі.* З пісьма.

**Макля́к** *м.* ‘мокрае палена’ (Гродз. Сцяшковіч, 1983); ‘затануўшае бервяно, дрэва’ (Лельч. Жыв. сл., с. 212); ‘намоклае пад дажджом адзенне’ (Навагр. Нар. сл., с. 11); ‘нізкае месца з застаялай вадой’ (Лаг. СЦБ); ‘бязвольны, бесхарактарны чалавек’ (Гродз. Цыхун).

**МАЛАДНЯЦКІ** *прым.* Малайцаваты, зухаваты. *Вобразн. Тут можна было б сказаць, як бушаваў на дварэ вецер, як на вокны з чыста маладняцкім задзёрам пёрся мароз..* Пракурор.

**МАЛОДКА** *ж.* Маладзіца. *І раптам голас: «Эй, Ігнат! Пацеш малодак і дзяўчат, Каб Беларусь затанцавала!»* Рыбакова хата.

**Маладу́ха**, **маладзíца** *ж.* ‘маладая замужняя жанчына’ (Астр., Дзятл. Сцяшковіч, 1972; Касц. Бялькевіч). Параўн. укр. *молодка* ‘маладая замужняя жанчына’.

**МАЛЮНКАВАСЦЬ** *ж.* Маляўнічасць. *Я люблю гэтыя прасторы, люблю неаглядныя, ружова-сінія далі іх, поўныя жыцця, малюнкавасці, разнастайнасці тонаў зямлі і неба..* На ростанях.

**МАНЕРКА** *ж., перан.* Галава. *Ды перабраў тут дзядзька меру: На слуп узбіўся, на халеру, Ды так аб падлу штурхануўся, Што свет яму перавярнуўся, На брук зляцеў ён з тратуару, Перакруціўся разоў пару І так у брук бядак загасіў, Траха манеркі не расквасіў.* Новая зямля.

**Мане́рка** *ж.* 'гаршчочак, гарнушак' (Шчуч. Сцяшковіч, 1972); 'высокая банка з носікам' (Лоеў. Янкова); 'кубак' (Чэрв. СЦБ). Параўн. польск. *manierka* 'пляскатая бляшаная бутэлька, якой карыстаюцца салдаты, турысты'.

**МАНІСТА** *ж.* Нізка чаго-н. *Ён* [*Лабановіч*] *выразаў некалькі бярозавых пруткоў, звязаў іх тонкімі канцамі і нанізаў цэлыя тры маністы грыбоў.* На ростанях.

**Мані́ста** *ж.* 'нізка' (Стаўб. МСММГ, 1974; Стаўб. СЦБ); **мані́сты** *мн.* 'каралі', 'нізка з пацерак' (Кір. Нар. сл., с. 10).

**МАНКЕТА** *ж.* Манжэта. *З гэтай прычыны Дубейка нёс сябе высока, насіў манішку і манкеты і лічыў сябе найпершым кавалерам...* На ростанях.

**Манке́т** *м.* 'манжэта' (Верхнядзв. Шаталава; Мядз. Нар. словатв., с. 11; Бар., Маст., Паст., Смарг. СПЗБ; Валож. МСММГ, 1970); 'вузкі манжэт' (Воран. Сцяшковіч, 1972); **манкэ́та** *ж.* 'манжэта' (Смал. СЦБ; Малар. ДСБ); **манке́ты** *мн.* 'манжэты рукавоў' (Дзярж. Нар. сл., с. 36); **манке́ты** *мн.*, **манке́т** *м.* 'манжэт' (Гродз. Цыхун). Параўн. польск. *mankiet* 'абшлаг рукава, калашыны'.

**МАНУЦЦА** *незак.* Хацець, імкнуцца што-н. зрабіць. *Вус у князя зварухнуўся. — А скажы, каханы мой, Што ты выказаць мануўся: Думку, песню ці настрой?* Сымон-музыка.

**Мані́цца** *незак.* 'мець намер' (Віл., Лаг., Паст., Смарг. СПЗБ); 'збірацца, планаваць' (Мядз. Нар. словатв., с. 11).

**МАПА** *ж.* Карта. *Пан Студніцкі кроіць мапу, Крэмзае задачы, На Саветы зявіць ляпу, Як на блін гарачы.* На «шлюб» пана Студніцкага.

**Ма́па** *ж.* 'карта' (Стол. ДСБ; Мядз. СЦБ). Параўн. польск. *mapa* 'графічны паказ пэўных прымет на зямной паверхні'.

**МАРА** *ж.* Здань, прывід. *Развеецца ў прах фашысцкая зграя, Мара́, што агонь вайны раздзімае І ладзіць працоўным аковы.* Міжнародны пралетарскі дзень.

**Мара́** *ж.* ‘здань’ (Брэсц. Нар. лекс., с. 196); ‘нячыстая сіла’ (Драг. ДСБ); ‘нячысцік’ (Лоеў. Янкова); ‘чарцяня (пра надта дураслівае дзіця)’ (Кір. Нар. сл., с. 70); ‘пачвара’ (Пін. Нар. лекс., с. 110); ‘нягоднік, паганец; нікчэмнасць’ (Стол. Нар. лекс., с. 125); **ма́ра** *ж.* ‘мара, здань’ (Чэрык. Бялькевіч); ‘здань, прывід’ (Насовіч). Параўн. укр. *мара* ‘прывід, здань; увасабленне нячыстай сілы’.

**МАРАЦ** *м.* Сакавік. *У канцы марца ўжо збіраецца шмат птушак.* Прылёт птушак.

**Ма́рац** *м.* ‘сакавік’ (Гродз. Цыхун; Стаўб. СЦБ; Браг. Шаталава; Шчуч. Сцяшковіч, 1983; Віл., Гродз. СПЗБ); **ма́рэц** *м.* ‘сакавік’ (ТС; Бар. ДСБ); **марц** *м.* ‘сакавік’ (Іўеў. МСММГ, 1970); **ма́рiц** *м.* ‘сакавік, трэці месяц у годзе’ (Касц. Бялькевіч). Параўн. польск. *marzec* ‘сакавік’.

**МАРДАСЫ** *мн.* Твар, шчокі. [*Пятро да Рамана і Захара:*] *І гаспадарыць будуць самі і біць будуць вас па мардасах...* Дачакаўся.

**Морда́сы** *мн.* ‘хара, рыла’ (Насовіч); **марда́сты** *прым.* ‘мардаты’ (Карэл. Сцяшковіч, 1972); **марда́чы** *прым.* ‘мардаты’ (Лід. СПЗБ).

**МАРКАТА** *ж.* Сум, туга, журба; маркота. *Многа блізкіх вестак Кут дае старэчы. І застаўся тут хлапчынка. Знікла тая маркатa: З дзедам кожная часінка Так ці йначай занята!* Сымон-музыка.

**Маркатá** *ж.* ‘журба, знясіленне’ (Насовіч).

**МАРМОТКА** *м.* і *ж.* Той, хто мармыча, бубніць. *Алесь у кепскім быў настроі: Хадзіў, бурчаў, не змоўчваў маме, Ўсё дагары вярнуў нагамі. — Бадай яны былі згарэлі! І дзе чарты іх тут падзелі?.. — Чаго ты шворышся, мармотка? — У пытанні маткі злосці нотка Зусім Алеся угнявіла.* Новая зямля.

**Мормы́ль** *м.* ‘буркун’ (Насовіч).

**МАРНІК** *м.* Той, хто марыць, летуценнік. *Эх, мары, мары! Вы салодкі: Дарога ваша — сонца, рай! Аднак ты, марнік, памятай: Яны няўлоўны, мімалётны, Як хваляў плынь у час паводкі, — Брымяць, плывуць — куды, спытай?* На шляхах волі.

**МАРСКАНУЦЬ** *зак.* Паказацца на момант і знікнуць; прамільгнуць. *Вось марсканула ў небе чорная палоска.* Адлёт птушак.

**Марськану́ць** *зак.* 'адскочыць; хутка пабегчы' (Дзярж. Нар. сл., с. 36).

**МАРУДЗІЦЬ** *незак.* 1. Трывожыць, непакоіць. *Ці я адзін, ці я на людзях, А з імі [героямі паэмы] ў думках я жыву. Яны мой чуткі сон марудзяць, Трывожаць сэрца, галаву.* Рыбакова хата. 2. У выразе: розум марудзіць. Думаць, шавяліць мазгамі. *Дзед змаўкае. Стукі глуха Раз-паразу чутны ім. То адно прыложыць вуха, То паслухае другім. І Сымону дзедківае. — Дзедку, што гэта? сякуць? — Гэ, праява тут другая... Ось дзе розум і марудзь...* Сымон-музыка.

Параўн. укр. *марудити* 'мучыць, трывожыць'.

**МАРЫКАВАЦЬ** *незак.* Крыўдавацъ, злавацца. *Адну кнігу, з адабраных для школы, пакінуў Данік для кагось са сваіх знаёмых. Думаю, што не будзеш марыкаваць...* З пісьма. *Ну, нічога ні зробіш; німа чаго марыкаваць нам на сваю долю. Не ўсім жа быць панамі.* Наша сяло, людзі і што робіцца ў сяле.

**Маракава́ць** *незак.* 'крыўдзіцца' (Слон. Жыв. нар. сл., с. 34); 'гневацца' (Уздз. МСММГ, 1974); **морокова́ць** *незак.* 'наракаць на каго-н., быць незадаволеным' (Насовіч).

**МАСІЯШ** *м.* Збавіцель. *Свайго цірольскага яфрэйтара, шпіка і душагуба Гітлера яны абярнулі ў новага масіяша і не шкадуюць сваіх языкоў, каб вылізаць бруд сусветнага бандыта і машэнніка.* Здраднікі.

**МАСЛЯНКА** *ж.* Вадкасць, якая застаецца пасля збівання масла; маслёнка. *У акалодачнага знайшліся сведкі, якія таксама паказалі, што чалавек прадае маслянку.* На ростанях.

**Масля́нка** *ж.* 'маслёнка' (Лоеў. Янкова; Чав. МАСМ); 'малочны адыход, што застаецца пры збіванні масла' (Бял. МСНДМ, с. 34); 'бойка' (Круп. СЦБ); **масьля́нка** *ж.* 'жыдкая кіславатая маса, якая застаецца пры ручным збіванні масла' (Пол. Нар. сл., с. 200; Бар., Брасл., Гродз., Лаг., Лід., Паст., Смарг., Шчуч. СПЗБ); 'маслёнка' (Маладз. СЦБ); **маслёнка** *ж.* 'маслёнка' (Гродз. Цыхун; Астр., Навагр. Сцяшковіч, 1972).

**МАСТАВІНА** *ж.* Дарожны насціл. *Ды ўжо і горад недалёк, І хваля цёплая былін У ім [Шкундзе] абуджвае ўспа-*

*мін: Калісь, чужынец адзінокі, І ён пакінуў свае крокі На сцёртых плітах маставін.* На шляхах волі.

**Маставі́на** *ж.* 'дошка для засцілкі маста' (Ваўк. Сцяшковіч, 1972); 'дошка ў мосце' (Лоеў. Янкова).

**МАСТАДОНТ** *м., перан.* Неадукаваны чалавек. [*Кузьма да Насці:*] — *Многа яшчэ ёсць такіх мастадонтаў, як ты, і прафесару надоўга работы хопіць.* Адукацыя.

Параўн. руск. *мастодонт* 'пра вялікага, нязграбнага чалавека'.

**МАЎКОМ** *прысл.* Нічога не кажучы, захоўваючы маўчанне; маўчком. *Цімоха як бы не зважалі* [*людзі*]*, Абходзілі проста маўком.* Адплата.

**Мо́вкомъ, мовко́мъ** *прысл.* 'ціха, нічога не кажучы' (Насовіч).

**МАХНУЦЦА** *зак.* 1. Хутка прабегчы, прамільгнуць. *А тыя чэрці, казакі, Адно махнуліся праз жыта, І — клуня полымем абвіта, Змяяцца белыя дымкі.* На шляхах волі. 2. Накіравацца, выбраць напрамак руху. [*Далін да Дзяжы:*] *Там будзе лепш відно, куды махнуцца нам...* На шляхах волі.

**Маха́ць** *незак.* 'хутка ісці, бегчы' (Насовіч).

**МАХНУША** *ж.* Галавешка. [*Яхім*] *учарнеў, бы тая махнуша, пахудзеў, асунуўся, вочы ў лоб запалі.* Царскія грошы.

**Махну́ша** *ж.* 'галавешка' (Стаўб. СЦБ); **махна́шка** *ж.* 'галавешка' (Клецк. МСММГ, 1970); **махнéтка, махны́тка, махну́ша** *ж.* 'галавешка' (Іўеў., Навагр., Шчуч. Сцяшковіч, 1972); **махны́тка** *ж.* 'галавешка' (Касц. Бялькевіч; Клім. МАСМ).

**МАЦЮГ** *м.* Брыдкая лаянка, мат. *Урэшце ўзводны Талалай Усё пакрыў камандай ўладнай І мацюгом прыбіў трохрадным Два словы: «смірна!» і «слушай!»* На шляхах волі.

**Мацю́г** *м.* 'мат' (Верхнядзв. СПЗБ); **мацюгí** *мн.* 'лаянка' (Гродз. Сцяшковіч, 1972); **мацюка́цца** *незак.* 'лаяцца брыдка' (ТС).

**МАЦЯРЫНЫ** *прым.* Мацярынскі. *І стаіць яна* [*маці*]*, чакае Доўгія гадзіны... Злыя людзі — іх не чэпіць Смутак мацярыны.* Каля парога.

**Мацяры́нскі** *прым.* 'які належыць маці' (Мядз. СПЗБ).

**МАШАСТОВЫ** *прым.* Мяккі, як машэст. *У Савосева суседа Быў пярэсценькі каток, Выхаванец Паўла-дзеда, Такі слаўны пестунок!.. Лапкі-драпкі Машастовыя, А шарсцінач-кі Шаўковыя..* Савось-распуснік.

**Машасто́вы** *прым.* 'пашыты з мошасту, плюшу' (Астр., Паст. СПЗБ).

**МАШКАРЭЧА** *ж., зб.* Мошкі. *Часамі прыязджаюць спецыяльныя машыны і пускаюць такія газы, ад якіх дохне машкарэча.* З пісьма.

**Машкарня́** *ж., зб.* 'машкара' (Навагр. СПЗБ); **машкара́** *ж.* 'машкара' (Навагр. Сцяшковіч, 1972); **машката́** *ж., зб.* 'машкара' (Іўеў. СЦБ).

**МАШЫНЭРЫЯ** *ж., перан.* Аб чым-н. складаным, што дзейнічае падобна механізму. [*Булыга да Шумякі:*] *У нас тут цэлая машынэрыя заведзена... Жывеш ты там, як воўк, адзін.* Забастоўшчыкі.

Параўн. польск. *maszyneria* 'механізм, які дзейнічае аўтаматычна'.

**МАШЭНСТВА** *н.* Ашуканства, махлярства. *І калі на справу паглядзець сур'ёзна, то тут і машэнства няма ніякага.* Адшчапенец.

**Машэ́нства** *н.* 'машэнства' (Клім. Бялькевіч); 'махлярства, круцельства' (Чэрв. Шатэрнік).

**МАШЭСТ** *м.* Плюш. *Вобразн. Ззяюць на лузе машэст, аксаміты І ткань залатая шаўкоў.* На лузе.

**Мо́шаст, мо́шыст** *м.* 'плюш' (Астр., Віл., Глыб. СПЗБ).

**МЕРЦІ** *незак., перан.* Заціхаць, змаўкаць (пра гукі). *Дудка плача, дудка мрэ...* Вечар на Палессі.

**Ме́рці** *незак.* 'паміраць' (ТС); **ме́рци, мерць** *незак.* 'паміраць' (Насовіч).

**МЕСТА** *н.* Мястэчка. *Гром арганаў у касцёлах, Набажэнства ксендзаў, А па местах і па сёлах Бродзіць голад, нэндза.* Польскім ка́там.

**Ме́ста** *н.* 'мястэчка' (Чэрв. Шатэрнік; Беш. Каспяровіч). Параўн. польск. *miasto* 'горад'.

**МЕТУШЫЦЦА** *незак.* Мітусіцца, піхацца. *У сярэдзіне яе* [*грамады палешукоў*] *метушыліся два палешукі, пабраўшыся загрудкі.* На ростанях.

**Метуша́цца** *незак.* ‘мітусіцца’ (ТС).

**МІГАЎКІ** *мн.* Вейкі. *Цёмныя вочы яе* [*Ядвісі*] *з доўгімі мігаўкамі як бы рассыпалі праменні.* На ростанях.

**МІКІЦІЦЬ** *незак.* Цяміць, кеміць. *Калі народ праз выбарных сваіх Выносіць пастановы, Мікіць тут, безгаловы: Выконваць трэба іх!* На шляхах волі.

**Змікі́ціць** *зак., іран.* ‘зразумець’ (Астр. Сцяшковіч, 1972).

**МІЛОСЦЬ** *ж.* Любошчы, мілаванне. *Марына ўся аж задрыжала, І жаль пашыб яе і злосць; Ёй горка так, а ён* [*Богут*], *завала, Балясы точыць пра мілосць.* Рыбакова хата.

**Міло́сць** *ж.* ‘ласкавасць’ (Брасл. СПЗБ); **мі́лосць** *ж.* ‘міласць’ (ТС). Параўн. польск. *miłość* ‘любоў, каханне’.

**МІТРЭЖЫЦЬ** *незак., перан.* Ламаць што-н., разбураць, знішчаць. [*Кацярына Верабей:*] — *Трэба ў ночачку да ўсходу Двойчы Нёман прааараць, Каб адвесці перашкоду, Ды самім саху па броду, Жаначкі, нам пацягаць І тады ўжо плот мітрэжыць, Каб ён там і не смярдзеў.* За дождж.

**Мітрэ́жыць** *незак.* ‘трывожыць, непакоіць’ (Ваўк. Сцяшковіч, 1983).

**МІТУСЯНІНА** *ж.* Мітусня. *І не спынілася машына, А ўжо пайшла мітусяніна: Хватаюць клумкі пасажыры, Пад рукі б'юць зайцы-праныры, Паны складаюць чамаданы..* Новая зямля.

**Мітусяні́на** *ж.* ‘мітусня’ (Мёр. Нар. словатв., с. 165); **мітусі́цца** *незак.* ‘мітусіцца’ (Чэрв. Шатэрнік).

**МЛЁН** *м.* Дзяржанне, палка, якой круцяць жорны. *Свечка была мала чым менш ад млёна — палкі, якою круцяць жорны.* Дзяліцьба.

**Млён** *м.* ‘ручка, якой круцяць камень у жорнах’ (ТС); **млён, млюн** *м.* ‘ручка да жорнаў’ (Малар. ДСБ); ‘палка, якою круцяць верхні камень у жорнах’ (Астр. Сцяшковіч, 1972).

**МНАГАВОКІ** *прым., перан.* Багаты па сваёй колькасці і разнастайнасці. *Вось і сад. Тут пэндзаль патрэбен шырокі, І здольная трэба рука, Каб выявіць сад мнагавокі Здольным пяром мастака.* Маёвае.

**МНОГАЯЗЫКІ** *прым.* Утвораны мноствам галасоў, гукаў; шумны. *Павярнуў* [*Іван*] *назад, у глыб горада, каб у яго многаязыкім гомане правесці рэшту дня.* Балаховец.

**МОДЛЫ** *мн.* Малітвы, маленне. *Ідзе* [*дзядзька*] *без шапкі, круціць носам — Гаворыць пацеры з засосам.. Маліўся дзядзька з тым разлікам, Каб кончыць модлы каля дома..* Новая зямля.

**Мóдлы** *мн.* ‘набожныя людзі’ (Воран. СПЗБ); у знач. прым. уст. ‘набожны’ (Маладз. СЦБ). Параўн. польск. *modły* ‘малітвы, маленне’.

**МОЖНАСЦЬ** *ж.* Магчымасць. *Спакой і цішыня ночы даюць можнасць праслядзіць грозную і дзіўную музыку грому..* Прад навальніцаю ўночы.

**Мóжнасць** *ж.* ‘магчымасць’ (Смарг. СПЗБ); **мóжносць** *ж.* ‘магчымасць’ (Насовіч). Параўн. польск. *możność* ‘магчымасць, здольнасць, спрыяльны выпадак’.

**МОЗАГ** *м.* Мозг. *Так, не весел ты, рабочы, Гнеш панура сваю спіну, Мозаг думаць тут не хоча.* На шляхах волі.

**Мóзаг** *м.* ‘мозг’ (Бяроз. Шаталава); **мóзык** *м.* ‘мозг’ (Краснап. Бялькевіч); **мозóкъ** *м.* ‘мазгі’ (Насовіч).

**МРОК** *м.* Цемра. *Цісне землю ночка мракам, Ноч сысці марудзіць.* Матчына прычытанне.

**Мрок** *м.* ‘змрок, цемната’ (Мсцісл. Бялькевіч; Насовіч). Параўн. польск. *mrok* ‘цемра, змярканне’.

**МУЖНІН** *прым.* Мужаў. *Але бабка ўсім давольна І не мысліць злога Тым, хто выгнаў сваявольна З мужніна парога.* Батрак.

**Мýжні** *прым.* ‘мужаў’ (Смарг. СПЗБ).

**МУЛ** *м.* Іл. *Зазнаў тут бедны човен гора: Каламі Костусь яго пора І ва ўсе бокі яго круціць, І толькі воду каламуціць, Бо тут гразі больш, чым вады, І мулу, рознае брыды.* Новая зямля. *У нас многа рэк, рэчак, заліўных лугоў, азярын і затокаў, на дне якіх спрадвеку ляжаць глыбокія пласты мулу — сапрапелі, якія з’яўляюцца найлепшым угнаеннем для палёў.* Задачы савецкай школы.

**Мул** *м.* ‘іл, глей’ (Гродз. Цыхун; Малар. ДСБ); ‘іл’ (Астр., Бар., Воран., Гарад., Гродз. СПЗБ); **мулá** *ж.* ‘іл’ (Лід. СПЗБ); ‘глей на дне возера або ракі’ (Воран. Сцяшковіч, 1972). Параўн. польск. *muł*, літ. *mulas* ‘іл’.

**МУЛАВАТЫ** *прым.* Ілісты. *Дно возера мястамі вязкае, мулаватае, мястамі тупкае з дробненькім, жоўценькім пясочкам.* Паездка на Асінбуд.

**Мула́вы** *прым.* ‘ілісты’ (Лоеў. Янкова).

**МУРЛАЧ** *м.* Пра таго, хто мае тоўсты і шырокі твар. [*Генерал:*] — *А вы, кадры, ажырэлі, Толку мала з вас на дзеле — Мурлачы ўсе унь якія!* На шляхах волі.

**Мурло́** *н.* ‘мурло, тоўстая морда’ (Мсцісл. Бялькевіч); ‘хара, рыла’ (Насовіч); **мурла́сты** ‘таўстаморды’ (Насовіч).

**МУТ** *м., перан.* 1. Туман, смуга; імгла. *Нікне сонца ў чорным муту, Хмаркі спуджана бягуць..* Сымон-музыка. 2. Аб цяжкім душэўным стане. *Усе ж дробязі жыцця, увесь будзённы клопат, мут душы, — усё гэта знікала.* На ростанях.

**Мут** *м.* ‘асадак; памутненні ў вачах’ (Брасл., Глыб., Пас., Пух. СПЗБ); ‘каламута; муць’ (Мсцісл. Юрчанка, 1966); ‘асадак, мут’ (Пух. СЦБ; Насовіч); **му́та** *ж.* ‘асадак’ (Іўеў. Сцяшковіч, 1983).

**МУШТАРДА** *ж.* Вострая прыправа да стравы, прыгатаваная з зярнят гарчыцы; гарчыца. *Муштарда, хрэн — адно дзяржыся, У рот паложыш — сцеражыся!* Новая зямля.

**Муштáрда** *ж.* ‘гарчыца’ (Іўеў. Сцяшковіч, 1983; Стаўб. СЦБ). Параўн. польск. *musztarda* ‘вострая прыправа, прыгатаваная з зярнят гарчыцы’.

**МЫСЛІВЫ** *м.* Паляўнічы. *Тут быў Скварчэўскі, Ліхтаровіч, Амброжык, Суднік, Астахновіч, «Памдзей», аб'ездчык і мыслівы, на пачастункі памаўзлівы.* Новая зямля.

**Мыслі́вец** *м.* ‘паляўнічы’ (Воран. Сцяшковіч, 1972; Гродз. Цыхун); **мысли́вца** *м.* ‘паляўнічы з ганчакамі’ (Насовіч). Параўн. польск. *myśliwy* ‘чалавек, які палюе на звяроў’.

**МЫЦКА** *ж.* Маленькая куслівая мушка. *Як толькі добра сонца ўгрэе, Кастусь у чоўне ўжо дурэе Без нагавіц, ў адной кашулі, І хоць за ногі мыцкі тнулі, І запускалі як бы спіцы, Але скідаў ён нагавіцы.* Новая зямля.

**Мы́цка** *ж.* ‘маленькая мушка, якая часта пападае ў вока, асабліва пад вечар’ (Карэл. Жыв. нар. сл., с. 59); **мы́цкі** *мн.* ‘машкара’ (Стаўб. СЦБ).

**МЫШАК** *м.* Конь шэрай масці. — *Конік ты мой, залаценькі! — закрычаў з радасці Пятрусь і пацалаваў у самую мызу свайго худога мышака.* Кірмаш.

**Мыша́сты** *прым.* ‘шэры з чорнай паласой на спіне (пра масць каня)’ (ТС); **мыша́стый** *прым.* ‘такога колеру, як

мыш' (Насовіч); **мыша́ты** *прым.* 'шэры' (Астр. Сцяшковіч, 1972); **мышава́ты** *прым.* 'мышасты' (Дзятл., Іўеў. СПЗБ).

**МЭРАМ** *злучн.* Быццам, як бы. *Згорнеш нек іх* [*пальцы*]*, мэрам хвігу збіраешся даць каму-нібудзь.* Наша сяло, людзі і што робіцца ў сяле.

**Мэ́рам** *злучн.* 'быццам' (Стаўб. МСММГ, 1974).

**МЯЛЬНУЦЬ** *зак.* 1. Зрабіць рух чым.-н., паварушыць. *Па дарозе* [*у царкву*] *ён* [*паляшук*] *казаў: «Хоць і пайду, але ні рукою, ні губою не мяльну!»* На ростанях. *Міхайла Іванавіч галантна пакланіўся. Здароўкаючыся з матушкаю, мяльнуў, як певень, нагою і пацалаваў руку.* Пракурор. 2. Вільнуць. *Рыбкі хвосцікам мяльнуць Ды га́лоўкамі кіўнуць І барзджэй наўцекача Ад рачышчы-вусача.* Рак-вусач. *Тут шчупак мяльнуў хвастом, Плотак спудзіў пад кустом...* Там жа.

**МЯРКОЎНА** *прысл.* Беражліва, з адчуваннем меры. *Наогул трэба жыць больш змысла І больш мяркоўна, болей сцісла, Трымаць зачыненымі губкі І меней траціць на пакупкі.* Новая зямля.

Параўн. польск. *miarkować* 'разлічваць, узважваць', 'стрымліваць, утаймоўваць'.

**МЯРКОЎНЫ** *прым.* Памяркоўны. *Дарэктар выдаўся мяркоўны І лепшы нават, як свой кроўны; Умей з ім толькі пагадзіцца.. За вуха ён не будзе цапаць.* Новая зямля.

**МЯРЭЖА** *ж., перан.* Маршчына на твары. *Перамясціліся і межы, Граніцы штучныя зямлі, І мне на твар, на лоб ляглі Нямілай старасці мярэжы.* Рыбакова хата.

**Мярэ́жа, мярэ́жъна** *ж.* 'рыбалоўная снасць з двух сеткавых мяшкоў (кулькоў), нацягнутых на абручы і злучаных паміж сабой сценкай (стрэлкай)' (Пол. З нар. сл., с. 223); **мерэ́жа** *ж.* 'узор з дзірачак (на тканіне)' (ТС); **мерэ́жык** *м.* 'адзнака, метка, зарубка' (ТС). Параўн. укр. *мережа* 'тое, што нагадвае сваім выглядам мноства перакрыжаваных, пераплеценых ліній'.

**МЯРЭЖЫЦЬ** *незак., перан.* Баразніць. *Вякамі доўгімі гарліва, Пад звон гнусавы стромкай вежы Ты* [*вёска*] *вартавала свае межы. Зямлю саха і смык мярэжыў, А што ты мела з свайго жніва?* Калгаснае.

Параўн. укр. *мережити* 'пакрываць якую-н. паверхню лініямі, плямамі, што нагадваюць сятчатую тканіну'.

# Н

**НАБЯКРЭНЬ** *прысл.* Набакір. *Паслухаць часам было люба, Як пачынаецца той дзень, Надзеўшы шапку набякрэнь І сонцам сыпнуўшы з-пад чуба.* На шляхах волі.

**Набякрэ́нь** *прысл.* 'набок, набакір' (Слон. Сцяшковіч, 1972); **набікрэ́нь** *прысл.* 'набакір' (Слуц. Жыв. сл., с. 63). Параўн. руск. *набекрень* 'набакір, набак'.

**НАВАЛОКА** *ж.* Клуб, воблака (пра дым, туман і пад). *А калі адчыняліся дзверы, то навалока сіняватага дыму рэзка калыхалася, як хвалі ўзбунтаванага ветрам возера, і з сілаю рвалася ў дзверы на̀ прастор, на свежае паветра.* Дрыгва.

**НАВАЛЬ** *ж.* Нашэсце ворага; напад. *Дымам развеяць погань і нечысць І крыкнуць на ўвесь свет: — Зважай! Наваль стрымалі дужыя плечы, Жыве і жыць будзе наш край!* Пажаданні пад Новы 1943 год.

**На́валач** *ж.* 'чужыя людзі, перасяленцы' (Стаўб. З нар. сл., с. 79); 'зброд' (Навагр. Сцяшковіч, 1972).

**НАВАЛЬНЫ** *прым.* Які вызначаецца сілай, хуткасцю руху; моцны. [*Хмарка да хмаркі:*] *Ці акупіцца гэтае няшчасце карысцю ад тваіх навальных уліўных дажджоў?* Над прасторамі зямлі.

**Нава́льны** *прым.* 'моцны, вельмі вялікі' (Старадарож. Жыв. нар. сл., с. 119; Бераст. Сцяшковіч, 1983); 'аблажны, зацяжны (пра дождж)' (Старадарож. Нар. сл., с. 19); 'праліўны (пра дождж)' (Стаўб. СЦБ; Стаўб. МСММГ, 1974; Астр., Воран., Гродз., Іўеў., Старадарож. СПЗБ); 'аблажны' (Ваўк. Сцяшковіч, 1972); 'ужываецца з назоўнікамі дождж, снег' (Гл. Янкоўскі, 1960).

**НАВАРГОЛІЦЬ** *зак., зневаж.* Напісаць што-н. у вялікай колькасці. *Крытык убачыў тую ж гору рукапісаў, а паэт той жа чубок валасоў. — І наварголілі ж! — сказаў крытык.* Трагізм.

**Навурга́ніць** *зак.* 'зрабіць на скорую руку' (Насовіч).

**НАВЕРНЯКА** *прысл.* Напэўна, абавязкова. *Спі, Якубе, лысы дзед, Пойдзеш заўтра ў лес чуць свет, Прыйдзеш і наверняка Знойдзеш там баравіка.* Песня на сон у бяссонне.

Параўн. руск. *наверняка* 'несумненна, абавязкова'.

**НАВЕРЧВАЦЦА** *незак.* Канцэнтравацца. *Усе ж тыя гутаркі і чуткі, што наверчваліся каля асобы дзеда Талаша, сеялі непакой у войтавым сэрцы.* Дрыгва.

**НАВЕЎ** *м.* Тое, што выклікае пэўны душэўны стан. [*Сымон:*] — *Пакажыце мне яе* [*Ганну*] *вы: Яна мусіць ачуняць! Трэба мрок той адагнаць, Знішчыць цёмныя навевы І з душы заслону зняць!* Сымон-музыка.

**Наве́й** *м.* 'хвароба ў выніку чараў' (ЭСБМ).

**НАВЕЧНЫ** *прым.* Які застаецца на доўгі час, назаўсёды; вечны. *І дзе ні ступім мы, Наш поступ — волатаў Навечныя сляды.* Савецкая зямля.

Параўн. укр. *навічний* 'вечны'.

**НАВІДОКУ** *прысл.* Навідавоку. *Прывідам тарчыць навідоку Цагляны будынак стары.* Суд у лесе.

**Наві́доку** *прысл.* 'блізка, на вачах' (Карэл. Сцяшковіч, 1983); 'так, што ўсе бачаць' (Іўеў. СПЗБ).

**НАВІК** *м.* Навічок. *На прасторным пляцы каля школы дзецям так слаўна пагуляць у часе перапынкаў. Каля дваццаці навікоў запісалася ў першы ж дзень прыёму.* На ростанях.

**Наві́к** *м.* 'новы чалавек' (Карэл. Сцяшковіч, 1972).

**НАВОЧНЫ** *прым.* Наглядны, пераканаўчы. *Гэта было навочнай агітацыяй супроць самаўладства.* На ростанях.

**НАВУСНІКІ** *мн.* Палоска тканіны, якую завязваюць на вусы для таго, каб прыдаць ім належную форму. *Відаць, перад адзяваннем рэдактар чапляў на вусы навуснікі, а канцы іх, туга нацягнуўшы, завязваў на патыліцы і так хадзіў з гадзіну, каб прыдаць вусам пажаданы для іх уласніка выгляд.* На ростанях.

**НАВУЧАНКА** *ж.* Настаўленне, павучанне. *Ён* [*Сымон*] *праслухаў навучанку, Як быць добрым пастухом, Справіў пугу-павіванку, Вузлы вывязаў гурком І пагнаў авечкі ў поле На папары і на ролі.* Сымон-музыка.

**НАГАРОДА** *ж.* Узнагарода. *І хлопцам за гэта хвала. Прадставілі іх к нагародзе, І слава іх тут зацвіла, І тут і далёка ў народзе.* Суд у лесе.

**Нагаро́да** *ж.* 'узнагарода' (Віц. Каспяровіч; Насовіч). Параўн. укр. *нагорода*, польск. *nagroda* 'узнагарода'.

**НАГАТА** *ж., перан.* Непрыкрытая сутнасць чаго-н; галізна. *Заправілы Уол-стрыта крычаць да непрытомнасці,*

*шалеюць, выкручваюцца, як удавы, сілячыся прыкрыць выкрывальную нагату іх крывавых намераў крывадушнымі запэўненнямі і таннымі аздобамі.* Магутная сімфонія міру.

Параўн. руск. *нагота* 'выгляд, стан аголенага цела'.

**НАГВАЛТ** *прысл.*: **КРЫЧАЦЬ НАГВАЛТ**. На ўсю моц, ва ўсё горла крычаць. «*Бадай ты спрахла! дзе ж дарога? Нагвалт крычы гарадавога! Куды нялёгкая загнала!*» Новая зямля.

**НАГЛА** *прысл.* Раптоўна. *А ў касцеле звоны звоняць, Гукі жудасныя роняць, — Позна правіцца імша: Нагла зніклая душа Грэх зняважі, уціснення.. Замаліць цяпер жадае..* Сымон-музыка.

**На́гла, на́гле, на́гля** *прысл.* 'раптоўна' (Астр., Іўеў., Смарг. СПЗБ); **на́гле** *прысл.* 'нечакана, неспадзявана' (Карэл. Сцяшковіч, 1972); 'вельмі, празмерна' (Жытк. Нар. словатв., с. 99); **на́глы** *прым.* 'раптоўны' (Гродз. З нар. сл., с. 33); **на́гла** *ж.* 'смерць' (Малар. Нар. лекс., с. 81; Чэрв. Шатэрнік). Параўн. польск. *nagle* 'нечакана, нязвычна, раптам'.

**НАДАЕДНЫ** *прым.* Надакучлівы, надаедлівы. *І колькі раз ён* [*Міхал*] *чуе гэта! Ну й надаедная кабета: Вось так і выкіне на вока!..* Новая зямля.

**Надае́дны** *прым.* 'надакучлівы' (Гродз. Цыхун; Брасл. СПЗБ; Лоеў. Янкова); **нададзе́ць** *зак.* 'надакучыць' (Ваўк. СПЗБ); **надодзе́ць** *зак.* 'надаесці, абрыднуць' (ТС).

**НАДАРМА** *прысл.* Дарэмна. *Я хаджу ды пытаю пісьма, Ды чакаю яго надарма, І на сэрцы журба і трывога.* Крынічка.

**Надаре́мно** *прысл.* 'дарэмна' (Насовіч).

**НАДАРЭМНЫ** *прым.* Дарэмны, марны. *Цару нябесны! Надарэмны Твой суд і царствіе твае.* Кругом няпраўда і няволя...

**Надаре́мный** *прым.* 'дарэмны' (Насовіч).

**НАДАСВЕЦЕ** *прысл.* Досвіткам, перад світаннем. *Выйдзеш з хаты надасвеце, Так і піў бы дух зямлі, І раслі б, здаецца, дзеці, Каб іх кінуць на раллі.* Сымон-музыка.

**НАДВЯЧЭР'Е** *н.* Пара перад самым вечарам; надвячорак. *Звоняць звоны ў час дзянніцы, Надвячэр'ем яснабледным, Звоняць звоны галасныя.* Сымон-музыка.

**Надвячо́рак** *м.* 'вечар' (Лід. Сцяшковіч, 1972); **надвы́чір** *прысл.* 'надвячоркам' (Драг. 3 нар. сл., с. 145); **надве́чар** *прысл.* 'пад вечар' (Дзятл., Навагр., Паст., Свісл. СПЗБ; Чэрв. Шатэрнік).

**НАДЖЭГА** *ж.*: **ЗАДАЦЬ НАДЖЭГІ**. Насварыцца на каго-н., набіць каго-н. за што-н. *Чула сэрца [Сымонкі], што праборкі І папругі не мінуць, Што скрозь столь убачыць зоркі, Як наджэгі зададуць.* Сымон-музыка.

**Наджы́гаць** *зак.* 'насячы, нахвастаць розгамі' (Насовіч).

**НАДЗОР'Е** *н.* Прастора, якая распасціраецца над зоркамі. *Быць хацеў бы я сонцавай коскай: Зазірнуў бы я ў надзор'е..* Сымон-музыка.

**НАДЗОРНЫ** *прым.* Які мае адносіны да надзор'я. *Ты [вясна] — надзей і мар злучэнне, Ты — гром песень, цішыня, Ты — надзорнае імкненне, Ты — прастора-шырыня..* Сымон-музыка. [*Лясун*:] *Слухайце і вы, пташкі, жукі, мушкі, і ўсе слухайце голас надзорных глыбінь!* Залаты прамень.

**НАДЛЕЦЦЕМ** *прысл.* У пачатку лета. *Надлеццем сон у дзве гадзіны, Калі ўстае туман-дымок, Найболей крэпак і глыбок...* На шляхах волі.

**НАДОБА**[1] *ж.* Патрэба. *У лесе цётка гаварыла, для якой надобы належыць якая зёлка, ад якой хваробы ці запалення якога памагае тая ці другая трава, і пазнаёміла Юрку з рознымі краскамі..* Сірата Юрка.

**На́дыб** *ж.* 'патрэба' (Мсцісл. Бялькевіч); **на́дабнасць** *ж.* 'патрэба' (Лоеў. Янкова); **на́добицьца** *незак.* 'быць патрэбным, неабходным' (Насовіч). Параўн. укр. *надоба* 'патрэба, неабходнасць'.

**НАДОБА**[2] *ж.* Розныя рэчы, патрэбныя ў надзённым жыцці. *Тут быў страшэнны непарадак — На тое час быў перабору. Была адчынена камора І сені насцеж. Як папала Надоба розная стаяла.* Новая зямля. *Аглядаючы двор і гаспадарскую надобу, Андрэй спыніўся каля хлява: пад страхою ляжалі тры тоўстыя кавалкі чорнага дуба.* На ростанях.

**Надо́ба** *ж.* 'хатнія рэчы, неабходныя гаспадыні' (Карэл. Сцяшковіч, 1972); 'убранне' (Стаўб. Нар. сл., с. 190).

**НАЖАНЯТЫ** *мн., памянш.-ласк.* Ножкі. *А той хлопчык!.. Ой, хлапчына! Бедны хлапчанятка! Абадраны, ледзьве-ледзьве Цягне нажаняты...* Мар'яна-чарніца.

**Нажаня́та** *мн., ласк.* 'ножкі' (Гродз. Цыхун).

**НАЗІРАЧ, НАЗІРАЧЫ** *м.* Наглядчык. *Старшы назірач Алейчык, «астрожны бацька», здаў нас другому назірачу з загадам пасадзіць «новага» ў камеру № 1.* Цені мінулага. *На парозе паказвалася строгая, чыста мураўёўская, фігура старшага назірачага.* Там жа.

**НАЗІРЧЫ** *прым.*: **ПАД НАЗІРЧЫМ ВОКАМ**. Пад пільным наглядам. *Мае сябры былі ўжо «старыя арыштанты»: адзін з іх сядзеў да суда паўтара года, другі — год з чвэрцю; я быў толькі пад назірчым вокам жандараў і ў астрог ішоў першы раз.* Цені мінулага.

**НАЗЛЯТАЦЬ** *зак.* Зляцецца ў вялікай колькасці; назлятацца. [*Дзед*:] — *А то, хлопчыку, кажаны; Толькі змеркне на дварэ, — І цянюе рой паганы, Нейкі рух яго бярэ. Скуль іх толькі назлятае!* Сымон-музыка.

**НАЗМАРКУ** *прысл.*: **ІСЦІ НАЗМАРКУ**. Прападаць. *Закусім. А другую чарку Асушым мы пад гэты тост: Няхай зло ўсё ідзе назмарку, А ўсе далары — псу пад хвост*! Тосты.

Параўн. руск. *насмарку*: *идти (пойти) насмарку* 'ісці на глум, марнавацца'.

**НАЗОВА** *ж.*, **НАЗОЎ** *м.* Назва. *Так узрушыцца хлапчынка, І тады, нібы праз сон, Штось мільгнецца на хвілінку, Але што — не ўцяміць ён І не можа даць назовы, Што чуваць у тых званох..* Сымон-музыка. *Па закону аналогіі крытыку ўспомніліся творы пад падобным назовам і крытык адразу пастанавіў, што ўжо адзін гэты факт зніжае вартасць паэмы.* Трагізм.

**Назо́въ** *м.* 'назва' (Насовіч).

**НАКАСТРЭЖЫЦЦА** *зак.* Набрацца, накапіцца. *Восемдзесят пяць гадоў дзеду Паўлу. І калі набралася іх столькі — не аглядзеўся дзед: няўзнакі накастрэжыліся гады.* З боку ад жыцця.

**НАКРОП[1]** *м.* Настой з пахучых траў для апырсквання пчол. *Тут сіта выехала з рук, А патрывожаныя пчолы Спяваюць хорам, як анёлы, Але кусаюць па-чартоўску. «Згары ж ты лепей, рой такоўскі!» Угнуўся дзядзька — няма рады, На землю падаюць прылады; За імі дзядзька наш з накропам З вярбы на землю шуснуў снопам.* Новая зямля.

**Закро́п** *м.* 'прыманка з пахучай травы' (Ашм. СПЗБ); **накро́піць** *зак.* 'пакрапіць, папырскаць' (ТС); **накро́пли-**

**ваць** *незак.* 'пырскаць' (Насовіч). Параўн. польск. *nakrapiać* 'апырскваць'.

**НАКРОП**[2] *м.* Накрапванне. — *Давай, давай, дожджык, накропу. Сюды, дзяўчаткі, лезьце ў копу..* Новая зямля.

**НАМАКАЦЦА** *зак.* Наесціся чаго-н., макаючы (у смятану, тлушч). *А пападалася там скварка, Была між імі чуць не сварка: — Бяры, Антось! — Я намакаўся, Бяры, брат, ты: ты больш цягаўся, — І спрэчку тым яны канчалі, Што гэту скварку разразалі.* Новая зямля.

**Намача́цца** *зак.* 'наесціся' (Лоеў. Янкова).

**НАМАРУДЗІЦЬ** *зак.*: **НАМАРУДЗІЦЬ ВУШЫ**. Надакучыць каму-н.; надаесці. *Як уляжа, як зайграе, Дык канца сабе не мае Сухавей, каб ён прапаў: Так і дудзіць, так і дудзіць Ад усходу да цямна, Проста вушы намарудзіць І пяскі ў палях абудзіць, — Ну ж вясна была, вясна!* За дождж.

**Намару́дзіць (вочы)** *зак.* 'надакучыць сабою, сваёй пастаяннай прысутнасцю' (Чач. Вуснае паведамленне В. М. Курцовай).

**НАМАСЦІЦЬ** *зак.* Змясціць адзін каля аднаго. *А як вакенцы размалюе І розных дзіваў там намосціць, — Яму аматар пазайздросціць, І прад марозам ён спасуе.* Новая зямля.

**НАМОЦНА** *прысл.* Назаўсёды. *Намоцна запісаны ў гісторыі літаратуры заўчасна памёршыя маладыя пісьменнікі: празаік буйнейшага і яскравейшага таленту Кузьма Чорны, выдатны паэт Паўлюк Трус, пранікнёны майстар Эдуард Самуйлёнак.* Культура і навука ў БССР за 30 год.

**НАПАДАРОЖНЫ** *прым.* Сказаны, пажаданы на дарогу. *Нападарожным шчырым словам Ён [Дзяжа] павітаў не без прыкрас У думках Галю яшчэ раз..* На шляхах волі.

**НАПАМАДЗІЎШЫ** *дзеепрысл.* Змазаўшы (дзёгцем). *Антось агледзеў тут прылады, Калёсам добра даў «памады», Густога дзёгцю і варволю, Каб меней крыўдзілісь на долю; А напамадзіўшы калёсы, Паправіў вітыя атосы І падлажыў у задок сена.* Новая зямля.

**НАПЕРАСЕК** *прыназ.* Наперарэз. *Сымон прысеў, прылёг, цікуе — Ідзе павольна чалавек Якраз яму наперасек, Ідзе, нібыта штось мяркуе.* Рыбакова хата.

**Наперэсе́к** *прыназ.* 'наперарэз' (ТС).

**НАПІС** *м.* Надпіс. *Тут шмат было паваротак і каб не напісы, дык новы чалавек мог бы лёгка заблудзіцца.* На ростанях.

Параўн. польск. *napis,* укр. *напис* 'тое, што коратка напісана на чым-н.'

**НАПІЦАВАЦЬ** *зак.* 1. Запіхваючы што-н. унутр чаго-н., напоўніць, напхаць. *А рыба трапечацца ў кашы, аж гіжыць. І далей другія бучы кантралюем, А ўсе іх абыдзем — мяшок напіцуем.* Дзяціныя годы. 2. *перан.* З'есці многа чаго-н. [*Алесь да Кастуся:*] — *Ты, брат, глядзі, не ашукайся: Не надта зразу накідайся, Бо потым шчыра пашкадуеш, Калі жывот свой напіцуеш..* Новая зямля.

**Напіцава́ць** *зак.* 'многа накласці, набіць бітком' (Карэл. Нар. сл., с. 88); 'напхаць, набіць' (Стаўб. Нар. сл., с. 151; Слон. Жыв. сл., с. 156).

**НАПЯТА** *прысл.* 1. Напружана. *За барыкадамі напята Чакаюць бою юнкеры, А іх тут тысячы са тры.* На шляхах волі. 2. Востра. *Ляжыць і Шкунда... збіты, змяты... Пытанне ўсё ж стаіць напята: А хто ж каго тут перамог?* На шляхах волі.

**НАСЛЯПОЕ** *прысл.* Усляпую. *Было ўсё чорна тут ад сажы, Насілась густа пылу пража; Адно акенечка і тое Глядзела цьмяна насляпое.* Новая зямля.

**Насляпкі́** *прысл.* 'наўгад' (Свісл. Сцяшковіч, 1983); **на́слепо** *прысл.* 'не бачачы' (Насовіч).

**НАСМАЛЯЦЬ** *зак.* Вельмі хутка зрабіць што-н.; наставіць. *Фельчар зараз распрануўся, З торбы струманты дастаў, І Лукаш не агледзеўся, Як ён банак насмаляў, Зрэзаў спіну, і не знайся.* Доктар памог.

**НАСТОЙНА** *прысл.* Настойліва. *А сэрца б'ецца неспакойна, На волю просіцца настойна, Ну, хоць пад тыя вішнякі..* На шляхах волі.

Параўн. укр. *настійно* 'настойліва'.

**НАСТРАЁВЫ** *прым.* Які выклікае пэўны настрой. *Мінем дарогі, іх малюнкі, Ім не падведзены рахункі; Яны заўсёды свежы, новы І мнагадумны, настраёвы, Іх ні прайсці, ні азірнуць, Яны сваім жыццём жывуць.* Новая зямля.

Параўн. польск. *nastrojowy*, укр. *настроєвий* 'які выклікае пэўны настрой, разлічаны на з'яўленне пэўнага настрою'.

**НАСУПРОЦІ** *прысл.* Насупраць; прама перад кім-н. *Вайшла* [*дзяўчына*]*, прысела насупроці.* На шляхах волі.

**Насу́проця** *прысл.* 'насупраць' (Насовіч).

**НАТАЎП** *м.* Натоўп. *Не скончыў расказваць стары Купрыян, І раптам — трывога. — Хавайцеся — вораг! — і натаўп сялян Бягом ад парога.* Адплата. *І натаўп, пачуўшы каманду, Шыбуе на голас Кандратаў, Вядзе ачумелую банду Фашысцкіх забойцаў і катаў.* Там жа.

**НАТУЖАННЕ, НАТУЖЭННЕ** *н.* Празмернае напружанне сіл; натуга. *Ад натужання і страху сэрца застукала моцна.* Пракурор. *Паўлюк мардуецца, вырабляецца; спацеў увесь, робіць апошняе натужэнне, моцна варушыць нагамі.* Тоўстае палена. *Міхал — сам слых, але дарэмны Вушэй чулівых натужэнні; Нідзе ні зыку-шарасцення..* Новая зямля.

**Нату́га** *ж.* 'напружанне, намаганне' (Чэрв. Шатэрнік); 'напружанне сіл' (Насовіч).

**НАТУРА** *ж.* 1. Фізіялагічная патрэба чалавека. *А перад тым, як спаць лажыцца, Ён* [*Яська*] *мусіў к хлопцам паддабрыцца, І хлопцы цёмнаю парою Ішлі на двор з ім грамадою І там стаялі, не йшлі ў хату, Пакуль з натурай меў расплату.* Новая зямля. 2. *перан.* Характар, нораў. *І раптам, што тыгра, зрываецца вецер, У момант мяняе натуру, Рве жоўклае лісце з макушак і з веццяя..* Адплата.

**Нату́ра** *ж.* 'натура, характар' (ТС; Краснап. Бялькевіч); 'характар' (Чэрв. Шатэрнік); 'упартасць' (Насовіч).

**НАТХНЕННА** *прысл.* Натхнёна. *Ў глыбі лясоў цецерукі Ўжо зачыналі свае токі, Усход віталі агнявокі, Віталі шчыра і натхненна.* Новая зямля.

**НАТХНЕННІЦА** *ж.* Натхніцельніца. [*Прут:*] *Жанчына — душа мужчыны; яна наша натхненніца на вялікія справы.* Забастоўшчыкі.

Параўн. укр. *натхненниця* 'тая, што натхняе, заахвочвае да чаго-н.'

**НАТХНЕННЫ** *прым.* Поўны натхнення, прасякнуты натхненнем; натхнёны. *Зварот пары, зніканне лета... То — водгулле душы паэта.. То — струн дрыгучых заміранне, Натхненнай песні жаль сардэчны..* Новая зямля.

**Натха́ный** *дзеепрым. зал. пр. ч.* 'натхнёны' (Насовіч). Параўн. укр. *натхненний* 'напоўнены, пранятый натхненнем'.

**НАТЫХАЦЬ** *незак.* Усяляць, выклікаць якое-н. пачуццё. *І, здавалася, жывое Нешта йшло ад гэтых струн, Бы дух згоды і спакою, Чараўнік які, вяшчун, Натыхае ім, дрыготным, Каб высока душу ўзняць, Каб вясёлым і маркотным Чары гукаў паказаць.* Сымон-музыка.

**Натыха́ць** *незак.* 'усяляць каму склад сваіх думак' (Насовіч).

**НАЎЗВАЛОЧ** *прысл.* З краю да краю; наўсцяж. *На зямлю спусцілася ноч, Раскрыла свае аканіцы. У небе пралёг наўзвалоч Шлях Млечны святлом таямніцы.* Адплата.

**Наўзвало́ч** *прысл.* 'вакол' (Карэл. Сцяшковіч, 1983).

**НАЎКОЛЬНЫ** *прым.* Навакольны. *Ну, вось так часамі і горне пасядзець, паслухаць штодзённае водгулле наўкольнага жыцця..* На ростанях.

**Наўко́ла** *прысл.* 'наўкола, наўкруг' (Чэрык. Бялькевіч); 'навокал; кругом' (ТС).

**НАЎПЕРАД** *прысл.* Спачатку, спярша, перш за ўсё. *Хлапцы смяяліся і бралі наўперад «бацьку», як называлі яны самага большага баравіка, потым меншых.* У грыбах.

**Наўпяро́д** *прысл.* 'перад, перш за ўсё' (ЭСБМ).

**НАЎСКАПЫТА** *прысл.* Наўскач, галопам. [*Зыгмусь*:] *Я — хоп за павады! Конь спужаўся, а я — скок на яго ды наўскапыта ў лес! Толькі і бачылі мяне!* На ростанях.

**Наўскапыта́** *прысл.* 'галопам, наўскач' (Чэрв. Шатэрнік); **наскапыты́**, **наскапыта́** *прысл.* 'рыссю' (Навагр. СПЗБ).

**НАЎСКРУГ** *прысл.* Усюды, навокал. *Бародка зелені прыўдала Наўскруг вілася ўскрай прагалу, Прыгожа тулячы агіб.* На шляхах волі.

**Наўскру́х** *прысл.* 'ва ўсім наваколлі' (Смарг. СПЗБ).

**НАХІЛЕННЕ** *н.* Схільнасць. *Дзед меў да сецей нахіленне, А вудзіць — не: не меў цярпення І не любіў наогул вуды..* Новая зямля.

**НАЧАТКІ** *мн.* Падручнік па Закону Божаму (асновы хрысціянскага вучэння). *І вось уночы наш дабродзей Ўстае і крадзецца, як злодзей, І кнігі з скрынкі выкідае, І пад сталом іх растрасае, А ненавісныя «начаткі» Парваў па самыя акладкі: «Вось вам, Абрам, Ісак і Якаў! Паплачце вы, бо я ўжо плакаў!»* Новая зямля.

**Нача́так** *м.* ‘пачатак’ (Мядз. СЦБ; Бар., Верхнядзв., Дзятл. СПЗБ).

**НАЧНІЦА** *ж.* Здань. [*Сымонка*:] — *Дзедку, глянь, а што бліскае Там, дзядок, каля крыніц? Бліснь — і зараз жа знікае... Што за з’явіна такая? Што за забаўкі начніц?* Сымон-музыка.

**Начні́цы** *мн.* ‘выдуманыя, фантастычныя істоты, начныя ведзьмы’ (Навагр. Сцяшковіч, 1972); ‘начныя здані’ (Лоеў. Янкова). Параўн. польск. *nocnica* ‘начны матылёк’.

**НАЧЭННЕ** *н.* Набор інструментаў для выканання якой-н. работы. *Злезьце лепей, паны, з даху: Не збудуе панства «гмаху» Заржавелым тым начэннем*! Панам.

**Начэ́ня** *н. зб.* ‘сталярны інструмент’ (Шчуч. 3 нар. сл., с. 46); **начы́нне** *н.* ‘увесь інструмент, неабходны для работы’ (Навагр. Сцяшковіч, 1972); ‘інструмент’ (Пруж. ДСБ); **начы́нье** *н.* ‘начынне, набор прылад’ (ТС); **начы́ньне** *н. зб.* ‘розны інструмент’ (Чэрв. Шатэрнік); **начы́ння**, **начы́не**, **начы́нё**, **начэ́нё** *н.* ‘увесь посуд у хаце’, ‘інструмент’ (Воран., Зэльв., Карэл. СПЗБ); **начы́нё** *н. зб.* (Навагр. Нар. словатв., с. 45); ‘кавальскія прылады’ (Нясв. Нар. словатв., с. 227). Параўн. польск. *naczynie* ‘прылада, інструмент; посуд’.

**НАШАТЫРКІ** *мн.* Ушчункі, напады крытыкаў. *Ты* [*Змітрок Бядуля*] *не зважай, што часы крушаць, Згінаюць постаць нашу, стан І што «гуменца» на макушы, Як месяц свеціць праз туман, — Дарма: расці і ўглыб і ўшыркі, Вітай свой дваццаць шосты год І не зважай на «нашатыркі» — Валі з эпохаю ўпярод!* Змітраку Бядулю.

**НАШМАРАВАЦЦА** *зак.* Намазаць сабе губы, шчокі, бровы касметычнай фарбай; нафарбавацца. *Нашмаруецца* [*Кацярына Паўлаўна*], *напусціць кудлы і думае, што яна немаведама што.* Так і трэба ашуканцу.

**Нашмарава́ць** *зак.* ‘намазаць’ (Ваўк. Сцяшковіч, 1972); **нашмарова́ць** *зак.* ‘змазаць чым-н. тлустым’ (Насовіч).

**НАШЫНСКІ** *прым.* 1. Такі, як у нас. *На наша шчасце, ужо з тыдзень, як у Ташкенце стаіць амаль што нашынская пагода, няма гарачыні.* З пісьма. 2. Які звязаны з намі, датычыцца нас. [*Галута*:] *Уважны «госць» яго, шляхетны,*

*З усімі роўны і прыветны, Да сэрца блізка ўсё прымаў І ўсім цікавіўся: звычаем, Укладам, працаю, жыццём, І іншым нашынскім стаццём, І нашай песняю, і краем..* На шляхах волі.

**На́шскі** *займ.* ‘наш’ (Воран. Сцяшковіч, 1983); **на́шына** *ж.* ‘мясцовае асяроддзе’ (Лоеў. Янкова); **на́шынец** *м.* ‘чалавек з мясцовага асяроддзя’ (Лоеў. Янкова).

**НЕАБНІМНЫ** *прым.* Бязмежны, бяскрайні. *Якая ж сіла заложана ў гэтых прасторах неабнімных родных шляхоў і якую ўладу маюць яны над табою, неспакойны, вечна заклапочаны падарожны?* На ростанях.

**НЕАБЫКЛЫ** *прым.* Непрывычны, нязвыклы. *Мы так разважалі і так успрымалі Спакой неабыклы і глуш, І неслі далёка нявідныя хвалі Суладнасць і згоду дзвюх душ.* Зімой у Балачанцы.

**Необы́клый** *прым.* ‘непрывыклы’ (Насовіч).

**НЕАКРАЕНЫ** *прым.* Які не мае краю, берага; бяскрайні. *А надзею... Вецер па полі развеяў, Хваля морам разнясла. Няхай жа вецер усё разносіць На неакраеным крыллі! Няхай жа сэрца плача, просіць Святое праўды на зямлі.* Чыгрыне, Чыгрыне.

Параўн. укр. *неокраїй* ‘які не мае бачных меж; бясконцы’.

**НЕАКРЫТЫ** *прым.* Які нічым не пакрыты; без адзежы. *Папіхалі намі, Гналі, як жывёлу, Змардавалых, босых, Неакрытых, голых.* Цемра.

**НЕБАЖАТКА** *н.* Ласкавы зварот да дзяцей. *Падышла і гаспадыня, Жвавая кабетка: — Павесь шапачку, мой сыне! З’еж от скварку, дзетка! Будзеш дужшы, небажатка, Пасілкуйся крышку! — І падносіць хлапчанятку Гарэлкі ў кілішку.* Першы заработак. [*Міхал*:] *А вам, сынкі мае любыя, Не век сядзець на маёй шыі! Пара падумаць, небажаткі, Як жыць без бацькі і без маткі.* Новая зямля.

**Небо́ж** *м.*, **небожа́та** *мн.* ‘ласкавы зварот да малых, маладзейшых з боку старэйшых’ (ТС); **небожа́** ‘гаворыцца з тонам пагрозы і больш у адносінах да малалетніх’ (Насовіч).

**НЕВІДОМЫ** *прым.* Нябачны. *У гэтай глухой зацятасці начной цемры лесу шнуруюць, як цені, невідомыя людзі, прабіваючы яе вачыма.* Дрыгва.

**Невидо́мый** *прым.* ‘нябачны’ (Насовіч). Параўн. польск. *widomy* ‘які можна бачыць, заўважыць’.

**НЕВЫМОЎНЫ** *прым.* Які нельга выказаць словамі; нявыказаны. *Зірнуў я на яго* [*Петрыка*] *— сур’ёзны, суровы, губы шчыльна самкнёны, а ў вачах невымоўная пакута.* Між дзвюх рэчак.

**Невымо́вный** *прым.* ‘які не можа паразумецца; неперадавальны; бязмоўны’ (Насовіч).

**НЕДАБРЫЦЦА** *незак., безас.* Нездаровіцца. *Увесь гэты час мне недабрыцца.* З пісьма.

**Недабры́цца** *незак.* ‘нездаровіцца, нядужыцца’ (Пух. З нар. сл., с. 115; Старадарож. Жыв. нар. сл., с. 119; Карэл. Сцяшковіч, 1983); ‘нездаровіцца’ (Лід., Пух., Чэрв. СПЗБ).

**НЕДАДЗЕЦЬ** *зак.* Не даняць, не дапячы, не надакучыць. [*Аўстрыяк*:] *За мною, панна! борзда! смела! Калі жыццё вам недадзела: Нас тут змятуць, як парахно.* На шляхах волі.

**Дадзе́ць** *зак.* ‘надаесці, апрыкраць’ (Карэл. Сцяшковіч, 1983).

**НЕДАЛЕТАК** *м.* Пра хлопца, які не дасягнуў паўналецця; падлетак. [*Талаш*:] *Сына майго недалетка арыштавалі як заложніка.* У пушчах Палесся.

**Недале́так** *м.* ‘непаўналетні’ (Гл. Янкоўскі, 1970). Параўн. укр. *недоліток* ‘хлопец або дзяўчына, якія не дасягнулі паўналецця’.

**НЕДАЛЕТКА** *ж.* Дзяўчына-падлетак. *Штовечара схадзіліся* [*Пятрусь і Мар’яна*], *І маці не знала, Дзе Мар’яна да паўночы І з кім размаўляла. «Яна яшчэ недалетка, Нічога не знае». Здагадалася матуля, ды не ўсё згадала, Знаць, забылася, што калісь Сама дзевавала.* Мар’яна-чарніца.

**НЕДАЛЕТНЫ** *прым.* Непаўналетні, маларлетні. *І калі дзед гаварыў пра свайго сына, пра яго няволю і нявінную пакуту, пра пакуту недалетнага юнака, то дзедаў голас дрыжаў, у ім чуліся ноткі глыбокага бацькоўскага гора.* Дрыгва.

Параўн. укр. *недолітній* ‘непаўналетні, малалетні’.

**НЕДАЛЕЧА** *прысл.* Недалёка. *Не пужайся, чалавеча, Што ў трывозе ўсё кругом, Што ўжо хмары недалеча, Шлюць пярун за перуном.* Навальніца.

**Недале́чка** *прысл.* 'зусім блізка' (Калінк. З нар. сл., с. 269); **недале́ка**, **недале́чы** *прысл.* 'недалёка' (Лоеў. Янкова).

**НЕДАПЕКА** *м.* і *ж.* Той, хто абыякавы да ўсяго, паглыблены ў свае думкі. — *Што стаіш там, як закляты? Гора ты нам, не дзіця! — кажа маці: — ідзі ў хату, Недапека ты, куцця! — І ўздыхнула.* Сымон-музыка.

**Недапёка** *м.* і *ж.* 'нязграбны чалавек' (Брасл. СПЗБ); **недапе́ка** *м.* і *ж. абразл.* 'дурань, дурніца' (Бял. Яўсееў); 'прастак, прыдуркаваты' (Гл. Янкоўскі, 1970); **недопёка** *ж.* 'недавучка' (Насовіч); **недапёклы** *прым. перан.* 'вялы, смутны' (Смарг. Сцяшковіч, 1983).

**НЕДАХВАТКА** *ж.* Адсутнасць, недахоп самага неабходнага; нястача. [*Агата*:] *А да працы быў* [*Яхім*] *ахвочы, Рук ніколі не складаў, З ранку тупаў аж да ночы І ў самоце штось гадаў. А паглядзіць — недахватка, Беднасць лютая ва ўсім: Хлеў някрыты, бедна хатка, А падправіць няма чым.* Прапаў чалавек.

**Недохва́т** *м.* 'нястача, беднасць' (ТС).

**НЕМАРАЧ** *ж.* Глухое, цёмнае месца ў лесе. [*Стары*:] *Такая немарач, нетра, глухамень. Неба з-за лесу не відаць, а збоку — балота, ды такое дрыгвяністае..* Дрыгва.

**Немарэ́ча** *ж.* 'гушчар лесу' (Карэл. Сцяшковіч, 1983).

**НЕМАСЦЬ** *ж.* Нямая, глыбокая цішыня. *Я люблю гэтыя далі, калі над імі разнімае сваё крылле грозная хмара і выкочвае велізарныя, златарунныя клубкі, кідаючы гняўлівыя цені на сутокі неба і зямлі, разліваючы громы і трасучы зацятую немасць прастораў.* На ростанях.

**НЕМАЧНЫ**, **НЕМАШЧНЫ** *прым.* Драхлы; слабы. *Хутчэй за ўсё ў яго* [*а. Мікалая*] *была проста глухая зайздрасць да свайго суседа, зайздрасць немачнай старасці перад маладосцю.* На ростанях. [*Поп*:] *Дух бодр, плоць немашчна.* Вайна вайне.

**Не́мачны** *прым.* 'хворы' (Івац. З нар. сл., с. 8); **не́мач** *ж.* 'хвароба' (Пух., Уздз. МСММГ, 1974); 'бяссілле, слабасць' (Ваўк., Смарг. Сцяшковіч, 1972); **не́моч** *ж.* 'слабасць, знямога, хвароба' (ТС); 'хвароба' (Насовіч).

**НЕПАДЗЯЧНАСЦЬ** *ж.* Няўдзячнасць. [*А. Кірыл*:] *Вы не ведаеце мужыка: зрабі яму дабро — ён адплаціць табе самай чорнай непадзячнасцю.* На ростанях.

**НЕПАТРАБОЎНЫ** *прым.* Сціплы ў сваіх патрэбах; непатрабавальны. *Але госці былі непатрабоўныя, частаваліся сваёю гарэлкаю і закусвалі сваімі языкамі.* На ростанях.

**НЕПАТРЭБСТВА** *н.* Свавольства. [*Янка*:] *А скончыў я тым, што, вярнуўшыся, прынёс такую ахвяру святым у асобе Мікалая ўгодніка, якой ніякі жрэц на свеце не прыносіў. І расказаў аб непатрэбстве, якое зрабіў ён перад абразом Мікалая цудатворца.* На ростанях.

**Непотре́бство** *н.* 'непатрэбная рэч, справа; распуста' (Насовіч).

**НЕПРАШАНА** *прысл.* Без запрашэння. [*Банадыся*:] *Справа кепска, нецікава! З-пад Загаццconfigured ягамосці Непрашана прыйшлі ў госці Мяне сватаць за Кандрата.* Батрак.

**НЕРАДЗЕННЕ** *н.* Абыякавыя адносіны да якой-н. справы, да сваіх абавязкаў; нядбайнасць. *Прыгрэбнік, хата — ўсё дачыста Казала ясна, галасіста Аб непарадку, запусценні, Аб гаспадарскім нерадзенні.* Новая зямля.

**Неря́дный** *прым.* 'які дрэнна вядзе гаспадарку; нераспарадлівы' (Насовіч). Параўн. руск. *нерадение* 'нядбанне, нядбайнасць'.

**НЕРАЗГАДНЫ** *прым.* Які патрабуе разгадкі; незразумелы. *Белы вус, як снег калядны, Смех хавае неразгадны, Бы ахвяру сцеражэ.* На шляхах волі.

**НЕСМЯРТЭЛЬНЫ** *прым.* 1. Які існуе вечна; неўміручы. [*Дэмбіцкі*:] *Нашы гістарычныя традыцыі, ойча пробашч, несмяртэльны. Яны жывуць у сэрцы кожнага паляка.* У пушчах Палесся. 2. Які застаецца навечна ў памяці людзей; несмяротны. *Міхайлу Іванавічу ўспомніўся несмяртэльны Пушкін і яго словы..* Пракурор.

**Несмерте́льный** *прым.* 'вечны, неўміручы' (Насовіч). Параўн. польск. *nieśmiertelny* 'бессмяротны, неўміручы'.

**НЕСПАДЗЕВА** *ж.* Нечаканасць, неспадзеўка. *Валерык згледзеў бабку Еву, Пазнаў і «баба» крыкнуў ёй, Для іх такая неспадзева: Ён слоўны скарб пабольшыў свой.* Рыбакова хата. *Ды што без клопату даецца? — І тут ён* [*Міхал*] *нават засмяецца, Каб цень развеяць тае смуты: — І трэба часам крыж пакуты Панесці, мілыя мае вы, Зазнаць і гора, неспадзевы!* Новая зямля.

**Неспадзёва** *ж.* 'нечаканасць' (Карэл. Сцяшковіч, 1972); **несподзева́нне** *н.* 'нечаканасць' (Насовіч); **ніспадзе́ўкі** *прысл.*

‘нечакана, неспадзявана’ (Докш. МСНДМ, с. 143); **неспадзява́нка** *ж.* ‘неспадзяванасць’ (Карэл. Нар. лекс., с. 160).

**НЕСТРЫВАЛЫ** *прым.* Які цяжка вытрымаць; невыносны. *Жар нестрывалы: трудна ўстаяць за тры сажні ад агню.* Лясны пажар.

**НЕСУЗМЕРНА** *прысл.* Празмерна; вельмі. *Адно толькі шкада, што наша жыццё несузмерна малое для таго, каб начытацца гэтай кнігай.* На ростанях.

**НЕСУЗМЕРНЫ** *прым.* Які не мае агульнай меры з чым-н. іншым; вельмі вялікі. *Якія несузмерныя кантрасты!..* У калгасе «Новы шлях».

Параўн. руск. *неизмеримый* ‘празмерны, нязмерны’, укр. *несумірний мат.* ‘які не мае аднолькавай, агульнай меры з чым-н. іншым’.

**НЕТРЫВАННЕ**, **НЕЎТРЫВАННЕ** *н.* Нецярпенне. *Хутчэй бы выйсці з таго стану, Якіх бы скуткаў ні было. І ў нетрыванне стала пану, Яна* [*Мальвіна*] *ж марудзіць як назло.* Рыбакова хата. — *Хто ж іх, панічыку, ведае, хто да вас лепей горнецца: ці паненкі, ці маладзіцы, — усё яшчэ хітрыла бабка. Але ёй самой неўтрыванне было, каб не сказаць, і яна пачала смяяцца.* На ростанях.

**НЕЎЗАМЕТКІ** *прысл.* Незаўважна, неўзаметку. *Але няўзнакі, неўзаметкі Вязала ліха свае сеткі, Каб іх накінуць на Міхала.* Новая зямля.

**Неўзаме́ткі** *прысл.* ‘непрыкметна’ (Віл. СПЗБ); **неўзаме́тку**, **неўзаме́тцы** *прысл.* ‘незаўважальна, непрыкметна’ (ТС).

**НЕЎЗІРАНЫ** *прым.* Нечаканы. *Што за праява напаткала? Няўжо яна, смерць, неўзірана? Не, не! аб ёй і думаць рана.* Новая зямля.

**НЕЎЗНАКІ** *прысл.* Непрыкметна. *А часам ён* [*Даніла*] *паможа дзеду Без лішніх слоў і неўзнакі Наладзіць лад сякі-такі, Каб нават дзед таго не ведаў.* Рыбакова хата.

**Няўзна́кі** *прысл.* ‘непрыкметна’ (Карэл. Сцяшковіч, 1972).

**НЕЎЗНАРОК** *прысл.* Выпадкова, ненаўмысна. *Князю ліха налучылась: Князь забіт быў неўзнарок, Чыясь куля памылілась І прабіла яму бок.* Сымон-музыка.

**НЕЎЧЫТАНЫ** *прым.* Які нельга прачытаць, зразумець. *Вось затым жа чалавеку І той розум, хлопча, дан,*

*Каб ён мог зганяць туман, Што гняце яго спрадвеку, І каб змог ён, позна-рана, Зняць няведання пячаць, А той напіс неўчытаны Растлумачыць, адгадаць.* Сымон-музыка.

**НЕХАЦІМЕЦ** *м.* Той, хто не жадае чаго-н. рабіць, падпарадкоўвацца чаму-н. *І ўсё гэта не магло не адбіцца на псіхіцы ўпартага нехацімца.* Як я пісаў аповесць «Адшчапенец».

**НЕЦЯРПЯЧКА** *м.* і *ж.* Той, хто не мае цярпення. — *Які ты, хлопча, нецярпячка, Няхай цябе затопча качка! — Гаворыць дзядзька на хлапчынку.* Новая зямля.

**Нецярпля́чы** *прым.* 'нецярплівы' (Ганц. СПЗБ).

**НЕЧАКАННЕ** *н.* Нечаканасць. [*Аўстрыяк*:] *Прабачайце, панна!.. Чым так засмучоны? Ці не там каханы, Паннін нарачоны? Ад гэтых слоў, ад нечакання Прыходзіць Насця ў замяшанне.* На шляхах волі.

**НЕЧЫСНЫ** *прым.* Які мае адносіны да нячыстай сілы. [*Ганна*:] *А мне страшна, я баюся... Можа гэта толькі здань, Або нечысная тхлань?* Сымон-музыка.

**НЁЖ** *часц.* Няўжо. *Кажуць, сніць срэбра кепска: слёзы! Нёж я буду плакаць?* З днеўніка пана Жылака.

**Нёж** *часц.* 'няўжо' (Карэл. Сцяшковіч, 1972).

**НІКАГУТКА** *займ.* Нікагусенькі. *Маўчаў луг, маўчала поле: на вуліцы ў сяле не відаць было нікагутка.* Недаступны.

**Нікагу́тко** *займ.* 'нікога' (Ваўк. Сцяшковіч, 1972).

**НІКЧЭМСТВА** *н.* 1. Нікчэмнасць. *Яны* [*Янка і Андрэй*] *напісалі Райскаму, шмат выказвалі радасці, надзей на шчаслівы канец і накідаліся на нікчэмства ўсяе чыноўніцкай тармасні вакол настаўніцкага сходу.* На ростанях. 2. Пра нікчэмных людзей. *..яму* [*ляснічаму*] *трэба выліць сваё абурлівае нездаваленне, накіраванае на няздольнасць вялікіх і малых чыноўнікаў, на гэтае нікчэмства, што пачынае дамагацца нейкіх сваіх правоў..* На ростанях.

**НІШЧЫМНЫ** *прым.* Пусты, неўрадлівы. *Зірнеш на дол — убогі ён, Адзін пясок, сухі, нішчымны..* Загібелька.

**Нішчы́мны** *прым.* 'пусты, парожні' (ТС); 'які не ўтрымлівае сокаў' (Пруж. СПЗБ).

**НОРТ** *м.* Круты паварот ракі з хуткім цячэннем; вір. [*Соцкі*:] *На Нёман хадзем з бусакамі, Каму гэта справа баліць! Усё адзін чорт: Памёр той Гаўрыла Ці скула яго задавіла, Агледзець жа трэба хоць норт.* Прапаў чалавек.

**Норт** *м.* ‘паглыбленне, вір на павароце ракі’ (Іўеў. СПЗБ); ‘неглыбокае месца ў рэчцы, дно якога ў карчах’ (Навагр. Нар. лекс., с. 153); ‘паўвостраў, які ўтварае рака, мяняючы напрамак свайго цячэння’ (Карэл. 3 нар. сл., с. 91). Параўн. польск. *nurt* ‘цячэнне, фарватэр’, укр. *нурт, нурта*, ‘вір’.

**НУТРЫ** *мн.* Унутраная частка чаго-н. *Агоньчык тлее ў нутрах кучы, Што жар разводзіць, як вулкан.* Рыбакова хата.

Параўн. укр. *нутро* ‘унутраная частка чаго-н.’

**НЭНДЗА** *ж.* Галеча, беднасць. *Гром арганаў у касцёлах, Набажэнства ксендзаў, А па местах і па сёлах Бродзіць голад, нэндза.* Польскім ка́там.

**Нэ́ндза** *м.* і *ж.* ‘худы, знясілены чалавек’ (Кам. Жыв. сл., с. 166); **не́ндза** *ж.* ‘клопат, турботы’ (ТС). Параўн. польск. *nędza* ‘галеча, беднасць’.

**НЯБОЖ** *м.* Пляменнік. *..адзін падрызнік Сцяпан непрымення зашле ў сяло свайму нябожу, сястрэнічу Мікалаю.* Старыя падрызнікі. — *Ну, небажаты, будзем снедаць — У людзей садзяцца ўжо абедаць. Цягні мачанку, маці, з печы! За стол, малы, за стол, старэчы! — Гаворыць дзядзька, сам сядае І стол абрусам засцілае.* Новая зямля.

**Нябо́ж** *м.* ‘пляменнік’, ‘ужываецца пры звароце да дзяцей’ (Старадарож. Нар. сл., с. 19); **небо́ж** *м.* ‘пляменнік’ (Лельч. Нар. лекс., с. 19); **нябо́ж** *м.* ‘пляменнік’ (Пух. МСММГ, 1974; Маз., Хойн. Шаталава; Гл. МАСМ; Лоеў. Янкова); **нябо́га** *ж.* ‘пляменніца’ (Ваўк. Сцяшковіч, 1972); **не́баж**, **не́бож** *м.* ‘пляменнік’ (Івац. ДСБ); **небажа́та** *мн.* ‘пляменнікі’ (Пін. СПЗБ); ‘унукі’ (Лоеў. Янкова); **небажаня́та** *мн.* ‘пляменнікі’ (Люб., Лях. СПЗБ).

**НЯБЫТА** *ж.* Стан бяздзейнасці, адсутнасці руху. *Ды ў той жа дзень наказ быў даны Ісці Міхалу пад будыны Сачыць ваўкоў. Ну, значыць, квіта! Прайшла гарачка і нябыта.* Новая зямля.

**НЯДБАЛЕЦ** *м.* Нядбайны, лянівы чалавек. *Пахібка знойдзецца якая, Наш дзядзька першы не ўтрывае І на пакошу тыкне пальцам: Бяда няўмекам і нядбальцам, Хто шнур зжуе няроўным плехам — Антось яго ўжо дойме смехам, Задзене проста за жывое, Хоць сэрца ў дзядзькі і не злое.* Новая зямля.

**Нядба́йліца** *ж.* ‘неруплівая, гультайка’ (Лід. Сцяшковіч, 1972); **нядба́йла, нядба́йліна** *м.* ‘нядбайла, чалавек, які ні аб чым не дбае’ (Касц. Бялькевіч); **недба́йло** *м.* і *ж.* ‘нядбайла, гультай’ (ТС); **нядба́йла** *м.* і *ж.* ‘нядбайны чалавек’ (Брасл., Паст. СПЗБ); **нядба́йліско (нядба́йліца)** *м.* і *ж.* ‘нядбайны, бесклапотны чалавек, нядбайла’ (Гродз. Цыхун).

**НЯДУШЛЫ** *прым.* Слабы, кволы; нядошлы. [*Астрожнікі*:] — *Пятрусь Ігнатовіч, чаму ты — помніш, як першы раз прыйшоў у нашу камеру — выглядаў такім нядушлым і няшчасным.* Стары канакрад.

**Няду́жы** *прым.* ‘хворы, слабы’ (Шчуч. Сцяшковіч, 1972); **неду́жы** *прым.* ‘хворы’ (ТС); **ніду́жы** *прым.* ‘слабы, хваравіты’ (Астр. СПЗБ); **няду́жный** *прым.* ‘недалужны’ (Краснап. Бялькевіч).

**НЯЗБОЖНА** *прысл.* Бязбожна. [*Міхал*:] *Яно б чаму? служыць бы можна, Каб не валяўся так нязбожна У вочы гэты Рак-вар'ят. Ці ж чалавек ён? азіят, Душа зацятая, ліхая, Такіх паноў і свет не знае.* Новая зямля.

**Незбо́жно** *прысл.* ‘бязбожна, неміласэрна’ (Насовіч).

**НЯЗДАРА** *м.* і *ж.* Той, хто пазбаўлены здольнасцей да чаго-н., няўмека. *І гордасцю свецяцца твары Старых і сумленных майстроў. Ніхто ім не скажа — няздары, Не зганіць іх рук, тапароў.* Адплата.

**Нязда́ра** *м.* і *ж.* ‘няздольны’ (Карэл. Сцяшковіч, 1972); **незгра́да** *м.* і *ж.* ‘няўмека, няўклюда’ (ТС); **нязгрэ́да** *м.* ‘няўдаліца’ (Клецк. Нар. лекс., с. 203).

**НЯЗРУШАНА** *прысл.* Нерухома. *І ціхутка, бы ў магіле, Звіс нязрушана туман І свае валокны-крылле Абапёр на той курган.* Сымон-музыка.

**НЯІМЕННА** *прысл.* Абавязкова. — *Не, каб я ўмеў выяваць, то я няіменна пайшоў бы,* — *стаяў Міхайла Іванавіч на сваім, у той жа час вельмі рады, што ён не салдат.* Пракурор.

**НЯМАШТО**: **ЗА НЯМАШТО**. Без прычыны, без падставы, ні за што. *Дрэвы ўсе раслі, таўшчалі, А закіданы дубок За нямашто зневажалі, І ён быў так адзінок.* Сымон-музыка.

**НЯМНІШЧА** *н.* Перасохлае рэчышча Нёмана. *Пад мостам ляжала старое рэчышча — нямнішча, заросшае лотацццю і рознаю травою.* На ростанях.

**Нямні́шча** *н.* 'старое рэчышча Нёмана' (Стаўб. СЦБ).

**НЯСКЛАДЗІСТЫ** *прым.* Недарэчны, супярэчлівы. *Па сяле хадзілі самыя няскладзістыя чуткі.* Дачакаўся.

**НЯСКЛЁПІСТЫ** *прым.* Дрэнна зроблены; нязграбны. *У канцы залы ўзвышаўся памост накшталт тэатральнай сцэны, адгароджаны ад публікі моцным, хоць і нясклёпістым бар'ерам.* На ростанях.

**Нясклёпісты** *прым.* 'непаваротлівы' (Пол. Нар. лекс., с. 17).

**НЯЎДАТНІК** *м.* Няўдачнік. *Надышла вясна. Вясна — гэта такая пара, у якую адны толькі няўдатнікі, адны бяздольнікі, па справядлівасці нешчаслівыя, не знаюць радасці.* На чужым грунце.

**НЯЎЗНАКІ** *прысл.* Непрыкметна, няўзнак. *Але няўзнакі, неўзаметкі Вязала ліха свае сеткі, Каб іх накінуць на Міхала, І ні на вошта не зважала..* Новая зямля.

**Няўзна́кі** *прысл.* 'непрыкметна' (Карэл. Сцяшковіч, 1972).

**НЯЎЛОМАК** *м.* Той, хто не гультайнічае, не лянуецца. *Ён [Антось] невысок, не надта ёмак, Ды карчавіты і няўломак, А волас мае цёмна-русы, І зухаўскія яго вусы У меру доўгі, густаваты, Угору чуць канцы падняты.* Новая зямля.

**Няўло́мак** *м.* 'здаровы, нармальны чалавек' (Гродз. Цыхун; Пух. СЦБ); 'чалавек, які можа што-н. зрабіць, але не хоча' (Круп. Нар. сл., с. 181); 'здаровы чалавек, які прыкідваецца слабым' (Пух. МСММГ, 1974); 'здаравяк' (Слон. Сцяшковіч, 1977); 'здаровы чалавек, які можа прыкідвацца слабым' (Ваўк. Сцяшковіч, 1972).

**НЯЎМЫСЛЯ** *прысл.* Выпадкова; не наўмысна, няўрокам. *Гэта яго мачыха тарабаніць збан, той самы збан ад малака, што Юрка няўмысля разбіў.* Сірата Юрка. *Разам з дакументам [Алесь] няўмысля вымае паперку, хапаецца, хоча схаваць яе.* Вайна вайне.

**Няўмы́сьлі** *прысл.* 'ненаўмысля (незнарок)' (Мсцісл. Бялькевіч); **невмы́сля** *прысл.* 'выпадкова, без намеру' (Насовіч); **няўмы́сня** *прысл.* 'незнарок' (Іўеў. Сцяшковіч, 1983).

**НЯЎРЫМСТАВАЦЬ** *незак.* Праяўляць нецярпенне пры чаканні чаго-н., не супакойвацца. *Рыбак няўрымстуе на месце. — Браточкі! Дайце хоць зірну На вас хвіліначку адну!..* Рыбакова хата.

**Няўры́мсьціцца, няўры́мсьціць** *дзс.* 'не супакоіцца, не супакоіць' (Сен. Каспяровіч), **няўры́мсцік** *м.* 'няўрымслівы' (Чэрв. СЦБ).

**НЯЎСЛУШНІК** *м.* Непаслухмяны чалавек. *І дзядзька часам загарыцца, Гатоў няўслушніку па пысцы Праехаць шорсткім сваім пальцам, Бо што ты зробіш з падшывальцам?* Новая зямля.

**НЯЎСТОЙКА** *ж.* Няўстойлівасць. *І гэта была не навіна і не першыня, каб яны* [*а. Мадэст і Цішкевіч*] *дома, у Малевічах, ішлі поруч, падтрымліваючы адзін другога, бо вельмі часта хварэлі на няўстойку ног.* На ростанях.

**НЯЎЦЯМКУ** *прысл.* Няўцям; не прыйшло ў галаву. [*Дзед Даніла да Сымона*:] *А дзе ж ты спыніўся ў замку? І спытаць было няўцямку.* Сымон-музыка.

**Неўцямкі́** *прысл.* 'няўцям, не ў галаве' (ТС).

**НЯЎЦЯМНА** *прысл.* Незразумела. [*Сымон*:] *Во! ізноў тапор гудзе... Так, няўцямна і таёмна... Праўду ты казаў, дзядок...* Сымон-музыка.

# О

**ОБЦАС** *гл.* **ВОБЦАС**

**ОДДАЛЕК** *прысл.* Воддаль. *Стаўшы оддалек ад агню, пачалі яны* [*людзі*] *адграбаць мох і калюшкі, каб не даць матэрыялу агню.* Лясны пажар.

**ОТСТУП** *м.* Адступленне. *Лірычны отступ з «Зімы ў Парэччы» ён* [*Шатэрнікаў*] *прасіў мяне перапісаць яму на памяць.* З пісьма.

# П

**ПАВАЛ** *м.* Павальная смерць, эпідэмія. *Вымерзшыя сады — бяда, павал людзей...* Кніга Ташкенцкага быція.

**Пава́л** *м.* 'эпідэмія, мор' (Навагр. Сцяшковіч, 1972).

**ПАВІВАНКА** *ж.* Плеценая пуга. *Ён* [*Сымон*] *праслухаў навучанку, Як быць добрым пастухом, Справіў пугу-павіван-*

*ку, Вузлы вывязаў гурком І пагнаў авечкі ў поле На папары і на ролі.* Сымон-музыка.

**Павіва́нка** *ж.* ‘пуга, звітая з дзвюх столак і абвітая тонкай вяровачкай’ (Дзярж. Нар. сл., с. 38), ‘вяроўка, сплеценая ў тры столкі’ (Лаг. СПЗБ); **павіва́ць** *незак.* ‘абвіваць тонкай вяровачкай пугу ці іншую вяроўку’ (Дзярж. Нар. сл., с. 38), ‘перавіваць трэцяй вяровачкай звітую вяроўку або пугу’ (Чэрв. Шатэрнік).

**ПАВІНШАВАЛЬНЫ** *прым.* Віншавальны. *Сяргей прыслаў павіншавальную тэлеграму.* Кніга Ташкенцкага быцця.

**ПАВІНШАВАННЕ** *н.* Віншаванне з выпадку свята, знамянальнай даты. *Вось гэты год і падаў мне повад напісаць табе — павіншаванне з Новым годам..* З пісьма.

**Павиншова́нне** *н.* ‘віншаванне’ (Насовіч); **павіншова́ць** *зак.* ‘павітаць і павіншаваць’ (ТС). Параўн. польск. *powinszowanie* ‘віншаванне’.

**ПАВІТАННЕ** *н.* Прывітанне. [*Маці да сына:*] *Ты скідаеш з самалёта Мне на павітанне Ліст ад сына, ад пілота, Калгасніцы Ганне! Ото ж матцы радасць будзе За пілота-сына.* Шчаслівая хвіліна.

**Павіта́ня** *н.* ‘прывітанне’ (Шчуч. З нар. слоўн., с. 46); **повита́нне** *н.* ‘прывітанне’ (Насовіч); **павіта́цца** *зак.* ‘прывітацца’ (Шчуч. СПЗБ; Мсцісл. Бялькевіч; Чэрв. Шатэрнік). Параўн. польск. *powitać się* ‘прывітацца’.

**ПАВЭДЛУГ** *прыназ.* У адпаведнасці з чым-н. *Сонца пачынае брадзіць па гэтых хмурках, і цень невялічкімі лапінкамі памаленьку паўзе па зямлі, павэдлуг таго, як ідзе сама хмурка ў небе.* Навальніца.

**Павэ́длук** *прыназ.* ‘згодна з кім-, чым-н.; паводле’ (Капыл. Жыв. сл., с. 173); ‘у параўнанні’ (Шчуч. З нар. сл., с. 46; Воран., Карэл. СПЗБ); ‘паводле’ (Карэл. СПЗБ); **павэ́длуг, павэ́длук** *прыназ.* ‘для’ (Воран. СПЗБ); **павэ́длуг** *прыназ.* ‘паміж, сярод’ (Дзятл. Сцяшковіч, 1972); **павэ́для** *прыназ.* ‘паводле, параўнальна’ (Іўеў. Сцяшковіч, 1983); ‘параўнальна, у параўнанні’ (Гродз. Цыхун). Параўн. польск. *według* ‘адпаведна, у адпаведнасці’.

**ПАВЯРАЦЬ** *незак.* Правяраць. *Задраўшы ўгору хвост трубою, Сама давольная сабою, Снуецца Такса між куста-*

*мі, Бяжыць і спыніцца часамі, Наставіць вушы, разважае, Вушамі нос свой павярае.* Новая зямля. [*Белавус:*] — *Уважнымі будзьце, не лезьце Без толку, абы. І план павярайце на месце У момант любы.* Адплата.

**Павяра́ць** *незак.* 'верыць, давяраць' (Ваўк. Сцяшковіч, 1983); 'верыць' (Віл. СПЗБ).

**ПАГАДАЦЬ** *незак.* Пагаварыць, параіцца. *Так лятали [буслы] дзень, так кружылі два Ды на хвою паблізу прыселі. Пагадалі штось, а праз дзень давай Зносіць голькі для новай пасцелі.* Дуб.

**Пагада́ць** *зак.* 'пагаварыць, пагутарыць' (Насовіч). Параўн. польск. *pogadać* 'пагаварыць'.

**ПАГАДЛІВА** *прысл.* Прымірыцельна, пагаджальна. — *Вось ты ўжо і надзьмуўся, як мыш на крупы, — пагадліва сказаў Балоціч. — Пасядзі, перакусім!* На ростанях.

**Пога́дливо** *прысл.* 'паблажліва, памяркоўна' (Насовіч).

**ПАГАЛІЦЦА** *зак.* Паквапіцца, пагнацца. [*Аўгіня:*] *Пэўна ж, я сама вінавата: на багацце пагалілася.* Дрыгва. — *Эх, брат! — махнуў рукою Янка. — Няважныя мы з табою цяпер кавалеры-жаніхі: хто на нас пага́ліцца, бяздомных басякоў?* На ростанях.

**Пага́ліцца** *зак.* 'паквапіцца' (Валож. СПЗБ); **пога́лицьца** *зак.* 'паквапіцца, пагнацца' (Насовіч).

**ПАГОЦКАЦЬ** *зак.* Патрэсці, пападкідваць. *І грошы дастаў ён [Паўлюк] з кішэні, Памацаў квіткі, Іх трохі пагоцкаў у жмені Ды ў плот пад віткі!* Паўлюкова бяда. *Перш чым схаваць дзве залатыя пяцёркі, Гамыра яшчэ раз паглядзеў на іх, нават лёгенька пашараваў адну аб другую і пагоцкаў у руцэ.* На «святой зямлі».

**Паго́цкаць** *зак.* 'пакалыхаць дзіця на руках' (Насовіч).

**ПАДАБЛОЧЧА** *н.* Нябесная высь, паднябессе. *Адзін крытык жыў дзесь надта высока. Заўважыўшы паэта, як той паглядаў у падаблочча, крытык сцяміў, што паэт не ў высі наогул пазірае, а на яго кватэру, задрыжаў, як асінавы ліст і кінуўся ўцякаць, надзеўшы адзін толькі галош.* Трагізм.

**ПАДБУДОЎКА** *ж.* Тое, што прыбудавана да асноўнага. *А вылечыўся ён [Ігнатовіч] не менш цікава: неўзабаве на нашым калідоры раскідалі камеру — была падбудоўка. Падняўся страшэнны шум і грук.* Стары канакрад.

**ПАДВОРАЦ** *м.* Чалавек, які часова жыве ў каго-н. *Харошая дача на горцы, Гасцінны яе гаспадар, Прымі ж ад мяне, ад падворца, Няскладны мой верш гэты ў дар.* Янку Купалу.

**ПАДЖЫЦЦА** *зак.* Разжыцца на што-н.; стаць багацейшым. *Прыветна скрыпнулі вароты, З вясёлым шумам расчыніліся, Ў гумне мужчыны прыпыніліся. Усяго паўнюткa, хвала богу, — Збажынкі новай і мурогу.. — У нас сяголета — сваціся! — Так, дзякуй богу, паджыліся.* Новая зямля.

**Паджы́ць** *зак.* ‘прыбыць, прыбавіцца (пра ваду)’ (ТС). Параўн. укр. *підживатися*, *піджитися* ‘прыдбаць што-н.; станавіцца багацейшым’.

**ПАДЗАЛЕЖНЫ** *м.* Падуладны. *«Іван» у камеры — бог і цар, для якіх падзалежныя павінны былі служыць вераю і праўдаю і даваць падаткі.* Цені мінулага.

**ПАДЗЁННА** *прысл.* Штодзённа, кожны дзень. *Запісаў падзённа не рабіў.* На схіле дзён.

**ПАДЗЯЧАН** *прым.* Удзячны. *Алесь падзячан добрай маме, Бо маці ў тон яму трапляе І на катоў віну ўскладае.* Новая зямля.

**ПАДКРУЛЕК** *м., іран.* Кандыдат у каралі, амаль кароль. *Няхай чыніць гвалт нялюдскі Ваш «падкрулек», пан Пілсудскі, «Круль» маны і ашуканства.* Панам.

Параўн. польск. *król* ‘кароль’.

**ПАДКУС** *м.*, **ПАДКУСА** *ж.* Падкусванне. *Нядзелька, свята — людзі вольны, Свая ахвота, свой дазвол, На рынак едуць, хто ў касцёл, Як гэты Людвік багамольны, А хто пагульвае так дома; А ты, вось, совайся, як бома, Ды бойся ліха і падкусу — Не ступіш кроку без прымусу.* Новая зямля. *Няма ні хітрыкаў, ні здрады, Ні гэтай фальшы, ні падкусы; Ідзе гаворка без прымусы.* Там жа. — *Падаць мне Тэша! — Лось гукае: — Я разарву яго вантробы.. Падайце: вырву яму вусы За ўсе даносы, за падкусы!* Там жа.

**Падку́с** *м. перан.* ‘з’едлівае слова’ (Дзятл. Сцяшковіч, 1983).

**ПАДЛОЎЧЫ** *м.* Старшы аб’ездчык; ляснічы. *І дзядзька моцна абурыўся І развражаць яшчэ пусціўся: Ці быў бы грэх, ці грэх ні быў, Калі б падлоўчага забіў?* Новая зямля.

**Падло́ўчы** *м. уст.* ‘старшы егер; чалавек, што кантралюе паляванне’ (Стаўб. СЦБ). Параўн. польск. *łowczy* ‘ляснічы’.

**ПАДМОСТАК** *м.*, **ПАДМОСТКА** *ж.* 1. Рыштаванне з дошак. *Ён* [*Зыгмусь*] *зладзіў падмостак, узлез на яго, агледзеў столь. Падмостак быў нетрывалы, уперціся ў яго, каб плячамі ўзадраць дошку, было немагчыма.* На ростанях. 2. Падстаўка. *Стораж няёмка памяўся, а потым прысеў на калодачку, на якую станавілася бабка Параска, каб залажыць юшкі. «Недаростку трэба падмостку», — гаварыла яна* [*Параска*] *у такіх выпадках.* На ростанях.

**Падмóсці** *мн.* 'часовае рыштаванне з дошак' (Смал. СЦБ).

**ПАДНАВАЛЬНЫ** *прым.* Моцны, вельмі вялікі, разбуральны. *І жах прайшоў, як біч, па хатах Іржавым звонам ланцугоў. Мятнуўся віхар паднавальны І пыл узняў людскіх пакут.* На шляхах волі.

**ПАДНЕБ'Е** *н.* Паднябессе. *У бязмежным небе Роўнenькім шнурочкам Жураўлі на вырай Мкнуцца над лясочкам. Меншыцца шнурочак, У падне б'і тае, Вось ледзь-ледзь чарнее, Міг — і прападае.* Адлёт жураўлёў.

**ПАДНІЗ** *прысл.* Ніжэй, к нізу. [*Сцёпка:*] *Акуратненька, браткі, капайце, вось як тут пачалі: зверху шырока, а падніз вузей.* На прасторах жыцця.

**ПАДНІЗАМ** *прысл.* Унізе. *Мые Нёман ёй* [*вярбіне*] *карэнні, І дурэе вецер з ёю, А паднізам чарадою Цісянуць ногі ёй камені.* Вярбіна.

**ПАДНЯВАЦЬ** *зак.* Правесці дзе-н. дзень. *Дзе ён* [*Барыс*] *паднюе, паначуе І ці здароў ён там, ці жыў...* На шляхах волі.

**ПАДНЯДЗЕЛІЦЦА** *зак.* Прыбрацца па-святочнаму. *Насця, што называецца, паднядзелілася, бровы падвяла, падпудрылася і ў завяршэнне ўсяго ўзлажыла капялюшык..* Адукацыя.

**Паднядзéліцца** *зак.* 'прыбрацца па-святочнаму' (Астр. СПЗБ; Карэл. Сцяшковіч, 1972), 'надаць сабе святочны выгляд, прыбрацца' (Верхнядзв. Шаталава).

**ПАДНЯДЗЕЛІЦЬ** *зак.* Надаць святочны выгляд. *Яна* [*Насця*] *— што грэх ужо таіць? — К люстэрцы зараз падбяжыць І пасмы русае кудзелі Заўе старанней, паднядзеліць І лішні час тут пастаіць.* На шляхах волі.

**Паднядзéлены** *дзеепрым.* 'прыбраны, святочны' (Астр. Сцяшковіч, 1983).

**ПАДОЛАК** *м.* 1. Зямля, дол. *А як толькі аб сядзёлку Гутарка кранецца, Кленчыць Янка на падолку, Божыцца, клянецца Жонкай, дзецьмі, сваёй скурай, Што сядла не бачыў.* Як Янка забагацеў. *Або калі над галавою У жнейкі спрытнаю рукою Пучок калоссяў мільгатнецца, Апіша дужку, бы вясёлку, Бы нейкай знічкі след пагаслы, І борзда ляжа ў перавяслы, Што распасцёрты на падолку..* Новая зямля. 2. Частка лугу каля ракі, якая ў паводку заліваецца вадой; абалона. *А на падолку рунь рунее Травы і рознай збажыны, І рост яе такі буйны — Сама сябе яна тут сее.* Рыбакова хата.

**Падо́л** *м.* 'абалона' (Раг., Слон. СПЗБ); 'месца на рацэ, дзе мыюць бялізну' (Краснап., Мсцісл. Бялькевіч); 'бераг ракі, дзе мыюць бялізну' (Бераст. Сцяшковіч, 1983); 'месца на рэчцы, сажалцы, дзе мыюць бялізну' (Мсцісл. Юрчанка, 1966); **падо́лле** *н.* 'месца, дзе мыюць бялізну' (Мсцісл. Юрчанка, 1988).

**ПАДПРЫПЕЧАК** *м.* Выемка пад прыпекам. *Нішто не кідалася ў вочы ў гэтай хатцы, хіба толькі шырокая, прасторная, прысадзістая печ з рознымі пячуркамі, з прыпечкам, падпрыпечкам і ямкамі з двух бакоў прыпечка.* Цвіркун.

**Патпры́печак** *м.* 'выемка пад прыпекам' (Віл., Гарад., Паст., Смарг. СПЗБ); 'прыпечак' (Лоеў. Янкова); **падпры́пек** *м.* 'месца пад прыпекам' (Быx. МАСМ); 'прыпек, прыпечак' (Лоеў. Янкова); 'падпечак' (Навагр., Слон. Сцяшковіч, 1972); **патпры́пачак** *м.* 'месца пад прыпекам, куды ставяць посуд' (Докш. МСНДМ, с. 77); 'выемка пад прыпекам, дзе ставяць гаршкі, чыгуны' (Мядз., Стаўб. СЦБ).

**ПАДРАБНЕЦЬ** *зак.* Страціць унутраную значнасць, стаць пасрэдным. — *Эхе-хе, мая дзяціна, — Уздыхнуў Даніла дзед: — Падрабнела і людзіна, Падрабнеў цяпер і свет.* Сымон-музыка.

**ПАДРАПАРАВАЦЬ** *зак.* Падрамантаваць, падправіць крыху. *Іван з сякераю ішоў у лес: загадаў яму бацька пару жэрдак прынесці і падрапараваць плот.* Балаховец.

Параўн. польск. *podreperować* 'падправіць, адрамантаваць што-н. часткова'.

**ПАДРАСАВАЦЬ** *зак.* Стаптаць, спляжыць. *А дзе б можна што пасеяць На якім загоне, Дык там куры падрасуюць, Паталочаць коні.* Сялянская рада.

**Зграсава́ць** *зак.* 'стаптаць, папсаваць, знішчыць' (Гродз. Цыхун); 'сапсаваць, стаптаць' (Маст. Сцяшковіч, 1972).

**ПАДРУЧКУ** *прысл.* Узяўшы адзін аднаго пад руку. *А то проста хадзілі* [*хлопцы*] *ў парах з дзяўчатамі, пабраўшыся за рукі ці «падручку», ці проста абняўшыся.* На прасторах жыцця.

**ПАДРЫЗНІК** *м.* Белае адзенне, якое святар надзявае пад рызу. *Сцяпан павесіў падрызнікі і пачаў іх разглядаць: браў за рукавы і доўга прыглядаўся, шоргаў рукою, абціраў пыл і абчышчаў іх.* Старыя падрызнікі. *Мікола зняў падрызнік і стаў разглядаць яго. — Ці ты, дзядзька, хочаш быць папом? Навошта яны табе?* Там жа.

**ПАДСІТАК** *м.* Невялікае сіта для прасявання мукі. *Старая Лукашыха, Аўгеня, прыйшла да свае суседкі Югасі пазычыць падсітак прасеяць мукі.* На ростанях.

**Падсі́так** *м.* 'сіта' (Чэрв. Шатэрнік); **па́дсітак** *м.* 'невялікае сіта' (Пух., Уздз. СЦБ); **патсі́так** *м.* 'падсітак' (Пух. СПЗБ); 'падсітак, частае рэшата' (Мсцісл., Хоц. Бялькевіч); **пацьсі́так** *м.* 'частае рэшата, але радзейшае за сіта' (Бял. МСНДМ, с. 43); **па́сітак** *м.* 'сіта, гусцейшае за рэшата' (Лях. МСНДМ, с. 126).

**ПАДСТУПНЫ** *прым.* 1. Прадажны, здрадлівы. *Той мусіць загінуць, хто меч узнімае На голавы мірных трудзяг. Няхай жа агорне ноч цёмна-нямая Падступных падлюг і туляг!* Шалёнага пса — на ланцуг! 2. Хітры. *Не датрымаў Іван сваіх падступных замыслаў: усе яны разляцеліся прахам, як толькі пабачыў Аўдольку.* Балаховец.

**Подсту́пный** *прым.* 'прадажны, здрадлівы' (Насовіч).

**ПАДСТУПСТВА** *н.* Злы намер, здрада. — *Помніш месца, дзе ты павінен спаткацца з Махровым? — раптам запытаў Ракіта. — Помню, — цвёрда адказаў Бадзейка. — Ну, скажы! Бадзейка зірнуў у твар Ракіты, як бы пытаючы, ці няма тут якога падступства, і назваў умоўленае месца.* Балаховец. *Нескончоную аднатонную песню вядзе электрычная станцыя, нібы дрот звоніць на тэлеграфных слупах у лесе перад нягодаю, а маўклівая, прытоеная і поўная пад-*

*ступства ноч прагавіта ловіць і глытае гэтыя гукі і шолахі.* Там жа.

**Падсту́пства** *н.* 'здрада' (Карэл. Сцяшковіч, 1972); **подсту́пство** *н.* 'вераломства' (Насовіч).

**ПАДСУСЕДНІК** *м.* Кватарант. *Некалькі гадзін, а часамі і цэлую пору пасля такіх сутычак усякія дыпламатычныя зносіны перапыняюцца паміж гаспадыняй і падсуседнікамі: маўчаць, не гавораць.* Хатка над балотцам.

**Падсусе́д** *м.* 'бедны чалавек, які не меў сваёй хаты' (Лун. Шаталава); **подсу́се́д**, **посу́се́д** *м.* 'той, хто жыве ў чужой хаце на правах кватаранта ці на чужым двары' (ТС); **падсусе́дак, падсусе́днік, падсусе́д** *м.* 'чалавек, які жыў у суседзях, не меў свае хаты' (Іўеў., Карэл., Шчуч. Сцяшковіч, 1983); **патсусе́т** *м.* 'кватарант' (Капыл., Лях., Чэрв. СПЗБ); **патсуся́т** *м.* 'кватарант' (Ганц., Лях. СПЗБ).

**ПАДЦІНАЦЬ**[1] *незак.* Рыўком падцягваць да сябе. *Паны ў калясцы пад'язджаюць, Хурман тут лейцы падцінае, Стаенных пару прыпыняе..* Новая зямля.

**Падціна́ць** *незак.* 'прыпыняць' (Валож. СЦБ).

**ПАДЦІНАЦЬ**[2] *незак.* Падкусваць, кпіць. — *А ты, Ламук, не выскаляйся, Лепш нос абцерці пастарайся — Сапляк, унь, губу ўжо мінае! — Алеся дзядзька падцінае.* Новая зямля.

**Падцина́ць** *незак.* 'гаварыць дзёрзкасці' (Насовіч).

**ПАДЦЯТЫ** *дзеепрым.* Прыціснуты. *А ён [воўк] — вось тут, бяры рукамі, Завіс на лапах, як у яме; Стрыжэнь глыбокі, лёд пакаты, А бедны воўк, вадой падцяты, Скрабе па лёдзе кіпцюрамі І носам рые, як зубамі.* Новая зямля.

**ПАДЦЯЦЬ**[1] *зак.* Рыўком, рэзка падцягнуць на сябе. — *Гэй вы, конікі малыя, Сакалы мае ўдалыя! Што прысталі? — Лейцы ён [хурман] падцяў, махнуў... Коні шыі заламалі, Бы агонь іх жахануў, І панеслі!* Сымон-музыка.

**ПАДЦЯЦЬ**[2] *зак.* Падкусіць, пакпіць. *А вось ты, як быў лодырам, дык лодырам і застанешся, — сярдзіта падцяў яго дзед.* Адшчапенец. *І, каб дапячы адна другой, яны [жанчыны] пайшлі па вёсцы выстаўляць адна другую перад людзьмі. Тут мелася на ўвазе, галоўным чынам, вастрэй падцяць свайго ворага.* На ростанях.

**ПАДШЫБЦІ, ПАШЫБЦІ** *зак.* Ахапіць, апанаваць. *Падшыбла злосць яго [дзядзьку Антося] такая, Што каб прымеў бы, ўзяў саломы Ды падпаліў бы ўсе харомы, Бо ўсе дарогі загрузілі І свет яму тут зачынілі.* Новая зямля. *Марына ўся аж задрыжала, І жаль пашыб яе і злосць..* Рыбакова хата.

Параўн. укр. *пошибати* 'нападаць (пра плач, хваробу і г. д.)'.

**ПАДШЫВАНКА** *ж.* Вяроўка для падплятання лапцяў. *Дарэктар выдаўся мяркоўны І лепшы нават, як свой кроўны; Умей з ім толькі пагадзіцца, Раменным вушкам паддабрыцца Ці падшыванку звіць на лапаць, — За вуха ён не будзе цапаць..* Новая зямля. *Суставы мае балелі, баляць і будуць балець, як некалі казаў Якуб Колас: «Не паможа падшыванка, не паможа рэмень».* З пісьма.

**Падшыва́нка** *ж.* 'вяроўка, якой падплятлі лапці' (Карэл. Сцяшковіч, 1972); **подшы́ты** *дзеепрым.* 'пацягнуты', 'крыты' (ТС).

**ПАДЭРВЫ** *мн.* Канец, пагібель. *Заселі, гадзюкі, кляшчамі, У дрот увесь край заплялі, Угрызліся ў зямлю зубамі, Хоць горкі ім хлеб той зямлі. Ды будуць і тут ім падэрвы, Усе залапочуць: капут!* Адплата.

**ПАЖАГНАЦЦА** *зак.* Перахрысціцца. *Калі ўсе госці пазбіраліс, Антось з Кандратам пажагналіс, Ўзялі і ночвы, і куродым. — Ну, памажы, сва́ты Мікодым...* Новая зямля.

**Жагна́цца** *незак.* 'хрысціцца' (Ашм. СПЗБ; Уздз. МСММГ, 1970); **жегна́цьца** *незак.* 'хрысціцца', **пожегна́цьца** *зак.* 'перахрысціцца' (Насовіч).

**ПАЖАГНАЦЬ** *зак.* Перахрысціць. *Бабы старыя свой твар пажагналі, Моўчкі за працу ўзяліся дзяўкі.* Жніво.

**Перажагна́ць** *зак.* 'перахрысціць' (Ваўк. Сцяшковіч, 1972). Параўн. польск. *żegnać* 'хрысціць', *żegnać się* 'хрысціцца'.

**ПАЖАЛКАВАЦЬ** *зак.* Пашкадаваць аб чым-н. — *Эх, стрэльбы добрай няма ў мяне! — пажалкаваў дзед Талаш.* Дрыгва.

**Пажалкава́ць** *зак.* 'пашкадаваць' (Чэрв. Шатэрнік); **жало́ваць** *незак.* 'шкадаваць' (Іўеў. СПЗБ); **жалкава́ць** *незак.* 'шкадаваць' (Лоеў. Янкова).

**ПАЖАРКІ** *мн.* Выгар, выгаркі. *Пасля папаскі.. я пашыбаваў пад лужкі. Нічога там не знайшоў, а на пажарках падняў каля 20 чорненькіх баравікоў.* З пісьма.

**По́жар** *м.* 'пажарышча ў лесе' (Гродз. Жыв. нар. сл., с. 28).

**ПАЗАДКІ** *мн., перан.* Прыхільнікі, паслугачы. *Быў час, калі Гітлер і яго клышаногі недаростак Гебельс і розныя чалавечыя пазадкі трубілі на ўвесь свет аб перамогах, аб неперможнасці нямецкіх армій.* На руінах Гомеля.

**Заза́дкі** *мн.* 'высеўкі' (Віл. СЦБ); **паза́дзьдзя** *н.* 'пазаддзе, самае дрэннае зерне, якое пры веянні кладзецца ззаду за буйнейшым зернем перад мякінаю' (Крыч. Бяльковіч); 'адыходы пры веянні (ачыстцы) зерня' (Гл. Янкоўскі, 1960); **паза́дзьдзя** *н.* 'малакаштоўнае зерне з пустазелля' (Бял., Светлагор. МСНДМ, с. 167).

**ПАЗЕМ** *м.* Гарызонт, далягляд. *Яшчэ не бачаныя краявіды Пінскага Палесся.. вынікалі перад Лабановічам, захаплялі сваімі чарамі, неасяжнымі прасторамі зямлі і роўняддзю паземаў, што зліваюцца з небам ці хаваюцца за цёмнасіняю стужкаю бясконца далёкіх лясоў.* На ростанях.

**ПАЗЫВАЦЬ** *незак.* Выклікаць, патрабаваць з'явіцца куды-н. *Дзядзька Марцін быў чалавек пісьменны. І рукі затрасліся ў яго, калі ён вычытаў: «Павестка». А калі далей стаў чытаць, то вычытаў, што земскі начальнік пазывае на суд за парубку дубка.* Дзядзькаў сведка.

**Пазыва́ць** *незак.* 'запрашаць у госці' (Уздз. СЦБ; Ашм. СПЗБ); 'запрашаць' (Уздз. МСММГ, 1970).

**ПАКАЗКА** *ж.* Палачка, якой паказваюць што-н.; указка. [*Крочак:*] *О, не!.. Змяняць па добрай волі Паказку школьную на штык?! Я, выбачайце, не разнік. Пайсці ахвотаю? ніколі!* На шляхах волі.

**ПАКВАПНЫ** *прым.* 1. Прываблівы, спакуслівы. *Ідуць маўчком яны; заняты Сваімі думкамі з іх кожны. «Так. У лясніцтве кут парожны, Куток пакваппы і багаты, Не застаіцца, Не згуляе, Паноў к сабе ён прыцягае..* Новая зямля. 2. Сквапны, прагны, ласы на што-н. *Карысным дзелам, як, напрыклад, збіраць па крышанчыку мёд, ім* [*восам*] *не хацелася, яны часта залятаі ў вуллі, паквапныя на дарэмшчынку, і кралі або разбоем забіралі гатовае.* Асінае гняздо.

**Пакваʹпны** *прым.* ‘спакуслівы’ (Лід. СПЗБ); **пакваʹпісты** *прым.* ‘спакуслівы, прываблівы’ (Гродз. Цыхун); **покваʹпный** *прым.* ‘зайздросны’ (Насовіч).

**ПАКІЛЬГІКАЦЬ** *зак.* Скачучы, пачаць перамяшчацца. — *Чорт ведае, што пачало тварыцца! — у страху сказаў ён* [*зайчык*] *сам сабе, перакінуўся на задніх лапах і пакільгікаў балотам, каб быць далей ад усякага ліха.* На ўсё ёсць прычына.

**ПАКЛАДАЦЦА** *незак.* Спадзявацца, ускладаць на каго-н. надзею, чакаць дапамогі ад каго-н. *Але раз ты наважыў дзела, Ідзі станоўка, роўна, смела, Ідзі, назад не аглядайся І на другіх не пакладайся!* Новая зямля.

**Пакладаʹцьца** *незак.* ‘ускладаць на каго-н. надзею; спадзявацца’ (Насовіч).

**ПАКЛАДКА** *ж.* Насціл, насціланне. *Станцыя падгатавана для пакладкі страхі.* Паездка на Асінбуд.

**ПАКОІЦЦА** *незак.* Ляжаць у магіле, быць пахаваным. *Цяжкі камень сцісне грудзі, І забудуць скора людзі, Чый пакоіцца тут прах.* Сялянская доля.

**Пакоʹйны** *прым.* ‘які памёр’ (Старадарож. СПЗБ). Параўн. руск. *покоиться* ‘быць пахаваным, ляжаць у магіле’; укр. *покоїтися* ‘быць пахаваным дзе-небудзь’.

**ПАКОЯЧЫ** *прым.* Заспакойлівы, супакойлівы. *Ўнізу гары ляглі прыгожа, Як бы разоркі паміж збожжа, Дарожкі роўныя, крывыя. Над імі дрэвы маладыя Ў сваёй пакоячай цішы Сплялі жывыя салашы.* Новая зямля.

**ПАКРОЎ** *м.* Тое, што пакрывае, ахутвае сабой што-н. *Сам я не знаю, чаму вечарамі Так непрытульна ў душы Ў момант той часу, як над палямі Цені кладуцца ў цішы; Як замірае дзень над гарою Ў бляску апошніх лучоў, Як непрыкметна ноч над зямлёю Свой апускае пакроў.* Шэрая гадзіна.

**Пакроʹвец** *м.* ‘чахол на коўдру’ (Воран. Сцяшковіч, 1972). Параўн. руск. *покров* ‘тое, што пакрывае што-н., ахінае, ахутвае’.

**ПАКРЫСЕ, ПАКРЫХУ** *прысл.* Паступова, патроху. *Толькі калі пачало развідняцца, сяляне пакрысе рызышліся па хатах.* На ростанях. *Прыступілі да збору суніц-чараўніц, Захапіліся зборам усе Пакрысе: Данік і Юра І Жэня-панура..* Міхасёвы прыгоды. *Салдаты потайкам і сціха На кожнай

*станцыі пакрыху Бяруць дарогу на кут свой...* На шляхах волі.

**Пакрысé** *прысл.* ‘патроху’ (Іўеў. СПЗБ); **покрысé** *прысл.* ‘патроху’ (ТС).

**ПАКУСА** *ж.* Спакуса. *Зусім другім чалавекам стаў Сцяпан, як купіў ён два старыя бацюшкавы падрызнікі. Ці яго чорт падбіў на гэта, ці другія ўвялі ў пакусу (а ўвесці ў гэты грэх было няцяжка..), — не ведаю.* Старыя падрызнікі.

**Паку́са** *ж.* ‘спакуса’ (Насовіч). Параўн. укр. *покуса* ‘спакуса’; польск. *pokusa* ‘тое, што спакушае’.

**ПАЛАНІЦЦА** *зак.* Здацца ў палон. *Куды ж тут бегчы, уцякаць? Ці лепей ліха тут чакаць І дабравольна паланіцца?* На шляхах волі.

**ПАЛАПІЦЦА** *зак.* Пажывіцца чым-н. дзе-н. *Цяжка жылося цяпер а. Ціту. Народ адкаснуўся ад цэрквы, даходу было мала і разгону аніякага. Сядзі ціха, як бы цябе і на свеце няма. Можа сёння каля «святога калодзежа» ці не палапіцца трохі.* На прасторах жыцця.

**Пала́піцца** *зак.* ‘пажывіцца, набыць што-небудзь, украсці’ (Карэл. Сцяшковіч, 1972); ‘паласавацца’ (Чэрв. СЦБ).

**ПАЛІНЯЛЫ** *прым.* З якога аблезла скура; аблезлы. *Не агледзеўся Міхась, Як малыш да яго — шась! Запыніў на мосце. Паліняла яго нос, Вочы, поўныя пагроз, Лютасці і злосці.* Рагатка.

**ПАЛІНЯЦЬ** *зак., перан.* Аслабець. *Людзі трохі падабрэлі, Ураджай хвалілі, Як дабро ж маё паелі, Дык мяне забылі. Паліняла і звялася Памяць між народа, — Так сказаўшы, адышлася Цень Ўраджаю-года.* Пад Новы год.

**ПАЛОГ** *м.* Полаг; занавеска. *Вось і хата, Тая хата, той парог.. Мухі роем. Цемнавата. Унь той кут, унь той палог, А яна... да ці ж то Ганя?* Сымон-музыка.

**По́лог** *м.* ‘полаг, расцягнутае палатно над ложкам або калыскай’ (ТС); **по́лаг** *м.* ‘шырма, якой завешвалі ложак ці адгароджвалі спальню’ (Асіп., Верхнядзв. СПЗБ); ‘фіранка з палатна, якою завешваюць ложак’ (Гродз. Сцяшковіч, 1972); ‘рэдкае даматканае палатно, якім накрываюць люльку з дзіцем ад мух’ (Лоеў. Янкова); ‘полаг’ (Клім. Бялькевіч); ‘занавеска вакол пасцелі’ (Насовіч).

**ПАЛУДНЫ** *прым.* Які бывае ў поўдзень, у сярэдзіне дня. *Добра ў лузе ў час палудны! Лёгка там дыхнуць! Хмаркі белыя марудна За лясы плывуць.* На лузе.

**Полуднёвый** *прым.* 'які бывае ў поўдзень' (Насовіч); **палу́дніца** *ж.* 'полудзень' (Ашм. МСММГ, 1970).

**ПАЛУКОШАК** *м.* Сплеценая з лазы трохсценная (з дном) застаўка для саней ці калёс; палукаш. *Конік бяжыць, скрыпяць сані, а ззаду, уляпіўшыся за палукошак, бяжыць і мужык..* Зімнія халады.

**Палу́кашак** *м.* 'палукашак' (Ваўк., Дзятл., Навагр. Сцяшковіч, 1972); **палу́кашка** *ж.* 'палукаш' (Маладз. СЦБ).

**ПАЛУПАНАК** *м.* Той, хто паводзіць сябе як пан, лічыць сябе панам; панскі памагаты. [*Дзед Даніла:*] *Не люблю я псярні панскай, Палупанкаў, ахмістрынь — Дух падлізніцкі, паганскі, Прападзі ён там і згінь!* Сымон-музыка.

**ПАЛУЧЫЦЦА** *зак.* Злучыцца. *Ўсе птушкі ў паркі палучыліcь I гнёзды радасна вілі..* Пясняр вясны.

**Получи́цьца** *зак.* 'узяць шлюб' (Насовіч).

**ПАЛУЧЫЦЬ** *зак.* Звяза́ць якімі-н. адносінамі, пачуццямі і пад.; злучыць. *Каб дапісаць партрэт Антося, Скажу: на свеце не знайшлося Ні ўдоўкі-любкі, ні дзяўчыны, Каб палучыць дзве палавіны, Каб разам шчасце здабываць I поруч долю падзяляць.* Новая зямля. *Вось так яны, Барыс і Насця, Прыйшлі на ростані дарог, Дзе іх збуцвелы крыж сцярог I палучыла іх нянасце. Ці ўзяць не ўмелі яны шчасця?* На шляхах волі.

**Получи́ць** *зак.* 'злучыць' (Насовіч). Параўн. польск. *połączyć* 'злучыць'.

**ПАЛЫКАЦЬ** *незак.* Убіраць, уцягваць у сябе; паглынаць. *Нямее ўсё, маўчыць, чакае, Надзеі тоіць ўсё вакол, I прагна вільгаць палыкае Акамянелы, пылкі дол.* Нязбытныя надзеі.

**Палыка́ць** *незак.* 'глытаць' (Лаг., Пух. СЦБ; Брасл., Ваўк., Воран. СПЗБ; Ваўк. Сцяшковіч, 1972); **польі́кацъ** *зак.* 'выпіць, хлябаючы' (Насовіч); **палка́ць** *незак.* 'глытаць' (Гродз. Цыхун). Параўн. польск. *połykać* 'глытаць'.

**ПАЛЫКНУЦЬ** *зак.* Выпіць адзін глыток; глынуць. *Нарадаволец памяшаў лыжачкаю ў шклянцы чаю, палыкнуў*

*глыток, цмокнуў разы два губамі, лізнуў языком куточкі губ.* На ростанях.

**Палыкну́ць** *зак.* 'глытнуць' (Астр. СПЗБ); 'праглынуць', 'крышку выпіць' (Стаўб. СЦБ; Стаўб. МСММГ, 1970).

**ПАЛЬШЧЫЗНА** *ж.* Усё, што мела адносіны да панскай Польшчы. *Даўно вядзецца, хоць і глуха, Вайна з пальшчызнаю ў сялян.* Рыбакова хата.

**ПАЛЮДСКАВАЦЦА** *зак.* Добра пажыць, не ведаючы турбот, клопатаў. *Антось з Міхалам на снядanні Даюць адказы на пытанні І кандыдатаў разбіраюць, Адных пахваляць, тых палаюць. — Вось, каб Галонскі тут астаўся! За ім бы, брат, палюдскаваўся: Такі прасцяк, ненадзіманы, Ляснічы вельмі б пажаданы.* Новая зямля.

**Палюдскава́цца** *зак.* 'добра пажыць' (Гродз. Сцяшковіч, 1972).

**ПАЛЯНЕ** *мн., зб.* Жыхары вёсак, размешчаных паблізу ад палёў. *Сялян іншых вёсак, якія жылі больш пры палях, яны* [*жыхары вёскі Цельшына*] *называлі палянамі і гэтым самым як бы адрознівалі іх ад сябе, жыхароў лесу.* На ростанях.

**Палявíк** *м.* 'жыхар сухога краю, мясцовасці' (Пух. Шатэрнік).

**ПАЛЯПІЦЦА** *зак.* 1. Учапіцца, ухапіцца за каго-, што-н. *А пападзецца на дарозе жук або хрушч, палепяцца яны* [*мурашкі*] *за яго і павалакуць яго да сваёй хаты.* Мурашкі. 2. Прыліпнуць, моцна прыстаць. *Прыйшоў званар папа ратаваць і сам да яго прырос. — Чаго вы паляпіліся тут? — спытаў, прыйшоўшы, царкоўны стараста і хацеў памагчы. Але як дакрануўся да папа, дык і сам прырос.* Дзіва.

**ПАЛЯЦКІ** *прым.* Які мае адносіны да палякаў, Польшчы. [*Талаш:*] *Як бачу, хлопча, ты дужа напуджаны...* [*Мартын Рыль:*] *Ой, і не пытай, дзядзька! З паляцкай няволі, з палону вырваўся!* Дрыгва.

**Паля́цкі** *прым.* 'польскі' (Стаўб. СЦБ).

**ПАМАДА** *ж.* Калёсная мазь. *Антось агледзеў тут прылады, Калёсам добра даў «памады», Густога дзёгцю і варволю..* Новая зямля.

**ПАМАЎЗОХА** *м.* і *ж.* Шкоднік, свавольнік. *Дзед ідзе, а цемнавата; Зірк — у грэчцы ходзіць штосьці. «Знаю нораў*

*твой, нябось, І натуру твайго брата! Патравіла грэчку троха... Пачакай жа, памаўзоха!» Скраўся дзед і — хоп за грыву, Ды вярхом і ў бок штурхець! Як раўне ж пад ім мядзведзь!* Дзед і мядзведзь.

**Памаўза́** *м.* і *ж.* ‘праныра’ (Чэрв. Шатэрнік); ‘шкоднік, свавольнік’ (Віл. СПЗБ; Барыс., Круп. СЦБ).

**ПАМАЦНЯЦЬ** *незак.* Узмацняць, уздымаць. *І гэты ясны дзень, і гэтыя краявіды, поўныя паэзіі, і гэтыя весткі аб новым месцы, сабраныя ў дарозе, — усё гэта памацняла той добры настрой, з якім пад'язджаў Лабановіч да Пінска.* На ростанях.

**ПАМЕХА** *ж.* Перашкода. *Глядзіць Марына ўтарапёна — Яна яго [Данілу] не пазнае, І ён гукнуў, заспакаёны: — Марынка, я! — і да яе. Было ж тут радасці, уцехі! Прыбеглі бабка Ева, дзед, За імі ўсе суседзі ўслед — Няма цяпер былой памехі!* Рыбакова хата.

**Паме́х** *м.* ‘перашкода’ (Віл. СЦБ); **паме́шка** *ж.* ‘перашкода’ (Краснап. Бялькевіч). Параўн. руск. *помеха* ‘тое, што перашкаджае каму-, чаму-н.’

**ПАМОГА** *ж.* Дапамога. *Як жа вызваліць з палону Скрыпку, сэрца яго [Сымона] часць? Як прабрацца за заслону? Хто памогу яму дасць?* Сымон-музыка.

**Памо́га** *ж.* ‘дапамога’ (Насовіч). Параўн. укр. *помога* ‘дапамога’.

**ПАМОЖНАСЦЬ** *ж.* Магчымасць. *Жывучы дома, я меў паможнасць стыкацца з рознымі людзьмі, бо не было, бадай, таго дня, калі б да нас не прыходзілі свежыя людзі.* З пісьма.

**Помо́жносць** *ж.* ‘магчымасць, сіла’ (Насовіч).

**ПАМЯСТОЎНЫ** *прым.* 1. Умяшчальны, прасторны. *Маленькая знадворку, будка ўсярэдзіне была досыць памястоўная.* На ростанях. 2. Ёмісты. *Асвойтаўшыся ў камеры, Зайкоўскі садзіўся каля стала на нары, скручваў ёмкую цыгарку з грамадскай махоркі, а яна стаяла ў памястоўнай скрынцы..* На ростанях.

**ПАМЯЦЕЛЬНІК, ПАМЯЦЕННІК** *м.* Палка, на якую прывязваюць венік. *Адна толькі пасада, пасада падмятайлы, не дужа карысталася павагаю з боку арыштантаў. На справе ж падмятайлу было шмат весялей мець справу з*

*венікам і памяцельнікам, з ачысткаю прыбіралень, чым сядзець увесь дзень у камеры.* На ростанях. *«Пасада» давала яму* [*Чарнамору*] *гэтае права, і ён важна хадзіў цяпер па калідоры са швабраю на плячах або з даўгім памяценнікам.* Стары канакрад.

**ПАНУКА** *ж.* Пануканне. *Ў будныя дні ўставалі рана: Няма калі хварэць на пана, Няма чаго чакаць панукі, Калі работы поўны рукі..* Новая зямля.

Параўн. укр. *понука* 'заахвочванне каго-н. рабіць што-н.'

**ПАНЦЫРНІК** *м.* Браніраваны ваенны поезд. *Абрыўкі каманды, нервовай размовы Прарэзваюць холад завулкаў. Дзесь цокаюць звонка і чотка падковы, Дзесь пыхкае панцырнік гулка.* На шляхах волі.

Параўн. польск. *pancerka* 'браняпоезд', *pancernik* 'лінкор, браняносец'.

**ПАНЯВЕРКА** *ж.* Цяжкае беспрасветнае жыццё, пакута. [*Дзед да Сымона:*] *Грай жа, дзеткі: скрыпка важна; Смутак ты ёй свой вальеш, І душа заплача кажна, Як ты смыкам павядзеш, Бо хто ў горкай паняверцы Крыж нясе свой, жывучы, У таго ў людское сэрца Ёсць праўдзівыя ключы.* Сымон-музыка.

**Панявéрка** *ж.* 'пагарда, занядбанне' (Навагр. Жыв. нар. сл., с. 112). Параўн. польск. *poniewierka* 'бадзянне, блуканне; мізэрнае існаванне'; укр. *поневірка* 'цяжкае жыццё, мукі, пакута'.

**ПАНЯТНАСЦЬ** *ж.* Кемлівасць. — *Маліцеся ж вы... са слязамі! Каб даў бог здольнасці, ахвоты Да вашай новае работы, Панятнасць добрую і памяць..* Новая зямля.

Параўн. руск. *понятность* 'зразумеласць'.

**ПАПАСКА** *ж.* Яда; пачастунак. — *Заходзьце ў хату, калі ласка, Бо ўжо гатова і папаска, — Гасцей Хадыка сустракае І на сняданне заклікае.* Новая зямля.

**Папáска** *ж.* 'кармленне, супынак у дарозе' (Гарад. Каспяровіч).

**ПАПІХАНКА** *ж.* Дэспатычнае, зняважлівае абыходжанне з кім-н. *Ці ты глух на папіханкі? Свецяць рэбры скрозь катанкі, А праз шапку чуб прабіўся.* Эй, скажы мне, небарача... *Многа выцерпець прыйшлося Папіханак, кулакоў!* Сымон-музыка.

**Папіха́нка** *ж.* ‘муштроўка, знявага’ (Карэл. Сцяшковіч, 1972); **попиха́ць, попи́хиваць** *незак.* ‘няветліва абыходзіцца’ (Насовіч).

**ПАПРЫГОДЗІЦЦА** *зак.* Здацца, паказацца. *Алена не спіць, думае, што гэта папрыгодзілася ёй: прыснілася што ці пацук прабег па галаве?* Хата над балотцам.

**ПАПРЫШЧЫЦЦА** *зак.* Перасохнуць, спячыся. *Каласы на ніве пасохлі і нудна калышуцца па ветры. Грэчка апусціла лісце, як апараная гарачай вадою. Усё павяла, папрышчылася на сонцы.* Суш.

**Папры́шчыцца** *зак.* ‘патрэскацца’ (Шчуч. Сцяшковіч, 1983); ‘усохнуць, паморшчыцца’ (Старадарож. Нар. сл., с. 20).

**ПАПУТНА** *прысл.* Адначасова, за адным разам. *Такім чынам, далейшая задача — збіранне матэрыялаў аб грамадзянскай вайне. А разам з гэтым, па дарозе, як гавораць, папутна, уладзіць справу з дзяўчатамі, аб якіх напісана ў паэме..* З пісьма.

Параўн. руск. *попутно* ‘адначасова з асноўным’.

**ПАПУШКА** *ж.* Скрутак тытунёвага лісця. *На дарогу добрую папушку тытуню — гасцінца — даў дзеду Даўнар.* Называецца зарабіў.

**Папу́шка** *ж.* ‘вязка сухіх лісцяў тытуню’ (Дзятл. Сцяшковіч, 1983); **папу́ха, папу́ша, папу́шка, папу́жа** *ж.* ‘скрутак якога-н. лісця’ (Астр., Віл., Смарг. СПЗБ); **папу́ха** *ж.* ‘скрутак тытунёвых лістоў’ (ТС); **папу́ша** *ж.* ‘нізка тытуню’ (Лун. Шаталава); **попу́ша** *ж.* ‘звязка лісцяў тытуню’ (Насовіч); **папу́шынка** *ж.* ‘вязка сухіх лісцяў тытуню’ (Пух. МСММГ, 1974). Параўн. румын. *păpușă*, літ. *papūža* ‘скрутак тытунёвага лісця’.

**ПАПУШЧЭННЕ** *н.* Недагляд. *Па службе выйдзе папушчэнне Ці так няважнае здарэнне, Абрыцкі пэўна ўжо падкусіць, Данесці пану аб тым мусіць..* Новая зямля.

Параўн. руск. *упущение* ‘недагляд, нядбайнасць’.

**ПАПЯЛЯСТЫ** *прым.* Які мае колер попелу, папялісты. *Узбоч дарогі — лясок, па другі бок — поле, а ўгары папялястыя хмаркі паўзуць.* Называецца зарабіў.

**Папеляваты** *прым.* 'папялісты' (Гродз. Цыхун); **папялóвы, папяля́ты** *прым.* 'попельны' (Ваўк., Карэл. Сцяшковіч, 1983). Параўн. польск. *popielaty* 'папялісты'.

**ПАРАБКАВАННЕ** *н.* Выкарыстанне працы парабкаў. *Зніклі насаджаныя польскім імперыялізмам хутары кулакоўасаднікаў, якія трымалі ў парабкаванні навакольныя вёскі.* Уз'яднанне.

**Па́робчиць** *незак.* 'быць у парабках' (Насовіч).

**ПАРАЗЛІВЫ** *прым.* Надзвычайна выразны; уразлівы. *З паразліваю яснасцю вынікае перад ім [дзедам Талашом] Мартын Рыль, яго апавяданне пра сваё вызваленне з-пад польскага канвою.* Дрыгва.

**Поразли́вый** *прым.* 'надзвычайны' (Насовіч).

**ПАРАЛЮШ** *м.* Параліч. *Вось ты бога і пахваліш! А бадай цябе паралюш!* «Святы Ян».

**Пара́люш** *м.* 'параліч' (Дзятл. Сцяшковіч, 1972; Пух. СПЗБ; Чэрв. Шатэрнік; Насовіч).

**ПАРАННЫ** *прым.* Ранішні. *То быў вобраз іскраззянны, Момант радасці, надзей, Сэрца гімн агнём паранным, Песня зорак, сонцавей.* Сымон-музыка.

**Пора́ну, пора́но** *прысл.* 'раніцай, уранку' (ТС); **пара́нак** *м.* 'раніца, ранак' (Гродз. Цыхун). Параўн. польск. *poranny* 'які адбываецца на пачатку дня, перад поўднем'.

**ПАРАХНО** *н.* Парахня. *Эх ты, жыццё, жыццё людское! Няма табе, няма спакою: Ты — суматоха, вір бурлівы, Ў табе загіне баязлівы, Як парахно, як зерне тое...* Новая зямля.

**Порохнó** *н.* 'парахня' (Лельч. Жыв. сл., с. 214); **парахóння** *н.* 'парахня, гнілякі' (Мёр. Жыв. нар. сл., с. 71).

**ПАРЫЎЛІВЫ** *прым.* Парывісты. *Чаму яго [Івана] сэрца білася ў парыўлівай радасці кожны раз, калі хоць здалёку мільгне яе постаць?* Балаховец.

**ПАСАД** *м.*, **ПАСАДА** *ж.* 1. Сядзіба. *Над рэчкай гэты луг мурожны, Дубоў развіслых цэлы рад, І буслаў дом, стары, заможны, Як той пасэсарскі пасад!* У палях Беларусі. *На горцы ціхай, невысокай, Каля засценка недалёка, У бок дарогі, ў глыбі сада Стаяла панская пасада.* Новая зямля. *Дамы, каменныя грамады, Палацы, пышныя пасады, Крутыя*

*горы з жоўтым скатам, Пяскамі, глінаю багатым, Ўвесь правы бераг абступалі, У рэчцы цені іх дрыжалі.* Там жа. 2. Трон. *У параўн. Бярложак Мікіта ў ім* [*прыгрэбніку*] *зладзіў, Саломы і сена прынёс. Прысеў там, як цар на пасадзе, Хоць цар не зазнаў яго слёз.* Суд у лесе.

**Паса́да** *ж.* 'сядзіба' (Хоц. Бялькевіч); **паса́д** *м.* 'пасад, стол [трон]' (Касц. Бялькевіч).

**ПАСПАЛІТЫ** *прым.* Звычайны. *Я здароў, трохі кашляю, але гэта кашаль паспаліты.* З пісьма.

Параўн. польск. *pospolity* 'які часта здараецца, усюды сустракаецца, звычайны'.

**ПАСТАЦЫЯ** *ж.* Выгляд, постаць. *Тым жа часам каля зваленага дуба, навокала таго месца, дзе пачало дыміцца балота, збіўся вялізарны тлум усялякага птаства, звяркоў, машкарэчы і народу іншае пастацыі.* На ўсё ёсць прычына.

**Паста́цыя** *ж.* 'постаць' (Смарг. СПЗБ). Параўн. польск. *postać* 'форма пэўнай істоты, фігура, сілуэт; знешні выгляд'.

**ПАСТКА** *ж.* Пашча. *Шчупак, брат, ёмкі: на паўпуда, Але сарваўся. Ах, паскуда! І натаміў, як мае быць, І пастка ўжо з вады тырчыць, Як змей, варочае зянкамі..* Новая зямля.

**Па́стка** *ж., перан.* 'вялікі рот' (Чэрв. Шатэрнік).

**ПАСТРАШАЦЬ** *незак.* Страшыць. [*Дамянік:*] — *Тфу ты, ліха! што са мною? Што за чортава чмута?! Хтось рукою касцяною Пастрашаў мяне з кута!* Сымон-музыка.

**Постра́шиваць** *незак.* 'пагражаць' (Насовіч); **пастра́х** *м.* 'пагрозы, запалохванне' (Гродз. Сцяшковіч, 1972); **пастрашэ́нства** *н.* 'застрашванне' (Брасл. СПЗБ).

**ПАСТЫЛЫ** *прым.* Астылы, халодны. *Над гарбом зямлі пастылай, Над прасцецкаю магілай Пара вырасце бяроз.* Сялянская доля.

Параўн. руск. *постылый* 'які выклікае да сябе непрыязнасць, які надаеў'.

**ПАСУЧЫЦЬ** *зак.* Хутка пайсці ў пэўным напрамку. *Прабегшы некалькі хат, Арцём звярнуў на агароды, шуснуў у каноплі, адтуль разораю між капусты забег у надворак Юркі Труса, з надворку заламаў у вулачку і пасучыў проста да калодзежа.* Недаступны.

**ПАТАЁМА** *прысл.* Скрытна. *У цішы ды ў адзіноце Ходзяць думкі патаёма І знікаюць у самоце, І нікому невядомы Ні ўзлёты іх, ні громы..* На шляхах волі. *Гатуюць ворагі удар, Гатуюць скрытна-патаёма..* Там жа.

**Потае́мно** *прысл.* 'тайна' (Насовіч); **патае́нна** *прысл.* 'патаемна, скрытна' (Чэрв. Шатэрнік).

**ПАТАЛАЧЫЦЬ** *зак.* Патаптаць, памяць (пасевы). *А дзе б можна што пасеяць На якім загоне, Дык там куры падрасуюць, Паталочаць коні.* Сялянская рада.

**Патало́чыць** *зак.* 'вытаптаць, патаптаць' (Гом. НЛГ); **сталачы́ць** *зак.* 'стаптаць (пасевы)' (Чэрв. Шатэрнік); **толочи́ць** *незак.* 'таптаць, мяць, ламаць нагамі (пра пасевы, агародныя культуры, сенакос)' (Насовіч).

**ПАТАЛОЧЫШЧА** *н.* Вытаптанае месца. *Паталочышча паказвала, што чалавек адграбаў снег, каб прылегчы на болей цёплым месцы.* Дрыгва.

**Патало́чышча** *н.* 'выкачанае, вытаптанае месца' (Карэл. Сцяшковіч, 1972).

**ПАТАПЕЛЬНІЦА** *ж.* Нізкае топкае месца; грузкае балота; дрыгва. *На тых патапельніцах, дзе яшчэ два гады не мог прайсці чалавек, цяпер будзе сакавітая добрая трава, а на ёй пасуцца коні і каровы.* Паездка на Асінбуд.

**Пото́па** *ж.* 'дрыгва, топкае, балоцістае месца' (Насовіч).

**ПАТАРОЧА** *ж.* 1. Здань, пудзіла; пачвара. *Цісне, крэпіць халадзішча, Проста ліпнуць вочы. Божа, што тут за ігрышча, За смех патарочы!* Пад Новы год. 2. Вораг, бандыт. *Запазніўся месяц цьмяны Стаць на варту ў гэту ноч І не чуў, як партызаны Білі злосных патароч.* Засада.

**Поторо́ча** *ж.* і *м.* 'чалавек з вытарашчанымі вачамі, пудзіла' (Насовіч). Параўн. укр. *поторочa* 'здань, прывід, пачвара; *лаянк.* пра чалавека'.

**ПАТРАВА** *ж.* Страва, яда. *Скончан дзень. За стол паселі — Дужая сямейка! Незайздросная патрава: Бульба ды куцейка.* Сялянская рада.

**Патра́ва** *ж.* 'страва, ежа' (Карэл. Сцяшковіч, 1972); 'верашчака' (Лоеў. Янкова); 'вадкая страва' (Бар., Верхнядзв., Віл., Слуц., Пін. СПЗБ); 'патрава, страва' (Мсцісл. Бяль-

кевіч); **потра́ва** *ж.* 'вараная яда' (Насовіч). Параўн. польск. *potrawa* 'страва, ежа, яда'.

**ПАТРАКТАВАЦЬ** *зак.* Пачаставаць. *І любяць дзеда Юрку ўнукі, Яны цалуюць яму рукі, А дзед у плечы іх цалуе І абаранкам патрактуе.* Новая зямля.

**Патрактава́ць** *зак.* 'пачаставаць' (Уздз. МСММГ, 1974; Чэрв. Шатэрнік; Насовіч); **трахтава́ць** *незак.* 'частаваць' (Астр. Сцяшковіч, 1983). Параўн. польск. *potraktować* 'пачаставаць чым-н., ахвяраваць што-н. каму-н. у выглядзе пачастунку'.

**ПАТРАСАЦЕЛЬ** *м.* Той, хто хоча пахіснуць, падарваць асновы чаго-н. *Ну, дык як, патрасацелі самадзяржаўя! — звярнуўся ён* [*Янкавец*] *да настаўнікаў.* На ростанях.

**ПАТРАСЦІ** *зак.* Патрывожыць, патурбаваць каго-н. *Хоць дзядзька наш не паляўнічы, Ды меў ахвоту і да дзічы. І часам, праўда, вельмі рэдка — Я сам у гэтым буду сведка — У лес надумае пайсці, Зайцоў крыху там патрасці..* Новая зямля.

**ПАТРАЎКА** *ж.* Рэдкая страва. *Патраўка была нецікавая. Госць і гаспадар пабоўталі трохі лыжкамі і забракавалі яе.* На ростанях.

**Патра́ўка** *ж.* 'на кураціне з прыправамі гатуюць адвар, перад падачай яго падкалочваюць мукой' (Лаг. МСММГ, 1977); 'рэдкая страва з мукі' (Лаг. МСММГ, 1974); 'рэдкая страва з мясам, падкалочаная мукой' (Асіп., Бар., Верхнядзв., Ганц., Лаг., Лях. СПЗБ); **потра́вка** *ж.* 'соус з мясам' (Насовіч). Параўн. польск. *potrawka* 'адварное мяса пад соусам'.

**ПАТЫРЧАСТЫ** *прым.* Які стаіць тарчма, прыўзняты ўверх; натапыраны. *У Савосева суседа Быў пярэсценькі каток.. Губкі, зубкі Адмысловыя; Вусы-русы Патырчастыя; Тая спінка, Як націнка, Выгінастая.* Савось-распуснік.

**Патырча́ка** *ж.* 'палка, якая тырчыць адкуль-н.' (Стаўб. Нар. сл., с. 152).

**ПАЎАСМІНА, ПАЎАСЬМІНА** *ж.* 1. Пасудзіна, якая служыла для вымярэння сыпкіх рэчываў. *А пад паветкаю прылады: Вазок, калёсы, панарады, Старыя сані, восі, колы І вулляў некалькі на пчолы, Яшчэ няконченых; судзіна, Ста-*

*ры цабэрак, паўасміна..* Новая зямля. *Прыходзіць да Паўлюка Сцёпка пазычыць паўасьміны.* Тоўстае палена. *У адным месцы стаялі вазы з цэбрамі, ражкамі, паўасьмінамі.* Там жа. 2. Старая мера сыпкіх рэчываў, паўтара пуда. *Намачыў поп аўса з паўасміны Ды занёс яго на лядзіны.* Як поп зрабіўся авіятарам.

**Паўасмі́ннік** *м.* 'драўляная (з клёпак) пасудзіна для вымярэння збожжа ёмістасцю 1 пуд' (Брэсц. З нар. сл., с. 198).

**ПАЎБАХАНА** *м.* Палавіна буханкі. *Зняў* [*дзед Талаш*] *з-за плячэй стрэльбу, паляўнічую торбу, куды бабка Наста рупліваю рукою палажыла паўбахана хлеба і кавалак гужавога сала.* Дрыгва.

**Бо́хан** *м.* 'бохан; каравай хлеба' (Чэрык. Бялькевіч).

**ПАЎВАЛОКА** *ж.* Мера зямлі, роўная палавіне валокі. [*Хадыка:*] *Жывуць тут людзі багачамі — Ядзяць іх мухі з камарамі! — На паўвалоках і скупых, Калі даўно сядзяць на іх.* Новая зямля.

**Паўвало́ка** *ж., устар.* 'палавіна надзелу зямлі' (Чэрв. СПЗБ); 'паўвалока' (Воран. Сцяшковіч, 1972); **полвло́чче** *н.* 'мера ворнай зямлі' (Насовіч).

**ПАЎВЕРАТНЯ** *м.* Старая народная мера зямлі ўдаўжыню, роўная 25 м. *Папрабаваў быў Пятрусь цягнуць дадому адны драбіны і нават працягнуў іх з паўвератня.* Кірмаш.

**Ве́рацень** *м.* 'мера зямлі ў даўжыню, роўная прыблізна 50 м.' (Стаўб. Жыв. сл., с. 105); 'постаць' (Стаўб. МСММГ, 1970); 'гоні' (Стаўб. МСММГ, 1974).

**ПАЎГАРЦА** *м.* Старая народная мера сыпкіх рэчываў, роўная палавіне гарца. *У трох гаршках было ўжо на паўгарца пораху.* Ванька Кудлаты.

**Га́рнец** *м.* 'гарнец, мера сыпкага' (Мсцісл. Бялькевіч). Параўн. польск. *garniec* 'гарнец'.

**ПАЎДЗЕННЕ** *н.* Поўдзень, паўдня. *На залаты парог паўдзення Скрозь бела-руннае адзенне У багне неба ясна-сіняй Ступае сонца, як багіня.* Новая зямля.

**Паўдзён** *м.* 'поўдзень' (Краснап. Бялькевіч); **полу́дне** *н.* 'поўдзень' (Насовіч).

**ПАЎЗБОЧЧУ** *прысл.* Збоку. *Ідуць імі* [*дарогамі*] *людзі маўкліва, Глядзяць на дырваны паўзбоччу.* Адплата.

**Паўзбо́ч** *прысл.* 'убаку, убок' (Чэрык. Бялькевіч); **паўзбо́ч** *прыназ.* 'у баку, каля' (Іўеў. Сцяшковіч, 1983).

**ПАЎЗБЯРЭЖЖА** *н.* Паласа зямлі ўздоўж берага рэчкі. *Ідзе* [*Пятрок*] *ўздоўж рэчкі паўзбярэжжам І раптам чуе — гуд размовы.* Суд у лесе.

**ПАЎЗБЯРЭЖНЫ** *прым.* Які расце каля берага рэчкі. *Шырокаю бліскучаю стужкаю між паўзбярэжнай зараслі купчастых кустоў павіваецца старадаўні Днепр.* Янка Купала.

**Паўзьбе́рыжжу** *прысл.* 'уздоўж берага' (Краснап. Бялькевіч).

**ПАЎЗДОЎЖ** *прыназ.* Уздоўж. *Паўздоўж сцяны стаялі лавы..* Новая зямля. *Выйшлі ў Цёмныя Ляды, з вярсту ішлі паўздоўж старога яловага лесу.* На ростанях.

**Подо́ўж** *прысл.* 'уздоўж, у даўжыню' (ТС).

**ПАЎЗЛОТЫ** *м.* Даўнейшая польская грашовая адзінка, роўная 50 грошам. *Хаім, люльку на ў задатак, — Дай мне царскага віна, Дай мне булку на паўзлоты, Ды прыпраў мне селядца!* Панас гуляе.

**ПАЎНАЦВЕТНЫ** *прым., перан.* У поўным росквіце сіл. *А прыгож быў дуб, над дубамі дуб, У красе паўнацветнай і сіле..* Дуб.

**ПАЎНАЦЕЛЫ** *прым., перан.* Моцны, крэпкі. *Так многа іх* [*грыбоў*] *і ўсе таўсматы, Прыземісты, карэнкаваты, Чорнагаловы, паўнацелы, Як тонкі кужаль, знізу белы..* Новая зямля.

**ПАЎСКРАЙ** *прыназ.* З краю чаго-н.; ускрай. *Раман запрог каня, палажыў на драбінкі плуг і мернаю ступою паехаў паўскрай яру.* Дачакаўся.

**ПАЎЧВАРТА** *ліч.* Тры з палавінай. *Ой, вырасцеш, сынку, За паўчварта году, Як ясень высокі..* Сава.

**Паўчварта́** *ліч.* 'тры з палавінай' (Гродз. СПЗБ; Ваўк. Сцяшковіч, 1972; Чэрв. Шатэрнік); **повчварта́** *ліч.* 'паўчвэрці або тры з палавінай' (Насовіч).

**ПАФАРЦІЦЬ** *зак.* Пашанцаваць. *Потым пафарціла, Ён раздзьмуў кадзіла І дабіўся ўлады.* Рыцар Шыкльгрубер.

**ПАХАДЖЭНЕЦ** *м.* Выхадзец з пэўнай мясцовасці. *З вясны 1906 года, пасля таго калі ў школах скончыліся работы, у Мікалаеўшчыну паз'язджалася многа настаўнікаў, пахаджэнцаў з гэтага сяла.* Васемнаццатая гадавіна.

**ПАХВАЛЁНЫ** *прым. у знач. наз.* Прывітанне пры ўваходзе ў жылое памяшканне. *Вайшлі ў хату дзед з Сымонам, Чэсць далі гаспадаром, Старасвецкім «пахвалёным» Прывіталі гэты дом.* Новая зямля.

**ПАХІБКА** *ж.* Недагляд, памылка, хіба. *Паны складаюць чамаданы, Лубкі-каробкі, дзе схаваны Паненак розныя прыпасы Для завівання, для падкрасы, Каб трохі зменшыць пераішкоды, Пахібкі матухны-прыроды.* Новая зямля.

Параўн. укр. *похибка* 'памылка, недагляд у чым-н.'

**ПАХІЛАК** *м.* Нябога, бядак. *Гляджу — твар знаёмы. Прыгледзеўся — так: Пазнаў я яго па каптане. Ды гэты ж пахілак, худзенькі вахлак — Нябожчык наш, бацька твой, пане!!!* Даняў. *Усю гэту ноч ён спаў пагана, А колькі думак праплыло, Тоаднаму Бабру вядома, Ды тым пахілкам-бедаком, Хто, як Бабёр, не мае дома, Не мае ў людзі выйсці ў чом.* З астрога на волю.

**ПАХІЛЫ** *прым., перан.* Няшчасны. *Стары, паедзены чарвямі, На бок пахілены вятрамі, Глядзеў хлеў гэты старычынай, Пахілай доляй жабрачынай..* Новая зямля.

**Похíлы** *прым.* 'пахілы', 'сагнуты, слабы, хваравіты' (ТС); **пахíлый** *прым.* 'пахілы, сагнуты' (Мсцісл. Бялькевіч); **похи́лый** *прым.* 'згорблены, сагнуты' (Насовіч).

**ПАХІНУЦЦА** *зак.* Пакасіцца, нахіліцца ў адзін бок. *Паляцеў бы ў луг, дзе Нёман Бераг точыць, мые.. Дзе над Нёманам старая Пахінулась хата, Дзе так многа пылу ўлетку, Дзе пяскоў багата.* Хмары.

**Пахіну́цца** *зак.* 'нагнуцца' (Чэрв. Шатэрнік); **похина́цьца** *незак.* 'нахіляцца ў адзін бок' (Насовіч).

**ПАХІНУЦЬ** *зак.* Схіліць, апусціць уніз. *Скончыў хлопчык казку-гора І галоўку пахінуў, Зноў Сымонку, як учора, Нейкі смутак агарнуў.* Сымон-музыка.

**Пахіну́ць** *зак.* 'нагнуць' (Чэрв. Шатэрнік; Насовіч).

**ПАХЛЁБКА** *ж.* Поліўка; зацірка. *Яны [здраднікі] ўзялі курс на немца, звязалі свой лёс з лёсам разбойніцкай немчуры і за чачавічную пахлёбку прадалі сваё сумленне.* Здраднікі.

**Пахлёбка** *ж.* 'поліўка' (Ляx. СПЗБ); **похлеба́ць** *зак.* 'пасёрбаць' (ТС). Параўн. руск. *похлёбка* 'суп, запраўлены мукой, крупамі або бульбай'.

**ПАХОДНЯ** *ж.* Ваенны наступ, паход. *Страх, трывога ў панскім сэрцы: Вецер дзьме ўсходні, — І рыхтуюць крыважэрцы На усход паходні.* Польскім катам.

Параўн. польск. *pochodnia* 'факел'.

**ПАЦЁПВАЮЧЫСЯ** *дзеепрысл.* Уздрыгваючы. *Дзе-нідзе ў полі на межах стаялі адзінокія грушы і сіратліва махалі сваімі голымі галінамі, пацёпваючыся, як пажылыя кабеты, на холадзе.* Тоўстае палена.

**ПАЦЁРКІ** *мн.* Пацеркі. *А ноч ціхутка; ў багне цёмнай Пустэлі страшнай і бязмоўнай Гарацъ дрыготна, ззяюць зоркі, Як найдарожшыя пацёркі, То паасобку, то гурткамі, То брыльянцістымі радкамі.* Новая зямля.

**Пацеркі́, пацёркі** *мн.* 'пацеркі, бусы' (ТС); **пацёрка** *ж.*, **пацёркі** *мн.* 'пацеркі, каралі' (Гродз. Цыхун). Параўн. польск. *paciorki* 'пацеркі, каралі'.

**ПАЦІКАВАЦЦА** *зак.* Паглядзець. — *А мо б наўперад, пан Хадыка, Калі фатыга невяліка, Нам паказаў бы сваё поле? — Сказаў Міхал. — Што ж? Ваша воля! А пацікуйцеся: тут блізка; Зямля, бы ў мацеры калыска, На відавоку, пад рукамі..* Новая зямля.

**ПАЧУТАК** *м.* Пачуццё, адчуванне. *Пачутак востры нейкай страты Навёў на прапаршчыка сум, Як улілася Галя ў тлум, Апошні раз кіўнуўшы «брату».* На шляхах волі.

**Пачу́так** *м.* 'пачуццё, настрой' (Карэл. Сцяшковіч, 1972); **почува́нне** *н.* 'адчуванне' (Насовіч).

**ПАШАНОТА** *ж.* Пашана. *Жычу ўсім усяго добрага. З пашанотай. Якуб Колас.* З пісьма.

**Пашано́та** *ж.* 'пашана, догляд' (Дзярж. Нар. сл., с. 39), 'павага, догляд' (Слон. Нар. сл., с. 36); **пошанова́нне** *н.* 'шанаванне, пашана' (Насовіч).

**ПАШАНЦІЦЬ** *зак.* Пашанцаваць. *Толькі ж тут не пашанціла, Як ён* [*Дамянік*] *лістом ёй* [*Ганне*] *ні слаў, Як рука вус ні круціла, Як вачыма ні ўскідаў.* Сымон-музыка.

**Пашанці́ць** *зак.* 'пашанцаваць' (Карэл. СПЗБ; Касц. Бялькевіч); **шанци́ць** *незак.*, **пошанци́ць** *зак.* 'шанцаваць, пашанцаваць' (Насовіч).

**ПАШВОРЫЦЦА** *зак.* Перагледзець што-н., пакапацца ў чым-н. *Жандарскі ротмістр усё гэта перагледзеў, вахмістр з гарадавымі пашворыліся ў рэдакцыі.* На ростанях.

**Шво́рыты** *незак.* 'хадзіць з пэўнай мэтай так, як патрабуе абавязак, рэгулярна, не зважаючы на цяжкасці' (Драг. З нар. слоўн., с. 152).

**ПАШМАТАВАЦЬ** *зак.* Падраць, паразрываць на шматкі. *Да кніжак тут усе сышліся, І разважанні пачаліся. «Начаткі» доўга разглядалі, Як іх «каты» пашматавалі.* Новая зямля.

**Пашмата́ць** *зак.* 'пашкуматаць' (ТС); **пашматкава́ць** *зак.* 'парваць' (Карэл. Сцяшковіч, 1983).

**ПАШУТКАВАЦЬ** *зак.* Пажартаваць. *А так чалавек ён* [*пан падлоўчы*] *не кепскі. І пагаварыць любіць, і пашуткуе, і пасмяецца.* На ростанях.

**Пашуткава́ць** *зак.* 'пажартаваць' (ТС).

**ПАШЧЭНКА** *ж.* Сківаца. [*Салдат:*] *Сядзіць на фабрыцы рабочы Там, у тылу, і дні і ночы Ды робіць гэтае дабро Табе ў пашчэнку, у рабро — На фронт, нябось, і ён не хоча..* На шляхах волі.

**Пашчэ́нка** *ж.* 'сківаца' (Стаўб. Жыв. сл., с. 110; Малар. ДСБ); **пашчэ́нка, па́шчанка, пашчэ́мка, пашчэ́нька** *ж.* 'сківаца' (Астр., Бар., Брасл., Гродз., Дзятл., Маст., Смарг., Шчуч. СПЗБ); **пашчэ́мкі** *мн.*, **пашчэ́мак** *м.* 'сківаццы' (Гродз. Цыхун); **пашчо́мка, пашчэ́нка** *ж.* 'сківаца' (Ваўк., Воран., Навагр. Сцяшковіч, 1972); **пашчэ́мак** *м.* 'сківаца' (Маладз. МСММГ, 1974); **пашчэ́нга** *ж.* 'сківаца' (Карэл. З нар. слоўн., с. 92); **па́щека** *ж.* 'сківаца, асабліва ніжняя' (Насовіч).

**ПАШЫБАЦЬ** *незак.* Ахопліваць, апаноўваць, авалодваць. [*Лабановіч:*] *Накруціш свае нервы так, што пачынае цябе жудасць пашыбаць.* На ростанях. *Нарэшце яго* [*Амяльяна*] *пашыбае злосць.* У тыле ў Дзянікіна. *Ён* [*Сымон*] *не плача, не ўздыхае, І яго не пашыбае Ані жаласць, ані страх.* Сымон-музыка.

**ПАШЫБЦІ** *гл.* **ПАДШЫБЦІ**

**ПАЯДЫНКА** *ж.* Аднаствольная паляўнічая стрэльба. *Стрэльба-паядынка І труба-старынка, Спрытна, выгінаста, Зроблена з лясіны.* Сымон-музыка.

**Паяды́нка** *ж.* ‘аднаствольная паляўнічая стрэльба’ (Воран. Сцяшковіч, 1972).

**ПАЯСОК** *м., памянш.-ласк.* Стан, паясніца. *Вобразн. Апусціўшы нізка Тонкі паясок, Ные сірацінка, плача каласок. Плача, што дарэмна Тут расце ў глушы..* Жытні колас.

**ПЕЛЯНА** *ж.* Тое, што пакрывае сабой што-н.; заслона. *Мутным поглядам дзяўчына Пазірае на сцяну; Ёй вар'яцтва павуціна Густа сцеле пеляну.* Сымон-музыка.

**ПЕПІНКА** *ж.* Гатунак яблыкаў. *..выводзяць новыя гатункі пшаніц, падымаюць сады, што востра пахнуць пепінкай і антонаўкай..* Трыццаць савецкіх год.

**Пе́пенка, пе́пелька** *ж.* ‘пепінка (сорт яблыкаў)’ (ТС).

**ПЕРАБОРКА** *ж.* Перагародка. *Ёмкая дзеравяная пераборка адгароджвала пакойчык з другога боку кухні. Угары, пасярэдзіне пераборкі, было зроблена акенца.* Адшчапенец.

**Перабо́рка** *ж.* ‘перагародка’ (Барыс. СПЗБ; Рас. Шаталава; Мсцісл. Бялькевіч); ‘дашчатая сценка’ (Зэльв. Сцяшковіч, 1983); **перебо́рка** *ж.* ‘перагародка з дошак’ (Насовіч).

**ПЕРАВАЛ**[1] *м.* 1. Перашкода на шляху воднага патоку. *Быстрая вада, шырока выліўшыся з берагоў, несла лодку ўніз па плыні. Часамі на перавалах, дзе разводдзе бушавала з нястрыманаю сілаю і кідала лодку, як трэску, прыходзілася налягаць на ўсю змогу на весло, каб выбрацца з небяспечных віроў.* На ростанях. 2. Бурны паток вады. *Але надышла навальніца і паддала Азярку сілы, усе дзедавы ўмацаванні былі знесены, і яго самога панесла вада.. Пазіраючы, як куляўся стары Дзед у грозных перавалах вады, Азярко сказала: — Дурны, дурны Дзед. Не воля аднаго, а воля ўсіх толькі і можа мець сілу і права.* Супраць вады. 3. Ручай. *Засценне — хутарок прыўдалы, Стаіць на рэчачцы Стружку, Як бы ў зялёным кажушку. Вакол вясёлыя прагалы, Дзе ўвесну звоняць перавалы, Дубовы гай на беражку..* На шляхах волі. *Як сходзіў жа снег з узгоркаў І гулі патокі, Вербы ціхай гаворкай Іх віталі крокі. А як грымнулі імкліва З лесу перавалы, Вербы слухалі пужліва Голас іх навалы.* Там жа.

**Перава́л** *м.* ‘вадаспад’ (Навагр. Сцяшковіч, 1972).

**ПЕРАВАЛ**[2] *м.*: **ПЕРАКАПАЦЬ НА ПЕРАВАЛ**. Ускапаць такім чынам, каб верхні пласт зямлі аказаўся ўнізе. *Ён* [*Лабановіч*] *пачаў меркаваць, як бы можна было палеп-*

*шыць зямлю. Сілы малавата, а перакапаць бы зямлю на перавал ды навазіць у канаўкі гразі з алешніку, напэўна зямля паправілася б, і расло б тут збожжа, як лес.* На ростанях.

Параўн. укр. *перевал* ‘глыбокае аранне, пры якім верхні пласт зямлі перамяшчаецца на месца ніжняга’.

**ПЕРАВУЛАК** *м.* Завулак. *Мінут праз колькі з перавулка На свет ён* [*дзядзька Антось*] *выбіўся, дзе гулка Нясліся зноў страшэнна зыкі..* Новая зямля.

Параўн. руск. *переулок* ‘завулак’.

**ПЕРАДДЗЕННЕ** *н.* Пярэдадне. *Нягледзячы на тое, што сёння было пераддзенне Новага года і ў грубку палажылі дроў болей, у хатцы ўсё ж такі было холадна.* Пад Новы год.

**ПЕРАДЛЯКАЦЬ** *зак.* Перакідацца, перабіцца; сяк-так пражыць. *Пераэісыў, прагараваў, Век свой перадлякаў, — Чорт яго тут бедаваў, Чорт яго і плакаў!* Смех.

**ПЕРАДПАКОЙЧЫК** *м.* Калідор. *Ён* [*Лабановіч*] *адчыняе наўперад дзверы ў сваю кватэру, каб відней было, бо ў перадпакойчыку цёмна, і ўпускае настаўніцу.* На ростанях.

Параўн. польск. *przedpokój* ‘памяшканне, якое знаходзіцца непасрэдна за ўваходнымі дзвярамі’.

**ПЕРАЗАПЭЎНІЦЬ** *зак.* З вялікай надзейнасцю запэўніць каго-н. у чым-н. [*Лабановіч да Саханюка:*] *Аднак, калі пайшло ўжо на рызыку, магу вас не толькі запэўніць, але і перазапэўніць, што вы адгэтуль не возьмеце ні аднюсенькага зярнятка.* На ростанях.

**ПЕРАКАЧАЦЦА** *зак.* З цяжкасцю перабыць, пражыць пэўны час. *Тут ужо горача. Як перакачаемся лета, не ведаю.* З пісьма.

**ПЕРАКІДАЦЬ** *зак.* З цяжкасцю, як-небудзь пражыць пэўны час; пракідацца. *Грош завёўся ў дзеда ў латах — Запамог Сымон яму Так па дворах і па хатах Перакідалі зіму.* Сымон-музыка.

**Перакіда́цца** *незак.* ‘перабівацца’ (Лоеў. Янкова).

**ПЕРАКРЭСТАК** *м.* Перакрыжаванне. *На кожным перакрэстку вуліц стаялі высокія крыжы, павязаныя хвартушкамі з чырвонаю стужкаю.* Палеская вёска.

**Перакрэ́стак** *м.* ‘перакрыжаванне дарог’ (Смарг. Шаталава); **перэкрэ́сток** *м.* ‘перакрыжаванне’ (ТС; Лоеў. Янкова); **перакро́стак** *м.* ‘скрыжаванне’ (Чэрв. СПЗБ).

**ПЕРАЛЁТНІК** *м.* Пералёт (лекавая расліна). *У лесе цётка гаварыла, для якой надобы належыць якая зёлка, ад якой хваробы ці запалення якога памагае тая ці другая трава, і пазнаёміла Юрку з рознымі краскамі: пералётнікам, гарлянкай, румянкам..* Сірата Юрка.

**Пералётнік** *м.* 'пералёт (трава ад пярэпалаху)' (Лід., Навагр. СПЗБ); 'адуванчык' (Карэл. Сцяшковіч, 1972); 'гарычка' (Віл. МСММГ, 1974); **пералёт** *м.* 'белая канюшына' (Карэл. Жыв. нар. сл., с. 72).

**ПЕРАЛОГ** *м.* Поле, якое доўга не апрацоўвалася. *Можа ўзару пералог той, А на пералозе... Я пасею мае слёзы, Ды шчырыя слёзы.* Чыгрыне, Чыгрыне...

**Пералóг** *м.* 'луг сярод поля або сярод лесу' (Пух. Шатэрнік); 'поле, якое ніколі не апрацоўвалася' (Смал. МСММГ, 1970); **паралóх** *м.* 'ялавіна' (Віл., Стаўб. СПЗБ).

**ПЕРАМОТ** *м.* 1. Памылка пры пераплятанні чаго-н. *Гэта ўсё роўна, што кош плясці: як загнуў абручы ды спіцы ўставіў, тады толькі перакладай дубцы, не рабі адно перамотаў.* Драматург і лірычны паэт. 2. Што-н. пераблытанае. *А ніці ж усе ў перамоце, На кожнай з іх петлі, вузлы, Нібы на закручаным дроце.* Адплата. 3. *перан.* Якая-н. няяснасць, што-н. незразумелае; блытаніна. *Ды хіба выказаць іх [думкі] можна? Хіба іх знішчыш перамот?* Рыбакова хата. *У гэтым прыкрым перамоце Пачуццяў, уражанняў і дум Надзённы нікне клопат, шум.* На шляхах волі.

**Перамóт** *м.* 'памылка пры снаванні красён' (Бярэз., Верхнядзв., Іўеў., Лях., Паст., Пух., Чэрв. СПЗБ); 'памылка пры снаванні, якая заключаецца ў пропуску чарговага калочка пры накладванні асновы' (Карэл. Шаталава); 'няправільна леглая ў аснове нітка' (Мсцісл. Жыв. сл., с. 235); 'памылка пры снаванні красён ці матанні маткоў' (Краснап., Чэрык. Бялькевіч); **перамóта** *ж.* 'памылка пры снаванні' (Віл., Докш., Пух., Смал., Стаўб., Уздз. МСММГ, 1970); 'памылка пры снаванні пражы' (Дзятл. Сцяшковіч, 1972); **перэмóта** *ж.* 'памылка пры снаванні кроснаў' (ТС); **перамóтка** *ж.* 'памылка, дапушчаная ў час снавання асновы' (Гродз. Цыхун).

**ПЕРАНОСІЦА** *ж.* Пераноссе. *Схапіў тады Гарошак сваю даўбешку ды як чахнуў змея па пераносіцы, дык той увесь юхаю заліўся.* Гарошак.

**Перано́сіца** *ж.* 'пераноссе' (Навагр. Жыв. нар. сл., с. 112).

**ПЕРАПАДАННЕ** *н.* Тое, што дастанецца, перападзе на чыю-н. долю. *І Саўка бярэцца за работу. Не брацца нельга: барыш выпілі, задатак узяў. Крупы, мукі, сала таксама перапала. А наперадзе гэта перападанне абяцае стаць яшчэ болей шчодрым.* Дрыгва.

**Перапада́ць** *незак.* 'даставацца' (Чэрв. Шатэрнік); **перепада́цьца** *незак.* 'атрымліваць выпадкова нажыву, даход' (Насовіч).

**ПЕРАПУДА** *ж.* Вельмі моцны спалох; перапуд. *З немым крыкам перапуды Хлопчык кінуўся туды. — Га! ага! Ты-га, паскуда! Людзі, воўк! Сюды! сюды!* Сымон-музыка.

**Перэпу́д** *м.* 'перапуд' (ТС).

**ПЕРАПУДЗІЦЦА** *зак.* Перапужацца, спалохацца. *Сэрца маткі не ўтрывала: — Хлопец з страху пабялеў, Перапудзіўся не мала, За дзень гэты пастарэў.* Сымон-музыка.

**Перапу́дзіцца** *зак.* 'перапужацца' (Пух. СПЗБ); **пу́дзіцца** *незак.* 'палохацца' (Паст., Чэрв. СПЗБ; ТС); **перапу́дзіць** *зак.* 'перапалохаць' (Гл. Янкоўскі, 1960).

**ПЕРАСЕК** *м.* Месца, дзе перасякаюцца дарогі; пераскрыжаванне. *Трошкі вышэй, у тым пункце, дзе крынічка, дабегшы да даліны, рабіла паваротак управа, перасякаліся дзве дарогі: на Загор'е і на Трасцянку. На гэтым перасеку дарог і быў «святы калодзеж».* На прасторах жыцця. *Тут мужык працуе, Чорны ўвесь як сажа. Крыж на перасеках Аб пакуце кажа.* Дарога.

**ПЕРАХОДКІ** *мн.* Неаднаразовыя пераходы з аднаго месца ў другое. *Акуньчык спрытна страпятнуўся, Мянёк-завала ўзварухнуўся, Яшчэ мянёк ды пара плотак. Ну, вось табе і заработак! А там яшчэ ёсць загародкі... Не дармы, не, іх* [*Антося і Костуся*] *пераходкі!* Новая зямля.

**ПІЛЬЧАК** *м.* Кароткая верхняя вопратка пераважна з грубага даматканага сукна. *Папалуднаваўшы, за работу ўзяўся дзед і пільчак з трыма «керанкамі» скінуў.* Царскія грошы.

**Пільча́к** *м.* 'пінжак з саматканага сукна' (Стаўб. Нар. сл., с. 152).

**ПЛЕНБЕЖЫ** *мн.* Палонныя, бежанцы (заўвага Якуба Коласа адносна значэння ў аўтарскім рукапісе). *Ужо даўно чуткі сярод бежанцаў ходзяць, што Курычына стаіць на чарзе, што ўжо эшалоны збіраюць, рэгістрацыі ў «пленбежы» розныя вядуцца.* Туды, на Нёман!

**ПЛЕШКА** *ж.* Кукарда на шапцы паліцэйскага. *Развялося стражнікоў, Як якой жывёлы, Ад іх плешак і шнуроў Чырванеюць сёлы.* Канстытуцыя.

**ПЛЫННЫ** *прым.* Плаўны. *Вецер бегам несупынным Гоніць хвалі срэбрам плынным, Шоўкам сцеле на загоны, А я толькі б'ю паклоны На мяжы траве-кудзельцы, Ветру, сонцу і зямельцы.* Рак-вусач.

Параўн. польск. *płynny* 'пра рух, асобныя фазы якога мякка, плаўна пераходзяць адна ў другую', укр. *плинний* 'які плаўна рухаецца, перамяшчаецца'.

**ПЛЫТКІ** *прым.* Чуць пакаты. *Панура стаіць адзінокая хата над балотцам, а пры ёй той жа нізенькі з плыткаю дзіраваю стрэшкаю хлевушок, шчыльна прытуліўшыся да хаткі.* Хатка над балотцам.

**ПЛЮХОТА** *ж.* Дрэннае, дажджлівае надвор'е, слота. *А той вецер дзікім свістам Дзьме па полі.. Усцілае жоўтым лістам Мае шоўкі, мае руні Ды халодных хмар насуне. Золкасць, зыркасць і плюхота, Безлюдзь, смутак, адзінота.* Рак-вусач.

**Плюхóта** *ж.* 'макрота, гразь' (ТС); **плюхóта, плю́хта, плю́та** *ж.* 'дождж са снегам' (Івац., Малар. ДСБ); **плюханíна** *ж.* 'плюхота' (Шчуч. Сцяшковіч, 1983); **плюхатá** *ж.* 'кепскае надвор'е, слота, плюхота' (Шчуч. Нар. лекс., с. 44); 'плюхота' (Навагр. Нар. словатв., с. 46).

**ПЛЯСТРЫ** *мн.* Соты ў вуллі. *Злавіў [Кандрат] пчалу і адкідае, Даўжнік павольненька вымае. — Ах вы, гультайкі! плястры голы, Хоць вы даўно старыя пчолы...* Новая зямля.

**Пля́стры** *мн.* 'рамкі з сотамі мёду' (Карэл. Сцяшковіч, 1972); 'штучныя соты' (Гродз. СПЗБ).

**ПЛЯЦКА** *ж.* 1. Пляскаты кандытарскі выраб; коржык. *І дзядзька майстар быў на штукі, І быў механік на ўсе рукі: І дудку скруціць вам, і стрэлку, І нарысуе, нават, елку, — Такую выштукуе цацку; А ў Свержань пойдзе — купіць пляцку.* Новая зямля. 2. Пра мужчынскую шапку,

якая мае пляскатую форму. *І Кандрат яму* [*Базылю*] *у лад Зачынае хвацка, Аж халат, рад не рад, Ідзе ўперад, назад, Як і шапка-пляцка.* Ігрышча.

**Пля́цка** *ж.* ‘пернік’ (Астр., Карэл. Сцяшковіч, 1972). Параўн. польск. *placek* ‘салодкі кандытарскі выраб пэўнай формы з рознымі смакавымі дабаўкамі’.

**ПОКАЎКА** *ж.* Зародак парастка; пупышка. *На дрэве покаўка таўшчала, Ў сабе лісточак далікатны, Пахучы, свежанькі, прыўдатны На добрым сонцы гадавала.* Новая зямля.

**По́каўка** *ж.* ‘пупышка’ (Карэл. Сцяшковіч, 1972).

**ПОМСТНІК** *м.* Той, хто помсціць, мсцівец. *Колькі іх, адданых помстнікаў за крыўды і здзекі над народам!* З прамовы.

**По́мсты** *прым.* ‘помслівы’ (ТС); **пы́мстывый** *прым.* ‘мсцівы’ (Кам. Жыв. нар. сл., с. 49).

**ПОСТРЫЖАНЬ** *м.* Прыстасаванне для лоўлі шчупакоў. *І дзядзька быў рыбак выдатны, Хоць больш урыўкавы, прыватны, Але лавіў такі нямала, І дзядзьку ў рыбе шанцавала. Бывала, пострыжні прыправіць, На шчупакоў нясе і ставіць. Глядзіш — о, добрая мінута! — Шнур з вілак спушчан, палка ўгнута, Схапіў жыўца шчупак і свішча, Дастаў — у два локці шчупачышча!* Новая зямля.

**По́сторожэнь** *м.* ‘кароткая вуда на шчупака’ (ТС).

**ПРАБЕГЛЫ** *прым.* Хітры; спрытны. *Мікітка жыў на свеце мала, Ды перадумаў шмат чаго І развaжаў разумна, стала — Прабеглы хлопец, ого-го!* Адплата.

**Прабе́глы** *прым.* ‘бывалы, вопытны’ (Стаўб. МСММГ, 1974); **пробе́глы** *прым.* ‘дзейсны, пранырлівы, рызыкоўны’ (ТС). Параўн. польск. *przebiegły* ‘які не дасць сябе ашукаць; хітры, лоўкі’, *przebiegłość* ‘хітрасць’.

**ПРАВАДЫ** *мн.* Апошні дзень Каляд. *Навуку хлопцы прыпыняюць, У іх — развязаныя рукі: Да «правадоў» няма навукі.* Новая зямля.

**Правады́** *мн.* ‘назва рэлігійнага свята вадохрышча (6 студзеня) у каталікаў’ (Валож. Жыв. сл., с. 51).

**ПРАВЕ** *прысл.* Амаль. *Праве штодзень запісваліся яны* [*эсдэк і анархіст*] *у кантору астрога, каб закрапіцца ў дваранскім памяшканні.* Цені мінулага.

**Пра́ве** *прысл.* 'амаль што' (Воран. Сцяшковіч, 1983). Параўн. польск. *prawie* 'амаль, прыблізна'.

**ПРАМІЖ** *прыназ.* Паміж. *Цесна камера, як клетка, — Вузкі ход праміж двух нар..* Турэмная камера.

**Проме́ж, проме́з, промі́ж** *прыназ.* 'паміж' (ТС); **прымі́ж** *прыназ.* 'паміж' (Крыч. Бялькевіч).

**ПРАМОВЕЦ, ПРАМОЎНІК** *м.* Прамоўца. [*Далін:*] *Я не палітык, не прамоўнік. Не будзе тут з мяне карысці, Не бачу я другога выйсця. Вось рапарт, гаспадзін палкоўнік!* На шляхах волі. *Шкада толькі, што наш прамовец не скончыў сваю прамову: ніхто яго не слухаў..* З днеўніка пана Жылака.

**ПРАПАЛЫ** *прым.* Прапашчы, безнадзейны, няўдачны. *Прахам стаўся лёс прапалы, Гнёт заклятых дзён.* Шчаслівым жанчынам. *Няхай злуюцца цемрашалы, Каму мяшок даларaў — бог: Іх лёс асуджаны, прапалы, Ім не загнаць жыцця ў падвалы, Ім не спыніць жыцця дарог.* Наша дарога.

**Пропа́лый** *прым.* 'прапаўшы' (Насовіч).

**ПРАРАКАВАЦЬ** *незак.* Прадказваць, прарочыць. — *Што ты прaракуеш, бацька? — сказаў высокі дуб з разложным верхам: — ліхія часы прайшлі: мінула зіма з маразамі, на поўнач пайшлі халады..* Чыя праўда?

**Прарaкава́ць** *незак.* 'прадракаць' (Ашм., Шчуч. СПЗБ; Зэльв. Жыв. сл., с. 147); **пророкова́ць** *незак.* 'прадказваць' (Насовіч).

**ПРАСНАВАЦЬ** *зак.* Прайсці ў пэўным кірунку. *На станцыі было досыць пуста і ціха. Дзе-нідзе праснуе людская фігура і зараз жа знікне невядома куды.* На прасторах жыцця.

**Снава́ць** *незак., перан.* 'рухацца ў розных кірунках' (Смарг. СПЗБ); 'хадзіць без справы' (Верхнядзв. Шаталава); **снава́цца** *незак., перан.* 'рухацца туды-сюды' (Ашм. СПЗБ).

**ПРАСТКАМІ** *прысл.* Напраcткі, самым кароткім шляхам. *І ён* [*Сымон*] *шоў, мінаў сялібы, Што чарнеліся ўдалі, Шоў праcткамі цераз скібы Свежаўзоранай зямлі, Каб з людзьмі не сустракацца.* Сымон-музыка.

**Праставáць, прастакавáць** *незак.* 'ісці напрасткі' (Лун., Свісл. Шаталава); **простовáць** *незак.* 'хадзіць напрасткі' (ТС); **простовáті, простовáты** *незак.* 'ісці напрасткі' (Брэсц. ДСБ).

**ПРАСФАРА** *ж.* Прасвіра. *Айцец Мадэст прычашчае яго. Дзед бярэ кусочак прасфары, кладзе ў рот і хоча ісці.* На ростанях.

**ПРАСЦІРАДЛА** *н.* Прасціна. *У галавах, як горы, высіліся ёмкія падушкі, зложаныя на дзень суконныя коўдры ў клетку, посцілкі і прасцірадлы хатняга вырабу.* Дрыгва. *На сцяне віселі, як прасцірадлы, карты са стракатымі лапінамі.* Школа.

**Прасцірáдла, прасцірáдло, прасціядла** *н.* 'прасціна' (Глыб., Гродз., Маст., Мін. СПЗБ); 'пакрывала' (Паст., Слон., Смарг. СПЗБ); 'пасцілка' (Карэл. Сцяшковіч, 1972); **прасцірáдла** *н.* 'прасціна' (Рэч. Нар. сл., с. 163); 'прасцірадла, тонкая посцілка' (Чэрык. Бялькевіч); **прасьцірáдла** *ж.* 'прасціна' (Чэрв. Шатэрнік); **просцирáдло** *н.* 'коўдра, прасціна' (Насовіч). Параўн. польск. *prześcieradło* 'прасціна'.

**ПРАТАЛАЧЫЦЦА** *зак.* Пратаўчыся. *Якраз на самым рассвітанні Міхал вярнуўся з пахавання; Вайшоў у хату, распрануўся, Зяхнуў і смачна пацягнуўся, Бо цэлы дзень праталачыўся І, ноч не спаўшы, утаміўся..* Новая зямля.

**ПРАТРАЛЯВАЦЬ** *зак.* Прайсці праз што-н. *Наўперад трэба было прайсці колькі глухіх, залітых гразёю вуліц, потым пратраляваць праз рынак, дзе сягоння быў кірмаш, і ўжо тады толькі можна было трапіць на «Неўскі», як называлі тут галоўную вуліцу.* Так і трэба ашуканцу.

**Пратралявáць** *зак.* 'пракласці дарогу ў час тралёўкі лесу' (Карэл. Сцяшковіч, 1972); **тралявáць** *незак.* 'таптаць пасевы, ходзячы ўздоўж палос' (Чэрв. Шатэрнік).

**ПРАЎЦОМ** *прысл.* Прама, старчаком. *Махнуў [Амелька] цэпам яшчэ разоў пару, і біч становіцца праўцом, зрываецца з цапільна, ляціць угару, а потым, па закону Ньютана, падае на ніз.* Драматург і лірычны паэт.

**Праўцóм** *прысл.* 'у выразе: стаяць праўцом — стаяць прама, не згінаючыся' (Стаўб. Нар. сл., с. 153); 'стаяком' (Лоеў. Янкова); 'прама, старчком' (Пін. Нар. лекс.,

с. 114); **праўцако́м** *прысл.* 'дыбам' (Браг. Нар. словатв., с. 130).

**ПРАХАПІЦЬ** *зак.* Прабраць за што-н., вылаяць. *Хоць бы гарадавы здарыўся — можна было б прахапіць яго, за чым пазірае, чаму дазваляе свінням шпацыраваць па тратуарах!* Так і трэба ашуканцу.

**ПРАЯВІНА** *ж.* Праяўленне. *То — спакуса для дурнога, То — праявіна ліхога, Каб забраць каго ў палон.* Сымон-музыка.

**ПРАЯЎКА** *ж.* Прымета, знак. *Міхал прыцяміў выпадкова Густы, чырвоны след крываўкі! «Эге, брат, дрэнныя праяўкі: Прыйшла згінота на Міхася!» — Падумаў ён у нейкім страсе..* Новая зямля.

**ПРОЖАР** *м.* Абжора. *І сапраўды, Касперыч залажыў у рот апошні кавалак хлеба і сала, не спяшаючыся пачвакаў, глынуў з выглядам пераможцы і нават засмяяўся. — О, — сказаў ён, — цяпер аж да заўтрашняга можна трываць: Тургай гучна зарагатаў. — Ось прожар, дык прожар!* На ростанях.

**Про́жар** *м.* і *ж. неадабр.* 'абжора' (Шчуч. СПЗБ); 'валлё' (Карэл. Сцяшковіч, 1972); **про́жыр** *м.* 'пражора' (ТС); 'абжора' (Пух. МСММГ, 1974);

**ПРОРАСЦЬ** *ж.* Маладая трава. [*Маці:*] *Ну, дачушка, не лянуйся! Выжань іх* [*авечак*] *на прорасць нашу...* Пастушка.

**Про́расць** *ж.* 'ранніія ўсходы збожжа' (Карэл. Сцяшковіч, 1972).

**ПРОСТ** *м.* Нешырокая паласа збожжа, занятая жняёй. *Жарыць сонца без літосці, Варам пыша ад палёў, Трэцца жыта ў пыл на просце, Зерне сыплецца далоў.* Жніўныя песні.

**ПРОШЛАСЦЬ** *ж.* Мінулае. *Пускае сонца ў неба стрэлы, А ён* [*Дзяжа*], *затоены, знямелы, Шукае прошласці сляды.* На шляхах волі.

**Про́шлы** *прым.* 'прошлы, мінулы' (ТС; Верхнядзв., Дзятл. СПЗБ); 'мінулы' (Чэрв. Шатэрнік); **про́шлы** *і* **(прэ́шлы)** *прым.* 'мінулы' (Гродз. Цыхун). Параўн. польск. *przeszłość* 'мінулае'.

**ПРЫБУДОЎКА** *ж.* Тое, што прыбудавана да асноўнай пабудовы, а таксама іншыя дапаможныя будынкі. *На*

*гэтай палянцы, за паўвярсты ад дарогі, раскінулася чыясь пасада, як сярэдняй рукі фальварак, з усімі прыбудоўкамі, садам і прасторным дваром.* На ростанях.

**Прыбудóўка** *ж.* ‘прыбудаванне к дому, хляву’ (Ваўк. Сцяшковіч, 1972); **прибудóвка** *ж.* ‘прыбудаваны будынак’ (Насовіч).

**ПРЫВАБ** *м.* 1. Прывабнасць. *Колькі хараства і чароўнага прывабу ў сініх іх далях!* На ростанях. 2. Тое, што вабіць, хвалюе. *Пазірала яна [хмурынка], зачароўвала ўсіх Шаўкарунньмі пасмамі кос, Радасць, моцны прываб адбіваліся ў іх, І шчаслівым здаваўся іх лёс.* Сымон-музыка. *Простыя матывы, крыху змякчалыя адлегласцю, хвалявалі маладога настаўніка, як нейкі няясны прываб, і разам з гэтым паглыблялі яго смутны настрой.* Там жа.

**Пріва́ба** *ж.* ‘прываба, прынада’ (Краснап. Бялькевіч); **прива́ба** *ж.* ‘прынада’ (Насовіч).

**ПРЫВАРОТНЫ** *м.* Вартаўнік, брамнік. *У жалезнай сцяне брамы адчыніліся дзверцы, таксама жалезныя. Адтуль выглянуў вусаты пануры твар астрожнага прываротнага.* На ростанях.

**Прыварóтнік** *м., жарт.* ‘вартаўнік’ (Мсцісл. Юрчанка, 2002); **прыварóтница** *ж.* ‘вартаўніца’ (Насовіч).

**ПРЫГУМЕНЬ** *м.* Прыгуменне. *Дзядзька Марцін кінуў рэзаць сечку і выйшаў на прыгумень: па тону вітання ён дагадаўся, што свой чалавек вітае на хутар.* На ростанях. *Васіль на змярканні выйшаў ціхенька з хаты, зайшоў на прыгумень, адтуль пералезшы плот, пайшоў загуменнем і выйшаў з другога канца сяла на бераг Нёмана.* Нёманаў дар.

**Пругмéнь, прыгýмнік** *м.* ‘прыгуменне’ (Дзярж. З нар. слоўн., с. 106); **пругмéнё** *н.* ‘прыгуменне’ (Карэл. З нар. лекс., с. 161).

**ПРЫДАНЫ** *мн.* Вясельныя госці з боку маладой. *Вось так натоўпам шлі прыданы, Спявалі п’яныя. Мар’яна праз тын глядзела на іх тлум..* Мар’яна-чарніца.

**Прыда́ные** *мн.* ‘вясельныя госці з боку маладой’ (ТС); **прыда́ныя** *мн.* ‘удзельнікі вяселля, якія суправаджаюць маладую’ (Глыб., Лід., Пух., Старадарож. СПЗБ; Верхнядзв. Шаталава); **прыда́нкі** *мн.* ‘госці ад маладой, якія вязуць

прыданае маладой да маладога' (Верхнядзв. Шаталава; Іван. ДСБ). Параўн. укр. *придани* 'вясельныя госці з боку маладой, якія ідуць з ёю ў дом маладога'.

**ПРЫЗОР** *м.* Догляд, прыгляд. *Адным словам, на ўсім быў відзен адбітак дзявочага прызору і акуратнасці.* На ростанях. *Ці не дзедка з падарожжа Небу скаргу пасылаў За дзіцятка, што марнее Без прызору, без бацькоў..* Сымон-музыка.

**ПРЫКАЗАННЕ** *н.* Наказ. *Дае ён [Антось] хлопцам прыказанне, Хоць тыя самі без прыказу Ахвотна годзяцца адразу..* Новая зямля.

**ПРЫКІДА** *м.* і *ж.* Той, хто прытвараецца, прыкідваецца; прытворшчык. *А ён [Лабановіч]... проста — манюка, хітрэц, фарысей, ашуканец, прыкіда, фальшываманетчык, бо выдае сябе не за тое, што ён ёсць...* На ростанях.

**ПРЫКІДЛІВЫ** *прым.* Напускны, прытворны. *Вольга Віктараўна з прыкідлівым дакорам глядзіць на суседа і ківае галавою.* На ростанях.

**Прыкі́дліву** *прым.* 'прыветлівы' (ТС); **прики́дливый** *прым.* 'прытворны' (Насовіч); **прыкідны́** *прым.* 'ласкавы, прыхільны (пра чалавека)' (Старадарож. Нар. сл., с. 20); **прыкі́дны** *прым.* 'прыветлівы' (ТС).

**ПРЫКЛАД** *м.* Абчэсаны кавалак ствала дрэва (часцей дуба) з сучкамі ці камень, якія клаліся на магілу на Палессі. *Азірнуўся [Сымонка] — зноў магілы І пахілыя крыжы. А на прыкладзе драўляным Бачыць — сівенькі дзядок, Дзед Курыла, ў бель убраны, Галаву схіліў набок І ўсё грае, ды так гожа..* Сымон-музыка. *Кучкі насыпанай зямлі, абложаныя дзёрнам і каменьчыкамі, паказваюць мейсца пахаваных. Сумна скланіліся драўляныя крыжы над гэтымі кучкамі, на каторых ляжаць прыклады з дрэва ці проста камень.* Могілкі. *Пры дарозе на кургане Толькі крыжам болей стане, Лішнім прыкладам ў нагах. Цяжкі камень сціснe грудзі, І забудуць скора людзі, Чый пакоіцца тут прах.* Сялянская доля.

**Пры́клад** *м.* 'надмагільны помнік' (Ганц., Лях. СПЗБ); 'помнік на магіле' (Карэл. Сцяшковіч, 1972).

**ПРЫКЛЫГАЦЦА** *зак.* Марудна ідучы, прыбыць. *На трэцю ранічку да дня — Мужчыны трохі і блудзілі, Дарога*

*ж мерылась на мілі — Яны прыклыгаліся да мэты, Каб аглядзець куточак гэты.* Новая зямля.

**ПРЫМЕЖЖА** *н.* Граніца. *Назаўсёды ў народнай памяці застанецца той час, калі халаднаватай вераснёвай раніцай упаў збуцвелы слуп на прымежжы і змучаны доўгаю няволяй беларускі селянін абняў дарагога свайго вызваліцеля, савецкага салдата.* Уз'яднанне.

**ПРЫМЕТКА** *ж.* Аўтарскае адступленне ад асноўнай сюжэтнай лініі; устаўка. *Закончыў VI раздзел. Прыйдзецца падчысціць яго. Думаю пра наступны VII. Змест яго выяўлен. Пачаў са ўстаўкі — прыметкі: цяжкая зіма 1939—[19]40 гг. Вымерзшыя сады — бяда, павал людзей..* Кніга Ташкенцкага быція.

**ПРЫМЕЦЬ** *незак.* Магчы, мець магчымасць. *І між сабою няма згоды: Адны другіх бы тут паелі, Або ўтапілі б, каб прымелі.* Новая зямля. *Падшыбла злосць яго* [*дзядзьку*] *такая, Што каб прымеў бы, ўзяў саломы Ды падпаліў бы ўсе харомы, Бо ўсе дарогі загрузілі І свет яму тут зачынілі.* Там жа.

**Прыме́ць** *зак.* 'мець магчымасць' (Уздз. МСММГ, 1974); 'мець змогу, магчы' (Слон. Жыв. нар. сл., с. 129); **приме́ць** *зак.* 'магчы, мець сілу' (Насовіч).

**ПРЫМОЎКА** *ж.* 1. Словы звароту да каго-н., якія папярэднічаюць размове. — *Ну, вось і добра, мой васпане. Хоць, праўда, васпан мусіў сам Аддаць мне першым прывітанне, Ды грэх падзелім папалам. Такой лісліваю прымоўкай Сустрэў пан Богут бабыля, Каб акруціць сваёй вяроўкай, Дасціпным ходам круцяля.* Рыбакова хата. 2. Прымаўка, прыказка. *Ёсць у народзе сказ-прымоўка: «Дай божа ў добры час сказаць, А ў час нядобры памаўчаць», Дык вось і думай тут, галоўка.* Там жа.

**Прымо́ўка** *ж.* 'прымаўка' (Ганц., Глыб. СПЗБ); **примо́вка** *ж.* 'прыказка; дакор, упіканне' (Насовіч).

**ПРЫМУСА** *ж.* Прымус, прымушэнне. *Няма ні хітрыкаў, ні здрады, Ні гэтай фальшы, ні падкусы; Ідзе гаворка без прымусы, Хвілінак першых палі путы, І душы насцеж разамкнуты.* Новая зямля.

**ПРЫНАПРУДЗІЦЬ** *зак.* З сілай напружыць. *Плячук тут дзядзька прынапрудзіў, Крутнуўся моцна навакола, Чуць*

*з ног не збіўшы балагола, Ды наступіў на бот падпанку..* Новая зямля.

**ПРЫС** *м.* Шост для кіравання плытом. *Вось, здаецца, Лукаш стаіць з прысам на галаве плыта, а Піліп-заднік, яго памочнік, завіхаецца ззаду.* Адгукнуўся.

**Прыс** *м.* 'доўгі шост з гамярэшкай у плытагонаў для адпіхвання ад берага і зняцця з мелі плыта' (Гродз. Нар. сл., с. 257); 'доўгае вясло або жэрдзь' (Лоеў. Янкова); 'багор' (Віл., Пух. СПЗБ).

**ПРЫСПЕШЫЦЬ** *зак.* Даняць. *Нечым сэрца распацешыць. Нечым дух разварушыць, Як часамі боль прыспешыць, Голас волі закрычыць...* Нявольніцтва.

**ПРЫТУЛЬНЫ** *прым.* Утульны. *За хатай поле пачыналась, Дзе жыта хораша гайдалась, І рос авёс, ячмень і грэчка, — Было прытульнае гняздзечка!..* Новая зямля.

**Прыту́льны** *прым.* 'добразычлівы, ветлівы' (Астр. Сцяшковіч, 1983). Параўн. польск. *przytulny* 'утульны'.

**ПРЫЎДАТНЫ** *прым.* Вельмі ўдалы; прыўдалы. *І ўсё патроху ажывала: На дрэве покаўка таўшчала, Ў сабе лісточак далікатны, Пахучы, свежанькі, прыўдатны На добрым сонцы гадавала.* Новая зямля.

**ПРЫХВАЦІЦЬ** *зак.* Змацаваць што-н. чым-н. *На рэчку човен ён спускае — Няхай сабе тут намакае; А там, управіўшысь з сяўбою, Залье Антось яго смалою, Агледзіць і заканапаціць, А дзе і бляхаю прыхваціць.* Новая зямля.

**ПРЫЦЯМІЦЬ** *зак.* Убачыць, заўважыць. *Прыцяміць [Цімох], хто кепска абуты, І знікне. Засядзе ў куце Ды кроіць ліповыя луты І лапаць сумленна пляце.* Адплата. *Міхал прыцяміў выпадкова Густы, чырвоны след крываўкі!* Новая зямля.

**Прыце́міць** *зак.* 'прыкмеціць, заўважыць' (Беш. Нар. сл., с. 96); **прыця́миць** *зак.* 'заўважыць' (Насовіч).

**ПРЫЧХАЦЬ** *зак.* Хутка прыйсці, прыбегчы. *Ён кулём, як ліс у норы, За хлявы, ў задворкі... Вось Алесь прычхаў дадому, Стаў на прыгуменні. Страшна ў хату йсці малому..* Не вытрымаў. *Цешча коціцца кулём, Ды праз поле, ды праз жыта Смаліць к дзеду перуном. Прычхала дадому, Засопшыся, цешча, На зяця старому і верне і плешча..* Зяць.

**Прычха́ць** *зак.* 'ледзь прыйсці' (Лоеў. Янкова).

**ПРЫШВАРНАВАЦЬ** *зак.* Прычапіць, прымацаваць. *Брычку* [*хлопцы*] *прышварнавалі да перадка.* У балоце.

**ПРЫШЧЫЦЦА** *незак.* Пячыся на сонцы, знемагаць ад гарачыні. *Блеск гарачы слепіць вочы, Душна ў лесе і ў палёх. За гавядай аж да ночы Зранку прышчыцца Цімох.* Пастушок.

**Пры́шчыцца** *незак.* 'пячыся, грэцца на вельмі гарачым' (Стаўб. 3 нар. сл., с. 80).

**ПРЫЯЗДЖАК** *м.* Пра чужога чалавека, які прыбыў, прыехаў адкуль-н.; прыезджы. *Ён* [*афіцэр*] *будзе тут час некаторы — Няхай прабачыць гаспадар: Вайна кладзе на ўсіх цяжар, А мірным людзям ён не вораг, І ад яго не будзе гора, — І прыязджак глядзіць у твар.* На шляхах волі.

**Прыязджа́лы** *прым.* 'прыезджы' (Воран. СПЗБ).

**ПРЫЯЦЁЛКА** *ж.* Сяброўка. *Паклала Мар'яна гасцінец круты Назад у кашолку, Наперад заходзіць, моў, бачце, браты, Сваю прыяцёлку!* Адплата. *Тут лугам, полем патыхала, А на гваздзі ў таўшчэрным шуле Цапы віселі бы заснулі. А вілы, граблі і мяцёлкі, Малацьбітовы прыяцёлкі, Каля варот адны стаялі — Таксама працы ўжо чакалі.* Новая зямля.

**Прыяцёлка** *ж.* 'сяброўка' (Карэл. Сцяшковіч, 1983). Параўн. польск. *przyjaciółka* 'жанчына або дзяўчына, з якою аб'ядноўваюць каго-небудзь пачуцці сяброўства'.

**ПСЯЛЫТКІ** *мн., лаянк.* Сабачыя ногі. [*Адзін:*] *Пяць соцень, чуеш? Ах, псялыткі! Але дастаць іх труднавата.* Суд у лесе.

**ПУДЛА** *н.* 1. Няўдалы выстрал, промах. [*Даніла:*] *Вось дзе стрэльба! — Паядынку Стаў Даніла выхваляць. — Хай звязаў я лыкам рулю, Але пудла не дала. І глядзі, якую дулю У чмыс зверу паднясла!* Сымон-музыка. 2. У выразе: даць пудла. Зрабіць што-н. неабдумана. *У настаўнікаў настрой быў зніжаны, асабліва ў Садовіча.. І як далі яны такога пудла! Варту знялі тады, калі яна была найболей патрэбна.* На ростанях.

**Пу́дло** *н.* 'промах, няўдалы выстрал, які толькі напалохаў птушак або звера' (Насовіч); **даць пу́дла** 'моцна пабіць' (Лоеў. Янкова). Параўн. польск. *pudło паляўн.* 'няўдалы выстрал, промах'.

**ПУДЛАВАЦЬ** *незак.* Рабіць промахі. — *Кінь ты, княжа, сваю жынку* [*стрэльбу*], *Каб не смела пудлаваць! Вось дзе стрэльба! — Паядынку Стаў Даніла выхваляць.* Сымон-музыка. [*Дзядзька:*] — *Ты ж стой, брат, тут! Пільнуй, як вока: Ён* [*тхор*] *тут, галубчык, недалёка! І не пудлуй, не дай, брат, маху, — Валі рыдлёўкаю без страху...* Новая зямля.

**Пудлава́ць** *дзс.* 'не пападаць у цэль' (Чашн. Каспяровіч). Параўн. польск. *pudłować паляўн.* 'даваць маху'.

**ПУЖАЛЕНЦА** *н.* Невялікае пугаўё. *Міхал яшчэ раз кінуў вокам, Э, хата — глупства: лес пад бокам. З такою думкаю ў акенца Міхал пастукаў пужаленцам.* Новая зямля.

**ПУЖАЛЬНА** *н.* Пугаўё. *Ранічкаю чуць свет Лукаш выступаў у паход, апранаў світку, вешаў цераз плячо торбу з правізіяй, браў адмысловую пугу на кароткім ёмкім пужальне, пугу сажні тры даўжынёю.* На ростанях.

**Пужа́лна** *н.* 'пугаўё' (Бяроз., Лун. Шаталава); **пу́жално** *н.* 'пугаўё' (ТС; Пін. Нар. лекс., с. 114); **пужа́льнішча** *н.* 'пугаўё' (Гродз. Цыхун); **пужа́льна** *н.* 'пугаўё' (Лід., Шчуч. СПЗБ); **пужално́** *н.* 'пугаўё' (Ашм. Сцяшковіч, 1983); **пужаўно́** *н.* 'пугаўё' (Маладз. МСММГ, 1974); **пужа́льно** *н.* 'пугаўё' (Навагр. Нар. словатв., с. 46); **пужальнё** *н.* 'пугаўё' (Шчуч. З нар. слоўн., с. 48).

**ПУПЫРЫЦЦА** *незак.* Падымацца ўверх, тапырыцца. *Над балотцам густой аксамітнай шчоткаю ячмень пупырыцца, на той бок хаты пшаніца з зямлі выбіваецца, а поруч з пшаніцай, па другі бок дарожкі, зялёнай коўдрачкаю авёс сцелецца.* Хатка над балотцам.

**ПУРЫШКА** *ж.* Парэчка. *У параўн. Незнаёмы, як і Грышка, Аднаго з ім росту, Загарэлы, бы пурышка.* Спатканне і знаёмства.

**Пуры́ны** *мн.* 'чорныя парэчкі' (Пін. Шаталава).

**ПУСТАПЛЯС** *м.* Гультай, лодар. *У дзядзькі цэлы спрат запасаў — Не любіць дзядзька пустаплясаў. Вось вы зірніце ў хлеў на вышкі! Там многа яблынін на лыжкі, Там ёсць ігруша, і кляніна, Якая хочаш дравяніна: Грабільны, коссі, клёпкі, восі...* Новая зямля.

Параўн. укр. *пустопляс* 'гультай'.

**ПЫНІЦЦА, ПЫНЯЦЦА** *незак.* 1. Займацца хатнімі, гаспадарчымі справамі. *Абыклы час: то выязджаю на кароткі час у горад, то пынюся каля дому.* На схіле дзён. *Мар'яна з Аўдоцціяй — кухаркі, Пыняліся больш каля печкі.* Адплата. 2. Затрымлівацца. *Тым часам ў хаце ўсё гатова, Цяпер за бацькам толькі слова, Бо ён у лесе прыпазніўся, І вось цяпер яшчэ пыніўся.* Новая зямля.

**Пыні́цца** *незак.* 'знаходзіцца' (Карэл. Сцяшковіч, 1983).

**ПЫНІЦЬ** *незак.* 1. Рабіць што-н. па гаспадарцы, займацца хатнімі справамі. — *Чаго ж бо ты цягаўся па надворку? — з ціхай ласкаю і разам з нейкім дакорам сказала маці і пайшла пыніць сваю работу.* Чоран. *Відаць, даўно гаспадары Збіраюць, складваюць дары І пыняць рупна, адмыслова, Ва ўсім парадак і ахова.* На шляхах волі. 2. Стрымліваць, спыняць што-н. *Але ў разгар натхнёнай плыні Пачуццяў, вобразаў і слоў Сястра ідзе сюды ізноў І бег лірычных думак пыніць, Чытае спісак з важнай мінай..* На шляхах волі. 3. У выразе: пыніць жывот. Наядацца. *Варона гонар свой збаўляе, Ды зноў да сметніка вітае І свой жывот галодны пыніць, На спевы дзюбы не расчыніць.* Новая зямля.

**Пыні́ць** *незак.* 'рабіць усю хатнюю работу' (Пух. МСММГ, 1970); 'збіраць ягады, грыбы' (Бял. Яўсееў); 'знаходзіцца, праводзіць час' (Карэл. Сцяшковіч, 1972); 'выконваць, даглядаць' (Іўеў. Сцяшковіч, 1983); **пыне́нне** *н.* 'стараннае збіранне ягад, грыбоў' (Бял. Яўсееў).

**ПЫРНІЦА** *ж.* Пырнік. — *Зямля запушчана ўваспана; Пакрыта скураю дзірвана. Глядзеце — пырніца якая! — Зямлі вартоўнасць ён зніжае: — Чартапалох буяе дзікі! — Антось звярнуўся да Хадыкі: — А дзе ўжо пырнік завядзецца, Змаганне трудна з ім даецца!* Новая зямля.

**Пы́рніца** *ж.* 'пырнік' (Стаўб. Жыв. сл., с. 110).

**ПЫСКІ** *мн., груб.* Рот, губы. *У зубы ўсунуў [Богут] папяросу, Ідзе Марыне насустрэч. Ухмылка крывіць яго пыскі, З іх чуць не капае алей.* Рыбакова хата.

**Пыск** *м.* 'рот, вусны' (*груб.*) (Гродз. Цыхун); 'пашча звера' (Гродз. Сцяшковіч, 1983); **пы́сак** *м.*, **пы́скі** *мн.* 'морда' (Віл., Зэльв., Паст. СПЗБ); **пы́сы** *мн.* 'морда' (Чэрв. СПЗБ); 'канец морды з губамі' (Чэрв. Шатэрнік);

**пы́са** *ж.* ‘мыса ў жывёлы’ (Ваўк. Сцяшковіч, 1972); ‘морда’, *груб.* ‘твар’ (Лоеў. Янкова); **пы́ска** *ж.* ‘скронь за шчакою’ (Насовіч). Параўн. польск. *pysk груб.* ‘твар, шчокі, губы’.

**ПЫТАЛЬ** *м.*: **ЗАДАВАЦЬ ПЫТЛЮ**. Вельмі шчыра, з запалам іграць. *Граў на скрыпачцы камар, На дудачцы — чмель-дудар, Хрушч узяў басэтлю, Задае там пытлю.* Раквусач.

**ПЫТЛЯВАЦЬ** *незак., перан.* 1. Есці хутка, са смакам. *Пракоп са смакам пытляваў кілбасу, зацярушваючы бараду капустаю.* Адшчапенец. 2. Асуджаць, крытыкаваць. *Пытлюе [прамоўца] ворагаў і хвошча, Нікому літасці няма. Развенчан Керанскі пыхлівы І цэлы рад меншавікоў.* На шляхах волі.

**Пы́цялям** *прысл.* ‘вельмі хутка’ (Навагр. Жыв. нар. сл., с. 113).

**ПЫЦА** *ж., груб.* Морда. *Толькі ж ведай: фрыцы Будуць з бітай пыцай, І ты будзеш біты..* Рыцар Шыкльгрубер. [*Міхал:*] *А, дурань, воўча тваё мяса! На двор брахаць, стары дурніца! Гаршчэчнік, чортава ты пыца! — І на сабаку накрычаўшы, Тады ўжо стрэльбу з плеч знімае..* Новая зямля.

**Пы́ца** *ж.* ‘морда’, *груб.* ‘твар’ (Лоеў. Янкова); **пыця́тый** *прым.* ‘мардаты, пухнашчокі’ (Пін. Нар. лекс., с. 115).

**ПЫШЛІВА** *прысл.* Фанабэрыста, ганарыста. *Ехаў ён [пан Крулеўскі] горда, пышліва, як праслаўлены ваяка.* Дрыгва. *Над ім [Лабановічам] са сцяны пышліва схіляліся строгія, размалёваныя цары і царыцы ў пазалочаных рамах.* На ростанях.

**ПЫШЛІВАСЦЬ** *ж.* Фанабэрыстасць, ганарлівасць; пыха. *Пану Крулеўскаму здавалася, што на яго цяпер пазірае ўвесь свет, і пышлівасці яго не было канца.* Дрыгва.

**ПЫШЛІВЫ** *прым.* 1. Фанабэрысты, ганарысты. *На працягу ўсяго часу, як людзі ведаюць іх [паноў], яны заставаліся аднымі і тымі ж: пышлівымі, надзьмутымі, пустымі і жорсткімі.* Дарагія землякі! 2. Прытворны, няшчыры. [*Мазепа да Марыі:*] *Ці ж мне, скажы, у мае годы Шукаць падобнае прыгоды — Пышлівых ласк пустых княгінь?* Палтава. 3. Раскошны, пышны. *Як ветлы погляд гаспадыні, На клумбачках за дзірваном Красуюць краскі пад акном, Гараць пі-*

*воны, веаргіні, Нібы пышлівыя княгіні, І пах стаіць над цветніком.* На шляхах волі.

**Пы́шный** *прым.* 'горды, надзьмуты' (Краснап. Бялькевіч); **пы́шенный** *прым.* 'горды, непрыступны' (Насовіч).

**ПЭ-ПЭ-ЭСЫ** *мн.* Члены Польскай сацыялістычнай партыі (ППС). *Ды ліха ў тым, каханыя, Што вы* [*паны*] *прыйшлі нязваныя, Убіліся ў наш край, Зрабілі яго «крэсамі» І разам з пэ-пэ-эсамі Заслалі тут абрус.* Панская ласка.

**ПЯКОЛАК** *м.* Выступ на бакавой або пярэдняй сцяне печы. *Густа пах стаяў ад зёлак І дурманіў галаву; Разлажыла на пяколак Бабка розную траву, І пучочкі ўсякіх кветак Тут развешаны былі..* Сымон-музыка. *Газовачка цьмяна курыць на пяколку.* Дрыгва. *Дзецюкі, пабраўшы пары, Тут ляталі, як віхры.. Верцяць дзевак, бы круцёлак, На паветры іх нясуць, Сцены, прыпек і пяколак Іх хвальбонамі мятуць..* Сымон-музыка.

**Пякóлак** *м.* 'прымурак (выступ печы)' (Астр., Паст., Смарг. СПЗБ); 'цагляны карніз (выступ) на бакавой сцяне печы, па якому залазяць на печ' (Верхнядзв., Свісл. Шаталава); 'выступ па рабру печы ў выглядзе лаўкі' (Чэрв. Шатэрнік).

**ПЯРЫЛКІ** *мн.* Поручні. *Ужо пароблены ўсходы, няма яшчэ толькі пярылак.* На Асінбудзе.

**ПЯРЫЛЦА** *н.* Поручань. *Вясёлая, баявая Насця Чычка, ёмкая, з мужчынскімі ўхваткамі, бураю налятае на мізэрнага Міхайлу Драбка, хватае пад паху і — круць з дарогі, а сама наперад бяжыць, за пярылца бярэцца, каб на ніз спусціцца латвей.* На прасторах жыцця.

**ПЯРЫЛЫ** *мн.* Перагародка, якая аддзяляла ток у гумне ад застаронка. *Усяго паўнютка, хвала богу, — Збажынкі новай і мурогу. Здавалась, стрэхі і пярылы Ўсяго трымаць не мелі сілы, Бо з двух бакоў над самым токам, Калі на іх ты кінеш вокам, Сянцо, збажынка навісала.* Новая зямля. *На таку каля пярылаў стаяла саматужная сячкарня — бервяно-казлы на чатырох ножках з дзвюма парамі ўбітых наўскасяк спіц, накшталт зайцавых вушэй, каб трымалася салома.* Адшчапенец.

**Запяры́лак** *м.* 'дашчаная перагародка ў гумне паміж токам і стараною' (Карэл. Жыв. нар. сл., с. 58).

**ПЯРЭБЕРЫЧ** *м.* Ахапак травы, мурагу і пад. *Сушэйшага мурагу яны* [*Янка і Якуб*] *прынеслі па пярэберычу пад*

*дуб: пасля падмацавання захочацца паляжаць на сене ў цяньку.* На ростанях.

**Пяр́эбірак** *м.* ‘ахапак сена’ (Уздз. МСММГ, 1977; Бар., Ганц., Лях., Пух. СПЗБ); ‘пласт сена’ (Карэл. Сцяшковіч, 1972); **пяр́эбір** *м.* ‘пласт сена’ (Старадарож. Нар. сл., с. 20); **пяр́эбер** *м.* ‘пласт сена’ (Петр. Шаталава); **пяр́эбіранка** *ж.* ‘нагрэбенае да нагі ад агульнай кучы граблямі сена або салома’ (Пух. Шатэрнік); ‘пласт сена’ (Чэрв. СПЗБ); **пяр́эбірка** *ж.* ‘пласт сена’ (Бар., Ганц. ДСБ); **пяр́эбарка** *ж.* ‘ахапак’ (Пух. МСММГ, 1970).

**ПЯРЭСМЫКІ** *мн.* 1. Перасячэнне многіх сцежак, дарог. — *Пакінь, Міхась, ты сучку дома, Мо дзе забіўся тхор між лома: Ў карчах на рэчцы следу многа, Іх там пярэсмыкі, дарога.* Новая зямля. 2. Мнагалюднае, неспакойнае, шумнае месца. *І там жывуць сабе без гора, — Гаворыць з зайздрасцю і маці, — А тут, як дзе на воўчай гаці, Як на пярэсмыках якіх, Цябе трывожаць кожны міг.* Новая зямля. *Станцыя Орша заўсёды набіта народам. Гэта — пярэсмыкі рознага люду.* Паездка на Асінбуд.

**Пяр́эсмыкі** *мн.* ‘скрыжаванне дарог’ (Карэл. Сцяшковіч, 1972).

**ПЯРЭСЦЯГ** *м.*: **НА ПЯРЭСЦЯГІ**. Насустрач, наперарэз каму-н. *Так ідзе адна* [*Ганна*], *гадае, Аж зірнула — дух унік: На пярэсцягі ёй з гаю Шусь пануры Дамянік!* Сымон-музыка.

**ПЯТРОЎКА** *ж.*, **ПЯТРОЎКІ** *мн.* Пара, час, на які прыходзіцца рэлігійнае свята Пятра і Паўла. *Гарыць над абрусам не тая газоўка, Не тая куравасць карча, А лямпа, што свеціць, як сонца ў пятроўку, — Дзівосны агонь Ільіча.* Дзед-калгаснік. *Ідуць грабцы, жанкі, дзяўчата, Убраны хораша, бы ў свята.. Ідуць, пракосы разбіваюць, З лагчынак сена выграбаюць, То там, то сям у чэсць пятровак З грудзей тых макавых галовак, Дзяўчатак слаўных, яснавокіх, Ў лугах пrasторных і шырокіх Плывуць-дрыжаць спяванак хоры.* Новая зямля.

**Пятр́оўка** *ж.* ‘рэлігійнае свята, якое адзначаецца 29 чэрвеня ст. ст.’ (Верхнядзв. СПЗБ); ‘пятроў пост перад 29 чэрвеня’ (Чэрв. Шатэрнік); **пытр́іўка** *ж.* ‘пятроўскі пост’ (Іван. Жыв. нар. сл., с. 98).

**ПЯХОТАМ** *прысл.* Пехатой, пешшу. *Алесь і Ўладзя, сын старэйшы, Пайсці пяхотам захацелі І з дзядзькам лесам гналі статка.* Новая зямля.

**Пяхо́там** *прысл.* 'пешшу' (Уздз. МСММГ, 1974); **пехото́м** *прысл.* 'пешшу' (ТС); **пяхто́м** *прысл.* 'пешшу' (Шчуч. СПЗБ; Дзятл. Сцяшковіч, 1983).

**ПЯЧУРА** *ж.* 1. Невялікая ніша ў сцяне печы. *Сур'ёзны, сталы не па летах, Гадуе ён* [*Даніла*] *у сэрцы план — Зажыць па-людску, а не гэтак, Як у пячуры таракан.* Рыбакова хата. 2. Паглыбленне ў зямлі, зробленае з пэўнай мэтай. *Зямлянка яго* [*Мікіты*] *— любата: Абложана мохам, абшыта, — Не страшны мароз і слата.. А колькі ж ён вырабіў ходаў, Каморак і розных пячур!* Адплата. 3. Печ. *Кажа Новы год Старому: — Дык спыні шум буры, Мо' пляцецца хто дадому, Да свае пячуры.* Пад Новы год (1914 г.).

**Пячу́ра** *ж.* 'дупло ў затанулай калодзе' (Гом. НЛГ); 'пячура, нара' (Касц., Мсцісл. Бялькевіч).

**ПЯЧУРКА** *ж.* 1. Ніша збоку прыпечка, куды заграбаюць вуголле, попел. *Бабка Наста пачала шворыцца ў пячурцы, каб запаліць газоўку.* Дрыгва. 2. Ніша, паглыбленне ў сцяне. *Але затое ж якіх толькі пячурак, ямак, закарвашачкаў не нарабіў тут Лапко!* Адшчапенец. 3. Невялікае паглыбленне ў зямлі. *Ён* [*чалавек*] *хутка нырае пад шурку, Прылёг, падаецца ў траву, Пад выварат шусь у пячурку! Ды ніжай угнуў галаву.* Адплата.

**Пячу́рка, пячо́рка** *ж.* 'пячурка' (Астр., Воран., Дзятл., Слон. Сцяшковіч, 1972); **пячо́рка** *ж.* 'пячурка; зямлянка' (Лоеў. Янкова); **пячу́рка, пячо́рка** *ж.* 'норка; невялікая духовачка ў печы на ўзроўні пачатку дымахода' (Чэрв. Шатэрнік); **пячу́рка** *ж.* 'малая нара, норка, ямка ў сцяне печы' (Бял. Бялькевіч).

# Р

**РАБАЦЕННЕ** *н., зб.* Вяснушкі, рабацінне. — *Што тваё за рабаценне! — казаў Базыль* [*да Грышкі*]. *Зімою зусім не знаць, а цяпер проста сонца трошкі асмаліла твар.* У старых дубах.

**Рабаце́нне** *н.* ‘пашкоджанне скуры ад воспы’ (Дзятл. Сцяшковіч, 1972); ‘вяснушкі’(Гл. Янкоўскі, 1960; Гродз. Цыхун); **рабаці́ньне** *н.* ‘плямы ад воспы; вяснушкі’ (Чэрв. Шатэрнік); **рабаццё** *н.* ‘вяснушкі’ (Астр. Сцяшковіч, 1972).

**РАБЭЙЗА** *м.* і *ж.* Пра чалавека, у якога рабы, вяснушчаты твар. *І толькі ў злосці назваў Грышка Базыля насалём — у Базыля быў даўгаваты нос, — а Базыль Грышку абазваў рабэйзаю.* У старых дубах.

**Рабэ́йза** *м.* і *ж.* ‘вяснушкаваты чалавек’ (Навагр. Нар. словатв., с. 47); ‘васпаваты, рабы чалавек’ (Слон. Жыв. сл., с. 159); ‘так гавораць пра таго, у каго на твары вяснушкі, рабацінне’ (Гл. Янкоўскі, 1970); **рабе́йза** *м.* і *ж.* ‘чалавек, у якога твар густа пакрыты рабацiннем’ (Ганц. ДСБ); ‘рабы, вяснушчаты’ (Слон. Сцяшковіч, 1983); ‘жанчына з рабацiннем’ (Старадарож. Жыв. нар. сл., с. 121; Клецк. Нар. лекс., с. 205).

**РАВІЗОВЫ** *м.* Рэвізор. *Тут быў Ракоўскі, пан ляснічы.. Быў пан Кржывіцкі, равізо́вы, Яшчэ нябачаны тут, новы.* Новая зямля.

**РАГАЛЬ, РАГОЛЬ** *м.* Пра жывёліну з вялікімі рагамі; рагач. *Утрох яны* [*валы*] *пайшлі весялей, а калі Саўка далучыў да іх і Бруевых рагалёў, то ўсе яны зусім дружна рушылі ў паход разам з Саўкам.* Дрыгва. *І вучням нават тут прыйшлося Сказаць дарэктару пра лося: Які вялікі ён, рагаты, Паджары і стрынгаляваты, Калі глядзець на яго ззаду, А з галавы — раголь-грамада!* Новая зямля.

**Рогале́** *мн. экспр.* ‘вялікія рогі’ (ТС). Параўн. укр. *рагляк* ‘алень’.

**РАДЖАЙНАСЦЬ** *ж.* Ураджайнасць. *Напэўна гэтая вадзіца Мабыць якая чараўніца, Калі наўперад многа знае І пра раджайнасць нешта бае.* Новая зямля.

**РАДЖАЙНЫ** *прым.* Урадлівы. [*Міхась:*] — *Вясна павінна быць раджайна: Вада шуміць штось незвычайна.* Новая зямля. *Зямля раджайна, ох, раджайна! Гарох расце тут незвычайна.* Там жа.

**Раджа́йны** *прым.* ‘урадлівы’ (Карэл. Сцяшковіч, 1972).

**РАДЖЭННЕ** *н.* Нараджэнне. *Я знаю: скончыцца дарога, Бо ноч нябыту, ноч-аблога Сачыць наш час ад дня раджэння Сляпымі зрэнкамі зацьмення.* Новая зямля.

Параўн. руск. *рождение* ‘момант з’яўлення на свет’.

**РАЗАК** *м.* Піла. *Дзе возьмеш дроў? Куды палажыш? Патрэбны разак і сякера.* Гаворыць Клязьма.

**Разáк** *м.* ‘піла, якой пілуюць дровы’ (Пух. МСММГ, 1970); ‘піла (папярочная)’ (Карэл. Жыв. нар. сл., с. 76); ‘разак’ (Мёр. Жыв. сл., с. 204).

**РАЗВЯЗАННЕ** *н.* Рашэнне, вырашэнне якога-н. пытання і пад. [*Гарнак да Грэнкі*:] *Але мяне цікавіць наша псіхалогія: чаму мы робім іменна так, як збіраемся рабіць? І ці ёсць гэта сапраўднае развязанне задачы?* Забастоўшчыкі.

Параўн. польск. *rozwiązanie* ‘вырашэнне, заканчэнне чаго-н.; выхад з пэўнага становішча’.

**РАЗГАВОР** *м.* Размова, гутарка. *З задзёртым вусам і ў гумору Вярнуўся ён* [*Богут*] *ад маладых — Задаў ім страху разгаворам, Пара дабраццa ўжо да іх.* Рыбакова хата. *Заказаў разгавор з Масквою на 9 г. раніцы.* На схіле дзён.

**Разгавóр** *м.* ‘размова, гаворка’ (Лоеў. Янкова). Параўн. руск. *разговор* ‘гутарка, размова’.

**РАЗГАЛОСНІ** *толькі мн.* Беспрадметныя, мнагаслоўныя размовы. [*Орлік да Качубея*:] *Пакінь пустыя разгалосні! Стары! твой блізак ужо час.* Палтава.

**РАЗГАЛОССЕ** *н.* Бязладныя гукі; шум. *Цупанне ў гумне бацькавага цэпа перабівае на кароткі час Амелькавы разважанні і прыкрым разгалоссем гучыць у яго вушах.* Драматург і лірычны паэт.

**РАЗГАЛЬ** *м.* Разгалінаваная частка карча. *Выразаў дубовую палку і ададраў ад карча дубовы разгаль.* Гаворыць Клязьма.

**РАЗГАТЫ** *прым.* 1. З шырока раскінутымі галінамі, голлем; разгалісты. *Асцярожна прабіраючыся па сухіх леташніх лісцях між разгатых кустоў, Грышка папрабаваў падняцца ўгару па схіле яру.* Крывавы вір. 2. Растапыраны ў бакі. *Жыў ды быў на свеце рак.. З лапамі разгатымі, Шырачэзны ў шыі. Клешні — во якія!* Рак-вусач.

**Разгáты** *прым.* ‘галінасты’ (Чэрв. Шатэрнік); ‘вілаваты’ (Пух. СПЗБ).

**РАЗГАЦІНА** *ж.* Частка тонкага разгалістага ствала або галіны. *А падпорка была дубовая. Знайшоў дзядзька Марцін гэтую разгаціну, вілаватую дубовую.* Дзядзькаў сведка.

**Разгáціна** *ж.* ‘разгалістае дрэва’ (Лях. СПЗБ).

**РАЗДЗЯВАЛЬНАЯ** *ж.* Раздзявальня. *Адна палавіна* [*лазні*] *была адведзена для раздзявальнай, а ў другой мыліся і парыліся.* Адшчапенец.

**Раздзява́лка** *ж.* 'раздзявальня' (Навагр. Сцяшковіч, 1972).

**РАЗЛАТАШЫЦЬ** *зак.* Разрабаваць, спустошыць. *У колькі дзён* [*Гітлер*] *змітрэжыў панскую Польшчу, забраў Чэхаславакію, разлаташыў Францыю, Бельгію.* Між дзвюх рэчак.

**Латашы́ць** *незак. экспр.* 'красці, грабіць' (Навагр. СПЗБ); 'страляць па кім-н.' (Верхнядзв. СПЗБ).

**РАЗЛЁТ** *м.* 1. Разыходжанне ў розныя бакі. *Няма на фронце папаўнення, Бо маршавыя роты Дарогай сыплюцца ў разлёты, А там, на месце назначэння, Звычайным сталася яўленне: Замест салдат — Пусты мандат І лозунг куцы: «Мір без анексій і кантрыбуцый!»* На шляхах волі. 2. Блытаніна ў чым-н., адсутнасць засяроджанасці (пра думкі). *І толькі тут, у першай роце, Дзе ён* [*Дзяжа*] *залічан быў ва ўзвод, Пачаў разблутваць перамот І меркаваць на адзіноце Аб новай чыннасці, рабоце, Сабраўшы мыслей той разлёт.* На шляхах волі.

**РАЗЛІНОВАНЫ** *прым.* Разлінеены. *Лабановіч сядзеў у сваім закутку, схіліўшыся над вялізнымі аркушамі разлінованай паперы.* На ростанях.

Параўн. польск. *rozliniować* 'разлінеіць'.

**РАЗЛОГА** *ж.* Участак вялікіх памераў; абшар. *Адным крылом звярынец гэты Сюды выходзіў на дарогу. Займаў ён цэлую разлогу: І лес, і луг, і часць крыніцы. Улетку ў ім растуць суніцы.* Новая зямля.

**Разло́г** *м.* 'прастор, нізіна' (Гродз. Сцяшковіч, 1972).

**РАЗНАБОЙНА** *прысл.* Без адзінства, неаднолькава, па-рознаму. [*Янка да Лабановіча*:] — *Справа, браток мой, не ў дакладнай тэрміналогіі, была б толькі верна і не разнабойна вызначана лінія агульных паводзін, а рэшту, вядома, трэба падгладзіць, падчысціць.* На ростанях.

**РАЗРАХУНАК** *м.* Разлік, меркаванне. *Завод быў разлічан на кароткі час з такім разрахункам, каб, выкарыстаўшы матэрыял, яго, завод, можна было кінуць.* На Асінбудзе.

**Разраху́нак** *м.* 'разлік' (Карэл. Сцяшковіч, 1972).

**РАЗРЫВАК** *м.* Занятак, які прыносіць задавальненне; уцеха, пацеха. *Сустрэнецца хто на пуціне, І сам усміхнецца яму* [*Максіму*] — *Разрывак жа трэба людзіне, Свая ж бо хвіліна ўсяму.* Адплата.

**Разры́ўка** *ж.* 'занятак' (Брасл., Гарад. СПЗБ); **разры́вка** *ж.* 'забава, пацеха' (Насовіч). Параўн. польск. *rozrywka* 'забава, пацеха'.

**РАЗУБРАНЫ** *прым.* Вельмі прыгожа, шыкоўна прыбраны. *Там віно шуміць і льецца, Мова хмельная вядзецца, Смех паненак маладых, Разубраных, як у маі Кветкі тыя на лугах, Як вясной бярозкі ў гаі, Як валошкі на палях. І якіх убораў толькі На паненках ні было!* Сымон-музыка.

**РАКУШКОМ** *прысл.* Ракам; на карачкі. *Урэшце ўсё абмеркавалі* [*хлопцы*], *Хітрэй не трэба, як пасталі: Адзін прыгнуўся ракушком, Другі ў падлогу ўпёрся лбом.* Новая зямля.

**Ракачко́м** *прысл.* 'ракам, на карачках' (Стаўб. МСММГ, 1974); **ракача́**, **ракачо́м** *прысл.* 'ракам, сагнуўшыся' (Капыл. Жыв. сл., с. 174).

**РАЛЬНІК**, **РОЛЬНІК** *м.* Араты, земляроб. *Там бы хацелі расці* [*ліпы*], *красавацца, Дол дзе капае ральнік, Родную песню дзе ціха спявае Сын Беларусі, мужык.* Ліпы старыя. *Шкода вёсак запусцелых, Дзе ральнік гаруе, Дзе зімою вецер вые..* Сохну марна я ў астрозе... *Выйшаў рольнік з хаты ў поле Ды па межах ходзіць, Каб пабачыць сваім вокам, Як бог жыта родзіць.* Рольнік.

**Ральні́к** *м.* 'араты' (Карэл. Сцяшковіч, 1972); **ро́льнік** *м.* 'араты' (Астр., Бар., Лід. СПЗБ; Насовіч); 'земляроб' (Воран. Сцяшковіч, 1972; Стаўб. МСММГ, 1974). Параўн. польск. *rolnik* 'селянін, земляроб'.

**РАМАНСОВЫ** *прым.* Які мае адносіны да кахання. *Салдат у сваю чаргу не адводзіў вачэй ад бландынкі і часамі ўздыхаў, прагнучы жанчыны і смуткуючы па ёй. У часе гэтага рамансовага настрою і падышоў да яго парабак.* Дрыгва. *У момант вока «маладзіца» сціснула, як жалезнымі абручамі, рамансовага кавалера і грымнула яго ў снег.* Там жа.

Параўн. польск. *romansowy* 'рамантычны; любоўны'.

**РАМЕ** *н.*, **РАМЁНЫ** *мн.* Плячо, плечы. *І ён* [*рыбак*] *сядзібе ненавіснай Яшчэ раз грозіць кулаком І, торбу ўскінуўшы на раме, Ідзе ў бок рэчкі, у лугі.* Рыбакова хата. *Даз-*

*воль жа сказаць табе шчыра: Жыві, наш Мінай. Разгорнем рамёны мы шырай І вызвалім край.* Бацьку Мінаю.

**Ра́ме** *н.* ‘плячо’ (Насовіч); **рамёна** *мн.* ‘плечы’ (Воран. Сцяшковіч, 1983). Параўн. польск. *ramię*, мн. *ramiona* ‘плячо, плечы’.

**РАНДЭЛЕК** *м.* Невялікая каструля. [*З песні*:] «*На паліцы сланіна, Пані пеўня смаліла, А ў рандэльку стаіць лой, Але не твой, не — не твой!*» Новая зямля.

**Рандэ́ляк** *м.* ‘эмаліраваная каструля’ (Навагр. Нар. словатв., с. 47); ‘каструля з доўгай ручкай’ (Астр., Ваўк., Гарад., Лід., Люб., Маст., Нараўл., Смарг. СПЗБ); ‘каструля з ручкай’ (Маладз. МСНДМ, с. 104); ‘металічная пасудзіна з ручкай для прыгатавання ежы’ (Гродз. Цыхун); **рандэ́лак** *м.* ‘каструля’ (Кругл. МАСМ); **рандэ́лек** *м.* ‘каструля’ (Воран., Іўеў. Сцяшковіч, 1972); **рандэ́льчык** *м.* ‘каструля’ (Чэрв. Шатэрнік). Параўн. польск. *rondel* ‘гаршчок з адной ручкай або двума дзяржаннямі’.

**РАПАРАЦЫЯ** *ж.* Папраўка, рамантаванне. *Многа было аб ёй* [*грэблі*] *гутарак і сварак, калі справа заходзіла аб тым, каб яе паправіць. Бывала, так-сяк і збяруцца і падправяць сям-там, але такая рапарацыя мала давала карысці, і грэбля як была, так і заставалася іх бядою.* На ростанях.

Параўн. польск. *reperacja* ‘папраўка, рамонт’.

**РАСКАТУРХАЦЬ** *зак.* Разагнаць. *Гаспадарку сваю Ўсю з сабою вазьму. Песню я запяю — Раскатурхаю цьму.* З песень адзінокага.

**РАСКОШСТВА** *н.* Раскоша. [*Сымон*:] *Хоць бы тут: раскошства, пыха, А багацця, ох, багацця!* Сымон-музыка.

**РАСНІЦА** *ж.* Вейка. *Самкнёны павекі, расніцы, Як мрамар, застыў яго* [*партызана*] *твар.* Над магілай партызана.

**Расні́ца** *ж.* ‘вейка’ (Лід., Навагр. Сцяшковіч, 1972). Параўн. руск. *ресница,* польск. *rzęsa* ‘вейка’.

**РАСПАЦЕШЫЦЬ** *зак.* Развесяліць; суцешыць. *Нечым сэрца распацешыць, Нечым дух развварушыць, Як часамі боль прыспешыць, Голас волі закрычыць...* Нявольніцтва.

**РАСПЛАНІРОЎКА** *ж.* Размеркаванне чаго-н. згодна з пэўным планам. *З Міхасём рабілі распланіроўку зямлі пад сад.* На схіле дзён.

**РАСПРАЖЫЦЦА**, **РАСПРЫЖЫЦЦА** *зак.* 1. Праявіцца; абрушыцца з моцнай сілай. *А там, з захаду, разнімае шчыт Над зямлёю грымотная хмара, Грыва ўся ў агні, блізка гром гучыць, І распрыжыўся раптам ударам.* Дуб. [*Хмаркі*:] *Наш прыход на зямлю ў часе такой спякоты можа прычыніць ёй толькі шкоду, бо мы не можам паручыцца за сябе, каб не распражыцца страшным градам і бураю.* Над прасторамі зямлі. 2. *перан.* Моцна і бурна выразіць свае адносіны да чаго-н. *Ён* [*Пракоп*] *увесь ускіпеў і гатоў быў распрыжыцца ўсімі адзнакамі навальнічнай хмары, але раптам стрымаўся.* Адшчапенец.

**Распры́жыцца** *зак.* 'узнервавацца, раззлавацца' (Карэл. Сцяшковіч, 1972).

**РАССУДАК** *м.* Розум. *Наперакор яго* [*Дзяжы*] *рассудку І ўсёй цвярозасці разваг Стаіць яна* [*Насця*] *ў яго вачах, Адна, пакінутая ў смутку.* На шляхах волі.

Параўн. руск. *рассудок* 'розум, развага'.

**РАСТАНЦЫ** *мн.* Скрыжаванне дарог; ростань. *Толькі ў полі* [*Сымон*] *затрымаўся, Пастаяў на растанцох Пад тым крыжам, дзе дарогі.. Беглі дальш у белы свет.* Сымонмузыка.

**Растанцы́** *мн.* 'ростань' (Маз. Шаталава); **ро́стані** *мн.* 'скрыжаванне дарог' (Барыс. СПЗБ); **раста́нькі** *мн.* 'перакрыжаванне некалькіх вуліц, дарог' (Бых., Касц. МАСМ); **расстанцы́** *мн.* 'месца скрыжавання дарог' (Карэл. Сцяшковіч, 1972); **растанькí** *мн.* 'ростань, перакрыжаванне дарог' (Лоеў. Янкова); **ро́станкі** *мн.* 'скрыжаванне дарог' (Насовіч).

**РАСТРУХАНЫ** *прым.* Растрапаны, раскалмачаны. [*Жук*] *не схаваўшы нават ніжніх мяккіх крылляў, упаў на спіну і пачаў ад здавалення перабіраць крывымі ножкамі. Зялёнакрылая і сінякрылая бабкі войкнулі і адначасна ледзь не памлелі — такім раструханым здаўся ім жук.* Што яны страцілі.

**Растру́ханы** *дзеепрым.* 'раскудлачаны' (Воран. СПЗБ); **растру́ханы**, **расту́рханы** *дзеепрым.* 'растрапаны, раскудлачаны' (Бераст., Шчуч. Сцяшковіч, 1983); **раструха́нка** *ж. лаянк.* 'растропаная жанчына' (Уздз. МСММГ, 1974).

**РАСЦЁКІ** *мн.* Вузкія палосы, струмені (святла). *Агні залатымі расцёкамі пабеглі, паплылі, як жвавыя бліскучыя струменьчыкі, угору.* Дрыгва.

**РАСЦЯЖНЫ** *прым.* Такі, які дапускае неадназначнае разуменне ці тлумачэнне; няпэўны. *Разуменне «заліць чарвяка» — рэч неазначаная і расцяжная: аднаму і кручка даволі, а для другога кручок — капля ў моры.* На ростанях.

Параўн. руск. *растяжимый* 'малаакрэслены, няпэўны'.

**РАСЧВАРТАВАЦЬ** *зак., перан.* Раздзяляць на часткі. *Можа ўзыдуць і вырастуць Нажы на два бокі, Расчвартуюць гніласць сэрца, Боль яго глыбокі.* Чыгрыне, Чыгрыне...

**Расчвартава́ны** *дзеепрым.* 'падзелены на часткі' (Карэл. Сцяшковіч, 1972).

**РАСЧОТЛІВЫ** *прым.* Абачлівы, асцярожны, які ўлічвае абстаноўку, дзейнічае з разлікам. *Англійскія палітыкі — халодныя людзі, людзі расчотлівыя.* З пісьма.

**Расчо́тны** *прым.* 'ашчадлівы' (Лоеў. Янкова). Параўн. руск. *расчетливый* 'які прымае ўсё ў разлік, дзейнічае асцярожна'.

**РАТА** *ж.* Частка намечанай работы. *Даніла кончыў сваю рату, Да купы ставіць капылы, Аж раптам стук пачуўся ў хату..* Рыбакова хата.

**Ра́та** *ж.* 'чарга пасці жывёлу' (Шчуч. З нар. сл., с. 48); 'чарга' (Віл. Шаталава; Лід., Шчуч. Сцяшковіч, 1983; Навагр. Нар. словатв., с. 47; Ашм. МСММГ, 1974; Дзятл., Іўеў. СПЗБ); 'падатак' (Пух. МСММГ, 1970); 'рата, чарговая павіннасць' (ТС).

**РАТАЙ** *м.* Араты. *Будаўнікі Савецкае краіны, Ратаі, кавалі, Мы створым новы свет..* Калгаснае.

**Ратáй** *м.* 'араты' (Астр., Ваўк., Гарад., Гродз., Зэльв., Маст. СПЗБ; Малар. ДСБ; Ваўк. Сцяшковіч, 1972; Івац. Жыв. сл., с. 32).

**РАТНІЦТВА** *н., зб.* Войска. *Сярод трывогі і ўзрушэння Спакойна, поглядам натхнення Правадыры на бой глядзяць, За рухам ратніцтва сачаць..* Палтава.

**Ра́тнік** *м.* 'апалчэнец' (Насовіч).

**РАЎНАДЗЕННЕ** *н.* Раўнадзенства. *Вось і вясенняе раўнадзенне.* З пісьма.

**РАЎЧАВІНА** *ж.* Роў, равок. *Агледзеўшы ўсе хвайнякі, Грыбныя мясціны, Груды, раўчавіны, Ідуць у барок грыбнікі.* Грыбы.

**Раўчучо́к** *м.* 'невялікі ручай' (Воран. Сцяшковіч, 1972); 'круглае паглыбленне на градзе для цыбулі, часнаку' (Чэрв. МСММГ, 1970); **раўчо́к** *м.* 'раўчук' (Краснап., Мсцісл. Бялькевіч); **раўча́к** *м.* 'рэчка', 'ручай' (Лоеў. Янкова); **ровча́к** *м.* 'невялікі роў' (Насовіч).

**РАЧЫ** *прым.* Які мае адносіны да рака; рачыны. *Ён [рак] вылезе з нары І смутак свой пакіне, Калі хто давядзе, Што ёсць яшчэ ў вадзе Ці проста абы-дзе Пакутнік яшчэ большы, Чый лёс за рачы горшы, — Іначай рак загіне.* Рак-вусач.

**РВАНЬ** *ж., зб.* Рванае адзенне, абутак і пад. *Дадуць яму [Ігнатовічу] старыя недатопкі — ён і на іх знойдзе ахвотніка, прадасць або памяняе на іншую рвань.* Стары канакрад.

**Рваннё** *н.* 'парванае адзенне' (Чав. МАСМ).

**РЖОННЕ** *н.* Іржышча. *А камандзір — што ён надумаў? На ветры стаўшы, спіскі рве! Па ржонню, па сухой траве Ляцяць шматкі папер для глуму Дажджоў, вятроў, ляцяць без шуму..* На шляхах волі.

**Ржо́нне** *н.* 'іржышча' (Лаг. Шаталава); **ржы́шча** *н.* 'іржышча' (Віл., Іўеў., Лях. СПЗБ); **ржы́шчо** *н.* 'іржышча' (Зэльв. Сцяшковіч, 1972); **ржы́ско** *н.* 'іржышча' (Івац. Жыв. сл., с. 29). Параўн. польск. *rżysko* 'ржышча'.

**РОЖАВЫ** *прым.* Які мае адносіны да ружы; ружавы. *Над тваёю магілаю пасадзяць рожавы куст..* Песня птушкі.

**Ро́жа** *ж.* 'дэкаратыўная расліна з вялікімі яркімі кветкамі' (Гродз. Цыхун); 'ружа' (Лоеў. Янкова; Гом. НЛГ; Касц. Бялькевіч; Чэрв. Шатэрнік; Насовіч).

**РОЗАЧКА** *ж.* Тонкая гнуткая галінка; дубчык. [*Лабановіч*:] — *Покі венік быў звязаны ў адным пуку, сыны зламаць яго не маглі, а развязалі, — па розачцы паламалі лёгка.* На ростанях.

**Ро́зка** *ж.* 'розга' (Гом. НЛГ; Чэрв. Шатэрнік; Насовіч).

**РОЗДАРАЖ** *ж.* Раздарожжа. *Ох, цяжка, цяжка ў людзі выйсці І моцна стаць на свае ногі, Бо многа ў свеце вас,*

*парогі. І часта роздараж іх быту Над імі зляжа, як навала..* Новая зямля.

**Роздоріжжэ, роздоро́жжэ** *н.* 'раздарожжа' (Брэсц., Іван. ДСБ).

**РОЗНА** *прысл.* 1. Неаднолькава, па-рознаму. *Глядзець на рэчы можна розна.* Самому сабе. 2. Не разам, асобна. [*Сымон да Ганны:*] *Мы разойдземся. Дарогі Нашы розна пабягуць: Поміж намі ёсць парогі, І нам іх не абмінуць.* Сымон-музыка.

**Ро́зна** *прысл.* 'усяк' (Чэрык. Бялькевіч); **ро́зно** *прысл.* 'неаднолькава, па-рознаму' (Насовіч).

**РОЗНАМАСЦЁВЫ** *прым., перан.* Які адрозніваецца ад іншых знешнім выглядам, узростам, сацыяльным паходжаннем і пад. *Уся гэта рознамасцёвая кампанія гула, гаманіла, смяялася ці хадзіла з кутка ў куток, або ляжала на нарах.* Цені мінулага.

**РОЛЬКА** *ж.* Рад, радок. *І якіх убораў толькі На паненках ні было! Анталяжыкі ў дзве рольці...* Сымон-музыка.

**РОЛЬНІК** *гл.* **РАЛЬНІК**

**РОЛЬНІЦКІ** *прым.* Земляробчы, сельскагаспадарчы. *А здольнасцей гэтых, апроч прывычных да чорнай рольніцкай работы рук, у яго* [*Пракопа*] *няма.* Як я пісаў аповесць «Адшчапенец».

**Ро́льничій** *прым.* 'сельскагаспадарчы' (Насовіч). Параўн. польск. *rolniczy* 'які звязаны з сельскай гаспадаркай, земляробчы'.

**РОНДАЛЬ** *м.* Каструля. *Худы яго* [*Зязюльскага*] *твар быў ружовы і блішчаў, як вычышчаны рондаль.* На ростанях.

**Ро́ндаль** *м.* 'каструля' (Карэл. Сцяшковіч, 1972; Чэрв. Шатэрнік); 'невялікая каструля з доўгай ручкай' (Карэл. МСНДМ, с. 158); **ро́ндэль** *м.* 'невялікая каструля з ручкай' (Малар. ДСБ). Параўн. польск. *rondel* 'гаршчок з адной ручкай або двума дзяржаннямі'.

**РОСЧЫН** *м.* Адтуліна, якая ўтвараецца, калі расчыніць дзверы, акно і пад. *У росчыну дзвярэй паказаўся даўгаваты тонкі нос і чорныя вочы.* На ростанях.

Параўн. укр. *розчин* 'адтуліна, якая ўтвараецца, калі адчыніць двухстворкавыя вокны, дзверы і пад.'

**РУМЯНАК**[1] *м.* 1. Чырвань ад прыліву крыві да твару. *Калі Аленка зірнула на памяты канверцік.. то сэрца яе забілася, як пташка ў клетцы, а шчокі румянкам загарэліся.* На прасторах жыцця. 2. Ружовая або ярка-чырвоная афарбоўка неба пры ўзыходзе сонца. *Яшчэ не ўзышло нават сонца, На небе чуць выплыў румянак, А дзед, як чаўнок у красёнцах, Цянюе там-тут між зямлянак.* Адплата.

**Румя́ністый** *прым.* 'румяны, чырвоны' (Краснап. Бялькевіч); **руме́ный** *прым.* 'румяны' (Насовіч).

**РУМЯНАК**[2] *м.* Рамонак. *У лесе цётка гаварыла, для якой надобы належыць якая зёлка.. і пазнаёміла Юрку з рознымі краскамі: пералётнікам, гарлянкай, румянкам, чаборам..* Сірата Юрка.

**Румя́нак** *м.* 'рамонак' (Гродз. Цыхун; Астр., Ашм., Дзятл., Лід. СПЗБ; Карэл. Сцяшковіч, 1972); **румя́нок** *м.* 'рамашка' (Пін. Нар. лекс., с. 115); **румя́нок**, **руме́нок** *м.* 'рамонак' (Малар. ДСБ); **румя́нка** *ж.* 'рамонак' (Мядз. МСММГ, 1974); **руме́нка** *ж.* 'рамонак' (Насовіч). Параўн. польск. *rumianek* 'рамонак'.

**РУНЕВЫ** *прым.* Які мае адносіны да руні. *Жыццё ўнікла. Бы ў жалобе, Неба цьмілася, зямля; Толькі ў руневай аздобе Вочы песціла ралля.* Сымон-музыка.

**Ру́нистый** *прым.* 'пушысты — гаворыцца пра збожжавую зеляніну' (Насовіч).

**РУНО** *н.* Усходы, пасевы азімых культур. *А вакол так ціха-гожа, А паслухаеш — чутно, Як расце трава і збожжа — Нівак свежае руно.* Сымон-музыка.

**Руна́** *ж.* 'рунь' (Лоеў. Янкова); **ру́но** *н.* 'пушыстая зеляніна на засеяным полі' (Насовіч).

**РУНЬ** *ж.* Воўна, руно. *Вобразн. Знік [бляск месяца] у рунях і ў шаўкох Хмарачак маўклівых..* Ноч. *Скрозь іх [хмарак] валоканцы, рунь беласнежную, Свеціцца глыб небясоў...* Неба.

**Руно́** *н.* 'воўна адной авечкі' (Бяроз. ДСБ); 'воўна з ягнят і маладых авечак' (Малар. ДСБ); 'неразабраная воўна, састрыжаная з адной авечкі' (ТС); 'колькасць воўны, настрыжанай з адной авечкі' (Ганц., Іўеў., Навагр., Шчуч. СПЗБ); **рунцо́** *н.* 'колькасць авечай воўны з адной стрыжкі' (Чэрв. Шатэрнік).

**РУПАТЛІВЫ** *прым.* Клапатлівы, стaранны. *Усюды, куды ні глянеш, відаць рупатлівая рука і даглядчае вока чалавека, цалкам адданага вялікай грамадскай справе.* Паездка на Асінбуд.

**Ру́патлівый** *прым.* 'рупны, клапатлівы' (Мсцісл. Бялькевіч; Насовіч); **ру́пата** *ж.* 'старанне, руплівасць', **ру́патлівый**, **ру́патный** *прым.* 'старанны, руплівы', **ру́паціцца** *незак.* 'старацца, рупіцца' (Мсцісл. Юрчанка, 1966).

**РУПНА** *прысл.* Клапатліва, старанна. *Відаць, даўно гаспадары Збіраюць, складваюць дары І пыняць рупна, адмыслова, Ва ўсім парадак і ахова..* На шляхах волі.

**Ру́пна** *прысл.* 'старанна, дбайна, клапатліва' (Гродз. Сцяшковіч, 1972); 'рупна' (Мсцісл. Бялькевіч).

**РУСАВЫ** *прым.* Светларусы. *На яе твары паяўлялася такая слаўная ўсмешка, і [Тася], ускінуўшы русавыя кудзеркі, кідала ў Петрыка лёгкі жмуток наскубленай мяккай травы.* Між дзвюх рэчак.

**Руся́вы**, **ру́сенькі** *прым.* 'русы' (Лоеў. Янкова).

**РУХАВІЦЬ** *незак.* Рабіць рухавым, бадзёрым, жвавым. *Міхал ідзе ў свае абходы, А холад зімняе пагоды Яго рухавіць і малодзіць..* Новая зямля.

**Рухля́вы**, **рухля́вый** *прым.* 'рухавы' (Брэсц., Пруж. ДСБ); **руха́ва** *прысл.* 'жвава, спрытна' (Мсцісл. Юрчанка, 1988).

**РУЧЫЦЦА** *незак.* 1. Весціся, добра гадавацца, пладзіцца. *Яшчэ з вясны, ў час перабору, Сюды прывезлі пчол калоду, Ну, так, між іншым, для заводу. Але ручыцца сталі пчолкі.* Новая зямля. 2. Павялічвацца, множыцца. *Даніла — хлопец станавіты, Марына — болей бы такіх. Пайшло дабро ручыцца ў іх.* Рыбакова хата.

**Ручы́цца** *незак.* 'весціся (пра дамашнюю жывёлу)' (Дзярж. Нар. сл., с. 43; Стаўб. МСММГ, 1974; Чэрв. Шатэрнік); 'добра расці' (Карэл. Сцяшковіч, 1972); 'добра весціся, добра гадавацца, пладзіцца, не зводзіцца (пра жывёлу, птушку, пчолы)' (Гл. Янкоўскі, 1960); **ручы́ць** *незак., безас.* 'весціся, даваць прыплод' (Брасл. СПЗБ); 'ідзе ў руку, шанцуе (у жывёлагадоўлі)' (Маладз. МСНДМ, с. 105); **ру́чыць** *незак.* 'добра весціся' (Чэрв. Шатэрнік); **рэ́нчыць** *незак.* 'шанцаваць' (Шчуч. Сцяшковіч, 1983).

**РУШЭННЕ** *н.* 1. Зрух, змены ў чым-н. *Але ні злосць твая, ні слёзы, Ні моцна шчэмлены кулак Не зменяць справы аніяк — Цярпі! чаму? дакуль цярпенне? Калі канец яму, рушэнне? Няўжо ўвесь век жыць з панскай ласкі..* Новая зямля. 2. Масавае выступленне, паход. [*Дзед Талаш*:] — *Народ збіраць, бухторыць яго на вялікае рушэнне супроць катаў, гвалтаўнікоў.* Дрыгва.

**Руше́нне** *н.* 'рух, паход' (Насовіч).

**РЫГАЦЕЦЬ** *незак.* Рыпець. *Я следам за дзядзькам, як вузел качуся, — Мароз паціскае, ды я не даюся; А снег пад нагамі скрыпіць, рыгаціць.* Дзяціныя годы.

**Ры́ганне** *н.* 'скрып, скрыпенне' (Мсцісл. Юрчанка).

**РЫЖОК** *м.* Рыжык. *Каля вусцянскага грудка і на самым грудку знайшоў шмат рыжкоў.* На схіле дзён. *І без таго, як мак ружовы Або той восеньскі рыжок, Пшэбора, пан пастарунковы, Гарыць, як золата кружок..* Рыбакова хата.

**Рыжо́к** *м.* 'рыжык' (Уздз. Нар. словатв., с. 236; Барыс., с. 242; Чэрв. Шатэрнік; Гродз. Сцяшковіч, 1983; Воран., Ганц., Пух., Чэрв. СПЗБ; Драг. Жыв. сл., с. 192); 'назва грыба' (Гл. Янкоўскі, 1960).

**РЫМСЦІЦЦА, РЭМСЦІЦЦА** *незак.* Імкнуцца да каго-, чаго-н., хацець чаго-н. *І яшчэ трэба дадаць, што месцы бываюць дваякія: на адны мы самі рымсцімся, а на другія нас цягнуць, узяўшы за вушы.* Стары лес. *І хіцёр, а змыліўся, Ажаніўся — і ўтапіўся. А не будзь, чорце, слабы І не рэмсціся да бабы..* Новая зямля.

**Рэ́мсціцца** *незак.* 'імкнуцца' (Карэл. Сцяшковіч, 1972); **ры́мсціць** *незак.* 'карцець' (Карэл. Жыв. нар. сл., с. 62; Маз. Жыв. нар. сл., с. 176; Лід. Сцяшковіч, 1983); **ри́мсциць** *незак.* 'хочацца' (Насовіч).

**РЭПІЦЬ** *незак.* 1. Іграць заўзята. *Рэпіць дудка, не даецца, Адатне, ды зноў пачне..* Ігрышча. 2. Танцаваць з азартам. *А яны, скакуны, Поўныя запалу, Як блазны-буяны, Рэпяць — пот лье буйны.* Ігрышча. *Юзэфа, Барбара і Ганна — ўтраіх, У туфельках, плешчучы ў ладкі, «Лявоніху» рэпяць і цешаць святых..* Даняў.

**Рэ́піць** *незак.* 'заўзята, з захапленнем граць, скакаць' (Карэл. Сцяшковіч, 1972).

**РЭЎ** *м.* 1. Моцны працяглы крык некаторых жывёл, роў. *Молат б'е, варштат скрыгоча, Пас дрыжыць, гудуць машыны, Мітусенне, рэў звярыны Рэжуць вушы..* На шляхах волі. 2. Шум, гудзенне. *І тым не меней здалёк у гэтым рэве гармат ёсць нейкае хараство, і ў ім чуецца сіла і магутнасць, каторымі напаўняецца і садрыгаецца паветра і зямля..* З дарэвалюцыйных допісаў у газеты.

**Рэ́ўці** *незак.* 'раўці' (Лоеў. Янкова); **ре́вци** *незак.* 'раўці' (Насовіч). Параўн. укр. *рев* 'роў'.

# С

**САГАН** *м.* Чыгунны гаршчок. *У параўн. Хоць шляхціц цёмны, як саган, Затое ж сам сабе ён пан: Паноў, ляснічых знаць не знае..* Новая зямля.

**Сага́н** *м.* 'высокі чыгун з вушкамі' (ТС); 'чыгун, вялікі гаршчок' (Гродз. Цыхун); 'чыгун' (Астр., Валож., Воран., Лаг., Лід., Мядз. СПЗБ; Лун. Шаталава; Маст., Шчуч. Сцяшковіч, 1972); **сага́н, сога́н** *м.* 'чыгун' (Драг., Івац. ДСБ); 'жалезны або чыгунны гаршчок' (Лаг. МСММГ, 1970); **сагано́к** *м.* 'чыгунок' (Нясв. МСММГ, 1977). Параўн. польск. *sagan* 'кацёл'.

**САКВЭСТРАТАР** *м.* Зборшчык падаткаў. *І як на грэх, пан саквэстратар Павінен сёння завітаць І з ім Пшэбора, памагатар, З Данілы плату спаганяць.* Рыбакова хата.

**Саквіста́тар** *м.* 'судовы выканаўца' (Брасл. СПЗБ); **сакваста́тар** *м.* 'службовая асоба пры панскай Польшчы, якая збірала з сялян падаткі' (Гродз. Цыхун). Параўн. польск. *sekwestrator* 'судовы выканаўца'.

**САКРАМАНТ** *м.* Што-н. асабліва дарагое, любімае; святыня. *Там [у кадубку] два пярсцёнкі, крыжык медны, Здабыты сыну ў час хрысцін, І ёсць там злот і не адзін І ёсць сакрамант запаведны.* Рыбакова хата.

**САКРАМЕНЬ** *ж.* Пра тое, што выкрывае сутнасць чалавека. *А вось ён, дакумант нямецкі. І выняў [Цімох] з патайных кішэнь Маленькі партфелік раменны. — Во, вось дзе твая сакрамэнь! Глядзіце: я — малапісьменны.* Адплата.

**САМАХВАЛЕННЕ** *н.* Самахвальства. *Калі парыў самахваления Улёгся ў Богуце, апаў, Ён перайшоў ад летуцення Да празаічных шэрых спраў.* Рыбакова хата.

**САНЦАВЕЙ** *м.* Тое, што служыць крыніцай радаснага настрою. *Жывяць зноў яе [Ганну] надзеі, Думкі светлыя ўстаюць, Зноў у сэрцы санцавеі Ёй красёнцы шчасця ткуць.* Сымон-музыка.

**САНЦАВЕЙНЫ** *прым.* Асвечаны сонцам, сонечны. *Ён [Мазепа] — у сад. Шнуруе між куп ніцых, І каля сажалкі ў глушы, І на прагалах санцавейных — Няма нідзе яе [Марыі] слядоў.* Палтава.

**САНЦАГРЭЙ** *м.* Месца, дзе моцна грэе сонца. *І дзяўчынка ў той надзеі Ідзе ў сад, ідзе сама. Але там, на санцагрэі, Пуста ўсё, яго няма!* Сымон-музыка.

**Санцагрэ́й** *м.* ‘сонечная пагода’ (Навагр. Сцяшковіч, 1983).

**САРАКОЎКА** *ж.*: **СТРАЛЯЦЬ У САРАКОЎКУ**. Прамахвацца, мазаць. *Сказаць вам? венцер, нераткі! Ды толькі трэба мець знароўку, Каб не страляць у саракоўку..* Новая зямля.

**Саракóўка** *ж.* ‘цвік, даўжынёю ў сорак міліметраў’ (Лоеў. Янкова); ‘манета ў 20 кап. (40 грошаў)’ (Чэрв. Шатэрнік).

**САСЛУГАЧЫ** *м.* Той, хто разам з кім-н. служыць, працуе. *Міхал ступіў на двор кватэры З душою, згрызенай без меры, Але спаткаўшы саслугачых, Спакойных больш і менш гарачых, Міхал мяняе выраз твару І гоніць прэч задуму-хмару..* Новая зямля.

**СВЯЦЁЛКА** *ж.* Невялікі чысты пакойчык. *Дзедава альтанка Зроблена з аполкаў, Чыста ў ёй і светла; Печ, як маці ветла. Горне, як каханка, Дзедава свяцёлка.* Сымон-музыка.

**Светóлка** *ж.* ‘чысты і светлы пакойчык’, **светóлочка** *ж.* ‘памянш. да светолка’ (Насовіч).

**СЕЙМІГА** *прысл.* Зараз жа, у адзін міг. — *Нічога, Анэтка, нічога, — як шэршань у дупле, бубніў у печы Лапко: — мы яе сейміга да ладу давядзём.* Адшчапенец.

**Сейміга** *прысл.* ‘хутка, у адзін момант’ (Карэл. Сцяшковіч, 1972).

**СЕСІЯ** *ж.* Нарада ляснічага з леснікамі і аб'ездчыкам. *Ды раз у сесію Міхася К сабе ляснічы заклікае. «Ну, гэта нешта азначае», — Ў Міхала думка праняслася.* Новая зямля.

**СІВЕР** *м.* Поўнач. *Па небе хмарка залатая На сівер з поўдзеня плыла..* Хмарка.

**Сі́вер** *м.* 'халодны, моцны вецер' (Навагр. Сцяшковіч, 1972; Лоеў. Янкова); 'халодны паўночны вецер' (Чэрв. Шатэрнік); 'халодны, пераважна паўночны вецер' (Дубров. Нар. словатв., с. 136); **сіверны** *прым.* 'які дзьме з поўначы, сцюдзёны' (Мін. СПЗБ).

**СІНЯПЁС** *м.* Неўрадлівая падзолістая глеба. *Прабавалі засяваць іх* [*Сухія груды́*] *сям-там, ды кінулі, бо на сіняпёсе нічога не расло.* На прасторах жыцця. *І зямля была не роўная: жоўты пясок, камяністыя ўзгоркі, сіняпёс, і толькі месцамі траплялiся кавалкі добрай зямлі.* Адшчапенец.

**Сіняпёс** *м.* 'кіслая, неўвапнаваная глеба' (Карэл. Сцяшковіч, 1972); **сінюга́** *ж.* 'падзолістая глеба' (Воран. Сцяшковіч, 1983).

**СКАЗАЛЬНІК** *м.* Расказчык баек, казак і інш. *Вобразн. Усплыў месячык на ўзвыш Баяць свету казкі. Неба слухае той сказ, Хмаркі не схіснуцца, Толькі зоркі раз-параз Ціха усміхнуцца, Каб сказальніка свайго Пахваліць як трэба..* Ноч.

**СКАРАЎЛЕНЫ** *дзеепрым.* Закарэлы, пакрыты засохлай гразёю, гноем і пад. *А на вяроўцы мех гайдаўся, Стары, скараўлены ад гною, Забыты ўсімі пад страхою.* Новая зямля.

**Скара́ўлены** *прым.* 'скарэлы, пакрыты засохшай граззю' (Карэл. Сцяшковіч, 1972); **скара́віць** *зак.* 'забрудзіць' (Барыс. МСММГ, 1974); **скара́вець** *зак.* 'зрабіцца брудным, закарэлым' (Мсцісл. Юрчанка, 1988).

**СКАРАЧ** *м.* Ручнік з саматканага, грубага палатна з махрамі на канцах. *Бярэ дзед скарач, канцы ў вадзе мочыць, выкручвае, прылаўчаецца ямчэй па мухах секануць.* З боку ад жыцця.

**Скара́ч** *м.* 'кухонны ручнік' (Карэл. Сцяшковіч, 1972); 'ануча, якой вымаюць гаршкі з печы' (Верхнядзв. Шаталава); 'кавалак палатна з канцамі асновы, які застаецца

пасля заканчэння ткання', 'брудная ануча', 'брудная бялізна' (Астр., Ашм., Лід., Навагр., Смарг., Шчуч. СПЗБ); 'ручнік', 'канец палатна разам з ніткамі, якія застаюцца недатканымі і звіваюцца ў шнуркі' (Бяроз., Драг. ДСБ); 'абрус' (Ашм. МСММГ, 1974); **скара́чка** *ж.* 'кужэльны ручнік' (Воран. Сцяшковіч, 1983).

**СКАРБОВЫ** *прым.* Княжацкі; панскі. *Дзед Юрка быў рыбак скарбовы, Скарбовай чайкай карыстаўся, А ўласны човен так валяўся..* Новая зямля.

**Скарбо́вы** *прым. устар.* 'казённы' (Гродз. Цыхун); 'казённы; які належыць маёнтку' (Чэрв. Шатэрнік; Насовіч).

**СКАРЦАВАЦЦА** *зак.* Скурчыцца; скруціўшыся, легчы. *Развярнуўшы свой берлажок, ён [Юрка] скарцаваўся, прытуліў галаву да каленцаў і скора заснуў.* Сірата Юрка.

**Скарцава́цца** *зак.* 'скурчыцца, сагнуцца' (Карэл. Сцяшковіч, 1972); 'прымасціцца, прылегчы дзе-н.' (Стаўб. Жыв. сл., с. 111); **скарцава́ць** *зак.* 'кінуць, скруціўшы, зламаўшы' (Гродз. Цыхун).

**СКАЧАНУЦЦА** *зак.* Пакачацца. *І ён [Костусь] ад радасці трасецца Ды ў мяккім снезе скачанецца.* Новая зямля.

**СКВАП** *м.* Прагнасць, хцівасць. *Адно здзівіла тут старога: Страхотны вораг, чужакі, Лагодней шмат, чым казакі, — Няма ў іх сквапу да чужога І не расцягваюць нічога, Не то, што нашы хапакі.* На шляхах волі.

**Сквапъ** *м.* 'прагнасць, зайздрасць' (Насовіч); **сква́па** *ж.* 'зайздрасць, скваґнасць' (Мсцісл. Бялькевіч); **сква́пны** *прым.* 'прагны, хцівы' (Чэрв. Шатэрнік); **сква́пный** *прым.* 'сквапны, зайздросны' (Мсцісл. Бялькевіч); **сква́пін** *прым.* 'сквапны' (Чав. МАСМ).

**СКВЕРЫЦЬ** *незак.* Пячы (пра холад, мароз). *Сквярыць холад. Пабялелі Вусы, світка вазака, Толькі шчокі счырванелі Ад марозу ў мужыка.* На гасцінцы.

**Сква́рыць** *незак. перан.* 'пра мароз' (Чэрв. Шатэрнік); **сквар** 'гарачыня, гарачыя вуголлі' (Карэл. Сцяшковіч, 1983); 'сквар, спёка' (Мсцісл. Бялькевіч); **сква́рна** *прысл.* 'горача' (Мсцісл. Бялькевіч). Параўн. польск. *skwar* 'спёка, гарачыня', *skwarny* 'спякотны'.

**СКНАРЫ** *прым.* Скупы. *Чорныя справы тояцца за Фальшывымі абяцаннямі і скнарымі падачкамі лакеяў Уолстрыта.* Трыццаць савецкіх год.

**Скна́рый** *прым.* 'скупы' (Хоц. Бялькевіч); **скна́рны** *прым.* 'скупы' (Мёр. СПЗБ); **скнэрава́ты** *прым.* 'скнарлівы' (Стаўб. МСММГ, 1974); **скна́ра** *м.* і *ж.* 'скупы чалавек' (Чэрв. Шатэрнік; Касц., Мсцісл. Бялькевіч; Лях. МСНДМ, с. 128); **скно́рына, скнэ́ра** 'скнара, скупы чалавек' (Ашм., Навагр. Сцяшковіч, 1983); **скна́рына, скна́рыца** *м.* і *ж. асудж.* 'скнара; прагавіты' (Мсцісл. Юрчанка, 1966); **скна́рыца** *ж.* 'скнарлівая жанчына' (Касц. МАСМ; Гл. Янкоўскі, 1959); **скна́ранне** *н. асудж.* 'прагнасць', **скна́рыцца** *незак. асудж.* 'сквапіцца, скнарнічаць' (Мсцісл. Юрчанка, 1966).

**СКРОБАТ** *м.* Скрабанне. *Скробат мышкі, Крокат вышкі, Кашаль сценны, Звон крыла.* Сымон-музыка.

**Скробъ** *м.* 'непрыемны гук ад шоргання нагамі, абутымі ў боты' (Насовіч).

**СКРОГАТ** *м.* Скрыгатанне. *Скрогат ключа ў замку разбудзіў Нявіднага.* Дрыгва. *Уцякаюць, бягуць людзі, Скрогат, скрып калёс.* На шляхах волі.

**Скро́гыт** *м.* 'скрыгат' (Мсцісл. Бялькевіч); **скро́готъ** *м.* 'моцнае скрыпенне, шум' (Насовіч).

**СКРЫЖАЛІ** *мн., перан.* Нябесная высь, нябесныя абшары. *Клубястыя хмары паціснулі далей, Зганяе іх гром-чарадзей, І стрэлы маланак у гнеўных скрыжалях Мільгаюць радзей.* Адплата.

**СКРЫПЕЛЬ** *м.* Губа (грыб) у форме капыта, які расце на дрэвах, акрамя бярозы. *Хадзіў [Сымон] ад дуба і да дуба, Збіраў сухія скрыпялі, Што тлеюць доўга, як і губа, І жар трымаюць, як вуглі.* Рыбакова хата.

**Скрыпе́ль** *м.* 'губа' (ТС); 'нарост на дрэве' (Лоеў. Янкова); **скры́пель** *м.* 'губа (грыб на дубе)' (Барыс., Бярэз. СПЗБ); 'ядавітая непраўдзівая апенька' (Лун. Шаталава); **скры́пэль** *м.* 'несапраўдная апенька' (Лун. ДСБ); **скры́пель, скры́пень** *м.* 'губа' (Петр., Стол. Жыв. сл., с. 188).

**СКРЭП** *м., перан.* Тое, што змацоўвае, скоўвае што-н.; аковы. *Лядок закохкае, угнецца І вось-вось зломіцца, здаец-*

*ца, Але нястрашны і знаёмы Для хлопца гэтыя надломы, Палоскі-стрэлы гаваркія І моцны скрэпы ледзяныя.* Новая зямля. *І стала мёртва ў той мясціне, Хоць шчодра клаў мароз там чары. Асілак-дуб не сцерпеў кары І кажа ён сухой галіне: «Спадзі наніз, як пярун з хмары, Разбі ты скрэп халодна-сіні: Няхай ізноў гуляюць плыні, Няхай жывуць ізноў абшары».* Сымон-музыка.

**СЛУГАВАЦЬ** *незак.* 1. Прыслужваць. *Няўжо ўвесь век жыць з панскай ласкі І перад ім* [*панам*] *чуць абавязкі? І слугаваць яму, старацца І ў тры пагібелі згінацца?* Новая зямля. 2. Спрыяць. *Падвечар неба праяснілась, І ўсё вакол развесялілась: «Глядзі — панам і тут шанцуе: Сама пагода ім слугуе, І сонца свеціць..* Новая зямля.

**Слугава́ць** *незак.* 'услужваць' (Віл. СПЗБ; Дзісн. Нар. сл., с. 192; Чэрв. Шатэрнік); 'спрыяць' (Карэл. Сцяшковіч, 1972); 'дагаджаць' (Уздз. МСММГ, 1970).

**СМАЛУДА** *ж.* Дзікая расліна, карэнні якой па смаку нагадваюць моркву. *У лесе цётка гаварыла, для якой надобы належыць якая зёлка, ад якой хваробы ці запалення якога памагае тая ці другая трава, і пазнаёміла Юрку з рознымі краскамі: пералётнікам, гарлянкай, румянкам, чаборам, мацердушкай, са смалудамі, якімі даўней карміліся людзі..* Сірата Юрка.

**Смаля́нка** *ж.* 'лугавая кветка' (Маладз. МСНДМ, с. 106).

**СМЕШНІК** *м.* Той, хто можа насмяшыць; жартаўнік. *Старшыя смяюцца на такую штуку малога смешніка.* Куцця.

**Сме́шнік** *м.* 'чалавек, які ўмее смяшыць' (Чэрв. МСММГ, 1974); **смехату́н** *м.* 'чалавек, які можа насмяшыць' (Шкл. МАСМ).

**СМУЖНА-СІНІ** *прым.* Шаравата-сіні. *А там, з-за смужна-сіняй дужкі, Што павіваецца істужкай, Грыміць пярэклічка гармат.* На шляхах волі.

**СНЕННЕ** *н.* Сон. *А як спаць улёгся* [*Ігнатка*], *Думкі мімаволі Гаманілі ў сненні Хлопчыку аб школе.* У школку.

**Сне́нне** *н.* 'сон' (Карэл. Сцяшковіч, 1972).

**СОНКА** *н.* Сонца. [*Сымон да Ганны:*] *Мне здаецца — ўзышло сонка, Асвятліла гэты сад, Бо ты добрая, з душою, Ты ўся свецішся дабром..* Сымон-музыка.

**СОПАЛАХУ** *прысл.* Спалохаўшыся, спалохана. *Алена прахватваецца, ускрыквае: — Хто тут? — сопалаху, адрывіста пытае яна.* Хатка над балотцам.

**СПАВАГУ** *прысл.* Павольна. *Аратай ідзе спавагу, Мерна, крок за крокам, Вузка доўгая палоска, Не акінеш вокам.* На ніве.

**Спава́жна** *прысл.* 'павольна' (Уздз. МСММГ, 1970); **спава́га** *прысл.* 'спаважна, павольна' (Чач. Жыв. сл., с. 90).

**СПАВОЛЛЯ** *прысл.* Паступова. *Прайшло дзён два ці трохі болей, Яна [Марына] ўжо тут нібы свая, І людзі ўведалі споволля, Адкуль і хто яна, чыя.* Рыбакова хата.

**СПАЗАРАННЯ** *прысл.* Зранку. *Злез дзед з торпу ў замяшанні: «Дзе ж падзеўся той Сымон? Ці дзе ходзіць спазарання, Непаседа-ветрагон?»* Сымон-музыка.

**Спозара́нку** *прысл.* 'з самай раніцы, пасля ранішняй зоркі' (Насовіч).

**СПАМІЖ** *прыназ.* Між, паміж. *Слупы мільгалі верставыя, Дарожкі, сцежачкі крывыя, Што чуць заметна спаміж збожжа Віліся йстужкаю прыгожа..* Новая зямля.

**СПАСЦЕРАГЧЫ** *зак.* Заўважыць, убачыць. *Ды раптам затросся Цімох, Спаймаўшы на вока прыблуду. Здзівіўся, нібы спасцярог Праяву жахлівага цуду.* Адплата.

Параўн. польск. *spostrzec* 'заўважыць'.

**СПАСЦЯРОГА** *ж.* Назіранне, нагляданне. *Ён [Дзяжа] выбраў пункт сабе прыўдалы Для забяспекі, спасцярог, У вішняку густым залёг..* На шляхах волі.

Параўн. польск. *spostrzeżenie* 'нагляданне, назіранне'.

**СПАСЦЯРОЖЛІВА** *прысл.* Чуйна, насцярожана. *Ваенны час, поўны неспакою і неспадзевак, прымушаў іх [людзей] трымаць вуха востра і спасцярожліва.* Дрыгва.

**Спасцяро́жліва** *прысл.* 'чуйна, насцярожана' (Карэл. Сцяшковіч, 1972).

**СПАХМУРА** *прысл.* Панура. *Пад'язджае божы Юрай І каня спыняе, Ды на Янку нейк спахмура Погляды раняе.* Як Янка забагацеў.

**СПОЖЫЦЬ** *ж.* Спажытак. *Тым часам Спас святы мінуўся, І лес у чырвань апрануўся. Дрыжаць у золаце асіны, І гнуцца кісці верабіны. Пчала аб мёду меней дбае, І спожыць ёй ужо не тая..* Новая зямля.

**СПОР** *м.*, **СПОРКА** *ж.* Спрэчка, сварка. *Няма сэрца ў долі, Праўды ў людзей; Пахаваўся бы ў полі, Здаецца, скарэй, Каб не бачыць гора Цяжкага людскога, Каб не чуць і спора Горкага ліхога.* Мужычая доля. *Зацягнулася далёка Гэта іх гаворка, І як розум ні павернеш, Ўсюды выйдзе спорка..* Сялянская рада.

**Спóрка** *ж.* 'сварка, лаянка' (Лоеў. Янкова); 'спрэчка' (ТС; Насовіч). Параўн. руск. *спор* 'спрэчка, сварка, выкліканая нязгодай у чым-н.'

**СПРОДАЦЬ** *зак.* Прадаць. [*Міхал*:] *Даведаліся ад людзей, Што пан Хадыка, дабрадзей, Сваю пасаду спродаць мае.* Новая зямля.

**Спрóдаць** *зак.* 'прадаць' (ТС). Параўн. польск. *sprzedać* 'прадаць'; укр. *спродати* 'прадаць усё'.

**СПРОНЖКА** *ж.* Спражка. *На ім* [*Міхале*] *кучомка, верх зялёны, Кажух кароценькі, чырвоны, А стан шырокая папруга Сціскае спрытна, лоўка, туга; На меднай спронжцы лось красуе І з жоўтай бляхаю фасуе.* Новая зямля.

**Спрóнжка** *ж.* 'спражка' (Гродз. Цыхун; Пух. МСММГ, 1970; Астр., Віл., Лаг., Лях., Смарг., Уздз., Чэрв. СПЗБ; Дзятл., Слон. Сцяшковіч, 1972); **спрóнчыка** *ж.* 'спражка' (Слуц. Жыв. сл., с. 65). Параўн. польск. *sprzączka* 'спражка, засцежка'.

**СПЯВАНКА** *ж.* Песня. *Ідуць* [*дзяўчаты*], *пракосы разбіваюць, З лагчынак сена выграбаюць, То там, то сям у чэсць пятровак З грудзей тых макавых галовак, Дзяўчатак слаўных, яснавокіх, Ў лугах прасторных і шырокіх Плывуцьдрыжаць спяванак тоны..* Новая зямля.

Параўн. укр. *співанка* 'песня'.

**СТАЖАРЫ** *мн.* Народная назва групы з блізка размешчаных зорак у сузор'і Цяльца. *Так утворан гэты свет: Грэе сонца, ходзяць хмары, Носяць снег і дождж і гром, Ночкай вынікнуць стажары..* Сымон-музыка. *З цёмнай высібагны Ўжо глядзяць Стажары, Пояс дыямэнтны Ткуць нябёс абшары.* Вясновая ноч.

**Стажáры** *мн.* 'назва сузор'я Вялікай Мядзведзіцы' (Карэл. Сцяшковіч, 1972); **стажáр'е** *н.* 'сузор'е Вялікай Мядзведзіцы' (Гродз. Сцяшковіч, 1983).

**СТАНОЎКА** *прысл.* Рашуча, цвёрда, без хістання. *Але раз ты наважыў дзела, Ідзі станоўка, роўна, смела, Ідзі, назад не аглядайся І на другіх не пакладайся!* Новая зямля.

**Стано́вный** *прым.* 'пастаянны, устаноўлены назаўсёды' (Насовіч). Параўн. польск. *stanowczo* 'рашуча'.

**СТАНОЎКАСЦЬ** *ж.* Стойкасць. *Мікіта Тарпак, выслажыўшы ўсе доказы за заўтрашні дзень і ніколечкі не зрушыўшы станоўкасці поглядаў сваіх супярэчнікаў, плюнуў, сярдзіта павярнуўся і пайшоў да свайго двара.* На ростанях.

**СТАРЫНКА** *ж.* Пра тое, што зроблена даўно. *Стрэльба-паядынка І труба-старынка, Спрытна, выгінаста, Зроблена з лясіны.* Сымон-музыка.

**СТАРЫЧЫНА, СТАРЭЧЫНА** *м.* Стары чалавек. *Гэта быў каржакаваты, крэпкі і ўвішны яшчэ старычына з доўгім чырвоным носам і вострымі, пранізлівымі вачамі.* На ростанях. *Дык так, старэчына, дыбай!* Самому сабе.

**Старо́цё** *н.* 'стары чалавек' (Зэльв. Сцяшковіч, 1972); **старычо́к** *м.* 'дзядок, старэнькі чалавек' (Мсцісл. Бялькевіч).

**СТАЎПЕЦ** *м.* Драўляны папярочны брусок у граблях, у які замацоўваюцца зубы. *Схаваўшыся ў каноплях са сваім штабам, ён* [*Ванька Кудлаты*] *узяў стаўпец ад грабель, выбіў з яго некалькі зубоў і ў гэтыя дзіркі засаджваў кулі, каб лягчэй іх дастаць.* Ванька Кудлаты.

**Стаўпе́ц** *м.* 'брусок у граблях' (Браг. Нар. словатв., с. 130); 'стаўпец' (Астр., Бар., Барыс., Ганц., Гродз., Дзятл., Лід., Люб., Маладз., Слон., Слуц., Старадарож., Чэрв. СПЗБ); 'папярочная планка грабель' (Зэльв. Сцяшковіч, 1972); 'частка грабель, у якую насаджваюць зубы' (Старадарож. Нар. сл., с. 21); 'брусок у граблях, куды ўстаўляюцца зубы' (Стаўб. З нар. слоўн., с. 82); **ступе́ц** *м.* 'папярочная планка ў граблях, у якую набіваюцца зубы' (Свісл. Шаталава).

**СТАЦЦЁ** *н., зб.* Розныя бакі жыцця і дзейнасці чалавека. *Уважны «госць» яго, шляхетны, З усімі роўны і прыветны, Да сэрца блізка ўсё прымаў І ўсім цікавіўся: звычаем, Укладам, працаю, жыццём І іншым нашынскім стаццём, І нашай песняю, і краем, І нават нашым Мікалаем, Нядобрай памяці царом.* На шляхах волі.

**Стаццё** *н.* 'незвычайнае здарэнне, якое стрымлівае нейкую справу' (Насовіч).

**СТОПЕНЬ** *м.* Ступень. *Пасля гэтай замешкі чарка ўжо не ведала спакою. Курульчук праз паўгадзіны зачаў сваю песню, адну з тых, якія ён ведаў і спяваў, дайшоўшы да пэўнага стопню..* На ростанях.

**Сто́пень** *м.* 'ступень' (Насовіч). Параўн. польск. *stopień* 'ступень, узровень'.

**СТРАЖНІЦА** *ж.* Пагранічная застава. *Шуміць тут бой, як навальніца, А збоку дзесць «ура» плыве.. Прайшлі яшчэ хвіліны дзве, І змята панская стражніца.* Рыбакова хата.

**Стра́жніца** *ж.* 'застава (на граніцы)', 'будынак для каравула' (Віл. СПЗБ). Параўн. польск. *strażnica* 'вартаўнічая вышка, застава'.

**СТРАХЛІВЫ** *прым.* Які выклікае пачуццё страху. *А лес пануры і страхлівы.* Новая зямля.

**Страхлі́ва** *прысл.* 'палахліва' (Карэл. Сцяшковіч, 1972).

**СТРАЧВАЦЦА** *незак.* Губляцца ад нечаканасці. *А як надарыцца часамі Табе, вандруючы лясамі, Найсці на неруш, дзе ніколі Ніякай Тэклі, ні Аўдолі Нага ні разу не ступала І вока іх не зазірала! Зірнеш і страчваешся ты: Сядзяць грыбы, як капыты, І, разгарнуўшы парасоны, Глядзяць бы нейкія персоны..* Новая зямля.

**СТРУМАНТ** *м., зб.* Набор прылад для якой-н. работы; інструмент. *Ідзе упрочкі ўсё з халупы: Данілаў струмант і варштат, Гаршкі і міскі, збан і ступа І чыгунок для парасят.* Рыбакова хата.

**Стру́мант** *м.* 'інструмент' (Віл., Лід. СПЗБ; Астр. Сцяшковіч, 1972; Чэрв. Шатэрнік); **стру́мент** *м.* 'інструмент' (Лоеў. Янкова); **стру́мэнт** *м.* 'сталярскія прылады' (Брэсц., Жаб. ДСБ); **струме́нтъ** *м.* 'рамесніцкія прылады' (Насовіч).

**СТРЫБАЛКІ** *мн., экспр.* Лыткі, ногі. *Аж бразджаць у цешчы пяты, Проста пыл курыць з-пад ног, Цягне барану па полі, Толькі стрыбалкі мігцяць.* Зяць.

**Стры́балкі** *мн., экспр.* 'тонкія ногі' (Стаўб. З нар. слоўн., с. 82). Параўн. укр. *стрибати* 'скакаць', *стрибкий* 'які любіць скакаць'.

**СТРЫЖЭНЬ** *м.* Глыбокае месца ў рэчышчы ракі з самым хуткім цячэннем. *У стрыжаню воўк шалпатаўся!.. Стрыжэнь глыбокі, лёд пакаты, А бедны воўк, вадой падцяты, Скрабе па лёдзе кіпцюрамі..* Новая зямля.

**Стры́жань** *м.* 'незамерзлае месца на сярэдзіне ракі' (Карэл. Сцяшковіч, 1972); **стры́жынь** *м.* 'сярэдзіна ракі з больш хуткаю плынню' (Краснап. Бялькевіч); 'моцны струмень у цячэнні ракі' (ТС); **стри́жень** *м.* 'хуткі струмень у рацэ' (Насовіч).

**СТРЫНГАЛЬ** *м.* Высокі, падгалісты чалавек. [*Андрэй:*] *Гаварыў жа адзін стрынгаль, што сорак гадоў таму назад мужыкі елі мякіну.* Андрэй-выбаршчык.

**Стры́нгель** *м.* 'худы, тонкі, высокі чалавек' (Клецк. Нар. лекс., с. 205; Капыл. Нар. словатв., с. 59); **стрынге́ль** *м. экспр.* 'вельмі высокі чалавек' (Шчуч. СПЗБ); **стрынгале́т, стры́нгель** *м.* 'хударлявы, празмерна высокі хлопец' (Гродз. Цыхун); **стрынгля́вы** *прым.* 'тонкі, зграбны' (Карэл. Сцяшковіч, 1972); **стрынгалява́ты** *прым.* 'падгалісты, танканогі' (Стаўб. Жыв. сл., с. 111).

**СТРЭЛКА** *ж.* Дзіцячая цацка ў выглядзе стралы. *І дзядзька майстар быў на штукі, І быў механік на ўсе рукі: І дудку скруціць вам, і стрэлку, І нарысуе, нават, елку..* Новая зямля.

**СТУСІНАВЫ** *прым.* Зроблены з тонкага, гнуткага прута. *У руках пуга са стусінавым доўгім пужальнам і з чырвоным кутасом.* Царскія грошы.

**Стусі́нка** *ж.* 'чаранок, палачка' (Гродз. Сцяшковіч, 1983); **стусі́на** *ж.* 'доўгі, тонкі, гнуткі прут' (Сен. Каспяровіч).

**СТХАРЫЦЦА** *зак.* Прытаіцца. *Кастусь у запечку стхарыўся, Абуцца ў лапці прымудрыўся, А ў лапцях вушкі скураныя Былі ўжо досыць пажылыя..* Новая зямля.

**Стхары́цца** *зак.* 'прытаіцца' (Карэл. Сцяшковіч, 1972).

**СТЫЧКА** *ж.* Сутычка, спрэчка. *Часамі тут былі і стычкі, Калі спеў новы зачыналі Ды ў тон агульны не траплялі.* Новая зямля.

**Сты́чка** *ж.* 'сварка, разлад' (Насовіч).

**СУДЗІНА** *ж.* Бочка, кадушка для ссыпання збожжа. *Нівесяла яму [чалавеку] стане, як гляне ў засек, у судзіны. Усё пуста, усё гола, як после вайны ці патопа.* Наша сяло, людзі і што робіцца ў сяле.

**Судзі́на** *ж.* ‘вельмі вялікая бочка, у якую даўней ссыпалі збожжа’ (Стаўб. З нар. слоўн., с. 82); ‘невялікая кадушачка, куды ссыпаюць муку або збожжа’ (Уздз. МСММГ, 1974; Краснап. Бялькевіч); **су́дзіна** *ж.* ‘пасудзіна’ (Слон. Сцяшковіч, 1972); **судзе́нца** *н.* ‘невялікая пасудзіна’ (Мсцісл. Юрчанка, 1988); **су́дзень** *м.* ‘вялікі саламяны кош’ (Маст. Сцяшковіч, 1983). Параўн. укр. *судинэ зб.* ‘дзеравяны посуд, куфар, прылады для прадзення — усё разам’.

**СУЗГОР’Е** *н.* Узгорак, узгор’е. *Быць хацеў бы я сонцавай коскай: Зазірнуў бы я ў надзор’е;.. Я б крынічкай бег з сузгор’я І праз гэты цёк бы двор я.* Сымон-музыка.

**СУЗДРОМ** *прысл.* Цалкам. [*Дамянік*:] *Каб яна [Ганна] так хадзіла за мною, Як хадзіў і хаджу я за ёю. Дай папомсціцца мне за яе зневажэнне! Вырві з сэрца суздром насланое насенне!* Сымон-музыка.

**Суздро́м** *прысл.* ‘поўнасцю’ (ТС); ‘зусім, цалкам, поўнасцю’ (Калінк. СПЗБ; Насовіч); ‘хутка, адразу’ (Карэл. Сцяшковіч, 1972); ‘зусім, разам’ (Лоеў. Янкова).

**СУЗНАВАННЕ** *н.* Усведамленне, разуменне. *І горка гэта сузнаванне, Што ад жыцця ты ўжо адсечан, І нават можа быць адмецен І блізак час яго скanання.* Новая зямля.

**Сузна́нне** *н.* ‘усведамленне’ (Насовіч).

**СУКРОМНА** *прысл.* Тайком, скрытна. *А зараз — вось аб чым спытаю, Чаго хадзіў у Петрушы? І што ты нёс тады сукромна У двор, дзе жыў Даніла Смык?* Рыбакова хата.

**Сукро́мна** *прысл.* ‘скрытна, хаваючыся’ (Карэл. Сцяшковіч, 1972).

**СУКРЫТА** *прысл.* Тайком. *У лес хадзіў ён [Мікітка], ды сукрыта, Каб Губічаў адвесці нюх.* Суд у лесе.

**СУЛАДДЗЕ** *н.* Гарманічнасць, узгодненасць. *Дрыжалі струны гаваркія, Ў агульны тон суладдзя гралі.* Новая зямля.

**Сула́дна** *прысл.* ‘мірна, дружна, лагодна’ (Іўеў. СПЗБ); **сула́дно** *прысл.* ‘зладжана, у згодзе’ (ТС); **сула́дне** *прысл.* ‘суладна’ (Маладз. Жыв. сл., с. 55).

**СУНАСТКА** *ж.* Нелюдзімка. *Не пускаюць* [*Аўгеня і Тарэся*] *З рук суседскіх валасоў, Толькі зрэдку прагукаюць, Калі трапна адшукаюць Забіяцкіх пару слоў. — Сунастка! — Капач! — Мешалка! Квач!* За дождж.

**СУПАР, СУПАРАТ, СУПОРАТ** *м.* Той, хто імкнецца перамагчы каго-н., дабіваючыся адной і той жа мэты; супраціўнік. *..абураны Анатоль падскочыў з памяцельнікам і разбіў гэты збан у руках шчаслівага супара.* Цені мінулага. — *Вы не так мяне зразумелі, — заўважыў Лабановіч. — Калега — мой супарат зусім другога парадку.* На ростанях. *Завабілі і Васіля Аўгініны вочы. Мартынава сэрца забіла трывогу. Васіль — супорат небяспечны. Мартын — бабыль.* Дрыгва.

**Су́парат** *м.* 'упарты чалавек' (Касц. МАСМ; Насовіч); **су́поръ** *м.* 'сапернік' (Насовіч). Параўн. укр. *супор* 'супраціўленне, варожасць'; *супорник* 'супраціўнік, сапернік'.

**СУПАРОТ** *м.* Пра тое, што мае перавагу над чым-н. *Яны* [*пракламацыі*] *былі цікавы не толькі сваім зместам, але і формаю тых каракуль, якімі гэты змест быў запісан. У гэтым сэнсе вычварнасць С. Самахвала.. была разнастайна, замыславата і не мела сабе супаротаў.* Васемнаццатая гадавіна.

**СУПАЧЫЦЬ** *зак.* Адпачыць. *А забаляць ногі, сядуць* [*цётка Тарэса і Юрка*] *на беразе крынічкі супачыць і крыху пасілкавацца.* Сірата Юрка.

**Супачы́ць** *зак.* 'адпачыць' (Карэл. Сцяшковіч, 1972).

**СУПОРАТ** *гл.* **СУПАР**

**СУПЯРЭЧНІК** *м.* Той, хто пярэчыць каму-н. *Мікіта Тарпак, выпажыўшы ўсе доказы за заўтрашні дзень і ніколечкі не зрушыўшы станоўкасці поглядаў сваіх супярэчнікаў, плюнуў, сярдзіта павярнуўся і пайшоў да свайго двара.* На ростанях.

**Супярэ́чыць** *незак.* 'супярэчыць' (Касц., Мсцісл. Бялькевіч).

**СУСКЛОНЬ** *ж.*: **НА СУСКЛОНІ АПОШНІХ ДЗЁН**. Пад старасць, на старасці год. *І кроў старога дзеда чырвонымі капелькамі падала на снег, і слёзы, як раса перад захадам сонца, апошні раз выступілі на яго сухіх вачах на сусклоні апошніх дзён яго жыцця...* Бунт.

**СУТАЧКІ** *толькі мн.* Вузкі прамежак паміж будынкамі. *Хата прыціснулася да хаты, хлеў да хлява, гумно да гумна. У сутачках чалавек можа прайсці толькі бокам. І амаль без усякага намагання можна прабегчы вёску па стрэхах, пераскакваючы з адной на другую.* Трыццаць савецкіх год.

**Су́тачкі, су́дачкі** *толькі мн.* 'вузкі праход паміж сценамі сумежных будынкаў' (Бар., Калінк., Раг., Слуц., Старадарож. СПЗБ); 'прамежак паміж печчу і сцяной у хаце' (Лід. СПЗБ); **су́дачкі** *толькі мн.* 'вузкі праход паміж будынкаў' (Лун. Шаталава; Пруж. ДСБ); 'вузкі праход паміж двума будынкамі або дварамі' (Гл. Янкоўскі, 1959); **су́тачкі** *мн.* 'вузкі праход паміж снапамі ў гумне' (Зэльв. Нар. словатв., с. 23); 'невялікая загарадка з жэрдак ці з лазы паміж будынкамі, якія стаяць блізка адзін ад другога' (Навагр. Нар. сл., с. 14); **суто́чкі** *мн.* 'сутычкі, прагал паміж двух будынкаў' (Крыч. Бялькевіч); **су́танькі** *толькі мн.* 'прамежак паміж печчу і сцяной у хаце' (Дзятл. Жыв. сл., с. 17); **су́ткі** *мн.* 'вузкі праход паміж сценамі будынкаў' (Гродз. Цыхун); 'праход паміж гаспадарчымі будынкамі і жыллёвымі' (Слуц. Нар. словатв., с. 71); 'праход паміж будынкамі, накрыты стрэшкаю і прыстасаваны для захавання дроў і розных прылад' (Капыл. З нар. слоўн., с. 108); **сутке́, су́тачкі** *мн.* 'прастора паміж хатамі ці гаспадарчымі будынкамі' (Ваўк., Гродз. Сцяшковіч, 1983).

**СУТОКІ** *мн.* Лінія, дзе сыходзіцца, сутыкаецца што-н. *Выпоўзваюць мрокі На тыя сутокі, Дзе неба злілося з зямлёю..* Новая зямля. *Я люблю гэтыя далі, калі над імі разнімае сваё крылле грозная хмара і выкочвае велізарныя, златарунныя клубкі, кідаючы гняўлівыя цені на сутокі неба і зямлі, разліваючы громы і трасучы зацятую немасць прастораў.* На ростанях.

**Суто́ка** *ж.* 'месца, дзе сцякаюцца дзве рэчкі' (Насовіч).

**СУТОННЕ, СУТУНЕННЕ** *н.* Паўзмрок, прыцемкі. *Ішоў дзед Талаш з такім меркаваннем, каб на сядзібу папасці ў сутонне, каб лепш быць прыхаваным ад людскога вока.* Дрыгва. *Знік хурман у сутуненні, І заціхлі яго крокі.* Сымон-музыка.

**Сутóнне** *н.* 'сутонне' (Карэл. Сцяшковіч, 1972); **сутýнак** *м.* 'змярканне, змрок' (Гродз. Цыхун; Лід. СПЗБ); **сутóністы** *прым.* 'цёмны, вячэрні' (Гродз. Сцяшковіч, 1983).

**СУТРЫМАЦЬ** *зак.* Стрымаць. *І я шчаслівы, што дэлегаты мае рэспублікі змагаюцца за гэтую праўду, што яны выкрываюць распеавазаўшыхся ў сваім хамстве халуёў няспраўджанага прэзідэнта, якія, дзейнічаючы паводле прыказкі: «Пусці свінню за стол, а яна і ногі на стол», марна заклікаюць «сутрымаць меншасць».* Трыццаць савецкіх год.

**СУТРЫМЛІВАЦЬ** *незак.* Стрымліваць. *Каго вы хочаце сутрымліваць, панове?* Трыццаць савецкіх год.

**СУТУНЕЦЬ** *незак., безас.* Змяркацца. *Сутунела. Ў цёмным лесе Галасілі совы. Нікла ў мроку ўсё Палессе..* Матчына прычытанне. *Раз увечар дзед з Сымонам Выйшлі ў парк у свой абход. Сутунела. Дзесь за клёнам Месяц чырваніў усход.* Сымон-музыка.

**Сутуня́ць** *незак.* 'змяркацца, цямнець' (Гродз. Цыхун; Гарад., Маст., Пін. СПЗБ); **сутуня́цца** *незак.* 'змяркацца, сутонець' (Карэл. Сцяшковіч, 1972); **сутаня́цца** *незак.* 'змяркацца' (Стаўб. МСММГ, 1970); **сутуні́ты** *незак.* 'змяркацца' (Драг. ДСБ); **сутóніцца** *зак.* 'змеркнуцца' (Дзярж. Нар. сл., с. 45); **сутóнецца** *незак.* 'цямнець' (Пух. З нар. слоўн., с. 117).

**СУЦЕННЕ** *н.* 1. Змрок. *Скрозь галіны дрэў ужо прасвечвалася вепраўскае поле, і самі Вепры выступалі даволі ясна з лёгкага вячэрняга суцення.* Дрыгва. 2. *перан.* Пра тое, што здаецца невыразным, цьмяным, не зусім зразумелым. *І свет зірне, як сутарэнне, Дзе ўсё прыціснута вайной, На смерць асуджана, на гной. Куды ж ідзе ён* [*Дзяжа*] *праз суценне, Праз дым і кроў і разбурэнне Дарогай змрочнай, патайной?* На шляхах волі. 3. *перан.* Смутак; журба. *Ён* [*Дзяжа*] *гоніць ворагаў з Засцення, Дзе Насця торміцца даўно..? І так за звеннямі звяно Пляце-складае летуценне, То ў радасць горне то ў суценне Сваё прывіднае руно...* На шляхах волі.

**Суці́нкі** *мн.* 'змярканне' (Бераст. Сцяшковіч, 1983).

**СХАДЗІЦЬ** *зак.*: **СВЕТ СХАДЗІЦЬ**. Пабыць усюды, у розных месцах. *Таня — гожая былінка, Таня — красачка,*

*вясна. Не дзяўчына — чараўніца, Свет сходзі — такой няма..* Паслушная жонка.

Параўн. укр. *сходити* 'прайсці якую-н. прастору ў розных напрамках, абысці'.

**СХАЎРУСАВАЦЦА** *зак.* Пасябраваць. *Прабаваў* [*Іван*] *схаўрусавацца з хлопцамі, прыстаць да іх кампаніі. Не выходзіла нічога, бракавала чагось.* Балаховец. *Каб крапчэй чуць пад нагамі грунт, схаўрусаваліся яны* [*восы*] *з шэршнямі.* Асінае гняздо.

**Схаўрусава́цца** *зак.* 'здружыцца' (Гродз. Сцяшковіч, 1983).

**СХОДНА** *прысл.* За прымальную цану, памяркоўна. *Відаць, у добрую часіну Збіраўся дзядзька ў пуцявіну: Ў Баранавічах налучыўся Кандуктар добры: ён згадзіўся Давезці ў Вільню дзядзьку сходна.* Новая зямля.

**Схо́дна** *прысл.* 'памяркоўна' (Мсцісл. Бялькевіч); **схо́дно** *прысл.* 'сходна' (ТС).

**СЦАГЛЕЦЬ** *зак.* Стаць цвёрдым, закамянець. *Там занізка, дождж размые І зямля сцаглее. Там высока, сонца спаліць, Без пары саспее.* Сялянская рада.

**Сцагле́ць** *зак.* 'зацвярдзець, зрабіцца надта цвёрдым' (Мядз. Шаталава); **сцагляне́ць** *зак.* 'зацвярдзець' (Шчуч. Шаталава); **уцагляне́ць** 'зрабіцца цвёрдым' (Браг. Шаталава).

**СЦАЛЕННЕ** *н.* Вылячэнне, збаўленне ад хваробы. *Ён* [*Мазепа*] *стогне, просіць аб сцаленні.* Палтава.

**Сцале́нне** *н.* 'збаўленне ад хваробы' (Гом. НЛГ); **сцале́нный** *прым.* 'гаючы, лекавы' (Краснап. Бялькевіч). Параўн. руск. *исцеление,* укр. *зцілення* 'збаўленне ад хваробы'.

**СЦЕЛЯПНУЦЦА** *зак.* Пахіснуцца, здрыгануцца. *Мікіта Булбатка, старастаў прыяцель і сябар па бутэльцы, да якога зварачаўся староста са сваім пытаннем, сцеляпнуўся ўсім целам і з вялікім намаганнем узняў на старасту вочы.* Стараста.

**Сцеляпну́цца** *незак.* 'здрыгануцца' (Карэл. Сцяшковіч, 1972).

**СЦЕЛЯПНУЦЬ** *зак.* Матнуць. *У куток ён* [*поп*] *кій стаўляе, Барадою сцеляпнуў Ды хламіду распраўляе..* Ігрышча.

Параўн. укр. *стелепнути* 'затрэсці, матнуць'.

**СЦЕНКА** *ж.* Вузкая сцежка сярод поля ці каля лесу. *Дзяжа з усмешкай напускною, У тон не трапячы ніяк, Уважна слухае ваяк, Ідучы сценкаю глухою, А сам з надзеяй патайною Мяркуе ўсё ж такі інак.* На шляхах волі.

**Сце́нка** *ж.* 'вузкая дарожка паміж палеткамі, агародамі' (ТС); 'сцежка паміж гумнамі і полем' (Уздз. МСММГ, 1970); 'дарога паміж палеткаў (Бар., Воран., Ганц., Зэльв., Іўеў., Калінк., Лаг., Лід., Лях., Маладз. СПЗБ); 'дарожка каля агародаў, гумнаў' (Бярэз., Віл., Ганц., Іўеў., Лід. СПЗБ); 'дарожка ў выглядзе мяжы ўздоўж палос' (Насовіч); **сцена́** *ж.* 'мяжа ў выглядзе дарогі, якая раздзяляе два розныя палі' (Насовіч).

**СЦІГАНУЦЬ** *зак.* Шпарка пайсці; сігануць. *Сябры назад з гары звярнулі, Шырокім крокам сціганулі.* Новая зямля. — *Дзякуй вам за падвячорак! — Кажа ён* [*дзед*] *гаспадаром. — Ну, Сымон, да першых зорак Можа ў Ліпы сціганём?* Сымон-музыка.

**СЦІГАЦЬ** *незак.* Шпарка ісці шырокімі крокамі; сігаць. *А дзядзька сцігае, а дзе падбяжыць.* Дзяцінныя годы. *Ідзе* [*дзядзька Антось*], *на жыта погляд кіне, На нівах сэрцам адпачыне, Ідзе далей, ізноў сцігае, Дарога гэта — немалая!..* Новая зямля.

**Сцігíля́ць** *незак.* 'хутка ісці' (Маст. Сцяшковіч, 1983). Параўн. польск. *ścigać* 'бегчы, гнацца за кім-н., каб дагнаць'.

**СЦІКАВАЦЬ** *зак.* Угледзець, заўважыць. — *Бадай ты, Міколка, спрах: так спужаў мяне! — Сцяпан і не сцікаваў, як увайшоў той, пра каго ён думаў.* Старыя падрызнікі.

**СЦІСКАЦЦА** *незак.* Саромецца. [*Ганна да Сымона*:] — *Ты, здаецца, за сняданне Думаў сесці? Снедай, дружа! Чаго тут сціскацца дужа!* Сымон-музыка. *Цяпер яна* [*жанчына*] *смяецца і не сціскаецца ў розных мянушках па яго* [*Лабановіча*] *адрасу.* На ростанях.

**СЦІСЛА** *прысл.* 1. Ашчадна, эканомна. *Наогул трэба жыць больш змысла І больш мяркоўна, болей сцісла, Трымаць зачыненымі губкі І меней траціць на пакупкі.* Новая зямля. 2. Прадумана. *Прайшлі мужчыны па граніцы І ўсе агледзелі драбніцы Ды сцісла бралі пад увагу, Як многа дасць зямля пасагу, Калі б яе купіць прыйшлося.* Новая зямля.

**Сці́сла** *прысл.* ‘ашчадна, эканомна’ (Гродз. Цыхун); **сци́сло** *прысл.* ‘скупа, не марнатраўна, ашчадна’ (Насовіч); **сці́склівы** *прым.* ‘ашчадны, скупаваты’ (Смарг. СПЗБ); **сці́склы** *прым.* ‘ашчадны’ (Паст. СПЗБ); ‘эканомны’ (Лоеў. Янкова); **сці́слы** *прым.* ‘скупы’ (Дзярж. МСММГ, 1974); ‘эканомны, скупы’ (Мядз. Нар. словатв., с. 14). Параўн. польск. *ścisły* ‘строгі’, *ściśle* ‘дакладна’.

**СЦІШНА** *прысл.* Жудасна, жахліва; вусцішна. *Хлопцу сцішна і маркотна. Ноч глыбее, поўнач скора..* Сымон-музыка. *Страшнавата, сцішна ўночы... Нібы ходзіць хтось, шалпоча, Пустым смехам дзесь рагоча...* Там жа.

**СЦІШНЫ** *прым.* Вельмі ціхі. *Усю ноч, ад рэчкі і па Нёман, Ушыр, удоўж нясецца гоман Няўцямны, сцішны і таемны І разам страшны і прыемны.* Новая зямля.

**СЦЯМНА-ЗЯЛЁНЫ** *прым.* Цемнавата-зялёны. *А лёд, бы мур сцямна-зялёны, чуць пасярэдзіне падняты, Ляжыць цяжэрны і зацяты..* Новая зямля.

**СЦЯТЫ** *прым.* Абрывісты; стромкі. *Дзяўча бязвольна, без панукі Уніз з ім коціцца ў лукі, Пад сцяты спад крутых ганоў.* На шляхах волі.

**СЧАВІЦЬ** *зак.* Сціснуць. *З'еўшы першы кусок, ён* [*Дурмашкін*] *зноў счавіў губамі канец абаранка, губамі перадаў яго ў зубы..* Цені мінулага.

**СЫМБАЛЬ** *м.* Сімвал. *Зварот пары, зніканне лета... То — водгулле душы паэта,.. То — струн дрыгучых заміранне, Натхненнай песні жаль сардэчны, Жыцця і смерці — сымбаль вечны!* Новая зямля.

**СЫРАСУШКА** *ж.* Збудаванне, дзе сушылі сыры. *Не так даўно расце сядзіба, А паглядзі, што ёсць у ёй: Садок, альтанка ў форме грыба, Дзе ўтульнасць знойдзеш і спакой; Гумно, свіронак і адрынка. Блішчыць на хаце белы дах, Антэна тоне ў нябесах, А сырасушка, як дзяўчынка.* Рыбакова хата.

**СЫТАЎКА** *ж.* Сітаўка. *На стрэхах бегаюць шустрыя беларудыя сытаўкі, трасуць сваімі доўгімі хвастамі.* Прылёт птушак.

**Сы́таўка** *ж.* ‘сытаўка, птушка’ (Карэл. Сцяшковіч, 1972); **сі́тка** *ж.* ‘птушка сітаўка, пліска’ (Гл. Янкоўскі, 1959); **сы́тка** *ж.* ‘пліска’ (Старадарож. Нар. сл., с. 21), **сы́тка, сыто́ўка** *ж.* ‘пліска’ (Калінк., Пух., Старадарож. СПЗБ).

**СЭРЦАВІНА** *ж.* Унутраная частка ствала дрэва. *Трэба даследаваць, у якім стане знаходзіцца сэрцавіна дуба.* Як птушкі дуб ратавалі.

**Сэрцаві́на** *ж.* ‘асяродак дрэва, стрыжнёвая частка карняплодаў’ (Астр. СПЗБ); **сэ́рца** *н.* ‘стрыжань (морквы, дрэва і да т. п.) (Верхнядзв., Лун., Рас. Шаталава).

**СЯБРОЎСКАСЦЬ** *ж.* Сяброўства. *..Сцёпка бачыў, што ў гэтых адносінах ёсць нешта не зусім сяброўскае, як ні стараліся адны і другія* [*хлопцы і дзяўчаты*] *надаць гэтым адносінам характар сяброўскасці: за сяброўскасцю хавалася нешта іншае.* На прасторах жыцця.

**СЯЛЯНСКАСЦЬ** *ж.* Уласцівасць сялянскага. *Калі кравец Самабыль увасабляе сялянскасць, то Самабыліха з'яўляецца чалавекам пераважна універсальным.* У двары пана Тарбецкага.

**СЯНІНА** *ж.* Каліва сена. *Эх, наперла ліха-гора! Ні сяніны, ні зярна.* Напрадвесні.

**Сяні́на** *ж.* ‘адна сухая травіна’ (Бых. МАСМ); ‘каліва сена, сухая травінка’ (Гл. Янкоўскі, 1970); **сяні́нка** *ж. памянш.* ‘каліва, травінка сена’ (Маз. НЛГ).

**СЯСТРЭНІЧ** *м.* Сын сястры. *А хто не верыць гэтаму, няхай праканаецца сам: адзін падрызнік Сцяпан непрыменна зашле ў сяло свайму нябожу, сястрэнічу Мікалаю.* Старыя падрызнікі.

**Сястрэ́ніч, сястра́н** *м.* ‘пляменнік’ (Зэльв., Іўеў. СПЗБ); **сястры́нец** *м.* ‘сын сястры’ (Гродз. Сцяшковіч, 1983; Стаўб. МСММГ, 1974). Параўн. польск. *siostrzeniec* ‘сын сястры’.

# Т

**ТАБАЧНІЦА** *ж.* Табакерка. *Ён* [*Лабановіч*] *узяў табачніцу, палажыў тутуну, каб закурыць у часе вандравання, і стаў збірацца, не ведаючы, куды пойдзе.* На ростанях.

**ТАВАР** *м.*, **ТАВАРЫНА** *ж.* Свойская буйная рагатая жывёла. *У параўн.* [*Васіль:*] *Гэтых людзей гуртам ганяюць, як тавар, ды ў астрогі садзяць.* Дрыгва. *Каля грэблі за балотам Людзі начавалі; Аж з-пад Пінску шлі пяхотам, Тавaрыну гналі.* Матчына прычытанне.

**Тава́р** *м.* 'свойская рагатая жывёла' (Калінк., Раг. СПЗБ); 'каровы' (Лельч. З нар. слоўн., с. 181; Лун., Стол. ДСБ; ТС); 'буйная рагатая жывёліна' (Маз. З нар. слоўн., с. 181; Гл. Янкоўскі, 1959); 'статак; скаціна' (Лоеў. Янкова); 'жывёла' (Воран. Сцяшковіч, 1972).

**ТАВАРЫШАВАЦЬ** *незак.* Сябраваць. *Лабановіч абвёў вачамі зняволеных, што по́катам ляжалі на нарах.. «Пэўна, і тут ёсць людзі, што ведаюць глыбіні і далечы рэвалюцыі. Знойдзецца з кім таварышаваць і павучыцца.»* На ростанях.

**Таварышкава́ць** *незак.* 'сябраваць' (Бар. СПЗБ); 'таварышаваць' (Гродз. Цыхун). Параўн. укр. *товаришувати* 'быць таварышам, знаходзіцца ў таварыскіх адносінах'.

**ТАКАВІСКА** *н.*, **ТОК** *м.* Месца, дзе такуюць цецерукі, такавішча. [*Міхал*:] — *Вось тут, паночку, «такавіска», Глушэц асочаны ўжо блізка, Няхай жа пан ідзе ціхутка..* Новая зямля. *Размеркаваўшысь такім чынам, Паны па розных пуцявінах Ідуць на токі з леснікамі.* Там жа.

**Ток** *м.* 'месца такавання і само такаванне цецерукоў' (ТС).

**ТАЛАЧЭЧА**, **ТАЛОЧА** *ж.* Таўкатня, бязладдзе. — *А пэўна: будзе талачэча, Не без таго ўжо, чалавеча! — Ўздыхнуў Ксавэры: — шкода пана!* Новая зямля. [*Дзядзька*:] *А ты круціся, хвост авечы, Канца няма той талачэчы, Ну, проста служба гэта гадзіць, І кожны нос тут свой усадзіць.* Там жа. *Тым часам хіліцца дзень к ночы, Выходзяць госці з-за стала. На сёння досыць ім талочы, А тая справа не ўцякла.* Рыбакова хата.

**Ало́ча** *ж.* 'таўканіна, вялікі натоўп' (Маст. Сцяшковіч, 1972); **тало́к** *м.* 'натоўп' (Бар. ДСБ); **талакня́** *ж.* 'таўкатня' (Уздз. МСММГ, 1974).

**ТАМАВАННЕ** *н.* Умацаванне, гаць. *Дзед рабіў тамаванне, узмацняў берагі Азярка. Але надышла навальніца і паддала Азярку сілы, усе дзедавы ўмацаванні былі знесены.* Супраць вады.

**Тамава́не** *н.* 'умацаванне з камянёў, бярвёнаў, лазы супраць размыву берага вадою', **та́ма** *ж.* 'гаць, запруда' (Гродз. Цыхун). Параўн. польск. *tamować* 'затрымліваць, тармазіць', *tama* 'плаціна, гаць'; укр. *тамування* 'затрымліванне плыні, цячэння'.

**ТАПЧАК** *м.* Таптуха (від рыбалоўнай сеткі). [*Плотка*:] *Гоняць нас усюды, Ловяць нас на вуды, Надзяць на гарох, Ловяць невадамі, Душаць венцярамі, Брэднем, тапчаком.* Рак-вусач.

**Тапта́к** *м.* 'тапчак' (Гродз. Нар. сл., с. 260); **топча́нка** *ж.* 'від рыбалоўнай сеткі, якую ўтоптваюць у гразь і ловяць уюноў' (Насовіч).

**ТАРАПІЦЬ** *незак.* Прыспешваць каго-н. *Крылаты вандроўнік, стары жуpавель, Сяброў у дарогу таропіць.* Жураўліны вырай.

**Тарапі́цца** *незак.* 'спяшацца' (Мсцісл. Бялькевіч). Параўн. руск. *торопить* 'паскараць наступленне чаго-н., прымушаць, заахвочваць накіравацца куды-н.'

**ТАРАПЛІВЫ** *прым.* Паспешлівы, паспешны. *Паны паволі, урачыста, Без тараплівай сумятні Усё варочалі дачыста, Не прапускалі ані-ні Ні кожнай шчылінкі, ні рэчы.* Рыбакова хата.

**Тарапкі́** *прым.* 'паспешлівы, жвавы' (Лоеў. Янкова). Параўн. руск. *торопливый* 'які адбываецца хутка, паспешліва'.

**ТАРБАТРОС** *м.* Грабежнік. *З віду здаецца ён* [*фон Зюмель*] *— нібы людзі: І рукі, і ногі, і нос. Глузд жа звярыны, толькі б паскудзіць, Нутром жа бандыт, тарбатрос!* Суд у лесе.

**Тарбахва́т**, **тарбахва́тнік** *м.* 'злодзей' (Бял. Яўсееў); **тарбахва́т** *м. зневаж.* 'злодзей, той, хто займаецца дробнаю кражаю' (Гл. Янкоўскі, 1970).

**ТАРБІНА** *ж.* Торба. *Узяў дзед тарбіну, Выняў кобзу, разы са два Ударыў па рваных* [*струнах*]. Мар'яна-чарніца.

**Тарбі́на** *ж. зніж.* 'торба' (Мсцісл. Юрчанка, 1988).

**ТАРМАСНЯ** *ж.* Валакіта; мітусня. *Яны* [*Андрэй і Янка*] *напісалі Райскаму, шмат выказвалі радасці, надзей на шчаслівы канец і накідаліся на нікчэмства ўсяе чыноўніцкай тармасні вакол настаўніцкага сходу.* На ростанях.

**ТАЎШЧЭРНЫ** *прым.* Таўшчэзны. *А на гваздзі ў таўшчэрным шуле Цапы віселі, бы заснулі.* Новая зямля.

**ТАХТА** *ж.*: **У ТАХТУ**. У рыфму. [*Барбутовіч да Марціна*:] *А за гэты дубок ты ў мяне паскачаш, галубок! — Так і сказаў, у тахту, складна сказаў.* Дзядзькаў сведка.

**Та́хта** *ж.* 'такт, вытрымка' (Маст. Сцяшковіч, 1972).

**ТКАНКА** *ж.* 1. Тканіна. *Тут свабодны ўзлёт малюнкаў, Тут шырокі светазор, Тут і пальмы ўсіх гатункаў, І каралі ясных зор, І дарожка тканкі тонкай, Ручаінкі беражок..* Сымон-музыка. 2. Узорыстая тканіна. *Вобразн. Бы застылі, занямелі Ў мяккіх водблесках-агнёх Тканкі хмарачак ружовых, Лёгкіх, тонкіх, бы шаўкі..* Сымон-музыка.

**Тка́нка** *ж.* 'пасма льну, якая ўплятаецца ў косы замужнімі жанчынамі' (Касц. Бялькевіч); 'галаўная павязка, вышытая чырвонымі ніткамі, аздобленая махрамі' (Насовіч); 'вытканая хустка' (Брэсц. ДСБ).

**ТЛЕНЬ** *ж.* Тленнасць, гніль. *І нейкай тухаллю і тленню Нясе ад чорнага адзення, І востры пах чуваць кадзіла...* Новая зямля.

**Тлень** *ж.* 'гніль' (Насовіч). Параўн. укр. *тлінь* 'тленнасць'.

**ТЛУМНА** *прысл.* Сумятліва, натоўпам. *У нас тут дома неспакойна — Падходзіць фронт, бягуць усе, Гарматны гук зямлю трасе, А наша армія бяззбройна, Адходзіць тлумна і нястройна.* На шляхах волі.

**Тлум** *м.* 'шум, гаворка' (Насовіч); **тлуміць** *незак.* 'дурыць' (Пух. МСММГ, 1974), Параўн. польск. *tłumnie* 'гуртам, гурмою, натоўпам'; укр. *тлумитися* 'тоўпіцца, збірацца ў кучу'.

**ТОК** *гл.* **ТАКАВІСКА**

**ТРАЕКРОТНА, ТРАЯКРОТНА** *прысл.* Тройчы, тры разы. *Вакол маўкліва і маркотна, І лес застыў, глядзіць гаротна, І толькі дзесь у ельняку Шалпоча сойка на суку, Ды стукне дзяцел траекротна.* Новая зямля. *Дзесь хтось свіснуў траякротна. Свіснуў!.. хто? для якой мэты?* Сымон-музыка.

Параўн. польск. *trzykrotny* 'які паўтараецца тры разы'.

**ТРАЛЯВАЦЬ** *незак.* Ісці. *Ідуць* [*хлопцы*] *у лес, крычаць, гукаюць, Як вучні, вырваўшыся з школы, І ўсе davольны і вясёлы — А дзядзька ўперадзе тралюе І галаву ўгару ўскідае, Бярозу добрую шукае З салодкім сокам, баравую..* Новая зямля.

**Тралява́ць** незак. 'ісці, шпарыць' (Ваўк. Сцяшковіч, 1972).

**ТРАПА** *ж.* Сцежка. *І рад нагружаных хурманак Паволі зрушыў, мінуў ганак І ў лес чуць значнаю трапою Пацягся мернаю ступою.* Новая зямля.

**Трапа́** *ж.* 'сцежка' (Касц., Краснап. Бялькевіч); **тропінка** *ж.* 'сцяжынка' (ТС); **тро́пка** *ж.* 'сцежачка' (Насовіч). Параўн. руск. *тропа* 'дарожка, пратоптаная людзьмі або жывёлай'.

**ТРАПАЦЬ** *незак.* Ісці. *Бо мог кожны запытацца, Хто, адкуль ён і куды Ідзе рана так, да свету, Абарваны, чуць адзеты І абуты ў пасталы? Доўга ён [Сымонка] трапаў, далёка Кінуў роднае сяло.* Сымон-музыка.

**Трапа́ць** *незак.* 'бегчы', 'ісці (пра дождж)' (Лоеў. Янкова); *перан.* 'ісці' (Карэл. Сцяшковіч, 1972).

**ТРАСКІ** *прым.* Які выклікае трасенне, калыванне пры яздзе. *Рэсорная павозка, мінуўшы брукаваныя траскія вуліцы, мякка пакацілася па гладкай пыльнай дарозе..* На ростанях.

Параўн. руск. *тряский* 'які выклікае трасяніну, суправаджаецца трасеннем'.

**ТРАЯКРАТНА** *гл.* **ТРАЕКРОТНА**

**ТРОП** *м.* 1. Кірунак; дарога, шлях. *Ды як пачаць? Пачаць з прамовы, Але якой? Дзе верны троп?* Рыбакова хата. 2. У выразе: узяць троп. Знайсці след. *І дзе ён [воўк] дзеўся? дзе праклятьы? Міхала рух бярэ заўзяты, Не возьме тропу ён ніяк, Бяжыць управа наўскасяк: А можа там яго спаткае..* Новая зямля. 3. У выразе: навесці на троп. Даць параду, навучыць чаму-н. *Павесялеў наш поп: Навёў Ціт на троп.* Як поп зрабіўся авіятарам.

**Троп** *м.* 'след' (Пін. ДСБ; Воран. Сцяшковіч, 1972; Насовіч); **узяць (ухапіць) тропу** 'зведаць, убачыць, заўважыць след' (ТС).

**ТРУНАК** *м.* Алкагольны напітак. *Прыемна ў дом зайсці з дарогі, Дзе рады вам гаспадары, Дзе вас частуюць што ёсць змогі, Дзе трунак знойдзецца стары, Такі, што чарачка-другая Вам разагрэе ў сэрцы кроў..* Рыбакова хата.

**Тру́на́к** *м.* 'алкагольны напітак' (Гродз. Цыхун); 'напітак' (Насовіч); 'трунак, напітак; атрута' (Астр. СПЗБ); 'прыправа' (Лаг. МСММГ, 1977); 'віно' (Карэл. Сцяшковіч, 1972). Параўн. польск. *trunek* 'напітак (алкагольны)'.

**ТРУСІЦЦА** *незак.* Дрыжаць ад страху; баяцца. *Так, прыйшла яго часіна, — Ім цяпер не да яго! Але трусіцца хлапчына, Каб не вынікла чаго.* Сымон-музыка.

**Трусі́цца** *незак.* 'трэсціся' (ТС; Насовіч); 'дрыжаць' (Лоеў. Янкова); **тру́сіцца** *незак.* 'дрыжаць' (Калінк. СПЗБ); **тру́сіць** *незак.* 'баяцца' (Уздз. МСММГ, 1970); **трусы́тыса** *незак.* 'дрыжаць' (Стол. Нар. лекс., с. 128).

**ТРУСЦОЮ** *прысл.* Трушком, дробнай рыссю. *Відаць, далёкую дарогу Пачуў Сівак, забіў трывогу І, шыю выгнуўшы дугою, Пабег вясёлаю трусцою Па гладзі мяккага дзірвана.* Новая зямля.

**Труско́м** 'бягом' (Чач. Жыв. нар. сл., с. 82). Параўн. руск. *трусцой* 'дробнай рыссю'.

**ТРУШЧЫЦЬ** *незак.* Есці са смакам, з апетытам. *Мы за сталом не зводзім часу, Бяром па чарцы, па другой І трушчым скваркі і кілбасы Пад лёгкай хмельнаю смугой.* Петрусю Броўку.

**Тру́шчыць** *незак. экспр.* 'есці, хрумстаць' (Іўеў. СПЗБ); *перан.* 'многа есці неспажыўнага' (Гл. Янкоўскі, 1970).

**ТРЫБУШНЫ** *прым.* Трыбухаты. *Снуецца адна толькі погань, Трыбушная мразь, Упаўшая нізка, убога, Як слізкая гразь.* Адплата.

**ТРЫНКНУЦЬ** *зак., экспр.* Выпіць (гарэлкі). *Міхась і Іван — леснікі. Зайшлі яны да цёткі Хрумы і трынкнулі што называецца.* Чорт.

**Тры́нкаць** *незак. экспр.* 'выпіваць' (Гродз. Цыхун); **тры́нкнуць** *зак. неадаб.* 'выпіць' (Карэл. Сцяшковіч, 1983). Параўн. ням. *trinken* 'піць'.

**ТРЫСВЕЧНІК** *м.* Падсвечнік для трох свечак. *Вось выходзіць з алтара бацюшка з трысвечнікам, кланяецца і кажа: — Хрыстос уваскрос!* Адгукнуўся.

**ТРЭБІЦЬ** *незак.* Паўтараць слова «трэба». *— Дык трэба агарадзіць! — шуміць хваля галасоў. — Ды што трэба? «Трэбіць» будзем ды «трэбіць», а за справу ніхто не бярэцца! — крычыць абурліва Акім-шавец: — раз трэба, дык давайце цяпер жа, з гэтага месца, у лес пойдзем галлё, дубцы сеч!* Туды, на Нёман!

**ТУКАТ** *м.* Тупат. *Мільгнулі цені над акопам, Пачуўся шум і тукат ног, Хрусціць жарства дзесь, як гарох...* На

шляхах волі. *Паслухай — тукат, рух мільёнаў. Шуміць зямля, гудзе завод — Вялікі чуецца паход.* Там жа.

**Ту́каць** *незак.* 'стукаць' (Гродз. Сцяшковіч, 1972). Параўн. укр. *тукати* 'стукаць раўнамерна'.

**ТУСКНЕЦЬ** *незак.* 1. Станавіцца цьмяным, блеклым. *Яркія фарбы неба тускнелі, а на зямлю хутка апускалася цемра.* Дрыгва. 2. Губляць яркія фарбы, прыгажосць. *Праходзіў час, тускнела лета, Смугою сцелючы прастор, Губляла поле свой убор.* На шляхах волі. 3. Губляць блеск, выразнасць (пра вочы). *Ды ці варты баламуты, Каб твой твар дзявочы Засціла́ўся ценем смуты І тускнелі вочы?* Дзяўчыне.

Параўн. руск. *тускнеть* 'станавіцца цьмяным'.

**ТУСКНОТА** *ж.* Сум, смутак, журба. *Жыцця асобныя кускі — Малюнкі, з'явы, абразкі, — Ўсплылі, як сон, даўно забыты, І пачуванне адзіноты, Пустэчы цёмнае, тускноты Яго прыгнула, прыглушыла..* Новая зямля. *Крумкач — гэтая баба Наста, заўсёды тускноту нагоніць. Слухаць нядобра.* Туды, на Нёман!

Параўн. польск. *tęsknota* 'пачуццё пакуты, выкліканае стратаю каго- або чаго-н.'

**ТУХАЛЬ** *ж.* Тухліна. *І нейкай тухаллю і тленню Нясе ад чорнага адзення, І востры пах чуваць кадзіла...* Новая зямля.

**Ту́хля** *ж.* 'тухліна' (Мядз. СПЗБ; Мёр. Нар. сл., с. 122); **тухляні́на** *ж.* 'тухліна' (Шчуч. Сцяшковіч, 1983); **тухъль** *ж.* 'пах тухлага' (Ушацк. Жыв. сл., с. 132); **тухлё** *н.* 'смурод' (Хоц. Бялькевіч); **тухляццё** *н.* 'тухляціна' (Мсцісл. Юрчанка, 1988).

**ТЫГА** *выкл.* Прэч. *Пазірае* [*Ганна*] *кудысь дзіка, Падаецца ўся назад, Ды як крыкне немым крыкам: «Жаба! Жаба!.. тыга, гад!»* Сымон-музыка.

**ТЫЛАК** *м.* Частка цела чалавека ніжэй спіны; ягадзіцы. *Няхай ксяндзы — жрацы-блюзнеры, Падпёршы тылакам алтар, Выводзяць панскія намеры З святых канонаў сваё веры, Каб болей сталася ахвяр..* Братам Заходняй Беларусі.

**Ты́лак** *м.* 'ягадзіцы' (Лях. СПЗБ); **тыло́к** *м.* 'зад' (ТС). Параўн. польск. *tyłek* 'зад, ягадзіцы'.

**ТЫНЬ** *ж.* Тын. *А за ім, За сынам праведным сваім, І ты пайшла. У той хаціне Чужой пакінула яго, Святога Ёсіфа свайго. Пайшла ў вандроўку па-пад тынню, Аж покі-покі не дайшла аж да Галгофы.* Марыя.

**Тын** *м.* 'агароджа з колікаў' (Лоеў. Янкова); 'тын' (Воран. Сцяшковіч, 1972); 'агароджа з дошак, прыбітых да жэрдак стаймя' (Мсцісл. Бялькевіч); **тыні́ць** *незак.* 'абстаўляць драўлянымі плахамі пограб, сажалку' (Мсцісл. Юрчанка, 1966).

**ТЫРЧАКОМ** *прысл.* Тарчма. *Валасы ў яго* [*Тукалы*] *былі жорсткія, стаялі тырчаком.* На ростанях.

**Тырчко́м**, **тырчма́**, **тыршма́** *прысл.* 'тарчма' (Ашм., Лід., Свісл. Сцяшковіч, 1983).

**ТЫСЯЧАЛІСНІК** *м.* Крываўнік. *Я пачаў піць крываўнік-падбел (тысячаліснік).* З пісьма.

**Тысе́нчнік** *м.* 'крываўнік' (Лях. СПЗБ); **тысёнчнік** *м.* 'цвінтарэй' (Свісл. Шаталава). Параўн. польск. *tysiącznik* 'лекавая расліна з сямейства гарычкавых'.

**ТЫФУС** *м.* Тыф. [*Бабка Магда*:] — *А мо, ці здаровы ён* [*Андруковіч*]? *Гэтакі тыфус па людзях ходзіць!* Туды, на Нёман!

Параўн. польск. *tyfus* 'тыф'.

**ТЫЧЫНА** *ж.* Доўгая, тонкая палка, шост. *Выразаў ён* [*чорт*] *даўжэразную тычыну, пачапіў на яе чаравікі і аддаў іх бабе.* Чорт і баба. *Як толькі на небе замігала першая зорка, выйшаў Сенька Бацюта з пуком саломы на доўгай тычыне пад вятрак..* Ванька Кудлаты.

**Тычы́на́** *ж.* 'доўгі шост, жэрдка' (Іўеў., Пух. СПЗБ); **ты́чка** *ж.* 'доўгая палка, якой падпіраюць расліны, што віюцца' (Чэрв. Шатэрнік); 'шост, абчасаная жэрдка' (Лід., Пін. СПЗБ); 'тычка, вяха, указальнік фарватэра', 'падпора для фасолі-вітушкі' (Лоеў. Янкова); **ты́чкі** *мн.* 'тонкія кіёчкі, падпоры' (Навагр. Сцяшковіч, 1972); 'завостраная палка, якою праводзяць баразёнку, як саджаюць гуркі'; 'тычка, знак' (Краснап., Чэрык. Бялькевіч). Параўн. польск. *tyczka* 'доўгая, тонкая дзеравяная палка; жэрдка'.

# У

**УБЕЗЛАДЗЬ** *прысл.* Нязладжана, нястройна. *Туды ідуць* [*людзі*] *сур'ёзныя, і нават сляды надзённага клопату адбіваюцца на іх тварах. Назад жа выходзяць пачырванеўшыя, і ногі іх убезладзь ступаюць.* На ростанях.

**УБОЙ** *м.*: **ПАСЫЛАЦЬ НА УБОЙ**. Пасылаць на смерць. [*Марына*:] *Пасылаюць на ўбой безаружных людзей.* Вайна вайне.

Параўн. руск. *посылать на убой* 'пасылаць на смерць'.

**УБОКІ** *прысл.* Хістацца папераменна ўправа і ўлева. *На току ў дзядзькі, бы ў святліцы, Маркотна свеціць блеск газніцы; Дрыжыць агоньчык сіратліва, Убокі ходзіць палахліва.* Новая зямля.

**УБОКУ** *прысл.* У некаторым аддаленні ад чаго-н., убаку. *Стаіць яна* [*хата*], *праўда, убоку За логам адна І, пэўна, варожаму воку Была не відна.* Адплата.

**УВАЖАЦЬ** *незак.* Звяртаць увагу, надаваць значэнне чаму-н.; зважаць. [*Пан Зыгмусь*:] *Я буду рабіць на вас, буду весці гаспадарку, буду служыць, як самы верны і адданы слуга... Вы не ўважайце на мае гады...* Хатка над балотцам. *Ды Верас з дзядзькі тут смяяўся. — Ты не ўважай, што ён убраўся, Гальштук павесіў і манішку, А каб раздзець яго, брацішку, То пэўна ходзіць без кашулі..* Новая зямля.

**Уважáць** *незак.* 'звяртаць увагу' (ТС; Чэрв. Шатэрнік; Насовіч); 'заўважаць' (Уздз. МСММГ, 1977). Параўн. укр. *уважати, вважати* 'звяртаць увагу, улічваць што-н.'

**УВАЖНА** *прысл.* Ветліва, ласкава. *Яна* [*Фядосіха*] *абрусам стол накрыла, Гасцей уважна папрасіла; А на стале скаварадзішча, І скваркі правяць там ігрышча.* Новая зямля.

**Уважэ́ння**, **уважэ́ня** *н.* 'павага, паважанне' (Мядз., Навагр. СПЗБ). Параўн. укр. *уважний* 'ласкавы, мілы, ветлівы'.

**УВАЖНАСЦЬ** *ж.* Уважлівасць. *З вялікаю ўважнасцю слухаюць настаўнікі і пачатковых і сярэдніх школ методыку роднае мовы.* З пісьма.

**УВАКОЛ** *прысл.* Навокал. *За доўгія часы яно* [*дрэва*] *прывыкла да свае адзіноты і страх як любіла азіраць гэта жыццё, што кіпела ўвакол...* Адзінокае дрэва.

**УВІХНЫ** *прым.* Спрытны, вынаходлівы. *Смерць іх [Сымона і Ганну] толькі і разлучыць — Так злюбіліся яны... Не паможа, не навучыць Знахар самы увіхны.* Сымон-музыка.

**УДАННЕ** *н.* Данос. *«Памдзей» аб'ездчык быў няшкодны: Так, чалавек ён старамодны І не такі, як Ворцюх, зыркі, І меней здольны на прыдзіркі І на падкусы, і на ўданне..* Новая зямля.

**Уда́нне** *н.* 'абгавор, паклёп' (Насовіч). Параўн. польск. *udać* 'зрабіць, сказаць што-н. няшчыра, інакш, чым думаеш'.

**УДАТНА** *прысл.* Удачна. *Кантроль, даў бог, прайшоў удатна. — Вайшлі ў вагон, і так прыятна Ў вагоне дзядзьку паказалась!* Новая зямля.

**Уда́тна** *прысл.* 'удала, прыдатна' (Краснап. Бялькевіч; 'удала, трапна' (ТС); **уда́тны** *прым.* 'удачны, удалы' (ТС).

**УДУМНЫ** *прым.* Задуменны, удумлівы. *Дарэктар, хлопцы — ўсе маўчалі, Схіліўшы ўдумныя галовы, Пакуль цягнуліся прамовы.* Новая зямля.

**УЖОНД** *м.* Урад, улада. *Хай «ужонд польскі» слова ў слова Бярэ прыклады з Мураўёва, Каб рух спаганіць, ахлусіць...* Братам Заходняй Беларусі.

Параўн. польск. *urząd* 'ведамства, установа', *rząd* 'урад, улада'.

**УЗАШАЙ** *прысл.*: **ГНАЦЬ УЗАШАЙ**. Выганяць сілай. *Паможам жа Арміі нашай, Што людзям нясе вызваленне, І гнаць будзем Гітлера ўзашай, Каб вынішчыць гада з насеннем.* Адплата.

**УЗВЫШ** *ж.* Вышыня. *Што за ноч! Што за ціш! Змоўклі травы, краскі. Усплыў месячык на ўзвыш Баяць свету казкі.* Ноч.

**УЗДУЖАЦЬ** *незак.* Намагацца, імкнуцца. *Антось на словы не зважае, Бо ўласным вокам уздужае Зямлі вартоўнасці спазнаці, Ці яна мачыха, ці маці..* Новая зямля.

**УЗЛУПКА** *м.* Праборка, наганяй. *Ішлі аб'ездчыкі асобна Пра ўсё паведаміць падробна: Якія дзе былі здарэнні, Ці непарадкі, папушчэнні: Як леснікі, яго падпаскі, Свае спаўнялі абавязкі, Дзе і ў каго былі парубкі, Каб мець прычыну для ўзлупкі.* Новая зямля.

**УЗМАЦАВАЦЬ** *зак.* Падмацаваць. *Усіх цягнула ў госці к цётцы: Так узмацуе на дарогу — Было што есці, дзякуй богу!* Новая зямля.

**УЗНІМНЫ** *прым.* Поўны натхнення, энергіі. *Над радаснай краінай Расквечанай пуцінай Ідзе наш ясны дзень. Раскатам мнагаструнным, Узнімным, дружным, юным Грыміць з ім песень хор.* Да дня 20-й гадавіны Кастрычніка.

**УЗРОК** *м.* Позірк. — *Памру я, Ганна! — кажа ціха. — Дайшоў да дна свайго кяліха, — Міхась глядзіць кудысь далёка, І нудна ёй ад таго ўзроку, Надзеі гіне рэштка тая, І большы смутак пашыбае.* Новая зямля.

**Узро́к** *м.* 'зрок' (Гродз. Сцяшковіч, 1983; Смарг. СПЗБ); 'позірк, погляд' (Мсцісл. Бялькевіч). Параўн. польск. *wzrok* 'погляд, позірк'.

**УЗЫСКОЎНЫ** *прым.* Патрабавальны. *Не трэба забываць, таварышы, і яшчэ аднаго: сам пісьменнік у першую чаргу павінен быць у высокай ступені строгім, узыскоўным крытыкам у дачыненні да сваіх уласных твораў.* З прамовы.

**Узы́сківаць** *незак.* 'спаганяць' (ТС); **узы́скі** *мн.* 'спагнанне' (Мсцісл. Бялькевіч). Параўн. руск. *взыскательный* 'патрабавальны'.

**УЗЯЦЦА** *зак.* Пажаніцца. *Хіба было калі ў свеце, Шчыра што кахаліся, Разышліся, не ўзяліся І жывы асталісь?* Мар'яна-чарніца.

**Узя́ць** *зак.* 'узяць замуж' (Лоеў. Янкова). Параўн. укр. *узятися, взятися* 'пажаніцца'.

**УКАЮКАЦЬ** *зак., экспр.* Забіць. — *Ну, а для нас можа і лепей, што яго* [*Гамыру*] *так укаюкалі, прынамсі, ніякага не было следства, — заўважае Свірыд.* На «святой зямлі».

**Укаю́чыць** *зак.* 'забіць, укакошыць' (Краснап. Бялькевіч).

**УКВЯТНІЦЬ** *зак.* Аздобіць, упрыгожыць кветкамі, галінкамі і пад. *Стары бацька каля яе* [*Ярыны*] *Падае і просіць: Хоць гадочак, хоць лецейка, Хоць зялёных святаў Пачакаці... Дачакалі, уквятнілі хату Любісцікам і аерам..* Сляпы.

Параўн. укр. *уквітчати, вквітчати* 'упрыгожыць, аздобіць кветкамі, зялянінай'.

**УКЛЮКАЦЦА** *зак., іран.* Закахацца без памяці. *Зачалося ўсё з пустога, Але скончылася так, Што наш дока, зух*

*і гога, Сам уклюкаўся, бядак, — Жабраком хадзіў за ёю* [*Ганнай*], *Ёю жыў і сніў яе..* Сымон-музыка.

**УКРОМНЫ** *прым.* Які знаходзіца далёка ад жыццёва важных цэнтраў. *А колькі раскідана такіх людзей па глухіх укромных кутках Беларусі!* З прамовы.

Параўн. руск. *укромный* 'зацішны, утульны, ціхі'.

**УКРУГ** *прысл.* 1. Укругавую, па кругу. *Пайшла ўкруг чарка і другая, Гаворка ў хаце ажывае.* Новая зямля. 2. Навокал, кругом. *Укруг так ціха: ні ветру, ні шуму, ні гоману трывожнага дня.* Прад навальніцаю ўночы. 3. *у знач. прыназ.* Кругом, вакол. *Лес цягнуўся ўкруг вёскі цесным колам.* Як выдумляюцца страхі.

**Укру́г** *прысл.* 'наўкола, укруг' (Краснап., Мсцісл. Бяль-кевіч); 'кружком, укругавую' (Навагр. СПЗБ); 'кругом' (Насовіч); **укруга́** *прысл.* 'вакол, кругом' (ТС).

**УЛАД** *прысл.* У поўнай адпаведнасці з чым-н., упапад. *Тут азваўся Кандрат І сказаў, ды не ўлад, Недарэчы, Абы толькі пярэчыць..* Міхасёвы прыгоды.

**У ла́д**, **у ла́т** *прысл.* 'згодна, наладжана' (Валож. СПЗБ).

**УЛЕТА** *прысл.* Летам, улетку. *Голь абадраная, голь неакрытая, Злою нядоляю моцна прыбітая! Заўжды няма табе, горкай, спакою — Ўвесну, і ўлета, увосень, зімою...* Голь.

**УЛЕЎНЫ**, **УЛІЎНЫ** *прым.* Праліўны. *А дождж пайшоў улеўны.* На схіле дзён. [*Косцік*:] *Пайшоў бы толькі дождж улеўны, Такі, каб копкі паўсплывалі..* Адплата. [*Хмаркі*:] *Ці акупіцца гэтае няшчасце карысцю ад тваіх навальных уліўных дажджоў.* Над прасторамі зямлі.

**Уле́ўны** *прым.* 'праліўны' (Гродз. Сцяшковіч, 1983; Лаг. МСММГ, 1970); **уліўны́**, **уле́ўны** *прым.* 'праліўны дождж' (Астр., Гродз., Іўеў., Лаг., Смарг., Шчуч. СПЗБ; Навагр. Сцяшковіч, 1972); **уліўны́** *прым.* 'заліўны (дождж)' (Валож. Жыв. сл., с. 56). Параўн. польск. *ulewny* 'праліўны'.

**УЛУШТАВАННЕ** *н.* Уладкаванне, размяшчэнне. *Як мурашкі, варушыліся людзі. Хто насіў дровы і кідаў іх на касцёр; ..хто аглядаў салашы, выбіраючы ўтульнае месца для стомленага цела, а хто ладзіў каля агню прынесеныя бярвенні, каб зрабіць з іх нешта накшталт лавы або палацяў для болей зручнага ўлуштавання на начны спакой.* Дрыгва.

**УМЕКА** *м.* і *ж., іран.* Умелец. [*Трэці селянін*:] *Ці доўга забіць чалавека? Як грушу звярзці на вярбе: Свіснуў па лбе — і канец табе! Знойдзецца гэтакі дока, умека.* Прапаў чалавек.

**Умéка** *м.* і *ж.* 'той, хто ўмее ўсё рабіць' (Мёр. 3 нар. слоўн., с. 293); 'пра ўдалага, умелага чалавека' (Навагр. Нар. словатв., с. 48); *іран.* 'умелец' (Лоеў. Янкова); 'чалавек, які ўсё ўмее рабіць' (Гл. Янкоўскі, 1970).

**УНЕЗАМЕТКІ** *прысл.* Непрыкметна, незаўважана. *Ссохлі травы, звялі кветкі, Зніклі пташкі ўнезаметкі, Глухне, ціхне гай!* Журба па вясне.

**УНІКНУЦЬ** *зак.* 1. Аслабець. *Антось сядзеў або сланяўся, Балелі ногі, унікла сіла, А спаць так моцненька каніла!* Новая зямля. 2. У выразе: дух унік. Страціць упэўненасць. *У аконца варажбіткі Хлопец стукае рукой. — Хто там? — Гэта я, бабуля. — Хто такі ты? — Дамянік! Я да вас, бабка Аршуля, — Кажа ён — і дух унік.* Сымон-музыка.

**Унікáць** *незак.* 'знікаць, убірацца' (Пух. 3 нар. слоўн., с. 117); **унíкнуць** *зак.* 'знікнуць' (Ашм. СПЗБ).

**УНОЧ** *прысл.* Ноччу. *Не бядуй, што звіслі хмары, Што нам сонца не відаць, Не бядуй, што ўноч пажары Сталі неба засціЛаць..* Не бядуй!

**Унóчы**, **уначы́**, **уначэ́** *прысл.* 'ноччу' (Астр., Бяроз., Воран., Гродз., Смарг. СПЗБ; Чэрв. Шатэрнік); **уначэ́** *прысл.* 'уночы' (Шчуч. 3 нар. слоўн., с. 50); **унóччы** *прысл.* 'уночы, ноччу' (Мсцісл. Бялькевіч).

**УНУТРАХ** *прысл.* Унутры. — *А, — сказаў Лабановіч у парыванні нейкай радасці, а ўнутрах яго ўсё дрыжала, — ці толькі свету, што ў панны Людмілы?* На ростанях.

**УНУШЛІВА** *прысл.* Пераканаўча. *Затым мудрэц-чарадзей сказаў ціха, але ўнушліва: — На свеце ёсць многа невядомых нам сіл, зыходзячых ад бога Брамы.* Гітлер і чарадзей.

**Унушáць** *незак.* 'навучаць' (Лоеў. Янкова). Параўн. руск. *внушительно* 'пераканаўча'.

**УПАВАЛКУ** *прысл.* Покатам, адзін пры адным у беспарадку. *Заместа ж ваякаў забітых — Цьфу, згінь, ты! — ляжаць упавалку Пужалы на гонях абмытых..* Адплата.

**УПАДОБА** *ж.*: **ДА ЎПАДОБЫ БЫЦЬ**. Падабацца. [*Дзед Мікіта*:] *Паны сабе так думаюць: «А, не да ўпадобы*

*вам былі паны і буржуі, папраганялі нас, дык вось паспрабуйце без нас жыць».* Вайна вайне.

**УПАДОБНЫ** *прым.* Які падабаецца, адказвае пэўным патрабаванням. *Адкуль ні глянь — усё ўпадобна: Першнаперш, жыў бы там асобна, А не ў галдзе, страшэнным сціску, І лбоў не білі б там за міску, Як гэта водзіцца ў народзе; Там зможаш быць з суседзьмі ў згодзе.* Новая зямля. *І распытаў* [*Богут Данілу*] *усё падробна, Як ён жыве і чым жыве, Куды кіруецца-плыве І што ў жыцці больш упадобна.* Рыбакова хата. *Наогул хата — справа дробна, Абы зямля была ўпадобна.* Новая зямля.

**Упадо́баць** *зак.* 'упадабаць' (Гродз. Сцяшковіч, 1983); 'палюбіць' (Лоеў. Янкова); **упадаба́ць** *зак.* 'адпавядаць пэўным запатрабаванням, звычкам, нораву' (Паст., Пух. СПЗБ); **уподо́бу** *прысл.* 'даспадобы' (Івац. ДСБ).

**УПАСЦІ** *зак.* Зберагчы, збавіць ад гібелі. *Падходзіць фронт, бягуць усе, Гарматны гук зямлю трасе, А наша армія бяззбройна, Адходзіць тлумна і нястройна — І бог Расіі не ўпасе!* На шляхах волі. *Не плачаш ты* [*Марыя*] *і не спяваеш, Гадаеш, думаеш, гадаеш, Як навучыць, як навясці На троп святы святога сына І як ад ліха упасці, Ад бур жыццёвых адвясці.* Марыя.

Параўн. руск. *спасти* 'збавіць ад гібелі'; укр. *упастися* 'выратавацца'.

**УПАТАЙНЕ**, **УПАТАЙКУ** *прысл.* Употай, тайком, скрытна. *І наш Барыс Дзяжа хоць-нехаць, Пратэст гукнуўшы ўпатайне, Успомніць мусіў аб вайне.* На шляхах волі. *І тыя думы, тыя песні, Што ты радзіла для мяне, З пачуццем юнага прадвесня Сама складала ўпатайне.* Усё, што поўніла мне сэрца... *Яны* [*прапаршчыкі*] *жывуць праграмай тылу І носяць мыслі ўпатайку Адбыць і ўсю вайну ў палку, Бо фронт, пазіцыі пастыла Глядзяць варожа і не міла..* На шляхах волі.

**Упатайкі́** *прысл.* 'патаемна, скрытна' (Мядз. СПЗБ).

**УПАЎГАЛОССЕ** *прысл.* Напаўголаса, не гучна. *Мармытала заклінанне Бабка ўпаўгалоссе. — Будзе, хлопча, табе зданне, — Дамянік затроcся.* Сымон-музыка.

**Упаўго́ласа** *прысл.* 'напаўголаса' (Чэрв. Шатэрнік).

**УПЛЕЧКІ** *прысл.*: **СХАПІЦЦА ЎПЛЕЧКІ**. Абхапіць рукамі плечы адзін аднаго. *Гаспадар не захацеў спасаваць перад сваім госцем, і яны схапіліся ўплечкі..* На ростанях.

**УРАЗ** *прысл.* Зараз жа, неадкладна. — *А дзе хлоп, што ладна грае? Гэй, музыку завалаць! — Падгуляўшы князь гукае: — Ўраз хлапака мне падаць!* Сымон-музыка.

**Ура́з** *прысл.* 'умомант' (ТС); 'зараз жа' (Стаўб. СПЗБ); 'зараз, у адну хвіліну' (Мсцісл. Бялькевіч); 'адразу, умомант' (Чэрв. Шатэрнік). Параўн. польск. *wraz* 'разам, адначасова'.

**УРАНІЦЬ** *зак.*: **СЛОЎКА НЕ ЎРАНІЦЬ**. Не вымавіць слова, не сказаць; прамаўчаць. *Ганна слоўка не ўраніла І маўчала, як і ён, Бы жуда іх ахапіла, Надышла з усіх старон.* Сымон-музыка.

Параўн. руск. *уронить (слово)* 'кінуць, сказаць (слова)'.

**УРОДА** *ж.*: **З УРОДЫ**. Ад нараджэння. *Юрка з уроды быў хірлявы хлопчык, а нядаўна ён прастудзіўся і заняпаў.* Сірата Юрка.

**Уро́да** *ж.* 'звычка, характар' (Карэл. Сцяшковіч, 1972); 'прырода, характар' (Чэрв. Шатэрнік).

**УРОЎНЯДЗЬ** *прысл.* Упоравень, роўна. *У акенцы ўроўнядзь з долам Цьмяна свеціць начнічок, Бы купальскі светлячок, Блескам смутным, невясёлым.* Сымон-музыка.

**УРЫМСТАВАЦЬ** *зак.* Супакоіцца. *Не ўрымстуе Гітлер шалёны, Упіўся кляшчом, не здаецца І гоніць на фронт эшалоны, Дзе кроў нашых воінаў льецца.* Адплата.

**Уры́мставаць** *зак.* 'супакоіць, суняць' (Карэл. Сцяшковіч, 1972); **уры́мсціць** *зак. экспр.* 'пасядзець, затрымацца; успакоіцца' (Лід. СПЗБ); **уры́мсціцца** *зак.* 'супакоіцца' (Капыл. Жыв. сл., с. 176). Параўн. літ. *rimstùs* 'спакойны'.

**УРЫЎКАВЫ** *прым.* Які робіць што-н. час ад часу, нерэгулярна. *І дзядзька быў рыбак выдатны, Хоць больш урыўкавы, прыватны, Але лавіў такі нямала, І дзядзьку ў рыбе шанцавала.* Новая зямля.

Параўн. польск. *urywkowy* 'абрывачны, адрывісты'.

**УСПАМІНКА** *ж.* Расказ аб мінулым, перажытым; успамін. *У часе гэтых сесій-збораў Было нямала абгавораў І розных штучак, жартаў, кпінак, Ліхіх і добрых успамінак.* Новая зямля.

**УТАРАПЕЦЬ** *зак.* Разгубіцца ад нечаканасці, атарапець. *Марына перш утарапела. Глядзіць — знаёма постаць, від, І той жа зорыць зрок нясмела, Сам тымі ж латамі прыкрыт.* Рыбакова хата.

**Утарапе́ць** *зак.* 'збянтэжыцца' (Карэл. Сцяшковіч, 1983); **утаро́п** *м.* 'атарапеласць, стан атарапення' (Мсцісл. Бялькевіч).

**УТАРАПЁНА** *прысл.* Разгублена, атарапела. *Глядзіць Марына ўтарапёна — Яна яго не пазнае, І ён* [*Даніла*] *гукнуў, заспакаёны: — Марынка, я! — і да яе.* Рыбакова хата.

**Утарапёна** *прысл.* 'збянтэжана' (Карэл. Сцяшковіч, 1972).

**УТАЎЧЫСЯ** *зак., безас.* Уладзіцца, утрэсціся. [*Банадыся*:] *Пакляліся мы Жыць у пары век. Што паробіш тут? Утаўчэцца нейк.* Батрак.

**УТНУЦЬ** *зак.* Гучна зайграць. *Тут музыкі — лознік гібкі — Падымаюць, хто кларнет, Хто басэтлю, а хто скрыпкі... Як утнулі ж, як уцялі З дысканта, а хто з баса...* Сымон-музыка.

**Утну́ць** *зак.* 'гучна зайграць' (Карэл. Сцяшковіч, 1972).

**УТОПЛЕНКА** *ж.* Тапельніца. *Плыве* [*рыбачэнька*]... *плыве... Вось-вось даплыў... Ныркуў... вынырае... Ён утопленку Ганусю На бераг выносіць Ды з рук матчыных заклятых Вырывае косы.* Утопленка.

**Уто́пленік** *м.* 'утопленік, тапелец' (Хоц. Бялькевіч).

**УТОР** *м.*: **УТОР ПАДАБРАЦЬ**. Падыграць. [*Пан*:] *А цяпер такі загад: Я зайграю на раялі, А ты ўтор мне падбяры, — Вочкі ў хлопца забліскалі, Слухаў ён хвілінкі тры, Потым зразу ў тон цаляе, Падбірае гэты ўтор, Тахт ні разу не губляе..* Сымон-музыка.

Параўн. польск. *wtór* 'акампанемент', *wtórować* 'акампаніраваць'.

**УТРОЙЧЫ** *прысл.* Утрая, утрайне. *Банкір павінен палажыць пяць радоў: чатыры рады па дзве карты, а пяты рад — адну. Хто браў у другім радзе, той меў з банка ўдвойчы болей свае стаўкі, у трэцім — утройчы і г. д.* На ростанях.

**Утро́ячы**, **утрайкі́** *прысл.* 'у тры столкі' (Ашм., Маст. Сцяшковіч, 1983).

**УТРОПІЦЬ** *зак.* Знайсці. [*Глынка*:] *Я так ім* [*хлопам*], *пся крэў, дапяку, Што ў іншы бок ім зверне рыла — Няхай ідуць к бальшавіку. Але дарог туды не ўтропяць, Бо вока польскае не спіць.* Рыбакова хата.

**Утро́піць** *незак.* 'трапіць, знайсці дарогу' (Карэл. Сцяшковіч, 1972).

**УТУЛАК** *м.* 1. Утульнасць. *А сэрца ж так хоча цяпла, Утулку і ласкі загубленай хаты.* На вясенні лад. 2. Зацішнае, спакойнае месца. *У гэтых утулках вясковага зацішку Купала любіў паразважаць — падумаць.* Янку Купалу. 3. *перан.* Заможнае, добраўпарадкаванае жыццё; быт. *І ўсё гэта прыемна кідалася ў вочы і вабіла да сябе, выклікала пачуццё замілавання да гэтай новай зямлі, да людзей, што абнаўлялі яе і будавалі на ёй новы чалавечы ўтулак.* Макарка Навак.

**УТУРАВАЦЬ** *незак.* Паўтараць якія-н. гукі; уторыць. *Некісь жаль казыча жылы, Як заграюць дудары.. А сабакі ім ўтуруюць... Дудка плача, дудка мрэ... Як ніколі не гаруюць, Як бяда іх не бярэ!* Вечар на Палессі.

Параўн. польск. *wtórować* 'паўтараць, падтакваць'.

**УХІЛЛІВА** *прысл.* Пазбягаючы прамых выказванняў. — *Ды проста так — хачу паглядзець і на некалгаснікаў,* — *ухілліва адказаў Пракоп.* Адшчапенец.

**Ухі́лліва** *прысл.* 'тактоўна, нярэзка' (Карэл. Сцяшковіч, 1972).

**УЦЕМАЧКУ** *прысл.* Цёмнай парой; цёмначы. *Ён* [*Качубей*] *галубіць Адну мысль днём і ўцемачку: Ці згіне сам, ці яго* [*Мазепу*] *згубіць І возьме помсту за дачку.* Палтава.

**Уцемачку́** *прысл.* 'употай, патаемна' (Карэл. Сцяшковіч, 1972).

**УЦІКАВАЦЦА** *зак.* Засяродзіць на кім-, чым-н. сваю ўвагу; угледзецца. *«Лягаш» у дзядзьку ўцікаваўся І, як з ім толькі параўняўся, Пад бок штурхнуў яго рукою, Маргнуў, паклікаў галавою.* Новая зямля.

**УЧАРЭПІЦЦА** *зак.* Учапіцца, ухапіцца за што-н. *Прэ мядзведзь наўскапыта. А дзед бедны — дух у пятах. Учарэпіўся за хіб, Звера пынячы, ахрып.* Дзед і мядзведзь.

**Учарэ́піцца** *зак. экспр.* 'учапіцца кіпцюрамі ў што-н.' (Лаг. СПЗБ); **ушчарэ́піцца** *зак.* 'учапіцца, ухапіцца за што-н.

абедзьвюма рукамі’ (Дзярж. Нар. сл., с. 47); **ушчырэ́піцца** *зак.* ‘ушчаперыцца, учапіцца’ (Шчуч. З нар. слоўн., с. 51); **учыпе́рыцца** *зак.* ‘моцна ўчапіцца’ (Гродз. Цыхун).

**УШЧЭРБ** *м.* 1. Шкода, страта. *Але, на жаль, трэба прызнаць, што гэта велічыня не заўсёды вымяраецца ўнутранымі мастацкімі якасцямі самога твора, а наадварот — дасягаецца за іх кошт і ў ушчэрб ім.* Чаго я хачу ад з’езда пісьменнікаў. 2. Зыход, канец. *Вось чаму я сёння, на ушчэрбе лета, Не тужу па леце, Як тужыў калісьці..* Восенскае.

**Ушчэ́рба** *ж.* ‘страта’ (Краснап. Бялькевіч).

**УЯРЫЦЬ** *зак.* Пачаць энергічна іграць на музычным інструменце. *А скрыпач ды як уярыць — Проста чорт ім кіраваў! Як шалёны, смык лятае, Скрыпка голасна звініць..* Ігрышча.

Параўн. руск. *наяривать* ‘з захапленнем, энергічна іграць на музычным інструменце.’

# Ф

**ФАЛАНГА** *ж.* Рад, шэраг каго-, чаго-н. *Але ў сталовай туліцца ёмкі і стыльны буфет з цэлаю фалангаю пляшак дарагіх і рэдкіх він і розных трункаў.* Дрыгва.

Параўн. польск. *falanga* ‘атрад, грамада, якія ідуць лавою; цесна самкнуты рад, шарэнга’.

**ФАРДЫБАЦТВА** *н.* Фанабэрыя, пыхлівасць. *— А што пытацца? За вочы скажу табе: не пойдзе — пабяжыць, — адказаў Міхайла, а старшыня дадаў: — Няхай папрабуе фардыбацтвы свае паказаць! Мы, брат, жывым макарам прыструнім яе.* Курская анамалія.

**Фардыба́чыцца** *дзс.* ‘зазнавацца, фанабэрыцца’ (Віц. Касяровіч).

**ФАРТЭЦЫЯ** *ж., перан.* Надзейная аснова чаго-н.; крэпасць. [*Старшыня*:] *Вось мы і надумаліся залажыць тут ядро, фартэцыю нашага калгаса, яго штаб.* Адшчапенец.

Параўн. польск. *forteca* ‘крэпасць’.

**ФАСАВАЦЬ** *незак.* 1. Гарманіраваць з чым-н., пасаваць да чаго-н. *На ім* [*бацьку*] *кучомка, верх зялёны, Кажух кароценькі, чырвоны, А стан шырокая папруга Сціскае спрытна, лоўка, туга; На меднай спронжцы лось красуе І з жоўтай*

*бляхаю фасуе..* Новая зямля. 2. *безас.* (з адмоўем не). Не гадзіцца; няварта, не трэба. *Сцяпан падышоў* [*да вяза*] *і кажа: «Стары ты ўжо чалавек (так і сказаў — чалавек) і займацца такімі жартамі не фасуе.»* Старыя падрызнікі.

**ФАТЫГА** *ж.* Клопат, турбота. — *А мо б наўперад, пан Хадыка, калі фатыга невяліка, Нам паказаў бы сваё поле? Сказаў Міхал.* Новая зямля.

**Фаты́га** *ж.* 'клопат, турбота, справа' (Гродз. Цыхун); 'фатыга' (Гродз. Сцяшковіч, 1972). Параўн. польск. *fatyga* 'клопат, старанне выраішыць чыю-н. справу'.

**ФАЦЭЦЫЯ** *ж.* Жарт, анекдот. *Няўжо яна* [*Насця*] — *і хто дасць веры? — Кахае Крочака? — Мана! Ну, смех, фацэцыя адна!* На шляхах волі.

Параўн. польск. *facecja* 'анекдот, жарт, досціп'.

**ФЕФАР** *м.*: **ЗАДАЦЬ ФЕФАРУ**. Пакараць каго-н., расправіцца з кім-н. [*Лабановіч да Янкі:*] — *Ён* [*святы Мікалай*] *яшчэ, глядзі, і мне каб фефару не задаў. Чорт яго, брат, ведае.* На ростанях.

**Фе́феръ**, **фе́йферъ** *м.* 'моцны наганяй' (Насовіч). Параўн. ням. *Pfeffer* 'перац'.

**ФІГУРАЦЫЯ** *ж.* Дуля, кукіш. [*Дзед Мікіта:*] *(услед Бухраю, згортвае фігу). Вось табе фігурацыю за тваю турбацыю.* Вайна вайне.

**Фігу́ра** *ж.* 'фіга' (Краснап. Бялькевіч).

**ФУНДАЦЫЯ** *ж.* Пачастунак (з выпіўкай). *Дзядзька Марцін ведаў, што Барбутовіч дагаварыўся, каб дзядзька зрабіў яму фундацыю.* Дзядзькаў сведка. *Урэшце дзядзька Марцін прыйшоў да думкі, што можа ён і паставіць Барбутовічу гэтую самую «фундацыю», бо мала што можа здарыцца..* Там жа.

**Фундава́ць** *незак.* 'частаваць' (Ашм., Ваўк., Паст., Смарг., Шчуч. СПЗБ). Параўн. польск. *fundować* 'запрашаць каго-н. і плаціць за пачастунак'; *fundator* 'той, хто частуе каго-н.'

# Х

**ХАПАК, ХАПУН** *м.* Той, хто адбірае ў каго-н. дабро, набытак. *Адно здзівіла тут старога: Страхотны вораг, чужакі, Лагодней шмат, чым казакі, — Няма ў іх сквапу да*

*чужога І не расцягваюць нічога, Не то, што нашы хапакі.* На шляхах волі. [*Караліна да Шышлы*:] *Начніца! Кажан! Злодзей! Хапун! Ты што забраў?* Вайна вайне.

**Хапу́н** *м.* 'рабаўнік' (Карэл. Сцяшковіч, 1972); 'хабарнік, хапуга' (Краснап. Бялькевіч); **ха́пкі** *прым.* 'прагны' (Лун. Шаталава).

**ХАРОНГА** *ж.* Вялікае царкоўнае палотнішча на дрэўку з намаляванымі выявамі святых. *Потым пайшлі з працэсіяй вакол царквы. Лукаш убачыў, як да адной харонгі сунуліся Геронім Дзежка і Язэп Чупрына. І таму і другому хацелася несці харонгу.* Адгукнуўся.

**Харо́нга** *ж.* 'харугва, пратэса' (Гродз. Цыхун).

**ХАЎТУРАВАЦЬ** *незак.* Есці жалобны абед пасля пахавання нябожчыка. *Разышліся па хаўтурах І хаўтуравалі І дзень і ноч, аж папухлі.* Ерэтык.

**Хаўту́ры** *толькі мн.* 'пахаванне' (Гом. НЛГ); 'хаўтуры, пахаванне і жалобная вячэра па нябожчыку' (Касц., Крыч. Бялькевіч); **хаўту́рны** *прым.* 'хаўтурны, жалобны' (Мсцісл. Бялькевіч).

**ХВАЛЬКА** *м.* Хвалько. *Стаў за Ганнай валачыцца Хвалька гэты, Дамянік — На каханкі ён навык, Абы толькі падражніцца.* Сымон-музыка.

**ХВЭБРА** *ж.* Ліхаманка. *У параўн. Настаўнік ішоў і тросся, як у хвэбры, бо ўся гэта праява яго дужа ўсхвалявала.* На ростанях.

**Хвэ́бра** *ж.* 'малярыя' (Карэл. Сцяшковіч, 1972). Параўн. польск. *febra* 'гарачка малярыйнага тыпу, або наогул гарачка з дрыжыкамі'.

**ХІБЕЦЬ** *незак.* Прыходзіць у заняпад, марнець. — *Чартапалох буяе дзікі! — Антось звярнуўся да Хадыкі: — А дзе ўжо пырнік завядзецца, Змаганне трудна з ім даецца! Хібеюць доўга тыя гоні.* Новая зямля.

**Хі́біць** *зак.* 'прапасці, вымакнуць (пра пасевы)' (Ашм., Ганц., Іўеў., Чэрв. СПЗБ); **хібнуць** *незак.* 'вянуць, высыхаць' (Іўеў. Сцяшковіч, 1983); **хібі́на** *ж.* 'старая, трухлявая хаціна' (Нараўл. Нар. сл., с. 234).

**ХІРЛЯВАСЦЬ** *ж.* Слабасць, хваравітасць. *Ён* [*Мазепа*] *стогне, просіць аб сцаленні. Плады турбот, вайны, трудоў,*

*Хірлявасць, болесці і жалі — Ганцы ўжо смерці — прыкавалі Яго к пасцелі..* Палтава.

**ХІРЛЯВЫ** *прым.* 1. Знясілены, хваравіты. *Перад ім* [*Лабановічам*] *былі звычайныя людзі, без рамантыкі і дэманізму, на від хірлявыя і слабыя..* На ростанях. *У часе гэтага ўступу з натоўпу непрыметна праціскаецца нізенькі, хірлявы паляшук сярэдніх год..* Там жа. 2. Кволы, чахлы (пра расліны). *Нізенькія кусцікі, хірлявыя алешынкі ўперамежку з ялаўцамі кучкамі раскідаліся па балоце.* На ростанях. 3. *перан.* Слабы, нясмелы. *Далоў хірлявае ваганне, Хірлявай спадчыны пячаць!* На шляхах волі.

**Хірля́вы** *прым.* 'хваравіты, слабы' (Карэл. Сцяшковіч, 1972); **хі́ры** *прым.* 'хворы, нездаровы' (Навагр. Сцяшковіч, 1983); **хі́ра** *ж.* 'хвароба' (Іўеў. Сцяшковіч, 1983); 'слабая, нездаровая' (Касц. Бялькевіч).

**ХІРУРГІЧКА** *ж.* Жанчына-хірург. *Яна — хірургічка. Мела шырокую практыку з хворымі, такімі, як я.* З пісьма.

**ХЛАБЫСНУЦЬ** *зак., экспр.* Выпіць. *Таксама ахвотнік ён* [*Крэшчык*] *хлабыснуць піва.* На ростанях.

**Хлабазну́ць** *зак. метаф. іран.* 'выпіць' (Мсцісл. Юрчанка, 1988). Параўн. укр. *хлебеснути* 'хлебануць, выпіць'.

**ХЛАПАК** *м.* Хлопец, хлопчык. *Падгуляўшы князь гукае: — Ўраз хлапака мне падаць! — Сціхлі госці і музыкі.* Сымон-музыка.

**Хлапча́к** *м.* 'хлопчык, хлапчук' (Гродз. Цыхун). Параўн. польск. *chłopak* 'хлопец'.

**ХЛАПЯТЫ** *мн.* Хлопчыкі. *«Ого! — падумалі хлапяты: — Няўжо дарэктар так заўзяты, Што будзе права сваё правіць І на калені штодзень ставіць?»* Новая зямля.

**Хлап'я́** *н.* 'хлопчык' (Лоеў. Янкова).

**ХЛАПЦОЎСКАСЦЬ** *ж.* Хлапечая годнасць. *Іван, застаючыся сам з сабою, прыпамінаў гэты погляд, рабіў тыя ці іншыя высноўкі і стараўся пры гэтым не пакрыўдзіць сваю хлапцоўскасць.* Балаховец.

**ХЛІСНУЦЦА** *зак.* Захістацца, хістануцца. *Здрыгануліся нетры ад гулу, І хліснулася лісце ўгары.* Адплата.

**Хліста́цца** *незак.* 'хістацца' (Астр. СПЗБ).

**ХЛОП** *м.* Мужык, селянін. [*Богут*:] *Няма да Польшчы ў хлопаў «хэнці», У іх інтэрас свой на ўме, А ўжо калі што хлоп займе, Яго і пан бог не «асвенціць».* Рыбакова хата.

Параўн. польск. *chłop* 'селянін', *устар.* 'мужык'.

**ХЛОПСКІ** *прым.* Мужыцкі. [*Крулеўскі*:] *Трэба нарэшце скончыць з гэтым хлопскім збродам.* У пушчах Палесся. *Ды ўсё ж настрой адно зніжае: Як гэта даў ён зевака? Як хітрасць хлопская старая Перахітрыла паляка?* Рыбакова хата.

Параўн. польск. *chłopski* 'сялянскі; мужыцкі'.

**ХЛЫСНУЦЬ** *зак.* Моцна ўдарыць. *Адзін казак хлыснуў старога дзеда нагайкаю па твары.* Бунт. *І хоць мароз крапіць пякучы, Да ног даходзіць скрозь анучы І снегам вочы зашывае, — Мужык жыве і не шманае; З саней саскочыць, хлысне пугай Каня і вылае «дзяругай».* Новая зямля.

**Хлы́снуць** *зак.* 'моцна ўдарыць' (Уздз. МСММГ, 1974); 'нечакана выцяць па твары' (Карэл. МСНДМ, с. 159); 'хвастануць; сцебануць; ударыць' (Мсцісл. Юрчанка, 1966); **хлы́скаць** *незак.* 'хвастаць, сцябаць' (Юрчанка, 1966); **хлы́снуцца** *зак.* 'ударыцца' (Нясв. МСММГ, 1977; Астр. МСММГ, 1970); 'вытнуцца' (Капыл. Нар. словатв., с. 60).

**ХЛЫСТАЦЬ** *незак., экспр.* Хлябаць. [*Пятрусь*:] *Паставілі верашчаку, дык я давай хлыстаць.* Калядны вечар.

**Хлы́скаць** *незак. перан. іран.* 'жлукціць (гарэлку)' (Мсцісл. Юрчанка, 1966); **хлісну́ць** *зак.* 'хутка з'есці, прычым крышку якой-небудзь стравы (крупніку, капусты)' (Гл. Янкоўскі, 1959). Параўн. укр. *хлистати* 'хлябтаць, піць'.

**ХМУРНОТА** *ж.* Хмурнасць, воблачнасць. *У нас жа тут такая хмурнота, слоць, хоць з хаты не выходзь.* З пісьма.

**Хму́ра** *ж.* 'хмара' (Лаг. МСММГ, 1970; Валож. Жыв. сл., с. 57); **хму́раецца** *незак.* 'хмарыцца' (Лаг. МСММГ, 1970); **хмурне́ць** *незак.* 'хмарыцца', **хму́рно** *прысл.* 'хмарна' (Воран., Зэльв. Сцяшковіч, 1972).

**ХРАПАВІДЛА** *н.*: **ХРАПАВІДЛА СВІНОЕ.** Паскуднік, свінячае рыла. [*Грында на пана Тарбецкага*:] *Я табе выведу гэтую моду стаяць каля калодзежа, буржуй ты, кравапівец, храпавідла свіное!* У двары пана Тарбецкага.

**Хра́па** *ж.* 'морда ў буйной жывёлы' (Чач. НЛГ).

**ХРЫБУСЦЕЦЬ** *незак.* Утвараць хруст, храбусцець. [*Гарнак*:] *Сніў, няхай яно прападзе. Сніў, што адкусіў вуха ў нашага ўрадніка і жаваў яго, а яно, падла, жорсткае, валасатае, аж хрыбусціць.* Забастоўшчыкі.

**ХРЫШЧЭННІЦА** *ж.* Хросная дачка, хросніца. *Не, ён не ўчыніць намер свой! Павінны быць аховай дружай Свае хрышчэнніцы, а ён — Вар'ят! — на схіле сваіх дзён Уздумаў стацца яе мужам!* Палтава.

**Хрышчэ́ніца** *ж.* 'хросніца' (Лоеў. Янкова). Параўн. укр. *хрещениця* 'хросная дачка'.

**ХУДОБА** *ж.* Свойская жывёла. [*Талаш*:] *Паночак, голубе. Майце ж вы літасць да беднага чалавека. Чым жа худобу карміць будзем?* У пушчах Палесся.

**Худо́ба** *ж.* 'буйная рагатая жывёла' (Стол. ДСБ); 'жывёла, статак' (Лоеў. Янкова); 'жывёла' (Карэл., Шчуч. Сцяшковіч, 1972); 'худоба, жывёла ў гаспадарцы', 'худы конь' (Краснап. Бялькевіч); **худо́біна** *ж.* 'жывёліна' (Лоеў. Янкова).

**ХЭНЦЬ** *ж.* Ахвота. [*Богут*:] *Няма да Польшчы ў хлопаў «хэнці», У іх інтэрас свой на ўме, А ўжо калі што хлоп займе, Яго і пан бог не «асвенціць».* Рыбакова хата.

**Хэнць** *ж.* 'ахвота' (Гродз. Цыхун; Мёр. Нар. сл., с. 128; Навагр. Нар. словатв., с. 48); 'жаданне, ахвота' (Іўеў. Сцяшковіч, 1983; Астр. СПЗБ); **хэнц**, **хэнць** *ж.* 'ахвота, жаданне' (Пін., Пруж. ДСБ); **хэ́нтня** *ж.* 'ахвота' (Клецк. МСММГ, 1970); **хеньць** *ж.* 'жаданне, імкненне' (Мядз. Жыв. сл., с. 57). Параўн. польск. *chęć* 'ахвота, цяга да чаго-н., жаданне'.

# Ц

**ЦАЛКІ** *толькі мн.* Яечня, у якой жаўткі не змешваюцца з бялкамі, запякаюцца цэлымі. *Яна* [*цётка Тарэся*] *так ветла сустракала І надта ж добра частавала: Спячэ «цалкоў» на скавародцы, І так, бывала, наясіся, Што хоць на пупіку круціся..* Новая зямля.

**Цалкі́** *мн.* 'яечня на сале' (Карэл. Сцяшковіч, 1972).

**ЦАПКІ** *прым.* Хваткі, учэпісты. [*Савось*:] *А якія лапкі! Ды як яны цапкі! Ах ты, мой каточак, Чорненькі насочак!* Савось-распуснік. ..у *прыбудоўцы-сенцах гаспадарыць адзін толькі неспакойны вецер,.. пакалыхваючы дзікі вінаград, што моцна ўчапіўся за тонкія дошкі, за кроквы, пераплёўшы іх сваімі цапкімі вусікамі-вывітушкамі.* Хатка над балотцам.

**Цапкі́** *прым.* 'учэпісты' (Карэл. Сцяшковіч, 1983); **ца́пкаць** *незак.* 'хватаць, цапаць' (Мсцісл. Юрчанка, 1988).

**ЦАПСТРЫКІ** *мн.* Дробныя рэчы хатняга ўжытку. *Яшчэ б гадочак пажыць ціха, Але найгоршае тут ліха — Збірай зноў цапстрыкі, трасіся Па каранях з дабром, з сям'ёю..* Новая зямля.

**Ца́пстрыкі** *мн.* 'дробныя рэчы' (Навагр. Сцяшковіч, 1983).

**ЦВЕК** *м.* Цвік. *Падышоў Апанас пад адзін крыж і стаў убіваць цвек.* Заклад.

**Цвек** *м.* 'цвік' (Астр., Брасл., Валож., Віл., Воран., Навагр. СПЗБ; Лаг. МСММГ, 1970). Параўн. польск. *ćwiek* 'цвік з шырокай галоўкай'.

**ЦЕМАКОМ** *прысл.* Цёмнай парой, цёмначы. *Недарма ж ён* [*Дамянік*] *сярод поля Выкрадаўся цемаком; Погляд дзікі так і коле, Так і рэжа, як нажом.* Сымон-музыка.

**Цемачко́м** *прысл.* 'прыцемкам' (Карэл. Сцяшковіч, 1972).

**ЦЕМРАНІСТЫ** *прым.* Які мае адносіны да цемры; цёмны. *У небе зорачка нясмела Над гэтым лесам цемраністым Зірнула вокам прамяністым.* Новая зямля.

**Це́мрыво** *н.* 'цемната, цемра' (ТС).

**ЦЕМРАШАЛЫ** *прым.* Які мае адносіны да цемрашала; цемрашальскі. *Няхай вар'яцее Гітлер цемрашалы І яго хаўрус..* У майскія дні.

**ЦЕНАРОВЫ** *прым.* Пра голас высокага тэмбру (пры выражэнні якога-н. пачуцця). — *Язэп, ўставай! — крычыць ён сыну: — Ўставай у гэтую ж хвіліну! — Бярэ дзед ноты ценаровы, Нібыта злосны яго бровы.* Новая зямля.

**ЦЕНЖЭР** *ж.* Цяжар. [*Чараціна да дуба*:] *На тваёй галаве бусел звіў агромнае гняздо, а ты нават не чуеш гэтае ценжэры.* Дуб і чароціна.

**Це́нжар** *м.* 'цяжар, груз' (Гродз., Дзятл., Маст. СПЗБ; Маст. Сцяшковіч, 1972; Гродз. Цыхун). Параўн. польск. *ciężar* 'цяжар, вага'.

**ЦЕНЕНЬКІ** *прым.* Вельмі высокі па гучанню, падобны на піск. *«Ву-у-ум!» — рассякаюць яны* [*пчолы*] *воздух борздым палётам сваім і напаўняюць яго цененькім прыятным звонам.* Летні поўдзень.

**Це́ненькі** *прым.* 'надта тонкі' (Дзятл. Сцяшковіч, 1983); 'тоненькі' (Астр., Лід., Смарг. СПЗБ).

**ЦЕНКІ** *прым.* Тонкі. *І люду мноства тут хадзіла, Найболей моладзь гарадская, Ды худасочная, благая, Усё панічы-зухі, паненкі, А станік іх, бы ў восак, ценкі..* Новая зямля.

**Це́нкі** *прым.* 'худы, тонкі' (Іўеў. Сцяшковіч, 1983); 'тонкі, худы (пра часткі цела чалавека)' (Воран., Іўеў. СПЗБ); **це́нка** *прысл.* 'тонка, высокім голасам' (Шчуч. Сцяшковіч, 1972). Параўн. польск. *cienki* 'тонкі'.

**ЦЕНЯВАЦЦА** *незак.* Цямнець, напаўняцца цеменню. *Страшна гэтае суценне! Хлопцу сцішна і маркотна... Ноч цянюецца дрыготна...* Сымон-музыка.

**ЦЕНЯВАЦЬ** *незак.* 1. Ісці, скарачаючы шлях, напрасткі. *Глядзіць* [*Сымон*] *— вачам сваім не верыць: Пан Богут! ён у кроках трох... Пад пахай скрутачкі паперы, А сам цянюе без дарог, Праходзіць далей..* Рыбакова хата. *Мінута — батальён на нагах. Бясшумна цянююць на Прыпяць.* Дрыгва. 2. Ісці прама, не зварочваючы ўбок. *— Што, дзядзька, пойдзем у цэркву, можа? — А пойдзем, голубе-нябожа! — Антось і Костусь ідуць з хаты. Цянююць вуліцай дзяўчаты, Шчабечуць весела, смяюцца..* Новая зямля. 3. Хадзіць туды-сюды, у розныя бакі; снаваць. *Яшчэ не ўзышло нават сонца, На небе чуць выплыў румянак, А дзед, як чаўнок у красёнцах, Цянюе там-тут між зямлянак.* Адплата. *Абходзіць* [*маці*] *магілы, на прыклад садзіцца, І сёлы вартуе яна. Па роднаму краю цянюе-снуецца Заўсёды панура, адна.* Няшчасная маці. 4. Лятаць беспарадкава, мітусіцца. [*Сымон:*] *— А што гэта, дзедку мілы, Там снуецца пад акном? Нейкі шолах мяккакрылы.. — А то, хлопчыку, кажаны; Толькі змеркне на дварэ, — І цянюе рой паганы, Нейкі рух яго бярэ.* Сымон-музыка.

**ЦЕЦЕР** *м.* Цецярук. *У параўн. Сядзіць* [*серадняк*], *як грак на дворыку, Як цецер на дубе.* Калгаснае.

**Це́цяр** *м.* 'цецярук' (Шчуч. Сцяшковіч, 1972).

**ЦЁМНІК** *м.* Недасведчаны або малаадукаваны чалавек. *Будзь стараным, сынку, — Станеш чалавекам, Будзеш ты чытаць нам, цёмнікам, няўмекам, Што ў кнігах пішуць..* У школку.

**ЦЁНГЛЕ** *прысл.* Заўсёды, пастаянна. *Цэлы век я ўсё страдаю, Шчасця я не бачу, Сваё жыцце праклінаю, Цёнгле горка плачу.* Плач.

**Цёнгля**, **цёнгле** *прысл.* 'пастаянна, заўсёды, увесь час' (Ашм., Віл., Ганц., Лід., Маст., Мядз., Смарг., Шчуч. СПЗБ; Гродз. Цыхун; Гродз., Шчуч. Сцяшковіч, 1972); 'заўсёды' (Драг., Кобр., Стол. ДСБ); **це́нгле** *прысл.* 'заўсёды' (Уздз. МСММГ, 1970); **цёнгля** 'заўсёды, пастаянна' (Навагр. Жыв. сл., с. 28). Параўн. польск. *ciągle* 'пастаянна, бесперапынку'.

**ЦІЯРА** *ж.* Галаўны ўбор рымскага папы; тыяра. *Адцвілі, паліналі ціяры, З'едзен моллю стары Ватыкан.* Першы май.

**ЦУРУБАЛАК** *м.* Палка. *Дубовы цурубалак-біч адлятае ўбок, пагнаўшы вецер каля бацькавага носа.* Драматург і лірычны паэт.

**Цуру́балак** *м.* 'цурбалак' (Стаўб. Нар. сл., с. 155); **цуру́балка** *ж.* 'палка' (Барыс. СПЗБ); 'гузік з дрэва', 'тоўстая рука' (Лоеў. Янкова); 'аголенае сцябло травяністай расліны' (Лельч. Жыв. сл., с. 217).

**ЦЫБУР** *м.* Сцябло, звычайна тоўстае, пругкае. *Сямтам засохлых раслін цыбуры Схіліліся мёртва над долам.* Пасля зімы.

**Цыбу́р** *м.* 'цыбур' (Дзятл., Карэл. Сцяшковіч, 1972); **цымбу́р** *м.* 'сцябло шчаўя' (Капыл. Жыв. сл., с. 176); 'кветаноснае сцябло буракоў, цыбулі' (Навагр. Жыв. сл., с. 28).

**ЦЫМБАЛІЦЬ** *незак., экспр.* Хадзіць. *Усе нашы дзяўчата раздзяляюцца на панскіх і мужычых. К панскім ходзяць панэ: дзяк, тэлеграфісты, семінарысты, а к мужыцкім — цымбаліць наш брат — мужык.* Наша сяло, людзі і што робіцца ў сяле.

Параўн. польск. *cymbał* 'дурань, расцяпа'.

**ЦЫР** *м.* Высушаная губа (грыб), якая запальваецца ад іскры пры высяканні агню. *Наклаўшы люльку, выняў скал-*

*ку, Адкалупіў ён* [*дзядзька*] *цыру галку І гасіць крэсівам. Іскрынкі, Як залаценькія пылінкі, З нягромкім трэскам узвіліся, На цыр багата паліліся.* Новая зямля.

**Цыр** *м.* 'губа (грыб)' (Лельч. Нар. лекс., с. 134); 'бярозавы грыб, чага' (Салігор. Нар. словатв., с. 112); 'выробленая губа для дабывання агню' (Лях., Чэрв. СПЗБ); **цы́ра** *ж.* 'губа' (Карэл. Сцяшковіч, 1972); **цэр** *м.* 'грыб на дрэве' (Докш. МСНДМ, с. 148).

**ЦЬМІЦЦА, ЦЬМЯНІЦЦА** *незак.* 1. Станавіцца цьмяным; цямнець. *Жыццё ўнікла. Бы ў жалобе, Неба цьмілася, зямля; Толькі ў руневай аздобе Вочы песціла ралля.* Сымон-музыка. *Нават неба на захадзе, якое святлела доўгі час пасля захаду сонца, пачало цьмяніцца і агортвацца ў лёгкую летнюю цемру.* На ростанях. 2. *перан.* Засцілацца, поўніцца. *І вочы цьмяняцца журбою, А ў твары столькі хараства, Што хіба дзерава, жарства Яе не крануцца мальбою.* На шляхах волі.

**ЦЭРАБКОП** *м.* Цэнтральны рабочы кааператыў. *У парыве замілавання* [*Іван*] *купіў ёй* [*Аўдольцы*] *бутэлечку духоў, за семдзесят восем капеек у цэрабкопе купіў іх.* Балаховец.

**ЦЭРБЕР** *м., перан.* Пільны, злосны вартаўнік. *Іх* [*арыштаваных*] *бледныя, змучаныя твары паказваліся ў закутых у жалеза вокнах з усіх паверхаў астрога. — Адкуль, таварыш? — За што? — чуліся мужчынскія і жаночыя галасы. — З Палесся! — То нявольна! — крыкнуў Нявіднаму чорны астрожны цэрбер і штурхануў яго ў плечы.* Дрыгва.

**ЦЭШКА** *ж.* Кукарда. [*Дзяк да Лабановіча*:] *А там, ведаеце, настаўнікі ўжо і форму сваю маюць з бліскучымі гузікамі і шапкі з цэшкамі носяць, як чыноўнікі.* На ростанях.

**ЦЮКАЦЬ** *незак., экспр.* Выпіваць. *Аб'ездчыку таксама было весела, і яны сабе сядзелі, цюкалі па чарцы, як найлепшыя сябры.* Тоўстае палена.

**ЦЮХКАЦЬ** *незак.* Утвараць гукі, падобныя «на цюх-цюх-цюх». *Слухайце ж: «Буль-буль-буль! Цюх-цюх-цюх!» Так і булькае, так і цюхкае маленькая рэчачка!* Ручай.

**ЦЯГАМ** *прысл.* Працяжна, не адрывіста. *Глушэц чым далей, то ўсё болей Дзесь на суку за тоўстай хвояй Рассеўся важна і балбоча, А як спявае — плюшчыць вочы, Тады нічога ён не чуе; Але не цягам ён такуе, А робіць часта перарывы..* Новая зямля.

**ЦЯГАСЦЬ** *ж.*: **НА ЦЯГАСЦЬ**. Быць цяжарам для каго-, чаго-н. *Ды кіне* [*старасць*] *іх адных, старэнькіх, Адных, як перст, і чуць жывенькіх І непатрэбных анікому На цягасць жыццю маладому..* Новая зямля.

**Ця́гасць** *ж.* 'турботы, непрыемнасць' (Лоеў. Янкова).

# Ч

**ЧАДЗІЦЬ** *незак., перан.* Моцна ўздзейнічаць на псіхіку чалавека, на яго свядомасць; атручваць. *Няхай шалее гэта зграя, Няхай чадзіць «святы» дурман, Каб выбіць з беднага ратая Прагненне к волі таго краю, Дзе не прышчэпіцца больш пан..* Братам Заходняй Беларусі.

**ЧАМКАЦЬ** *незак.* Варушыць. *Застыў пан Богут грозна, строга, Губамі чамкае, бы трус.* Рыбакова хата.

**Ча́мкаць** *незак.* 'марудна жаваць ежу' (Гродз. Цыхун).

**ЧАПАЛАС** *м.*: **ЧАПАЛАСУ ДАЦЬ**. Даць дыхту; расправіцца з кім-н. *Не паглядзіць ён* [*дзед Юрка*], *хто такі ты: Хоць чорт, хоць д'ябал знамяніты, Пляваць яму на тваю масць, Але ўжо чапаласу дасць.* Новая зямля. *О, каб бабка Цынклета ўмела пісаць! Дала б яна чапаласу ўсім!* Адшчапенец.

**ЧАПІЦЬ** *незак.* Кранаць, трывожыць. *Горка беднай, цяжка маці, Сэрца яе рвецца. І стаіць яна, чакае Доўгія гадзіны Злыя людзі — іх не чэпіць Смутак мацярыны!* Каля парога.

**ЧАПКОВЭГО: НА ЧАПКОВЭГО**. На развітанне. *На «чапковэго» ў кожным разе Не забракуе ім* [*гасцям*] *вінца.* Рыбакова хата.

Параўн. польск. *czapkować уст.* 'знімаць перад кім-небудзь шапку, раскланьвацца'.

**ЧАРАЗ** *гл.* **ЧЭРАЗ**

**ЧАРАНО** *н.* Самае гарачае месца на печы; чарэнь. *Сымон прысеў, паставіў пяты, Каб іх сагрэць, на чарано..* Рыбакова хата.

**Чарано́** *н.* 'чарэнь' (Карэл. Сцяшковіч, 1972; Лоеў. Янкова).

**ЧАРНАБЫЛ, ЧАРНАБЫЛЬНІК** *м.*, **ЧАРНАБЫЛЛЕ** *н.* Шматгадовы буйны палын з чырвона-бурым сцяблом; чар-

нобыль. *А троп сахі, плугоў брады Заносіў вецер горкім пылам, Каб палыном і чарнабылам Аздобіць Марсавы сляды...* На шляхах волі. *Там нібы зараснік унізе Устае, агорнуты ў туман, — Ці чарнабыльнік, ці бур'ян, — Чытаць так цяжка ў гэтай кнізе.* Там жа. [*Сымон:*] *Залатыя твае слоўкі — Мая песня ў час вандроўкі, Ты як бы дала мне крылле, Многа радасці дала, І забудзе чарнабылле, Краскі згледзеўшы, пчала.* Сымон-музыка.

**Чарно́більнік** *м.* 'чарнобыль' (Верхнядзв. СПЗБ).

**ЧАРНАГРУДЫ** *прым.* Які мае чорнае апярэнне на грудзіне. — *Ці дасі веры, любачка, — казала чарнагрудая пліска кропельцы расы, што выступіла на чарнобыльніку, — такі жаль, такі жаль!* Вадаспад.

**ЧАРНАПЁРЫ** *прым.* З чорнага пер'я. *А па лугах паходжваюць буслы, Сурдут надзеўшы чарнапёры.* Вусцянскі груд.

**ЧАРОД** *м.* 1. Пэўны парадак, чарга. [*Узводны Талалай:*] *Салдаты вы ці зброд? Чаго дзярэце горла? Захоўвайце чарод, Выходзьце напярод, Калі каму прыпёрла..* На шляхах волі. 2. Чыё-н. месца ў якой-н. чарговасці; права каго-н. дзейнічаць адпаведна чарговасці. *Праўда, што таіцца, Быў і мой чарод: Два разы на жыцці Выйшаў я ўпярод.* «Асадзі назад!»

**Чаро́дзь** *ж.* 'чарга' (Віл. МСММГ, 1977).

**ЧМОК** *м.* Пра пацалунак. *І ахвяры зносяць «Яну»: Хто абрус, хто палаценца, Хто ільну, хто рушнічок, І цалуюць — хто ў каленца, Хто ў галёнку ўлепіць чмок.* «Святы Ян».

**Чмок** *м.* 'пра пацалунак' (Мсцісл. Нар. лекс., с. 190).

**ЧМУТА** *ж.* Памутненне свядомасці, дурман. *Зноў затросся Дамянік, З плеч на зямлю спала світка, І прыліп яму язык. — Тфу ты, ліха! што са мною? Што за чортава чмута?!* Сымон-музыка.

**Чмута́** *ж.* 'марока, абмарачэнне' (ТС); **чмут** *м.* 'туман, мана' (Чэрв. Шатэрнік); 'дурман' (Глыб., Лях., Пін., Шчуч. СПЗБ).

**ЧМУЧЭННЕ** *н.* Ачмурэнне, абман. *Мільёны і болей гадоў жыве гэта вера* [*у нядобрую сілу*], *пачаткі яе загублены ў цёмным віры прошласці, і да гэтага часу людскі розум не патрапіў вызваліцца з аблавы гэтага чмучэння...* На ростанях.

**Чмучэ́нне** *н.* 'абман, хлусня, ашуканства' (Насовіч).

**ЧМЫКАЦЬ** *незак.* З шумам выпускаць паветра праз ноздры, чмыхаць. *Палюбіла Ева цялят, а цяляты Еву, і варта было ёй паказацца ў цялятніку, як яны дружным хорам пачыналі мычэць, чмыкаць і танцаваць у сваіх загарадках.* Кінахроніка.

**ЧМЫС** *м.* 1. Пярэдняя частка галавы ў жывёлы; морда. *На Таксу сам ён* [*тхорык*] *нападае І чмыс яе грызе, кусае..* Новая зямля. 2. *зневаж.* Пра твар чалавека. [*Цімох пра сябе:*] — *Ну, што пазіраеш? Эх, эх! Зарос ты, азыз. Сам з дому, з двара свайго збег, Аблуплены чмыс!* Адплата.

**ЧОЛА** *н.* 1. Лоб. *Стаіліся хлопцы, як мышы, Панізілі голас, А помста іх носіць, калыша І хмурыць ім чола.* Суд у лесе. 2. Пра галаву. *На схіле дзён я мару аб адным: Ўзысці з табой на нашы гоні, долы, Зямлі сваёй усім нутром зямным Паклон аддаць, схіліўшы нізка чола.* Мае мары.

**Чало́** *н.* 'лоб' (Гродз. Сцяшковіч, 1972). Параўн. польск. *czoło* 'верхняя частка твару над вачамі'.

**ЧОП** *м.* Пра чарку вялікага памеру. *Гоніць дзядзька ў галоп, А мне вочы на лоб Чуць не выперла чарка-маждджэр. Чую, кепска было б, Каб яшчэ такі чоп, Або пару яшчэ такіх мер!* Па дзядзькох.

**Чоп** *м.* 'чан', 'вялікая шырокая бочка', 'цэбар' (Ашм., Смарг., Чэрв. СПЗБ); 'чан' (Стаўб. МСММГ, 1970).

**ЧОПАРНЫ** *прым.* Важны, чапурысты. *І нейкая новая думка закідаецца ў душу, але ён* [*Лабановіч*] *не можа думаць тут, бо трохі чопарная маленькая матушка заклікае на шклянку чаю.* На ростанях.

Параўн. руск. *чопорный* 'поўны важнасці, манернасці'.

**ЧОС** *м.* Вынік часання. *Даніла справаю заняты — На сані чэша капылы. Пачэша, змерае на вока, Ці гладка выведзены чос..* Рыбакова хата.

**Чос** *м.* 'апрацоўка бервяна сякерай' (Карэл. Сцяшковіч, 1972).

**ЧУБКА** *ж.* Тузанне адзін аднаго за валасы; сварка, бойка. *Асядае пыл жаночы: — Пусці, ягадка мая! Ты пусці, галубка! Не, пусці ты, любка! — Я пусціла! — І я пусціла. Так і кончылася чубка.* За дождж.

Параўн. укр. *чубитися* 'драць адзін аднаго за валасы'.

**ЧУК** *м.* Скураны лапаць. *З адной кішэні доўгага сівага халата тырчэла турэцкая булка, як раменны мужыцкі чук.* Андрэй-выбаршчык. *Дзед Талаш быў у кароткім кажушку, у суконных з раменнымі латамі майтках, абуты ў чукі.* Дрыгва.

**ЧУРБАК** *м.* Кавалак дрэва, бервяна; цурбак. *Для чалавека гэта было б нядобра, а дубоваму чурбаку гэта найлепшая павага.* Дзядзькаў сведка. *Каля дзвярэй канцылярыі [Марцін] спыніўся, паставіў чурбак у куточку і сам прыпыніўся там.* Там жа.

**Чурба́н** *м.* ‘цурбан’ (Верхнядзв. СПЗБ); ‘тоўстае пале́на’ (Рас. Шаталава); ‘палена’, ‘падстаўка пад вулей’ (Мёр. СПЗБ). Параўн. руск. *чурбак* ‘абрубак бервяна’.

**ЧУХАЦЬ** *незак.* Ісці. — *Бяры гэтыя пакі на плечы і чухай у яр! — камандаваў Дземух.* У тыле ў Дзянікіна.

**ЧУЧКА** *ж.* Верх сагнутага сустава пальца. — *Го, мой браток! — і дзед Куцейка Пастукаў чучкаю аб бронь: — Не, гэта, брат, не самасейка! Вось ён які, савецкі конь!* Рыбакова хата.

**Чу́чка** *ж.* ‘сярэдні сустаў пальца на руцэ’ (Карэл. З нар. сл., с. 95); ‘сустаў’ (Карэл. Шаталава); ‘пупышка пальца’ (Карэл. СПЗБ); ‘верх сагнутага сустава пальца’ (Гродз. Цыхун).

**ЧЫЙСЯ** *займ.* Чыйсьці. *З травы чуць відна галава І чыйся твар з вясёлай мінай.* Рыбакова хата.

**Чы́йся, чэ́йся, чыя́сь** *займ.* ‘нечы’ (Ваўк., Драг., Пруж. СПЗБ).

**ЧЫСТАСЦЬ** *ж.* Чысціня. *Як зяніцу вока, мы павінны ахоўваць чыстасць нашых літаратурных савецкіх прынцыпаў.* З прамовы.

Параўн. польск. *czystość* ‘выразнасць, бездакорнасць, чысціня’.

**ЧЫЧЫКАЦЬ** *незак.* Утвараць гукі, падобныя на «чычык-чычык». *Толькі чутно было, як спалі дзеці; дзесь у запечку ціханька чычыкаў шашаль..* Зімні вечар.

**Чычы́каць** *незак.* ‘стракатаць (пра сароку)’ (Верхнядзв., Глыб. СПЗБ).

**ЧЭЗЛЫ** *прым.* 1. Убогі, стары (пра прадметы). *Для яго [Лабановіча] было ясна, чаму такія гіблыя і чэзлыя сялян-*

*скія будынкі,.. чаму такім мізэрным выглядае тутэйшы народ.* На ростанях. 2. Малы, не зусім выразны, ледзь бачны. *З захаду паказваюцца чэзлыя воблачкі.* Кніга Ташкенцкага быція. 3. Бедны, мізэрны. *Паёк чэзлы, але па цяперашняму часу наракаць не прыходзіцца.* З пісьма. 4. Слабы, недасканалы, дрэнны. *Абмежаванасць у жывым матэрыяле ..вядзе да таго, што .. твор атрымліваецца чэзлым, малакроўным, бледным.* З прамовы.

**Чэ́злы** *прым.* ‘худасочны, худы’ (Ганц. СПЗБ); ‘замучаны, слабы’ (ТС); ‘рэдкі’ (Карэл. Сцяшковіч, 1972). Параўн. літ. *čẽžas, kẽžas, kėžlỹs* ‘худасочны, худы’.

**ЧЭПАК** *м.* Чапец. — *Эй, цётка Хрума! ураз з’явіся! — Вайшла і Хрума ў старым чэпку.* Новая зямля.

**Чэ́пак** *м.* ‘чапец’ (Воран., Карэл., Чэрв. СПЗБ; Гродз. Цыхун; Воран. Сцяшковіч, 1972; Лоеў. Янкова). Параўн. польск. *czepek* ‘жаночы галаўны ўбор з палатна, паркалю, прыбраны фальбонамі’.

**ЧЭРАЗ, ЧАРАЗ** *прыназ.* Цераз, праз. *Чэраз некалькі часу прылетае шпак.* Прылёт птушак. *Шлі яны* [*чалавек і баба*] *чараз траву, чараз папаратнік.* Наша сяло, людзі і што робіцца ў сяле.

**Чэ́раз** *прыназ.* ‘праз’, ‘цераз’ (Воран., Кам., Пруж., Свісл. СПЗБ; Лоеў. Янкова); **ча́раз** *прыназ.* ‘цераз’ (Шчуч. З нар. сл., с. 51).

# Ш

**ШАБАСГОЙ** *м.* Яўрэйскі прыслужнік. [*Ляснічы:*] *Увесь друк у жыдоўскіх руках, ім трэба разбурыць праваслаўную царскую Русь, а рускіх людзей парабіць шабасгоямі.* На ростанях.

**ШАВАЛІЦЦА** *незак.* Шавяліцца, варушыцца. *Аленіна ўвага раптам спыняецца на пану Зыгмусю: яна чуе, як ён шаволіцца ў сваёй скрыні, і ёй становіцца ўсё зразумелым.* Хатка над балотцам.

**Шаволі́цьца** *незак.* ‘варушыцца’ (Насовіч).

**ШАВАЛІЦЬ** *незак.* Злёгку прыводзіць у рух што-н.; шавяліць. *Шаволіць вецер вырваныя пасмы саломы на хаце..* Хатка над балотцам.

**Шаволíць** *незак.* 'варушыць, прыводзіць у рух' (Насовіч).

**ШАЛАГОН** *м.* Легкадумны, пусты чалавек; ветрагон. *Дзе ж гэта відана, каб пражыўшы ўсё жыццё на зямлі чалавек, не шалагон, а чалавек сталы, працавік, руплівы гаспадар, раптам кінуў свой дом, сваю сям'ю, увесь набытак і павалокся ў свет?* Адшчапенец.

**Шалогáнъ** *м.* 'махляр, шэльма; свавольнік' (Насовіч).

**ШАЛАПАЙ** *м.* Свавольнік, шалапут. *Сеў каток На дубок, Кажа забіякам: — Эх, Савось, шалапай! Ты мяне не чапай І не цкуй сабакам!* Савось-распуснік.

**Шалаплýт** *м.* 'легкадумны, пусты чалавек' (Пух. СПЗБ). Параўн. руск. *шалопай* 'гарэза, свавольнік'.

**ШАЛАХТА**, **ШАЛАХТУН** *м.* Балбатун, пустазвон. *Дзед залішне скупават, Толькі цешыць абяцанкай, А не справіць халата, І стары, а жыве зманкам, Дзед — шалыга, шалахта.* Сымон-музыка. *Ды хоць бы пан, а то — зараза, Так, шалахтун, байструк, пралаза, Няшчасны вырадак, пастух..* Новая зямля.

**Шалахтáй** *м.* 'распуснік' (Ваўк. Сцяшковіч, 1983); **шолотá** *м., ж.* 'балбатун, пляткар, трапло' (Пін. Жыв. сл., с. 165); **шалахнá** *м., ж.* 'шалапут, ненадзейны чалавек' (Навагр. Жыв. сл., с. 28).

**ШАЛАЦЦА** *незак.* Хадзіць без справы, швэндацца, бадзяцца. *Ці мала шалаецца зброду?* Адплата. *Шалаюцца* [*афіцэры*], *як сукіны сыны, Залезшы ў новыя паны.* На шляхах волі.

**Шалáцца** *незак.* 'бадзяцца' (Верхнядзв. Шаталава); 'хадзіць, цягацца без заняткаў, бадзяцца' (Брасл., Ваўк., Лід., Мёр. СПЗБ); 'бадзяцца без справы' (Пух. МСММГ, 1970; Слон. Сцяшковіч, 1972); **шалахкáннік** *м.* 'бадзяка' (Мсцісл. Юрчанка, 2002).

**ШАЛЫГА** *м.* Круцель, махляр. *Дзед залішне скупават, Толькі цешыць абяцанкай, А не справіць халата, І стары, а жыве зманкам, Дзед — шалыга, шалахта.* Сымон-музыка.

**Шалы́га** *м., ж.* 'валацуга' (Карэл. Сцяшковіч, 1972); 'круцель, ілгун' (Насовіч).

**ШАЛЯНІЦА** *м.* і *ж.* Свавольнік, дураслівец, гарэза. *А гэты Юзік-шаляніца, Малы яшчэ, зусім дурніца, Так пад нагамі і таўчэцца..* Новая зямля.

**Шаляні́ца** *ж.* 'дурасліўка, свавольніца, балаўніца' (Паст. СПЗБ).

**ШАПАТКОМ** *прысл.* Шэптам. *Міска круціцца ваўчком, А жанкі глядзяць здзіўлёна, Кінуць слоўка шапатком.* Прапаў чалавек. *Прачытаў Сцёпка, прыгледзеўся да гэтых слоў, сказаў іх шапатком, каб пачуць гукавую прыроду іх..* На прасторах жыцця.

**ШАПАТОК** *м.* Шолах, шапаценне. *Кругленькі агеньчык як бы боязна тросся, дрыжаў. У пустой цішыні чуткае вуха чуць-чуць разбірала яго нясмелы шапаток.* Царскія грошы.

**ШАПТАНУЦЬ** *зак.* Сказаць, вымавіць вельмі ціха, шэптам; шапнуць. *Потым дзядзька прыціх, Шаптанулі ўдваіх, Наконт мусіць быць «горкай вады».* Па дзядзькох.

**Шапта́ць** *незак.* 'гаварыць ціхім голасам' (Верхнядзв. СПЗБ); **шапята́ць** *незак.* 'шапатаць, гаварыць шэптам' (Гродз. Цыхун).

**ШАРАСЦЕННЕ** *н.* Шархаценне, шапаценне. *Нідзе ні зыку-шарасцення, І толькі шум, бы кім насланы.. Ўвушшу стаіць, грыміць і звоніць..* Новая зямля.

**ШАРАСЦЕЦЬ** *незак.* 1. Шапацець. *У самым беразе, у вадзе, чуць-чуць шарасцеў чарот.* Дуб і чароціна. 2. Утвараць шорхат, шум. *Шарасцяць па пяску вуліцы калёсы і крэкчуць ад цяжару наваленага гною ці дроў.* Старасць не радасць.

**ШАРСЦЕЦЬ** *незак.* Шуршэць, хрусцець. *Сошка крывенькая дол рэжа плытка, Толькі пясочак шарсціць.* Араты.

**ШАСЦЕННЕ** *н.* Лёгкі шум, шоргат. *Пераможнаю радасцю гучаць жалезныя колы вагонаў, і гэтае гучанне падхоплівае зарэчны чарот, ператвараючы яго ў цэлую мяцеліцу адрывістага смеху-шасцення.* На ростанях.

**ШАТАН** *м., лаянк.* Сатана, д'ябал. — *О, шатан стары! — прамовіў толькі ён* [*жалнер*], *падымаючы сваю канфедэратку.* Дрыгва. *Была кароткая нарада, Каму вясці якога пана. «Абы не гэтага шатана, Хоць бы не мне ўсучылі гада», — Міхал падумаў аб ляснічым.* Новая зямля.

**Шата́н** *м.* 'нячысцік' (ТС; Дзятл. Сцяшковіч, 1972); **шата́нъ** *м.* 'д'ябал' (Насовіч). Параўн. польск. *szatan* 'д'ябал'.

**ШАТАНСКІ** *прым.* Д'ябальскі; каварны. *За вашу «ласку» панскую, Палітыку шатанскую, Мы дзякуем, паны!* Панская ласка.

**ШВАХ** *выкл. у знач. вык.* Дрэнна, кепска. — *Справа — швах! — гаворыць начальнік кулямётнай каманды.* Дрыгва.

Параўн. ням. *schwach* 'слабы', *Schwäch* 'слабасць, бяссілле, недахоп'.

**ШВОРЫЦЦА** *незак.* 1. Хадзіць, шукаючы чаго-н., выглядаючы што-н. *З паўгадзіны* [*незнаёмы*] *шворыўся па лесе, прыглядаючыся на дрэвы і вывараты, штось мяркуючы і разважаючы.* Балаховец. 2. Рыскаць. *Тут жыць сапраўды страшнавата: Лагчыны, яміны, раўкі — Тут, пэўна, шворацца ваўкі..* Новая зямля.

**Шво́рыцца** *незак.* 'мітусіцца, праціскацца куды-небудзь' (Ваўк. Сцяшковіч, 1972).

**ШВЫДКА** *прысл.* Хутка. *Пайшла работа дружна, швыдка, Сянцо зграбаюць у валкі..* Рыбакова хата.

**Швы́дка** *прысл.* 'хутка, скора' (Карэл. Сцяшковіч, 1972; Карэл. Нар. словатв., с. 55); **швы́дко** *прысл.* 'хутка' (ТС; Насовіч).

**ШВЫДКІ** *прым.* Хуткі. *Разгорнем тэмп работы швыдкі Праз гутаркі і чыткі..* На шляхах волі.

**Швы́дкі** *прым.* 'хуткі, жвавы' (Карэл. Нар. словатв., с. 55; ТС); **швы́ткый** *прым.* 'хуткі, рухавы' (Драг. ДСБ); **швы́дкій** *прым.* 'хуткі' (Насовіч).

**ШКАПІК** *м.* Невялікая шафа. *Адчыніўшы шкапік, Спірыдон перабраў колькі скамечаных паперак і толькі ў адной з іх знайшоў акасцянелы кавалак каўбасы і скарынку зацвіўшага хлеба.* Так і трэба ашуканцу.

**Шка́пік** *м.* 'шафа, куды ставяць посуд' (Бых., Кругл. МАСМ); **шка́пчык**, **шка́фчык** *м.* 'шафка' (Дзятл., Навагр. Сцяшковіч, 1972); **шка́пікъ, шка́пчикъ** *м.* 'шафка' (Насовіч); **шкап** *м.*, **шка́па** *ж.* 'шафа' (Мсцісл. Бялькевіч).

**ШКЕЛКА** *н.* Асколак, кавалак шкла; шкельца. *У параўн. А вочы, як мутныя шкелкі, У неба устаўлены тупа.* Адплата.

**Шке́лко** *н. памянш.* 'шкло' (Насовіч); **шке́лля** *н., зб.* 'кавалкі бітага шкла' (Раг. СПЗБ).

**ШКНУЦЬ** *зак.* Шалахнуцца, адазвацца. *І верабей з усёй раднёю Не шкне, схаваўшысь пад страхою.* Новая зямля.

**Шкну́ць** *зак.* 'шалахнуцца, адазвацца' (Карэл. Сцяшковіч, 1972).

**ШКУРАТ** *м.* Кавалак, абрэзак скуры; скурат. *Не скончыў Ручаёк гаварыць, бо наляцеў Вецер і сыпнуў са злосці ў Ручаёк цэлае воблака пылу. — Высушу, як шкурат у пятроўку, — пагразіў сярдзіты Вецер.* Адзінокае дрэва.

**Шкура́т** *м.* 'скурат' (Рас. Шаталава); 'вырабленая скура' (Чэрв. Шатэрнік; Насовіч); 'скурат, скураны акравак' (Лях. СПЗБ); 'кавалак вырабленай скуры', 'кажух, паўкажушак' (Мсцісл. Юрчанка, 1966).

**ШЛАПАКІ** *мн.* Стары, зношаны абутак. *Андрэй усунуўся ў шлапакі, накінуў на плечы кажух і выйшаў на двор.* Малады дубок.

**Шлапаке́** *мн.* 'шлёпанцы' (Астр., Шчуч. СПЗБ); **шлапанты́кі** *мн.* 'зношаны абутак' (ТС).

**ШЛОПНУЦЬ** *зак.* Утварыць прыглушаны гук. *На гэты стук у яме-хаце Наўперад рыпнулі палаці І зварухнуўся край бярлогі, А потым шлопнулі ўжо ногі; Сам гаспадар, кудлач заспаны, Ідзе на стук неспадзяваны Хадою важнаю індыка.* Новая зямля.

**ШЛУНКІ** *мн.* Часткі цела чалавека; вантробы. *Усе мае «шлункі» прыйшлі ў поўную нягоднасць, у заняпад.* З пісьма.

**Шлу́нкі** *м.* 'суставы' (Дзярж. Нар. сл., с. 48); 'нервы' (Івац. Жыв. сл., с. 33); **шлу́нак** *м.* 'вантробы' (Ельск. З нар. сл., с. 182); 'вантробы, кішкі' (Насовіч); **шлу́нок** *м.* 'страўнік' (ТС); **шлу́нне** *н.* 'вантробы' (Пух. МСММГ, 1970). Параўн. польск. *członki ciała* 'члены цела'.

**ШЛЮНДРА** *ж.*, *абразл.* Пра неахайную жанчыну. [*Тарэся да Аўгіні*:] *Не палохай, не палохай, Шлюндра ты і замазоха!* За дождж.

**Шлю́ндра**, **флю́ндра** *ж.*, **шлюндры́ско**, **клюндры́ско** *н.* 'бадзяга' (Драг. Нар. лекс., с. 236); **шлёндра**, **шло́йда** *м.* і *ж.* 'валацуга, чалавек, які ходзіць без справы' (Бераст., Лід. Сцяшковіч, 1983); **флю́ндра** *ж.* 'неахайніца' (Ашм. Сцяшковіч, 1983); 'пра неахайнага чалавека' (Астр. СПЗБ); 'лёгкадумная жанчына' (Стаўб. Нар. сл., с. 155). Параўн. польск. *flądra* 'пра каго-н. бруднага, неахайнага; пра жан-

чыну дрэнных паводзін'; літ. *pluindra* 'пра неахайнага чалавека'; ням. *plunderig* 'абадраны'.

**ШЛЯК** *м.* Паласа па краі чаго-н. *Над саменькаю вадою цягнуўся прыгожы шляк сакаўной зеляніны.* Што яны страцілі. *Зялёнымі шлякамі цягнецца шыракалісны аер..* На прасторах жыцця.

**Шлякъ** *м.* 'шляк, пруг' (Насовіч); **шляг**, **шляк** *м.* 'край хусткі з узорам' (Валож. МСММГ, 1970); **шляг** *м.* 'беражок, аблямоўка ў тканіне, хустцы' (Гродз. Цыхун); 'беражок, шляк' (Навагр. Сцяшковіч, 1972). Параўн. польск. *szlak* 'аблямоўка, паласа'.

**ШЛЯХОЦКІ** *прым.* Які мае адносіны да шляхты, належыць ёй. *У гэтых Акінчыцах, невялічкім шляхоцкім засценку, і радзіўся я ў 1882 г..* З пісьма.

**Шляхóцкі** *прым.* 'які належыць шляхце; шляхецкі' (Насовіч).

**ШМАТСТАЙНАСЦЬ** *ж.* Разнастайнасць. *Бо не толькі працамі аўтараў гэтых паэм — А. Куляшова, М. Танка, П. Броўкі — вычэрпваецца ўся шматстайнасць беларускай савецкай паэзіі.* Аб літаратурнай працы.

**ШМОК** *м.* Крывасмок; блазнюк. — *Ну, выбачайце,* — *нарэшце гаварыў ён* [*ляснічы*], — *у вас там гэтыя шмокі шыі ломяць, а я вас затрымліваю.* На ростанях.

**Шмок** *м. абразл.* 'крывасмок' (Іўеў. СПЗБ).

**ШОЛАМ** *м.* Звонкі гоман, шум, крык. *Быў позны час, як «цётку» Хруму З вясёлым шоламам і ў тлуму Лясная стража пакідала.* Новая зямля.

**Шóлам** *м.* 'шорах, шоргат; шастанне, шамаценне' (Гродз. Цыхун); 'шалом' (Драг. З нар. сл., с. 153); 'шум' (Капыл. Жыв. сл., с. 177).

**ШПАКОЎНІЦА** *ж.* Шпакоўня. *Міхась і Міша збівалі шпакоўніцу. Міхась лазіў на дрэва прымацаваць шпакоўніцу.* Гаворыць Клязьма.

**Шпакóўніца** *ж.* 'шпакоўня' (Чэрв. СПЗБ; Мсцісл. Юрчанка, 1966).

**ШПАРА** *ж.* Шчыліна. *Як прусакі ў шпарах, пячурах, Схаваўся ксёндз і поп-капрал.* Да 10-й гадавіны БССР.

**Шпáра** *ж.* 'трэшчына, расколіна' (Гродз. Цыхун); 'шчыліна' (Камян. Жыв. нар. сл., с. 186); **шпар** *м.* 'шчыліна'

(Астр., Іўеў. СПЗБ); ‘паз, шчыліна’ (Лоеў. Янкова); **шпа́ры** *мн.* ‘пазы ў дошках, каб дошка за дошку заходзіла’ (Лаг. МСМММГ, 1970). Параўн. польск. *szpara*, ням. *Sparren* ‘шчыліна, прадаўгаватая, вузкая дзірка’.

**ШПАЦЫРОЎШЧЫК** *м.* Той, хто шпацыруе, прагульваецца. *Сустрэўшы ў дарозе парачку шпацыроўшчыкаў, хто-небудзь з моладзі паківае на іх з аўтобуса пальцам з сяброўскаю пагрозаю.* Паездка на Асінбуд.

**ШПУЛЁК** *м.*: **НІ ШПУЛЬКА**. Нічога, ні крупінкі. *У гумне — ні каплі сена, У засеку — ні шпулька, На дрывотні — ні палена, Няма хлеба ні куска.* Вясна.

**Шпуль** *м.* ‘прылада, якой карыстаюцца пры вязанні снапоў’ (Гродз. Цыхун).

**ШРАЙБАВАЦЬ** *незак.* Пісаць. *Фон Зюмель шрайбуе загады, Фон Зюмель засноўвае лад..* Суд у лесе. *А так, апёршыся на левы локаць, можна шрайбаваць, покі не забаліць левая рука.* З пісьма.

Параўн. ням. *schreiben* ‘пісаць’.

**ШТАНЦЫ** *мн.* Штаны. *..толькі ж яна* [*свіння*] *палічыла лішнім сыходзіць набок і шарганулася бокам аб сінія джыгіналёвыя штанцы Спірыдона.* Так і трэба ашуканцу.

**Штанкі́** *мн.* ‘штаны’ (Калінк. СПЗБ).

**ШТАЎХАЦЦА, ШТОЎХАЦЦА** *незак.* Штурхаць адзін аднаго; штурхацца. *Прыйшла і маці з агарода. — Алесь, сынок ... ідуць кароўкі! Бяжы хутчэй, рассунь засоўкі, Каб не штаўхаліся дарма...* Новая зямля. *У кухні тупалі, штоўхаліся; грукалі збаны, глякі і бутэлькі..* На ростанях.

**ШТАЎХАЦЬ** *незак.* Кранацца каго-н. кароткім штуршком. *А Лявон адно гукае: — Выцінай, бубні, раві! — Ойча, — дзяк папа штаўхае, — Не ўстаю — благаславі!* Ігрышча.

**ШТОГОДУ** *прысл.* Штогод, кожны год. *Былі там пасекі. Штогоду Тут сотні блізшага народу Дзялянкі лесу карчавалі І на трацяк іх засявалі..* Новая зямля.

**ШТОЎХАЦЦА** *гл.* **ШТАЎХАЦЦА**

**ШТОЧАС** *прысл.* Штогадзіны. *Раслі штодзень, usточас магілы, Знікалі з дымам гарады..* На шляхах волі.

**ШТУРХАН** *м.* Кароткі, моцны, рэзкі ўдар. *Вось Чоран зрушыў Лысача, папхнуў, папёр, адкідае яго моцнымі штурханамі рагатае галавы.* Чоран.

**Штурха́н** *м.* 'удар' (ТС).

**ШТУРХЕЦЬ** *выкл. у знач. вык.* Штурхнуць. *Ад дружбы к гульням пераходзяць, Ды тыя гульні часта шкодзяць: Казёл каня штурхець рагамі!* Новая зямля.

**Штурхе́нь** *выкл.* 'пра рэзкі штуршок' (Юрчанка, 2002).

**ШТУЧНА** *прысл.* Вельмі добра, па-майстэрску. *І дрэмлюць чорныя яліны, І моўкне ў лесе спеў птушыны, І толькі дрозд высвістваў штучна, Як на кларнеце, мілагучна..* Новая зямля.

**Шту́чно** *прысл.* 'па-майстэрску' (Насовіч).

**ШТУЧЫНА** *ж.* Штуковіна. *Але ў машыне гаспадарскай, Бы ў хітрай штучыне слясарскай, Згубілась шруба, — стоп, машына!* Новая зямля.

**ШТЭНФЕЛЬ** *м.* Шомпал. *Якая там стрэльба? Божа ты злітуйся! Яе, па праўдзе сказаць, смешна і называць стрэльбай. На рулі — гразі на цэлы палец; брамка з сабачку нябожчыцы пані Каліноўскай. Заміж штэнфеля — арэхавая палка.* «Слабода».

Параўн. ням. *Stengel* 'стрыжань'.

**ШУКАЛЬНІЦКІ** *прым.* Шукальны. *Цяжкія выпрабаванні, праз якія суджана было прайсці Міцкевічу разам з лепшымі сынамі польскага народа, накіравалі шукальніцкі дух паэта да самых важных сацыяльных праблем эпохі.* Светлыя старонкі дружбы.

**ШУРА-БУРА** *ж.* Сумятня, шурум-бурум. — *Няма «начатак»! — Зноў «начаткі»? Калі ўжо будуць ім канчаткі? — Ён [Алесь] ператрос і вугалочкі, Як ёсць, аблазіў і куточкі; Глядзеў за бэльку і ў пячуру, Падняў такую шуру-буру, Што хоць ты з хаты выбірайся І тых «начатак» адцурайся.* Новая зямля.

**ШУРКА** *ж.* Упарадкаваная кладка карчоў. *Зірнуў [дзед Сёмка] — чалавек у павязцы Стаіўся за шуркай карчоў. Якой яму трэба тут трасцы? Чаго ён у пушчу прыйшоў?* Адплата. — *Скажы нам, па праўдзе, ваяка, Каго выглядаў ты з-за шуркі? Чаго, васпан, поўз адтуль ракам Пад корч..* Там жа.

**Шу́рка** *ж.* 'мера дроў (адзін кубаметр)' (Лоеў. Янкова). Параўн. укр. *шурка* 'мера дроў для выганкі смалы'.

**ШУТКА** *ж., ласк.* Пра авечку. *Але сёння надта пудкі Штось авечачкі былі. — Ну, што з вамі, мае шуткі? Што*

*вы ў голавы ўзялі? — Гаварыў Сымонка з імі..* Сымон-музыка.

**Шу́тка** *ж.* 'ласк. назва аўцы' (Чэрв. Шатэрнік); **шу́та**, **шу́*тка**, **шу́точка** *ж.* 'ласкальная назва авечкі' (Насовіч).

**ШУТКАВАЦЬ** *незак.* Жартаваць. *Старая колькі хвілін пазірала на настаўніка, а потым засмяялася доўгім-доўгім смехам. — От, паніч, вы ўсё шуткуеце!* На ростанях.

**Шуткава́ць** *незак.* 'жартаваць' (Лоеў. Янкова).

**ШУФЛЯВАЦЬ** *незак.* Сыпаць (сыпацца) густа, як з шуфля. *А снег станоўка і заложна Так і шуфлюе.* Новая зямля.

**ШУХКАННЕ** *н.* Шорганне. *І раптам кусты зашумелі, заварушыліся. Пачулася шухканне ног як бы моцна спалоханага чалавека.* У тыле ў Дзянікіна.

**ШЧАГАЛЯЦЬ**, **ШЧАГЕЛЯЦЬ** *незак.* 1. Красавацца. *У іх [вербаў] косах месяц ззяе, Зоры сінія гараць... І княгіня, хоць якая, Так не зможа шчагаляць...* Сымон-музыка. 2. Фарсіць. *Вочы яго [барадача-дзядзькі] заблішчалі. — Бач ты, сукіны сыны! Гэтыя ў салявых портках шчагеляюць, а яны кансервы, масла і каньякі лопаюць!* У тыле ў Дзянікіна.

Параўн. руск. *щеголять* 'фарсіць'.

**ШЧАДЗІЦЬ** *незак.* Берагчы, шкадаваць. *Гаманіў агонь, гуў, як дождж гразавы, Віўся віхрам клубястым, імклівым, Не шчадзіў агонь ні садоў, ні травы, Расплываўся шырокім разлівам.* На пажарышчы.

**Шчадзі́ць** *незак.* 'ашчаджаць' (ТС). Параўн. руск. *щадить* 'берагчы, шкадаваць'.

**ШЧАДРОТА** *ж.* Шчодрасць. *Мазепа ў болесці прытворнай Цару шле голас свой пакорны: І знае бог і бачыць свет — Ён, бедны гетман, дваццаць лет Цару служыў душою вернай, Яго шчадротаю нязмернай Асыпан, высака паднят...* Палтава.

**ШЧЫКАЦЬ** *незак.* Шчыпаць. *«А ўсё ж я табе паб'ю рыла! Дальбог паб'ю», — гаварыў сам сабе Паўлюк і шчыкаў сам сябе за сцягняк.* Тоўстае палена.

**Шчыка́ць** *незак.* 'шчыпаць' (Зэльв. СПЗБ); 'шчыпаць, сціснуць да болі цела пазногцямі' (Насовіч).

**ШЧЫНЯЦЬ** *незак.* Змятаць мятлою або зграбаць граблямі рэшткі каласоў, саломы з зерня пасля малацьбы.

*Скончыўшы малацьбу, моўчкі [Кандрат і сын] шчыняюць намалочанае жыта, думаючы паасобку свае думкі.* Драматург і лірычны паэт.

**Шчыня́ць** *незак.* ‘зганяць, змятаць, вымятаць калоссе з абмалочанага жыта’ (Пін. Шаталава); ‘змятаць мятлою, аддзяляць каласы ад зерня’ (Ганц. СПЗБ); ‘змятаць мятлою або зграбаць граблямі рэшткі саломы з зерня пасля малацьбы’ (ТС).

**ШЧЫТНІК**, **ШЧЫТНЯК** *м.* Сівец. *Толькі ж узрасло яно [зернетка] між чужынцаў: поруч з ім рос званец, мяцёлка, а каля саменькага карэння ціснулася ўсялякая трава-драбяза: шчытнік, імяло, белая дзяцеліна, муражок і розныя краскі.* На чужым грунце. *Каса не косіць — каса брые I шчытнякі бярэ сухія, Бо ў дзядзькі рукі залатыя.* Новая зямля.

**Шчы́тнік** *м. бат.* ‘сівец’ (Карэл. Шаталава; Дзятл., Карэл., Лід., Маст. СПЗБ); **шчытня́к** *м.* ‘жорсткая сухая трава’ (Навагр. Сцяшковіч, 1983).

**ШЧЭМЛЕНЫ** *дзеепрым.* Шчыльна самкнуты, сціснуты. *Але ні злосць твая, ні слёзы, Ні моцна шчэмлены кулак Не зменяць справы аніяк..* Новая зямля.

**ШЫБАВАЦЦА** *незак.* Накіроўвацца. *Сцежка ўлева забірае Ды шыбуецца ўгару.* Сымон-музыка.

**Шыбава́ць** *незак.* ‘хутка рухацца, ісці’ (Карэл. Сцяшковіч, 1972).

**ШЫБЕЛЬНІК** *м.* Свавольнік, балаўнік. *Міхалка так задумаўся, што не чуў, як да яго падышоў брат. — Чаго ты тут, шыбельнік? — спытаў брат і моцна пацягнуў Міхалку за вуха.* «Дзеравеншчына».

**Шы́бельны** *прым.* ‘вельмі свавольны, гарэзлівы, нястрыманы’ (Лоеў. Янкова).

**ШЫБКА** *прысл.* Хутка. *Мужчыны кідалі работу, Касьбу над рэчкай за кустамі, I беглі шыбка, каб часамі На лес дзе пчолкі не зляцелі..* Новая зямля. *Шлёма рукі ўскінуў шыбка, Як бы струны там былі..* Сымон-музыка.

**Шы́бка** *прысл.* ‘хутка, быстра’ (Астр., Ашм., Барыс., Верхнядзв. СПЗБ; Лоеў. Янкова; Касцюк. Бялькевіч); **ши́бкій** *прым.* ‘хуткі’ (Насовіч).

**ШЫБУЛТЫХ** *выкл. у знач. вык.* Хутка кінуцца, упасці у ваду. [*Клімок*:] *На якар вазьму нашу чаплю, Пад мост падвяду ў самы раз І шнур падпаліць я патраплю, А сам — шыбултых у свой час!* Адплата.

**ШЫРЫГА** *ж.* Прылада накшталт якара для спынення плыта. *Ад крыку-лаянкі Аж дрыжыць паветра: — На «барбару», Янка! — Гартоль бяры, Петра! — Закідай шырыгу!* Плытнікі.

**Шыры́га** *ж. плыт.* 'прыстасаванне для тармажэння плыта ў выглядзе завостранага кала, бервяна' (Гродз. Цыхун; Віл., Іўеў., Мядз. СПЗБ); 'абцёсаная палка для кіравання плытом' (Лід. Сцяшковіч, 1972). Параўн. літ. *širkas* 'прыстасаванне тармазіць плыт'.

**ШЫТНЫ** *прым.* Прызначаны для шыцця; швейны. *Стракоча машынка шытная, Ды звякне жалеза таемна.* Адплата.

**Шытны́** *прым.* 'у выразе *шытныя ніткі* — тонкія, роўныя ніткі спецыяльна апрацаваныя для шыцця' (Стаўб. З нар. сл., с. 83; Бых. Жыв. нар. сл., с. 95; Карэл. Нар. словатв., с. 55; Карэл. Сцяшковіч, 1983); 'шыўны' (ТС).

**ШЫХ** *м.* Упэўнены, імклівы поступ. *Ідуць гады сталёвым шыхам, Гады змагання, перамог; Стаіўся вораг і прылёг, На край Саветаў чмыша ліхам...* Да 11-й гадавіны Кастрычніка.

**Шых** *м.* 'пра хуткае дзеянне' (Мсцісл. Нар. лекс., с. 192).

**ШЫЦЦЁ** *н.* Тое, што шыюць ці сшытае. *Тут жа сядзела і пані падлоўчая, таксама з шыццём у руках.* На ростанях.

**Шыцьё** *н.* 'шыццё' (ТС).

**ШЭБЛЫ** *мн.* Бярвенні. *Вапна і гліна на сценах абабіты, і толькі шэблы, як косці, відаць то тут, то там.* З дарэвалюцыйных допісаў у газеты.

**Шчэ́блы** *мн.* 'бярвенні, якія кладуцца ў якасці лат над пограбам' (Іўеў. Сцяшковіч, 1972).

**ШЭЙ-НА-КАТРЫНКА: ЗАВЕСЦІ ШЭЙ-НА-КАТРЫНКУ**. Пачаць дакучлівую размову; гаварыць адно і тое ж. [*Міхал*:] *Цьфу! дня табе няма і ночы, А ні часіначкі спакою; Чорт кожны вяжацца сластою, А тут яна* [*жонка*] *шэй-на-катрынку Як завядзе, дык без упынку.* Новая зямля.

**ШЭЛЕХ** *м.* Лёгкае, ледзь чутнае шапаценне. *І чулася ў іх* [*лісцях*] *шэлеху шчаслівае пракананне таго, што цёмная ноч дае месца светламу дню.* З дарэвалюцыйных допісаў у газеты.

**Шэлехцéць** *незак.* ‘шалясцець’ (ТС).

# Э

**ЭЛЕГАНЦКІ** *прым.* Зграбны, прыгожы. *І на нагах у яго* [*дзеда Талаша*] *не лапці, а элеганцкія боты і майткі з добрага сукна, ды з лампасамі, як у казака або ў генерала.* Дрыгва.

# Ю

**ЮНАЦКАСЦЬ** *ж.* Уласцівасць юнацкага; маладосць. *Ой, лес, беларускі наш лес!.. Ты песціў юнацкасць, і цешыць старога Сягоння твой полаг-навес.* Лясам Беларусі. *Як многа дум і мар крылатых У той юнацкасці было.* Рыбакова хата.

**ЮНАЧА** *м.* Юнак. *Усім была ясна і проста І разам складана задача. І раптам мільгнулася постаць, Выходзіць наперад юнача.* Адплата.

# Я

**ЯБЛЫНІНА** *ж.* Драўніна яблыні. *Вось вы зірніце ў хлеў на вышкі! Там многа яблынін на лыжкі, Там ёсць ігруша, і кляніна, Якая хочаш дравяніна..* Новая зямля.

**ЯВІЦЬ** *зак.* Здзейсніць, стварыць. *І ці быў на свеце Подзвіг больш высокі, Што явілі мы!* У майскія дні. *Карміўся ён* [*зброд*] *яшчэ надзеяй, Што Русь, усведаміўшы «блуд» І бальшавіцкай «здрады» чмут, Сама іх клікне, «дабрадзеяў», І «хвор» сваю сама развее, І явіць бог над ёю цуд.* На шляхах волі.

**ЯДКІ** *прым.* Які са смакам з’ядаецца; смачны. *Атава там ужо адрастаць пачала, а трава ядкáя, спажыўная.* Туды, на Нёман! *Як верашчака ў дно спадала, То маці есці*

*пакідала Ды йшла ў камору па другое, Яшчэ больш смачнае, ядкое..* Новая зямля.

**Ядкí** *прым.* ‘смачны, які добра, ахвотна есца’ (Гл. Янкоўскі, 1959); ‘смачны (пра траву, сена)’ (Кам. Жыв. нар. сл., с. 52; Гом. Нар. словатв., с. 125); ‘прыгодны для корму’ (Лаг., Старадарож., Чэрв. СПЗБ).

**ЯДНАЧКА** *ж.* Адзіночка. *Толькі хвоя-ядначка не ганялася за кавалерамі, можа таму, што іх тут і не было, бо лес стаяў наводшыбе.* Што лепей?

**Ядна́чка** *ж.* ‘адна дачка ў сям’і’ (Іўеў. Сцяшковіч, 1983).

**ЯДЫНЫ** *прым.* Адзіны. *Во! зірні, зірні, Гануля: Губкі крывіць божы Ян!.. Божа ядыны! Одпусць гжэхі нашы і віны!* «Святы Ян». [*Ганна:*] — «*Дзе ён, мілы, мой ядыны? Дзе, бяздомнік мой любы?*» Сымон-музыка.

Параўн. польск. *jedyny* ‘толькі адзін, толькі гэты, выключны’.

**ЯКАТАЦЬ** *незак.* Гучаць з пералівамі. *У дзеда шчокі румянеюць, У дзеда вочы весялеюць, Гарохам дзедаў смех якоча, А сэрца руху, шуму хоча.* Новая зямля. *Пераводзіць хлопец вочы То на пана, то ў гушчар, Дзе ражок, труба якоча.* Сымон-музыка.

**Ятата́ць** *незак.* ‘енчыць’ (Бар. ДСБ); ‘плакаць ад болю, крычаць’ (Лоеў. Янкова).

**ЯЛЬЧЫК** *м.* Невялікі ялец (рыба). *Прыглядайся Міхась, Як клюе плотка, язь, Ёрш, і лешч, і яльчык!* Міхасёвы прыгоды.

**Я́льчык** *м.* ‘невялікі ялец’ (Ашм. СПЗБ).

**ЯСНОТА** *ж.* Яснасць, ясната. *Слава, чэсць табе, Краіна, І тваім узлётам, Бальшавіцкім пуцявінам, Сонечным яснотам!* Раскуты Праметэй. *Падлічым і раны, і боль нашых страт, З дарог жа ніхто нас не зверне назад. А нашы дарогі — Ясноты, разлогі І вечнае праўды сугучнасць і лад.* Адплата. *Вобразн. А дарог жа, дарог, Ды прасторных якіх, Што яснотай дышуць!* Сіла маладая.

**Ясно́та** *ж.* ‘вялікая ясната’ (ТС).

**ЯЎ** *ж.* Тое, што сапраўды існуе або існавала; ява. *І хлапчынка ўжо не знае, Дзе тут сненне, дзе тут яў, Дзесь далёка дух лунае, — Крыллі сон яму разняў.* Сымон-музыка.

Параўн. руск. *явь* ‘ява’.

Даведачнае выданне

**Арашонкава** Ганна Уладзіміраўна
**Чабатар** Надзея Андрэеўна

**ТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК АДМЕТНАЙ ЛЕКСІКІ Ў ТВОРАХ ЯКУБА КОЛАСА**

Рэдактар *І. Л. Дзмітрыенка*

Мастак *Дз. А. Сурскі*

Мастацкі рэдактар *В. У. Мінько*

Тэхнічны рэдактар *Т. В. Лецьен*

Камп'ютэрная вёрстка *С. М. Касцюк*

Падпісана ў друк 27.10.2003 г. Фармат $84 \times 108^{1}/_{32}$. Папера афсетная № 1. Гарнітура Таймс. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 15,12. Ум. фарб.-адб. 15,54. Ул.-выд. арк. 14,5. Тыраж 1000 экз. Заказ 1530.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларуская навука». ЛВ № 13 от 31.12.2002 г. 220141. Мінск, Старабарысаўскі тракт, 40.

Рэспубліканскае унітарнае паліграфічнае прадпрыемства «Баранавіцкая ўзбуйненая друкарня». ЛП № 122 ад 30.12.2002 г. 225409, Баранавічы, Савецкая, 80.